Л.М.Несцярчук

# Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў

## (гісторыя, стан, перспектывы)

Мінск
БЕЛТА
2002

УДК 728.8.03 (476.7) «09/19»
ББК 63.3 (4 Беи)
Н56

Рэцэнзенты:

доктар гістарычных навук, прафесар П.Ф.Лысенка
доктар мастацтвазнаўства, прафесар А.Міхалоўскі (Польшча)
доктар біялагічных навук, прафесар А.Т.Федарук

**Несцярчук Л.М.**

Н56 Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы) / Л.М.Несцярчук. — Мн.: БЕЛТА, 2002. — 336 с.: іл.

ISBN 985-6302-37-4

Ілюстраванае навукова-папулярнае выданне «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў» закранае важныя аспекты гісторыі, стану, аднаўлення, выкарыстання і папулярызацыі замкаў і палацаў, сядзіб і фальваркаў, садоў і паркаў на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці, а таксама лёс іх колішніх гаспадароў.

Кніга рэкамендуецца ўсім, каго хвалюе лёс гісторыка-культурнай спадчыны, прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, — архітэктарам, рэстаўратарам, музейным і бібліятэчным работнікам, выкладчыкам, студэнтам і навучэнцам вышэйшых, сярэдніх навучальных устаноў, каледжаў і ПТВ, турыстам і гасцям вобласці, даследчыкам і прыхільнікам зберажэння і аднаўлення палацава-паркавых ансамбляў, гістарычных мясцін і мемарыяльных сядзіб Берасцейшчыны.

**УДК 728.8.03 (476.7) «09/19»**
**ББК 63.3 (4 Беи)**

**ISBN 985-6302-37-4**

# Змест

*«Трэба ўсім народам, з усёй адказнасцю берагчы... старажытныя палацы і замкі, касцёлы і цэрквы, абразы і сялянскае начынне — усё, што пакінула нам у спадчыну старонка родная, каб стала яна, як пісаў Янка Купала, «ласкай матчынай».*

*Пімен Панчанка*[1]

# Ад аўтара

Берасцейская зямля вызначалася некалі мноствам унікальных шэдэўраў замкавай архітэктуры, палацава-паркавага і сядзібна-паркавага мастацтва, славілася знакамітымі асобамі. На працягу 1000-гадовага вельмі складанага шляху фарміравання беларускай нацыі многія сядзібы набылі шырокую вядомасць як радавыя гнёзды вядомых мысліцеляў і асветнікаў, дзяржаўных, грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў: Андрэя Рымшы, Фёдара Еўлашоўскага, Афанасія Філіповіча, Казіміра Лышчынскага, Мацея Радзівіла, Яўхіма Храптовіча, Станіслава Панятоўскага, Тадэвуша Касцюшкі, Адама Нарушэвіча, Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Напалеона Орды, Гелены Скірмунт, Рафала Слізеня, Юзафа Крашэўскага, Рамуальда Траўгута, Лявона Бароўскага, Лукаша Галамбёўскага, Эдварда Паўловіча, Францішка Савіча, Юльяна Крачкоўскага, Паўлюка Багрыма, Усевалада Ігнатоўскага, Рыгора Шырмы і іншых слынных асоб. На працягу дзесяці стагоддзяў развіваліся на Берасцейшчыне замкі і палацы, сядзібы і фальваркі, якія з'яўляліся не толькі своеасаблівым адбіткам мінуўшчыны, але і унікальнымі каштоўнасцямі для выхавання многіх пакаленняў. Дастаткова сказаць, што ў пачатку XX ст. на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці налічвалася каля 1500 сядзібна-паркавых і палацава-паркавых аб'ектаў (сядзіб, фальваркаў і маёнткаў), у т.л. на тэрыторыі Брэсцкага раёна — 109, Баранавіцкага — 192, Бярозаўскага — 46, Ганцавіцкага — 37, Драгічынскага — 85, Жабінкаўскага — 43, Іванаўскага — 47, Івацэвіцкага — 78, Камянецкага — 160, Кобрынскага — 194, Лунінецкага — 31, Ляхавіцкага — 87, Маларыцкага — 34, Пінскага — 199, Пружанскага — 187, Столінскага — 56[2].

У адпаведнасці з патрабаваннем часу мянялася іх роля і архітэктурнае аблічча. Стваральнікамі гэтых унікальных асяродкаў беларускай гісторыі і культуры былі таленавітыя дойліды і майстры, а фундатарамі і іх гаспадарамі з'яўляліся заможныя і інтэлігентныя людзі, выхаваныя ў лепшых традыцыях еўрапейскай культуры, грамадзянскай свядомасці і шляхецкага менталітэту. Замкі і палацы, сады і паркі, фальваркі і маёнткі, як і людзі, нараджаліся, раслі і жылі, а часам заўчасна і раптоўна гінулі ў ваенных ліхалеццях. Ды не толькі ў пажарах войнаў знікалі шэдэўры замкавай і палацава-паркавай спадчыны, але і ў мірны час, час рэвалюцыйнага запалу і атэістычнага вандалізму, бездухоўнага прагматызму і злачыннай безгаспадарчасці. У выніку бязлітасных адносін практычна ўсе замкі і большасць палацаў, паркаў і сядзіб беззваротна зніклі, а тыя, што засталіся, уяўляюць сабой руіны, падмуркі і рэшткі некалі квітнеючых ансамбляў. Але нават разбураныя, паўразбураныя і занядбаныя гэтыя аб'екты маюць не толькі значную навуковую і пазнавальную каштоўнасць, але і велізарнае значэнне ў патрыятычным выхаванні моладзі, усяго насельніцтва.

Прадстаўленая на суд грамадскасці кніга — гэта спроба ў пэўнай меры выклікаць у чытача пачуццё страчанай прыгажосці, раскрыць новыя старонкі гісторыі палацава-паркавага мастацтва, аказаць інфармацыйную і метадычную дапамогу мясцовым уладам, падтрымаць тых прыхільнікаў аднаўлення спадчыны, якія застаюцца нераўнадушнымі да яе лёсу і прымаюць асабісты ўдзел у гэтай высакароднай справе.

Своеасаблівасць гэтай працы — асвятленне гісторыі, архітэктуры і лёсу 25 абарончых збудаванняў (замкаў, фартыфікацыйных аб'ектаў і абарончых ліній). Безумоўна, замкаў на Берасцейшчыне было значна больш, але іх гісторыя раскрыта пакуль недастаткова.

Некаторыя звесткі пра замкі Берасцейшчыны ёсць у працах вядомых вучоных XIX ст.: братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, А.Кіркора, У.Сыракомлі, В.Балабушэвіча і інш.

У 1930-я гады ў Польшчы было выдадзена некалькі навуковых прац і турыстычных даведнікаў пра асобныя помнікі ваеннага дойлідства Заходняй Беларусі, у т.л. пра берасцейскія замкі.

Пасляваенныя гады былі перыядам больш інтэнсіўных археалагічных даследаванняў берасцейскіх замкаў і замчышчаў. Сярод навуковых прац найбольшай дасканаласцю і сістэматызаванасцю характарызуюцца манаграфіі П.Лысенкі, П.Рапапорта, М.Ткачова, Ю.Якімовіча, А.Грыцкевіча, А.Трусава, А.Квітніцкай і інш.

Другая частка гэтага даследавання (гісторыя, сучасны стан палацаў і паркаў, біяграфічныя звесткі і лёс іх колішніх уладальнікаў) падрыхтавана на падставе вывучэння матэрыялаў дзяржаўных архіваў Мінска, Дзяржынска, Гродна, Брэста, музеяў Брэста і Баранавіч, дзяржаўных архіваў Масквы, Варшавы і Крака-

ва, а таксама шэрагу прац, у першую чаргу беларускіх, вучоных (архітэктараў, гісторыкаў, батанікаў, географаў, археолагаў).

Першыя сады на Берасцейшчыне існавалі ўжо ў сярэдневяковы перыяд. Звычайна яны размяшчаліся каля кляштараў і замкаў. У пачатку XVI ст. пад Брэст-Літоўскам меліся вінаградныя сады.

У «Актах Віленскай археаграфічнай камісіі» ўпамінаецца невялікі сад, які існаваў у Кобрынскім замку ў 1597 г. У XVII ст. некаторыя замкі набылі характар пышных рэзідэнцый (Высокаўская, Ляхавіцкая і інш. фартэцыі). Вялікія сады абкружалі картэзіянскі кляштар у Бярозе.

Як падкрэсліваюць даследчыкі, пазней у сядзібна-паркавым мастацтве Берасцейшчыны прасочваецца арганічная сувязь з заходнееўрапейскімі традыцыямі. У адпаведнасці з імі на працягу XVIII ст. у асноўным ішла закладка і фарміраванне рэгулярных (французскіх) паркаў, дзе вытрымлівалася правільная геаметрычная планіроўка (Кобрын, Лінава Пружанскага, Пярковічы Драгічынскага раёнаў). Шматлікія унікальныя паркі рэгулярнага тыпу страчаны (Воўчын Камянецкага, Чарнаўчыцы Брэсцкага, Ружаны Пружанскага раёнаў і інш.).

З канца XVIII ст. рэгулярныя паркі паступова перабудоўваюцца ў пейзажныя (англійскія), у якіх захоўваюцца толькі элементы рэгулярнасці. Яны сталі новым напрамкам у палацава-паркавым мастацтве.

Першыя пейзажныя паркі знаходзіліся быццам на пераломе эпох і сваімі рысамі шмат чым нагадвалі рэгулярныя (Зеляневічы Пружанскага, Капылы Камянецкага раёнаў і інш.).

У 1-й чвэрці XIX ст. развіваюцца рамантычныя паркі (Высокае Камянецкага, Савейкі Ляхавіцкага, Туганавічы Баранавіцкага раёнаў і інш.). Наогул, 1-я палова XIX ст. стала перыядам найбольшага развіцця сядзібна-паркавага мастацтва ў Беларусі. На Берасцейшчыне гэты перыяд вызначаўся разнастайнасцю прыёмаў пабудовы (Вістычы Брэсцкага, Высокае Камянецкага, Нача Ляхавіцкага, Паланэчка Баранавіцкага раёнаў і інш.).

З 2-й паловы XIX ст. рамантычныя пейзажныя паркі саступаюць месца натуралістычным.

Натуралістычныя паркі захаваліся значна лепш. На думку А.Федарука, які падрабязна апісаў 15 натуралістычных паркаў на Берасцейшчыне, іх вызначаў багацейшы зыходны матэрыял розных сістэматычных груп і формаў раслін.

Акрамя таго, А.Федарук правёў вялікую работу па інвентарызацыі паркаў, выявіў на тэрыторыі Беларусі каля 1000 аб'ектаў. У сваёй манаграфіі «Садова-паркавае мастацтва Беларусі» ён грунтоўна апісаў 65 рэгулярных і пейзажных паркаў Берасцейшчыны.

Але праблема паглыбленага вывучэння і захавання на Берасцейшчыне аб'ектаў сядзібна-паркавага мастацтва на пачатку XXI ст. паўстае надзвычай востра. На жаль, на сённяшні час не існуе ніводнай абагульняючай працы, спецыяльна прысвечанай замкам, палацам і паркам Брэсцкай вобласці. Увогуле, даследаванняў, якія раскрываюць асаблівасць беларускай замкавай архітэктуры і сядзібна-паркавага мастацтва, няшмат. Акрамя названых прац А.Федарука, В.Анціпава, А.Кулагіна, патрэбна згадаць манаграфіі і артыкулы Т.Габрусь, Г.Кахановскага, М.Кацара, А.Квітніцкай, В.Марозава, А.Мартынава, Г.Хадыкі, А.Мальдзіса, Н.Будыкі, У.Чантурыя, Ю.Якімовіча.

Значны ўклад у вывучэнне сядзібна-паркавага мастацтва Берасцейшчыны зрабіў польскі даследчык Р.Афтаназы. Вынікам яго шматгадовых пошукаў стала фундаментальная праца, прысвечаная палацам і паркам колішняга Брэст-Літоўскага і Навагрудскага ваяводстваў. Даследчык апісаў 85 аб'ектаў.

Значная і карысная інфармацыя пра гісторыю вёсак, сядзіб і маёнткаў Берасцейскага павета і іх уладальнікаў змяшчаецца ў працах польскіх гісторыкаў К.Зданьскага і А.Ваўжынчык.

У апошнія гады з'явіўся шэраг прац, падрыхтаваных гісторыкамі, географамі, біёлагамі і краязнаўцамі Берасцейшчыны, у якіх паслядоўна раскрываецца гісторыя асобных гарадоў, раёнаў, вёсак, замкаў, палацаў, сядзіб, фальваркаў і прыродных аб'ектаў на тэрыторыі вобласці. Сярод гэтых аўтараў Л.Лінкевіч, Л.Несцярчук, Ю. Сахарчук, А.Бензярук, А.Кондак, М.Міхальчук, В.Дзямянчык, А.Грыбко, М.Карсека, Э.Злобін, М.Шэлехаў.

Некаторыя кнігі серыі «Памяць», прысвечаныя раёнам Брэсцкай вобласці, таксама выйшлі з артыкуламі, якія маюць звесткі пра сядзібы, маёнткі, фальваркі (Баранавіцкі, Брэсцкі, Жабінкаўскі, Ляхавіцкі, Пружанскі і інш. раёны).

Для стварэння больш поўнай карціны гістарычнага лёсу паркаў нашага краю карыснымі з'яўляюцца дакументы XVI—XIX ст. Асаблівай увагі заслугоўваюць даравальныя граматы (прывілеі) на землі і маёмасць магнацкіх і шляхецкіх сем'яў, атрыманых ад вялікіх князёў літоўскіх, каралёў польскіх і расійскіх імператараў, а таксама тастаменты (завяшчанні) прадстаўнікоў гэтых сем'яў.

Не меншае значэнне маюць урадавыя пастановы (рашэнні гродскіх, земскіх, копных судоў Берасцейскага ваяводства, пастановы выканаўчых органаў Гродзенскай і Мінскай губерняў), якія замацоўвалі акты куплі-продажу, пазямельныя скаргі і пагадненні паміж прадстаўнікамі шляхецкіх родаў. Пэўны карысны матэрыял змяшчаецца ў інвентарах, дзе ёсць апісанне сядзіб, гаспадарчых пабудоў. Цікавыя дапаўненні

да гісторыі сядзібна-паркавага мастацтва Берасцейшчыны знаходзяцца ў прыватным ліставанні і мастацкіх творах пісьменнікаў і паэтаў, звязаных сваім жыццём і творчасцю з нашым краем.

Акрамя крыніц, якія ўжо друкаваліся ў розных зборах дакументаў і ў аўтарскіх манаграфіях, у даследаванні выкарыстаны матэрыялы фондаў беларускіх і замежных архіваў:

— з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь у Мінску выкарыстаны дакументы фондаў «Брэсцкага гродскага суда» і «Брэсцкага земскага суда»;

— з Беларускага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Гродне апрацаваны матэрыялы фондаў «Канцылярыя гродзенскага губернатара», «Гродзенскае губернскае праўленне», «Будаўнічае аддзяленне гродзенскага губернскага праўлення», «Гродзенская губернская па сялянскіх справах установа», «Гродзенскі губернскі статыстычны камітэт», «Старажытныя інвентары памешчыцкіх маёнткаў»;

— з Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці апрацаваны і выкарыстаны матэрыялы фондаў 79 і 2177 «Справы аб валоданні нерухомай маёмасцю»;

— з Дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў у г. Дзяржынску, архіва Кракаўскага нацыянальнага музея, Варшаўскага архіва механічнай дакументацыі апрацаваны і зняты фотакопіі больш як 60 малюнкаў палацаў і сядзіб Берасцейшчыны XIX ст. Шэраг унікальных фотаздымкаў і інфармацыйных матэрыялаў атрыманы ад нашчадкаў колішніх гаспадароў сядзіб, фальваркаў, маёнткаў, палацаў, ансамбляў, якія пражываюць па-за межамі Беларусі.

У працы выкарыстаны рэпрадукцыі і фотакопіі малюнкаў і фотаздымкаў знакамітых мастакоў і фотамайстроў XIX—XX ст. Н.Орды, М.Кулешы, Ю.Пешкі, В.Дмахоўскага, Я.Булгака, Ю.Крашэўскага, Ю.Карповіча, Б.Падбельскага, Ю.Косака, М.Фаянса і інш.

Больш за 390 фотадакументаў, архіўных фотаматэрыялаў і 170 схем паркаў і сядзіб упершыню ўводзяцца ў навуковае карыстанне.

Параўнальная комплексная ацэнка паркаў Берасцейшчыны праводзілася шляхам натурных даследаванняў. Апісваліся архітэктурныя пабудовы, іх месца ў агульнай кампазіцыі паркаў. Даследаваннем ахоплена больш за 300 аб'ектаў замкавай архітэктуры і палацава-паркавага мастацтва Брэсцкай вобласці. Выяўлена, абследавана і апісана 175 аб'ектаў (рэштак колішніх сядзіб), некаторыя з іх з'яўляюцца мемарыяльнымі і звязаны з жыццём і дзейнасцю вядомых дзяржаўных дзеячаў і асветнікаў XV—XIX ст.: Астроўе (Востраў) Маларыцкага, Божы Дар Кобрынскага, Сачыўкі і Паўлінава Баранавіцкага, Сюлкі Камянецкага раёнаў і шэраг іншых.

Аўтар шчыра ўдзячны за дапамогу ў зборы матэрыялаў супрацоўнікам бібліятэк і музеяў Беларусі, Польшчы, Расіі і Украіны, Варшаўскага фонду Т.Касцюшкі і Цэнтра аховы гістарычных ландшафтаў, архітэктарам-рэстаўратарам, спецыялістам службы аховы гісторыка-культурнай спадчыны, службаў галоўных архітэктараў, прыродных і зямельных рэсурсаў, аховы навакольнага асяроддзя гарадоў і раёнаў вобласці, а таксама творчым работнікам абласнога тэлерадыёвяшчання, абласных аб'яднаных і раённых газет за цыклы перадач і публікацый пра палацы і паркі Берасцейшчыны.

Асаблівую ўдзячнасць аўтар выказвае доктару біялагічных навук прафесару А.Федаруку (Мінск), доктару гістарычных навук прафесару П.Лысенку (Мінск), прафесару А.Міхалоўскаму (Варшава), магістру Н.Бутрымовічу (Варшава) за каштоўныя заўвагі і парады ў перыяд падрыхтоўкі рукапісу.

---

[1] *Панчанка П. Матчына ласка // Спадчына. 1989. № 1. С. 5.*

[2] *Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877; Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890. Biblioteka Narodowa. Dział Zbiorów Specjalnych (Mapy 1886, 1887, 1890, 1915 гг.); Статистика землевладения 1905 г. Гродненская губерния. СПб., 1906.*

# От автора

Берестейская земля отличалась некогда множеством уникальных шедевров замковой архитектуры, дворцово-паркового и усадебно-паркового искусства, славилась известными личностями.

На протяжении 1000-летнего очень сложного пути становления белорусской нации ряд усадеб приобрели широкую известность, стали мемориальными.

Эта земля дала миру гениальных мыслителей, деятелей литературы и искусства, государственных, общественно-политических и религиозных деятелей: Андрея Римшу, Федора Евлашовского, Афанасия Филипповича, Казимира Лыщинского, Матея Радзивилла, Иохима Хрептовича, Тадеуша Костюшко, Адама Нарушевича, Станислава Понятовского, Юльяна Немцевича, Адама Мицкевича, Наполеона Орду, Гелену Скирмунт, Рафала Слизеня, Юзефа Крашевского, Ромуальда Травгутта, Леона Боровского, Лукаша Голомбевского, Эдварда Павловича, Франтишка Савича, Юлиана Крачковского, Павлюка Багрима, Всеволода Игнатовского, Григория Ширму и других.

На протяжении десяти столетий последовательно расширялось на Берестейщине разнообразие замков и дворцов, усадеб и фольварков, которые являлись не только своеобразным отражением прошлого, но и уникальными ценностями для воспитания многих поколений.

Достаточно сказать, что в начале XX ст. на территории современной области существовало более 1,5 тысячи объектов усадебно-паркового искусства. В соответствии с велением времени изменялись их роль и архитектурный облик.

Создателями этих уникальных центров белорусской истории и культуры были талантливые архитекторы и мастера, а фундаторами и их хозяевами являлись достаточно обеспеченные и интеллигентные люди, воспитанные в лучших традициях европейской культуры, гражданской сознательности и шляхетского менталитета.

Время не пощадило шедевры замковой и дворцово-парковой архитектуры, большинство их погибло в военных лихолетьях, во время революционного запала и атеистического вандализма, бездуховного прагматизма и преступной бесхозяйственности.

Особенностью данного исследования является освещение истории, архитектуры 25 оборонительных объектов. Сложность этой работы состоит в том, что зачастую отсутствуют необходимые письменные источники и глубокие исследования.

Некоторые сведения о замках Берестейщины содержатся в трудах крупных ученых XIX ст.: братьев Евстафия и Константина Тышкевичей, А.Киркора, В.Сырокомли и др.

Послевоенные годы были периодом более интенсивных археологических исследований берестейских замков и замчищ. Среди исследований наибольшим совершенством и систематизацией отличаются труды П.Лысенко, Ю.Якимовича, П.Раппопорта, М.Ткачева, А.Грицкевича, Е.Квитницкой, О.Трусова и др.

Вторая часть данного исследования (история, современное состояние старинных усадеб, перспектива восстановления и использования, судьбы их владельцев) подготовлена на основании изучения материалов государственных архивов гг. Минска, Дзержинска, Гродно, Бреста, музеев Бреста и Барановичей, государственных архивов Москвы, Варшавы, Львова, Кракова, а также ряда трудов, в первую очередь белорусских, ученых (архитекторов, историков, ботаников, географов, археологов).

Кроме фундаментальных трудов А.Федорука, В.Антипова и А.Кулагина необходимо отметить монографии и публикации Т.Габрусь, А.Мальдиса, Н.Будыки, В.Чантурии, Г.Кохановского, М.Кацера, Е.Квитницкой, В.Морозова, А.Мартынова, Г.Ходыко и др.

Значительный вклад в изучение усадебно-паркового искусства Берестейщины внесли польские исследователи Р.Афтаназы, К.Зданьский, А.Вавжинчик.

В последнее время вышли книги серии «Память» по городам и районам области, ряд трудов местных историков-краеведов, которые содержат данные об усадьбах, дворцах и замках.

Исследованием охвачено около 315 объектов замковой архитектуры и дворцово-паркового искусства. Выполнено более 150 схем парков и ситуационных планов. Впервые в научный оборот введено около 290 фотодокументов и схем. Выявлено, обследовано и описано 175 объектов (фрагментов давних усадеб), часть из которых являются мемориальными и связаны с жизнью и деятельностью известных государственных деятелей и просветителей XVI—XIX ст.: Островье (Остров) Малоритского, Божий Дар Кобринского, Сочивки и Павлиново Барановичского, Сюлки Каменецкого районов и много других.

В книге широко использованы редкие материалы, полученные от потомков давних собственников усадеб и фольварков, дворцов и имений, которые проживают за пределами Беларуси.

Автор искренне благодарен за помощь в сборе материалов сотрудникам библиотек и музеев Беларуси и Польши, России и Украины, Варшавского фонда Тадеуша Костюшки и Центра охраны исторических ландшафтов, архитекторам-реставраторам, специалистам охраны исторического наследия, службам главных архитекторов, природных и земельных ресурсов, охраны окружающей среды городов и районов области, а также творческим работникам областного телерадиовещания, печатных органов за циклы передач и публикаций о дворцах и парках Берестейщины.

Особую признательность автор выражает доктору исторических наук, профессору П.Лысенко (Минск), доктору биологических наук, профессору А.Федоруку (Минск), профессору А.Михаловскому (Варшава), магистру Н.Бутримовичу (Варшава) за поддержку и помощь в подготовке рукописи.

## Od autora

Niegdyś ziemia brzeska wyróżniała się wielką ilością unikalnych arcydzieł zamkowej architektury, pałacowo-parkowej i gospodarczo-parkowej twórczości, sławiła się wybitnymi jednostkami.

Na przestrzeni 1000-letniej bardzo trudnej drodze kształtowania się narodu białoruskiego wiele dworów zdobyło szeroki rozgłos, stało się pamiątkowymi.

Ta ziemia wydała na świat genialnych myślicieli, ludzi pióra, malarzy, kompozytorów, działaczy polityczno-

społecznych i religijnych: Andrzej Rymsza, Fiodor Jewłaszewski, Afanasy Filipowicz, Kazimierz Łyszczyński, Maciej Radziwiłł, Joachim Chreptowicz, Tadeusz Kościuszko, Adam Naruszewicz, Stanisław Poniatowski, Julian Niemcewicz, Adam Mickiewicz, Napoleon Orda, Helena Skirmunt, Rafael Ślizienia, Józef Kraszewski, Romuald Traugutt, Leon Borowski, Łukasz Golembowski, Edward Pawłowicz, Franciszek Sawicz, Julian Kraczkowski, Pawluk Bagrym, Wsiewołod Ignatowski, Grzegorz Szyrma i wiele innych utalentowanych jednostek.

W ciągu dziesięciu stuleci na brzeskiej ziemi konsekwentnie zwiększała się różnorodność zamków, pałaców, dworów, folwarków, które były nie tylko swoistym odzwierciedleniem przeszłości, ale miały również unikalną wartość wychowawczą dla wielu pokoleń.

Wystarczy zauważyć, że na początku XX stulecia na terytorium aktualnego województwa znajdowało się ponad 1,5 tysiąc obiektów dworcowo-parkowej twórczości. Odpowiednio z zapotrzebowaniem (czasu) zmieniła się ich rola i architektoniczny wygląd.

Twórcami tych wspaniałych miejsc białoruskiej historii i kultury byli utalentowani architekci i rzemieślnicy, a fundatorami i właścicielami dobrze sytuowani i wykształceni ludzie, wychowani w najlepszych tradycjach europejskiej kultury, obywatelskiej świadomości i szlacheckiej mentalności.

Czas nie oszczędził szedewrów zamkowej i pałacowo-parkowej architektury. Większość z nich uległa zagładzie w czasie wojennej zawieruchy, rewolucyjnego entuzjazmu i ateistycznego wandalizmu, bezduchowego pragmatyzmu i przestępczej niegospodarności.

Cechą szczególną tej rozprawy jest oświetlenie historii i architektury 25 obronnych obiektów. Trudności w tej pracy polegały na tym, że częstokroć brakowało potrzebnych pisemnych źródeł i szczegółowych badań.

Niektóre wiadomości o zamkach ziemi brzeskiej znajdują się w dziełach wybitnych naukowców XIX stulecia braci Eustachego i Konstantego Tyszkiewiczów, A.Kirkora, W.Syrokomli i innych.

W latach powojennych archeologiczne badania brzeskich zamków były prowadzone nieco intensywniej. Wśród badań największą doskonałością i usystematyzowaniem cechują się prace P.Łysienko, J.Jakimowicza, P.Rappoporta, M.Tkaczowa, A.Gryckiewicza, E.Kwitnickiej, O.Trusowa i innych.

Druga część tej rozprawy (historia, aktualny stan dawnych dworów, perspektywy ich odbudowy i wykorzystania, losy ich właścicieli) była sporządzona na podstawie badań danych państwowych archiwum miast Mińska, Dzierżyńska, Grodna, Brześcia, muzeum Brześcia i Baranowicz, państwowych archiwum Moskwy, Warszawy, Lwowa, Krakowa jak również szeregu prac naukowych przede wszystkim naukowców białoruskich (architektów, historyków, przyrodników, geografów, archeologów).

Oprócz fundamentalnych prac naukowych A.Fiedoruka, W.Antipowa i A.Kułagina trzeba również wyróżnić monografie J.Jakimowicza, T.Gabruś, A.Maldisa, N.Budyki, W.Czanturia, G.Kachanowskiego, M.Kacera, E.Kwitnickiej, W.Morozowa, A.Martynowa, G.Chodyko i innych.

Znaczny wkład do badań gospodarczo-parkowej sztuki na ziemi brzeskiej wnieśli polscy naukowcy R.Aftanazi, K.Zdański, A.Wawrzyńczyk.

Ostatnio były wydane książki z serii «Pamięć» o miastach i powiatach województwa, szereg prac naukowych miejscowych historyków-krajoznawców, w których są zawarte wiadomości o dworach, pałacach i zamkach.

Zbadano około 315 budowli zamkowej architektury i pałacowo-parkowej sztuki. Wykonano ponad 150 schematów i planów parków. Po raz pierwszy puszczono do naukowego obiegu około 290 fotodokumentów i schematów. Z innego punktu widzenia ujawniono, zbadano i opisano 175 fragmentów byłych gospodarstw, część z których ma historyczne znaczenie i dotyczy życia i działalności wybitnych działaczy państwowych i oświatowych XVI—XIX stuleci: Ostrowie (Ostrow) Małoryckiego, Boży Dar Kobryńskiego, Soczywki i Pawlinowo Baranowiczskiego, Siułki Kamienieckiego powiatu i wielu innych.

W tej książce w szerokim zakresie są wykorzystane wyjątkowe wiadomości, otrzymane od potomków byłych właścicieli gospodarstw, folwarków, pałaców, dworów, którzy obecnie są poza granicami Białorusi.

Autor wyraża swą szczerą wdzięczność za pomoc w zbiorze materiału pracownikom bibliotek, muzeum Białorusi, Polski, Rosji, Ukrainy, Warszawskiego Funduszu Tadeusza Kościuszki i Centrum Opieki Historycznych Krajobrazów, architektom-konserwatorom, pracownikom Opieki historycznego dziedzictwa, administracji głównych architektów, przyrodniczych i ziemskich zasobów, ochrony środowiska miast i powiatów województwa, jak również pracownikom wojewódzkiego radia i telewizji, drukarni za szereg transmisji, nadanie i wydanie wiadomości o pałacach i parkach ziemi brzeskiej.

Szczególną wdzięczność wyrażam prof. dokt. hab. nauk historycznych P.Łysienko (Mińsk), prof. dokt. hab. nauk przyrodniczych A.Fiedorukowi (Mińsk), prof. A.Michałowskiemu (Warszawa), mag. N.Butrymowiczowi (Warszawa) za poparcie i pomoc w przygotowaniu rękopisu.

## Карта-схема размяшчэння замкаў, вежаў і абарончых умацаванняў на тэрыторыі Берасцейшчыны







# Белавежа
# Białowieża
# Беловежа

Старажытны замак, які быў пабудаваны ў цэнтры Белавежскай пушчы яцвяжскім князем. Гэта было, магчыма, самае старажытнае з вядомых абарончых збудаванняў не толькі на тэрыторыі Белавежскай пушчы, але і ўвогуле на абшарах сучасных Брэсцкай, Гродзенскай абласцей Беларусі і Беластоцкага ваяводства Польшчы.

Паводле сцвярджэння гісторыка П.М.Шпілеўскага, які спасылаецца на даследаванні Марціна Бельскага, Мацея Стрыйкоўскага і інш., назву Белавежская пушча атрымала ад гэтага старажытнага замка яцвягаў з белымі вежамі.

Даследчыкі не называюць дакладную дату ўзвядзення замка яцвяжскім князем, але ўскосна падкрэсліваюць, што ён пабудаваны тады, калі яцвягам яшчэ не пагражала небяспека знішчэння. Магчыма, гэта было ў IX — пачатку X ст.

З пісьмовых крыніц вядомы толькі адзін дакладны факт на карысць існавання старажытнага замка ў Белавежскай пушчы. У прыватнасці, гісторыкі М.Бельскі і М.Стрыйкоўскі сцвярджаюць, што ў Белавежскім замку яцвягаў у 1409 г., напярэдадні Грунвальдскай бітвы 1410 г., вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт разам з вялікім князем ВКЛ і каралём Польшчы Уладзіславам II Ягайлам пасля Бярэсця мелі тут сустрэчу і гаворку пра будучыя бітвы з крыжакамі, бавілі час у паляваннях на зуброў, займаліся арганізацыяй нарыхтоўкі правіянту для ратнікаў[1].



*Белавежа. Абеліск у гонар караля Аўгуста III. З малюнка К.Я.Крыжыцкага. 1752 г.*[4]

Пра вонкавы выгляд замка невядома амаль нічога, за выключэннем таго, што гэта было грандыёзнае абарончае збудаванне, якое надзейна засцерагала яцвяжскага князя з дружынай ад нашэсця суседзяў.

Замак быў мураваны, над яго магутнымі сценамі ўзвышаліся белыя вежы. Замак паспяхова вытрымаў нашэсце татараў і праіснаваў да сярэдзіны XVI ст.

Паводле даследавання І.Балятынскага, сляды замка праглядаліся яшчэ ў пачатку XIX ст. Яго руіны мелі выгляд гарыстага насыпу, абкружанага з усіх бакоў капцамі, курганамі і валатоўкамі (старажытнымі паганскімі магіламі). Некаторыя з іх былі раскапаны і ў іх знойдзены чалавечыя косці, чарапкі глінянага посуду і іншыя прадметы, якія сведчылі пра засяленне пушчы ў старажытныя часы[2].

Унук Ягайлы Жыгімонт I Стары на ўзвышшы каля мястэчка Нараўка ўзвёў раскошны палац, які па падабенстве са старажытным замкам быў таксама аздоблены белымі вежкамі. Пры Стафане Баторыі непадалёку ад старога мястэчка Белавежа, дзе стаяў палац Жыгімонта I, быў пабудаваны новы замак, і з тае пары ўся навакольная мясцовасць стала называцца Замчышчам[3].

У цэнтры пушчы пазней будавалі свае палацы і замкі іншыя каралі і імператары, а ў гонар караля Аўгуста III тут 27 верасня 1752 г. быў узведзены манументальны абеліск.

[1] *Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. СПб., 1858. С. 26—27.*
[2] *Boliatyński I. Nauka Łowiectwa. Wilno, 1825. S. 36—38.*
[3] *Карцов Г. Беловежская пуща. СПб., 1903. С. 25.*
[4] *Тамсама. С. 32.*

# Бярэсце
# Berzeście
# Берестье

## Абарончая вежа

Паводле Іпацьеўскага летапісу, Берасцейская абарончая вежа існавала ў 2-й палове XIII ст. У 1260 г. Бярэсце ўпамінаецца як горад, да якога князь Даніла Раманавіч Галіцкі правадзіў замест сябе брата князя Васільку Раманавіча Уладзімірскага, які выступіў у паход на Літву ў складзе войскаў татарскага хана Бурундая. Пасля смерці Васількі Раманавіча (1271) з 1272 г. на Уладзімірскім прастоле княжыў яго сын Уладзімір Васількавіч, які ўнёс важкі ўклад ва ўмацаванне Бярэсця.

У прыватнасці, летапісец у пасмяротным слове пра нябожчыка (1289) Уладзіміра Васількавіча мовіў, што «Князь Воло-




*Выява Берасцейскай вежы на пячатцы 1592—1651 гг.*[4]





димер... по отци своем зруби Берестий... В Берестии же сзда столп камен высотою яко и Каменецкий, постави и церковь святого Петра, и евангелие...»[1].

Пасля ўзвядзення ў XV ст. Берасцейскага замка, вежа-данжон увайшла ў яго агульны ансамбль. Паводле даследавання М.Ткачова, вежа пабудавана з цагляных брускоў на вапнавым растворы, мела ў плане блізкую да квадрата форму памерам 5,9х6,3 м, таўшчыню сцен каля 1,3 м. Вежа паказана на планах Бярэсця 1798, 1800, 1803, 1828, 1830 і іншых гадоў. Асабліва добра яна праглядаецца на каляровым плане 1828 г. з загалоўкам на французскай мове. Ружовай фарбай на ім паказаны старажытныя пабудовы, у т.л. вежа на паўднёва-ўсходняй мяжы замка і кавалак мураванай сцяны, што ідзе перад ёю па краі стромкага схілу замка. Месца размяшчэння вежы з напольнага боку сведчыць пра тое, што абстрэл з яе быў накіраваны на найбольш адказны ўчастак абароны — замкавы ўезд.




*Старажытнае Бярэсце. Замак. Малюнак паводле карты Т.Макоўскага 1613 г.*[5]

Па сваіх архітэктурна-фартыфікацыйных асаблівасцях Берасцейская вежа найбольш блізкая да такой жа самай старажытнай пабудовы, узведзенай у м. Стоўп'е на Валыні[2].

Берасцейская вежа, нягледзячы на параўнанне яе летапісцам з Камянецкай, верагодна была блізкая па вышыні да Стоўп'еўскай вежы — 19,5 м. Але тонкая і выцягнутая яе форма рабіла вежу як бы вышэйшай, асабліва калі глядзець на яе зблізку. Магчыма, такое ўражанне дазволіла летапісцу параўнаць Берасцейскую вежу з Камянецкай.

У пачатку 1990-х гадоў даследчыца архітэктуры старажытнага Бярэсця І.Лаўроўская выказала нетрадыцыйны погляд на месца размяшчэння Берасцейскай вежы, з якой пачалося ўзвядзенне манументальных збудаванняў горада. Сэнс гэтых разважанняў у тым, што паколькі летапісец узгадвае Берасцейскую вежу «яко Каменецкую», то яна павінна быць у плане круглай. Але дасканала вядома, што ўсе 5 вежаў Берасцейскага замка мелі ў плане форму, блізкую да квадрата. Таму выказваецца меркаванне, што вежа месцілася асобна, па-за межамі замка. Грунтоўнае вывучэнне панарамы Бярэсця па вядомай гравюры Э.І.Дальберга «Аблога Бярэсця шведамі ў 1657 г.», паводле Пуфендорфа, пацвярджае факт існавання побач з даміканскім касцёлам адасобленай высокай, круглай у плане, вежы, якая мела байніцы ў двух ярусах з зубцамі на карнізе. Ад Камянецкай яна адрознівалася толькі высокім шатровым дахам.



*Старажытнае Бярэсце. Вежа паблізу дамініканскага касцёла. Фрагмент гравюры*[6].



*Брэст-Літоўск. Герб войтаўскай улады Бярэсця XVI—XVII ст.*[7]

Акрамя таго, на карысць гэтых вывадаў гаворыць факт размяшчэння побач з вежай старажытнага кургана, пазначанага на планах 1797 г., рэшткі якога сталі падмуркам Кобрынскага ўмацавання[3].




*Гарадзішча старажытнага Бярэсця*[8].

Вежа праіснавала да 1831 г. і была знесена пры пабудове Брэсцкай крэпасці. Мяркуецца, што выява старажытнай вежы з'явілася асноўным элементам герба войтаўскай улады Бярэсця 1554 г. — 1-й паловы XVII ст.

[1] *Лысенко П.Ф. Открытие Берестья. Мн., 1989. С. 27.*
[2] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст. Мн., 1978. С. 25.*
[3,5,6] *Лавровская И.Б. «Белые пятна» культуры нашей // Архитектура и строительство Белоруссии. 1991. № 4 (92). С. 42—43.*
[4] *Свод памятников истории и культуры Белорусии. Брестская область. Мн., 1990. С. 32.*
[7] *Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў. Мн.,1998. С. 39.*
[8] *Памяць. Брэст. Мн., 1997. Кн. 1. С. 35.*







# Старажытны замак

Пабудаваны з каменю і дрэва на выспе (востраве) паміж рэкамі Мухавец і Заходні Буг на дзядзінцы старажытнага Бярэсця. Паводле розных пісьмовых крыніц, існаваў з XV ст. Умацаванні замка складаліся з рова, валоў, абарончых сцен — гародняў і 5 вежаў[1]. У снежні 1409 г. у Берасцейскім замку адбылася важная гістарычная падзея — сустрэча вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Ягайлы, вялікага князя ВКЛ Вітаўта, хана Джэлаладзіна (сына хана Тахтамыша) з прадстаўнікамі шэрагу харугваў ВКЛ, Польшчы, Масковіі, Чэхіі, Валахіі, Венгрыі, Маравіі і інш. дзяржаў. На працягу 9 дзён быў распрацаваны план сумесных дзеянняў супраць крыжакоў, які быў пераможна здзейснены ў ліпені 1410 г. пад Грунвальдам.

З Берасцейскім замкам звязана таксама адна вельмі жахлівая гісторыя. Менавіта тут у пачатку XV ст. адбылося патаемнае пакаранне смерцю жонкі князя Кейстута (яе кінулі ў р. Буг).




*Бярэсце. План. Пачатак XVIII ст.*[4]

У 1500 г. Берасцейскі замак вытрымаў аблогу крымскіх татараў хана Менглі Гірэя. У 1-й палове XVII ст. быў дадаткова ўмацаваны шэрагам бастыёнаў. Двойчы ў час шведска-рускай вайны (1657 і 1706) захоплены войскамі Карла XII, значна разбураны, пасля двойчы аднаўляўся.

Паводле чарцяжоў XVII—XIX ст. і матэрыялаў Берасцейскага староства, абарончыя ўмацаванні горада складаліся з Верхняга і Ніжняга замкаў.

Як сцвярджае ў сваіх даследаваннях І.Лаўроўская, унутры замкавага комплексу пазначана некалькі збудаванняў, якія на гравюры 1657 г. не ўнесены ў эксплікацыю. Там мелася: «... вежаў замкавых — 5, на адной — гадзіннік, які біў кожную гадзіну, другая размешчана на ўсход ад Мухаўца, трэцяя — ад Замухавечча (за ровам) на поўдзень-усход, чацвёртая ад Буга на поўдзень, пятая — над старой брамай, агароджай для званара наверсе і званом, прывезеным з Валыні»[2].



*Брэст-Літоўск. План замка (паводле вопісу 1566 г.). Рэканструкцыя І.Лаўроўскай*[5].

Акрамя таго, пры старосце падканцлера ВКЛ Астафія Валовіча былі пабудаваны дзве новыя брамы, якія вялі да замка. Адна размяшчалася пад вежай, што насупраць стайняў караля, а праз яе можна было трапіць да гарадскога рынку. З першай і пятай вежамі звязаны шэраг пабудоў, якія месціліся па-за сценамі замка.

Даволі цікавая была ўнутраная планіроўка замка. Яна ўключала памяшканні з камінамі, печамі для гатавання ежы, заламі для прыёмаў гасцей, пакоямі для ўтрымання вязняў і некалькі камор.

Тут размяшчаўся «цэйхгауз» — дом на высокім падмурку са скляпамі, наверсе чатыры пакоі, якія прызначаліся для захавання зброі і адпачынку варты. Да цэйхгауза былі прыбудаваны прадаўгаваты ў плане дом, святліца з трыма вокнамі, лаўкамі, печкай. Існавалі яшчэ чатыры святліцы з зашклёнымі вокнамі. Пятая святліца, як самая вялікая, мела пяць акон, камін і грубку. Падлога, як пазначана ў інвентары, выкладзена з цэглы, у доме дзве кухні з каморамі, лаўкамі і выхадам на ганак. На гравюры 1657 г. усе вышэйназваныя замкавыя пабудовы пазначаны на плане.



*Брэст-Літоўск. Старажытны замак з абарончай вежай (паводле В.Мандальскага)*[6].

Па-за межамі замка на беразе Мухаўца стаялі лазня, млын, стайня і інш. гаспадарчыя пабудовы.

Паводле даследаванняў А.Белага, у Прускай дзяржаўнай бібліятэцы г. Берліна за-



*Брэст-Літоўск. Фрагмент старажытнага замка (паводле Д.Вашчукуўны-Камянецкай)*[7].







*Берасцейскі замак. План*[8].

хоўваецца цікавы дакумент — копія плана сярэдневяковага Бярэсця, знятая картографам фон Фюрстэнгофам у 1740 г. Аб гэтым сведчыць надпіс на плане, але арыгінал, відавочна, паходзіць з 1710 г. Паводле плана, у пачатку XVIII ст. акрамя вядомых кляштараў, цэркваў і старога замка ў Бярэсці існавалі мураваныя замкі-палацы Сапегаў і Буркоўскіх, а таксама ратуша.

Для грунтоўнай рэканструкцыі тапаграфіі сярэдневяковага Бярэсця XVII—XVIII ст. гэты план, як адзначыў А.Белы, паслужыць добрым дапаўненнем да знакамітай гравюры панарамы аблогі Бярэсця шведамі ў 1657 г., якую выканаў на медзі з натуры шведскі ваенны картограф Эрык Дальберг[3].

У час будаўніцтва Брэсцкай крэпасці стары замак і палацы ў 1831 г. былі поўнасцю знішчаны.

---

[1] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 113.*

[2,5] *Лавровская И.Б. «Белые пятна» культуры нашей... С. 42.*

[3,4] *Белы А. Планы гарадоў Беларусі з калекцыі Яна Георга Максіміляна фон Фюрстэнгофа // Спадчына. 1998. № 6. С. 50—51.*

[6] *Mondalski W. Brześć Podlaski. Brześć nad Bugiem, 1929. S. 107.*

[7] *Ващукувна-Каменецка Д. Брест — город незабываемый. Брест, 2000. С. 74.*

[8] *Памяць. Брэст... Кн. 1. С. 56.*

# Высока-Літоўск
# Wysokie-Litewsk
# Высоко-Литовск

Сярэдневяковы абарончы замак. У 1511 г. кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт І Стары перадаў г. Высокае Яну Храптовічу Літавору, маршалку ВКЛ. У 1538 г. арандатарам высокаўскіх зямель стаў Лаўрэн Вольскі, пазней гаспадарамі Высокага былі Ёдкавічы, Петкавічы, Хлявіцкія, Войны. У 1647 г. Высокае выкупіў Павел Сапега. Пры ім быў узведзены замак як цэнтр абароны гандлёва-рамеснага насельніцтва Высокага.

Замак з'яўляўся ўзорам бастыённай сістэмы ўмацавання. Ён гарманічна спалучаў прыродныя ўзвышшы, штучнае абвадненне і сістэму бастыёнаў, якая выглядала асабліва магутна з боку ўезда. Акрамя таго, рака Пульва, падпёртая запрудай, стварала вялікае вадасховішча, якое ператварала замак у непрыступную крэпасць на востраве.

У паўночна-ўсходняй курціне размяшчаўся галоўны ўезд да замка, перад якім быў пракладзены цераз сажалку мост на пáлях. Ён падводзіў да двухпавярховай уязной



*Высока-Літоўск. Уязная брама да замка.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[3]

прыземістай брамы з трыма двухстворкавымі варотамі. Мураваная пабудова з магутнымі сценамі была разлічана на вядзенне абстрэлу з усіх падыходаў да замка. Закрываў доступ да варот пад'ёмны механізм, які знаходзіўся перад уязной брамай. Падыход да іх дастаткова добра фланкіраваўся з двух вуглавых земляных бастыёнаў і курцін, якія змыкаліся з брамай. Знутры курцін меўся падземны ход, праз які ў час аблогі можна было незаўважна пераходзіць з бастыёна ў вежу-браму[1].

Па перыметры абарончага вала акрамя вышэй пералічаных збудаванняў размяшчалася яшчэ шэсць невялікіх бастыёнаў. Будаўнікі ўмела выкарысталі правы высокі бераг ракі. Замак з усіх бакоў абкружала вада. Сам замак быў драўляны і знаходзіўся на вялікай замкавай плошчы, абнесенай валамі. Каля замка знаходзіліся розныя гаспадарчыя пабудовы.

Замак шмат перанёс у час вайны Расіі з Рэчу Паспалітай (1654—1667) і Паўночнай вайны (1700—1721). У пачатку XVIII ст. Міхал Сапега разам з жонкаю Людвікай аднавілі, узмацнілі і абваднілі замак. Вакол замка яны заклалі прыгожы парк. У 1748 г. замак ахапіў моцны пажар. З гэтай нагоды Сапегі перанеслі сваю рэзідэнцыю ў Слонім. Магчыма, замак быў зноў поўнасцю адноўлены. На карысць гэтага сведчаць архіўныя дакументы 2-й паловы XVIII ст. У ведамасцях, якія змяшчаюць асноўныя перыяды жыцця апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, ёсць запіс пра наведванне ім у 1775 г. Высока-Літоўска і замка пры пераездзе караля да свайго радавога гнязда ў мястэчка Воў-




*Высока-Літоўск. План замка*[4].





*Высока-Літоўск. Руіны ўязной брамы замка[5].*

чын. Пра існаванне адноўленага замка ў Высокім таксама сведчыць пісьмовая справа ў дакументах 1753 г., якая ўзнікла паміж Аляксандрам Сапегам і яго малодшым братам Міхаілам. У матэрыялах справы запісана, што «маёнтак Высокае з палацам, паркам, горадам і прылеглым наваколлем...» застаюцца за старэйшым братам[2]. Замак існаваў яшчэ на мяжы XVIII—XIX ст., пасля чаго паступова прыйшоў у заняпад і ператварыўся ў руіны.

У добрым стане прыкладна да 1-й сусветнай вайны знаходзілася старадаўняя мураваная двухпавярховая ўязная брама. Яе барочны будынак, дэкарыраваны пілястрамі, выразна бачны на акварэлі Напалеона Орды і сведчыць, што і замак таксама мусіў быць выкананы ў стылі барока.

Пры будаўніцтве новага палаца ў 1815 г. Пелагеяй Патоцкай рэшткі замкавага ўмацавання і ўязной брамы ўвайшлі цалкам у палацава-паркавы ансамбль, стварыўшы арыгінальнае спалучэнне са старажытнасцю.

Руіны колішняга замка разам з Высокаўскім палацава-паркавым ансамблем узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С.106—107.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 166.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4372).*
[4] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 94.*
[5] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Давыд-Гарадок
# Dawidgródek
# Давид-Городок

Старажытны замак (гарадзішча Замкавая гара), дзядзінец старажытнага паселішча, цэнтр абароны сярэдневяковага горада («места»). Размешчаны на правым высокім беразе р. Гарынь (цяпер Столінскі раён).

Паводле даследаванняў Р.Якімовіча, М.Ермаловіча і П.Лысенкі, горад заснаваны князем Давыдам Ігаравічам у 1100 г., паводле меркаванняў В.Тацішчава і А.Рапава — у 1078—1081 гг. Мясцовы гісторык і краязнавец М.Шэлехаў у сваёй манаграфіі прытрымліваецца агульнага пункту гледжання — 1100 г., але пры гэтым падкрэслівае, што названая дата заснавання крэпасці ўмоўная, яна можа быць старэйшая на цэлае стагоддзе[1]. У гэтай сувязі прадбачыцца таксама канчатковае высвятленне пытання пра існаванне ў XII ст. горада ўдзельнага княства на месцы сённяшняй вёскі Гарадной, пра што ўзгадвае энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона.

Пасля Давыда Ігаравіча Гарадком правіў яго адзіны сын Усевалад, аб чым маецца запіс у Іпацьеўскім летапісе: «...посла князь Мстислав... Всеволодка из Городна...». Гэта быў паход князёў на Полацк, арганізаваны вялікім князем Мсціславам (сынам Уладзіміра Манамаха) у 1127 г.[2]

Гарадзецкае княства праіснавала амаль чатыры стагоддзі, а разам з ім і назва Гарадок. Пазней горад меў назву Гарадок Давыдаў, а з канца XVII ст. — Давыд-Гарадок.

Усевалад Давыдавіч быў жанаты з князёўнай Агаф'яй, дачкой Уладзіміра Манамаха. Яны мелі трох сыноў: Барыса, Глеба і Мсціслава. У пісьмовых крыніцах узгадваецца аб княжанні ў Гарадку Барыса і Мсціслава, пасля якіх да сярэдзіны XIV ст. звестак пра княства і гарадзецкіх князёў пакуль няма.

У 2-й палове XIV ст. на гарадзецкіх «балотах і багнах» княжылі па чарзе Даніла, Дзмітрый і, нарэшце, Давыд, жанаты з Марыяй, дачкой вялікага князя ВКЛ Альгерда.

Адзіны сын Давыда Дзмітрыевіча і Марыі Альгердаўны Дзмітрый Давыдавіч (Мітка) служыў у 1412—1416 гг. пры двары караля Ягайлы, таму, верагодна, мог удзельнічаць у Грунвальдскай бітве 1410 г. Пазней Мітка служыў Вітаўту, затым свайму дзядзьку Свідрыгайлу Альгердавічу. У 1435 г. князь Свідрыгайла пацярпеў паражэнне ад Жыгімонта Кейстутавіча.

Пасля заканчэння гэтай міжусобнай барацьбы Мітка быў выселены з Гарадка і разам са Свідрыгайлам жыў у Ровенскім павеце (м. Курач).

У 1440 г. па загадзе Жыгімонта Кейстутавіча Мітка Гарадзецкі, які быццам рыхтаваў змову супраць князя, быў закатаваны ў турме. Верагодна, князь Мітка не быў жанаты і не пакінуў пасля сябе нашчадкаў.

Неўзабаве, у выніку змовы князёў Чартарыйскіх і ваяводаў Даўгіра і Лялюша, Жыгімонт Кейстутавіч быў скінуты і забіты.

З 1445 па 1452 гг. Гарадзецкім княствам правілі князь Свідрыгайла, пасля яго смерці — жонка Ганна Іванаўна, якая паходзіла з роду цвярскіх князёў. Княгіня Ганна памерла каля 1486 г., таксама не пакінуўшы нашчадкаў[3].

Пасля яе смерці кароль Казімір Ягелончык перадаў грамату на валоданне Давыд-Гарадком збегламу рускаму кня-



*Давыд-Гарадок. План замчышча[6].*

зю Івану Васільевічу Яраславічу. Затым да 1523 г. Давыд-Гарадок знаходзіўся ў валоданні яго сына Фёдара Іванавіча Яраславіча, пасля якога горад выкупіла каралева Бона. Ад яе 20 мая 1558 г. Давыд-Гарадок перайшоў да князёў Радзівілаў, якія валодалі ім да канца XVIII ст.

У Давыд-Гарадку ўжо ў 1501 г. існавала вельмі старадаўняя царква ў імя Святога Дзмітрыя. У 1624 г. князь Ян Радзівіл пабудаваў тут касцёл.

Давыд-Гарадок з-за асаблівых прыродных умоў (пушчы, балоты, рэкі) не меў уласнай гарадской лініі ўмацаванняў. Абарона поўнасцю базіравалася на магутнасці замка. Замкавая гара ўзвышалася на 3—5 м над узроўнем вады ў Гарыні, мела амаль круглую пляцоўку дыяметрам 100—110 м, абкружаную магутным валам, унутры якога былі драўляныя сцены вышынёй каля 1 м.

Інвентарныя запісы ад 23 мая 1605 г. пра ўмацаванні замка, калі ў ім княжыў князь Альбрэхт Радзівіл, гавораць, што вакол замка стаяў паркан (абарончая агароджа), які меў выгляд гародняў (абарончых сцен), накрытых старымі драніцамі. З боку ўезда ў замак з горада ў паркане стаяла «вежа з брамаю», узведзеная замест ранейшай. Акрамя традыцыйнай вежы-брамы ў паркане было яшчэ пяць вежак. У замак можна было трапіць праз «мост немалы», які вёў да выязных варот з пад'ёмным мостам на ланцугах. Далей называюцца дзве вежы, дзевяць гародняў без дзвярэй, якія моцна пагнілі і апалі. Будаваць, падтрымліваць і даглядаць замкавыя ўмацаванні, паводле загаду князя, павінны былі шляхта і гараджане.

З правага боку замчышча ахінала рачулка, якая мела назвы Няволя, Чартарыя, Няпраўда. Сэнс іх адлюстроўваў яе неспакойны нораў. З поўдня і поўначы замак абкружала р. Гарынь, якая несла свае воды праз горад і стварала такім чынам дадатковую перашкоду для руху варожых станаў.

У 1653 г. (напярэдадні вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг.) быў складзены новы інвентар замка, а ў 1665 г. выканана чарговае яго апісанне. Паводле названых інвентароў, у архітэктурным абліччы замка і абавязках мяшчан па яго абслугоўванні адбыліся невялікія змены. У прыватнасці, акрамя моста цераз р. Няволю, які быў размешчаны з поўначы і звязваў замак з горадам, быў яшчэ адзін мост, які падводзіў да замкавага паркана з поўдня. Як сцвярджаў М.Ткачоў, на гэта паказвае разрыў паміж валамі, які да цяперашняга часу існуе на гарадзішчы[4].

У Давыд-Гарадку меўся моцны атрад войска ВКЛ, у складзе якога было 400 чалавек коннай шляхты і 300 чалавек узброеных мяшчан. У пачатку верасня 1655 г. горад аблажыў царскі атрад на чале са стольнікам Д.А.Валконскім. Царскія войскі штурмам узялі і спалілі Давыд-Гарадок, пасля чаго мяшчане разам з сялянамі валасці аднаўлялі ўмацаванні замка.

Інвентары 1670 і 1675 гг. адзначаюць існаванне ў Давыд-Гарадку двух замкаў — «Горнага» (Верхняга) і «Дольнага» (Ніжняга). Першы быў абнесены высокім валам, абкружаны вадой, але драўляны замак на яго тэрыторыі быў знішчаны ў час вайны, а застаўся толькі «дом кухонны».

Падзамча, альбо «Дольны» замак, меў парканную агароджу. Агульная даўжыня лініі ўмацаванняў абодвух замкаў складала 980 м, з якіх на Верхні прыпадала каля 466 м, а на Ніжні — каля 534 м. Вакол замка ўжо пачаў разрастацца горад, у якім існавалі дзве праваслаўныя царквы і адзін касцёл.

У Ніжні замак з горада можна было трапіць па мосце цераз роў. Уваход на мост зачыняўся варотамі. Адсюль новы мост цераз р. Чартарыю вёў у Горны замак праз дубовую браму. Абодва замкі былі абнесены новым дубовым парканам.

Усе наступныя інвентары Давыд-Гарадоцкага замка да 1760 г. даюць уяўленне пра паступовае разбурэнне і занядбанасць замкаў, якія ператвараліся з мясцовага цэнтра абароны ад ворагаў у рэзідэнцыю эканомаў-адміністратараў Радзівілаў.

У рэшце рэшт, пасля Паўночнай вайны ў інвентары 1702 г. усё радзей сустракаецца інфармацыя пра вежы, але пра паркан, што стаяў на вале, усё яшчэ гаворыцца на працягу 1-й чвэрці XVIII ст. Адзначана таксама ўмацаванне ўязной вежы — брамы замка.


*Давыд-Гарадок. Сучасны выгляд замчышча[7].*






*Давыд-Гарадок. Манумент князю Давыду ў памяць аб 900-годдзі заснавання горада[8].*

Апошні інвентар 1793 г. зафіксаваў толькі звычайную браму з дзвюма кардэгардыямі і тарцічнымі варотамі, якія запіралі доступ на замкавы падворак, дзе ў атачэнні гаспадарчых аб'ектаў стаяў палац адміністратараў[5].

У розныя гады замчышча вывучалі археолагі Р.Якімовіч, П.Рапапорт, П.Лысенка.

У 1936 г. пры закладцы новай замкавай царквы, замест згарэлай, быў выяўлены склеп з трынаццаццю старадаўнімі трунамі. Паводле заключэння вядомага гісторыка і грамадскага дзеяча А.Луцкевіча, гэта было месца пахавання гарадзецкіх князёў (Княжыя магілы).

У 1937—1938 гг. у час раскопак, якія вёў прафесар Р.Якімовіч (г. Познань), былі выяўлены шматлікія археалагічныя каштоўнасці, у т.л. 25 пахаванняў з астанкамі першых гаспадароў старажытнага горада і іх военачальнікаў.

Рэшткі замка ўзяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

З нагоды 50-годдзя адкрыцця Княжых магіл і пад час святкавання Дня горада на Замкавай гары быў устаноўлены памятны знак аб паходжанні Давыд-Гарадка, а ў дзень святкавання 900-годдзя горада — манументальны помнік князю Давыду паводле праекта скульптара А.Дранца.

1 *Шэлехаў М. Давыд-Гарадок. Брэст, 2000. С. 77.*
2 *Тамсама. С. 75.*
3 *Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński. Notatki historyczne. Brześć nad Bugiem, 1930. S. 18.*
4 *Ткачоў М. Замкі і людзі... С. 45.*
5 *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 36—37.*
6 *Ткачоў М. Замкі і людзі... С. 42.*
7 *Фота аўтара. 1999 г.*
8 *Фота Н.Вандзіч. 2000 г.*

# Жабер
# Żaber
# Жабер

Старажытны замак. Размяшчаўся на правым беразе р. Ясельда за 3 км ад в. Жабер ва ўрочышчы Замак (цяпер Драгічынскі раён). Пабудаваны ў канцы XVI— пачатку XVII ст. князямі Вішнявецкімі. Гэта была магутная абарончая крэпасць, узведзеная таленавітымі дойлідамі ў лепшых традыцыях еўрапейскага фартыфікацыйнага мастацтва.

Плошча замка складала больш за 1,5 га, была абнесена высокім земляным валам, умацаваным дубовымі бярвёнамі. Крэпасць, падобная да чатырохвугольніка ў плане, мела магутныя бастыёны на вуглах. З заходу крэпасць надзейна ахоўвала Ясельда і яе балоцісты правы бераг, а з поўначы і ўсходу — глыбокі абвадны канал шырынёй 20 м і глыбінёй 5 м. У замак можна было трапіць толькі праз браму па мосце, які ў выпадку небяспекі мог хутка разбірацца. Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі падмурка былой брамы[1].




*Жабер. План замка[3].*

У Паўночную вайну 1700—1721 гг. многія замкі, умацаванні, крэпасці на тэрыторыі Беларусі былі разбураны ў выніку жорсткіх бітваў. Не пазбегнуў гэтай долі і Жаберскі замак.

Бітва паміж расійскімі і шведскімі войскамі разгарэлася 13 мая 1706 г. Жаберскую крэпасць адразу не маглі ўзяць ні саюзныя шведскаму каралю Карлу XII войскі караля Польшчы Станіслава Ляшчынскага, ні атрады шведскага генерала Маерфельда, ні войска самога Карла XII. Крэпасць была захоплена ў выніку здрады яе каменданта немца Ботмана, які за 3 тысячы дукатаў адчыніў вароты і здаў крэпасць. Паколькі Жаберская крэпасць мела велізарнае ваенна-стратэгічнае значэнне, то Карл XII загадаў разбурыць яе поўнасцю, а 30 трафейных расійскіх гармат затапіць у Ясельдзе. Каб праверыць выкананне свайго загаду, праз некаторы час ён зноў вярнуўся сюды з Пінска і асабіста ўпэўніўся ў знішчэнні замка.



*Жабер. Сучасны выгляд замчышча[4].*




2 Зак. 1023





У пачатку XX ст. мясцовыя жыхары выцягнулі некалькі гармат з абваднога канала. Пазней на гэтым месцы быў знойдзены вялікі скарб са шведскімі і польскімі срэбранымі манетамі XVII—XVIII ст.[2]

Рэшткі Жаберскай крэпасці знаходзяцца на ўліку і пад аховай дзяржавы.

---

[1] Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 91.
[2] Памяць. Драгічынскі раён... С. 524.
[3] Збор помнікаў... С. 147.
[4] Фота аўтара. 1999 г.

# Запруды
# Zaprudy
# Запруды

Сярэдневяковы замак, помнік абарончага дойлідства XIV—XVII ст. Размешчаны на захад ад в. Запруды Кобрынскага раёна. Апошнімі гаспадарамі Запрудскага маёнтка да 2-й сусветнай вайны былі нашчадкі роду Маераў. Хто быў уладаром замка — пакуль невядома. Рэшткі замка выявіў М.Ткачоў[1].




*Запруды. План замка[3].*

У склад замка ўваходзіў палац феадала (поўнасцю разбураны) і абарончыя ўмацаванні. Сістэма ўмацаванняў складалася з земляных валоў па перыметры замка з частаколам наверсе і вадзяных равоў. У плане равы і валы нагадваюць упісаныя адзін у адзін прамавугольнікі. Пляцоўка замка мае памеры 144х110 м. Глыбіня равоў складае да 2,5 м, шырыня 7—8 м. Вышыня ўнутранага вала мае 1,9—2 м, вонкавага — 1,5 м. Равы і валы зыходзіліся разам у месцы ўезда ў замак (уязная брама таксама не захавалася)[2].

У сучасны перыяд равы абмялелі, побач з пляцоўкай пракладзены меліярацыйны канал. На месцы замчышча (гарадзішча) знаходзяцца невялікія рэшткі пейзажнага парку, закладзенага Маерамі. На ўскрайку паўночна-заходняй частцы парку ёсць крыніца. Рэшткі замкавых валоў, парку і крыніца ўтвараюць унікальны прыродна-гістарычны асяродак.

На тэрыторыі колішняга маёнтка і гарадзішча цяпер размешчана базавая школа.

Замчышча ўзята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] Збор помнікаў... С. 233.
[2] Архітэктура Беларусі... С. 220.
[3] Ткачоў М. Абарончыя збудаванні... С. 59.

# Камянецкая вежа
# Wieża Kamieniecka
# Каменецкая башня

Летапісная назва — «столп камен» — унікальны помнік абарончага дойлідства 2-й паловы XIII ст. Размешчаны ў цэнтры г. Камянец. Збудаванні тыпу Камянецкай вежы маюць назву «данжон» — галоўная вежа феадальнага замка, якая служыла месцам укрыцця людзей і абароны ад нападу ворагаў. Паводле Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1271 і 1289 гг. таленавітым дойлідам Алексам на месцы старажытнага (X—XI ст.) невялікага паселішча па загадзе ўладзіміра-валынскага князя Уладзіміра Васількавіча (Філосафа). Ён адбудаваў і горад Бярэсце, які, паводле меркавання асобных даследчыкаў, быў знішчаны татара-мангольскім нашэсцем[1].

Гісторыя вежы цесна звязана з Камянцом, які ўзнік як горад-крэпасць для абароны паўночных межаў Уладзіміра-Валынскага княства. З гэтай нагоды ў Іпацьеўскім летапісе за 1276 г. запісана: «...І посемъ вложи Богъ во сердце мысль благу князю Володимеру, нача соби думати, абы где за Берестиемъ поставити городъ... и посла Володимеръ мужа хитра, именемъ Алексу, иже бяше при отце его многы городы рубя, и посла Володимеръ з тоземцы в челнох возверх рекы Лысны, абы где изнайти товово место городъ поставити; се же изнашедъ место таково, и прыеха ко князю и нача поведати. Князь же сам еха з бояры и слугами, и улюби место то над берегомъ рекы Лысны и отереби е; и потомъ сруби на немъ городъ и нарче имя ему Каменецъ зане быс земля камена»[2].



*Камянец-Літоўск. Выгляд старажытнай вежы з заходняга боку. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.[5]*








*Камянец-Літоўск. Выгляд старажытнай вежы з усходняга боку. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[6]

Пра ўзвядзенне вежы ў гэтым жа летапісе за 1289 г. узгадваецца наступнае: «Князь же Володимеръ въ княжении своем многы городы зруби по отци своем. Зруби Берестий. И за Берестиемъ зруби город на пустом месте, нарицаемем Лестне, и нареч имя ему Каменець... Създаж въ нем столпъ каменъ... подобенъ удивлению всем зрящим нань...»[3].

Драўляныя ўмацаванні новага горада былі з трох бакоў абкружаны земляным валам і абарончым ровам, а з чацвёртага іх надзейна ахоўвала рака. У цэнтры знаходзілася вежа-данжон.

У плане вежа круглая, яе вонкавы дыяметр складае 13,5 м, таўшчыня сцен каля 2,5 м, вышыня ад падмурка 30 м, вышыня падмурка 2,3 м, знешні дыяметр падмурка каля 16 м. Сцены вежы складзены з двухколернай цэглы — цёмна-чырвонай і жаўтаватай, памерам 26,5x13,5x8 см, на вапнавым растворы. Пры будаўніцтве вежы выкарыстоўвалася «вендская» кладка, якая пашырылася на той час на тэрыторыі Германіі, Польшчы, Лівоніі.

Звонку і ўнутры вежа мае вялікую колькасць прамавугольных адтулін ад «пальцаў» рыштаванняў, уверсе яна некалькі вузейшая і не мае ні вертыкальнага, ні гарызантальнага членення.

У першым ярусе вежа мае дзве байніцы, у другім і трэцім — па тры, у чацвёртым — дзве і адзін стральчаты праём для дзвярэй.

Байніцы чатырох ніжніх ярусаў вузкія, шчыліна-падобныя, пашыраюцца ўнутр, завяршаюцца паўцыркульнымі аркамі. Форма іх стральчатая. Паміж гэтымі байніцамі размяшчаюцца чатыры плоскія нішы. Чацвёрты ярус з боку ракі вылучаўся вялікім стральчатым праёмам, пад якім існуюць адтуліны ад кансольных бэлек, што сведчыць пра размяшчэнне ў мінулым балкона. Над пятым ярусам яшчэ захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення на патоўшчаных рэбрах — нервюрах, якія заканчваюцца ўнізе невялікімі кранштэйнамі і вузкім пояском, што праходзіць вакол сцяны.



*Камянец-Літоўск. Выгляд старажытнай вежы. 1899 г.*[7]



*Камянец. Сучасны выгляд вежы*[8].

У свой час ярусы былі злучаны паміж сабой драўлянымі лесвіцамі. З пятага яруса пачынаецца каменная лесвіца, асветленая двума вузкімі акенцамі. Яна ідзе ў тоўшчы сцяны і вядзе наверх, на баявую пляцоўку, якая па краях мае 14 зубцоў. Кожны зубец мае скразныя адтуліны, якія, верагодна, служылі абаронцам вежы і горада як назіральныя шчыліны. Над верхнім зводам вежы першапачаткова існаваў дах у выглядзе шатра. У сценах вежы ёсць чатыры скразныя каналы, якія выкарыстоўваліся для адводу вады з пазух звода. Архітэктурныя асаблівасці вежы настолькі своеасаблівыя, што з цяжкасцю могуць быць супастаўлены са стылямі іншых вядомых архітэктурных аб'ектаў мінуўшчыны ў перыяд паступовага пераходу ад рамантычнага стылю да готыкі.

У вежы ёсць дэталі, якія з'яўляюцца гатычнымі. Таму спалучэнне стральчатых і паўцыркульных арак, а таксама невысокія стрэлкі пад'ёму першых, верагодна, дазволілі акадэміку У.В.Суславу назваць вежу «раннегатычнай па архітэктуры»[4].

Больш за 700 гадоў вежа вытрымлівала аблогі і напады ворагаў, прыродныя катаклізмы. Паколькі Камянец і вежа стаялі на шляху стратэгічных і гандлёвых зносін, тут часта спыняліся на адпачынак вялікія князі ВКЛ і польскія каралі. Пазней, у XV—XIX ст. у Камянцы побач з вежай бу-





даваліся, руйнаваліся і аднаўляліся пасля войнаў і пажараў палацава-замкавыя ансамблі.

Пастулова вежа страціла сваё абарончае значэнне і апынулася ў занядбаным стане, а замкі разбураліся, аднаўляліся і нанава будаваліся. У 1897 г. вежу як старажытны помнік вырашана было рэстаўрыраваць, і ў 1899 г. па заданні Археалагічнай экспедыцыі вежа была даследавана і абмерана акадэмікам У.В.Суславым. Рэстаўрацыя была праведзена ў 1903—1905 гг. пад кіраўніцтвам архітэктара П.П.Пакрышкіна. Удалося асцярожна выслабаніць першы ярус вежы ад трохметровага культурнага пласта зямлі. Вакол вежы быў насыпаны новы вал.

У 1970 г. каля вежы праводзіліся археалагічныя даследаванні пад кіраўніцтвам беларускага вучонага М.А.Ткачова. Камянецкая вежа абвешчана гісторыка-культурнай каштоўнасцю міжнацыянальнай катэгорыі. З 1960 г. тут размешчаны філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. У сучасны перыяд на Камянецкай вежы вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

[1] *Zdański K. Przyczynki do dziejów powiatu Brzesko-Litewskiego i ziem nim objętych. Warszawa, 1936. S. 70.*

[2] *Тамсама. С. 70—71.*

[3] *Памяць. Камянецкі раён... С. 22.*

[4] *Тамсама. С. 25.*

[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4372).*

[6] *Тамсама. III-R.A. 4372a.*

[7] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў. (0-120766).*

[8] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Камянец-Літоўск
# Kamieniec Litewski
# Каменец-Литовск

Старадаўні палацава-замкавы ансамбль XV—XIX ст. Заснаванне горада Камянца, паводле старажытных летапісаў, належыць уладзіміра-валынскаму князю Уладзіміру Васількавічу, які ў 1276 г. паслаў дойліда Алексу будаваць умацаванае паселішча на р. Лясной. У гэты ж час узводзіцца мураваная абарончая вежа, вядомая пад назвай «Камянецкі слуп». Яна ствapала цэнтральны вузел драўляных умацаванняў горада.

Пра існаванне ў Камянцы драўлянага замка паведамляе ў сваіх запісах французскі падарожнік XV ст. Жыльберт дэ Лянуа[1]. Да нас дайшлі толькі звесткі пра палацава-замкавыя комплексы XVII—XIX ст. Захаваўся інвентар 1635 г., паводле якога ў 1-й палове XVII ст. Камянецкі замак меў выгляд тыповага магнацкага двара з цэлым комплексам драўляных збудаванняў без магутнай сістэмы ўмацаванняў. Палацава-замкавы комплекс быў умацаваны толькі земляным валам і абкружаны вадзяным ровам, цераз які з боку Камянца быў мост. Замак размяшчаўся на беразе р. Лясной побач з каменнай вежай XIII ст., але не заўсёды ўключаў апошнюю ў склад сваёй асноўнай тэрыторыі.

У цэнтры замкавага ансамбля стаяў двухпавярховы палац, выкананы ў стылі рэнесансу з аркаднай галерэяй




*Камянецкі замак. Рэканструкцыя Я.Куліка[4].*

на галоўным фасадзе. Уваход у замак ажыццяўляўся праз двух'ярусную браму, накрытую шатровым дахам. У ніжнім ярусе брамы размяшчаліся гаспадарчыя памяшканні, у верхнім — зала з адкрытай галерэяй з балюстрадай. Паблізу брамы знаходзіліся два жылыя флігелі, кухня, гаспадарчыя пабудовы.

Першы паверх палаца меў парадную частку, жылыя памяшканні і сені. Парадную частку складала прасторная сталовая з 8 вокнамі і каморай. У сенях мелася «бакавая» хата з трыма вокнамі. Жылую палавіну складалі дзве хаты і тры каморы. За межамі ўмацаванняў, на беразе ракі, стаялі бровар і вялікі двухпавярховы свіран.

У 2-й палове XVII — пачатку XVIII ст. комплекс паступова мяняўся. У ім з'явілася ўмацаванае драўлянай сцяной «прадзамча». Палацава-замкавы ансамбль быў абнесены земляным валам і астрогам. Змянілася і архітэктурнае аблічча палаца. Ён стаў аднапавярховы з анфіладнай планіроўкай і ганкам на слупах, быў завершаны купалам. За палацам размяшчаліся жылыя флігелі і гаспадарчыя пабудовы. «Прадзамча», дзе было больш за 40 дамоў заможных гараджан, злучалася з замкам цераз вадзяны роў мастком і дзвюма брамамі. У замкавай браме (ніжні ярус) на баках ад праезда была турма, у верхнім — лямус з адкрытай галерэяй.

На працягу XVIII ст. палацава-замкавы ансамбль зноў рэканструяваўся, аднаўляўся і перарабляўся. Побач з



*Камянецкі замак. Палац. Галоўны фасад і план першага паверха. Рэканструкцыя паводле інвентара 1635 г. 1 — сені; 2 — зала; 3 — сталовая; 4 — камора; 5 — галерэя[5].*




вонкавымі ўмацаваннямі (вадзяны роў, вал і драўляная сцяна), захавалася двух'ярусная брама. Насупраць брамы ўзведзены новы двухпавярховы драўляны палац з ганкам, накрыты двухсхільным гладкім дахам. Палац быў завершаны трыма вежкамі. Дзверы палаца былі аздоблены арнаментальнай разьбой, сцены — шпалерамі, падзеленымі разнымі ліштвамі на асобныя панэлі. Паблізу ад брамы размяшчаліся кухня, гаспадарчыя пабудовы[2].

За межамі замка, на беразе р. Лясной, размяшчаліся двухпавярховы спіхлер (свіран) і піўны бровар. У раёне капца, дзе ўзвышалася Камянецкая вежа, гуртаваліся гаспадарчыя і службовыя пабудовы: стайня, скляпы, хлявы. Каля вежы меліся таксама агароды і сад, якія належалі замку[3]. У перыяд 1-й сусветнай вайны палацава-замкавы ансамбль быў разбураны і больш не аднаўляўся.

У Камянцы нарадзіўся славуты суайчыннік Міхаіл Карповіч (1744—1803), асветнік, публіцыст і палітычны дзеяч ВКЛ XVIII ст., прафесар Віленскай і Кракаўскай акадэмій, блізкі паплечнік Тадэвуша Касцюшкі і актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г.

[1] *Якимович Ю.А. Зодчество... С. 151.*
[2] *Памяць. Камянецкі раён... С. 93.*
[3,5] *Якимович Ю.А. Зодчество... С. 152.*
[4] *Замкі Беларусі. Энцыклапедыя часопіса «Бярозка». 1976. С. 3.*

# Каралін
# Korolin
# Королин

У канцы XVI ст. ва ўсходняй частцы Пінскага прадмесця ўзнікла мястэчка Каралін, забудаванае паводле рэгулярнага плана. У самым яго цэнтры маршалкам Вялікага княства Літоўскага Янам Дольскім быў узведзены бастыённы замак. Крыху пазней яго ўладальнікам стаў заможны род князёў Вішнявецкіх, якія значна палепшылі ўмацаванні, мадэрнізавалі замак[1].

Замак быў пабудаваны ў лепшых традыцыях італьянскай фартыфікацыйнай архітэктуры. У плане ён быў падобны да чатырохвугольніка памерам 75,6х37,8х46,2х75,6 м, меў бастыёны на вуглах, якія разам з курцінамі былі абмураваны валунамі. Знутры валоў існаваў падземны ход, які цягнуўся па перыметры замка шырынёй 90 см і вышынёй да 2 м. Праз кожныя 4 м у ім меліся невялікія адтуліны (да 20 см), праз якія праходзілі святло і паветра. Падземны ход меў выйсці на бастыёны.

Да замка вяла ўязная брама-вежа, меўся роў шырынёй каля 9 м з перакінутым цераз яго пад'ёмным мостам. Бастыёны з супрацьлеглага боку ад р. Піны былі больш магутныя, чым паўднёвыя, ахаваныя высокім берагам і водамі ракі[2].




*Каралін. План замка[4].*

Каралінскі замак Пінскага прадмесця неаднаразова разбураўся. Значныя пашкоджанні ён атрымаў у час аблогі Пінска царскімі войскамі (ліпень 1660) і штурму



*Каралін. Руіны замка.*
*З малюнка Напалеона Орды. 1868 г.[3]*

горада войскам шведскага караля Карла XII (1704). У пачатку XIX ст. тут яшчэ заставаліся два бастыёны і адна курціна.

Руіны Каралінскага замка ў свой час вабілі і прыцягвалі ўвагу мастакоў і пісьменнікаў, гісторыкаў і архітэктараў. Тут неаднаразова бываў знакаміты мастак Напалеон Орда, які пакінуў у мастацкай спадчыне тры замалёўкі руін замка сярэдзіны XIX ст. Арыгіналы замалёвак засталіся і захоўваюцца ў Кракаўскім нацыянальным музеі, а замак, на жаль, знік назаўсёды.



*Каралін. Руіны замка.*
*З літаграфічнага малюнка Напалеона Орды. 1868 г.[5]*

Яшчэ ў 1960-я гады добра прагляд аліся рэшткі муроў, валоў і равоў Каралінскага замка, але пры будаўніцтве жылога квартала і гаспадарчых аб'ектаў яны былі поўнасцю знішчаны.

[1] *Słownik geograficzny... S. 851.*
[2] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 159—160.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4489).*
[4] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 160.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4490).*





2а Зак. 1023





# Кобрын
# Kobryń
# Кобрин

Паводле сцвярджэнняў шэрагу даследчыкаў (М.Балінскі, Т.Ліпінскі, П.Бацюшкоў, К.Зданьскі і інш.), Кобрын належыць да старажытных славянскіх паселішчаў, а яго замкі ўзведзены «князямі ад князёў» валынскіх. У 1287 г. уладзіміра-валынскі князь Уладзімір Васількавіч двума тастаментамі (завяшчаннямі) перадаў Кобрын сваёй жонцы Вользе Раманаўне. Вядома, што кобрынскія князі пабудавалі ў Кобрыне царкву Святых Пятра і Паўла (каля 1465), манастыр Святога Спаса (1497). Да 1519 г. тут збудаваны касцёл Святога Гераніма.

Кобрынскія замкі існавалі ў XIV—XVIII ст. на месцы дзядзінца і пасада. Паводле інвентара 1597 г., ансамбль складаўся з драўляных Верхняга («Высокага») і Ніжняга («Прыгарадак») замкаў, якія размяшчаліся на двух узвышшах у міжрэччы Мухаўца і Кобрынкі.

На тэрыторыі абодвух замкаў знаходзіліся некалькі жылых дамоў і гаспадарчыя пабудовы. Вельмі цікавымі з'яўляліся ярусныя брамы, якія ў канцы XVI ст. страцілі абаронччую ролю. Брама Ніжняга замка мела над праездам звычайнае трохкамернае жыллё, а брама Верхняга замка была трохпавярховая[1].

Верхні замак у плане круглы (дыяметр каля 56 м), быў абнесены каменнымі сценамі са шмат'яруснымі драўлянымі вежамі. У XVI ст. быў умацаваны глыбокім дугападобным ровам, кальцавым валам і клецевымі канструкцыямі, якія ў ніжніх ярусах мелі каморы, у верхніх — бланкаванне з баявымі хадамі, завершанымі двухсхільнымі дахамі з драніц. Праз браму, вежу і пад'ёмны мост Верхні замак меў сувязь з Ніжнім замкам і горадам.




*План Кобрына XVIII ст.*
*1 — Верхні замак; 2 — Ніжні замак[6].*

Ніжні замак адрозніваўся выцягнутай формай, быў абнесены земляным валам і ровам, меў таксама дзве брамы і выхад да р. Мухавец. Асноўныя тыпы абарончых канструкцый (гародні) накрываліся дахам з драніц. Сцены замка ўмацоўваліся 5 вежамі. У адной з вежаў працаваў млын[2].

Рамонт замкавага ансамбля выконвала феадальна-залежнае насельніцтва паводле «давнее повинности свое». Але ўдзельнікамі аднаўлення абарончых умацаванняў былі не толькі адны сяляне. У прыватнасці, у «Рэвізіі» за 1563 г. запісана: «...дано тым же млынарам... вольную, с которое они службу тесельскую с топором пешо ку замку Кобринскому... два дни в тыйдень служити повинни»[3].

Непадалёку ад замка, на тэрыторыі колішняга пасада, на глыбіні 1,5—2 м знойдзены рэшткі старажытнай маставой з бярвён. Пры правядзенні археалагічных даследаванняў на тэрыторыі замка была сабрана значная колькасць керамічных вырабаў, якія адносяцца да XII—XIII ст.



*Выгляд Кобрына ў 1864 г.*
*З акварэлі Напалеона Орды[7].*

Абарончы арсенал Кобрынскага замка складаўся з дзвюх бронзавых гармат буйнога калібру, пяці серпанцінаў, шаснаццаці гакаўніц, семнаццаці ручных пішчалей і інш. зброі. Даглядалі замкавы арсенал два пушкары і каваль у замкавай майстэрні[4].

У XVI—XVII ст. кобрынскія замкі руйнаваліся войнамі, часткова аднаўляліся і, як сведчыць акт рэвізіі 1597 г., прыйшлі ў заняпад, а ў XVIII ст. былі канчаткова разбураны.

Паводле сцвярджэнняў П.Шпілеўскага, В.Анціпава і М.Ткачова, рэшткі Кобрынскага замкавага ансамбля ў канцы XVIII ст. па загадзе А.Суворава былі разабраны і



*Выгляд Кобрына ў 1864 г.*
*З акварэлі Напалеона Орды[8].*

паскопваны, а замкавыя валы зруйнаваны ў 1840-я гады пры пракладцы Маскоўска-Варшаўскай шашы[5]. Да сённяшняга часу захаваліся толькі невялікія рэшткі замкавага рова.

---

[1] *Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX ст. Мн., 1993. С. 19.*
[2] *Архітэктура Беларусі... С. 240.*
[3] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 114.*
[4] *Плиско Н.М., Козлов Л.Р. Кобрин. Мн., 1987. С. 14.*
[5] *Антипов В.Г. Парки Белоруссии. Мн., 1975. С. 32.*
[6] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 115.*
[7] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4375).*
[8] *Тамсама (III-R.A. 4374).*





# Крошын
# Kroszyn
# Крошин

Невялікі абарончы замак. Размяшчаўся ў в. Крошын Баранавіцкага раёна. Пра існаванне параўнальна невялікага абарончага замка сведчылі рэшткі валоў, равоў і



*Крошын. Сучасны выгляд замчышча[3].*

воднай сістэмы, якія прасочваліся яшчэ ў сярэдзіне XIX ст.[1] Вонкавы выгляд замка невядомы. Пад час войнаў і бітваў неаднаразова гарэў, руйнаваўся і аднаўляўся. Канчаткова занепаў у 1-й палове XIX ст. і з таго часу больш не аднаўляўся.

На месцы замка ў XVIII ст. быў пабудаваны палац і закладзены пейзажны парк. У сярэдзіне XIX ст. Святаполкі-Завадскія пабудавалі тут новы двухпавярховы палац з вежкай, які быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну.

З Крошынам звязаны імёны знакамітых суайчыннікаў Ігната Дамейкі, Антона Адынца, Марылі Верашчакі, Паўлюка Багрыма, М.Федароўскага і ксяндза-асветніка Магнушэўскага[2].

Замчышча ў Крошыне грунтоўна не абследавана, раскопкі не праводзіліся. Рэшткі парку і замчышча патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 234.*
[2] *Несцярчук Л.М. Палацы, паркі, замкі Баранавіцкага раёна. Брэст, 1999. С. 30.*
[3] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Крыўляны
# Krzywlany
# Кривляны

Сярэдневяковы замак князёў Чартарыйскіх размяшчаўся каля в. Крыўляны Жабінкаўскага раёна. Чартарыйскія — магнацкі (княжацкі) род ВКЛ, прадстаўнікі якога ў XV—XVIII ст. займалі шэраг вышэйшых дзяржаўных, адміністрацыйных і ваенных пасад у ВКЛ[1].




*Крыўляны. План замка[3].*

Паводле даследаванняў гісторыка Ф.В.Пакроўскага, у XVII ст. замак ужо існаваў. Верагодна, ён быў пабудаваны Чартарыйскімі раней, у 2-й палове XVI ст.

У 1950—1960-я гады яшчэ добра прагляддаліся рэшткі замчышча і земляныя ўмацаванні вонкавай лініі абароны — равы, валы, бастыёны.

Замчышча ў плане мае форму квадрата плошчай каля 10 га. З поўдня і з паўночнага ўсходу замак надзейна прыкрывала сістэма бастыёнаў. Магутныя валы шырынёй 7—8 м і вышынёй 4 м абкружаў абарончы роў[2]. Да нядаўняга часу былі бачны сляды колішняга ўезда, сажалкі і канала,



*Крыўляны. Сучасны выгляд замчышча[4].*

які выходзіў да рэчкі. Балоцісты поплаў і рэчка прыкрывалі замак з захаду, таму штучныя ўмацаванні тут былі значна слабейшыя. У 1980-я гады быў распачаты пясчаны кар'ер і замчышча было зруйнавана, але і цяпер тут сустракаюцца абломкі керамікі, цэглы.

Рэшткі замчышча ўзяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мн., 1995. С. 595.*
[2] *Збор помнікаў... С. 162.*
[3] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 92.*
[4] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Лыскава
# Łyskowo
# Лысково

Старажытны феадальны замак. Размяшчаўся на правым балоцістым беразе невялікай рэчкі Шчыбы (Мухі), за 0,5 км ад в. Лыскава Пружанскага раёна ва ўрочышчы Гарадзішча. Некалі зямля, дзе зараз засталіся рэшткі замка, уваходзіла ў склад царкоўных надзелаў, потым маёнтка Адамкава. Лыскаўскі замак у XIX ст. абследаваў Ф.В.Пакроўскі, які адносіў яго да каралеўскіх[1].









Паводле меркавання мясцовага гісторыка-краязнаўцы В.Церахавай, замак належаў каралеве Боне, потым яе сыну каралю Жыгімонту II Аўгусту, а пасля маршалку Васілю Тышкевічу. Замак існаваў задоўга да набыцця Лыскава каралевай Бонай.

У мясцовых жыхароў існуе шмат паданняў і легендаў, звязаных з замкам. Адна з іх распавядае пра вельмі багаты і прыгожы палац, які належаў знатнай пані Боне. Пад час колішняй вайны палац быў разбураны, а сама пані ледзьве ўратавалася ад палону[2]. Яшчэ гэта месца называюць Акопы. Як сцвярджае ў сваіх даследаваннях В.Церахава на падставе шматлікіх пісьмовых крыніц, менавіта ў Лыскаўскім замку ў XVI ст. быў створаны найкаштоўнейшы пісьмовы шэдэўр — летапіс беларускага, літоўскага, украінскага і рускага народаў да 1506 г. пад назвай Хроніка Быхаўца. Даследчыца далей падае, што стваральнікам Хронікі мог быць Васіль Тышкевіч, дваранін каралеўскі, які перасяліўся ў Літву ў XVI ст. з Украіны. Спачатку ён меў прозвішча Тышко Быхавец, а пасля ўсе сыны яго набылі прозвішча ад імя бацькі і пачалі пісацца Тышкевічамі.



*Лыскава. План замка[6].*

Уладар Лыскаўскага замка Васіль Тышкевіч вылучаўся надзвычай багатай эрудыцыяй, высокай адукаванасцю і шырокім светапоглядам, добра ведаў гісторыю, дыпламатыю, меў вялікія дзяржаўныя пасады (ваявода падляшскі і смаленскі, староста пінскі і мінскі), атрымаў у валоданне яшчэ двор Ласасін, мястэчка Ружаны і Белавежскую пушчу[3].

Паводле схемы планіроўкі, замак у Лыскаве меў у плане квадрат з насыпанымі вакол валамі і каналамі, якія абкружалі замкавы ансамбль. Параўнальна добра захаваўся заходні вал. Ён узвышаецца на 2,5—3 м над пляцоўкай памерам 68х68 м. Каля падножжа мае шырыню 10 м, на яго вяршыні ёсць пляцоўка шырынёю каля 2 м. Традыцыйна пасярэдзіне пляцоўкі размяшчаўся ўезд у замак[4]. Аналагічныя памеры меў і паўднёвы вал, а ад усходняга вала засталіся толькі фрагменты вышынёй да 2 м. На вуглах замка ўзвышаліся драўляныя вежы-«круглікі» дыяметрам 8 м (не зберагліся). Замак быў абнесены ровам, які захаваўся з заходняга і паўднёвага бакоў. Яго шырыня складала 10 м, глыбіня — 4,5 м. За ровам знаходзяцца рэшткі другога вала вышынёй 1 — 1,5 м і шырынёй да 4 м. Ён захаваўся толькі з захаду і поўдня. Па баках замчышча існавалі праезды. Яшчэ адзін дугападобны вал даўжынёй 90 м абкружаў паселішча на перадзамчышчы і ўпіраўся з усходу ў балоцісты бераг ракі[5]. Ён меў вышыню да 5 м, шырыню каля падножжа да 11 м, а па цэнтры праглядваліся сляды ўезда ў замак. Побач з дугападобным валам цягнуўся роў глыбінёй да 5 м і шырынёй да 10—12 м. Грунтоўнае даследаванне замчышча правёў у 1970 г. М.А.Ткачоў. Выяўлены культурны пласт да 40 см, знойдзена кераміка XV—XVII ст., фрагменты кафлі, кавалкі цэглы. На перадзамчышчы захаваліся сляды паселішча.



*Лыскава. Ахоўны знак на замчышчы[8].*



*Лыскава.Сучасны выгляд замчышча[7].*

Замчышча ўзята на ўлік і пад ахову дзяржавы. На ім устаноўлены ахоўны знак.

---

[1] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 57.*
[2] *Терехова В. Сказание об исчезнувшем замке // Беларуская думка. 1994. № 11. С. 76.*
[3] *Церахава В. Хроніка Быхаўца. Берасцейскія карані. Брэст, 1998. С. 197—198.*
[4] *Збор помнікаў... С. 325.*
[5] *Памяць. Пружанскі раён... С. 32.*
[6] *Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні... С. 58.*
[7,8] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ляхавічы
# Lachowicze
# Ляховичи

Абарончы замак, вядомы пад назвай Ляхавіцкая фартэцыя. Паводле меркаванняў шэрагу даследчыкаў, Ляхавічы першапачаткова ўзніклі на месцы в. Старыя Ляхавічы, пазней былі перанесены на сучаснае месца. Ляхавіцкі маёнтак вядомы з XV ст. як велікакняжацкае ўладанне, якім па чарзе валодалі магнаты Гаштольды і Радзівілы. У 1572 г. Ляхавічы, паводле дзённіка








*Ляхавічы. Замак. Рэканструкцыя Я.Куліка*[5].

Ф.Еўлашоўскага, перайшлі да гетмана ВКЛ Яна Караля Хадкевіча. У 1605 г. ён праславіўся тым, што сваім нешматлікім войскам разбіў шведаў пад Кірхгольмам і ў 1621 г. туркаў пад Хоцінам.

У канцы XVI ст. Ян Кароль Хадкевіч замест невялікага драўлянага замка пабудаваў у Ляхавічах магутны бастыённы замак, які лічыўся самым моцным з падобных збудаванняў не толькі ў ВКЛ, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай[1]. Як мяркуе Р.Афтаназы, будаўніцтва Ляхавіцкай фартэцыі распачаў Ян Станіслаў Сапега, які быў у шлюбе з дачкой Яна Караля Хадкевіча Ганнай Хадкевіч, а закончыў будоўлю замка яго брат Казімір Леў Сапега[2].

Больш праўдападобнае першае сцвярджэнне, таму што трэція крыніцы паведамляюць пра аблогу Ляхавіцкай фартэцыі казакамі ўжо ў 1595 г.[3]

На гравюры невядомага мастака, які адлюстраваў Ляхавіцкі замак у час адной з аблог у 1660 г., добра бачны яго размяшчэнне і планіровачныя асаблівасці. Замак адносіўся да адной з мадыфікацый новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы, вельмі пашыранай у Еўропе ў канцы XVI ст.

Замак займаў невысокае ўзвышэнне левага берага р. Ведзьмы. У плане новая фартэцыя мела форму чатырохвугольніка памерам 175х220 м, абкружанага ровам.

Высокі земляны вал замка вышынёй каля 15—16 м пераходзіў у кожным вугле ў вялікі бастыён развітай канфігурацыі з бруствярамі і байніцамі для стралкоў і артылерыі. Земляныя ўмацаванні былі абмураваны каменнем і цэглай. Па цэнтры бастыёнаў былі зроблены кавальеры (падвышаныя мураваныя ўмацаванні з парапетамі), якія па форме паўтаралі канфігурацыю бастыёнаў.

Кожны бастыён («бульвер») меў сваю назву — Садовы, Рынкавы, Водны, а чацвёрты бастыён, які не меў кавальера, зваўся Бульверкам пустым. На рагу кожнага бастыёна была «каморка» ў выглядзе невялікай вежкі. Пры кожным бастыёне меўся каземат, дзе захоўвалі зброю, ядры, порах і розную амуніцыю. Унутры валоў існавалі падземныя мураваныя хады для скрытнага пераходу з бастыёна на бастыён.

Цераз вадзяны 50-метровы роў быў перакінуты драўляны мост, апошняе звяно якога было пад'ёмнае, па ім можна было трапіць у мураваную чатырохпавярховую браму замка. Ніз яе займаў арачны праезд, злева і справа месціліся вартавыя памяшканні (кардэгардыі). На другім паверсе брамы стаялі механізмы пад'ёму моста з двума ланцугамі і пад'ёмнік жалезнай краты (герсы) на ланцугах. Тут жа былі байніцы для стральбы з ручной агнястрэльнай зброі. Трэці ярус брамы меў выгляд пляцоўкі, абгароджанай парапетам, чацвёрты — форму звужанай вежкі з гадзіннікам, вартавой пляцоўкай і ратным звонамнабатам. Вянчаў браму флюгер.

Ансамбль фартэцыі падкрэслівала магнацкая рэзідэнцыя, якая размяшчалася ў глыбіні замкавага двара насупраць брамы. Палац меў два паверхі, быў мураваны, выкананы ў стылі рэнесансу, у плане нагадваў літару «П». Тарцы двух паралельных карпусоў заканчваліся трох'яруснымі шчытамі франтонаў барочных формаў са стройнымі вільчыкамі. Цэнтральны корпус рэзідэнцыі меў аркадную галерэю, пад ім знаходзіліся вялізныя скляпы.

На замкавым двары, злева ад уязной брамы, стаяў аднапавярховы мураваны арсенал. Справа ад увахода, пад аднапавярховай каменнай пабудовай знаходзіўся патаемны ход з замка, які цягнуўся пад ровам і выходзіў у замкавы сад, размешчаны паблізу фартэцыі. Тайнік служыў для раптоўных вылазак і нападу на праціўніка. Уздоўж курцін і на двары шчыльна стаялі драўляныя будынкі розных службаў, казармы, студні і інш.




*Ляхавічы. Замак. Сітуацыйны план*[6].

За час свайго існавання замак неаднаразова вытрымліваў аблогу. Зімою 1595—1596 гг. замак беспаспяхова штурмавалі казацкія загоны атаманаў Налівайкі і Шавулы, а з 1648 па 1654 гг. Ляхавічы тройчы безвынікова атакоўвалі паўстанцы-сяляне і ўкраінскія казакі.

Але найбольшыя выпрабаванні для Ляхавіцкай фартэцыі выпалі на гады вайны Расіі з Рэччу Паспалітай. У яе разгар (жнівень — верасень 1654 г.) войскі царскага ваяводы князя Трубяцкога «...заходили к городу Ляховичам, и посады и слободы около Ляхович пожгли, которых Литовских людей застали в посаде и слободах, тех побили и языков поймали»[4]. Аднак Ляхавічы заставаліся адзіным горадам, які царскае войска не здолела заваяваць.

Магутнасць замка ў многім залежала ад артылерыі, пра якую пастаянна дбалі Ян Хадкевіч і Павел Сапега. Згодна з інвентаром за 1658 г., у замку было 30 гармат, у т.л. на «Бульверку ад саду» — 8 гармат, якія мелі ўласныя назвы: «Пярун», «Малпа», «Кіт», «Сокал», «Воўк» і інш.,











*Ляхавічы. Капліца ў гонар заснавання горада*[7].

на «Бульверку водным» таксама 8, на Рынкавым бульверку — 9, а на апошнім бастыёне — 5 гармат («Пелікан», «Пішчык», «Бурнікель», палявая шведская і маленькая).

У пачатку 1660 г. войскі пад камандай ужо іншага расійскага ваяра князя Хаванскага пачалі новую аблогу Ляхавіцкай фартэцыі, якая беспаспяхова доўжылася 6 месяцаў і была адбіта падаспеўшымі войскамі гетмана П.Сапегі і ваяводы С.Чарнецкага.

Улічваючы спустошанасць горада і навакольных вёсак, сейм Рэчы Паспалітай у 1661 г. вызваліў Ляхавіцкую воласць ад усіх падаткаў на 9 гадоў і дазволіў Сапегам трымаць тут ваенны гарнізон у 300 ваяроў за кошт дзяржавы.

У 1706 г. вакол Ляхавіцкага замка зноў загрымелі гарматы, цяпер паміж войскамі Пятра І, што заселі ў замку, і Карла XII, што напалі на Ляхавічы. Пасля паўгадавой аблогі шведы захапілі замак, разбурылі ўмацаванні і фарны касцёл, які быў пабудаваны ў Ляхавічах у 1602 г. Янам Хадкевічам і адноўлены Сапегамі пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай.



*Ляхавічы. Памятны знак на замчышчы, пастаўлены ў 1999 г.*[8]

У 1709 г. замак зноў апынуўся ў аблозе. На гэты раз войскі польскага караля Ляшчынскага з дапамогай украінскага гетмана Мазепы выбілі расійскі гарнізон, потым з замка давялося выбіваць самога Мазепу.

Падтрыманы двухтысячным войскам Пятра І, сюды ўвайшоў атрад Р.Агінскага, але 12 красавіка 1709 г. саюзныя Карлу XII войскі Аляксандра Сапегі перамаглі Агінскага і занялі замак.

Войны дарага абышліся замку. На мяжы XVIII—XIX ст. легендарная Ляхавіцкая фартэцыя ўжо ляжала ў руінах. Будынкі стаялі без дахаў, сцены ад верху да нізу трэснулі, часткова разваліліся, але яшчэ захаваліся вежа-брама, мост, валы.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Ляхавічы адышлі да Расійскай імперыі, замак страціў сваё ваеннастратэгічнае значэнне і канчаткова занепаў. У 1-й палове XIX ст. пабудовы прадалі гандлярам, якія разабралі сцены і муроўку замкавых умацаванняў.

Цяпер ад замка засталіся толькі сляды земляных валоў і вадзяных равоў.

Месца размяшчэння Ляхавіцкага замка ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. У 1999 г. тут устаноўлены ахоўны знак, а ў цэнтры г. Ляхавічы — мемарыяльная капліца з памятнымі дошкамі пра велічную гісторыю Ляхавіч і Ляхавіцкай фартэцыі.

---

[1,4] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 21.*
[2] *Aftanazy R.Dzieje... S. 236.*
[3] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 77.*
[5] *Замкі Беларусі. Энцыклапедыя часопіса «Бярозка». 1976. С. 14.*
[6] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 99.*
[7,8] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Мыш
# Mysz
# Мышь

Старадаўні замак. Да XVI ст. графства Мыш (цяпер Баранавіцкі раён) уваходзіла ў склад каралеўскай уласнасці. У 1568 г. кароль Польшчы і вялікі князь ВКЛ Жыгімонт II Аўгуст падараваў графства Мыш і яго навакольныя землі Яну Хадкевічу за баявыя заслугі. Хадкевіч пабудаваў на правым высокім беразе р. Мышанкі па ўсіх правілах ваеннага фартыфікацыйнага мастацтва даволі вялікі замак. Ён узвышаўся над рачной далінай больш як на 20 м. Замак быў абкружаны з трох бакоў земляным валам шырынёй каля 15 м і вышынёй да 4 м. З боку рэчкі вала не было, адсюль замак быў ахаваны балоцістым берагам са стромкім схілам.

З трох бакоў перад замкам быў велізарны роў глыбінёй 15 м і шырынёй 30 м. У паўднёвым кутку замкавага двара існаваў калодзеж, ад якога яшчэ захавалася паглыбленне. За ровам з поўдня размяшчалася паселішча Мыш.

Замак у Мышы меў важнае ваенна-стратэгічнае значэнне, знаходзіўся на шляху з Варшавы на Маскву. Гэта быў традыцыйны феадальны замак на Беларусі, які выконваў ролю магнацкай рэзідэнцыі і агульнай абароны ад ворагаў.








*Мыш. План замчышча[2].*

Да сярэдзіны XVII ст. замак вытрымліваў шматразовыя аблогі войскаў. Летам 1654 г. пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай замак быў спалены датла царскімі войскамі. З таго часу замак ужо ніколі не аднаўляўся[1].



*Мыш. Відэарама замка ў Русінаўскім музеі[3].*



*Мыш. Сучасны выгляд замчышча[4].*

[1] Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 134—135.
[2] Тамсама... С. 134.
[3] Фота аўтара. 1999 г.
[4] Свод памятников... С. 108.

# Опаль
# Opol
# Ополь

Сярэдневяковы замак князёў Вішнявецкіх. На працягу шматвяковай гісторыі Опаля (цяпер Іванаўскі раён) найбольшы ўклад у будаўніцтва і развіццё яго культуры ўнёс




*Опаль. Сітуацыйны план[2].*

Міхаіл Вішнявецкі, гетман ВКЛ (1680—1744). У свой час ён узвёў у Опалі мураваны замак з цэглы і каменю. Рэшткі гэтага абарончага збудавання ў выглядзе раскіданых апрацаваных камянёў і абломкаў кафлі былі знойдзены і выкапаны на месцы падмуркаў фартэцыі Вішнявецкіх да 1-й сусветнай вайны[1].

Як сцвярджае Р.Афтаназы, замак выконваў ролю адной з абарончых рэзідэнцый князёў Вішнявецкіх і быў канчаткова спалены і разбураны ў пачатку XIX ст. Захаваліся толькі рэшткі маляўнічага некалі парку з арыгінальнымі алеямі, дзе дрэвы былі пасаджаны ў выглядзе літары «W», з процілеглага боку — у выглядзе літары «М», што, верагодна, нагадвала ініцыялы Міхаіла Вішнявецкага, фундатара замка.

Магчыма, да замкавага ансамбля належаў мураваны свіран, які існаваў у Опалі да 1-й сусветнай вайны.

Парк і гаспадарчыя пабудовы абкружалі старадаўнія валы з чатырма блізкімі і чатырма далёкімі бастыёнамі. Некаторыя з іх існавалі і былі выразна бачны яшчэ ў міжваенны перыяд.

Замак Вішнявецкіх размяшчаўся франтальным фасадам на захад. Па абодва яго бакі, паўночны і паўднёвы, да 1939 г. стаялі дзве драўляныя на высокім падмурку ад-



*Опаль. Сучасны выгляд замчышча[3].*









напавярховыя афіцыны, узведзеныя значна пазней, але калі замак яшчэ не быў разбураны. Пасля пажару і знішчэння замка яго правая большая афіцына была перабудавана пад палац.

Пасля 2-й сусветнай вайны на месцы Опальскага маёнтка быў размешчаны калгас, а на руінах замка пабудавана калгасная кантора. Ад палацава-паркавага ансамбля засталіся невялікія рэшткі парку і сажалкі. Опальскі замак і палацава-паркавы ансамбль належаць да ліку страчанай нацыянальнай гістарычнай спадчыны.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 99.*
[2] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... S. 70.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Пінск
# Pińsk
# Пинск

Замкавы ансамбль. Абарончыя збудаванні горада Пінска былі даволі надзейныя, дзякуючы спалучэнню прыродных і штучных умацаванняў. З поўдня горад засцерагала рака Піна, на беразе якой былі пабудаваны штучныя абарончыя ўмацаванні дзядзінца, а пазней пасада. Гэта пацвердзілі даследаванні А.І.Мілавідава, Б.В.Міралюбава і П.Ф.Лысенкі.




*Пінск. Схема планіроўкі гарадзішча[4].*

Абарончыя збудаванні складаліся з пярэдніх равоў і валоў, таксама навакольных збудаванняў, што адпавядала патрабаванням старажытнай абарончай тактыкі. Гэта дазволіла Пінску ўтрымацца ў час паходу вялікага кіеўскага князя Ізяслава Давыдавіча (1158) на тураўскія землі[1].

На плане 1798 г. пінскі дзядзінец меў назву «Старасцінскі замак», а на плане 1794 г. абазначаны як «развалившиеся замки», меў авальную форму з трох бакоў, акрамя паўднёвага, абнесены ўзвышэннямі абарончых валоў. Паўднёвыя валы, магчыма, былі размыты на працягу многіх стагоддзяў. З поўначы валы мелі разрыў, які сведчыць, што, магчыма, з гэтага боку існаваў уезд у замак. У яго ансамбль уваходзіла абарончая вежа-данжон. На месцы вежы пазней была пабудавана «каравулка».

Дзядзінец быў абнесены шырокім (да 40 м) і глыбокім (да 9 м) абарончым ровам. Валы мелі навальныя драўляныя вежы і драўляныя сцены з байніцамі і баявымі хадамі.



*Штурм паўстаўшага Пінска. З малюнка М.Бельскага[5].*

Вакольны горад, паводле плана 1794 года, меў таксама абарончыя валы шырынёй прыкладна 12, вышынёй каля 6 м. З вонкавага боку валоў існавалі абарончыя равы шырынёй ад 20 да 30 м. Глыбіня іх засталася нявысветленай, верагодна, яна дасягала да 5 м. Яшчэ ў сярэдзіне XVII ст. на тэрыторыю горада можна было праехаць толькі па мосце, які меў назву Троіцкі[2].



*Пінск у 1868 г. З малюнка Напалеона Орды[6].*

Абарончыя збудаванні старажытнага Пінска былі разбураны ў 1648 г., але іх рэшткі праглядваюцца на плане 1794 г.[3]

---

[1] *Шэлехаў М. Давыд-Гарадок... С. 46.*
[2] *Свод памятников... С. 310.*
[3] *Лысенко П.Ф. Древний Пинск. Мн., 1997. С. 129.*
[4] *Збор помнікаў... С. 283.*
[5] *История Белорусской ССР. Мн., 1961.*
[6] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4488).*

# Ружаны
# Rużany
# Ружаны

Старажытны замак існаваў у Ружанах (цяпер Пружанскі раён) яшчэ да будаўніцтва Сапегамі сваёй рэзідэнцыі. Як сцвярджаюць асобныя даследчыкі, падляшскі ваявода Ян Сапега з вялікай раскошай прымаў тут караля Жыгімонта I Старога[1]. Найбольш верагодна, што Ружанскі замак быў пабудаваны ў 2-й палове XV ст. і з'яў-









*Ружаны. Праект звярынца на тэрыторыі палацава-замкавага ансамбля Сапегаў. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1770—1780 гг.*[2]

ляўся равеснікам Лыскаўскага сярэдневяковага замка, што размяшчаўся непадалёку.

У пачатку XVII ст. канцлер Леў Сапега на месцы старажытнага замка пабудаваў раскошны палац, які стаў адным з узораў палацавага мастацтва на Беларусі. У Ружанскім палацы пабывалі ў свой час каралі Уладзіслаў IV з каралевай Цэцыліяй Рэнат і Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, а таксама знакаміты пісьменнік і паплечнік Тадэвуша Касцюшкі Юльян Урсын Нямцэвіч і вялікі мастак Напалеон Орда.

Палац быў моцна разбураны пад час войнаў на працягу XVII і XVIII ст., значна перабудоўваўся, зноў разбураўся ў гады 1-й сусветнай вайны і зараз ляжыць у руінах.



*Ружаны. План звярынца на тэрыторыі палацава-замкавага ансамбля Сапегаў. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1770 — 1780 гг.*[3]

Больш дакладнае ўяўленне пра старажытны замак у Ружанах могуць даць у перспектыве грунтоўныя археалагічныя даследаванні. Сённяшнія меркаванні пра Ружанскі сярэдневяковы замак грунтуюцца толькі на паданнях і ўскосных сведчаннях у пісьмовых крыніцах.

---

[1] *Памяць. Пружанскі раён... С. 32.*

[2,3] *Bernatowicz T. «Entre éventail et étoile». Barok — Historia, Architektura, Sztuka. Warszawa, 1997. S. 110. Ilustr. 3.*

# Столін
# Stolin
# Столин

Старажытны замак. Паводле сцвярджэння шэрагу даследчыкаў, Столін неаднаразова ўзгадваецца ў летапісах пагарынскіх гарадоў XII—XIII ст.[1] У XVI ст. у Століне існаваў добра ўмацаваны прыватнаўласніцкі замак. Ён размяшчаўся на высокім левым беразе р. Гарыні, на месцы, якое цяпер называецца Капанец. Рэшткі старажытнага замка ў свой час выявіў М.Ткачоў.



*Столін. Месца размяшчэння замчышча*[5].

У XVI ст. замак належаў князям Саламярэцкім. З пісьмовых крыніц вядома, што ў 1644 г. тут пачаўся складаны судовы працэс удавы князя Саламярэцкага Ганны Пац з пінскім падчашым Зянонам Хадзебскім. Разам з Ганнай Пац яе правы на Столін у судзе абаранялі феадалы Чацвярцінскі, Карыцінскі, Кашэўскі і Нарушэвіч[2].

У пачатку XVIII ст. Столін набылі князі Вішнявецкія, пасля ім валодалі Каранеўскія, Пацы, Солтаны, Скірмунты, Стахоўскія, Гашлакевічы[3].

Пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. Столін церпіць велізарныя пакуты і разбурэнні. У верасні 1655 г. яго штурмам узялі і спалілі казацкія войскі ўкраінскага палкоўніка Івана Залатарэнкі. Войскі ВКЛ, якія былі кінуты на вызваленне Століна, у выніку жорсткай бітвы пацярпелі паражэнне. Ахвярай гэтых дзеянняў стаў замак. Ён быў моцна разбураны, разрабаваны, спалены і прыйшоў у заняпад.

Захаваўся толькі ўчастак абарончага рова з заходняга боку пляцоўкі даўжынёй да 42 м. Пляцоўка знівеліравана пры будаўніцтве стадыёна і дзіцячага сада № 3. Шырыня рова цяпер складае 12—13 м, а глыбіня 3 м. Часткова збярогся культурны пласт XII—XVII ст.









На гэтым замчышчы ў канцы XVIII ст. магнатамі Каранеўскімі быў пабудаваны палац, у якім пад час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. размяшчаўся штаб атрада Рамуальда Траўгута[4]. Царскія войскі, якія ўступілі ў Столін пасля задушэння паўстання, поўнасцю спалілі палац, апошнімі гаспадарамі якога былі Солтаны.

Месца размяшчэння старажытнага замка патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 163.*
[2] *Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński... S. 23.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 142—143.*
[4] *Тамсама. С. 143.*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Церабунь
## Terebuń
## Теребунь

Старадаўні замак князёў Шуйскіх[1]. Пабудаваны прыкладна ў 2-й палове XVII ст. на невысокай выспе, утворанай вусцем р. Лясная пры ўпадзенні яе ў р. Буг, ва ўрочышчы Старое селішча (цяпер Брэсцкі раён). Замак меў тры паверхі, пабудаваны з каменю і цэглы. Яго абкружалі валы і глыбокія равы, якія захаваліся да 2-й сусветнай вайны. Унутраная аздоба замка невядома. У пачатку XIX ст. замак і маёнтак Шуйскіх перайшлі да графа Ксаверыя Грабоўскага. Гісторыя замкавай рэзідэнцыі князёў Шуйскіх была ў свой час ахутана шматлікімі легендамі і таямніцамі, якія бралі свой пачатак яшчэ з XVII ст., калі ў 1609 г. князь Ян Шуйскі пабудаваў прыкладна за 1,5 км ад замка царкву. Паступова каля царквы пачалі будавацца перасяленцы, і ў XIX ст. тут узнікла вёска, якая атрымала назву Кацельня-Баярская. Царква мела падзямельныя скляпы, дзе больш за 200 гадоў хавалі продкаў Шуйскіх.




*Церабунь. Старое селішча на карце 1886 г.[2]*

У царкве знаходзілася старадаўняя ікона ў гонар Пакровы Божай Маці. Справа і злева ад яе былі змешчаны партрэты князёў Шуйскіх. Падзямеллі замкавай рэзідэнцыі Шуйскіх і царквы злучаліся падземным паўтаракіламетровым мураваным ходам.

Новы гаспадар Церабунскага маёнтка граф Ксаверы Грабоўскі ў 1862 г. загадаў разабраць замак Шуйскіх і зачыніць падземны ход. Замак разабралі да самых падмуркаў, якія яшчэ існавалі да 2-й сусветнай вайны. Апошнімі гаспадарамі маёнтка былі нашчадкі роду Юльяна Нямцэвіча.

Да сённяшняга часу захавалася Церабунская праваслаўная царква, якая мае мемарыяльнае значэнне.

Месца існавання замка і падземнага хода патрабуюць грунтоўнага навуковага абследавання і ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы. Цяпер падземны ход і скляпы замураваны.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 110.*
[2] *Warszawa. Biblioteka Narodowa. Dział Zbiorów Specjalnych (Mapy 19 w.).*

## Чарнаўчыцы
## Czernawczyce
## Чернавчицы

Паводле даследаванняў складальнікаў кнігі «Страчаная спадчына», у м. Чарнаўчыцы (цяпер Брэсцкі раён) існаваў абарончы сярэдневяковы замак Радзівілаў.

Замак складаўся з драўлянага аднапавярховага П-падобнага ў плане палаца з вялікай залай у цэнтры, быў абнесены мураванай сцяной з брамамі. Галоўны ўваход у



*Чарнаўчыцы. Архітэктурны праект каралеўскага палаца[5].*





палац вылучаўся ганкам з балюстрадай, з тыльнага боку мелася тэраса-галерэя. Замак абкружаў «італьянскі сад» з альтанкамі і гротамі[1].

Даследчык Р.Афтаназы таксама робіць выснову, што ўжо ў XVI ст. у Чарнаўчыцах мусіў быць умацаваны замак альбо двор, гаспадаром якога з'яўляўся ваявода віленскі Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка (1549—1616). Тут у 1585 г. нарадзілася яго дачка Альжбета[2].

Даследчык К.Зданьскі ў сваёй працы ў 1936 г. таксама адзначаў, што паблізу Свята-Троіцкага касцёла ў Чарнаўчыцах размяшчаўся замак Радзівілаў, Турна, а каля дарогі да Турны існавалі два курганы, званыя Швецкімі пахаваннямі, у якіх пры раскопках было знойдзена шмат старадаўняй зброі[3].

Пасля Радзівілаў Чарнаўчыцкі двор перайшоў да роду Грабоўскіх.

У 1819 г. тут бываў сусед па маёнтку знакаміты драматург, паплечнік і сябра Тадэвуша Касцюшкі Юльян Урсын Нямцэвіч, які пакінуў пасля сябе унікальныя пісьмовыя ўспаміны пра Чарнаўчыцы і іншыя маёнткі.

Замак, верагодна, быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну.

Паводле пісьмовых крыніц, у 1761 г. па заказе Радзівілаў быў падрыхтаваны новы праект Чарнаўчыцкага каралеўскага палаца, але праект застаўся нерэалізаваны. Адзін з надпісаў на праекце, арыгінал якога захоўваецца ў архіве Нацыянальнага музея г. Варшавы, гаворыць, што ў парку быў закладзены толькі падмурак новага палаца[4].

Колішнія замак і палацава-паркавы ансамбль у Чарнаўчыцах уваходзяць у лік страчанай нацыянальнай спадчыны.

[1] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 227.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 32.*
[3] *Zdański K. Przyczynki... S. 57.*
[4] *Bernatowicz T. «Entre...». Barok — Historia, Architektura, Sztuka... S. 110. Ilustr.5.*
[5] *Barokowa sztuka ogrodowa w Polsce i Saksonii (1697—1763 гг.). Warszawa, 1997. S. 18. Ilustr. 19.1.*

# Крэпасці і фартыфікацыйныя лініі

## Брэсцкая крэпасць
## Twierdza Brzeska
## Брестская крепость

Фартыфікцыйны комплекс XIX — пачатку XX ст., адно з магутных ваенна-інжынерных збудаванняў Расійскай імперыі на яе заходніх рубяжах. Пабудавана ў 1830—1842 гг. на месцы старажытнага цэнтра Брэст-Літоўска (горад перанесены на фарштаты) як частка сістэмы ўмацаванняў. У час будаўніцтва быў знесены замак, разбурана ці перабудавана для патрэб арміі 18 шэдэўраў культавай архітэктуры, грамадскіх і жылых будынкаў.

Пасля задушэння так званага рымска-каталіцкага мяцяжу 1831 г., распачатых ганенняў на каталікаў і уніятаў, вялікую колькасць кляштараў чакала скасаванне. Брэст у XVI ст. лічыўся другім па значэнні горадам Вялікага княства Літоўскага[1] і адначасова з'яўляўся сімвалам прыняцця уніі ў 1596 г.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай царскі ўрад пачаў ажыццяўляць ідэю стварэння магутнай фартэцыі на месцы Брэст-Літоўска. Першы праект быў падрыхтаваны ў 1797 г. інжынер-генералам Дэваланам, пазней распрацоўваліся іншыя праекты. Канчаткова праект пабудовы Брэсцкай крэпасці зацвердзіў у 1830 г. імператар Мікалай I (аўтары праекта інжынер-генералы Н.М.Малецкі, К.І.Оперман, палкоўнік А.І.Фельдман, шэф будаўніцтва — генерал І.І.Дэн, пазней — генерал-фельдмаршал




*Брэст-Літоўск. Заканчэнне будаўніцтва крэпасці. З малюнка Марціна Залескага. 1840 г.[5]*
*1. Першы Аляксандраўскі кадэцкі корпус (Бернардзінскі кляштар. 1624 г.). 2. Аўгусцінскі кляштар з касцёлам Святой Тройцы. 1666 г. 3. Езуіцкі калегіум. 4. Царква Святога Мікалая, у якой была падпісана унія 1596 г. 5. Базыльянская царква Святых Пятра і Паўла. 6. Дамініканскі кляштар.*











*Крэпасць Брэст-Літоўск. З малюнка Марціна Залескага. 1840 г.*[4]



*Крэпасць Брэст-Літоўск.*
*Генеральны план з сістэмай фартоў. 1906 г.*[5]

І.Ф.Паскевіч, імператарскі намеснік у Герцагстве Варшаўскім). На будаўніцтва крэпасці было выдзелена 500 тыс. рублёў. Старадаўнія пабудовы знішчаліся альбо прыстасоўваліся пад ваенныя патрэбы. Па традыцыі 1 чэрвеня 1830 г. урачыста былі замураваны ў падмурак абарончай казармы куфэрак з 21 манетай (2 залатыя, 13 срэбраных, 5 медных, 1 плацінавая) і бронзавая пліта з надпісам[2].

26 красавіка 1842 г. магутны комплекс фартыфікацыйных збудаванняў уступіў у лік дзеючых. Яго ядром была Цытадэль на востраве, дзе раней размяшчалася асноўная частка сярэдневяковага горада. Па перыметры Цытадэлі была пабудавана замкнутая двухпавярховая абарончая казарма працягласцю 1,8 км, якая змяшчала 500 казематаў. Цытадэль з трох бакоў прыкрывалі Кобрынскае, Валынскае і Цярэспальскае ўмацаванні, якія ўяўлялі сабой сістэму земляных валоў (10 м вышыні) і равоў.

На працягу XIX ст. — пачатку XX ст. абарончы комплекс рэканструяваўся і дабудоўваўся. Аўтарамі планаў



*Брэсцкая крэпасць. Урачыстае адкрыццё філіяла-музея фартыфікацыі і зброі ў 5-м форце. 8.5.2000 г.*[6]







мадэрнізацыі ў розны час з'яўляліся расійскія ваенныя інжынеры: генерал Э.І.Татлебен, штабс-капітан І.В.Бялінскі, палкоўнік Г.І.Лагорыа, інжынер-фартыфікатар Б.Р.Дабашынскі, інжынер-капітан Дз.М.Карбышаў, які ў далейшым стаў генералам, Героем Савецкага Саюза (пасмяротна).

У 1911—1914 гг. была ўзведзена вонкавая сістэма фартоў, якія стаялі на адлегласці да 7 км ад крэпасці, павялічваючы даўжыню фортавай лініі да 45 км.

Адначасова з будаўніцтвам крэпасці на паўночным усходзе ад яе пашыралася будаўніцтва новага Брэста (Кобрынскі фарштат), які цяпер уяўляе сабой узор горадабудаўніцтва XIX ст. са статусам гісторыка-архітэктурнай каштоўнасці.

Паступова крэпасць страчвала асноўную ролю ў стратэгічных планах ваюючых бакоў. Нягледзячы на тое, што да вясны 1915 г. яна мела закончаны выгляд і была адной з найбольш падрыхтаваных да абароны крэпасцей, усё ж імклівае наступленне германскіх войскаў прымусіла расійскую армію пакінуць фартэцыю. У ноч з 12 на 13 жніўня 1915 г. па загадзе расійскага ваеннага камандавання фарты і апорныя пункты першай і другой ліній абароны былі ўзарваны да падмуркаў, астатнія знішчаны часткова, а драўляныя канструкцыі (масты, пабудовы) былі спалены поўнасцю.

Да канца 1918 г. крэпасць знаходзілася пад акупацыяй кайзераўскай арміі. Згодна з дамовай, 3 сакавіка 1918 г. у будынку Белага палаца крэпасці быў падпісаны мірны дагавор, які 13 лістапада быўануляваны Савецкім урадам.

З 1921 па 1939 гг. у крэпасці і фартах размяшчаліся часці 9-й акругі польскай арміі. З першых дзён 2-й сусветнай вайны фашысцкая авіяцыя наносіла бомбавыя ўдары па крэпасці, 16 верасня 1939 г. фашысцкія войскі пачалі штурм польскага гарнізона Брэсцкай крэпасці і 17 верасня занялі яе. 22 верасня 1939 г. у Брэст-Літоўск увайшлі часці Чырвонай арміі.

Амаль месяц мужна абаранялі Брэсцкую крэпасць воіны гарнізона пасля нападу фашысцкай Германіі на СССР у 1941 г. За мужнасць і гераізм воінаў гарнізона 8 мая 1965 г. Брэсцкай крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой». На тэрыторыі крэпасці ў 1956 г. створаны музей Брэсцкай крэпасці-героя, у 1971 г. адкрыты мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой».

У 1970-я гады беларускія археолагі пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук П.Лысенкі правялі грунтоўныя археалагічныя даследаванні на месцы берасцейскага дзядзінца, у выніку якіх быў створаны і адкрыты ў 1982 г. унікальны аб'ект музейнага мастацтва — археалагічны музей «Бярэсце».

У 1980-я гады грамадскасць Брэста выступіла з ініцыятывай аднаўлення сярэдневяковага Бярэсця. Было выпрацавана некалькі праектаў рэканструкцыі і выкарыстання асобных будынкаў на тэрыторыі шпітальнага вострава.

У 2-й палове 1990-х гадоў па ініцыятыве старшыні Брэсцкага аблвыканкома, старшыні каардынацыйнага савета па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны У.А.Заламая праведзены будаўніча-рэстаўрацыйныя работы па стварэнні на тэрыторыі ўсёй Брэсцкай крэпасці зоны адпачынку для турыстаў, гасцей і жыхароў Брэста. У прыватнасці, ачышчана тэрыторыя крэпасці, каналаў і фартоў, размешчаных па-за межамі мемарыяла. На базе аднаго са шматлікіх і закінутых некалі фартоў (5-га) 8 мая 2000 г. быў адкрыты філіял-музей фартыфікацыі і зброі. Распачаты рэстаўрацыйныя работы па стварэнні мастацкага музея ў заходніх казармах Цытадэлі, заканчваецца аднаўленне гарнізоннай царквы, разгорнута рэканструкцыя самога мемарыяла.

На жаль, у пачатку 1990-х гадоў на тэрыторыі сярэдневяковага Бярэсця былі поўнасцю спынены археалагічныя даследаванні. Нерэалізаванымі засталіся праекты рэканструкцыі асобных будынкаў старога горада. Безумоўна, больш дастойнага ўшанавання патрабуе мужнасць польскіх воінаў, праяўленая імі пры абароне Цытадэлі ад фашысцкіх захопнікаў 16—17 верасня 1939 г.

Брэсцкая крэпасць як унікальная ваенная фартэцыя разам з тэрыторыяй старажытнага Бярэсця ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі і знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

---

[1] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 297.*

[2] *Брестская крепость. Страницы истории. Мн., 2000. С. 4.*

[3,4] *Фотакопіі малюнкаў з фондаў музея абароны Брэсцкай крэпасці.*

[5] *Брестская крепость... С. 17.*

[6] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Фартыфікацыйная лінія 1915 — 1939 гг.

Сістэма фартыфікацыйных умацаванняў з часоў 1-й сусветнай вайны. Размешчана ўздоўж р. Шчары па тэрыторыі Ляхавіцкага, Баранавіцкага, часткова Ганцавіцкага, Івацэвіцкага і Пінскага раёнаў. У цэлым сістэма фартыфікацыйных умацаванняў цягнулася па ўсёй лініі расійска-германскага фронту ад г. Рыга да румынскай граніцы. Частка яе, што захавалася на тэрыторыі назва-




*Лінія фронту. 1916 г.*[3]





3 Зак. 1023




*Мадэрнізаваная лінія ўмацаванняў. 1939 г.*[4]

ных раёнаў, складалася з дзвюх ліній абароны. Заходняя лінія будавалася нямецкімі ваеннымі фартыфікатарамі, усходняя — расійскімі спецыялістамі ў 1915—1916 гг.

Сістэма фартыфікацыйных умацаванняў толькі на тэрыторыі Ляхавіцкага раёна складаецца з чатырохсот доўгачасовых агнявых пунктаў (дотаў) розных канфігурацый, архітэктурных формаў, а таксама аб'ектаў рознага прызначэння (ад сховішчаў боепрыпасаў да гаспадарчых аб'ектаў).

Агнявыя пункты будаваліся ў асноўным з жалеза і бетону, размяшчаліся на адлегласці паміж лініямі па фронце на 300—400 м, а паміж сабой на адной лініі на адлегласці ў сярэднім 500 м адна ад адной.

Лінія абароны ўключала таксама штучныя перашкоды каля 40 м шырынёй (слупы, абкручаныя калючым дротам), траверсныя пазіцыі, сістэму блакгаузаў, кулямётных гнёздаў, пазіцыйных батарэй, акопаў і інш. На гэтай лініі фронту ў чэрвені — ліпені 1916 г. сустрэліся армія прынца Леапольда Баварскага і руская армія генерала Брусілава. Бой каля Баранавіч увайшоў у гісторыю 1-й сусветнай вайны як няўдалы для Расіі. Агульныя страты ваюючых армій толькі забітымі склалі 80 тысяч чалавек. Даліна рэк Шчары і Сэрвач была літаральна ўся ўкрыта целамі забітых і знявечаных воінаў[1].

У міжваенны перыяд польскія ўлады распачалі бу-



*Планы абарончых збудаванняў. 1939 г.*[5]



*Набярэжная (Ляхавіцкі раён). Сённяшні выгляд аднаго з фартыфікацыйных збудаванняў на р. Шчара*[6].

даўніцтва новых і рэканструкцыю існуючых абарончых пунктаў, у выніку чаго была створана велізарная іх колькасць, большасць з іх набылі іншае аблічча і прызначэнне[2]. Частковая мадэрнізацыя лініі была праведзена пад час 2-й сусветнай вайны.

У савецкі перыяд сістэма дотаў страціла сваё ваеннастратэгічнае значэнне, не выкарыстоўвалася, а некаторыя доты былі ўзарваны.

Лінія абарончых фартыфікацыйных умацаванняў мае навукова-пазнавальнае значэнне, патрабуе ўладкавання, уключэння ў склад турыстычных маршрутаў, а таксама ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Фогель В. Барановичи. 1916 г. Петербург, 1921. С. 27.*
[2] *Kot M. Odcinek «Baranowicze». Archeologia wojskowa. Warszawa. 1994. № 4. S. 36—41.*
[3] *Зайончковский А. Мировая война 1914 — 1918 гг. М., 1938. Т. 2. С. 60.*
[4] *Kot M. Odcinek «Baranowicze»... S. 39.*
[5] *Nesterczuk L. Ufortyfikowana Linia obronna «Baranowicze — Pińsk» z lat 1916—1939 na terenie ziemi Brzeskiej // Fortyfikacija. Warszawa, 2000. T. XI. S. 63, 64.*
[6] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Лінія ўмацаванняў 1939—1941 гг.

Размяшчаецца ўздоўж граніцы па Заходнім Бугу ад в. Паніквы і цягнецца на поўдзень праз вёскі Навасёлкі, Дубавое да в. Агароднікі (Камянецкі раён).

На сённяшні дзень захавалася 17 жалезабетонных збудаванняў.

Лінія ваенных умацаванняў пачала будавацца ў 1939 г. адразу пасля ўстанаўлення савецкай улады і ўзводзілася хуткімі тэмпамі. На яе будаўніцтва была прыцягнута вялікая колькасць мясцовага насельніцтва, якое выконвала земляныя работы,




*Фартыфікацыйная лінія 1939 — 1941. Схема*[1].







*Навасёлкі. Камянецкі раён. Адно з абарончых збудаванняў. Сённяшні выгляд*[2].

распілоўку лесу, займалася падвозам вады. Бетонныя работы ажыццяўлялі вайскоўцы Чырвонай арміі.

На пачатак 1941 г. узвядзенне лініі ўмацаванняў (дотаў) у асноўным было завершана. Пункты размяшчаліся адзін ад аднаго не на аднолькавай адлегласці, а каля аўтамабільнай і чыгуначнай магістралей, дарог, рэк, мелі розную канфігурацыю ў залежнасці ад месца знаходжання, зоны абароны і аховы.

З пачаткам ваенных дзеянняў фашысцкай Германіі супраць Савецкага Саюза лінія абароны страціла сваё ваенна-стратэгічнае прызначэнне.

У пасляваенны час усе доты былі закінуты, занядбаны, частка іх узарвана.

Лінія ўмацаванняў патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы, а таксама ўключэння ў склад турыстычных маршрутаў для школьнікаў і моладзі.

---

[1] *Схема падрыхтавана аўтарам. Камп'ютэрную апрацоўку схемы выканала архітэктар А.Лукша.*

*Фота аўтара. 2000 г.*





# Белавежская пушча
# Puszcza Białowieska
# Беловежская пуща

Белавежская пушча — адзін з найбуйнейшых і старажытных лясных запаведнікаў Еўропы (плошча каля 145 тыс. га). Размешчана на тэрыторыі Брэсцкай (Камянецкі і Пружанскі раёны), Гродзенскай (Свіслацкі раён) абласцей, а таксама на тэрыторыі Польшчы (каля 57 тыс. га).

Першыя звесткі аб мясцовасці і плямёнах (неўрах), што насялялі тэрыторыю пушчы, згадваюцца ў «Гісторыі» Герадота (V ст. да н.э.), у творах Плінія Старэйшага і Тацыта (I—II ст. н.э.). Паводле сведчання гісторыка П.М.Шпілеўскага, назву Белавежская пушча хутчэй за ўсё атрымала ад старажытнага мураванага замка з прыгожымі белымі вежамі, які ўзвёў яцвяжскі князь у цэнтры пушчы. Тут у 1409 г. напярэдадні Грунвальдскай бітвы сустракаліся вялікі князь ВКЛ Вітаўт і вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Уладзіслаў II Ягайла, якія палявалі на зуброў, займаліся арганізацыяй і нарыхтоўкай правіянту для сваіх ратнікаў[1]. Безумоўна, што гэта было самае старажытнае збудаванне ў Белавежскай пушчы.



*Белавежская сядзіба. XVIII ст.*[4]

Як старажытны некрануты лясны масіў Белавежская пушча ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе з 983 г.

У сярэдзіне XV ст. унук Ягайлы Аляксандр пабудаваў у пушчы для жонкі Алены (дачка рускага цара Івана III) драўляны палац, на які пасля 1454 г. напалі раз'юшаныя зубры і разбурылі яго.

Наступны нашчадак Ягайлы — Жыгімонт I Стары на ўзвышшы каля мястэчка Нараўка ўзвёў раскошны паляўнічы палац з флігелямі, якія таксама былі аздоблены белымі вежамі.

У 1581 г. пры Стафане Баторыі непадалёку ад Старога Белавежа, дзе стаяў палац Жыгімонта I, быў пабудаваны новы замак, і з той пары ўся навакольная мясцовасць стала называцца Замчышчам. Замак Баторыя па традыцыі таксама меў белыя вежкі. Пры Баторыі каля вытокаў р. Ялянка ўзнік першы каралеўскі паляўнічы звярынец.

Крыху пазней у 1610 г. па загадзе караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV была створана рэзідэнцыя галоўнага ляснічага для вышэйшага нагляду за пушчай. Рэзідэнцыя месцілася ў фальварку Ямна паміж селішчам Каралеўскі Мост і мястэчкам Камянец-Літоўск.

Наступны кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III значна перабудаваў і пашырыў паляўнічы звярынец Баторыя на р. Ялянка, пасля чаго ён атрымаў назву Аўгустаў сад. Там былі ўзведзены альтанкі для караля і яго акружэння. Наступным збудаваннем Аўгуста III стаў новы паляўнічы



*Белавежская пушча. Паляўнічы палац караля Аўгуста III. Эпізод палявання 31.8.1784 г. Малюнак В.І.Навозава*[5].

замак, а палац Жыгімонта I быў прыстасаваны пад рэзідэнцыю і жыллё галоўнага егера, які кіраваў усім паляваннем і арсеналам.

Замак Аўгуста III размяшчаўся на ўзвышаным беразе р. Нараўка, амаль у цэнтры пушчы за 7 вёрстаў ад паляўнічага палаца Жыгімонта I.

Паводле апісання гісторыка барона фон Брынкена[2], замак быў абкружаны прыгожым паркам і выходзіў адным фасадам на Нараўку, другім — на луг з магутнымі дубамі. Збоку каля замка размяшчаўся прасторны двор, вакол якога былі паляўнічыя збудаванні.

Галоўны будынак замка быў разлічаны на прыём шматлікіх гасцей. У сярэдзіне яго існавала велізарная зала з камінамі, а па баках размяшчаліся ўтульныя з высокамастацкай аздобай пакоі для адпачынку.

На ўспамін аб паляванні Аўгуста III 27 верасня 1752 г. непадалёку ад замка быў узведзены мураваны абеліск.

У 1812 г. аўстрыйскія і саксонскія войскі разрабавалі ўвесь замак, а ў час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1831 г. на месцы замка была насыпана і ўстаноўлена батарэя.

Наступны і апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў сярэдзіне 1784 г. узводзіць у Аўгуставым садзе драўляны трохпавярховы палац-павільён. На ніжнім паверсе ў ім размяшчаліся слугі, у сярэднім знаходзілася вялікая зала для караля, а верхні ўяўляў сабой адкрыты балкон, з якога прыдворныя назіралі за паляваннем караля.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай расійскія імператары будавалі ўласныя паляўнічыя рэзідэнцыі. У 1860 г. Аляксандр II пабудаваў сабе невялікі павільён і заклаў дубовую алею вакол чыгуннага зубра, устаноўленага каля павільёна звярынца. Павільён сваёй простай архітэктурай і аздобай нагадваў сядзібны палац незаможнага беларускага шляхціца таго перыяду.

Паводле ўказа расійскага імператара Аляксандра III,



3а Зак. 1023


*Белавежская пушча. Імператарскі палац. 1894 г. Галоўны фасад з паўднёва-ўсходняга боку*[6].

у 1889 г. цэнтральная частка пушчы з мяст. Белавежа (каля 100 дзесяцін) на самым узвышаным беразе р. Нараўкі, паміж вёскамі Сточак і Застава, была выдзелена пад будаўніцтва паляўнічай рэзідэнцыі. З гэтага часу пачалося ўзвядзенне грандыёзнага палаца ў стылі рамантычнага сярэдневяковага замка з вялікімі, высокімі вежамі і круглымі востраканечнымі дахамі[3]. Будаўніцтва гэтага манументальнага архітэктурнага аб'екта было завершана ў 1894 г. За кароткі тэрмін былі пабудаваны таксама рэпрэзентацыйныя дамы і павільёны для імператарскага акружэння, кухонныя пабудовы, стайні на 40 коней, галерэя з пральняй і тэлефоннай станцыяй, вялікае трохпавярховае памяшканне для гофмаршальскай службы, дом даглядчыка палаца, лядоўня, пякарня, электрастанцыя, егерскі дом і інш.


*Белавежская пушча. Імператарскі палац. 1894 г. Галоўная вежа*[7].

Разам з будаўніцтвам імператарскага палаца ў 1895 г. заклалі вялікі англійскі парк з парод дрэў канадскай флоры і высадзілі купы з яловых пасадак. Адначасова па праекце архітэктара Валерыяна Кроненберга ў паўднёвай частцы парку стварылі дзве сажалкі, запрудзіўшы р. Нараўка. Будынак палаца ўзводзіўся на прывазным партландскім цэменце, з мясцовай цэглы, меў два паверхі, а таксама скляпы і мансарды. Мэбліроўка палаца была выканана з 10 парод дрэў, якія растуць у пушчы (сасна, елка, дуб, бяроза, ільма, граб, клён, белы бук, вольха і асіна).

Дрэвам былі аздоблены плафоны, карнізы, рамкі, панэлі. Замест дарагой разьбы, якая не адпавядала б простым пародам дрэва, прымянялася выпальванне арнаменту, а пано запаўняліся жывапісам, алейнымі фарбамі, манільскімі і кітайскімі рагожамі, англійскім featureрознакаляровым паркалем.

Для акоўкі дзвярэй, акон, усталявання люстраў, кандэлябраў і іншых унутраных металічных рэчаў служыла паліраванае і чарнёнае жалеза ў спалучэнні з чырвонай меддзю.

Паміж пакоямі для світы было адно памяшканне, якое здзіўляла і ўражвала тым, што сцены і мэбля ў ім былі


*Белавежская пушча. Імператарскі палац. 1894 г. Паўночны фасад*[8].

абклеены старымі паштоўкамі з усяго свету. Карціны і размалёўка столі, пярэдняй, вестыбюля, сталовай, більярднай, кавярні, імператарскіх пакояў і памяшканняў для світы былі выкананы таленавітым мастаком Ясінскім.

Уся тэрыторыя палацава-паркавага ансамбля была абнесена агароджай, якая сваёй аздобай нагадвала агароджу Летняга саду ў Санкт-Пецярбургу. У 1895 г. была асвячона новая царква, пабудаваная побач для царскага двара.

Пагорак каля палаца аздаблялі шматлікія валуны арыгінальнай формы, абсаджаныя раслінамі-ўюнамі.

З 1919 г. тэрыторыя Белавежскай пушчы поўнасцю ўвайшла ў склад Польшчы. У 1933 г. нашчадкі роду Тышкевічаў побач з в. Жаркаўшчына (цяпер Свіслацкі раён, на мяжы Брэсцкай і Гродзенскай абласцей) пабуда-


*Белавежская пушча. Жаркаўшчына. Дом паляўнічага (колішні палац Тышкевічаў). 1933 г.*[9]






*Белавежская пушча. Жаркаўшчына. Мемарыяльны знак у гонар ваенных паходаў графа Тышкевіча*[10].

валі драўляны трохпавярховы палац. Франтальны фасад палаца вылучаны шырокай верандай, тыльны — зашклёным невялікім ганкам. Над верандай размешчаны балкон з балюстрадай. Дах чатырохсхільны, накрыты жалезам. Палац мае 8 пакояў. Выкарыстоваецца як Дом паляўнічага для адпачынку турыстаў і гасцей. Вакол палаца быў закладзены пейзажны парк. Побач з палацам Тышкевічаў устаноўлены мемарыяльны знак, на якім высечаны тэкст пра ваенныя паходы графа генерала Тышкевіча. Пасля Вялікай Айчыннай вайны пушча была падзелена паміж СССР і Польшчай. Імператарскі палац Белавежскай пушчы апынуўся на польскай тэрыторыі.

У пачатку 1950-х гадоў палац быў знішчаны, ад яго застаўся толькі архітэктурны ансамбль гаспадарчых пабудоў.

З гэтага часу наступіў новы этап у гісторыі пушчы, размешчанай на тэрыторыі СССР.

Па ініцыятыве 1-га сакратара ЦК КПСС М.С.Хрушчова пушча набыла статус элітарнай паляўнічай гаспадаркі для высокапастаўленых чыноўнікаў.

За 1957—1960 гг. у пушчы для гэтых мэт была ўзведзена ўрадавая рэзідэнцыя Віскулі з павільёнам для гасцей, гасцініцай, катэджамі, лазняй-саунай і лядоўняй. Пазней непадалёку былі выкапаны дзве штучныя сажалкі, усталяваны паляўнічыя вышкі.

Доўгі час рэзідэнцыя была закрытым месцам, цяпер яна адчынена для наведвання айчыннымі і замежнымі турыстамі і гасцямі. У 1957 г. Белавежская пушча абвешчана запаведна-паляўнічай гаспадаркай, у верасні 1991 г. ёй нададзены статус Нацыянальнага парку Беларусі.

У снежні 1991 г. у Віскулях адбылася сустрэча кіраўнікоў Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны, якія абвясцілі ўсяму свету аб спыненні існавання Савецкага Саюза і падпісалі пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

У сучасны перыяд Белавежская пушча мае 1460 відаў флоры і 8,3 тысячы відаў фауны.

На яе тэрыторыі існуюць 4 маляўнічыя возеры: Хмялеўскае з шэрагам крыніц, Перароўскае, Яцкоўскае і



*Белавежская пушча. Віскулі. Урадавая рэзідэнцыя*[11].











*Хмялеўскае возера*[12].

Мікалаеўскае. Праз пушчу працякаюць рэчкі Саламянка, Лясная і Белая.

У 1993 г. рашэннем ЮНЕСКА Белавежская пушча ўключана ў спіс унікальных біясферных запаведнікаў свету. 16-я сесія Камітэта аховы сусветнай спадчыны (1992) усю тэрыторыю Белавежскай пушчы абвясціла аб'ектам сусветнай і культурнай спадчыны.

[1] *Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. СПб., 1858. С. 26—27.*

[2] *Карцов Г. Беловежская пуща. Ея исторический очерк, современное охотничье хозяйство и Высочайшая охота в Пуще. СПб., 1903. С. 29.*

[3] *Семаков В.В., Черкас Н.Д. Беловежская пушча. Барановичи, 1998. С. 11.*

[4] *T ygodnik Ilustrowany. T. 8. № 200. Warszawa, 1863. S. 292.*

[5] *Карцов Г. Беловежская пуща... С. 33.*

[6,7,8] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотадакументаў. (0139449).*

[9, 10, 11,12] *Фота аўтара. 1999 г.*



# Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Брэсцкага раёна






Існуючыя палацы, паркі, сядзібы
Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы

# Брэст
# Brześć
# Брест

Першыя палацы-асабнякі пабудаваны ў 1830—1840-я гады на новым месцы ў сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці і перасяленнем насельніцтва старажытнага Бярэсця за два кіламетры на ўсход.



Брэст-Літоўск у 1869 г. На пярэднім плане Сімяонаўская царква, на другім — гарадскія асабнякі. З малюнка Напалеона Орды[1].

Належалі багатым сем'ям. Спачатку планаваліся як памешчыцкія сядзібы, мелі невялікія паркі і сады. Будынкам уласцівы лаканізм у вырашэнні планаў і фасадаў, выкарыстанне элементаў класіцызму, барока, эклектыкі, «мадэрн» і драўлянага дойлідства.

---

*[1] Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4324).*

## Двухпавярховыя палацы па вуліцы Міцкевіча, № 22 і 26

Пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. Належалі заможнаму роду Ягмінаў. Магчыма, палацы пабудаваў адзін з найбольш прагрэсіўных і адукаваных прадстаўнікоў гэтага роду Павел Ягмін (1794—1865), які таксама ўзвёў на той час арыгінальную рэзідэнцыю ў в. Вістычы (пад Брэстам) паводле праекта знакамітага архітэктара Францішка Яшчалда (аўтара Косаўскага палаца)[1].



Брэст. Галоўны і бакавы фасады палаца па вуліцы Міцкевіча, 26[3].

Для палацаў характэрна аднатыповая кампазіцыя з элементамі класіцызму. Цэнтральныя аб'ёмы маюць два паверхі з двухсхільным дахам, бакавыя аб'ёмы аднапавярховыя з вальмавым дахам.

Сярэдняя частка галоўнага фасада прадстаўлена чатырохкалонным порцікам, які завершаны драўляным трохвугольным франтонам. Другі паверх вылучаецца порцікам-балконам з драўлянай балюстрадай. Паркавы (дваровы) фасад з чатырма паўкалонамі адлюстроўвае кампазіцыю порціка галоўнага фасада[2]. У 1999—2000 гг. праведзена рэстаўрацыя будынкаў.

---

*[1] Aftanazy R. Dzieje... С. 150, 256.*
*[2] Свод памятников... С. 76.*
*[3] Фота аўтара. 1999 г.*

## Асабняк па вуліцы Маркса, 20

Будынак значна вылучаецца з гістарычнай забудовы горада. Кампазіцыйным акцэнтам дома з'яўляецца чатырохкалонны дарычны порцік з трохвугольным франтонам. На бакавых фасадах размяшчаюцца псеўдапорцікі з пілястрамі, якія завершаны дарычнымі капітэлямі.



Брэст. Асабняк па вуліцы Маркса, 20[2].

Галоўны фасад асабняка фланкіраваны двума паўкруглымі эркерамі, паміж імі знаходзяцца трохчацвяртныя калоны дарычнага ордэра. Палац завершаны карнізам з паяском сухарыкаў[1]. Цяпер у ім размешчана дзіцячая ўстанова.

---

*[1] Свод памятников... С. 64—65.*
*[2] Фота аўтара. 1999 г.*

## Асабняк па вуліцы Леніна, 39

Пабудаваны ў 1-й палове XX ст. (1925 — 1927) паводле праекта архітэктара Ю.Лісецкага. Будынак двухпавярховы з агульным высокім мансардавым дахам, бакавыя аб'ёмы з вальмавым дахам.

Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Дваровы фасад аздоблены двума трохграннымі эркерамі з балконамі. Планіроўка функцыянальна раздзелена на







*Брэст. Асабняк па вуліцы Леніна, 39[2].*

жылую і гаспадарчую часткі. Архітэктурна-мастацкую выразнасць узмацняюць люкарны, прафіляваныя карнізы, вуглавыя контрфорсы, авальныя вокны мезанінаў[1]. Будынак аднаўлены ў 1980-я гады. Цяпер у ім размяшчаецца філіял-музей «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці».

[1] *Брест. Энциклопедический справочник. Мн., 1987. С. 290.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

## Асабняк па вуліцы Леванеўскага, 3

Будынак уваходзіць у архітэктурны ансамбль забудовы вуліцы 1920—1930-х гадоў. Цяпер у ім размяшчаецца Музей гісторыі горада.



*Брэст. Асабняк па вуліцы Леванеўскага, 3[2].*

Бакавыя фасады і фігурны атык мезаніна, які выходзіць на галоўны фасад, дэкарыраваны лапаткамі, люкарнамі, сандрыкамі. Уваходы ў будынак размешчаны ў нішах галоўнага фасада. Нішы створаны дзвюма аркамі з вуглавой апорай, маюць крыжападобныя скляпенні. У 1998 г. абласное рэстаўрацыйнае ўпраўленне (дырэктар М.Астапчук) правяло рэстаўрацыю будынка паводле праекта, выкананага дзяржаўным малым прадпрыемствам «Брэстрэстаўрацыяпраект».

У архітэктурным і гістарычным плане найбольш каштоўныя таксама асабнякі па вул. Леванеўскага, 7, 9 і 11[1].

[1] *Збор помнікаў... С. 57—58.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

## Сад і гарадскі парк

Пасля пераносу горада Брэст-Літоўска на новае месца, на тэрыторыі Кобрынскага прадмесця (паўднёва-ўсходняя частка, дзе цяпер размяшчаецца гарадская цеплацэнтраль) у сярэдзіне XIX ст. быў разбіты гарадскі сад з выхадам на бераг р. Мухавец. Пры ўваходзе ў сад быў узведзены летні тэатр унікальнай драўлянай канструкцыі. У прыватнасці, яго сцэна лёгка трансфармавалася ў эстраду, арэну цырка альбо ў тэатральныя падмосткі[1]. Паступова гарадскі сад пачаў забудоўвацца прадпрыемствамі і жылымі дамамі. Цяпер пра некалі раскошны гарадскі сад нагадваюць



*Брэст. Летні тэатр гарадскога саду. 1918 г.[4]*

невялікія рэшткі дрэвастою (на рагу вуліцы Леніна і праспекта Машэрава), дзе цяпер знаходзіцца водазаборны калектар і помнік «Вартавым граніц».

Паводле пісьмовых крыніц вядома, што ў г. Брэсце ў пачатку XX ст. пачаў фарміравацца новы парк на плошчы 4 га пад назвай Лібаўскі парк. Такую назву ён атры-



*Брэст. Цэнтральная алея гарадскога парку ўзімку[5].*

маў, верагодна, таму, што на яго тэрыторыі пэўны час размяшчаўся Лібаўскі пяхотны полк[2].

З 1940 г. ён пачаў функцыянаваць як парк культуры і адпачынку імя 1 Мая. У цяперашні час тэрыторыя парку складае 38 га. У ім расце каля 100 парод дрэў і кустоў.



*Брэст. Фрагмент гарадскога парку. Асенні пейзаж[6].*







У аснову кампазіцыі парку пакладзены прынцып восевай сіметрыі. Ад галоўнага ўвахода ў глыбіню вядуць тры прагулачныя алеі. Цэнтр парку завершаны штучным вадаёмам з астраўком (выспай).

Парк мае перспектыву пашырацца ў напрамку Брэсцкай крэпасці і разам з ёю стварыць унікальны гісторыка-архітэктурны паркавы ансамбль з цікавымі аб'ектамі фартыфікацыйнага мастацтва, сістэмай штучных каналаў, шэрагам іншых гісторыка-культурных каштоўнасцей.

Паводле пісьмовых крыніц вядома, што ў сярэдневяковым Бярэсці існаваў Каралеўскі сад[3].

[1] *Брест. Путешествие сквозь века. Мн., 1999. С. 18.*
[2] *Брест. Энциклопедический справочник. Мн., 1987. С. 295.*
[3] *Паевский Л. Город Брест-Литовск и его древние храмы. Гродно, 1894. С. 9.*
[4] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотадакументаў (0-30075).*
[5] *Фота аўтара. 1999 г.*

## Астрамечава
## Ostromieczewo
## Остромечево

Старадаўняя сядзіба. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з XV ст. як радавое гняздо Астрамечаўскіх, а пазней Іллінічаў[1]. Вядома, што ў 1-й палове XIX ст. у Астрамечаве існавалі два маёнткі[2]. Уладальнікам іх быў Юліян Сузін з небагатага шляхецкага роду. У 1840 г. яго дачка Разалія выйшла замуж за вайсковага палкоўніка Юзафа Ігнацы Пузыну (1800—1874), і з той пары Астрамечаўская сядзіба па спадчыне перайшла да роду Пузынаў. Пасля Юзафа Ігнацы ўладальнікам Астрамечава па спадчыне стаў яго старэйшы сын Аляксандр (1844—1914)[3].

Вядома таксама, што да 1-й сусветнай вайны ў Астрамечаве існаваў невялікі драўляны аднапавярховы дом, пабудаваны, магчыма, у 2-й палове XVIII ст., калі ўладальнікам гэтай зямлі быў род Сузінаў. Будынак сямівосевы, у плане прамавугольны. Сцены складзены з моцных бярвёнаў на даволі высокім падмурку. З боку параднага ўвахода дом меў ганак на дзвюх парах калон, на якія абапіраўся трохвугольны франтон, аздоблены мастацкім арнаментам. Сцены звонку былі неатынкаваныя. Аконныя рамы і аканіцы афарбаваны ў белы колер.



*Астрамечава. Сядзібны дом. Галоўны фасад. Каля 1914 г.*[5]

Дом быў накрыты гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам і абкружаны вялікім пейзажным паркам, дрэвы якога мелі стары ўзрост[4].

Пасля 1-й сусветнай вайны двор быў распрададзены, а сядзібны дом і парк паступова разбурыліся.

У Астрамечаве з 1905 г. працуе народная бібліятэка, заснаваная на сродкі расійскага прагрэсіўнага кнігавыдаўца Ф.Ф.Паўленкава.



*Астрамечава. Помнік каля царквы. XVIII ст.*[6]

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 85.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 95.*
[3] *Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (ДАБВ). Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 39. Арк. 1.*
[4] *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 73.*
[5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 101.*
[6] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Буякі
## Bujaki
## Буяки

Старадаўні маёнтак роду Юзафовічаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Шуйскіх і іншых гаспадароў. Паводле пісьмовых крыніц, у XVI—XVII ст. фальварак меў назву Беякі. Размяшчалася сядзіба побач з в. Буякі, за 2 км на поўнач ад в. Хабы. Разам з маёнткамі Навасады, Булькова, Шэбрын, Пугачова і інш. фальварак Буякі ўваходзіў у Берасцейскае войтаўства.

Паводле даследавання А.Ваўжынчык, фальварак Буякі вядомы з 1510 г. Ён разам з Вістычамі і Курніцай належаў роду Абрамовічаў — Юзафовічаў. Вядома таксама, што ў 1512 г. маёнтак Буякі разам з Курніцай, Скорбічамі, Збірагамі, Канюхамі, Блоткамі выкупіў Ян Сапега.

У 2-й палове XVI ст. гаспадаром маёнтка стаў Юрый Тышкевіч, жанаты з Ганнай Львоўнай Катовіч. Акрамя Буякаў Юрый Тышкевіч набыў маёнткі Вістычы і Курніцу, што пацвярджаецца лістом Юрыя Васілевіча, ваяводы берасцейскага, які быў напісаны ім у 1567 г.[1]

На працягу XVII — XIX ст. змянілася мноства гаспадароў маёнтка. Апошнім уладальнікам да 1939 г. тут быў Стафан Райскі[2].

У 2-й палове XIX ст. у фальварку быў пабудаваны невялікі драўляны сядзібны дом. Будынак меў у плане












*Буякі. Схема сядзібы*[3]

форму прамавугольніка, пастаўлены на нізкім падмурку, па цэнтры вылучаны невялікім ганкам на драўляных слупах. Дом накрываў чатырохсхільны гонтавы дах. Акрамя сядзібнага дома тут існавалі свірны, стайня, ля-доўня, пуня.

Разам з будаўніцтвам сядзібнага дома быў закладзены невялікі пейзажны парк плошчай каля 3 га, у асноўным з дрэў мясцовых парод. Уздоўж паўднёвага берага канала была высаджана ліпавая алея (захаваліся толькі адзінкавыя дрэвы). Ад сядзібы цераз канал быў перакінуты масток. На другім беразе канала быў насыпаны штучны капец вышынёй каля 5 м, на якім стаяла летняя альтанка. У паўночна-ўсходняй частцы парку захаваліся адзінкавыя дрэвы дуба. Насупраць галоўнага ўвахода ў дом размяшчаўся сонечны гадзіннік.

На захад ад сядзібы за дарогай на в. Вочкі меўся сад і дзве сажалкі для гадоўлі рыбы.

Пасля 2-й сусветнай вайны парк быў знішчаны разам з домам і ўсімі гаспадарчымі пабудовамі. Захаваліся толькі сажалка і адзінкавыя дрэвы колішняга парку.

У в. Хабы, якая размешчана непадалёку ад былой сядзібы, нарадзіўся вядомы вучоны ў галіне садова-паркавага мастацтва Беларусі доктар біялагічных навук, прафесар Анатоль Тарасавіч Федарук.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 97, 131, 157*
[2] *Słownik geograficzny. Warszawa, 1900. T. 15. S. 268.*
[3] *Схема падрыхтавана архітэктарам Ю.Гулем.*

# Вельямовічы
# Wielamowicze
# Вельямовичи

Колішняя сядзіба. Вядома з XVI ст. Паводле «Кнігі запісаў» сяло Вельямовічы ў 1558 г. размяшчалася каля возера і мела мяжу з выганамі маёнтка Бярніцкага і сёламі Таратунавічы, Памаранцы, Семянічкі[1]. У 1772 г. вёска мела назву Віłановічы.

З 1862 г. маёнтак Вельямовічы належаў роду Юльяна Канапінскага, пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. канфіскаваны і распрададзены. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны тут былі два фальваркі. Адна сядзіба належала роду Саковічаў, другая — Дабрынецкім. Пасля вайны Саковіч адну частку фальварка прадаў Ялавіцкаму, другую — Дабрынецкім[2].

Пасля 2-й сусветнай вайны невялікі Вельямовіцкі палац быў поўнасцю знішчаны. Засталіся рэшткі пейзажнага парку плошчай 3 га. Парк у плане мае форму прамавугольніка. Пейзажная частка парку размешчана



*Вельямовічы. Фрагмент парку*[4].

перад парадным партэрам, абмежавана па заходнім краі дзвюма сажалкамі. У асноўным растуць ліпа, ясень, граб, клён, конскі каштан і інш. За паркавым партэрам размяшчаўся невялікі сад з прагулачнымі маршрутамі па грабавай алеі, уздоўж ліпавай пасадкі і глыбокага яра з ручаём[3].

Парк захаваўся амаль у ранейшых межах, але здзічэў, зарос хмызняком, сажалкі забруджаны.




*Вельямовічы. Схема сядзібы*[5].

Парк з сажалкамі пры добрых гаспадарскіх адносінах можа быць адноўлены. Патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 113.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 16. Арк. 1—2.*
[3] *Федорук А.Т. Старинные парки Белоруссии... С. 60.*
[4] *Фота аўтара. 1999 г.*
[5] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Брэсцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*




# Вістычы
# Wistycze
# Вистычи

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль. Сядзіба размяшчалася каля р. Лясная. У XV ст. Вістычамі валодалі нашчадкі роду Насутаў. У 1510 г. вёска належала Іллінічам, потым Масальскім, пазней Яну Юзафовічу, затым яго другой жонцы Ганне Катовіч. Пасля смерці мужа Ганна выйшла замуж за Юрыя Васільевіча Тышкевіча, ваяводу брэсцкага (1566)[1].

У 1678 г. Тышкевічы перанеслі кляштар ордэна цыстэрцыянцаў з Бучэмлі ў Вістычы і пабудавалі тут касцёл, які пасля паўстання 1863 г. быў перабудаваны пад Крыжаўзвіжанскую праваслаўную царкву (захавалася). Пасля Тышкевічаў маёнтак у якасці пасагу перайшоў да Статкевічаў, затым Ягмінаў. Вядома, што заможны гаспадар Павел Ягмін (1747—1808) выкупіў у генерала Румянцава акрамя Вістыч яшчэ і Пружаны.

Ён займаў шэраг высокіх пасад, быў брэст-літоўскім вайсковым камісарам, кобрынскім маршалкам, віцэ-адміністратарам каралеўскіх сядзіб Брэсцкай эканоміі, ак-



*Вістычы. Галоўны фасад палаца[6].*

тыўна ўдзельнічаў у паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, атрымаў з рук караля ордэн Святога Станіслава, быў выкліканы ў Санкт-Пецярбург, перайшоў на царскую службу, за што яму было дазволена выкупіць Лінаўскі і Чахецкі ключы, мяст. Дзівін[2].

Будучы бяздзетным Павел Ягмін запісаў Вістычы на сына роднага брата Каятана Паўла (1794—1865). За добрую службу на пасадзе брэсцкага маршалка імператар Аляксандр II уручыў Паўлу ордэн Святой Ганны. Жонка Канстанцыя Шастакова нарадзіла яму 18 дзяцей. Пасля смерці Паўла маёнтак перайшоў па спадчыне аднаму з



*Вістычы. Паркавы фасад палаца. 1928 г.[7]*



*Вістычы. План палаца. 1928 г.[8]*

яго сыноў Станіславу, які прадаў зруйнаваны ў 1-ю сусветную вайну палацава-паркавы ансамбль Фяліцыі Тышкевіч.

У першай палове XIX ст. Павел Ягмін пабудаваў у Вістычах прыгожы палац, які з'яўляўся ўзорам архітэктуры ў стылі класіцызму ампірнага напрамку. Аўтарам праекта палаца і парку быў Францішак Яшчалд[3].

Палац уяўляў сабой кампактнае прамавугольнае ў плане аднапавярховае збудаванне, узнятае на высокі падмурак, накрытае вальмавым дахам.

У цэнтры галоўнага фасада меўся мансардавы паверх і прыстаўлены чатырохкалонны порцік са ступеньчатым атыкам і балконам. Фасады вылучаліся строгай сімет-



*Вістычы. Вежа. XVIII ст.[9]*










Вістычы. Фамільная капліца-пахавальня Ягмінаў. 1928 г.[10]

рыяй, выразным рытмам прамавугольных акон[4].

Палац меў багаты інтэр'ер (вялікі салон, дзве залы, дэкарыраваныя столі, кафельныя грубкі, якія былі размаляваны геаметрычнымі фігурамі і кветкамі).

У глыбіні парку існаваў павільён для гасцей, які называўся «Мураванка». Ён меў гладкія фасады з квадратнымі вокнамі, быў накрыты гонтавым дахам. Акрамя таго, на мясцовых могілках існавала фамільная капліца-пахавальня роду Ягмінаў.



Вістычы. Паркавы павільён «Мураванка». 1928 г.[11]

У 1920-я гады палац быў поўнасцю разбураны пад час ваенных дзеянняў, пасля чаго не аднаўляўся[5].

Захаваліся рэшткі пейзажнага парку, каналы, вежа ад уязной брамы, якая аднаўлена ў 2000 г. Парк мае плошчу 3 га, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 33, 40, 43, 96.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 150.*
[3] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... S. 117.*




*Вістычы. Схема сядзібы.*

[4] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 189.*
[5] *ДАБВ. Ф. 2177. Спр. 15. Арк. 1.*
[6] *Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей... С. 89*
[7,8] *Aftanazy R. Dzieje... S. 151.*
[9] *Фота аўтара. 1999 г.*
[10, 11] *Aftanazy R. Dzieje... S. 153.*
[12] *Фота аўтара. 1999 г.*



*Вістычы. Фрагмент парку[12].*

# Кустынь
# Kustyń
# Кустынь

Колішні двор. Сядзіба вядома з дакументаў XVI ст. паводле рэвізіі Брэсцкай эканоміі ў 1566 г.[1] Маёнтак на той час належаў роду Крупіцкіх. У 1528 г. Скірвін Крупіцкі пабудаваў у мяст. Велянова касцёл. З таго ж дакумента вядома, што наступны ўладальнік м. Кустынь Ян



*Кустынь. Фрагмент парку[4].*

Станіслававіч Крупіцкі ў 1567 г. даў для берасцейскай харугвы 7 ратнікаў. У пачатку XVII ст. вёску набыў Геранім Лышчынскі — бацька Казіміра Лышчынскага, беларускага асветніка і філосафа-атэіста. Праз 100 гадоў у Кустынскім маёнтку гаспадарыў памешчык Хржаноўскі — фундатар і арганізатар будаўніцтва тут драўлянай





праваслаўнай царквы (1739). У XIX — 1-й палове XX ст. гаспадарамі сядзібна-паркавага ансамбля былі Міхаіл Ігнатовіч і Зянон Ізбіцкі, а апошнімі ўладальнікамі Кустыні былі Бабінскія і Ігнацейкі[2].

Да 2-й сусветнай вайны ў Кустыні існавалі палац і парк. Ансамбль меў эклектычныя рысы, характэрныя для шэрагу сядзіб таго часу[3].




*Кустынь.Схема сядзібы.*

У сучасны момант на месцы палацава-паркавага ансамбля размешчана жывёлагадоўчая ферма. Парк захаваўся ў выглядзе асобнага фрагмента, які пасля добраўпарадкавання мае перспектыву аднаўлення і выкарыстання.

---

1 *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 83.*
2 *Zdański K. Przyczynki... S. 82.*
3 *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 231.*
4 *Фота аўтара. 2000 г.*

# Лышчыцы
# Łyszczyce
# Лыщицы

Мемарыяльная сядзіба. Была размешчана за 1 км на паўночны захад ад чыгуначнай станцыі Лышчыцы. У склад Лышчыцкага маёнтка ўваходзілі фальваркі Люцыянава, Каралін і асада Лышчыцы[1].

Вёска Лышчыцы і маёнтак вядомы паводле пісьмовых крыніц з канца XV ст. Належалі вядомаму на Берасцейшчыне роду Лышчынскіх, які паходзіў з Вілейкі[2]. У пачатку XVI ст. вёску, паводле каралеўскага прывілея, атрымаў Леў Лышчынскі. Ён меў трох сыноў: Канстанціна, Станіслава і Івана. Геранім, сын Канстанціна, стаў бацькам Казіміра Лышчынскага, беларускага асветніка і мысліцеля, філосафа-атэіста.

Казімір Лышчынскі нарадзіўся ў 1634 г. у Лышчыцкім маёнтку. Вучыўся ў Берасцейскім езуіцкім калегіуме, Кракаўскім універсітэце. Працаваў выкладчыкам у калегіуме Бярэсця. У сакавіку 1682 г. на Берасцейскім сейміку абраны падсудкам земскага суда. За атэістычныя погляды і патрабаванні да ўлады аб скасаванні прыгонніцтва і па даносе браслаўскага стольніка, які ўкраў 15 сшыткаў атэістычнага трактата «Аб неіснаванні




*Лышчыцы. Схема сядзібы.*

Бога», у 1687 г. К.Лышчынскі быў арыштаваны і спалены на кастры ў Варшаве.

Паводле даследавання А.Ваўжынчык, часткай лышчыцкіх зямель валодалі ў XVI ст. Хадкевічы. У прыватнасці, Аляксандр Хадкевіч у 1527 г. атрымаў каралеўскае пацвярджэнне на трэцюю частку «дзедаўшчыны» і «касцюшкаўшчыны» ў Лышчыцах і Кустыні. Гэтыя надзелы завяшчаў яму пасля сваёй смерці Міхна Драбышэвіч Лышчынскі. Вядома таксама, што ў 1528 г.



*Лышчыцы. Фрагмент парку[4].*

Міхна Лышчынскі накіраваў да берасцейскай харугвы войска ВКЛ двух ратнікаў, а яго сваяк Пронка Лышчынскі — аднаго ваяра[2]. У XVIII ст. маёнтак перайшоў да роду Віслоцкіх. Да паўстання 1863 г. гаспадаром Лышчыц з'яўляўся Люцыян Віслоцкі. Пасля 1-й сусветнай вайны фальваркі Лышчыцкага маёнтка Люцыянава і Каралін былі падзелены і перададзены праз Віслоцкіх польскім асаднікам[3]. У 1868 г. у Лышчыцах ужо існавалі ветраны млын і карчма, а ў 1917 г. Клімент Віслоцкі ўзвёў драўляную царкву са званіцай.

У 2-й палове XIX ст. Віслоцкія пабудавалі сядзібны дом і заклалі пейзажны парк. Дом драўляны, аднапавярховы з традыцыйным невялікім ганкам на драўляных слупах. У час 2-й сусветнай вайны дом быў знішчаны.

Паводле падання старажылаў і мясцовых краязнаўцаў, адразу пасля 2-й сусветнай вайны жыхары Лышчыц сабралі каменне ад падмуркаў старадаўняй сядзібы Лышчынскіх, насыпалі капец і пасадзілі на ім каштаны, якія захаваліся ў парку да сённяшняга часу.





4 Зак. 1023







Захаваліся рэшткі парку з дрэвамі мясцовых парод і сажалкай. Месца размяшчэння мемарыяльнай сядзібы патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 32. Арк. 6.*
[2] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 83.*
[3] *Zdański K. Przycznki... S. 89.*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Малыя Зводы
# Zwody Małe
# Малые Зводы

Сядзібна-паркавы ансамбль. Вядомы паводле пісьмовых крыніц з 1740 г., належаў на той час роду Сасноўскіх, а ў 1862 г. перайшоў ва ўласнасць Браніслава Гутоўскага[1]. Да 1939 г. сядзіба належала Гутоўскім[2].

У 1875 г. тут быў пабудаваны цагляны палац, а ў 1890 г. па праекце архітэктара Валерыяна Кроненберга закладзены пейзажны парк плошчай каля 7 га. У ансамбль уваходзілі таксама сажалкі, карэтная, свіран, іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Палац меў арыгінальную архітэктуру, быў збудаваны ў нерэгулярным плане. Будынак двухпавярховы, у плане Г-падобны, фланкіраваны living розна велікімі рызалітамі, завершанымі дахам з выступам-скатам на фігурных кранштэйнах, вылучаны па цэнтры балконамі. Аконныя праёмы дэкарыраваны сандрыкамі.

Цэнтральны ўваход быў вылучаны балконам на чатырох пілонах, дадатковыя ўваходы выкананы ў паўднёва-ўсходнім рызаліце і дваровым 5-гранным эркеры з вінтавой лесвіцай.



*Малыя Зводы. Паркавы фасад палаца. 1875 г.*[5]

Планіроўка палаца анфіладная. Цэнтральнае месца належыць вестыбюлю з трохмаршавай лесвіцай, гасцінай і залай. У бакавым крыле размяшчалася кухня і сталовая.

Другі паверх палаца меў калідорную планіроўку з жылымі пакоямі.

Гаспадарчыя цагляныя пабудовы вырашаны ў простых формах. Аднапавярховая карэтная мела прамавугольны ў плане аб'ём пад двухсхільным дахам з рытмічным чаргаваннем аконных праёмаў.

Двухпавярховы свіран меў на галоўным фасадзе галерэю і рытм праёмаў з лапаткамі ў прасценках[3].

У 1980-я гады палац быў разбураны.

Парк грунтоўна абследаваў і апісаў А.Т.Федарук[4]. У парку добра праглядаюцца асноўныя элементы кампазіцыі. Найбольш цікавая маляўнічая паляна, абсаджаная экзатычнымі народамі. З паляны адкрываецца



*Малыя Зводы. План першага паверха палаца*[6].

перспектыва на вялікую сажалку з востравам. У якасці куліс выкарыстоўваюцца веймутавы сосны з елкамі. Захавалася цэнтральная ўязная алея, якая праходзіць паміж сажалкамі. За сядзібным домам размешчаны пейзажныя кампазіцыі. Аснову іх складае вялікі (да 50 м у дыяметры) круг з ліпавай абсадкай, які падкрэсліваўся кветкамі ў цэнтры.



*Малыя Зводы. Бакавы фасад палаца. 1950 г.*[7]

Да пейзажнай часткі далучаны сад з прагулачным маршрутам па перыметры ў выглядзе каштанавай алеі шырынёй 4 м. Затым дарога выходзіць на ліпавую алею



*Малыя Зводы. Фрагмент парку*[8].







паміж садам і паркам. Уздоўж каштанавай алеі на адлегласці 7 м цягнецца роў.

Агульная даўжыня алей больш за 600 м. Частка парку на захад ад цэнтральнай алеі значна зменена ў сувязі з будаўніцтвам школы-інтэрната.

Нягледзячы на даўнасць часу, добра захаваўся дрэвастой з клёну, ліпы, белай акацыі, рэдкіх экзотаў, якія растуць купамі альбо ў выглядзе салітэраў (сасна чорная аўстрыйская, ліпа крымская, бук). Найбольш каштоўнымі з'яўляюцца два букі вышынёй да 22 м, якія мяняюць афарбоўку ад зялёнай вясной, да цёмна-чырвонай летам і да залацiста-бронзавай восенню.

На тэрыторыі парку размешчана школа-інтэрнат.

Парк мае перспектыву аднаўлення. Сядзіба ўзята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Zdański K. Przyczynki... S. 125.
[2] ДАВБ. Ф. 2177. Спр. 13. Арк. 1—3.
[3] Збор помнікаў... С. 103—104.
[4] Федорук А.Т. Дворцово-парковое искусство... С. 223—224.
[5,6] Збор помнікаў... С.103.
[7] Архіў аўтара.
[8] Фота аўтара. 1999 г.

# Малыя Шчытнікі
# Szczytniki Małe
# Малые Щитники

Сядзібна-паркавы комплекс. Сядзіба паводле пісьмовых крыніц была вядома ўжо ў XVI ст.[1] З 1512 г. да пачатку XVII ст. Шчытнікамі валодаў род Гарнастаяў, адзін з прадстаўнікоў якога Івашка Гарнастаевіч зрабіў даволі высокую кар'еру і выкупіў у Берасцейскім павеце шэраг фальваркаў. Пазней Шчытнікі былі ва ўласнасці Сапегаў. У 1708 г. Тэрэза Гасеўская выйшла замуж за гетмана ВКЛ Казіміра Сапегу і запісала маёнтак Шчытнікі на мужа. Пасля яе смерці ў 1710 г. Шчытнікі набыў фельдмаршал Флемінг і яго жонка Францішка Ізабела, таксама з роду Сапегаў. Наступнымі ўладальнікамі двара сталі Чартарыйскія, а ад іх сядзібу набыў разам з Воўчынам род Панятоўскіх.

Адзін з нашчадкаў Панятоўскіх Станіслаў, падскарбій ВКЛ, у 2-й палове XVIII ст. пабудаваў у Шчытніках



Малыя Шчытнікі. Галоўны фасад старога сядзібнага дома. 1895 г.[3]



Малыя Шчытнікі.
Перабудаваны будынак новага палаца[4].

уніяцкую царкву, якая неўзабаве была пашкоджана, а ў пачатку XIX ст. адноўлена новай уладальніцай фальварка Францішкай Талочка з даўняга роду Панiквiцкіх, дачкой Марціна Талочкі. Ад Панiквiцкiх сядзіба перайшла ва ўласнасць роду Тукалаў, у прыватнасці Соф'і Тукалы[2].

Прыкладна ў 1820 г. пры Панiквiцкiх быў пабудаваны даволі вялікі драўляны палац на мураваным падмурку. Будынак у плане прамавугольны, аднапавярховы, накрыты высокім і гладкім чатырохсхільным дахам. У сярэдняй частцы палац меў балкон і порцік, завершаны шчытком на чатырох чатырохгранных калонах.

Дах будынка завершаны двума сіметрычна размешчанымі комінамі. Вокны мелі розную велічыню і былі афарбаваны ў белы колер. Сцены звонку ашаляваны дошкамі.

У 1895 г. дом быў знішчаны пажарам, а ў пачатку XX ст. ён адноўлены. На сённяшні дзень ад ансамбля



Малыя Шчытнікі. Фрагмент парку[5].

засталіся рэшткі парку, сажалка, часткова дом, мураваная вазоўня і капліца. Парк мае плошчу 3,5 га.

Былая сядзіба перабудавана пасля 2-й сусветнай вайны пад жыллё. Царква была зачынена, занядбана, у 1980-я гады адноўлена і перададзена праваслаўным вернікам.

Парк мае перспектыву аднаўлення, яго рэшткі з'яўляюцца дэндралагічнай каштоўнасцю. Патрабуе ўзяцца на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 82.
[2] Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 109.
[3] Aftanazy R. Dzieje... S. 144
[4,5] Фота аўтара. 1999 г.









# Ракавіца
# Rakowica
# Раковица

Колішняя сядзіба. Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1524 г.[1] Размешчана на поўдзень ад в. Малыя Шчытнікі. У актах рэвізій Ракавіца пазначана як каралеўская ўласнасць, але пазней у «Акце рэвізіі Берасцейскага староства» ўжо ўпамінаецца як сядзіба Раманаўскіх-Сакаловых.



*Ракавіца. Галоўны фасад сядзібнага дома. 1926 г.*[2]

Пасля Раманаўскіх сядзібу набыў род князёў Шуйскіх. Верагодна, пры Шуйскіх у Церабуні, што непадалёку ад Ракавіцы, была пабудавана уніяцкая царква, у падзямеллях якой навечна спачылі продкі Шуйскіх.

У 1740 г. адна з дачок князя Шуйскага выйшла замуж за стольніка ВКЛ Пятра Талочку, і з той пары да 2-й сусветнай вайны сядзіба належала па спадчыне заможнаму роду Талочкаў.

Ад ансамбля засталіся рэшткі парку, уязная алея і капліца-пахавальня роду Талочкаў. Пасля вайны капліца была занядбана, у пачатку 1990-х гадоў адноўлена і асвячона.



*Ракавіца. Схема сядзібы. 1927—1930 гг.*[3]



*Ракавіца. Уязная алея.*
*На другім плане справа рэшткі парку*[4].



*Ракавіца. Фамільная капліца-пахавальня Талочкаў. 1907 г.*[5]

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 82.*
[2,3,5] *Фамільны архіў роду Талочкаў (Варшава).*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*





# Скокі
# Skoki
# Скоки

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо славутага суайчынніка Юльяна Урсына Нямцэвіча. Першая інфармацыя пра Скокаўскую сядзібу паходзіць з XVI ст. у сувязі з падзелам каралеўскіх маёнткаў на валокі. Са скаргай аб несправядлівым падзеле гэтых зямель звярнуўся да берасцейскага старосты Васіля Львовіча Глінскага гаспадар Скокаў Сямён Багдановіч Клувода. Судовая справа цягнулася амаль 5 гадоў з 1550 г. па 1554 г., у выніку якой з 31 валокі ад Клуводы было адрэзана 15. Нягледзячы на страту, Скокі лічыліся шляхецкім маёнткам. У 1567 г. маёнтак па спадчыне перайшоў да Фёдара Скокаўскага, а ў 1589 г. Скокамі валодалі нашчадкі



*Скокі. Галоўны фасад палаца. З акварэлі Напалеона Орды. 1861 г.*[5]

Сямёна Багдановіча — Марына Скокаўская і яе муж Заранка Гарбоўскі[1].

У XVII ст. Скокі перайшлі ва ўласнасць роду Нямцэвічаў. Дзякуючы гістарычным запіскам Юльяна Урсына Нямцэвіча вядома, як выглядаў старадаўні радавы дом Нямцэвічаў у XVII ст., у якім ён нарадзіўся 16.2.1757 (паводле інш. крыніц — у 1758 г.). Быў гэта невялікі драўляны будынак з галоўным уваходам і ганкам. У левай палове дома размяшчалася зала, у якой віселі дзве копіі абразкоў Божай Маці з немаўляткам (мастак Карл Дольці). Пакой выглядаў вельмі сціпла, па словах Юльяна Нямцэвіча, толькі «столік і крэслы з арэхавага дрэва ўпрыгожвалі хату», ды яшчэ былі спальні бацькоў, дзяцей, аптэчны пакойчык і гасціная[2].



*Скокі. Агульны выгляд палаца*[6].

Побач з домам стаялі флігель, далей — стадола, свіран, гумно, вазоўня. Вакол расло некалькі пладовых дрэў і мноства кветак.

Паступова дом стаў цесным, сям'я павялічылася. У 1770 г. стары дом быў разабраны, а газон заараны плугам. На тым месцы, дзе стаяў дом, старэйшы брат Юльяна Урсын Нямцэвіча пасадзіў два арэхавыя дрэвы на ўспамін аб радавым гняздзе.

Новы мураваны палац быў пабудаваны Марцэліем Нямцэвічам і яго жонкай Ядвігай Сухадольскай у 1770-я гады па праекце невядомага архітэктара ў іншым месцы, непадалёку ад колішняй сядзібы. На жаль, нельга з упэўненасцю сцвярджаць, што сённяшні выгляд палаца адпавядае першапачатковаму праекту. Мы можам толькі параўнаць яго з палацам на акварэлі Н.Орды 1860-х гадоў.

Палац — прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак. Мае характэрную для архітэктуры барока аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Асноўны аб'ём палаца накрыты ламаным дахам. Цэнтральныя ўваходы ад фасада і парку акцэнтаваны балконамі на гранёных слупах. Планіроўка ўсіх паверхаў анфіладная.

У час 1-й сусветнай вайны ў палацы размяшчаўся штаб кайзераўскай арміі. У перыяд ваенных дзеянняў палац і



*Скокі. Схема парку*[7].



4а Зак. 1023


*Скокі. Старадаўні помнік-вежа ў 1957 г.*[8]

парк былі моцна пашкоджаны. Аднапавярховыя флігелі былі зруйнаваны. Пасля 2-й сусветнай вайны былі таксама разбураны фамільная капліца, агароджа, брама, гаспадарчыя пабудовы.

Апошнім уладальнікам Скокаўскага палацава-паркавага ансамбля да 1939 г. быў нашчадак аднога з братоў Юльяна Ян Нямцэвіч[3].

Вакол палаца ў XVIII ст. фарміраваўся рэгулярны парк. Парк грунтоўна абследаваў і апісаў А.Т.Федарук[4]. На асноўнай планіровачнай восі размяшчаліся ўсе элементы кампазіцыі. Завяршалася вось перспектывай на сажалку (не захавалася), а з другога боку — фамільнай капліцай (знішчана). Плошча парку складае 5 га, у цэнтральнай частцы існуе трохрадная алея, бліжэй да цэнтра парк перасякаўся невялікім каналам.

Ва ўсходняй частцы парку размяшчаліся тры паляны, якія былі абсаджаны і дэкарыраваны рознымі пародамі дрэў і кустоў. Да сённяшняга часу захаваўся прагулачны маршрут.

Палацава-паркавы ансамбль мае мемарыяльнае значэнне, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы. У сучасны перыяд вядзецца аднаўленне і рэстаўрацыя. У палацы плануецца стварыць дзяржаўны музей гісторыі асветы і пісьменства. У 1999 г. адноўлены гістарычны помнік-вежа XVIII ст., што размяшчаецца за 2 км на поўнач ад в. Скокі.

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 80.*
[2] *Alfanazy R. Dzieje... S. 137.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. В. 2. Спр. 46. Арк. 17.*
[4] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 46—48.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4414).*
[6] *Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей... С. 7.*
[7] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 46.*
[8] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0-118336).*

# Сычы
# Syczy
# Сычи

Колішняя сядзіба. У пачатку XIX ст. сядзіба належала роду Высоцкіх, затым маёнтак выкупіў яе новы гаспадар Малахоўскі[1]. У канцы XIX ст. Сычы перайшлі ва ўласнасць заможнага роду на Берасцейшчыне Фёдара Талочкі. Апошнім уладальнікам сядзібы ў канцы 1930-х гадоў з'явіўся род Сушкаў[2].

На мяжы XIX—XX ст. Фёдар Талочка пабудаваў у Сычах драўляны дом (знішчаны ў 1992 г.) і заклаў пейзажны парк (захаваўся часткова).


*Сычы. Дваровы фасад палаца. Даваенны выгляд*[5].

Дом уяўляў сабой двухпавярховы аб'ём, пабудаваны з дрэва. Меў нерэгулярную асіметрычную кампазіцыю, быў накрыты вальмавым дахам з паўвальмамі на тарцах. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана двухпавярховым рызалітам, завершаным трохвугольным франтонам. На другім паверсе рызаліта з боку дваровага


*Сычы. Бакавы фасад палаца*[4].

фасада існаваў балкон на чатырох слупах. Планіроўка ўнутры палаца мела анфіладны тып. На першым паверсе былі размешчаны гасціная і дзве парадныя залы.

Парк захаваўся ў выглядзе невялікіх фрагментаў. У ім



*Сычы. Схема размяшчэння сядзібы.*





засталіся падмуркі сядзібнага дома, студні, шлюза і шэрагу гаспадарчых аб'ектаў.

Тут растуць у асноўным дрэвы мясцовых парод. Парк узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Zdański K. Przyczynki... S. 106.
[2] ДАБВ. Ф. 2177. Спр. 47. Арк. 1—13.
[3,4] Фамільны архіў роду Талочкаў (Варшава).

# Церабунь Terebuń Теребунь

Старадаўняя сядзіба. Паводле пісьмовых крыніц, першае ўпамінанне пра Церабунскі двор як каралеўскую ўласнасць сустракаецца ў дакументах канца XIV ст. Да 1430 г. в. Церабунь належала роду Кучукаў, а неўзабаве Церабунскі маёнтак зноў апынуўся ў ліку каралеўскіх уладанняў. У 1483 г. кароль Казімір сваім указам перадаў «пруд» на р. Лясная, што пад Церабунем, Солтану Аляксандравічу, а ў пачатку XVI ст. Церабунскі двор перайшоў да наступнага гаспадара — Яўстафія Дашковіча.



Церабунь. Усходні фасад сядзібы. XVIII ст.[3]

Пасля яго смерці каралеўскім указам Церабунь перададзены князю Івану Дзмітрыевічу Шуйскаму. Удава Івана Шуйскага Марына Багданаўна выйшла замуж за Пятра Гнаенскага, але маёнтак застаўся ў сыноў Шуйскіх: Мануіла і Івана. З 1580 г. маёнтак знаходзіўся ва ўласнасці



Церабунь. Заходні фасад сядзібы. XVIII ст.[4]




Церабунь. Схема сядзібы.

Мануіла, а з 1609 г. Яна Шуйскіх[1]. У гэты час Ян Шуйскі пабудаваў у сваім маёнтку уніяцкую царкву (захавалася як праваслаўная і размешчана ў в. Кацельня-Баярская) і мураваны замак, які быў узведзены каля месца ўпадзення р. Лясной у р. Буг.

Пасля Шуйскіх у Церабуні гаспадарылі Грабоўскія, якія пабудавалі тут невялікі дом (часткова захаваўся). Напярэдадні 1-й сусветнай вайны маёнтак нядоўгі час належаў Нямцэвічам[2].

Дом графаў Грабоўскіх уяўляў сабой аднапавярховы мураваны мансардавы будынак з нізкім чатырохсхільным дахам. Пасля 2-й сусветнай вайны палац быў значна перабудаваны і прыстасаваны пад школу. Цяпер у ім размешчаны сельскі клуб.

Ад старога парку, што абкружаў палац, засталася толькі вузкая алея, абсаджаная ліпамі 150-гадовага ўзросту.

Колішні будынак палаца патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 81.
[2] Zdański K. Przyczynki... S. 110.
[3,4] Фота аўтара. 2000 г.

# Чарнаўчыцы Czernawczyce Чернавчицы

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Да 1477 г. мяст. Чарнаўчыцы належала вядомаму на Берасцейшчыне роду Валчкевічаў. Пасля 1477 г. адзін з прадстаўнікоў сярэдняй шляхты на Беларусі (Літве) Івашка Ілініч памяняў спадчынныя землі ў Ваўкавыскім павеце на Чарнаўчыцы і Турну. Юрый Іванавіч Ілініч, староста берасцейскі з 1510 па 1515 гг., у 1510 г. выкупіў шэраг сядзіб у акрузе, таму Чарнаўчыцкі двор набыў даволі вялікія памеры. У яго










*Чарнаўчыцы. Сакральная капліца Святой Сафіі. 2-я палова XVIII ст.*[3]

межы ўвайшлі сядзібы Дзямянічы, Блювінічы, Лазавіца, Воля, Ясянец і інш[1]. Пасля смерці Юрыя Ілініча Чарнаўчыцкі двор па спадчыне перайшоў ва ўласнасць яго двух сыноў, а ў 1567 г. большая частка двара дасталася яго ўнуку, таксама Юрыю, сыну Фелікса і Софіі Радзівіл.

Юрый Ілініч не меў дзяцей, таму па спадчыне Чарнаўчыцы перайшлі да роду Радзівілаў па нясвіжскай лініі. Першы з гэтай лініі гаспадар Чарнаўчыцкага маёнтка Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, вярнуўшыся з Палесціны, у 1595 г. пабудаваў на месцы касцёла, які існаваў у XII—XV ст., новы мураваны каталіцкі храм. У 1661 г. смаленскі біскуп Ежы Белазор правёў рэстаўрацыю Чарнаўчыцкага касцёла і надаў яму найменне Свята-Троіцкага. У 1867 г. царскія ўлады закрылі касцёл і перадалі яго праваслаўнай царкве. Чарнаўчыцкі касцёл — адзін з самых старажытных культавых збудаванняў у Прыбужжы.


*Чарнаўчыцы. Свята-Троіцкі касцёл. 1595 г.*[4]

Як ужо адзначалася ў раздзеле «Замкі, вежы, абарончыя ўмацаванні Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў», у канцы XVI ст. у Чарнаўчыцкім маёнтку Радзівілы ўзвялі замак каля дарогі з Чарнаўчыц да мяст. Турна.

На сённяшні дзень не засталося ніякіх слядоў існавання Чарнаўчыцкага палаца, нават месца яго размяшчэння дакладна не вызначана. Вядома толькі, што непадалёку ад замка ў 2-й палове XVIII ст. была пабудавана мураваная капліца Святой Сафіі ва ўдзячнасць ад прыхаджан і парафіян Чарнаўчыц за цудатворнае ўтаймаванне страшэннага мору, што лютаваў у той час на Берасцейшчыне. У 1960-я гады гэты адзіны сведак існавання Чарнаўчыцкага палаца быў апаганены і знішчаны.

Пасля Радзівілаў Чарнаўчыцкі двор перайшоў да роду Грабоўскіх. Дачка Міхаіла Казіміра Радзівіла Рыбанькі Юзафіна выйшла замуж за графа Міхаіла Грабоўскага, канюшага Вялікага княства Літоўскага. Апошнім спадчынным гаспадаром Чарнаўчыц быў Міхаіл Максімілян Грабоўскі, пашлюблены з Марыяй Святаполк-Завадскай. Грабоўскія пабудавалі ў Чарнаўчыцах першую свецкую школу і ўнеслі вялікі ўклад у асветніцкую дзейнасць.

У часы Грабоўскіх у 1819 г. Чарнаўчыцкі двор наведаў сусед па маёнтку Юльян Урсын Нямцэвіч — знакаміты драматург, паплечнік і сябар Тадэвуша Касцюшкі.

Паводле гістарычных запісак Нямцэвіча вядома, што па баках раскошнага і багатага Чарнаўчыцкага парку размяшчаўся звярынец, у якім пасвіліся лані. У парку расло шмат лістоўніц. Вакол палаца размяшчаліся драўляная стайня, вазоўня і мураваная скарбніца. У адной з гаспадарчых пабудоў Нямцэвіч агледзеў калекцыю старых радзівілаўскіх карэт. Палац пабудаваны з дрэва, меў масіўны ганак на драўляных слупах, вялікія сені, шэраг пакояў, якія былі аздоблены партрэтамі роду Радзівілаў[2].

Замак, верагодна, быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну.

У 1761 г. паводле заказу Радзівілаў быў падрыхтаваны новы праект Чарнаўчыцкага каралеўскага палаца, але праект застаўся нерэалізаваны.

Паводле праекта палац уяўляў сабой шэдэўр палацавай архітэктуры. Арыгінальную кампазіцыю драўлянага будынка складалі асноўны васьміграны трохпавярховы аб'ём са шлемападобным фігурным купалам і 4 двухпавярховыя квадратныя ў плане вуглавыя крылы, якія былі аб'яднаны балюстраднымі тэрасамі з дэкарыраванымі вазамі.

У цэнтры пад тэрасай абазначаны вялікі арачны праём галоўнага ўвахода. Фасады былі ўпрыгожаны скульптурай, картушамі, пуці. Прамавугольныя вокны дэкарыраваны сандрыкамі, ляпнінай, а сцены — руставанымі лапаткамі, карнізамі і цяжамі. Унутраная планіроўка палаца пакуль невядома. Колішнія замак і палацава-паркавы ансамбль у Чарнаўчыцах уваходзяць у лік страчанай нацыянальнай спадчыны.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 98.*
[2] *Alfanazy R. Dzieje... S. 32.*
[3] *Архіў аўтара.*
[4] *Rucki W. Brześć Litewski. Brześć, 1994. S. 38.*

# Чэрск
# Czersk
# Черск

Колішняя сядзіба, размяшчалася за 2 км на паўночны захад ад в. Ляплёўка і за 3 км на паўднёвы ўсход ад в. Чэрск.

Паводле пісьмовых крыніц, в. Чэрнск (пазней Чэрск) і сядзіба вядомы з XV ст., як уласнасць роду Валашынаў. У 1506 г. гаспадар Чэрскага двара Васіль Валашын накіраваў у войска ВКЛ двух ратнікаў, у 1528 г. — аднаго, а ў 1567 г. да берасцейскай харугвы далучыўся Іван Чэрнскі.






Пасля 1701 г. ад Валашынаў Чэрскі фальварак разам з Ляплёўкай і Кабёлкай перайшлі ва ўласнасць Радзівілаў[1].

У сярэдзіне XIX ст. сядзібны ансамбль з'яўляўся адным з фальваркаў Дамачаўскага маёнтка, меў назву Двор, якая ўжываецца і зараз мясцовым насельніцтвам. Пасля



Чэрск. Фрагмент парку[3].

задушэння паўстання Тадэвуша Касцюшкі 1794 г. і 3-га падзелу Рэчы Паспалітай расійская імператрыца Кацярына II падаравала маёнтак Дамачава, у т.л. фальварак Чэрск, аднаму з вядомых прадстаўнікоў расійскай арыстакратыі князю Пятру Вітгенштэйну.

У вёсцы і фальварку Чэрск адбыліся цікавыя гістарычныя падзеі. Паводле даследавання К.Зданьскага, тут у Міхайлаўскай праваслаўнай царкве, пабудаванай на мяжы XVII—XVIII ст., яшчэ да 2-й сусветнай вайны захоўвалася рукапіснае евангелле XVI ст., напісанае на старабеларускай і старапольскай мовах. У 1863 г. пад час на-




Чэрск. Схема сядзібы.

цыянальна-вызваленчага паўстання ў чэрскіх лясах адбыліся баявыя дзеянні паўстанцкага атрада Стасюкевіча з карнымі расійскімі падраздзяленнямі. У выніку двухгадзіннага бою паўстанцы вымушаны былі адступіць, страціўшы 11 чалавек забітымі, 17 былі ўзяты ў палон, а тыя, хто застаўся жывымі, уліліся ў атрад Казіміра Нарбута і працягвалі барацьбу[2].

На сённяшні дзень ад Чэрскай сядзібы засталіся рэшткі парку плошчай каля 4 га. Сядзібны дом быў спалены ў канцы вайны партызанамі. Дом быў драўляны, аднапавярховы, з невялікім ганкам на чатырох круглых слупах і накрыты гонтай. Ансамбль размяшчаўся ўздоўж маляўнічай рачулкі, якая ўпадала ў р. Капаёўку.

Па перыметры ансамбля размяшчаліся каналы, якія яшчэ сёння добра праглядваюцца. Каналы абсаджаны векавымі дрэвамі мясцовых парод: ліпамі, клёнамі, дубамі, ясенямі.

Захавалася некалькі старадаўніх ліп, якімі была абсаджана ўязная дарога, ды купа старых дрэў на месцы існавання сядзібнага дома.

Пасля 1-й сусветнай вайны фальварак быў падзелены і распрададзены. Апошнімі гаспадарамі фальварка з'ўляліся Стаміроўскія.

Рэшткі парку маюць адметныя гістарычныя і архітэктурныя вартасці, патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 71.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 58—59.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Яцкавічы
# Jackowicze
# Яцковичи

У канцы XVIII ст. Яцкавічы належалі роду Жылкаў, у пачатку XIX ст. маёнтак перайшоў да Мацея Зданьскага. Пасля яго смерці ўдава Брыгіта Зданьская ў 1820 г. стварыла побач яшчэ адзін фальварак з назвай Зданьшчына[1]. Апошнім гаспадаром сядзібы да 2-й сусветнай вайны быў Кароль Талочка.

Сядзібны дом пасля вайны выкарыстоўваўся пад кантору мясцовага калгаса. У пачатку 1990-х гадоў палац стаў безгаспадарным і, у рэшце рэшт, быў разбураны. Палац быў у плане прамавугольны, драўляны, аднапавярховы будынак з невялікім ганкам ад параднага пад'езда.

Акрамя палаца ў ансамбль уваходзілі парк, сажалка, гаспадарчыя пабудовы. Раней парк займаў плошчу больш за 4 га, зараз — менш за гектар. Паводле апісання А.Т.Федарука, парк быў размешчаны вакол палаца




Яцкавічы. Схема парку[3].







*Яцкавічы. Фрагмент парку[4].*

ўздоўж кампазіцыйнай лініі, выцягнутай у напрамку з поўначы на поўдзень. Колішняя ўязная алея кароткая. Цэнтральная частка парку перад будынкам палаца была аформлена ў выглядзе круга і дэкарыравана па перыметры дрэвамі конскага каштана звычайнага і лістоўніцы еўрапейскай.

З паўночнага боку парк абмежаваны пасадкай ліпы. Тут раслі паркавыя ружы, бэз, язмін і кветкавыя травяністыя расліны. З трох бакоў парк абкружаюць сады, разбітыя на баскеты. Прагулачны маршрут аб'ядноўваў парадную частку з садам і сажалкай у паўночна-ўсходняй частцы ансамбля. З паўднёвага боку размешчана гаспадарчая зона. У парку растуць 5 старых дрэў рэдкай на Беларусі гібрыднай формы ліпы сэрцападобнай. Засталося таксама 6 дрэў лістоўніцы еўрапейскай[2].

Нягледзячы на парушаную кампазіцыю, парк можа быць часткова адноўлены і захаваны. Патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański R. Pszyczynki... S. 68*

[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 90.*

[3] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

[4] *Фота аўтара. 1999 г.*




# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Баранавіцкага раёна

Буйнявічы
Вялікая Сваротва
Кутаўшчына
Трацэвічы
Туганавічы
Ясянец
Завоссе
Паланэчка
Лазаўцы
Гарадзішча
Вольна
Ішкалдзь
Калдычэва
Задвея
Жалезніца
Стайкі
Савічы
Замошша
Крошын
Люшнева
Верхняе Чэрніхава
Сачыўкі
Падлясейкі
Першамайскі
Дамашэвічы
Развадова
Баранавічы
Мыш
Лесіна
Ястрамбель
Паўлінава

Існуючыя палацы, паркі, сядзібы
Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы





# Баранавічы
# Стары парк (Лесапарк)
# Park Stary
# Старый парк

Парк культуры і адпачынку. Размешчаны непадалёку ад цэнтра горада ў раёне мясакансервавага камбіната.

У пачатку XX ст. тут размяшчаўся лесапарк з натуральным дрэвастоем. У працэсе забудовы горада частка лесапарку ўвайшла ў гарадскую мяжу і была захавана. У парку растуць сосны, елкі, бярозы, клёны, таполі і іншыя дрэвы мясцовых парод.



*Баранавічы. Від на цэнтральную алею старога парку[1].*

У парку няма гістарычных архітэктурных збудаванняў. Парк мае плошчу 5,5 га, складаецца з цэнтральнай алеі і некалькіх бакавых сцежак.

У перспектыве парку патрэбна аднаўленне і рэканструкцыя.

---

[1] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Развадова
# Rozwodowo
# Розводово

Да нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. землі маёнтка Баранавічы належалі заможнаму роду Наркевічаў. За ўдзел у паўстанні царскі ўрад секвестраваў зямлю ў Наркевічаў, яе набыў расійскі генерал Гарноўскі, які ў 1876 г. прадаў маскоўскаму купцу Ягору Кузняцову. У 1881 г. маёнтак купіла графіня Л.А.Развадоўская. На свабодных землях маёнтка, якія прылягалі з поўдня да чыгуначнай станцыі, Развадоўская заснавала мястэчка.

У 1884 г. план забудовы мястэчка зацвердзіў мінскі губернатар А.І.Пятроў[1].

Паводле хадайніцтва графіні, мястэчка атрымала адпаведны статус і назву Развадова. На карце сённяшняга горада — гэта раён паміж вуліцамі Савецкай, Калініна,




*Баранавічы. План забудовы мястэчка Развадова. 1884 г.[2]*

Камсамольскай і Брэсцкай. Пэўную частку зямлі Развадоўскія не здавалі ў арэнду, а выкарыстоўвалі для ўласнай забудовы.



*Баранавічы. Першыя збудаванні на вуліцы Вакзальнай. 1912 г.[3]*

Да 1939 г. род Развадоўскіх меў шэраг фамільных дамоў. Адзін з іх захаваўся ў добрым стане і размяшчаецца сёння па вул. Камсамольскай, 46. У ім зараз працуе банкаўская ўстанова.

---

[1, 2] *Цэнтральны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу. Ф. 1287. Воп. 38. Спр. 3553; Архіў Баранавіцкага краязнаўчага музея. Ф. 4640. Арк. 15—17.*

[3] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (1-3521).*





# Бурдукаўшчына (Буйнявічы) Burdykowszczyzna Бурдуковщина

Маёнтак размяшчаўся паміж вёскамі Застарынне і Пачапава ва ўрочышчы Бурдукаўшчына[1]. На сённяшні час захаваліся толькі рэшткі раскошнага некалі англійскага парку.

Сядзіба вядома з 1826 г. як уласнасць Ганны Валадковіч з даволі знатнага на Беларусі роду Абуховічаў. Муж наступнай уладальніцы маёнтка Рэгіны Абуховіч паходзіў з роду Эйсмонтаў, таму да пачатку XX ст. двор Бурдукаўшчына належаў Эйсмонтам[2].



*Бурдукаўшчына. Палац з боку парку. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[3]

Дакладная дата пабудовы палаца невядома, але, мяркуючы па архітэктурным абліччы і стылі, ён, верагодна, узведзены ў канцы XVIII ст. Будынак цагляны, двухпавярховы, прамавугольны ў плане, меў два сіметрычна размешчаныя па баках крылы з парай комінаў на кожным.

Палац быў разбураны ў пасляваенны час.

На акварэлі Напалеона Орды з боку парку цэнтральны корпус палаца вылучаецца трохвосевым рызалітам з тэрасай на першым паверсе і балконам на другім. Выгляд фасада з цэнтральнага ўвахода і ўнутраная аздоба будынка невядомыя. Цяпер на тэрыторыі колішняга палацава-паркавага ансамбля месціцца летні лагер па доглядзе цялят.

[1] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 1477. Воп. 1. Спр. 1929. Арк. 1—4.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 192.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III - R.A. 4554).*

# Верхняе Чэрніхава Czernichowo Верхнее Чернихово

Старадаўні двор. Захаваўся толькі парк, які быў закладзены ў 2-й палове XIX ст. Спалучаў невялікую пейзажную частку, пладовы сад, гаспадарчы двор і сажалкі




*Верхняе Чэрніхава. Схема парку*[2].

за межамі паркавай зоны. Вылучаецца кампактнасцю і дакладнай агульнай арганізацыяй паркавай прасторы.

Паводле даследавання А.Т.Федарука, парк належыць да тыпу пейзажных перыяду эклектыкі[1]. Цэнтрам кампазіцыі быў палац, размешчаны ў глыбіні парку. На самым высокім месцы над схілам узвышша знаходзіцца партэрны ўчастак, які мае выгляд адкрытай пляцоўкі дыяметрам да 60 м. За палацам размяшчалася пейзажная частка парку, моцна зарослая кустамі. З рэдкіх раслін тут растуць ліпа амерыканская, лістоўніца еўрапейская. На жаль, у 1980 г. тут знік адзін з лепшых у Беларусі экзэмпляраў вяза голага Кампердоўна. Усяго ў парку налічваецца каля 25 відаў дрэў.



*Верхняе Чэрніхава. Прыдарожная сакральная капліца*[3].

Цэнтральная традыцыйная алея адсутнічае, па перыметры парк абкружаюць ліпавая і каштанавая алеі разам з валам і каналам, абсаджанымі карагачом.

Каля палаца стаяла невялікая цагляная вежа, а пры ўездзе ў сядзібу існавала мураваная каплічка.

Палац не захаваўся. Парк мае перспектыву пры належных да яго аднаўлення адносінах.

[1,2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 224—225.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*





# Вольна
# Wolna
# Вольно

Сядзіба вядома паводле інвентара 1571 г. Уключала двор, дворык, гумнішча і абору. У склад двара ўваходзілі чатыры жылыя дамы, два скляпы, стайня на 20 коней, шэраг свірнаў. Усе чатыры жылыя дамы мелі па 1—2 святліцы, каморы, сені, прыбіральні, ганкі. Па-за тэрыторыяй двара стаялі будынкі лазні, пякарні, піўнога бровара.

Каля двара былі два сады і рыбная сажалка. Такім чынам, ужо ў XVI ст. Вольнаўская сядзіба мела функцыянальна раздзеленую архітэктурна-планіровачную структуру[1].

Пазней у XVII ст. у Вольне ўзнік палацава-паркавы ансамбль. Да сённяшняга часу захаваўся пейзажны парк з сажалкай плошчай каля гектара з вялікім прадаўгаватым востравам.



*Вольна. Агульны выгляд палаца да 1939 г.*[2]

Сядзіба і вёска Вольна ў XVII ст. належалі шляхецкаму роду Каменскіх. У 1632 г. стольнік навагрудскі Крыштоф Каменскі разам з жонкай Аленай з княжацкага роду Друцкіх-Горскіх сталі фундатарамі мураванай царквы ў мяст. Вольна, пры якой адкрылі ордэн базыльян. Ад Каменскіх маёнтак перайшоў да сям'і Чацвярцінскіх, затым яго набыў Ян Слізень з ашмянскай лініі . Сын Яна Рафал Слізень (1804—1881) быў вядомым архітэктарам і скульптарам, аўтарам медальёнаў і помнікаў-бюстаў Тамашу Зану, Адаму Міцкевічу, Ігнату Дамейку і іншым славутым людзям. Рафал быў у шлюбе з Камілай з багатага роду Тышкевічаў, яны мелі чатырох сыноў і двух дачок. Маёнтак Вольна перайшоў па спадчыне малодшаму сыну Генрыху, які ажаніўся з Нінай Маўросавай, дачкой асабістага ад'ютанта генерала Мураўёва, гарачай прыхільніцай і патрыёткай нацыянальнага адраджэння. Пасля Генрыха двор Вольна перайшоў да яго пляменніка Вальдэмара Слізеня, а апошняй уладальніцай Вольна стала яго дачка Іза Слізень (нарадзілася ў 1915 г.).

Вольнаўскі палац быў закладзены яшчэ ў XVII ст. у найлепшых традыцыях еўрапейскага дойлідства. У 1-й палове XIX ст. перабудаваны ў стылі моднай на той час неаготыкі і стаў значна вышэйшы і шырэйшы. Асаблівую прыгажосць надавалі будынку шасцівугольныя вежкі са стогападобным дахам. Тыльны выхад з палаца ўяўляў сабой доўгую тэрасу з усходамі да парку.

Сцены знадворку былі ашаляваны гладкімі дошкамі і




*Вольна. Схема парку*[3]

афарбаваны ў светлы колер, а вежкі атынкаваны. Палац меў трохсхільны гонтавы дах. Адна частка будынка была занята невялікімі жылымі пакоямі, другая — парай вялікіх пакояў, адзін з якіх служыў сталовай, другі — гасцінай. У сталовай вісела прыгожая люстра-жырандоль з белага хрусталю, а так званы ружовы пакой упрыгожвалі партрэты радні Слізеняў, выкананыя невядомым мастаком.

У левым крыле размяшчаліся 2 салоны, афармленыя ў стылі ампір. Адна са сцен першага салона была ўпрыгожана вялікім габеленам з відам Венецыі. Апрача таго, у пакоях вісела шмат карцін Ю.Косака, Я.Фалата, І.Рэпіна і



*Вольна. Фрагмент парку*[4]

інш. мастакоў. Каля 1939 г. у палацы існавала багатая бібліятэка польскіх і французскіх кніг, якую Генрых Слізень напярэдадні 2-й сусветнай вайны вывез у Варшаву.

Пасля 2-й сусветнай вайны палац быў разбураны.

---

[1] *Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии... С. 75.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 399.*
[3] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Баранавіцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*
[4] *Фота аўтара. 1999 г.*









# Вялікая Сваротва
# Swarotwa
# Большая Сворoтва

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Паводле асобных крыніц, сядзіба ў XVIII ст. належала Юдзіцкім. Гэта быў старадаўні беларускі род, які яшчэ ў 2-й палове XVI ст. атрымаў ад караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта II Аўгуста вялікія надзелы зямлі ў Мінскім ваяводстве і асеў там назаўжды[1].

У 1765 г. Антон Юдзіцкі, сын Міхаіла, кашталяна мінскага, які не меў уласных нашчадкаў, запісаў Сваротву Барбары, адной са сваіх сясцёр, замужняй за Казімірам Тызенгаўзам. Але другая сястра Антона, жонка Крыстафора Пузыны, выказала нязгоду, і ў выніку разладу маёнтак быў распрададзены. У пачатку XIX ст. уладальнікам Сваротвы стаў род Незабытоўскіх, спачатку сын Якуб, жанаты з Францішкай Кунцэвіч, затым іх сын Стафан, маршалак гродзенскі. Ад Стафана двор адыходзіць да яго дачкі Марыі, замужняй за графам Патоцкім, якая запісала сядзібу свайму ўнуку Уладзіславу. Уладзіслаў Патоцкі быў апошнім уладальнікам Сваротвы да 1939 г.[1]



*Вялікая Сваротва. Агульны выгляд рэзідэнцыі Незабытоўскіх. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[3]

У свой час Якуб Незабытоўскі ўзвёў у Сваротве вельмі прыгожую рэзідэнцыю. У 1917 г. палац быў спалены і з таго часу не змог адбудавацца.

Палацава-паркавы ансамбль уключаў палац, флігель, гаспадарчыя пабудовы, парк з элементамі рэгулярнай і пейзажнай планіроўкі, аранжарэю, альтанкі, каналы, масткі і інш.

Цэнтральная частка ансамбля — двухпавярховы прамавугольны ў плане мураваны палац, выкананы ў стылі ампір. Будынак быў накрыты вальмавым дахам, над якім узвышаўся прамавугольны ў плане бельведэр (пляцоўка зверху будынка для агляду наваколля). Сцены першага паверха былі аздоблены рустам, цэнтральную частку галоўнага фасада вылучаў неглыбокі рызаліт з парадной лесвіцай і парталам увахода, завершаным плоскім сандрыкам. Паводле акварэлі Напалеона Орды, справа ад палаца размяшчаўся мураваны двухпавярховы прамавугольны ў плане флігель пад вальмавым дахам[2].

Паміж палацам, флігелем і аранжарэяй месціўся адкрыты вялікі газон. З астатніх трох бакоў усе будынкі рэзідэнцыі ахінаў вялікі пейзажны парк, рэшткі якога захаваліся да сённяшняга часу.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 369—370.*
[2] *Архітэктура Беларусі... С. 429.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4507).*

# Гарадзішча
# Horodyszcze
# Городище

Паводле пісьмовых крыніц, вядома з 1413 г. як маёнтак Гарадзішча ў складзе ВКЛ. З канца XV ст. у розны час уладанне князя Сямёна Бельскага, вялікай княгіні Алены Іванаўны, Нямiравічаў, Давойнавічаў, Карыцкіх, Гастомскіх, Хадкевічаў, Каменскіх, Зяновічаў, Л.Паца, Бухавецкіх[1]. Гарадзішча да 1831 г. належала графу Людвіку Пацу, аднаму з найбольш заможных беларускіх магнатаў, які меў у зарэчанскай частцы раскошны двор. У яго ўваходзілі палац, гаспадарчыя пабудовы, млын, малатарня, сад і маляўнічы парк[2].



*Гарадзішча. Сучасны выгляд старажытнага ўмацавання*[3].

За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1831 г. маёнтак быў канфіскаваны і перададзены царскім урадам расійскім землеўладальнікам, а мураваны касцёл (1640) перабудаваны ў 1864 г. пад праваслаўную царкву. На сённяшні час ад палаца і парку практычна ўжо нічога не засталося. Каля пасёлка, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Сэрвач размяшчалася ўмацаванае гарадзішча[2].

---

[1] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т. 2. С. 476.*
[2] *Свод памятников... С. 93.*
[3] *Фота аўтара. 1999 г.*




# Дамашэвічы
# Domaszewicze
# Домашевичи

Сядзібна-паркавы комплекс у Дамашэвічах, як адзначае даследчык Р.Афтаназы, належаў зямельным уладальнікам сярэдняга дабрабыту, якіх на тэрыторыі сучаснай Беларусі было вельмі шмат.



*Дамашэвічы. Выгляд палаца. 1915 г.*[2]

У 1-й палове XIX ст. маёнтак быў спадчынай роду Корбутаў, герб «Корчак»[1].

Род быў вельмі старадаўні і паходзіў з-пад Хэлма, адкуль распаўсюдзіўся і асеў на Беларусі.

У 2-й палове XIX ст. Дамашэвічы, верагодна, па жаночай лініі, перайшлі да малавядомага роду Леяў. Магчыма, ад яго паходзіў у 2-й палове XVIII ст. каралеўскі



*Дамашэвічы. Фрагмент парку*[3].

ад'ютант Кароль Лей, які пасля сябе не пакінуў нашчадкаў.

У 1-й палове XIX ст. у Дамашэвічах ужо існаваў стары аднапавярховы палац. У архітэктурным плане гэта быў прамавугольны будынак з высокім і гладкім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай, з чатырма сіметрычна размешчанымі комінамі. З боку пад'езда быў прыбудаваны масіўны порцік на дзвюх парах калон з трохвугольным невялікім шчытком.

Унутраны выгляд палаца невядомы. Перад палацам размяшчаўся газон, абкружаны падстрыжанай жывой агароджай. Двор з усіх бакоў ахінаў вялікі парк, перасечаны па восі працяглай уязной алеяй. Палац не захаваўся. Застаўся парк плошчай каля 5 га, які патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.




*Дамашэвічы. Схема сядзібы.*

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 201.*
[2] *Тамсама. С. 201.*
[3] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Жалезніца
# Żeleznica
# Железница

Старадаўняя сядзіба, размешчаная над р. Мышанкай. Паводле пісьмовых крыніц, Жалезніца вядома з 1471 г. як маёнтак у складзе ВКЛ. Належаў Кіжгайлам, Хадкевічам, Камароўскім, Кашыцам, пазней — Завішам, Вольскім[1]. Побач з дваром існаваў касцёл, пазней перабудаваны пад праваслаўную царкву, якая была знішчана пасля 2-й сусветнай вайны.

На месцы сядзібы ў пасляваенны час існавала школа (закрыта). Палац не захаваўся. З колішніх збудаванняў сядзібы засталіся рэшткі дваровай сыраварні.



*Жалезніца. Руіны капліцы-пахавальні*[2].









У пачатку XX ст. у перыяд правядзення хутарызацыі маёнтак Вольскіх быў падзелены і распрададзены. Тут захаваліся руіны капліцы-пахавальні арыгінальнай архітэктуры. Яе будынак квадратны ў плане, з элементамі класіцызму.

Уваход вылучаны порцікам на чатырох масіўных калонах, які завершаны трохвугольным шчытком. Унутры капліцы існавала некалькі скляпоў (разрабаваныя і разбураныя).

Капліца патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

1 *Памяць. Баранавіцкі раён... С. 701.*
2 *Фота аўтара. 1999 г.*

# Завоссе
# Zaosie
# Заосье

Фальварак размяшчаўся каля в. Завоссе. У ім 24.12.1798 г. нарадзіўся знакаміты паэт і дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Адам Міцкевіч.

Бацькі Адама Міцкевіча атрымалі частку фальварка Завоссе ў канцы 1799 г. і пражылі ў ім да 1801 г. У бацькавай сядзібе Адам Міцкевіч правёў амаль два гады дзяцінства, а пасля ў сталым узросце даволі часта наведваў родныя мясціны.

Творчасць А.Міцкевіча зрабіла вялікі ўплыў на развіццё ўсіх славянскіх літаратур, у т.л. і на беларускую. Пад яго непасрэдным уздзеяннем пачыналі літаратурную дзейнасць Я.Чачот, Я.Баршчэўскі, А.Рыпінскі, У.Сыракомля і інш[1].



Фальварак Завоссе. З літаграфіі акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.[3]

У 1927 г. на месцы колішняга фальварка Завоссе вайсковым падраздзяленнем з Баранавіч устаноўлены помнік паэту[2] (адноўлены ў 1955 г.). Пры рэканструкцыі музея-сядзібы Адама Міцкевіча ў 1998 г. ён быў знесены.

Знакамітая Завоссеўская сядзіба знайшла адлюстраванне ў мастацкіх творах таленавітых мастакоў-суайчыннікаў Н.Орды, Э.Паўловіча, Т.Абмінскага.

Сядзіба належала дробнапамеснаму роду і ўяўляла сабой традыцыйны фальварак з наборам драўляных па-




Завоссе. Схема сядзібы.

будоў, у які ўваходзілі гаспадарскі дом, лямус, свіран. Жылы дом быў звычайнай архітэктуры: прадаўгаваты зруб з неашаляванымі сценамі, накрыты саламяным вальмавым дахам. Па цэнтры ён меў ганак на двух слупах і складаўся з дзвюх палавін.

Будынак лямуса ўяўляў сабою звычайны двух'ярусны зруб пад вальмавым дахам.

Уся сядзіба была агароджана жардзяным плотам.

На сённяшні дзень з часоў паэта захаваліся толькі старая без верхавіны ліпа і невялікая сажалка.



Завоссе. Від на адноўлены фальварак. На пярэднім плане рэшткі старой ліпы — равесніцы часоў Адама Міцкевіча[4].

У 1998 г. колішні фальварак поўнасцю рэканструяваны, у ім адкрыты і працуе музей-сядзіба Адама Міцкевіча.

1 *Збор помнікаў... С. 81.*
2 *Rąkowski G. Ilustrowany przewodnik po zabytkach kultury na Bialorusi. Warszawa, 1997. S. 279.*
3 *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (Zbiory rysunków).*
4 *Фота аўтара. 1998 г.*





# Задзвея
# Zadwieja
# Задвея

Як сцвярджае даследчык Р.Афтаназы, палацава-паркавы ансамбль у Задзвеі існаваў у XVIII ст. Паводле шэрагу іншых крыніц, Задзвейская сядзіба ўзнікла значна раней і належала спачатку роду Межаеўскіх. Менавіта з гэтага роду паходзіць удзельнік напалеонаўскай кампаніі, кавалерыйскі капітан Мацей Межаеўскі, які за храбрасць пры ўзяцці Самасеры заслужыў асабістую павагу Напалеона. Яго партрэт (у ваеннай форме на кані) невядомага мастака да 2-й сусветнай вайны захоўваўся ў Задзвейскім палацы, а мундзір з ордэнамі «Virtuti Militari» і Ганаровага легіёна яшчэ ў 1890 г. быў перададзены музею Любамірскіх у Львове.

Унучка Мацея Межаеўскага ў 1891 г. выйшла замуж за Ігната Чачота і з гэтага часу да 1939 г. Задзвейская сядзіба знаходзілася ва ўласнасці роду Чачотаў[1].



Задзвея. Франтальны выгляд палаца да 1939 г.[3]

У 1-й палове XVIII ст. у Задзвеі быў пабудаваны невялікі драўляны палац, у якім нарадзіўся Мацей Межаеўскі. Пасля вяртання з напалеонаўскай вайны ён значна палепшыў будынак, дабудаваў перад цэнтральным уваходам ганак на чатырох калонах, а з боку парку ў сярэдняй частцы будынка — мураваную сцяну ў форме



Задзвея. Выгляд палаца з боку парку да 1939 г.[4]

псеўдарызаліту, дэкарыраваную чатырма прыгожымі пілястрамі і трохвугольнымі надаконнымі вальмамі.

У пачатку XX ст. да сярэдняй часткі мураванай сцяны была дабудавана шырокая цагляная тэраса з балюстрадай. Падобна як шчыток ганка, так і цэлы будынак палаца быў апаясаны высокім карнізам на кансолях. Палац у плане прамавугольны, меў чатырохсхільны гонтавы дах.




Задзвея. Схема парку.

Унутраная аздоба палаца вылучалася сціпласцю. Яго сцены былі афарбаваны ў белы колер, падлога пакрыта лакам, толькі тры парадныя пакоі мелі паркет у форме вялікіх квадратаў. Апрача двух камінаў, у пакоях існавалі грубкі з каляровай кафлі. Салон быў мэбляваны ў стылі ампір.

Перад цэнтральным і дваровым пад'ездамі былі разбіты шырокія газоны і клумбы з кветкамі.

Палац з усіх бакоў ахінаў даволі вялікі парк з векавымі дрэвамі (па 150 гадоў) лісцевых і хвойных парод і старадаўняй каштанавай алеяй. Была таксама бярозавая алея разам з ліпавымі шпалерамі. У межах парку стаяла лядоўня, якая па архітэктуры нагадвала капліцу[2].

На сучасны момант засталіся толькі рэшткі некалі прыгожага парку, лядоўня і гаспадарчы будынак.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 409.*
[2, 3, 4] *Тамсама. С. 410.*

# Замошша
# Zamosze
# Замошье

Колішняя сядзіба. У XIX ст. знаходзілася ва ўласнасці роду Шпінальскіх, пазней Вольскіх[1].

Гісторыя Замашанскага двара вывучана недастаткова. Вядома толькі, што ў 2-й палове XIX ст. гаспадаром Замошша мог быць Аляксандр Вольскі, які меў справы з Ксаверыем Пуслоўскім у адносінах да куплі маёнтка Ліпнішкі.

Гісторыя самога палаца ў Замошшы таксама малавядомая. Пісьмовыя крыніцы не паведамляюць, калі канкрэтна і кім ён пабудаваны. Магчыма, дом быў закладзены ў 1-й чвэрці XIX ст. і належаў да тыпу пашыраных на абшарах ВКЛ сядзіб, якія сваім падабенствам паўтаралі «Міцкевічава Сапліцова», хоць і не мелі характэрных пабеленых сцен[2]. Тым не менш сядзібны дом у Замошшы па архітэктуры і аздобе мае агульныя рысы з дваром, апісаным Адамам Міцкевічам у яго паэме «Пан Тадэвуш».

Будынак дома драўляны, у плане прамавугольны, з высокім порцікам на чатырох калонах, на якія абапіраўся трохвугольны гладкі шчыток. Галоўны фасад порціка налічваў пяць вялікіх акон, меў уваход, над дзвярыма якога размяшчалася паўкруглае дахавае акенца.

Сярэднюю частку палаца накрываў двухсхільны гонтавы дах, бакавыя крылы мелі трохсхільны дах.

Унутраная планіроўка і аздоба палаца невядомыя.







*Замошша. Цэнтральны фасад палаца да 1939 г.*[4]

Перад палацам месціўся вялікі круглы травяны газон. Палац ахінаў невялікі пейзажны парк з дрэў мясцовых парод.

Як мяркуе Р.Афтаназы, у 1820-я гады побач існаваў яшчэ адзін маёнтак Новае Замошша, які меў 600 га зямлі. На той час у ім гаспадарылі Паклеўскія, у прыватнасці, Мар'ян Козел-Паклеўскі[3].

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 14. 1895. S. 388.*
[2,3,4] *Aftanazy R. Dzieje... T. 11. S. 476—477.*

# Ішкалдзь
# Iszkołdź
# Ишколдь

Старадаўняя сядзіба. Была вядома паводле інвентароў XVI—XVII ст. На той час сядзіба ўключала двор, дворык і гумнішча. Двор меў двое крытых варот з веснічкамі: адны — да касцёла, другія — да дворыка. На левым баку сядзібы былі два жылыя дамы, кухня, два свірны, бровар, саладоўня, на правым — трэці жылы дом і мураваны склеп[1].



*Ішкалдзь. Выгляд сядзібы. Рэканструкцыя паводле інвентара 1632 г.*[2]

Галоўны жылы дом называўся «Домам вялікім» і ўяўляў сабою традыцыйнае трохкамернае жыллё са святліцай і пякарняй, звязанымі праз сені з дзвюма каморкамі.

Другі дом складаўся з сяней, каморы і курнай хаты.

Трэці дом меў дзве святліцы, а паміж імі сені. Кухня ўяўляла сабой невялікую двухкамерную пабудову і складалася са сталовай і святліцы.

Дворык уключаў толькі адну пабудову і трохкамернае жылое памяшканне з грыдніцай і клецціо праз сені. Тады ўжо існаваў стары аднаколавы вадзяны млын, але ён працаваў толькі ўлетку.

У XVI ст. сядзіба была рэканструявана, стары дом знесены, а пабудаваны новы, змянілася планіроўка самога двара, скасаваны адны вароты, за дваром узведзена лазня. Новы дом меў 6 пакояў. У цэнтры змяшчаліся сені і кухня, у левай палове — хата і камора, у правай — хата, камора, прыбіральня.

У пачатку XVII ст. двор зноў перабудоўваўся, з'явіліся стайня на два кані і новая двух'ярусная брама з флюгерамі, а каля сажалкі — бровар. Усе збудаванні былі накрыты драніцай.

У XVII ст. двор в. Ішкалдзь меў тыповую фальварковую структуру з паступовым вылучэннем панскага двара, прыкметамі фарміравання паркавай гаспадаркі, закладкай рыбнай сажалкі, будаўніцтвам двухколавага вадзянога млына. Зачаткі парку складаліся з трох лесапаркавых участкаў пад назвай «гаі»: першы — бярозавы пад балотам, другі — яловы каля млына, трэці складаўся з розных парод дрэў і размяшчаўся каля дарогі, якая вяла да суседняга фальварка Барацін.

Сядзіба Ішкалдзь, магчыма, існавала да 1-й сусветнай вайны, пасля якой паступова разбуралася. Некалі была спадчыннай роду Іллінічаў, потым Радзівілаў і, нарэшце, князёў Вітгенштэйнаў[3].

---

[1] *Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI—середины XVII в. Мн., 1991. С. 147.*
[2] *Тамсама. С. 148.*
[3] *Słownik geograficzny. T. 5. 1882. S. 308.*

# Калдычэва
# Kołdyczewo
# Колдычево

Калдычэўскі сядзібна-паркавы ансамбль размяшчаўся за 5 км ад Завоссеўскай сядзібы Адама Міцкевіча. Паэт часта праязджаў праз Калдычэва, часта называў яго ваколіцы «краем вёснаў дзяцінскіх», з замілаваннем успамінаў у сваіх творах пра Калдычэўскае возера. У тыя часы з гэтага возера брала свой пачатак р. Шчара.

У пачатку XIX ст. сядзіба належала роду нясвіжскіх Радзівілаў, ад якіх большую частку маёнтка набыў шляхецкі род Трызнаў і па жаночай лініі перадаў яе роду Філіповічаў, затым зноў па жаночай лініі маёнтак з возерам перайшоў да роду Шалевічаў.

У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. гаспадар Калдычэва Кароль Шалевіч стаў кіраўніком паўстанцкіх атрадаў у Навагрудскім ваяводстве, маёнтак быў перапісаны на малодшага брата Браніслава. Герб Шалевічаў уяўляў сабой залаты круг, у якім на блакітным полі ўзвышаліся тры крыжы.

Раней пры Філіповічах у 1-й палове XIX ст. у Калдычэве быў узведзены сядзібны дом. Ён месціўся на ладным пагорку каля р. Шчары. Будынак аднапавярховы, у плане строга прамавугольны, накрыты высокім гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам. Характэрная рыса будынка — наяўнасць трох сяней: адны парадныя, двое







*Калдычэва. Выгляд сядзібнага дома каля 1914 г.*[2]

бакавых. Парадныя сені мелі яшчэ ганак на чатырох мураваных калонах з трохвугольным шчытком.

Звонку сцены не былі атынкаваныя, толькі вокны і калоны мелі белы колер.

Сцены знутры былі пакрыты рознакаляровымі шпалерамі, столі гладкія, пакоі мэбляваныя, у асноўным, мясцовымі майстрамі, на сценах віселі партрэты Філіповічаў і Шалевічаў, іх радні.

Па правым баку асноўнага будынка стаяў аднапавярховы мураваны флігель на шасці калонах, трохі старэйшы, чым сам жылы дом, магчыма, з радзівілаўскіх часін.

Перад галоўным будынкам былі разбіты прыгожыя газоны, якія спускаліся ўніз да р. Шчары.

Сядзібу абкружаў старадаўні пейзажны парк, у якім раслі векавыя дубы, каштаны, бярозы, ліпы, клёны, дэкаратыўныя кусты. Пад'язная дарога да сядзібы цягнулася цераз мост на Шчары з Навагрудскага тракту. Каля гэтай дарогі на пагорку меліся могілкі з пахаваннямі паўстанцаў 1863 г.[1]

У 1-ю сусветную вайну сядзіба была поўнасцю разбурана, апынуўшыся на лініі фронту паміж нямецкімі і расійскімі войскамі.

У канцы 1918 г. была распачата адбудова сядзібы, а ўсе, хто застаўся без даху, жылі тады ў нямецкіх бліндажах.




*Калдычэва. Схема сядзібы.*

Адноўлены палац зноў быў знішчаны ў 1919—1920 гг. пад час ваенных дзеянняў паміж буржуазнай Польшчай і савецкай Расіяй. Паступова маёнтак пачаў распрадавацца і драбнець.

Апошнім уладальнікам Калдычэўскай сядзібы да 1932 г. быў Тамаш Шалевіч, сын Браніслава і Аляксандры, жанаты з Аленай Брахоўскай. Ён лічыўся вельмі руплівым і эканомным гаспадаром. Яго матуля ў ваенныя часы тайна вяла навучанне дзяцей і лячэнне хворых людзей з усіх ваколіц Калдычэва.

[1] *Przewodnik po okolicach mickiewiczowskich i rejtanowskich Ziemi Nowogródzkiej. Baranowicze, 1938. S. 19.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 227.*

# Крошын
# Kroszyn
# Крошын

Сядзіба належала ў XVIII—XIX ст. роду Прушынскіх, затым Валовічаў і, нарэшце, Радзівілаў з Паланэчкі. Па спадчыне двор перайшоў да дачкі знакамітага драматурга, кампазітара і грамадскага дзеяча Мацея Радзівіла Антаніны, замужняй за Казімірам Станіславам Гедройцам-Юрагам. У 1842 г. яе дачка выйшла замуж за Яўгена Роберта Святаполка-Завадскага, і з тых часоў да 1939 г. маёнтак знаходзіўся ва ўласнасці роду Святаполкаў-Завадскіх.

Да 1-й сусветнай вайны ў Крошыне існаваў драўляны двухпавярховы палац з вежкай, які нагадваў сваёй архітэктурай хутчэй вілу, чым тыповую правінцыяльную сядзібу.

Палац быў узведзены ў сярэдзіне XIX ст. на ўзвышэнні левага берага Шчары. Перад Крошынскім палацам існаваў шырокі двор, на якім збоку стаяў флігель.

Як сцвярджаюць пісьмовыя крыніцы, у Крошыне быў старадаўні абарончы палац-замак, аб чым яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. напаміналі рэшткі валоў, равоў і воднай сістэмы[1].

Крошынская рэзідэнцыя Святаполкаў-Завадскіх, якія з гонарам лічылі сябе нашчадкамі Рурыкавічаў і ўжывалі княжацкі тытул, размяшчалася ў вялікім пейзажным парку, дзе раслі старадаўнія дубы, таполі, ліпы, грабы, вольхі, клёны, ясені і вербы. На фоне векавых дрэў асабліва прывабны выгляд мела раскідзістая вярба, якая атрымала назву «Залатая». Парк з прагулачнымі алеямі і сцежкамі меў плошчу каля 7 га. У паўночна-ўсходнім кутку парку размяшчаўся фамільны склеп Юрагаў — Завадскіх.



*Крошын. Фрагмент парку. На пярэднім плане дуб, пасаджаны А.Адынцом і І.Дамейкам у 1884 г.*[2]

Палац меў 24 залы і пакоі, мастацкую майстэрню, бібліятэку і архіў. У майстэрні часта працаваў сын Яўгена





5а Зак. 1023








*Крошын. Фрагмент парку. Від на фамільны склеп Завадскіх*[3].

Пётр (нарадзіўся ў 1847 г.), які быў жанаты з Марыяй Радзівіл. Ён быў адукаваны і выдатны майстар, намаляваў для Крошынскага і Юшкевіцкага касцёлаў некалькі абразоў, зрабіў праект хрысцільні (купелі), пакінуў шмат іншых прац, сабраў для бібліятэкі каля 2000 тамоў кніг, у т.л. рукапісных.

Да 1-й сусветнай вайны ў маёнтку акрамя работ Пятра захоўвалася таксама шмат іншых мастацкіх палотнаў, калекцыя старадаўняй зброі, у т.л. шабля караля Яна Казіміра, фарфор з мясцовых фабрык.

У 1915 г. праз тэрыторыю сядзібы пралягала лінія фронту, у выніку чаго палац і двор былі спалены. У міжваенны перыяд гаспадары сядзібы пражывалі ў уцалелым флігелі.

У Крошын разам з паэтам Антонам Эдуардам Адынцом у 2-й палове XIX ст. прыязджаў, каб пакланіцца праху сваіх блізкіх, нацыянальны герой Чылі, прафесар мінералогіі, рэктар Чылійскага універсітэта ў Сант'яга Ігнат Дамейка, стрыечны брат Марылі Верашчакі, сябар Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана. Імем Ігната Дамейкі названы горны ланцуг у Андах — «Кардыльера Дамейкі», шэраг раслін і мінералаў. Да эміграцыі Дамейка актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым руху на Беларусі. Пад імем Жэгот Дамейка прымаў удзел у дзейнасці таварыства філаматаў і быў увасоблены ў паэме Адама Міцкевіча «Дзяды».

Вядома таксама, што дачка Мацея Радзівіла Антаніна была шчырай сяброўкай Марылі Верашчакі, вяла з ёю вялікую перапіску.

З Крошынам звязаны імёны народнага майстра, паэта Паўлюка Багрыма, фальклярыста і этнографа М.Федароўскага і беларускага асветніка ксяндза Магнушэўскага.




*Крошын. Схема парку*[4].

На сённяшні дзень часткова захаваўся толькі парк. Фамільны склеп Завадскіх у пасляваенныя гады быў разрабаваны. У пачатку 1990-х гадоў каля дуба, пасаджанага А.Адынцом і І. Дамейкам, устаноўлена памятная дошка.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 234.*
[2,3] *Фота М.Берната. 1998 г.*
[4] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

# Кутаўшчына
# Kutowszczyzna
# Кутовщина

Сядзібны парк у Кутаўшчыне закладзены прыкладна ў 2-й палове XIX ст. Складаецца з некалькіх прамавугольных баскетаў. Паркавы баскет уяўляе сабой кампактную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у якую ўваходзяць павільёны, скульптуры і іншыя малыя архітэктурныя і культурныя аб'екты. Замкнутыя прасторы баскетаў называліся зялёнымі «кабінетамі» альбо «заламі».



*Кутаўшчына. Фрагмент парку*[1].

Кутаўшчынскі парк — сярэдні па велічыні, мае плошчу прыкладна 4 га. Добра прадстаўлены невялікія баскеты, якія створаны перасячэннем ліпавых алей.

Старымі ліпавымі дрэвамі была абсаджана ўязная алея. Дрэвы зараз дасягнулі ўзросту высокай




*Кутаўшчына. Схема сядзібы.*



дэкаратыўнасці і спеласці. Палац знішчаны, яго вонкавы выгляд невядомы. Кутаўшчына некалі належала роду Верашчакаў[2].

[1] *Фота аўтара. 1999 г.*
[2] *Słownik geograficzny. T. 5. 1884. S. 5.*

# Лазаўцы Łozowce Лозовцы

Колішні палацава-паркавы комплекс. Размяшчаўся непадалёку ад в. Нагорнае на поўнач ад Гарадзішча ва ўрочышчы Лазаўцы. Некалі сядзіба належала роду Пацаў, затым Маліноўскіх, а ў пачатку XIX ст. яе набыў Стафан Давідоўскі (герб «Прус»). Апошнім гаспадаром сядзібы да 1939 г. быў унук Стафана Браніслаў Давідоўскі.



*Лазаўцы. Выгляд палаца да 1939 г.*[2]

Звестак аб гісторыі Лазавецкага палаца захавалася мала. Верагодна, ён быў пабудаваны ў канцы XVIII ст. Асноўны аб'ём драўлянага будынка аднапавярховы, сярэдняя частка палаца мела два паверхі. Дах высокі, чатырохсхільны, накрыты гонтай.

У цэнтры дзевяцівосевага фасада вылучаны порцік на дзвюх высокіх мураваных калонах з трохвугольным шчытком. Магчыма, спачатку порцік быў адкрыты, а пазней перабудаваны ў выглядзе выступаючага па цэнтры рызаліта з галоўным уваходам і двума бакавымі вузкімі вокнамі. На другім паверсе ўсе вокны мелі стральчаты выгляд. Сцены палаца былі ашаляваны гладкімі дошкамі.

Першы паверх палаца меў восем пакояў, другі — два. На другі паверх вяла арыгінальная спіралепадобная лесвіца. Падлога складалася з дошак у выглядзе вялікіх квадратаў, пакрытых лакам, толькі ў салоне ляжаў паркет. Ва ўсіх пакоях стаялі грубкі з белай і зялёнай кафлі.

З правага боку палаца месцілася досыць прыгожая афіцына.

Паводле асобных крыніц, палац быў абрабаваны яшчэ ў 1-ю сусветную вайну[1]. Пасля 2-й сусветнай вайны палац быў поўнасцю знішчаны.

Палац ахінаў з трох бакоў вялікі старадаўні парк, які разам з садам меў плошчу каля 10 га.

На партэры двара размяшчаўся раскідзісты газон, да якога вяла доўгая ўязная дарога, абсаджаная старымі дрэвамі мясцовых парод.

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 254—255.*
[2] *Тамсама. С. 254.*

# Лесіна Lesino Лесино

Сядзіба належала дробнаму шляхецкаму роду Бабічаў[1]. Закладзена ў канцы XIX ст.

Сядзібны дом — аднапавярховы, цагляны, прамавугольны ў плане будынак, меў аднарадную калідорную планіроўку. У савецкія часы дом перабудаваны, у выніку чаго атрымаў у сваёй сярэдняй частцы анфіладную арганізацыю. Праз невялікія сені можна было трапіць у прыхожую. У доме мелася даволі вялікая бібліятэка, гасцiная, некалькі жылых памяшканняў.

Дом размяшчаўся пасярэдзіне невялікага парку. Захавалася некалькі алей, якія па-новаму абсаджаны маладымі дрэвамі, у асноўным, ліпамі, таполямі, акацыямі.



*Лесіна. Рэшткі гаспадарчых збудаванняў*[2].

У пасляваенны час сядзібна-паркавы ансамбль да 1990 г. выкарыстоўваўся пад туберкулёзны дыспансер, а пасля яго высялення застаўся безгаспадарным. Парк пры гаспадарскай падтрымцы мае перспектыву існавання.

[1] *Słownik geograficzny. T. 5. 1884. S. 155.*
[2] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Люшнева Luszniewo Люшнево

Сядзіба вядома паводле інвентара 1599 г.[1], была некалі радавым гняздом шырока вядомага на Беларусі роду Валовічаў. Дачка апошняга з гэтай лініі гаспадара Казіміра Марыя Валовіч выйшла замуж за Януша Даманскага. Яны былі апошнімі гаспадарамі сядзібы[2].







Палац пабудаваны з дрэва пры Валовічах у XVII ст. На жаль, будынак быў спалены незадоўга да пачатку 2-й сусветнай вайны.

Палац уяўляў сабою ў плане шырокі прамавугольнік, меў адзін паверх, а па цэнтры — двухпавярховы порцік.

У пачатку XX ст. дабудаваны балкон з балюстрадай. Рызаліт абкружалі стройныя калоны. Чатыры калоны былі размешчаны пры сцяне ад фасаду, і па дзве — пры бакавых сценах.

Дзверы галоўнага ўвахода былі напалову зашклёныя.

Бакавы фасад палаца меў такую ж архітэктуру, як і франтальны. Будынак быў ашаляваны гладкімі дошкамі, размаляваны светлымі фарбамі і накрыты высокім ламаным чатырохсхільным гонтавым дахам з чатырма комінамі.



*Люшнева. Галоўны фасад палаца. Каля 1936 г.[3]*

З левага боку палаца быў прыбудаваны цалкам зашклёны зімовы сад.

Унутраная планіроўка дома анфіладная. Пакояў было няшмат, але яны мелі даволі вялікія памеры. З правага боку шырокіх сяней размяшчалася лесвіца на другі паверх і два пакоі-спальні. З левага боку сяней існавалі ідэнтычныя пакоі сталовай, за імі салон і выхад да зімовага саду.

Найбольш рэпрэзентатыўна была аформлена зала для баляў, якая мела высокую столь і зашклёныя дзверы з выхадам на тэрасу. На другім паверсе мелася хатняя капліца. На сценах сталовай віселі партрэты прадстаўнікоў роду Валовічаў, у т.л. партрэт аднаго з біскупаў, верагодна, Яўстахія Валовіча.

Паблізу двара месцілася афіцына, пабудаваная ў тым жа стылі, што і палац. Палац ахінаў вялікі парк з цяністымі ліпавымі алеямі і альтанкай. У парку раслі таполі, бярозы і іншыя дрэвы мясцовых парод. Над маляўнічай сажалкай навісалі раскідзістыя вербы.

[1] *Памяць. Баранавіцкі раён... С. 641.*
[2, 3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 246—248.*

# Новая Мыш
# Mysz Nowa
# Новая Мышь

Да XVI ст. маёнтак належаў да каралеўскіх уладанняў, потым перайшоў у спадчыну Хадкевічам, Сіняўскім, Юдзіцкім, Масальскім. Апошнім гаспадаром маёнтка быў нашчадак заможнага роду Несялоўскіх[1]. Паводле інвентара 1728 г., у Новай Мышы існаваў даволі вялікі драўляны палац. Пабудаваны ён у пачатку XVIII ст. Перад палацам стаяла манументальная брама, у першым ярусе якой знаходзілася т. зв. кардэгардыя, а ў другім — жылыя



*Новая Мыш. Рэшткі мураванага млына XIX ст.[2]*

пакоі, абкружаныя галерэяй. Брама завяршалася высокім чацверыковым шатром. Палац уяўляў сабой вялікі крыжовы ў плане будынак, завершаны двух'ярусным гонтавым дахам, з ганкам на слупах перад уваходам.

Цэнтральную частку палаца складалі вялікія сені і сталовая.

Па баках ад гэтых памяшканняў месцілася 15 пакояў, пярэдняя, пяць гардэробаў. У сярэдняй частцы палаца размяшчалася вялікая парадная зала. Інтэр'еры палаца былі багата ўпрыгожаны, сцены размаляваны, дзверы аздоблены разьбой. У вокнах стаялі алавяныя пераплёты, грубкі ўпрыгожаны кафляй з выявай гранатавых і зялёных кветак, меліся прыгожа аздобленыя каміны[3].

Палац, верагодна, быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну. Засталіся толькі руіны гасцінага двара і мураванага млына. У апошнія гады вядзецца аднаўленне гасцінага двара.

[1] *Słownik geograficzny. T. 6. 1885. S. 383.*
[2] *Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства... С. 66.*
[3] *Фота М.Берната. 1992 г.*

# Падлясейкі
# Podlesejki
# Подлесейки

Колішняя сядзіба. Апошнімі гаспадарамі сядзібы да 1939 г. былі нашчадкі роду Сакаловічаў. Пасля 2-й сусветнай вайны на тэрыторыі сядзібы размяшчаецца мясцовая школа.

Добра захаваўся будынак флігеля. Ён быў узведзены



*Падлясейкі. Выгляд флігеля[1].*












*Падлясейкі. Схема парку.*

ў 2-й палове XIX ст. з дрэва на высокім падмурку. Будынак аднапавярховы, у плане прамавугольны, быў накрыты гладкім гонтавым дахам.

У цэнтры будынка меўся высокі ганак на двух драўляных слупах, з правага боку захавалася прыбудоўка.

Вакол сядзібнага дома некалі размяшчаўся даволі вялікі парк, у якім была сажалка, гаспадарчыя пабудовы, фамільны склеп (не захаваўся). Зараз рэшткі парку прадстаўлены ў выглядзе адзінкавых дрэў мясцовых парод. Будынак флігеля патрабуе ўзяцця пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Паланэчка
# Połoneczka
# Полонечка

Адзін з унікальных палацава-паркавых ансамбляў. Размяшчаецца над невялікай р. Дзвеяй (Змейкай), прытокам р. Ушы. Землі маёнтка належалі ў 1428 г. Ульяне Гальшанскай, жонцы вялікага князя ВКЛ Вітаўта, затым — роду Рудамінаў-Душацкіх, а з 2-й паловы XVIII ст. да 1939 г. Паланэчка была ва ўласнасці Радзівілаў.

Першым гаспадаром яе стаў князь Мацей Радзівіл (1749—1800), кашталян віленскі, знакаміты паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч і гарачы патрыёт ВКЛ, павенчаны з Альжбетай з заможнага роду Хадкевічаў. Затым Паланэчкай валодалі сын Мацея Канстанцый, потым яго ўнук, таксама Мацей, і сын Мацея Альберт Станіслаў (1858—1927), які выехаў у Амерыку, перапісаўшы сядзібу брату Уладзіславу Радзівілу (1909), павенчанаму з князёўнай Ганнай Марыяй Чартарыйскай. Яны былі апошнімі гаспадарамі Паланэчкі[1].

Вядома, што ў 1777 г. у гасцях у Мацея Радзівіла ў Паланэчцы пабываў расійскі сенатар і знакаміты сатырык



*Паланэчка. Від на палац з боку пад'езду. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[4]



*Паланэчка. Пасляваенны выгляд палаца*[5].

Д.Фанвізін, аўтар вядомага «Недаростка». Аб чым гаварылі тады госць з гаспадаром — невядома, але можна дапусціць, што Мацей Радзівіл як элітарная асоба беларускага гаспадарства, выхаваны ў лепшых традыцыях еўрапейскай культуры, ад шчырага сэрца пачаставаў госця багатым абедам і, безумоўна, пазнаёміў з мелодыямі сваіх музычных твораў, якія ўвайшлі ў класіку сусветнага музычнага мастацтва.

Ансамбль уключаў палац, аранжарэю, уязную браму, млын, парк, капліцу-пахавальню.

Пабудаваны ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. у стылі ампір, палац быў праслаўлены на ўсю Еўропу раскошай і ўбранствам, вельмі багатай бібліятэкай, архівам і калекцыямі мастацкіх твораў і манет. Другі ўладальнік палаца Канстанцый быў таксама надзвычай адукаваны чалавек, узначальваў антыпрыгонніцкае Патрыятычнае таварыства на Беларусі, быў звязаны з дзекабрыстамі Расіі, шмат зрабіў для развіцця беларускай культуры.




*Паланэчка. Схема сядзібы.*

Тройчы ваенныя ліхалецці (канец XIX ст., 1917, 1943 гг.) наносілі вялікую шкоду і разбурэнні Паланэцкаму палацу, але ён пастаянна аднаўляўся.

Мураваны палац мае сіметрычна-восевую кампазіцыю, у цэнтры дамінуе двухпавярховы амаль квадратны будынак, да якога праз галерэі далучаны квадратныя ў плане аднапавярховыя павільёны. Пазней тут была пабудавана аранжарэя ў стылі неаготыкі (не захавалася). Цэнтральная частка галоўнага фасада палаца вылучана плоскімі пілястрамі, дэкарыравана гермамі і завершана трохвугольным франтонам (таксама не захаваўся), на тымпане якога быў ляпны герб Радзівілаў, завершаны вянком. Безумоўна, першапачатковая планіроўка палаца значна зменена, да мінімуму спрошчана.

У бібліятэцы змяшчалася каля 4000 тамоў унікальнага кнігазбору. У капліцы меўся абразок Божай Маці, падараваны Янам III, і драўляны крыжык, прывезены з іерусалімскіх храмаў у 1584 г. У палацы вісеў партрэт маладога Мікалая Каперніка і 38 партрэтаў прадстаўнікоў роду





Радзівілаў, шмат работ вядомых мастакоў: Бацарэлы, Лампегі, Пешкі і Рустэма, а таксама шэраг габеленаў[2].

Палац ахінаў вялікі парк пейзажна-рэгулярнай планіроўкі, які складаўся з дзвюх частак. Пейзажная частка з сажалкай размешчана перад палацам на чатырох тэрасах, якія спускаліся да ракі. Верхняя тэраса па перыметры была абсаджана чорнай таполяй. На газоне перад палацам існаваў сонечны гадзіннік. Алея па падоўжнай восі палаца ішла праз парк да капліцы-пахавальні, у якой навечна спачыў заснавальнік палаца[3].

Перад палацам былі ўязныя вароты з вазамі ў стылі ампір. Палац — характэрны ўзор забудовы сядзібна-паркавага ансамбля з рысамі архітэктуры позняга класіцызму. Унесены ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Цяпер у ім размешчана сярэдняя школа і вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 7. 1887. S. 725.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 320.*
[3] *Архітэктура Беларусі... С. 380.*
[4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4491).*
[5] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0-119675).*

# Паўлінава
# Pawlinowo
# Павлиново

Палацава-паркавы ансамбль. Размешчаны каля вытокаў р. Качарэшкі, якая праз р. Лахазву нясе свае воды да р. Шчары.

Паводле даследавання мясцовага краязнаўцы М.Берната, у 1897 г. беларускі шляхціц Ян Отан Бохвіц набыў гэтыя землі ў Навіцкіх, спачатку размясціў тут свае гаспадарчыя пабудовы, потым заклаў сад і разбіў пейзажны парк. На р. Лахазва пабудаваў вадзяны млын, непадалёку ў лесе працавала смалакурня для вырабу шкіпінару і мазуту. У 1906 г. Бохвіц заклаў падмурак багатага палаца, будаўніцтва якога завяршыў у 1909 г. На той час у маёнтку Паўлінава было 7 двароў з 45 жыхарамі.

Гаспадар Паўлінава Ян Отан Бохвіц быў сынам выдатнага філосафа і пісьменніка Фларыяна Бохвіца і Паўліны Маеўскай, роднай сястры Барбары Маеўскай (маці А.Міцкевіча)[1]. Сам Ян Бохвіц маладым афіцэрам гусарскага палка прымаў удзел у Крымскай вайне, а



Паўлінава. Паркавы фасад палаца. 1914 г.[2]

пасля яе заканчэння атрымаў шырокую папулярнасць у родных мясцінах сярод сялян як гарачы прыхільнік скасавання прыгонніцтва. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г. быў кінуты за краты ў Дынабургскую крэпасць. Пасля года турмы шчыра ўзяўся за працу па аднаўленні разбураных уласных сядзіб. Спачатку адбудаваў палац каля в. Вошкаўцы (цяпер



Паўлінава. Сучасны выгляд бакавога і цэнтральнага фасадаў[3].

Ураджайная), што пад Ляхавічамі, і назваў яго імем бацькі — Фларыянава, а закладзены новы палацава-паркавы ансамбль на р. Качарэшцы імем сваёй маці — Паўлінава. На сённяшні дзень як у Фларыянаве, так і Паўлінаве захаваліся арыгінальныя і ў многім падобныя палацы.




Паўлінава. Схема парку[4].

Паўлінаўскі палац у плане прамавугольны, мае тры паверхі, трэці паверх мансардавы. Усе чатыры франтоны трактаваны ў стылі неаготыкі, завершаны зубчатымі вежкамі.

Дзякуючы таму, што пасля вайны і да 1990-х гадоў ансамбль выкарыстоўваўся як ваенны шпіталь, ён не стаў ахвярай разбурэння.

Добра захаваўся пейзажны парк. Ён займае плошчу каля 7 га, мае форму квадрата. У парку ёсць прыгожая сажалка.

На сённяшні дзень Паўлінаўскі палацава-паркавы ансамбль цікавы як гаспадарчы аб'ект, у якім можна





размясціць турыстычна-гасцінічны комплекс альбо санаторную школу для дзяцей.

[1] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі X—XIX стагоддзяў. Мн., 1995. С. 375.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... T. 11. S. 469.*
[3] *Фота аўтара. 1998 г.*
[4] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

# Першамайскі
# Perwszemajskie
# Первомайский

Колішняя сядзіба роду Станкевічаў. У пасляваенны час сядзібны ансамбль пачаў забудоўвацца і на яго месцы сфарміраваўся пасёлак Першамайскі.

Сядзібны дом пабудаваны з цэглы, аднапавярховы, з балконам і высокім чатырохсхільным дахам, разбураны пасля 2-й сусветнай вайны.




*Першамайскі. Схема парку.*

Значная частка парку знішчана пры пабудове стадыёна. Са старадаўніх будынкаў захаваўся толькі склад.

Добра праглядваецца ўязная алея, абсаджаная ліпамі. Асноўны дрэвастой рэшткаў пейзажнага парку складаюць мясцовыя пароды.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

# Сачыўкі
# Soczywki
# Сочивки

Сядзіба размешчана непадалёку ад в. Сталовічы. Радавое гняздо продкаў Ігната Дамейкі, актыўнага ўдзельніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1831 г. у Беларусі, сябра Адама Міцкевіча. У 1884 г. Ігнат Дамейка вярнуўся з Чылі ў Беларусь і разам з сябрам паэтам Антонам Эдуардам Адынцом наведаў маёнтак Сачыўкі,




*Сачыўкі. Схема сядзібы.*

дзе спачылі навечна маці, бабуля і ўсе продкі. У сваім нарысе «Мае падарожжы» Дамейка падрабязна распавядае пра Сачыўскі двор[1].

Спачатку двор належаў бабулі Ігната Дамейкі Анцуце з Валадкевічаў. На той час (пачатак XIX ст.) гэта быў багаты маёнтак, які меў раскошны палац. Цяпер на гэтым месцы з незапамятных часоў узвышаецца магутны дуб, аб якім успамінаў Дамейка.

Пазней, пасля смерці бабулі, двор перайшоў у рукі дзядзькі Ігната Станіслава, потым да маці Дамейкі, якая памерла ў 1831 г. У сярэдзіне XIX ст. быў узведзены новы дом з ганкам, двума пакоямі, спальняй, гасцінай, сталовай.



*Сачыўкі. Будынак колішняга флігеля[2].*

Перад палацам размяшчаўся кветнік з клумбамі. Непадалёку на пагорку стаяла невялікая капліца. Разам з новым палацам быў закладзены вялікі парк плошчай каля 10 га. Ад колішняга маёнтка застаўся флігель, рэшткі гаспадарчых збудаванняў і парку. Аснову яго дрэвастою складаюць дуб, ліпа, граб і іншыя мясцовыя пароды.

Частка сядзібы занята старым пладовым садам. Парк мае мемарыяльнае значэнне, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы. З'яўляецца перспектыўным пры правядзенні рэстаўрацыі.

[1] *Філаматы і філарэты. Мн., 1998. С. 317—322.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*









# Стайкі
# Stajki
# Стайки

Палацава-паркавы комплекс, размешчаны над р. Мейкай, прытокам Дзвеі (Змейкі). Даўняя сядзіба адной з ліній роду Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна — знакамітага рускага пісьменніка[1]. Перад 2-й сусветнай вайной сядзіба належала роду Лашкевічаў.



*Стайкі. Сучасны выгляд палаца[2].*

Ансамбль складаўся з палаца, парку, вазоўні, стайні, аранжарэі, розных гаспадарчых збудаванняў.

Мураваны палац быў закладзены ў 2-й палове XIX—пачатку XX ст. Будынак замкавай формы, мае элементы эклектыкі. Асацыяцыі са старажытным замкам выклікае




*Стайкі. Схема парку[3].*

даволі высокая гатычная вежка, размешчаная на правым баку палаца. Палац двухпавярховы, у плане прамавугольны. Цэнтральная частка галоўнага фасада акцэнтавана неглыбокім рызалітам, завершаным дэкарыраваным шчытком. Цэнтральны ўваход вылучаны парадным ганкам з тэрасай.

Вакол палаца рэшткі пейзажнага парку, які мае плошчу каля 3 га. Захаваліся некалькі гаспадарчых пабудоў. Водная сістэма каналаў абмялела і страціла колішні выгляд.

Пасля перасялення школы ў новы будынак палац знаходзіцца ў занядбаным стане, патрабуе аднаўлення.

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 11. 1890. S. 176.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*
[3] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

# Торчыцы
# Torczyce
# Торчицы

Колішняя сядзіба роду Рудзінскіх. Размяшчалася побач з в.Торчыцы. У склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі сядзібны дом, парк, гаспадарчыя пабудовы, сістэма каналаў і сажалак, фамільны склеп, абсаджаны бэзам.



*Торчыцы. Фрагмент парку[1].*

Новы дом Рудзінскія пабудавалі на месцы старой сядзібы ў 2-й палове XIX ст. Палац быў невялікі, драўляны, аднапавярховы. Парадны фасад яго вылучаны порцікам




*Торчыцы. Схема парку.*









на драўляных слупах. Дах высокі, чатырохсхільны, гонтавы. Быў знішчаны ў пасляваенны час разам з фамільным склепам, дзе спачылі навечна продкі Рудзінскіх. Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў на месцы сядзібы існавала студня з жураўлём, руіны склепа-пахавальні і будынка сыраварні.

Добра захаваўся паркавы комплекс. Побач расце пладовы сад. Кампазіцыя парку моцна парушана, сажалка зарасла, каналы абмялелі і высахлі. Плошча парку складае каля 7 га.

У пасляваенны час на тэрыторыі сядзібна-паркавага ансамбля была пабудавана жывёлагадоўчая ферма, пасля чаго ансамбль паступова знішчаўся.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы[1].

[1] Фота аўтара. 1999 г.

# Трацэвічы
# Tracewicze
# Троцевичи

Колішняя сядзіба. Размяшчалася паміж радзівілаўскай Паланэчкай і верашчакаўскімі Туганавічамі. Належала да вялікай групы дробных правінцыяльных сядзіб.

Спачатку дваром валодаў Эдвард Паўловіч, які выменяў Трацэвічы сярод іншых маёнткаў. Пазней па спадчыне сядзіба адышла да роду Рымшаў. У 2-й палове XIX ст. сядзіба пераходзіць да Францішка Прыходзькі, а пасля яго смерці — дачцэ Марылі, замужняй за Браноўскім. Апошнім гаспадаром Трацэвіч быў іх сын Вітольд Браноўскі.

Можна сцвярджаць, што гаспадары з роду Рымшаў у пачатку XIX ст. узвялі ў Трацэвічах невялікі палац з элементамі класіцызму. Будынак меў шмат падабенства з Туганавіцкай сядзібай і агульны лёс. І той, і гэты былі знішчаны ў час 1-й сусветнай вайны.

З фотаздымка 1914 г. відаць, што будынак меў даволі просты архітэктурны выгляд.

Аднапавярховы палац быў у плане прамавугольны, накрыты гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам з дзвюма парамі сіметрычна размешчаных комінаў.

Да цэнтральнага фасада далучаўся порцік на дзвюх парах калон, на якія абапіраўся трохвугольны шчыток з шырокім акенцам. Пазней шчыток быў перароблены, а калоны сталі больш прысценнымі. Усе фасады будынка гладка атынкаваны. Прамавугольныя вокны мелі даволі вялікія памеры. Аб унутраным выглядзе палаца пакуль ніякіх звестак не знойдзена.




Трацэвічы. Схема сядзібы.

Вядома, што Трацэвічы былі цесна звязаны з асобай Адама Міцкевіча. У часы сваіх доўгіх вандровак па наваколлі Туганавіч ён не адзін раз наведваў суседнія Трацэвічы. Паміж Туганавічамі і Трацэвічамі нават існавала так званая горка Міцкевіча, на якой паэт любіў адпачываць[1].



Трацэвічы. Выгляд палаца. Каля 1914 г.[2]

Маёнтак Трацэвічы ў свой час разам з лугам, лесам, балотам складаў больш за 400 га.

[1] Aftanazy R. Dzieje... S. 385.
[2] Тамсама. С. 385—386.

# Туганавічы
# Tuhanowicze
# Тугановичи

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль. Размяшчаўся каля в. Карчова на р. Сэрвач. Некалі быў радавым гняздом князёў Туганаў. Назва маёнтка, безумоўна, мае татарскае паходжанне. На карысць гэтага сведчаць пазначаныя ў дакументах 1566 і 1570 гг. урочышчы Ардынка (Ардынцоўшчына), Татараўшчына, а таксама «Гай альховы за татарамі», што размяшчаліся ў наваколлі Туганавіч.

У пісьмовых крыніцах Туганава ўпершыню ўпамінаецца пад час праўлення вялікага князя ВКЛ Казіміра (1440—1492). Пры Жыгімонце І Туганавіцкі двор быў ва ўласнасці Масальскіх. У XVI ст. сядзіба належала некальнім гаспадарам: Данэйкам, Нарніцкім, Касцянецкім, Туганоўскім, Трызнам, Азарычам.



Туганавічы. Агульны від на палац і афіцыну. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.[3]











*Туганавічы. Від на бярозу Адама Міцкевіча і капліцу-пахавальню Тугаnоўскіх. З акварэлі У.Дмахоўскага. 1861 г.*[4]

У пачатку XVIII ст. Адам і Юзаф Тугаnоўскія прадаюць маёнтак сваяку Станіславу, потым сядзіба пераходзіць да яго сына Казіміра, які ў 1755 г. прадае вялікую частку Туганавіч Ігнату Вішнеўскаму. У сярэдзіне XVIII ст. двор стаў уласнасцю роду Верашчакаў, якія паходзілі з кобрынскай зямлі. Каля 1840 г. старэйшая дачка Юзафа Верашчакі Соф'я выйшла замуж за Канстанцыя Тугаnоўскага і сядзіба зноў апынулася ва ўласнасці старадаўняга роду Тугаnоўскіх. Апошняй уладальніцай Туганавіч была Юзэфа Тугаnоўская, якая запісала маёнтак сялянскаму таварыству з умовай пабудовы пры двары сельскагаспадарчай школы[1].

У 1815—1820 гг. туганавіцкімі гасцямі часта былі Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнат Дамейка. Лета 1818 г. у Туганавічах прайшло пад знакам рамантычных і палымяных пачуццяў дачкі гаспадыні маёнтка — Марылі Верашчакі і маладога Міцкевіча. Трагічная гісторыя гэтага кахання зрабіла вялікі адбітак у творчасці славутага паэта. Пройдзе час, Міцкевіч раскіне свае магутныя паэтычныя крылы, але ніколі не забудзе гэты беларускі куточак прыроды і зямлі, а пазней напіша: «...і вечна сняцца мне Навагрудак і Туганавічы». Як сцвярджаюць даследчыкі, апісанае ў паэме «Пан Тадэвуш» мяст. Сапліцова цалкам адпавядае тапаграфіі Туганавіцкай сядзібы. Паводле малюнкаў У.Дмахоўскага (1861), Н.Орды (1876), а таксама фотаздымкаў Я.Булгака, Т.Барэцці і К.Карповіча (пачатак XX ст.) вядома, што ў парадней частцы парку быў размешчаны невялікі палац з рысамі позняга класіцызму. Дом меў мансарду і тэрасу на чатырох слупах, флігель з мураваным ганкам і аранжарэю. Кароткая ўязная алея вяла да сядзібных пабудоў. У паўднёва-заходняй частцы парку на ўзгорку размяшчалася капліца-пахавальня (разбураная ў 1914 г.), абсаджаная па перыметры дубамі. У цэнтры парку каля асноўнай алеі знаходзілася альтанка (так званая калыска кахання Марылі і Адама, на жаль, не захавалася) пад шасцю векавымі ліпамі.




*Туганавічы. Схема парку.*

Туганавіцкі парк грунтоўна абследаваў і апісаў А.Т.Федарук[2]. Парк лічыцца класічным узорам пейзажнай паркавай архітэктуры перыяду рамантызму. Ён размешчаны на ўзгорыстай мясцовасці і займае плошчу каля 8 га. Асноўныя элементы кампазіцыі — паляны з курцінамі і далёкімі перспектывамі навакольнага ландшафту. У паўднёва-ўсходняй частцы знаходзяцца дзве сажалкі, а ва ўрочышчы Кут у лясным масіве ляжыць валун — «камень філарэтаў», каля якога А.Міцкевіч, яго сябры Т.Зан, Я.Чачот, І.Дамейка, Ю.Яжэўскі, Ф.Малеўскі і інш. беларускія вальнадумцы давалі клятву адданасці ідэалам свабоды, братэрства і незалежнасці. З Туганавічамі звязаны асобныя падзеі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Уладальнік маёнтка Канстанцый Тугаnоўскі падтрымліваў цесныя сувязі з Кастусём Каліноўскім, дапамагаў яму ў рэвалюцыйнай дзейнасці. У сядзібе працавала майстэрня па вытворчасці зброі для паўстанцаў, якая перапраўлялася ў цэнтр паўстання Мілавіды.

Пасля задушэння паўстання Канстанцый Тугаnоўскі быў арыштаваны і закатаваны ў віленскай турме.

Палац быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну.

Туганавіцкі парк мае мемарыяльнае значэнне. У перспектыве плануецца яго аднаўленне.

---

[1] *Rąkowski G. Ilustrowany przewodnik... S. 250.*
[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 120—123.*
[3,4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4508).*

# Ястрамбель
# Jastrzębiel
# Ястрембель

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль. Размешчаны ў маляўнічым месцы на беразе р. Мышанкі. На пачатку XIX ст. сядзіба стала спадчынным гняздом Катлубаяў, род якіх мае татарскае паходжанне. Першым вядомым уладальнікам Ястрамбеля быў Міхаіл Катлубай, які служыў рахункаводам пры Радзівілаўскай камісіі, затым гаспадаром сядзібы стаў сын Міхаіла паручнік Генрых Катлубай, які атрымаў сядзібу ў 1864 г. Разам з Генрыхам маёнткам валодаў і яго старэйшы брат, вядомы гісторык Эдвард Катлубай, які нарадзіўся ў Вільні ў 1822 г. За ўдзел у паўстанні 1863 г. у Катлубаяў быў канфіскаваны адзін з маёнткаў у Трокскім павеце. Пасля Эдварда палацам валодаў яго сын Генрых, удзельнік руска-турэцкай вайны, вядомы ваенны доктар. Апошнімі гаспадарамі да прыходу савецкай улады былі сыны









*Ястрамбель. Сучасны выгляд палаца[4].*

Генрыха Міхаіл і Эдвард[1]. Ансамбль уключаў мураваны палац, пабудаваны ў 1897 г., парк, капліцу, бровар, стайню, вазоўню і іншыя гаспадарчыя аб'екты.

Палац мае форму асіметрычнага ступеньчатага збудавання. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца чатырох'ярусная шатровая вежа. Аснова кампазіцыі — двухпавярховы будынак палаца, да якога далучаны рознавялікія аб'ёмы. Галоўны фасад вылучаны неглыбокім рызалітам на двух вялікіх слупах. Да параднага ўвахода вядзе двухбаковы пандус з балюстрадай. З дваровага фасада будынак ахінае тэраса. Фасады апрацаваны рустам, карнізамі з сухарыкамі, аконныя праёмы дэкарыраваны пілястрамі, ліштвамі, разеткамі, што надае палацу прывабны выгляд і асаблівую арыгінальнасць[2].




*Ястрамбель. Схема парку.*

Палац і яго гаспадарчыя збудаванні абкружаны невялікім пейзажным паркам перыяду эклектыкі. Парк займае роўную, крыху паніжаную, прамавугольную тэрыторыю плошчай 6 га. Да парку далучаны пладовы сад. Уязная кляновая алея вельмі шырокая (10 м), дрэвы высаджаны праз чатыры метры. Яна ішла перпендыкулярна асноўнай восі кампазіцыі, перасякаючы ўсю сядзібу. Уезд фіксаваны варотамі, да якіх быў далучаны будынак стайні (разбураны). За ўсходняй параднай часткай сядзібы размешчана штучная сажалка. Вось перспектывы ад палаца падкрэслена парай куліс з белай таполі. Па перыметры сажалкі раслі ніцыя вербы, а перад домам захаваліся адзінкавыя старыя дрэвы мясцовых парод. Заходняя частка парку перапланавана ў рэгулярным стылі[3].

Сажалка парку мела не толькі планіровачна-дэкаратыўнае значэнне, але і была водазаборам, прымаючы ваду па бакавых каналах. Лішкі вады па цэнтральным канале сцякалі ў р. Мышанку. Водная сістэма сёння парушана, каналы абмялелі. Парк у значнай ступені відазменены. Тут узведзена шмат новых будынкаў школы-інтэрната, у выніку чаго палац прыйшоў у заняпад. У сучасны момант пачата яго аднаўленне.

[1] *Белы А. Што пакінем нашчадкам? // Дыялог. 1997. №6(39). С. 12.*
[2] *Rąkowski G. Ilustrowany przewodnik... S. 94.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 191.*
[4] *Фота М.Берната. 1998 г.*

# Ясянец
# Jasieniec
# Ясенец

Мемарыяльная сядзіба, у якой нарадзіўся Яўхім Храптовіч (4.1.1729—4.3.1812), знакаміты дзяржаўны і грамадскі дзеяч Беларусі, апошні канцлер ВКЛ пры апошнім каралі Рэчы Паспалітай Станіславе Аўгусце Панятоўскім. Яўхім Храптовіч быў заснавальнікам вядомай Шчорсаўскай бібліятэкі, стваральнікам Адукацыйнай камісіі — першай у Еўропе дзяржаўнай установы, якая пачала сістэмна і мэтанакіравана займацца народнай асветай[1].

Сядзіба была размешчана ў маляўнічай мясцовасці на захад ад Паланэчкі над р. Сэрвач. Некалі ўваходзіла ў склад уласных зямель Панятоўскіх, а ў XIX—1-й палове XX ст. перайшла ў спадчыну Верашчакаў — Міхаілу, роднаму брату Марылі Верашчакі.



*Ясянец. Выгляд палаца. Каля 1914 г.[2]*












*Ясянец. Схема сядзібы.*

Да 1-й сусветнай вайны Верашчакі жылі ў старадаўнім мураваным сядзібным доме, сярэдняя цэнтральная частка якога была ўзведзена, магчыма, яшчэ ў XVIII ст., а іншыя памяшканні ўзніклі значна пазней.

Будынак дома ў плане прамавугольны, трохвосевы, на нізкім падмурку, меў з фасада даволі вялікі порцік на дзвюх парах масіўных калон. Калоны са стылізаванымі капітэлямі неслі гладкі антаблемент і трохвугольны франтон, акантаваны карнізам, з невялікім шчытком, з вузкім дахавым акенцам.

Да цэнтральнага будынка былі дабудаваны кутавыя памяшканні, завершаныя двухсхільным дахам з аналагічнымі невялікімі шчыткамі.

Фасады палаца не мелі якіх-небудзь дэкаратыўных элементаў. Да тыльнай часткі галоўнага будынка была дабудавана тэраса. Сярэдняя частка накрыта высокім чатырохсхільным гонтавым дахам з двума сіметрычна размешчанымі комінамі. На правым баку палаца стаяў аднапавярховы будынак афіцыны з высокім дахам, накрытым гонтай. Пасля 2-й сусветнай вайны палац быў разбураны.

Палац ахінаў вялікі пейзажны парк, у асноўным з мясцовых парод дрэў. Рэшткі парку захаваліся да сённяшняга часу. Месца размяшчэння сядзібы мае мемарыяльнае значэнне, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1, 2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 226.*




# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Бярозаўскага раёна





# Бяроза-Картузская
# Bereza-Kartuska
# Береза-Картузская

У пісьмовых крыніцах Бяроза ўпершыню ўпамінаецца ў 1477 г. Належала заможным прадстаўнікам беларускай шляхты: Гамшэям-Вяшторгам, Гастоўскім, Рудзінскім, з канца XVI ст. — магнацкаму роду Сапегаў. У 1648 г. Казімір Леў Сапега, падканцлер ВКЛ, выступіў фундатарам будаўніцтва ў Бярозе кляштара ордэна картэзіянцаў, за што Папа Рымскі Аляксандр VII дараваў яму тытул князя. У гадавіну смерці Казіміра Льва Сапегі 6 чэрвеня 1666 г. кляштар быў асвячоны віленскім біскупам Аляксандрам Сапегам[1].



*Бяроза-Картузская. Выгляд кляштара з усходняга боку. З малюнка Б.Падбельскага. 1861 г.*[2]

У час Паўночнай вайны ў 1706 г. кляштар і сад сталі месцам сустрэчы расійскага цара Пятра I і караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II. У 1831 г. кляштар быў закрыты і канфіскаваны з-за актыўнага ўдзелу манахаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні.

Цаскія ўлады перадалі кляштар ваенным, а касцёл праваслаўным. У 1866 г. значная частка пабудоў кляштара была разабрана, цэгла выкарыстана для будаўніцтва ваенных казармаў, а сад паступова забудаваны.



*Бяроза-Картузская. Кляштар. Заходні бок. З акварэлі Напалеона Орды. 1860-я гады*[3].

Адначасова з будаўніцтвам ваеннага гарадка пры казармах быў закладзены рэгулярны парк плошчай каля 5 га, які да 1870 г. быў у асноўным сфарміраваны. Параўнальна добра захавалася аснова дрэвастою ў выглядзе лінейных пасадак па перыметры баскетаў. Узрост некаторых дрэў дасягае 100—120 гадоў.




*Бяроза. Схема рэшткаў парку*[4].

У выглядзе адзінкавых экзэмпляраў у парку існуюць рэдкія экзоты.



*Бяроза. Руіны кляштара*[5].

Парк паступова забудоўваецца, адсутнічае агароджа, вялікую шкоду яму наносіць адкрытая для грузавога транспарту цэнтральная вуліца. Парк мае перспектыву ад-



*Бяроза. Фрагмент парку*[6].







наўлення. Пры гаспадарскім падыходзе ў ім можа быць сфарміраваны унікальны культурны асяродак.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 48.*
[2] *Tygodnik Ilustrowany. 1861. № 99.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4314).*
[4] *Схемы паркаў падрыхтаваны службамі аддзела культуры і галоўнага архітэктара Бярозаўскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*
[5, 6] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Аранова
# Oranowo
# Ораново

Колішняя сядзіба. Размяшчалася паміж вёскамі Мінкі, Карпяшы і Свадзьбічы, за 0,5 км ад старой шашы Брэст — Мінск. Сядзіба належала старадаўняму беларускаму роду Стасевічаў. Апошнім гаспадаром двара з'яўляўся Фелікс Стасевіч[1].



*Аранова. Уязная алея да сядзібы[2].*

У гады 1-й сусветнай вайны будынкі сядзібы былі значна пашкоджаны, затым адбудаваны.

У сучасны перыяд засталіся невялікія рэшткі некалі раскошнага парку. Захавалася ўязная бярозавая алея, рэшткі бэзавай пасадкі. На тэрыторыі парку пасля вайны быў разбіты калгасны пладовы сад.




*Аранова. Схема сядзібы.*

Палац быў мураваны, аднапавярховы, накрыты гонтавым дахам, знішчаны адразу пасля вайны. Пра яго існаванне напамінаюць сядзібныя падмуркі прамавугольнай формы, калодзеж, груды бітай цэглы.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Апісанне сядзібы зроблена на падставе ўспамінаў Ф.Гутоўскага (Варшава).*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Габрыялін
# Gabryelin
# Габриелин

Колішні палацава-паркавы комплекс. Размешчаны за некалькі кіламетраў на паўднёвы ўсход ад в. Малеч. Перад 2-й сусветнай вайной Габрыялін належаў роду Гутоўскіх.

Маёнтак закладзены прыкладна ў 1800 г. Влодкам Шчасным, які выкупіў малецкія землі ў генерала Румянцава і назваў сядзібу імем сваёй жонкі Габрыэлі. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г. царскі ўрад канфіскаваў маёнтак і перадаў яго расійскаму генералу Салагубаву, у якога маёнтак выкупіў Аляксандр Гутоўскі. Апошнім гаспадаром двара да 1939 г. з'яўляўся Станіслаў Гутоўскі.

Аб дакладнай даце ўзвядзення тут мураванага палаца невядома, але, паводле ўспамінаў нашчадка роду Гутоўскіх — Ф.Гутоўскага, палац, верагодней за ўсё, быў пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. Дом быў вялікі, накрыты гонтай, меў падвальнае памяшканне, у якое магла свабодна заехаць гружаная падвода. У палацы было каля 10 жылых памяшканняў, гасціная, пярэдняя, бібліятэка,




*Габрыялін. Схема парку (праект рэканструкцыі).*





падлога якіх была выкладзена рознакаляровым паркетам. У будынку меліся грубкі з каляровай кафлі. Некалі побач з палацам размяшчалася майстэрня, дзе выраблялася зброя для паўстанцаў 1863 г.

Палац абкружаў вялікі пейзажны парк. Да яго вяла доўгая ўязная алея, абсаджаная ліпамі. У цэнтры парку была вялікая сажалка, у якой плавалі лебедзі. Сажалка мела дэкаратыўнае значэнне.

Па перыметры парку існавалі прагулачныя алеі. Асноўны дрэвастой: граб, акацыя, дуб, ліпа, ясень, клён, шыпшына, бэз і інш. Некторыя экзатычныя дрэвы былі завезены з розных куткоў свету. З двух бакоў парк быў абнесены неглыбокім ровам і насыпам.

У 1950-я гады палац быў разабраны для будаўніцтва Малецкай сярэдняй школы.

У сядзібе існавалі стайня, свіронак, домік для галубоў, абора і інш. гаспадарчыя аб'екты, якія таксама былі разабраны.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У 1993 г. у наваколлі Габрыяліна быў знойдзены скарб рымскіх срэбраных дэнарыяў (408 штук). Гэта адзін з самых вялікіх і каштоўных скарбаў, якія былі знойдзены за апошнія 200 гадоў у Беларусі[1].

[1] *Сяленя Я. Бярозаўшчына — наша Бацькаўшчына. Бяроза, 1997. С. 44.*

# Кабакі
# Kabaki
# Кабаки

Палацава-паркавы комплекс. Першае ўпамінанне пра в. Кабакі сустракаецца ў актах рэвізіі Кобрынскай эканоміі, праведзенай у 1563 г. каралеўскім рэвізорам Дзмітрыем Сапегам[1]. Пасля падаўлення паўстання 1794 г. і 3-га падзелу Рэчы Паспалітай расійская імператрыца Кацярына II падаравала Кабакі фельдмаршалу графу П.А.Румянцаву, які хутка прадаў іх роду Ягмінаў. Новы гаспадар таксама вымушаны быў прадаць Кабакі аднаму з прадстаўнікоў мясцовай шляхты Влодку, які гаспадарыў у маёнтку амаль цэлае стагоддзе. У пачатку XX ст. Соф'я Влодка выходзіць замуж за Вітольда Свянціцкага, з гэтага часу і да 2-й сусветнай вайны Кабакоўскі двор належаў роду Свянціцкіх.

Некаторыя крыніцы сведчаць, што перад паўстаннем 1863 г. пры гаспадаранні Влодкаў у Кабаках быў узведзены даволі прыгожы мураваны палац. Пасля задушэння паўстання царскія ўлады частку маёнтка канфіскавалі, але палац застаўся ва ўласнасці Влодкаў.



*Кабакі. Галоўны фасад палаца. 1914 г.[4]*

Будынак палаца ў плане прамавугольны, меў два аднапавярховыя сіметрычна размешчаныя крылы з рызалітамі і невялікімі балконамі.

Сярэдняя частка палаца ад параднага пад'езда была двухпавярховая. 2-і паверх меў тэрасу з балюстрадай на трох аркадах і завяршаўся трохвугольным порцікам[2].



*Кабакі. Колішні дом слуг. Пабудаваны ў пачатку XX ст.[5]*

Разам з будаўніцтвам палаца быў закладзены прасторны парк. Добра захавалася ўязная алея, маецца сажалка плошчай 0,3 га. На тэрыторыі палацава-паркавага ансамбля працуе бровар, вапнавы кар'ер, захаваўся двухпавярховы цагляны будынак, у якім жылі некалі панскія слугі, а таксама стадола. Бровар быў пабудаваны ў 1880-я гады[3].

Будынак палаца ў 1939 г. быў моцна пашкоджаны, а ў 1950-я гады разабраны насельніцтвам як будаўнічы матэрыял. Застаўся падмурак у выглядзе літары «Т».

Рэшткі парку і будынкі сядзібы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 70.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 58.*
[3] *Сяленя Я. Бярозаўшчына — наша Бацькаўшчына... С. 6.*
[4] *Aftanazy R.Dzieje... S. 58.*
[5] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Лясковічы
# Leskowicze
# Лесковичи

Колішняя сядзіба роду Бічоў[1]. Апошнім гаспадаром фальварка быў Ян Біч. Размяшчаўся фальварак побач з в. Малыя Лясковічы.

У сядзібна-паркавы ансамбль уваходзілі сядзібны дом, парк, шэраг гаспадарчых пабудоў.

Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы ў плане, меў форму выцягнутага прамавугольніка. Па цэнтры галоўнага фасада меўся невялікі ганак, які быў цалкам увіты вінаградам. Вокны ў плане прамавугольныя, шасці-










*Лясковічы. Галоўны фасад сядзібнага дома. 1936 г.*[2]

секцыйныя з аканіцамі. Дах нізкі чатырохсхільны, з двума комінамі і дахавымі вокнамі, накрыты жалезам.

Дом узведзены ў 2-й палове XIX ст. Разам з будаўніцтвам дома быў закладзены невялікі пейзажны парк з сістэмай каналаў і сажалак. Побач размяшчалася сакральная капліца.



*Лясковічы. Сакральная капліца*[3].

У пасляваенны перыяд на месцы сядзібнага ансамбля размясціўся калгасны механічны двор. Дом быў разабраны, сажалкі, каналы і парк знішчаны.

Лясковіцкі сядзібна-паркавы ансамбль належыць да ліку страчанай гістарычнай спадчыны.

[1] *Диков П. Список землевладений в губернии. Гродно, 1890. С. 201.*

[2,3] *Archiw dokumentacji mechanicznej. Warszawa. Foto: K. Niedobitowski, 1936 (IKCN — 3334).*

# Малеч
# Malecz
# Малеч

Колішняя сядзіба. Паводле друкаваных крыніц, мястэчка, праваслаўная царква і маёнтак у Малечы ўпамінаюцца ў 1563 г. Як запісана ў акце рэвізіі Кобрынскай эканоміі, праведзенай каралеўскім рэвізорам Дзмітрыем Сапегам, на той час вакол вёскі ляжала 39 валок сярэдняй па якасці зямлі. На ўсход ад вёскі, паблізу могілак, размяшчаўся некалі курган. Гэта месца спрадвечна мясцовыя жыхары называюць «Капітанкай». У XIX ст. маёнтак належаў роду Шведаў[1].

У канцы XIX ст. Малецкі двор перайшоў да роду Завадскіх, якія пабудавалі тут арыгінальны палац і заклалі вакол яго даволі вялікі парк. Пасля 2-й сусветнай вайны і да сённяшняга часу сядзіба выкарыстоўваецца пад санаторна-лясную сярэднюю школу.



*Малеч. Паркавы фасад палаца*[2].




*Малеч. Схема сядзібы.*

Пад час будаўніцтва новай школы палац у Малечы быў перабудаваны. Частка яго захавана і ў ім размешчаны спальны корпус школы.

Парк мае плошчу каля 3 га, добра захаваўся дрэвастой. Асноўнымі пародамі з'яўляюцца клён, каштан, ліпа. Парк мае перспектыву, патрабуе рэканструкцыі, аднаўлення і ўзяцця пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 89.*

[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Марывіль (Марвіль)
# Morewil
# Моревиль

Колішняя сядзіба, якая належала старадаўняму беларускаму роду Леяў нямецкага паходжання. Прадстаўнікі адной з ліній графаў Нейгофаў-Леяў прыехалі і аселі ў Беларусі яшчэ ў пачатку XVIII ст. Фальварак Марывіль





разам з Машковічамі, Маліннікам, Равяцічамі, Пад'яблонню ўваходзіў у склад маёнтка Сігневічы. У канцы XIX ст. гаспадаром Марывіля быў граф Рамуальд Нейгоф-Лей[1].

У канцы XIX ст. Нейгофамі-Леямі ў Марывілі быў пабудаваны сядзібны дом і закладзены вялікі пейзажны парк. Дом драўляны, аднапавярховы, мансардавы, з высокім дахам, накрытым гонтай. Унутраная аздоба дома вылучалася сціпласцю. Меліся гасціная, кухня, спальні, бібліятэка, рабочы кабінет гаспадара.

Перад домам размяшчаўся шырокі травяны газон з кветнікамі. Асноўны дрэвастой парку складалі ліпа, таполя, дуб, каштан, шэраг дэкаратыўных кустоў.

У савецкі час на тэрыторыі сядзібы Марывіль размяшчаліся па чарзе вайскоўцы, школьны лагер для адпачынку дзяцей, клуб, сталовая, затым пачалася забудова цэнтральнай сядзібы Сігневіцкага будаўнічага ўпраўлення па меліярацыі зямель. Цяпер тут узнік новы пасёлак. Стары панскі дом перабудаваны, а гаспадарчыя пабудовы разабраны, парк поўнасцю забудаваны жыллём.

Засталіся адзінкавыя дрэвы колішняга парку.

---

[1] *Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии... С. 200.*

# Паўлінава
# Pawlinowo
# Павлиново

Колішні фальварак, радавое гняздо Барэйшаў. Найбольш заможным нашчадкам гэтага роду быў Міхаіл Барэйша, які гаспадарыў на міжлескіх землях у 2-й палове XIX ст. Міхаіл меў вялікую сям'ю і падзяліў землі маёнтка паміж дочкамі і сынамі: Паўлінай, Геленай, Касцюком, Лёўкам і Мацвеем. Ад іх імёнаў, паводле мясцовага падання, быццам, пайшлі назвы фальваркаў і вёсак: Гелянова, Паўлінава, Касцюкі, Лёўкавічы, Мацвеевічы і Міхалкі. Барэйшы былі актыўнымі ўдзельнікамі нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі ў 1863 г.

Апошнім гаспадаром Паўлінаўскай сядзібы з'яўляўся Платон Карпінчык.

Пры Барэйшах у Паўлінаве быў пабудаваны аднапавярховы драўляны сядзібны дом, шэраг гаспадарчых аб'ектаў. Дом меў 2 ганкі ад галоўнага пад'езда і парку, быў накрыты двухсхільным гонтавым дахам. З прыходам



*Паўлінава. Фрагмент парку. На першым плане царква[2].*



*Паўлінава. Галоўны фасад сядзібнага дома.1939 г.[3]*

савецкай улады ў 1939 г. у панскім доме была адкрыта сельская школа, у канцы 2-й сусветнай вайны будынак быў спалены.

Адначасова з будаўніцтвам сядзібнага дома Барэйшы заклалі невялікі пейзажны парк, пабудавалі сямейную капліцу. У 1960-я гады капліца была закрыта і разбурана, а ў 1995 г. адноўлена прыхаджанамі пад праваслаўную царкву[1].

Парк захаваў асноўныя рысы кампазіцыі. Тут існуюць ліпавыя алеі, адзінкавыя векавыя каштаны, елкі, бярозы і іншыя дрэвы.




*Паўлінава. Схема сядзібы.*

Некалі в. Міжлессе складалася з дзвюх частак: паўночнай, якая мела назву Дварок, і паўднёвай — Лёўкавічы. У Дварку захавалася месца, дзе калісьці стаяў панскі дом, цяпер яшчэ растуць адзінкавыя векавыя дрэвы, засталіся абвадны канал і невялікія сажалкі.

Паўлінаўскі парк абкружае праваслаўную царкву і разам з ёй складае адзіны ансамбль, які патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Апісанне зроблена паводле ўспамінаў старажылаў М.Сіліча і Н.Касмянчук.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*
[3] *Фамільны архіў Н.Касмянчук.*









# Сігневічы
# Siehniewicze
# Сигневичи

Сядзіба-паркавы комплекс. Размяшчаецца за 2 км на поўнач ад в. Сігневічы. Дзякуючы таму, што пасля вайны ў сядзібе была размешчана ўчастковая бальніца, парк і сядзібны дом засталіся яшчэ не зруйнаваныя. Але пасля ліквідацыі бальніцы ў пачатку 1990 г. паркавы комплекс паступова прыходзіць у заняпад, а будынак сядзібы разбураецца.

Сядзіба ў Сігневічах згадваецца ў дакументах 1519 г. У 2-й палове XVI ст. Сігневічы належалі роду Гамшэяў-Вяштортаў, а ў 1584 г. — Вішэнскіх. У XVIII ст. уладальнікамі Сігневіч былі Юзаф і Марыя з Халецкіх-Прозараў, якія ў 1785 г. узвялі ў Сігневічах мураваны касцёл[1].



Сігневічы. Галоўны фасад сядзібы[3].

З 2-й паловы XIX ст. Сігневіцкі маёнтак разам з фальваркамі Машковічы, Марывіль, Маліннік, Пад'яблонь, Пяцелева знаходзіўся ў адной з ліній графаў Нейгофаў-Леяў, якія прыехалі і аселі на Беларусі яшчэ ў пачатку XVIII ст. Гаспадаром Сігневіч у канцы XIX ст. з'яўляўся граф Рамуальд Нейгоф-Лей[2].

Парк пры належным гаспадаранні мае перспектыву выкарыстання, добраўпарадкавання і аднаўлення. Плошча парку складае больш за 5 га. Захавалася ліпавая альтанка з правага боку ад асноўнага будынка сядзібы. У



Сігневічы. Фрагмент парку[4].




Сігневічы. Схема парку.

паўночнай частцы парку існуе невялікая сажалка, але яна паступова забруджваецца.

Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны, з высокім двухсхільным дахам, на цагляным падмурку. Закладзены прыкладна ў 1880-я гады. Па цэнтры ад параднага ўвахода знаходзіцца ганак на чатырох мураваных калонах.

Сігневіцкая сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 103*
[2] *Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии... С. 200.*
[3,4] *Фота аўтара. 1999 г*

# Спорава
# Sporowo
# Спорово

Колішняя сядзіба. Некалі належала даўняму роду Шырмаў, які шырока распаўсюдзіўся на Палессі ў XIX ст. Апошні гаспадар Спораўскага двара Ігнацій Лях-Шырма быў стрыечным унукам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. Вядома таксама, што родная сястра Касцюшкі Жулкоўкая была пахавана на спораўскіх могілках[1]. Ігнацій Шырма меў 3 дачкі, паміж якімі раздзяліў



Спорава. Палац Красіцкіх. Галоўны фасад[2].

3 маёнткі. Пры гэтым Спораўская сядзіба дасталася Марыі, якая была замужам за Ігнаціем Красіцкім. Марыя Красіцкая мела дваіх дзяцей: дачку Алену і сына Уладзіслава, якія былі апошнімі гаспадарамі Спорава.

Спораўскі сядзібны дом, які быў пабудаваны ў 2-й





палове XVIII ст. адным з продкаў Шырмаў — пінскім старостам, існаваў да 1939 г. Палац у плане прамавугольны, аднапавярховы, узведзены з дрэва на высокім падмурку.

З боку ўезда палац акцэнтаваны ганкам на дзвюх парах шырока пастаўленых мураваных калон. На трохвугольным шчыце ганка мясцілася вялікае паўкруглае дахавае акно. Будынак меў чатырохсхільны дах, накрыты гонтай, шэраг пакояў, вялікую пярэднюю і гасціную. Пасля смерці апошняга гаспадара з лініі Шырмаў палац застаўся незаселеным. Рэзідэнцыя новых гаспадароў была ў іншых маёнтках. Спораўскі двор яны наведвалі рэдка, толькі ў час палявання на азёрах на дзікіх птушак. Таму маёнтак не пашыраўся, а пазней быў падзелены паміж трыма спадкаемцамі. Пад час 1-й сусветнай вайны часткова спалены, але зноў быў адноўлены. У некаторых пакоях існавалі паркетная дубовая падлога, багата аздобленыя маляваныя каміны, мэбля мясцовай работы і некалькі партрэтаў з роду Шырмаў. Але ўсё гэта разам з палацам было знішчана ў час 2-й сусветнай вайны.

Перад домам існаваў шырокі газон авальнай формы. Вялікага парку пры двары ў Спораве не было. Тым не менш вакол палаца раслі старыя ліпы і дубы. Адзіны флігель стаяў не з боку параднага газона, як было звычайна ў Беларусі, а на правым баку ад тылу дома. Служыў ён у якасці жылля для слуг і прыёму гасцей.

Спораўская сядзіба належыць да ліку страчанай гісторыка-культурнай спадчыны Берасцейшчыны.

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 358.*
[2] *Polesie ocalić od zapomnienia. Lublin, 1998. S. 122.*

# Старыя Пескі
# Pieski Stare
# Старые Пески

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль. Паводле пісьмовых крыніц, гісторыя Пескаў вядома з часоў караля Аляксандра Ягелончыка, які ў 1503 г. падараваў вёску аднаму са сваіх адданых ваяроў Дзмітрыю Кіяніну. Яго нашчадак Пётр перадаў Пескі сваёй дачцэ Сухадольскай, якая падзяліла сядзібу паміж трыма дочкамі — Рагінскай, Суруцавай і Альшэўскай. Дачка Суруцавай Барбара была замужам за Якубам Пуслоўскім, які выкупіў частку Пескаў ад Рагінскіх, а бяздзетны Альшэўскі запісаў сваю частку на Барбару.

Такім чынам, амаль увесь маёнтак зноў апынуўся ў адных руках, і з XVII ст. да 1939 г. Пескі з'яўляліся галоўнай рэзідэнцыяй графаў Пуслоўскіх (герб «Шэліг»). Вядома, што Якуб Пуслоўскі (1572—1638) браў удзел у гістарычным паходзе на Маскву пад кіраўніцтвам выдатнага военачальніка ВКЛ Яна Хадкевіча. З гістарычных аб'ектаў часоў Якуба Пуслоўскага ў Песках практычна нічога не засталося, толькі ходзіць да сённяшняга часу паданне, быццам на востраве раслі 2 магутныя дубы, пасаджаныя Якубам, якія яшчэ ў пачатку XX ст. насілі яго імя[1].

Значна ажывілася жыццё ў Песках пры гаспадаранні ўнука Якуба Казіміра Міхаіла Пуслоўскага, параднёнага з магнацкімі сем'ямі Вішнявецкіх і Сабескіх. Службу


*Старыя Пескі. Агульны выгляд сядзібы. З акварэлі Напалеона Орды. 1865 г.*[8]










*Старыя Пескі. Брама[9].*

Казімір Пуслоўскі пачаў гусарскім афіцэрам, потым атрымаў чын палкоўніка і быў абраны дэпутатам Літоўскага трыбунала ад Берасцейскага ваяводства, а ў канцы жыцця выконваў функцыі паўнамоцнага прадстаўніка гетмана ВКЛ Казіміра Сапегі на Варшаўскім сейме і мясцовых сейміках.

Казімір Міхаіл Пуслоўскі з'яўляецца заснавальнікам у XVIII ст. выдатнай рэзідэнцыі ў Песках, а яго пляменнік Вандалін пабудаваў у 1838 г. раскошны Касаўскі палац каля сядзібы Людвіка Касцюшкі, дзе ў 1746 г. нарадзіўся славуты дзяржаўны і ваенны дзеяч Андрэй Тадэвуш Касцюшка.

Як выглядала рэзідэнцыя Казіміра Міхаіла Пуслоўскага — невядома, магчыма, з таго часу захавалася толькі брама з мастком, а магчыма і старадаўняя вежа — помнік каля в. Альшэва. Як сцвярджаюць мясцовыя даследчыкі, на тэрыторыі Пескаўскага маёнтка ў канцы XVIII ст. Пуслоўскімі былі пабудаваны 2 вежы. Першая непасрэдна пры ўездзе ў сядзібу (не захавалася), другая — паблізу в. Альшэва, дзе размяшчаўся гаспадарчы двор графства (цяпер аднаўлена). Помнікі-вежы павінны былі ўвасабляць магутнасць і заможнасць роду Пуслоўскіх. Яны былі пабудаваны з цэглы, атынкаваны і завершаны дубовымі крыжамі.




*Старыя Пескі. Схема парку: 1 – сядзібны дом; 2 – стайня; 3,4 – брамы; 5 – бровар[10].*

Сын Казіміра загадкава загінуў яшчэ зусім маладым пры адпраўцы на ваенную службу. Пасля яго засталіся 2 малалетнія сыны, апекунамі якіх сталі Радзівілы і Ажэшкі. Маёнтак Пескі па спадчыне перайшоў да старэйшага брата Францішка, які ажаніўся з Разаліяй Масальскай. Францішак быў у сяброўскіх адносінах з бацькам Тадэвуша Касцюшкі, вельмі любіў прыроду, быў аматарам батанікам, служыў камергерам у караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Менавіта Францішак Пуслоўскі лічыцца фундатарам унікальнага палаца і заснавальнікам прыгожага парку, фрагменты якога захаваліся да сённяшняга часу.

На жаль, галоўны будынак палацава-паркавага ансамбля згарэў у 1843 г. пад час прыгатавання вячэры з нагоды вяртання графскай світы з палявання ў Мерачоўшчыне.

Вядомы пісьменнік Юльян Урсын Нямцэвіч, ураджэнец і гаспадар Скокаўскага палаца, што пад Брэстам, у 1819 г. наведаў Пескі і пакінуў аб іх добрыя ўспаміны. Будынак палаца, як пісаў Нямцэвіч, быў надта прывабны, з мноствам пакояў, упрыгожаных шэрагам палотнаў, абразоў, габеленаў. З акон палаца адкрываўся захапляльны від на спакойныя воды Чорнага возера, густа ўсеянага рыбацкімі лодкамі[2]. Юльяна Нямцэвіча тады гасцінна прымаў гаспадар Пескаў — граф Войцех Пуслоўскі (1762—1833), пасол чатырохгадовага сейма, маршалак Слонімскага павета.

Войцех Пуслоўскі з'яўляўся фундатарам і арганізатарам будаўніцтва шэрагу палацаў і храмаў: капліцы ў Целяханах (1817), парафіяльных касцёлаў у Альшэве (1809), Шыдловічах, Хомску (пачатак XIX ст.), уніяцкай царквы ў Гарадзечне (1825) і інш. Як сцвярджаў Ю.Нямцэвіч, Альшэўскаму касцёлу разам з фамільнай капліцай па архітэктурных і мастацкіх вартасцях не было роўных у акрузе і такіх было мала на Літве.

Пасля вайны 1812 г. Войцех меў гонар прыняць у адным са сваіх маёнткаў Міхаліне расійскага імператара Аляксандра I[3]. На той час, калі Пескаўскі палац згарэў (1843), гаспадаром Пескаў быў сын Войцеха і Юзафіны Друцкай-Любецкай граф Францішак Ксаверы Пуслоўскі, маршалак віленскі, які служыў пэўны час пры амбасадзе Расіі ў Парыжы і Пескі наведваў вельмі рэдка. Да яго прыезду пад жылыя пакоі быў прыстасаваны адзін з уцалелых павільёнаў, потым пад жыллё была перабудавана адна са стайняў, якая мясцілася насупраць згарэўшага палаца.

Знаходзячыся пад уражаннем заходнееўрапейскай архітэктуры, Францішак меў вялікае жаданне пабудаваць у Песках новы палац у «французскім» стылі, але яго захапленне скончылася толькі нарыхтоўкай вапны. Ні яго сын Уладзіслаў (1801—1859), ні ўнук Францішак Ксаверы (1847—1915) не падтрымалі гэтай ініцыятывы. Наадварот, сын Уладзіслаў, жанаты з князёўнай Друцкай-Любецкай, перанёс сваю рэзідэнцыю з Пескаў у Альбярцін разам з багатай бібліятэкай, сямейным архівам і калекцыяй карцін.

Апошнім гаспадаром Пескаў быў сын Францішка Ксаверыя Уладзіслаў Пуслоўскі (1871—1964), жанаты з князёўнай Крысцінай Марыяй Пігнатэлі, які таксама пражываў у Альбярціне, а Пескі перадаў свайму малод-

шаму сыну Францішку (1903 года нараджэння), жанатаму з Ірэнай Могль. У 1939 г. Францішак і Ірэна мусілі пакінуць сваё радавое гняздо ў Песках і выехаць за мяжу.

Старапескаўскі палацава-паркавы ансамбль размяшчаўся на маляўнічым беразе Чорнага возера.

Першапачаткова архітэктурна-кампазіцыйнае ядро ансамбля фарміравалі двухпавярховы мураваны палац, стайня і размешчаны паміж імі «Павільён руж», што стварала парадны курданёр з круглым газонам у цэнтры. Па падоўжнай восі курданёра размяшчалася галоўная ўязная брама, другая брама адчыняла ўезд у сядзібу з поўдня. Галоўная ўязная брама мае шмат агульных рысаў з Хлебнымі варотамі падмаскоўнай сядзібы Царыцына, творцам якой з'яўляўся вялікі рускі архітэктар Бажэнаў[4].

Кампазіцыю парку парушаў вятрак (не захаваўся). Пасля пажару ў 1843 г. пад жылы дом быў прыстасаваны драўляны будынак стайні (захаваўся да сённяшняга часу). Яго аднапавярховы прамавугольны ў плане аб'ём пад вальмавым дахам мае чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам, у тымпане якога была галава сабакі, што абазначала схільнасць гаспадара да палявання.

У пачатку XIX ст. быў пабудаваны мураваны двухпавярховы будынак «Павільён руж» (не захаваўся) у стылі класіцызму (па аналогіі з вядомай рэнесансавай вілай «Ратонда» паблізу італьянскага г. Вічэнцы знакамітага дойліда XVI ст. Андрэа Паладыо)[5]. Па перыметры павільёна праходзіў фрыз з выявай хараводу грачанак-танцорак, які пазней быў затынкаваны пасля перанясення ў павільён культавага начыння з зачыненага царскімі ўладамі ў 1864 г. Альшэўскага касцёла[6]. З усходняга боку да павільёна прымыкала вялікая аранжарэя з нахіленымі сценамі.

Грунтоўнае абследаванне і апісанне парку выканаў А.Т.Федарук[7]. Парк размяшчаўся на схіле да возера вакол дзвюх сажалак і каналаў, цераз якія былі перакінуты масткі. На востраве адной з сажалак мясцілася арыгінальная альтанка. Па парку хадзілі паўліны, цацаркі, у вальеры ўтрымліваўся арол. З захаду парк аддзяляўся ад саду лінейнай пасадкай лістоўніцы, грабу, вязу гладкага, вольхі чорнай.

Уздоўж гэтай паласы да паўднёвай мемарыяльнай часткі парку ішла так званая дарога на вечны спачын да фамільнай капліцы-пахавальні. У парку раслі клёны серабрысты і чырвоны, пірамідальныя дубы, ясень пенсільванскі, сасна веймутава, таполі, лістоўніца еўрапейская і інш.

Існаваўшая водная сістэма мела не толькі дэкаратыўнае, але і утылітарнае значэнне, выконваючы дрэнажную ролю. Па падземнай трубе з сажалак да бровара паступала вада. Пазней для гэтых мэт быў прабіты артэзіянскі калодзеж.

Зараз значна парушана кампазіцыя паркавай зоны, страчаны відавыя пляцоўкі.

Парк узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

1 *Aftanazy R. Dzieje... S. 311.*
2 *Тамсама. С. 312.*
3 *Несцярчук Л.М. Гарадзечна. Гісторыка-архітэктурны нарыс. Брэст, 1997. С. 29.*
4 *Памяць. Бярозаўскі раён. Мн., 1987. С. 27.*
5 *Габрусь Г. і інш. Страчаная спадчына... С. 221.*
6 *Архітэктура Беларусі... С. 459.*
7 *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 130—132.*
8 *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III -R.A. 4397).*
9 *Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей... С.120*
10 *Збор помнікаў... С.128.*

# Сялец
# Sielec
# Селец

Старажытны палац-замак каралевы Боны. Некалі м. Сялец існавала як каралеўская ўласнасць. Мястэчка вядома з 1397 г., пазней стала радавым гняздом Вяштортаў-Гамшэяў. У 1471 г. Сялец становіцца цэнтрам воласці. Да 1521 г. гаспадаром Сялецкага двара быў Станіслаў Янавіч Вяшторт-Гамшэй. Станіслаў не меў дзяцей. Перад смерцю ён запісаў маёнтак на сваю жонку Соф'ю. Соф'я другі раз выйшла замуж за прадстаўніка роду Грымялаў, таму мястэчка адыходзіць пасля 1521 г. ва ўласнасць Шчаснага Грымялы.

У 1522 г. каралева Бона, дбаючы пра развіццё гаспадаркі мястэчка Сялец, выклапатала ў караля Жыгімонта I Старога «ярмарку на штотыдзень і карчму ў м. Сялец», што выклікала інтэнсіўнае сацыяльна-эканамічнае развіццё мястэчка і дазволіла атрымаць статус горада.


*Сялец. Руіны капліцы Святога Лаўрэнція[3].*

У гэты час (сярэдзіна XVI ст.) пры каралеве Боне ў Сяльцы будуецца замак, які пазней атрымаў назву Сялецкі палац[1].

З пісьмовых крыніц вядома, што ў 1546 г. каралева Бона назначыла судовы разгляд справы па ўладкаванні вялікага канфлікту, які ўзнік сярод сялецкіх гараджан.

У 1555 г. Бона перадае м. Сялец з надзеламі зямлі Станіславу Фальчэўскаму і яго жонцы Барбары ў пажыццёвае ўладанне. Акрамя замка каралева Бона ўзвяла ў Сяльцы касцёл арыгінальнай архітэктуры (не захаваўся). У 1570 г. кароль Жыгімонт I аддае Сялец Ганне Кішка з Радзівілаў, якая выйшла замуж за Крыштофа Садоўскага і запісала яму маёнтак. Затым Сялец зноў перайшоў у рукі Радзівілаў[2].





У 1-й палове XVII ст. у Сяльцы быў пабудаваны Кальвінскі збор, арганізатарамі і фундатарамі якога з'яўляліся князі Радзівілы біржанскія.

У 1733 г. пад Сяльцом адбылася вялікая бітва войска караля Аўгуста III з атрадамі Ашмянскай канфедэрацыі пад камандаваннем Станіслава Ляшчынскага. Ваяры Ляшчынскага былі разгромлены. Сялец у гэты час быў моцна пашкоджаны, некалькі будынкаў згарэла, у т.л., веерагодна, і палац-замак каралевы Боны.

У 1859 г. Сялецкі маёнтак перайшоў ва ўласнасць графаў Замойскіх, а з 1879 г. у ім пачаў гаспадарыць род Галчаў. У 1839 г. у Сяльцы нарадзіўся вядомы вучоны-медык Аляксандр Акінчыц, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г.

З архітэктурных помнікаў у Сяльцы захаваліся будынкі парафіяльнага касцёла, Успенскай царквы (1870), узведзенай на месцы колішняга касцёла, і капліцы Святога Лаўрэнція (XIX ст.) на каталіцкіх могілках (паўразбурана).

[1] *Zdański K. Pzyczynki... S. 103.*

[2] *Słownik geograficzny... S. 529.*

[3] *Фота аўтара. 1999 г.*




Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна




Існуючыя палацы, паркі, сядзібы

Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы




# Агарэвічы
# Ogarewicze
# Огаревичи

Сядзібна-паркавы комплекс. Некалі в. Агарэвічы належала даволі заможнаму роду Свяржынскіх, герб «Парай»[1]. У 1-й палове XVIII ст. гаспадаром Агарэвіч стаў Міхаіл Свяржынскі, а з сярэдзіны XIX ст. і да 1939 г. Агарэвіцкім дваром валодаў род Апаскіх, герб «Прус»[2].

Сядзібна-паркавы ансамбль уключаў палац, мураваную стайню, гумно, парк, сажалкі і ўязную браму на двух мураваных слупах.



Агарэвічы. Агульны выгляд сядзібы. 1999 г.[5]

У 1-й палове XIX ст. Свяржынскія ўзвялі ў Агарэвічах драўляны палац, а новыя гаспадары ў 1911 г. яго значна перабудавалі.

Будынак палаца аднапавярховы, Г-падобны ў плане, накрыты закругленым з усходняга боку двухсхільным дахам, а з заходняга — паўвальмавым з дэкарыраванымі дахавымі вокнамі.

З усходняга боку дабудавана паўратонда зімовага саду. Ганак галоўнага ўваходу накрыты двухсхільным дахам на чатырох слупах.




Агарэвічы. План сядзібнага дома[6].

Планіроўка сядзібнага дома грунтуецца на анфіладнай кампаноўцы рознавялікіх аб'ёмаў вакол двух вестыбюляў. У асобных пакоях захаваліся фрагменты фрэсак і сафітаў[3].

Гаспадарчыя пабудовы — прамавугольныя ў плане аднапавярховыя аб'ёмы пад двухсхільным дахам.

Паводле даследаванняў А.Т.Федарука, парк адносіцца да тыпу рэгулярных перыяду эклектыкі[4]. Ён закладзены прыкладна ў 2-й палове XIX ст. на невялікай плошчы. Парадная частка парку мела сіметрычна-восевую кампазіцыю, сістэму сажалак. Асноўную частку яго складаў пладовы сад у выглядзе двух выцягнутых уздоўж кампазіцыйнай восі баскетаў. Сад размешчаны за сядзібным домам. Вось кампазіцыі завяршалася трэцім баскетам, размешчаным упоперак двух першых.




Агарэвічы. Схема парку[7].

Цэнтральная алея двухрадная, бакавыя — аднарадныя. Уздоўж іх цягнулася прагулачная сцежка з лінейнай пасадкай кветкавых раслін. У парку шырока прымянялася дэкаратыўная стрыжка дрэў пры фарміраванні алей з елак і грабаў.



Агарэвічы. Стайня. 1911 г.[8]

У 1990-я гады пры правядзенні рэканструкцыі ансамбля адбыліся значныя змены ў яго ранейшай сістэме планіроўкі, што прывяло да значнага парушэння кампазіцыі парку.

Агарэвіцкая сядзіба занесена ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.

[1] Slownik geograficzny. T. 7. 1886. S. 412.
[2] Aftanazy R. Dzieje... S. 307.
[3] Свод памятников... С. 157.
[4] Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 84.
[5] Памяць. Ганцавіцкі раён... С. 6.
[6] Збор помнікаў... С. 135.
[7] Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 85.
[8] Фота аўтара. 2000 г.





# Вялікія Круговічы
# Krugowicze Wielkie
# Большие Круговичи

Колішняя сядзіба роду Абуховічаў[1]. Род Абуховічаў з'яўляўся адным з самых найстарэйшых на Беларусі, існаваў амаль шэсць стагоддзяў. У канцы XVI ст. шырока распаўсюдзіўся на Беларусі, меў шмат маёнткаў, у т.л. Сваятычы, Круговічы, Ліпу (Міншчына), Ясянец і інш.




*Вялікія Круговічы. Схема парку[2].*

Сядзібна-паркавы ансамбль уключаў палац, парк, свіран, млын, сыраварню, лесапілку і інш. гаспадарчыя аб'екты.

Палац быў пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. Уяўляў сабой аднапавярховы драўляны прамавугольны ў плане будынак, з гладкім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай. Галоўны фасад палаца быў вылучаны невялікім ганкам на чатырох драўляных слупах. Пасля 2-й сусветнай вайны тут размяшчалася сельская бібліятэка, якая ў сярэдзіне 1950-х гадоў поўнасцю згарэла.



*Вялікія Круговічы. Дуб-волат[3].*



*Вялікія Круговічы. Капліца-пахавальня роду Абуховічаў[4].*

Да палаца вяла доўгая таполевая алея (не захавалася). Цэнтральнае месца ў ансамблі займаюць 3 сажалкі, размешчаныя на адной лініі ўздоўж уязной алеі.



*Вялікія Круговічы. Галоўны фасад сядзібнага дома да 1939 г. Рэканструкцыя выканана А.Лукшай паводле малюнка У.Мухі.*

Адначасова з закладкай палаца пачаў фарміравацца новы парк на месцы старога, плошчай каля 5 га. Маляўнічасць парку надае шэраг дубоў, узрост якіх дасягае 400 і больш гадоў. Акрамя дубоў у парку растуць таполі, грабы, клёны, вязы, каштаны і інш.

Кампазіцыя парку моцна парушана індывідуальнымі забудовамі.

Захаваўся будынак мураванай каталіцкай капліцы (XVIII ст.), якая знаходзіцца ў крайне занядбаным стане, значна перабудавана, зменена форма даху, закладзены вокны. Капліца ў плане мае форму прамавугольніка, вялікі склеп, двухсхільны дах.

Рэшткі гістарычнага парку, каталіцкай капліцы і старажытны дуб патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877. С. 109.*

[2] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Ганцавіцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*




# Ганцавічы
# Hancewicze
# Ганцевичи

Колішняя сядзіба роду Падарэўскіх. Размяшчаецца за 0,5 км на захад ад г. Ганцавічы. Сядзібна-паркавы ансамбль складаўся з сядзібнага дома, гаспадарчых пабудоў, парку.



*Ганцавічы. Рэшткі ўязной алеі[1].*

Захаваўся сядзібны дом, у якім цяпер размяшчаецца кантора гарадской паліўнай гаспадаркі. Дом драўляны, аднапавярховы, з невялікім ганкам, быў пабудаваны ў 2-й



*Ганцавічы. Сучасны выгляд сядзібнага дома[2].*

палове XIX ст. Уцалела ўязная ліпавая алея.

Побач размяшчаецца лясны масіў, частка якога з усходняга боку з'яўляецца рэшткамі колішняга парку. Лясны масіў выкарыстоўваецца для правядзення гарадскіх і раённых свят, фестываляў, народных гулянняў.

Рэшткі сядзібна-паркавага ансамбля і сядзібны дом патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Горкі
# Gorki
# Горки

Колішняя сядзіба роду Івашкевічаў. Размешчана каля дарогі Ганцавічы — Агарэвічы побач з сядзібай Ганцавічы. На тэрыторыі сядзібы размяшчалася падсобная гаспадарка ПТВ-157 г. Ганцавічы.



*Горкі. Сядзібны дом[1].*

Захаваўся сядзібны дом, пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва. Дом занядбаны, не выкарыстоўваецца. Ад пейзажнага парку засталіся адзінкавыя дрэвы мясцовых парод. Сажалка высахла, равы абмялелі. Сядзібны дом патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Двор
# Dwór
# Двор

Старадаўняя сядзіба роду Падбелых. Размешчана ва ўрочышчы Двор, паміж вёскамі Кругліца і Сукач. У ансамбль да 2-й сусветнай вайны ўваходзілі: сядзібны дом, парк, свіран, абора, стайня, каскад сажалак (3) і інш.



*Двор. Агульны выгляд сядзібнага дома (перавезены ў в. Любашава)[1].*

Сядзібны дом пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. Будынак драўляны, аднапавярховы, з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай. Меў у плане форму прамавугольніка, 12 пакояў, па цэнтры параднага фасада быў вылучаны невялікім ганкам. Дом разабраны і перавезены пасля 2-й сусветнай вайны ў в. Любашава. Зараз у гэтым будынку размешчана базавая школа. Акрамя сядзібнага дома былі разабраны таксама гаспадарчыя пабудовы.





7 Зак. 1023






*Двор. Рэшткі ўязной алеі[2].*



*Двор. Схема рэштакаў парку.*

У сярэдзіне 1960-х гадоў пры правядзенні меліярацыйных работ кампазіцыя ансамбля была моцна парушана, знішчана ліпавая алея, выразаны каштоўныя пароды дрэў.

У сучасны перыяд засталася разрэджаная дубовая алея, якая павінна быць узята на мясцовы ўлік.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Нач
# Nacz
# Начь

Колішняя сядзіба роду Піляўскіх. Сядзібна-паркавы ансамбль закладзены ў сярэдзіне XIX ст. Пейзажны парк меў плошчу каля 5 га. Засталася ліпавая алея даўжынёй каля 150 м.



*Нач. Схема алеі.*


*Нач. Ліпавая алея[1].*

Сядзібны дом стаяў у цэнтры ансамбля, пабудаваны з дрэва, меў у плане форму выцягнутага прамавугольніка. У час 2-й сусветнай вайны дом быў спалены. Тэрыторыя парку практычна поўнасцю забудавана.

Алея патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*






# Пакамер
# Pokamer
# Покамер

Колішняя сядзіба роду Вінарскіх. Пасля 1-й сусветнай вайны і да 1939 г. у сядзібе гаспадарылі нашчадкі роду Патоцкіх. Сядзібна-паркавы ансамбль размяшчаўся паміж вёскамі Люсіна (за 5 км) і Агарэвічы (за 7 км), сярод ляснога масіву, абкружанага з паўднёвага ўсходу балотам і нізінай, а з паўночнага захаду пясчаным грэбенем, які называўся Швецкай гарой.



*Пакамер. Фрагмент парку*[1].

Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы, з невялікім ганкам і мансардай, пабудаваны ў 2-й палове XIX ст., быў знішчаны ў гады 2-й сусветнай вайны. Гаспадарчыя пабудовы ў савецкі час выкарыстоўваліся пад жывёлагадоўчую ферму, цяпер поўнасцю разбураны.

Парк пейзажны, меў плошчу да 10 га. У сучасны перыяд дубовыя гаі высечаны, а месца, дзе размяшчаўся сядзібны дом і гаспадарчыя пабудовы, заарана. Засталося некалькі ліп і дубоў, узрост якіх 150—200 гадоў.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Юліна
# Julino
# Юлино

Колішняя сядзіба, якая размешчана ва ўрочышчы Юліна паміж вёскамі Агарэвічы і Шашкі. Захаваліся рэшткі пейзажнага парку плошчай 2,5 га. Асноўны дрэвастой складаюць граб, бяроза, клён, каштан, шыпшына, бэз і інш. Па перыферыі парку існавалі каналы, якія былі звязаны з сажалкай. Цяпер каналы абмялелі, сажалка зарасла. Захаваліся рэшткі ўязной мураванай брамы.

Парк быў закладзены ў 2-й палове XIX ст. Пасля вайны ў сядзібна-паркавым ансамблі размяшчаўся школьны лагер, будынкі якога пазней былі аддадзены пад жыллё.

Сядзібны дом быў пабудаваны разам з закладкай парку. Будынак драўляны, аднапавярховы, у плане меў форму



*Юліна. Уязная алея*[1].




*Юліна. Схема парку.*

прамавугольніка, з невялікім ганкам, высокім дахам, накрытым гонтай. На месцы дома засталіся разбураныя падмуркі, а побач захаваўся склеп. Пры пабудове памяшканняў школьнага лагера сядзібны дом і гаспадарчыя аб'екты былі разабраны.



*Юліна. Старадаўні склеп*[2].

Перад сядзібай каля дарогі размешчаны старажытны курган і расце шматвяковы дуб.

Рэшткі парку падлягаюць узяццю на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*





# Ясянец
# Jasieniec
# Ясенец

Колішняя сядзіба роду Абуховічаў. Закладзена ў 2-й палове XIX ст. Парк меў плошчу каля 10 га. Засталіся рэшткі парку ў яго заходняй і ўсходняй частках. Заходняя частка ўяўляе сабой купу дрэў, у асноўным дубы, узрост якіх дасягае больш за 200 гадоў. Усходняя частка парку, дзе размяшчаўся сядзібны дом, складаецца з разнастайных парод, у т.л. лістоўніц, клёнаў, акацый, спірэі, ліпы і інш.



*Ясянец. Капліца-пахавальня[1].*




*Ясянец. Схема парку.*

Сядзібны дом быў пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва, аднапавярховы, меў у плане форму прамавугольніка. Дах высокі, чатырохсхільны, накрыты гонтай. Пасля 2-й сусветнай вайны быў разабраны і перавезены ў в. Гуту, дзе прыстасаваны пад школу і сельскі клуб. У апошнія гады абкладзены цэглай.

Побач з сядзібай размешчаны старадаўнія могілкі, дзе пахаваны продкі Абуховічаў, Вяндорфаў і Яленскіх. Надмагільныя помнікі, пастаўленыя продкам гэтых заможных родаў, маюць гістарычныя, архітэктурныя і мастацкія якасці, патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Драгічынскага раёна




*Дзеткавічы*

*Брашэвічы*

*Равіны*

*Саха*

*Драгічын*

*Антопаль*

*Броннае*

*Пярковічы*

*Людвінова*

*Горлавічы*

*Закозель*

*Папіна*

*Грудковічы*

*Астроўкі*

*Белін*

*Існуючыя палацы, паркі, сядзібы*

*Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы*





# Антопаль
# Antopol
# Антополь

Антопальская сядзіба ў XVIII—XIX ст. належала заможным гаспадарам роду баронаў фон Бравернаў, Быстрых і князёў Гедройцаў. Адзін з нашчадкаў роду Бравернаў Хрысціян Абрам у 1757 г. займаў пасаду каралеўскага публічнага пісара. У 2-й палове XIX ст. дачка барона Тэадора Барбара фон Браверн, была ў шлюбе з князем Рамуальдам Гедройцам. Сядзібай некаторы час валодалі Гедройцы, а пасля 1900 г. Антопаль зноў перайшоў да Бравернаў.



*Антопаль. Палацава-паркавы ансамбль. З акварэлі Напалеона Орды. 1861 г.*[3]

У 1718 г. тут існаваў базыльянскі кляштар, фундатарам якога з'яўлялася князёўна Антаніна Замойская, параднёная з сям'ёй Загароўскіх[1].

Антопальскі двор быў адным з самых вялікіх і багатых на абшарах Палесся і складаўся з 8 фальваркаў, меў 3,5 тыс. дзесяцін зямлі.

Апошнім гаспадаром Антопальскай сядзібы перад 1939 г. быў Лявон Руст[2].




*Антопаль. Схема размяшчэння сядзібы*[4].

Паводле пісьмовых крыніц і малюнка Напалеона Орды, Антопальскі палац быў узведзены ў канцы XVIII ст. з дрэва. Будынак аднапавярховы, на высокім падмурку, у плане прамавугольны, накрыты высокім, гладкім чатырохсхільным дахам. З боку пад'езда палац меў надзвычай шырокі ганак на шасці масіўных слупах з трохвугольным шчытком, на якім месціўся фамільны герб яго гаспадароў (верагодна, князёў Гедройцаў). З ганка да параднага пад'езда спускаліся шырокія ўсходы.

З усіх бакоў палац ахінаў вялікі старадаўні парк з клумбай перад цэнтральным уваходам.

Будынак палаца быў знішчаны ў 1960-я гады пры будаўніцтве майстэрні па рамонце будаўнічай тэхнікі. Ад ансамбля засталіся рэшткі склепа і гаспадарчай пабудовы (свірна), частка саду, парку і галоўнай алеі.

---

1 *Zdański K. Przyczynki... S. 7*
2 *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 47.*
3 *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4312).*
4 *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Драгічынскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Астроўкі
# Ostrówki
# Островки

Старадаўняя сядзіба. Была размешчана на поўнач ад Драгічына, побач з в. Равіны, уваходзіла ў склад Драгічынскага графства. У дакументах 1776 і 1887 гг. згадваецца як фальварак. У XIX ст. сядзіба належала Багурскім, герб «Агеньчык». У 1914 г. гаспадаром сядзібы быў Юльян Багурскі, у 1939 г. — яго дачка Соф'я Банкоўская[1].



*Астроўкі. Сучасны выгляд месца, дзе знаходзіўся фамільны склеп-пахавальня Багурскіх*[3].







Да 2-й сусветнай вайны ў Астроўках існаваў невялікі драўляны аднапавярховы палац. Будынак у плане прамавугольны, верагодна, узведзены ў 2-й палове XIX ст. Характэрнай рысай палаца была наяўнасць двух амаль ідэнтычных фасадаў і ганкаў. Ганкі былі размешчаны на адной восі з двух бакоў будынка на чатырох калонах, увянчаных выдатна прафіляванымі карнізамі і трохвугольным шчытком з круглымі акенцамі пасярэдзіне. Будынак быў гладка атынкаваны і накрыты чатырохсхільным гонтавым дахам.



*Астроўкі. Галоўны фасад палаца. 1938 г.*[4]

Пасля абрабавання палаца ў час 1-й сусветнай вайны ў ім яшчэ захоўвалася невялікая колькасць каштоўных рэчаў, назапашаных продкамі гаспадароў.

Палац стаяў пасярэдзіне старога парку з велізарнымі таполямі, ліпамі і каштанамі. У парку не было вялікіх газонаў. Некаторыя дрэвы раслі часцей паасобку, паблізу самога палаца[2].

У Вялікую Айчынную вайну в. Астроўкі разам з маёнткам была спалена і больш не аднаўлялася. На сённяшні дзень ад палаца нічога не засталося.

---

[1] *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 74.*
[2,4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 102.*
[3] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Белін
# Bielin
# Белин

Гісторыя сядзібы Белін даволі арыгінальная і адначасова трагічная. Сядзіба складалася з двух фальваркаў і размяшчалася побач з Дняпроўска-Бугскім каналам на поўдзень ад в. Белін. Вёска ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах 1495 г.[1]

Знаходзячыся непадалёку ад маёнткаў Закозель і Людвінова, Белінскі двор таксама быў радавым гняздом вядомага на Беларусі роду Ажэшкаў (Арэшкаў), герб «Побуг». Гэты знакаміты род з XVI—XVII ст. шырока распаўсюдзіўся на Палессі. Асеўшы на Брэстчыне, Ажэшкі за тры стагоддзі дасягнулі пэўнай заможнасці і шляхетнасці, занялі шэраг пасад стольнікаў, падкаморых, маршалкаў шляхты і г.д. Галоўнай рэзідэнцыяй



*Белін. Палац Ажэшкаў.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1864 г.*[4]

Ажэшкаў была, безумоўна, Закозельская сядзіба. Маёнткам Людвінова валодаў на той час Пётр Ажэшка, муж вядомай пісьменніцы Элізы Ажэшкі (Паўлоўскай). Эліза ў 16 гадоў выйшла замуж і жыла ў Людвінове ў той час, калі на Беларусі разгортвалася нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 г.

У сярэдзіне XIX ст. Пётр Ажэшка (1825—1874), які не меў у Людвінове дастатковага прыбытку і вялікага палаца, вырашыў адбудаваць у адным са сваіх фальваркаў над каралеўскім каналам каля в. Белін рэпрэзентатыўны палац у выглядзе арыгінальнага невялікага замка з рысамі неаготыкі.

У 1864 г. у Белін прыязджаў Напалеон Орда і пакінуў у сваёй мастацкай скарбніцы малюнак Белінскага палаца. Будынак узведзены ў нерэгулярным стылі, меў аднапавярховы і двухпавярховы аб'ёмы. Асаблівую прыгажосць яму надавала двухпавярховая вежка. Замачак меў некалькі балконаў, з якіх адкрываўся від на старадаўні англійскі парк. Парк, верагодна, быў сфарміраваны з існаваўшага некалі ляснога масіву. Пётр і Эліза Ажэшкі не паспелі перасяліцца ў новую рэзідэнцыю, таму што пры заканчэнні будаўніцтва за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні ў 1863 г. Пётр быў арыштаваны і этапам сасланы ў Пермскую губерню[2].

Маёнткі Людвінова і Белін былі канфіскаваны ў




*Белін. Схема размяшчэння сядзібы.*





Ажэшкаў і перададзены ва ўласнасць расійскіх памешчыкаў.

Пасля 1-й сусветнай вайны Белінскія фальваркі занялі польскія ваенныя асаднікі. Каля 1925 г. гэтыя землі набылі Талочкі. Іх новы гаспадар Кароль Талочка зрабіў спробу аднавіць замачак Ажэшкаў, які на гэты час быў моцна пашкоджаны. Рэстаўрацыя не адбылася, зямля была распрададзена на часткі і новыя гаспадары надзелаў Белінскага маёнтка разабралі замачак на цэглу, а старадаўні парк быў высечаны і на месцы раскошнай некалі сядзібы ўзніклі палі і палеткі[3].

[1] Памяць. Драгічынскі раён. Мн., 1997. С. 512.
[2] Aftanazy R. Dzieje... S. 22.
[3] ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 112. Арк. 10.
[4] Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4320).



*Брашэвічы. Уніяцкая царква.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1863 г.*[4]

# Брашэвічы
# Braszewicze
# Брашевичи

Колішні фальварак. Спачатку сядзіба належала заможнаму роду Кежгайлаў, якія ўзвялі тут парафіяльны касцёл. У 1554 г. сядзібу выкупіў біскуп брэсцкі і луцкі Валяр'ян Пратасевіч. У 1636 г. Брашэвічы належалі Яну Нарушэвічу, ад якога маёнтак перайшоў ва ўласнасць кашталяна ВКЛ Альбрэхта Станіслава Радзівіла[1]. Верагодна, ён з'яўляўся фундатарам будаўніцтва ў Брашэвічах уніяцкай царквы (не захавалася).



*Брашэвічы. Фрагмент парку*[3].

У 2-й палове XIX ст. гаспадароў Брашэвіцкай сядзібы наведаў Напалеон Орда і намаляваў агульны выгляд уніяцкай царквы.

У 1761 г. Брашэвічы перайшлі ва ўласнасць езуітаў, крыху пазней гаспадаром маёнтка стаў ротмістр з Брэста Ігнат Барэвуш. Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. маёнтак быў канфіскаваны і перададзены расійскім памешчыкам.

У 1-й палове XX ст. і да 1939 г. Брашэвіцкая сядзіба знаходзілася ва ўласнасці шэрагу прадстаўнікоў мясцовай шляхты[2].

Пасля 2-й сусветнай вайны ў маёнтку была размешчана кантора Брашэвіцкага лясніцтва. Колішні будынак сядзібы быў знішчаны. Захаваліся рэшткі пейзажнага парку, закладзенага ў сярэдзіне XIX ст. Плошча парку каля 7 га. Існуе ўязная алея, абсаджаная дубамі.




*Брашэвічы. Схема сядзібы.*

У цэнтры парку размяшчаецца каскад з трох сажалак. Аснову дрэвастою складаюць мясцовыя пароды дрэў: таполі, дубы, клёны і інш.

Асаблівую прыгажосць надаюць парку ясені, растуць купамі (па 3—4 з аднаго камля).

Побач з канторай лясніцтва расце унікальны від дрэва — карыя авальная, адзіны экзэмпляр на Беларусі.

Парк патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Zdański K. Przyczynki... S. 53.
[2] ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 121. Арк. 1—38.
[3] Фота аўтара. 1999 г.
[4] Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.4321).









# Броннае
# Bronne
# Бронное

Колішняя сядзіба. Землі, на якіх размяшчаўся некалі Броннаўскі двор, цяпер уваходзяць у межы г. Драгічына. Першыя звесткі пра ўрочышча Броннае змяшчаюцца ў дакументах 1623 г.[1]

У 1860-я гады Броннаўская сядзіба была ва ўласнасці Баляслава Жука. У тыя часы да гаспадара маёнтка ў госці прыязджаў Напалеон Орда і намаляваў сядзібу.



*Броннае. Палацава-паркавы ансамбль. З акварэлі Напалеона Орды. 1868 г.*[5]

Палац быў аднапавярховы, у плане меў форму прамавугольніка, накрыты высокім, гладкім, чатырохсхільным дахам. Цэнтральны ўваход вылучаўся порцікам на дзвюх парах высокіх калон. Да ганка вялі злёгку выгнутыя ўсходы. Палац ахінаў даволі вялікі пейзажны парк, закладзены, верагодна, у 1-й палове XIX ст. Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. маёнтак перайшоў ва ўласнасць расійскіх памешчыкаў Кантароўскіх[2]. Да 1939 г. уладальніцай маёнтку была Марыя Развадоўская[3].

Пасля 2-й сусветнай вайны на месцы палацава-паркавага ансамбля месцілася Драгічынская МТС, затым РТС. Палац не захаваўся.

На тэрыторыі Броннаўскай сядзібы ў пасляваенны час быў знойдзены скарб старадаўніх манет, які захоўваўся тут з 1648 г.[4]

---

[1,4] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 515.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 26.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 122. Арк. 3.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4323).*

# Горлавічы (Орлавічы)
# Horłowicze
# Горловичи

Фальварак Горлавічы ўпершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1628 і 1698 гг.

У сярэдзіне XIX ст. сядзіба належала Феліксу Віславуху[1], затым Русецкім, а апошнім гаспадаром маёнтка да 1939 г. быў род Краеўскіх. У сядзібным доме пасля 2-й сусветнай вайны размяшчалася няпоўная сярэдняя школа. Пасля яе высялення будынак застаўся безгаспадарным, быў разабраны і перавезены ў г. Драгічын. Захавалася мураванае аднапавярховае памяшканне колішняга гаспадарчага будынка.



*Горлавічы. Галоўны порцік цэнтральнага ўвахода*[2].

Сядзібны дом быў пабудаваны, верагодна, пры Віславухах. Будынак у плане прамавугольны, драўляны, мансардавы, на высокім падмурку, дах двухсхільны, гонтавы. На першым паверсе размяшчаліся гасціная, бібліятэка, кухня, салон, спальня, на другім — спальны пакой для дзяцей.

Захаваліся рэшткі колішняга парку XIX ст. Яго тэрыторыя на сённяшні дзень складае больш за 5 га. Кампазіцыя значна парушана. У савецкія часы пасярэдзіне парку быў закладзены фруктовы сад. Добра захавалася ліпавая алея ў напрамку сажалкі. Асноўны дрэвастой складаюць ліпы, клёны, каштаны, дубы і інш.

Парк мае перспектыву выкарыстання, патрабуе ўзяц-




*Горлавічы. Схема парку.*






*Горлавічы. Колішні гаспадарчы будынак*[3].

ця на ўлік і пад ахову дзяржавы. У сучасны перыяд парк і сажалка ачышчаны, тут пабудаваны павільён для адпачынку.

[1] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 537.*
[2] *Архіў саўгаса «Заказельскі».*
[3] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Грудковічы
# Hrudkowiczy
# Грудковичи

Грудковіцкая сядзіба размяшчалася некалі на паўночным усходзе ад в. Сулічава. Упершыню Грудковічы ўпамінаюцца ў дакументах 1625 г., потым у 1886 г. як фальварак. У 1860-я гады маёнтак Грудковічы быў ва ўласнасці Платона Русецкага. Яму належала 337 сялянскіх душ, у т.л. мястэчкі Вулька Радавецкая і Горлавічы (Орлавічы)[1].

Грудковічы часта наведвала выдатная пісьменніца, актыўная ўдзельніца нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Эліза Ажэшка (Паўлоўская). Сям'я Русецкіх у Грудковічах адрознівалася асаблівай прагрэсіўнасцю поглядаў, інфармаванасцю пра апошнія грамадска-палітычныя падзеі і літаратурныя навіны. Чатыры сыны Русецкага мелі універсітэцкую адукацыю, сталі таксама на шлях рэвалюцыйнай дзейнасці.

Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі занядбанага парку.

[1] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 520.*

# Дзеткавічы
# Dziatkowicze
# Детковичи

Старадаўняя сядзіба. Запісы пра Дзеткавіцкі двор і вёску сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах 1583, 1625, 1644, 1666, 1766 гг., пра маёнтак у Дзеткавічах — у крыніцах 1785 г.[1]

У пачатку XIX ст. сядзіба належала роду Ельцаў[2]. У XVII ст. у Дзеткавіцкім маёнтку гаспадарылі яшчэ браты Ельцы, а з 1808 г. сядзіба перайшла да Рушчыцаў. У 1860-я гады Дзеткавічы мелі 380 рэвізскіх душ (190 мужчын і 190 жанчын). Тут была створана сельская грамада. У гэты час уладальнікам маёнтка стаў Густаў Радавіцкі. Пасля паўстання 1863 г. сядзіба была канфіскавана і распрададзена. Апошнім гаспадаром Дзеткавіцкага маёнтка быў род Богушаў.

Верагодна, у канцы XVIII ст. пры Ельцах у Дзеткавічах быў узведзены аднапавярховы драўляны палац, накрыты



*Дзеткавічы. Фрагмент парку*[3].

высокім, гладкім, чатырохсхільным гонтавым дахам. У цэнтры галоўнага (параднага) фасада месціўся невялікі ганак. Сцены былі ашаляваны дошкамі, вокны афарбаваны ў белы колер.

Непадалёку ад палаца размяшчаўся шэраг гаспадарчых пабудоў (лямус, свіран).

На сённяшні дзень ад палацава-паркавага ансамбля захаваліся рэшткі пейзажнага парку, склеп (піўніца), абмялелыя сажалкі.

Асноўны дрэвастой рэштках парку складаюць адзінкавыя клёны, ліпы, ясені.

Да 2-й сусветнай вайны ў парку існавала капліца-пахавальня гаспадароў маёнтка. У пасляваенны час капліца разбурана.




*Дзеткавічы. Схема сядзібы.*










*Дзеткавічы. Старадаўні склеп[4].*

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 522.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 64.*
[3,4] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Закозель
# Zakoziel
# Закозель

Палацава-паркавы ансамбль, галоўная рэзідэнцыя і радавое гняздо вядомага на Беларусі роду Ажэшкаў (Арэшкаў), гербы «Кораб» і «Побуг». Прозвішча роду паходзіць ад вёскі Ажэшкі (Арэшкі), што на Палессі. Адна з ліній Ажэшкаў у XVII ст. асела на Піншчыне, дзе значна разраслася, стала заможнай, набыла шмат зямель. Прадстаўнікі роду Ажэшкаў займалі шэраг важных пасад у Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Закозельскую сядзібу часта наведвала вядомая пісьменніца, актыўная ўдзельніца нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі Эліза Ажэшка (Паўлоўская, 1841—1910 гг.), якая пражывала на той час у суседнім маёнтку Людвінова.

У XVIII ст. маёнтак Закозель належаў Юзафу Ажэшку, затым па спадчыне ім валодалі сын Юзафа Нікадзім, унук Калікст, праўнук таксама Калікст, які прадаў Закозель расійскай памешчыцы Н.А.Бабрынскай. Ад яе



*Закозель. Палацава-паркавы ансамбль.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1863 г.[5]*

сына Аляксея ў 1922 г. сядзібу набыў Зыгмунт Вітольд Весялоўскі, які неўзабаве прадаў яе Каралю Талочку. З 1923 г. і да пачатку 2-й сусветнай вайны ў Закозелі гаспадарыў род Талочкаў[1].

У пачатку XIX ст., верагодна, Нікадзім Ажэшка ўзвёў у Закозелі арыгінальны палац, вядомы па акварэлі Напалеона Орды, выкананай ім у 1863 г. Аднапавярховы будынак на нізкім падмурку складаўся з 3 частак: сярэдняй пяцівосевай з ампірным чатырохкалонным атыкавым порцікам і трохвосевых бакавых крылаў, ніжэйшых, магчыма, дабудаваных пазней. Накрываў будынак адносна высокі вальмавы дах з малымі паўкруглымі дахавымі вокнамі. Гісторыю Закозельскай сядзібы добра апісала графіня Н.А.Бабрынская. У момант набыцця ёю сядзібы палац быў моцна пашкоджаны і занядбаны. Графіня практычна не змяніла архітэктуры палаца, але, уклаўшы вялікія сродкі, аднавіла яго па ўсіх правілах рэстаўрацыі на той час.

Зусім інакш зрабіў З.В.Весялоўскі. Над сярэдняй часткай будынка ён надбудаваў другі паверх, а да тыльнага боку прыбудаваў некалькі пакояў з тэрасамі.



*Закозель. Галоўны фасад палаца. 1937 г.[6]*

Каля 1932 г. у палацы не было ні каштоўнай мэблі, ні антыкварыяту. Усе зборы мэблі, калекцыі малюнкаў і іншых каштоўных рэчаў паступова перайшлі да іншых маёнткаў. Значная частка іх апынулася ў Лінаўскай сядзібе разам з пасагам сястры Калікста Людвікі Ажэшкі, якая была замужам за Трымбіцкім[2].

Многія архітэктурныя каштоўнасці Закозельскага па-







Закозель. Схема парку.



Закозель. Паркавы фасад сядзібнага дома[7].



Закозель. Будынак бровара[8].

лацава-паркавага ансамбля страчаны, а тыя некалькі аб'ектаў, што дайшлі да нас, моцна перабудаваны і пашкоджаны.

У Беларускім дзяржаўным гістарычным архіве г. Гродна выяўлены графічныя дакументы палацава-паркавага ансамбля пасля рэканструкцыі[2]. Паводле іх, на першым паверсе знаходзіліся прамавугольная ў плане зала, кабінет, спальня, ванны пакой, які размяшчаўся разам з прыбіральняй графіні. З правага боку існавала сталовая, пакой для слуг, вестыбюль і сенцы. Надбудова другога паверха нагадвала план ніжняй часткі палаца.

Здымкі палаца, якія знойдзены ў архівах, дазваляюць сцвярджаць, што ў 1920—1930 гг. будынак яшчэ раз рэканструяваўся, верагодна, у перыяд, калі маёнткам валодаў Кароль Талочка.

Сапраўдным упрыгожаннем палацава-паркавага ансамбля з'яўляецца манументальная капліца-пахавальня ўладальнікаў маёнтка, выкананая ў рэтраспектыўна-гатычным стылі ў 1839 г. Паводле падання, у невялікім патаемным памяшканні высокага шпіля капліцы хаваўся ад праследавання царскіх жандараў адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. генерал Рамуальд Траўгут. Капліца і сёння, нягледзячы на паўразбураны стан, уражвае гармоніяй формаў і дэкору, выразнай дынамічнай кампазіцыяй. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне накрыта востравугольнымі двухсхільнымі дахамі, адзначана высокім чатырохгранным шатром з гранёным шпілем і гатычным крыжам у завяршэнні.

У гатычных парталах, якія складаліся з чыгуннага мастацкага ліцця, былі размешчаны скульптуры евангелістаў. Стральчаты ўваходны партал, дэкарыраваны ўверсе круглымі гербамі Ажэшкаў, таксама з чыгуннага мастацкага ліцця.



Закозель. Фрагмент парку[9].











*Закозель. Капліца-пахавальня[10].*

Стральчатыя вокны і люкарны з пераплётамі былі запоўнены вітражамі. Пад капліцай існаваў склеп-пахавальня роду Ажэшкаў[3]. Аўтарам праекта капліцы з'яўляўся знакаміты архітэктар Францішак Яшчалд[4]. Пасля задушэння паўстання ў 1863 г. Закозельская капліца была закрыта і перададзена праваслаўнаму ведамству, галоўны ўваход у яе быў поўнасцю замураваны і затынкаваны.

У 1-ю сусветную вайну меднае крыццё з капліцы было знята, будынак яе некалькі гадоў стаяў без даху і толькі пасля 1923 г. новы ўладальнік сядзібы Кароль Талочка зрабіў цынкавае крыццё капліцы.

У савецкі перыяд для капліцы наступіла новае выпрабаванне. Яна была закрыта, разрабавана і апаганена.

Сядзібу ахінаў пейзажна-рэгулярны парк, які раней займаў плошчу каля 30 га. Аснову яго планіроўкі складала прамая ліпавая алея, якая перарывалася па цэнтры сядзібным домам. Найбольш прывабная тая частка парку, дзе знаходзіцца капліца. Тут раслі дрэвы разнастайных парод, размяшчаліся сажалкі і каналы дзівосных абрысаў, побач узвышаўся будынак бровара.

Перад порцікам палаца быў размешчаны травяны газон.

На ўскрайку парку існавала яшчэ адна гістарычная каштоўнасць мемарыяльная вежа-помнік, прысвечаная падзеям 1863 г., на якой былі высечаны словы: «За душы Нікадзіма і ўсіх палеглых у лясах!». Верагодна, упомненае імя адносіцца да Нікадзіма з роду Ажэшкаў.

У 1920—1930 гг. была праведзена частковая рэканструкцыя парку, высаджаны новыя дрэвы, разбіты кветкавыя клумбы.

У фарміраванні аблічча парку вялікае значэнне маюць натуральныя і штучныя водныя аб'екты. Сярод дрэў парку ліпы, клёны, каштаны, італьянскія таполі, бярозы і акацыі.

На сённяшні дзень парк і капліца панеслі значныя і незваротныя страты, патрабуюць неадкладнай рэстаўрацыі і аднаўлення. Закозельскі палацава-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп.2. Арк. 1—4.*
[2,6] *Aftanazy R. Dzieje... S. 172.*
[3] *Архітэктура Беларусі... С. 218.*
[4] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 463.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.4428).*
[7,8,9,10] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Людвінова
# Ludwinowo
# Людвиново

Старадаўні палацава-паркавы комплекс, радавое гняздо Пятра Ажэшкі (Арэшкі), мужа Элізы Ажэшкі (Паўлоўскай). Палац быў пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. з дрэва, «акуратна выбелены, прасторны і выгодны»[1]. З боку парку па цэнтры палаца быў прыбудаваны невялікі ганак з калонамі, з якога можна было ўвайсці ў каштанавую алею. Далей знаходзіўся вялікі сад і парк з маляўнічымі альтанкамі і ставамі. Пасля прыезду ў маёнтак Элізы Ажэшкі ў 1858 г. з яе радзімы Мількаўшчыны (Гродзенскі раён) былі прывезены старадаўнія карціны, бібліятэка, люстры, мэбля. У 1862 г. Эліза арганізавала ў Людвінове сельскую школу, у якой вучылася 20 хлопчыкаў. У доме Ажэшкаў часта збіралася прагрэсіўна настроеная шляхта. Малодшы брат Пятра Ажэшкі Фларэнт (выхаванец Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі) пазнаёміў Элізу з нелегальнай літаратурай, у т.л. з творамі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. У час паўстання 1863 г. у Людвінове пад апекай Элізы і Пятра Ажэшкаў на лячэнні знаходзіўся некалькі дзён адзін з відных кіраўнікоў паўстання на Беларусі генерал Рамуальд Траўгут, які быў паранены ў баях з казакамі царскага генерала Эгера на р. Ясельдзе. Пазней Эліза Ажэшка дапамагала яму тайна выехаць у Варшаву, дзе ён узначаліў штаб паўстання.



*Людвінова. Фрагмент парку[4].*





Пасля падаўлення паўстання браты Пётр і Фларэнт Ажэшкі былі арыштаваны. Пётр быў сасланы ў Пермскую губерню, а яго маёнтак Людвінова разрабаваны і канфіскаваны. Гэта акалічнасць прымусіла Элізу Ажэшку пакінуць маёнтак Людвінова, які ёй ужо не належаў. Пазней яна заўсёды называла яго «універсітэтам свайго жыцця»[2].




*Людвінова. Схема сядзібы.*

У міжваенны час да 1939 г., калі маёнтак Людвінова належаў некалькім гаспадарам (Мікалаю Кантораву і Яўгеніі Клёравай), тут існаваў яшчэ шэраг мураваных гаспадарчых аб'ектаў: стайня, бровар і інш[3]. Пасля вайны палац быў разбураны.

У сучасны момант ад ансамбля засталіся рэшткі гаспадарчых пабудоў і фрагменты некалі раскошнага пейзажнага парку (каля 1 га). Асноўны дрэвастой — ліпы, каштаны, растуць дэкаратыўныя кусты.

Рэшткі палацава-паркавага ансамбля маюць мемарыяльнае значэнне, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы. У 1999 г. пачаты работы па ўстанаўленні ў Людвінове мемарыяльнай дошкі Элізе Ажэшка, якая жыла тут з 1858 па 1864 гг.

---

[1] *Памяць. Драгічынскі раён... С.101.*
[2] *Свод памятников... С. 172.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 317. Арк. 1—3.*
[4] *Фота з архіва аддзела культуры Драгічынскага райвыканкома. 1998 г.*

# Папіна
# Popino
# Попино

Колішняя сядзіба роду Ажэшкаў, затым Жукоў[1]. Звесткі пра в. Папіна маюцца ў пісьмовых крыніцах XVI—XVIII ст. У 1860-я гады ўладальнікам маёнтка быў Ян Жук, якому належала 485 душ сялян. Напярэдадні адмены прыгоннага права гаспадар маёнтка перасяліў сваіх сялян далей ад сядзібы на новае месца жыхарства, дзе зараз знаходзіцца в. Папіна. У пачатку XX ст. утварылася вёска з назвай «калонія Папіна», потым Новая Папіна. Паблізу знаходзіцца Ляхавіцкі канал, які ў сярэдневякоўі да пабудовы Дняпроўска-Бугскага канала быў адным з вытокаў р. Піны, адсюль назва вёскі, г.зн., што яна знаходзіцца на р. Піне[2]. Апошняй уладальніцай маёнтка ў Папіне да 1939 г. была Марыя Аляшчына[3].



*Папіна. Фамільны склеп-пахавальня роду Жукоў[4].*

Папінскі маёнтак славіўся ў свой час на ўсю акругу гасціннасцю, культурай і прагрэсіўнасцю поглядаў яго гаспадароў.

У палацы мелася багатая бібліятэка, у якой любіла працаваць Эліза Ажэшка. Тут яна блізка пазнаёмілася з кнігамі французскіх асветнікаў.

Гаспадар палаца і бібліятэкі Ян Жук быў сябрам Дваранскага камітэта ў Гродне, дзе ішло абмеркаванне сялянскага пытання. Пасля кожнага прыезду ў Папіна Ян Жук часта арганізоўваў гарачыя спрэчкі пра мэтазгоднасць скасавання прыгонніцтва. Адны з дваран (браты Русецкія, Ян Жук, Калікст Ажэшка) падтрымлівалі скасаванне, другія — Пётр Ажэшка, муж Элізы, і іншыя — лічылі, што ліквідацыя прыгонніцтва нанясе шкоду і выкліча негатыўныя працэсы ў грамадстве.

У часы нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Папінскі палац быў у цэнтры ўвагі яго ўдзельнікаў. Сюды прыязджалі кіраўнікі паўстанцкіх атрадаў і арганізацый. Сярод іх былі Пётр і Эліза Ажэшкі. Абмяркоўвалася пытанне пра кіраўніка паўстання. Было названа прозвішча маладога і палымянага барацьбіта за вольнасць Рамуальда Траўгута, ураджэнца в. Шастакова, што на Камянеччыне, які пражываў у гэты час у сваім спадчынным маёнтку Востраў (Астроўе) Кобрынскага павета (цяпер Маларыцкі раён).

Рамуальд Траўгут даў згоду і тут у Папінскім палацы выступіў са сваёй праграмай і мэтай паўстання. Прысягу на адданасць паўстанню Рамуальд Траўгут прымаў у маёнтку Божы Дар (цяпер Кобрынскі раён).

Старадаўнія могілкі патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 8. 1887. S. 789.*
[2] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 538.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 415. Арк. 1—2.*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Пярковічы
# Pierkowicze
# Перковичи

Палацава-паркавы ансамбль. Вёска існавала ўжо ў XV ст., аб чым сведчаць згадкі ў пісьмовых крыніцах XV—XVII ст. Да 1756 г. сядзіба належала роду Тарлецкіх, затым больш за 200 гадоў гаспадарамі Пярковічаў да 1939 г. быў род Віславухаў, герб «Адынец»[1].





Паводле даследавання Р.Афтаназы, адзін з нашчадкаў роду Віславухаў Зянон Віславух, падкаморы брэсцкі, у 1805 г. распачаў будаўніцтва двухпавярховага мураванага палаца, завяршэнне і аздобу якога выканаў яго сын Віктар, маршалак пружанскі. Палац праіснаваў з некаторымі зменамі ў архітэктурным аблічы да 2-й сусветнай вайны. Паводле апісання Р.Афтаназы, асноўны аб'ём будынка меў у плане прамавугольную форму, месціўся на высокім 1,5-метровым падмурку. Цэнтральны фасад вылучаўся высокім порцікам на чатырох масіўных калонах і шырокім балконам. У канцы XIX ст. здарыўся няшчасны выпадак, калі фурман на чатырох парах коней зачапіўся за крайнюю калону порціка і забіўся. Новы гаспадар разабраў порцік і калоны,



*Пярковічы. Галоўны фасад палаца*[4].




*Пярковічы. Схема парку*[5].

замяніўшы іх на драўляную веранду з выхадам на балкон. З боку парку існаваў таксама чатырохкалонны порцік, які быў значна вышэйшы за франтальны.

У 1906 г. палац грунтоўна абноўлены, заменена гонтавае крыццё на цынкоўку, франтальная веранда набыла выгляд мансарды ў рэнесансавым стылі. На яе шчыце была змешчана табліца з надпісам на латыні: «CERTA PRO IUSTITIA A.D. 1906» («ЗАКОН ПРАЗ ЗГОДУ А.Д. 1906»).

Палац меў 17 пакояў. Першы паверх складаўся з рэпрэзентатыўнага салона, спальняў, сталовай, рабочага кабінета, буфетнай, кладоўкі, пярэдняй з выхадам на тэрасу.

Каля 1914 г. парадны салон меў каштоўны гарнітур са старой мэблі з ясеню, на сцяне віселі карціна XVIII ст., на якой быў намаляваны хор манахаў, партрэты Язэпа Віславуха, законніка манаскага ордэна піяраў з часоў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, і Вітольда Віславуха, філосафа, выпускніка Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі (памёр у 1892 г.).

Пакой сталовай упрыгожваў вялікі стол з точанымі ножкамі, крэслы з дубу і велізарны бронзавы буфет 1-й паловы XIX ст., прывезены з маёнтка Горкі роду Андрэйкавых, 2 мармуровыя калонкі, аздобленыя малюнкамі вінаградных гронак. На сценах віселі партрэты Віктара Віславуха, двух нашчадкаў роду Андрэйкавых і Севярына Залеўскага, выкананых мастаком Ю.Аляшкевічам.

У астатніх пакоях захавалася некалькі гістарычных рэчаў: ясянёвы столік, сакратэр, крэслы, ложкі, аздобленыя арнаментам, фарфоравыя вырабы, жалезная скрыня XVI ст. і шэраг інш.

У пярэдняй месціліся ясянёвая канапа і светлая шафа, вісеў дубовы крыж з



*Пярковічы. Фрагмент парку. Цэнтральная алея*[6].




выявай Хрыста, а па баках крыжа стаялі выразаныя з дрэва ў натуральную велічыню святыя Язэп і Дамінік. Гэтыя сакральныя каштоўнасці паходзілі з Янаўскага парафіяльнага касцёла.

Другі паверх складаўся з двух рэпрэзентатыўных салонаў: «попельнага» і «белага», раздзеленых дзвюма калонамі. У салонах стаялі 3 печы з белай кафлі, 3 фігуркі французскіх мушкецёраў і Напалеона Банапарта, мэбля з чырвонага дрэва, акруглы столік, выкананы ў «стылі Людовіка XVI».

На адной са сцен «попельнага» салона вісеў фламандскі габелен памерам 3х4 м, некалькі карцін: «Гульня ў шахматы», «Паляшук у лодцы» і інш.

У салоне «белым» стаяла мэбля, выкананая ў «стылі Людовіка XIV», антычныя гадзіннікі, адзін з якіх быў аздоблены фігуркамі Рамэо і Джульеты, віселі некалькі партрэтаў з відам каралеўскага замка ў Варшаве, напісаныя Юзафам Крашэўскім, і велізарная жырандоль. Побач месцілася бібліятэка, у якой стаяў дубовы стол Юзафа Крашэўскага. Тут меўся стары крыж з чорнага дрэва, які падараваў гаспадарам маёнтка генерал Рамуальд Траўгут, калекцыя люлек для курэння, вялікі куфэрак, дзе захоўваліся каштоўныя рукапісы, напісаныя кірыліцай.

З іншых значных гістарычных каштоўнасцей у маёнтку захоўвалася гармата, якая паходзіла з Жаберскага абарончага замка Вішнявецкіх, што існаваў некалі на Ясельдзе. Гармата была затоплена ў час захопу замка шведамі, у пачатку XX ст. яна была знойдзена мясцовымі рыбакамі, а ў 1-ю сусветную вайну закапана і ўратавана ад немцаў. Пазней гармата была перададзена ў Варшаўскі ваенны музей Войска польскага.

Пярковіцкі палацава-паркавы ансамбль размяшчаўся паблізу тракту з Пінска на Брэст, з якога ў маёнтак вяла таполевая алея. Насупраць яе на супрацьлеглым баку тракту месцілася уніяцкая царква, фундатарам якой з'яўляўся Зянон Віславух. Пасля скасавання уніі царква была перададзена праваслаўным вернікам. У царкве захоўваліся мошчы уніяцкага біскупа луцкага Кірылы Тарлецкага, аднаго з творцаў Брэсцкай уніі, пахаванага ў 1605 г. у падзямеллі драўлянага старога касцёла, які стаяў некалі на ўскрайку парку паблізу палаца. Даволі вялікая надмагільная пліта з граніту мела надпіс на латыні. У царкве былі пахаваны таксама Зянон і Віктар Віславухі і іх жонкі[2].

Парк абследаваны і падрабязна апісаны А.Т.Федаруком[3]. Яго плошча складала 16 га. Перад галоўным уваходам быў разбіты вялікі газон. Асноўны дрэвастой парку складалі ясені, каштаны, ліпы, серабрыстыя таполі, бэз, належыць да паркаў, якія фарміраваліся ў эпоху пейзажнага паркабудаўніцтва з выкарыстаннем рэгулярнай планіроўкі. На працяглай (500 м) восі сіметрычна размешчаны сядзібны дом, парадны і паркавы партэры, сажалка і канал. У парку адсутнічаюць баскеты, не выкарыстоўвалася таксама дэкаратыўная фармоўка дрэў.

Да параднага партэра вядзе алея праз вялікі дрэвавы масіў (ясені, клёны, ліпы). У бардзюрах шматлікіх прамавугольнікаў выкарыстаны карагач, у лінейных пасадках — конскі каштан, туя, ліпа. У адзінкавых экземплярах трапляюцца таполя чорная італьянская, клён вастралісты і інш. Гаспадарчыя пабудовы вынесены за межы парку. Паркавы партэр захаваўся часткова, некалі ён меў форму прамавугольніка.

За палацам уздоўж паркавага партэра размешчана невялікая, выцягнутая, з двума выгнутымі рукавамі сажалка.

Ад яе ўздоўж асноўнай восі пралягае канал, завершаны круглай выспай (востравам) дыяметрам 26 м. Акцэнтам перспектывы з'яўлялася альтанка, да якой былі перакінуты два масткі. Прагулачны маршрут цягнуўся ўздоўж воднай сістэмы па насыпной сцежцы шырынёй 6 м, падкрэсленай аднараднай пасадкай ліпы. Тут расце старэйшы ў Беларусі экземпляр вярбы белай (вышыня дрэва 20 м, дыяметр ствала 123 см).

Парк захаваўся часткова (3,5 га). Палацава-паркавы ансамбль выкарыстоўваецца і належыць санаторна-лясной школе-інтэрнату.

Пярковіцкі палацава-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы, з'яўляецца помнікам садова-паркавага мастацтва.

---

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 438. Арк. 1—8.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S.118.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 58—59.*
[4,6] *Фота аўтара. 1998 г.*
[5] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 57.*

# Равіны
# Rowiny
# Ровины

Колішняя сядзіба. У далёкім мінулым в. Равіны ўваходзіла ў склад Драгічынскага графства. Першыя звесткі пра маёнтак і в. Равіны падаюцца ў дакументах 1776, 1778 і 1779 гг.[1]

У 1860-я гады маёнткам валодаў род Юрэвічаў. Менавіта ў гэты час у гасцях гаспадара маёнтка Равіны пабываў Напалеон Орда і пакінуў нам унікальныя акварэлі з відам Равінскага двара. Паводле малюнкаў Н.Орды, у склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі сядзібны дом, пабудаваны ў канцы XVIII ст., парк і шэраг гаспадарчых збудаванняў. Будынак палаца аднапавярховы, мансардавы, у плане меў форму прамавугольніка, быў накрыты высокім двухсхільным гонтавым дахам. Галоўны ўезд у сядзібу праходзіў праз масток. Злева на беразе сажалкі стаяла невялікая капліца. Сядзібу ахінаў пейзажны парк з дрэў у асноўным мясцовых лісцевых парод.

Пасля паўстання 1863 г. маёнтак Равіны быў секвес-



*Равіны. Сядзібна-паркавы ансамбль.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1865 г.[3]*









*Равіны. Гаспадарчы двор.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1865 г.*[4]

траваны і перададзены расійскім землеўладальнікам. Яго набыў правадзейны стацкі саветнік Андрэй Спірыдонаў, які ў 1893 г. прадаў сядзібу і мяст. Драгічын правадзейнаму стацкаму саветніку Фёдару Мінкову.

Пасля гэтага маёнткам па спадчыне валодалі па жаночай лініі Надзея Гросмані і Вольга Красоўская.

Апошняй уладальніцай Равінскага двара да 2-й сусветнай вайны была Ксенія Мінкова-Валасевіч[2].

У пасляваенны перыяд Равінская сядзіба была знішчана.

[1] *Памяць. Драгічынскі раён... С. 540.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 451—464. Арк. 1—8.*
[3,4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.4409—4410).*

# Саха
# Socha
# Соха

Старадаўні двор роду Ажэшкаў[1]. У 1-й палове XVIII ст. сядзіба Саха належала Леапольду Ажэшку — пінскаму земскаму суддзі, дэпутату Варшаўскага сейма. У канцы XVIII ст. двор перайшоў ва ўласнасць роду Завадскіх, якія апрача Сахі мелі землі ў Пружанскім павеце.



*Саха. Порцік палаца. 1937 г.*[4]

У пачатку XIX ст. маёнтак выкупіў род Віславухаў. Першым уладальнікам маёнтка быў Віктар Віславух, гаспадар суседняга Пярковіцкага двара. Апошнім гаспадаром Сахі да 1939 г. з'яўляўся Генрых Віславух[2].

Да 2-й сусветнай вайны у маёнтку Саха існаваў невялікі аднапавярховы палац, пабудаваны каля 1750 г. яшчэ пры гаспадаранні ў ім Леапольда Ажэшкі.



*Саха. Палацавы салон. 1937 г.*[5]

Цэнтральны ўваход у палац быў акцэнтаваны шырокім ганкам на дзвюх парах масіўных калон, на якія абапіраўся трохвугольны шчыток, абабіты вузкімі дошкамі. Палац накрываў высокі, гладкі, чатырохсхільны гонтавы дах.




*Саха. Схема сядзібы.*

Унутраная яго аздоба адрознівалася сціпласцю, сцены пабелены, грубкі простыя цагляныя, падлога з сасновых дошак.

У пачатку XX ст. пры Віславухах палац быў значна пашыраны, да левай яго сцяны быў дабудаваны новы палац у «стылі закапанскім»[3].



*Саха. Фрагмент парку*[6].

Палац ахінаў вялікі пейзажны парк. Асаблівую прыгажосць парку надавалі алеі, абсаджаныя векавымі ліпамі, газоны, клумбы, кветкі вакол палаца. Палац і парк былі поўнасцю знішчаны ў пасляваенны час.

[1] *Słownik biograficzny. T. 14. Wrocław, 1979. S. 311.*
[2-5] *Aftanazy R. Dzieje... S.140—141.*
[6] *Фота аўтара. 1999 г.*






## Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Жабінкаўскага раёна

*Глыбокае*
*Агароднікі*
*Антанін*
*Юркаўшчына*
*Вежкі*
*Шпіталі*
*Франопаль*
*Хмелева*
*В.Сяхновічы*
*Карды*
*Жулкаўшчына*
*М.Сяхновічы*
*Рудка*
*Жабінка*
*Пятровічы*
*Ацячызна*
*Булькова*
*Мельнікі*
*Азяты*

**Існуючыя палацы, паркі, сядзібы**
**Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы**




# Агароднікі
# Ogrodniki
# Огородники

Колішняя сядзіба роду Мілачэўскіх. Размешчана за 0,5 км на захад ад в. Агароднікі. На тапаграфічнай карце 1886 г. мае назву Вежкі. Вёска Агароднікі ўзнікла пасля правядзення ў Кобрынскай эканоміі аграрнай рэформы 1557 г. У рэвізіі 1563 г. прыводзіцца факт высялення з Вяжэцкага Двара 10 сем'яў агароднікаў, якія паклалі пачатак новаму паселішчу і далі яму назву Агароднікі[1].

У XIX ст. вёска Агароднікі належала маёнтку Вежкі, у якім гаспадарыў род Даманскіх.



*Агароднікі. Фрагмент парку[2].*

Верагодна, пры Даманскіх тут быў пабудаваны сядзібны дом і закладзены пейзажны парк. Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, з ганкам на драўляных слупах. У гады 1-й сусветнай вайны дом згарэў, а на яго месцы ў




*Агароднікі. Схема парку[3].*

1927 г. пабудаваны невялікі драўляны дом, які існуе да сённяшняга часу. Ад старой сядзібы захаваліся мураваны склеп (піўніца), сад і рэшткі парку, якія патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Бензярук А.Р. Наш край — Жабінкаўшчына. Брэст, 1996. С. 63.*

[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

[3] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Жабінкаўскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Азяты
# Oziaty
# Озяты

Паводле даследавання Аліны Ваўжынчык, Азяты на пачатку XVI ст. належалі роду Гайкаў. Прывілеем вялікага князя ВКЛ Жыгімонта I Старога ад 27.1.1516 г. Сідару Фёдаравічу Гайку былі выдзелены зямельныя надзелы ў Азятах[1]. Затым пасля ўтварэння ў Азятах маёнтка яны ў якасці ўзнагароды на працягу XVI—XVIII ст. шмат разоў пераходзілі да розных гаспадароў: Гайкаў, Цып-



*Азяты. Галоўны фасад палаца. Каля 1930 г.[8]*

рыскіх, Звераў, Сумарокаў, Пясецкіх, Сакалінскіх, Дуніных-Раецкіх, Бжастоўскіх, Нестаровічаў[2].

Уладальнікі маёнтка Ян Гайка і Ян Нестаровіч былі берасцейскімі кашталянамі (першы ў 1566 г., другі ў 1721 г.)[3]. У 1567 г. Ян Гайка выставіў са сваіх маёнткаў (Азяты і Збірагі) у войска ВКЛ 30 вершнікаў і 23 пешыя салдаты[4].

На працягу XVI—XVIII ст. адбыліся шматлікія размежаванні азяцкіх зямель. У сярэдзіне XVIII ст. адасобіліся маёнткі Вялікія Азяты, Малыя Азяты і Азяты-Заднікі.

**Вялікія Азяты** (Каралеўскія) утварыліся як маёнтак на землях Рудкаўскага ключа і адносіліся раней да каралеўскіх спадчынных уладанняў. У 1757 г. паводле прывілея Аўгуста III адышлі да роду Выганоўскіх, потым гаспадарамі маёнтка сталі прадстаўнікі роду Паліньякаў[5]. У час вайны 1812 г. маёнтак некалькі разоў быў абрабаваны часцямі 3-й рускай арміі генерала Тармасава і адмірала Чычагова і аўстра-саксонскага корпуса генерал-фельдмаршала Шварцэнберга.

У 1839 г. маёнтак набыў П.Шапятоўскі, а з 1870-х гадоў апынуўся зноў у Выганоўскіх. З прыходам савецкай




8а Зак. 1023





улады ў 1939 г. усе пабудовы маёнтка пачалі выкарыстоўвацца мясцовым калгасам. У час 2-й сусветнай вайны двор быў канчаткова разрабаваны.

**Азяты-Засаднікі** належалі да царкоўных уладанняў. У канцы XV ст. у Азятах ужо існавала Мікольская царква, фундатарамі якой з'яўляліся ўладары маёнтка Гайкі. З 1555 г. яны атрымалі права прызначаць у царкву святароў[6]. У 2-й палове XX ст. Азяты-Засаднікі зліліся з Азятамі.

**Малыя Азяты** (Шляхецкія) утварыліся як маёнтак у XVIII ст. і сталі ўласнасцю роду Верашчакаў. Таму яшчэ напярэдадні 2-й сусветнай вайны Азяты мелі назву «Верашчакі».

Маючы багаты пасаг, Юлія Верашчака (1856—1918) выйшла замуж за Валерыя Задарноўскага, затым за яго брата Ежы і ўнесла двор Азяты ва ўласнасць роду Задарноўскіх. Задарноўскія мелі яшчэ 2 суседнія маёнткі за р. Мухавец: Багуславічы і Савіцкія.

Апошняя ўладальніца Азят да 1939 г. — праўнучка Юліі Верашчакі Марыя, якая была замужам за Андрэем Сцябельскім, закатаваным у Катыні.

Паводле даследаванняў Рамана Афтаназы, у 2-й палове XVIII ст. у Азятах ужо існаваў аднапавярховы палац (сярэдняя яго частка была двухпавярховай), які быў узведзены на высокім падмурку, меў у плане форму прамавугольніка.

Порцік палаца меў вялікі балкон і 2 пары шырока расстаўленых калон, на якія абапіраўся трохвугольны гладкі шчыток.

Тыльная частка палаца ўздоўж усяго будынка мела веранду, абвітую вінаградам. Палац, порцік і веранда былі накрыты высокім чатырохсхільным гонтавым дахам.

Палац без прыбудоў меў 12 розных пакояў на 1-м паверсе і 1 вялікі — на 2-м. Большасць пакояў мела паркетнае пакрыццё і печы са старой кафлі, а таксама каміны.

Уся ўнутраная аздоба палаца была абрабавана яшчэ ў 1-ю сусветную вайну. У міжваенны перыяд у палацы мелася некалькі унікальных рэчаў, у т.л. фамільнае фартэпіяна, 2 ложкі, старадаўняя шафа з кнігамі, сярод якіх асаблівую каштоўнасць мела кніга Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», выданне 1834 г.



*Азяты. Збожжасховішча. 1930-я гады[9].*

Палац ахінаў невялікі старадаўні парк. Да палаца вяла шырокая алея, абсаджаная дубамі і букамі. Перад уваходам у палац стаяла галоўная ўязная драўляная брама на 2 слупах з дахам, абкружаная жывой агароджай. Паміж брамай і порцікам палаца месціўся шырокі газон з клумбамі. Злева ад палаца стаяў свіран з клеццю на 10 слупах, злучаных аркадай, а паблізу — афіцына з высокім гонтавым дахам.

Акрамя галоўнай брамы існавалі яшчэ 2 — усходняя і заходняя. Вакол парку размяшчаўся канал. Шырокая алея вяла да дваровай капліцы, побач з якой стаяў векавечны дуб[7].

У 1939 г. гаспадары двара былі арыштаваны і вывезены ў Сібір. Палац згарэў у 2-ю сусветную вайну ў 1943 г.

Да нашага часу захаваліся невялікія рэшткі парку.

Вёска Азяты — радзіма вядомага беларускага этнографа, педагога і гісторыка Ю.Ф. Крачкоўскага (1840—1903).

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 102—103.*
[2] *Бензярук А.Р. Наш край... С. 99.*
[3] *Wolff J. Senatorowie i dygnitarze W.K.L. 1386—1795. Kr., 1885. S. 98.*
[4] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 103.*
[5] *Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов (далей — АВАК). В 39 т. Вильна, 1871. Т. 5. С. 389—390.*
[6] *АВАК. Вильна, 1867. Т. 2. С. 5—6.*
[7,8,9] *Aftanazy R. Dzieje... S. 104—105.*

# Антанін
# Antonin
# Антонин

Колішні маёнтак. Размешчаны побач з в. Арэпічы, якая паводле пісьмовых крыніц заснавана да XVI ст. Першыя вядомыя звесткі пра в. Арэпічы змешчаны ў прывілеі караля Жыгімонта I Старога ад 25.4.1509 г. У ім гаворыцца, што намеснік берасцейскі С. Осцікавіч адсудзіў у паноў Каранёўскіх в. Арэпічы і далучыў яе землі да велікакняжацкіх грунтоў[1]. У пачатку XIX ст. Арэпічы ўвайшлі ў склад маёнтка Антанін і падараваны памешчыку Іванову. Наступнымі вядомымі гаспадарамі Антанінскага двара былі Ляшчынскія, пасля іх Назарэвічы.



*Антанін. Фрагмент уязной алеі[2].*

Калі гаспадарка ў Назарэвіча занепала, фальварак Антанін выкупіў Карніл Еўдакімавіч Лось. Грашовую дапамогу ў набыцці фальварка аказаў яму зяць Даніла Наўцэвіч, які на той час служыў ад'ютантам у генерала царскай арміі Аляксеева ў Адэсе.

У К.Е.Лося было 3 сыны і 7 дачок. Ён прыклаў шмат намаганняў на адукацыю дзяцей. Сыны Сцяпан, Глеб, Карніл і дачка Настасся закончылі Лідскую гімназію, а старэйшы сын Цімафей — Санкт-Пецярбургскі універсітэт. Дачка Настасся закончыла Адэскі медыцынскі інстытут, сын Сцяпан — Маскоўскую тэхнічную акадэмію, Глеб — інстытут шляхоў зносін.









*Антанін. Галоўны фасад сядзібнага дома[3].*

Карніл Еўдакімавіч быў дбайным гаспадаром, утрымліваў сядзібу Антанін у добрым стане. Большую частку сядзібы займаў пладовы сад. Па перыметры яна была абсаджана лісцевымі дрэвамі, мела плошчу 7 га. Да галоўнага фасада сядзібнага дома вяла працяглая каштанавая алея.

Дом быў драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны, з невялікім ганкам на драўляных слупах, накрыты спачатку высокім гонтавым дахам.

У баку ад саду размяшчаліся 2 сажалкі, якія злучаліся каналам з перакінутым цераз яго мастком. Перыферыйныя прагулачныя алеі былі абсаджаны ліпамі, клёнамі, ясенямі, дубамі, вербамі, каштанамі і мноствам дэкаратыўных кустоў.

Пасля смерці К.Е.Лося ў 1938 г. старэйшы яго сын Цімафей, які на той час працаваў дырэктарам Брэсцкай гімназіі, атрымаў у спадчыну ад бацькі фальварак Антанін. У 1940 г. ён перасяліўся ў сядзібу і пачаў працаваць дырэктарам Арэпіцкай сярэдняй школы, якую сам арганізаваў і адкрыў.

У 1948 г. пасля калектывізацыі большая частка сядзібы адышла да калгаса, а пасля смерці Цімафея Карнілавіча ў




*Антанін. Схема сядзібы.*

сядзібным доме размясцілася калгасная кантора. Пазней дом стаў безгаспадарным, заняпаў і быў разабраны. Суцэльная меліярацыя моцна паўплывала на парк. Каналы і сажалкі абмялелі, зараслі.

Асноўныя дрэвы з тых, што засталіся ў парку: ліпа, ясень, дуб, вярба, каштан, дэкаратыўныя кусты.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

1 *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 482.*
2 *Фота аўтара. 2000 г.*
3 *Схема і малюнак (рэканструкцыя) сядзібнага дома выкананы архітэктарам Р.Будзько. 2000 г.*

# Ацячызна
# Ateczyzna
# Отечизна

Старадаўняя сядзіба, якая ўзнікла на грэблі (гаці), чаму і атрымала такую назву.

Згадваецца ў дакументах ВКЛ з 2-й паловы XVII ст. як шляхецкі двор роду Фядзюшкаў. У 1699 г. паміж братамі Фядзюшкамі была складзена грамата на падзел спадчыны. У 1700 г. старэйшы з іх Ф.Я.Фядзюшка быў фундатарам Рагазнянскай царквы на землях Ацячызненскага маёнтка[1]. З XVIII ст. Ацячызна належыць роду Сяклюцкіх, затым маёнтак пераходзіць ва ўласнасць князёў Бельскіх. З таго часу і да 1939 г. Бельскія былі пастаяннымі ўладальнікамі Ацячызны. Апошнім яе гаспадаром да 2-й сусветнай вайны быў Эдвард Бельскі[2].

У маёнтку меўся стары палац, пабудаваны пры Бельскіх у XVIII ст. Будынак палаца быў з дрэва, аднапавярховы, на высокім падмурку, у плане меў форму доўгага прамавугольніка. Палац меў высокі чатырохсхільны гонтавы дах.

З боку галоўнага ўвахода ў палац быў звычайны невялікі ганак на чатырох драўляных слупах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыток.



*Ацячызна. Порцік галоўнага фасада палаца. Перад 1939 г.[5]*

У 2-й палове XIX ст. Ксаверый Бельскі дабудаваў да левага крыла палаца чатыры службовыя пакоі. Прыбудоўка была трохі вышэйшая, чым галоўны аб'ём. Палац быў ашаляваны дошкамі, а ўсе калоны ганка заменены на сасновыя. З боку парку да палаца была дабудавана вялікая



*Ацячызна. Паркавы фасад палаца[6].*









тэраса, аздобленая па перыметры драўлянай балюстрадай.

Палац меў шырокія сені і 13 пакояў. Рэпрэзентыўныя пакоі месціліся ў правым крыле палаца. Асабліва вылучаўся гасціны пакой, сцены якога былі аздоблены залацістай тканінай. У ім вісела бронзавая жырандоль на 13 свечак, стаяла мэбля ў стылі Людовіка XV, віселі малюнкі невядомага мастака і партрэт жанчыны мастака Жмуркі. Салон з правага боку прылягаў да зімовага саду. Побач з вялікім салонам існавалі меншы салон і бібліятэка, у якіх былі мармуровыя каміны, стаяла старадаўняя мэбля з чырвонага дрэва, на сценах размяшчаліся унікальныя малюнкі, у прыватнасці «Святая сям'я» Рубенса, два палатны мастака Граўза і палатно мастака Тэнірса «Два рыбакі з сеткай».

Паводле апісання Р.Афтаназы, адзін з нашчадкаў Бельскіх — Эдвард Бельскі распавядаў, што работа Рубенса не ў поўнай меры вызначана як арыгінал. У канцы XIX ст. нямецкі калекцыянер хацеў выкупіць гэта палатно за 100 тысяч рублёў, але гаспадар двара не згадзіўся. У 1905 г. Эдвард Бельскі вазіў карціну на рэстаўрацыю да спецыялістаў у Берлін, дзе былі выказаны розныя меркаванні наконт прызнання яе арыгіналам. Гэту і іншыя работы Юзаф Бельскі набыў раней у багатай Дзямідаўскай галерэі Санкт-Пецярбурга[3].

У вялікім сталовым пакоі вісела таксама шмат малюнкаў, у т.л. 15 партрэтаў прадстаўнікоў роду Бельскіх. Асаблівую каштоўнасць мелі партрэты падчашага брэсцкага Станіслава Бельскага і яго жонкі, напісаныя невядомым мастаком. Бібліятэка мела больш за тысячу экзэмпляраў кнігазбору навейшага часу.



*Ацячызна. Бровар[8].*

Палац стаяў сярод маляўнічага парку, які першапачаткова займаў плошчу каля 15 га. Пазней да парку былі далучаны яшчэ 12 га з прагулачнай тэрыторыяй.

Новую кампазіцыйную планіроўку парку зрабіў у 1910 г. архітэктар Франсуа Шэнье. У непасрэднай блізкасці ад палаца парк меў шэраг баскетаў, абкружаных стрыжанымі дрэвамі і кустамі. Перад домам размяшчаўся велізарны газон, побач рос старажытны (700—800 гадоў) дуб, далей 2 альтанкі, абсаджаныя 250-гадовымі каштанамі і вельмі старымі ліпамі, некалькі прагулачных кляновых і ліпавых алей. Асаблівую прыгажосць парку надавалі каналы і сажалка[4].



*Ацячызна. Старажытны дуб у цэнтры парку[7].*




*Ацячызна. Схема сядзібы.*

Палацава-паркавы ансамбль быў абрабаваны ў гады 1-й і 2-й сусветных войнаў, палац спалены, а ў савецкі час застаўся занядбаным і безгаспадарным.

Зараз плошча рэшткаў парку складае некалькі гектараў. Захаваліся старажытны дуб і частка дрэвастою лісцевых парод.

У 1998 г. пачаліся работы па добраўпарадкаванні парку. Парк узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *АВАК. Вильна, 1872. Т. 6. С. 500—501.*
[2] *НГАРБ у г. Гродна. Ф. 10. Воп. 2. Спр. 202. Арк. 128, 138 адв., 271—272 адв.*
[3] *Aftanazy. R. Dzieje... S. 11.*
[4] *Gregorczuk D. Dworki i pałace... S. 9.*
[5, 6] *Aftanazy R. Dzieje... S. 11.*
[7, 8] *Фота аўтара. 2000 г.*





# Булькова
# Bulkowo
# Бульково

Старадаўняя сядзіба. Вёска Булькова ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах ВКЛ з сярэдзіны XVI ст. На той час яна належала жонцы віцебскага ваяводы Станіслава Кішкі, які ў 1583 г. са сваіх уладанняў Чэрнева і Булькова сплаўляў па Мухаўцы драўніну, нарыхтаваную ў Булькоўскім лесе[1].

У пачатку XVII ст. маёнтак набыў статут графства і апынуўся ў валоданні графаў Масальскіх, фундатараў Булькоўскай царквы.

Булькоўская царква Успення Божай Маці (дзень закладкі святкуецца 28 жніўня) упершыню згадваецца 20 верасня 1617 г. у дарчай грамаце графа Андрэя Масальскага (памёр у 1651). Яго родзіч Міхаіл Юзаф Масальскі (памёр у 1768) асобным фундушам пацвердзіў ранейшыя дараванні гэтай царкве ад імя свайго роду (1705). На той час царква ўжо была уніяцкая.

У 2-й палове XVIII ст. частку графства атрымаў у валоданне уніяцкі падкаморы Юрый Ляпарскі, па ініцыятыве якога ажыццявілася замена царкоўных зямель.

У верасні 1794 г. у час нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Польшчы, Украіне, Беларусі і ў Літве праз Булькоўскае графства праходзілі паўстанцкія атрады генералаў Макраноўскага і Серакоўскага, якія накіроўваліся пад Крупчыцы, дзе 17 верасня 1794 г. сустрэліся ў бітве з расійскім войскам Аляксандра Суворава.

Паводле сведчання польскага гісторыка Ксаверыя Зданьскага, які правёў у 1930-я гады грунтоўнае даследаванне Булькова, на палях пад вёскай у пачатку XX ст. яшчэ былі валы, абкружаныя равамі, якія паходзілі, па паданнях старажылаў, з часу Кацярыны II і, верагодна, былі магіламі ахвяр паўстання 1794 г.[2]

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Булькоўскі маёнтак апынуўся ў валоданні сям'і Райскіх.

У час вайны 1812 г. маёнтак 26—28 верасня стаў месцам дыслакацыі часцей 3-й рускай арміі пад камандаваннем адмірала Чычагова. Сам галоўнакамандуючы кватараваў у доме памешчыка Райскага[4].

У 1825 г. маёнтак перайшоў ва ўласнасць Франца Пятровіча Ажароўскага (памёр у 1846) і аднавіў статус графства[5]. Булькоўскае графства тае пары складалася з фальваркаў Булькова, Стрыганец і Ракітніца.

У 1846 г. у агульнае валоданне графствам уступілі сыны Франца Ажароўскага Станіслаў, Казімір і Канстанцін (апошні тытулаваўся камер-юнкерам імператарскага двара, займаўся гісторыяй, быў складальнікам выдання генеалагічнага даведніка «Сапегі» ў 4 тамах).

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. за арганізацыю палявання ў Булькоўскім лесе, на якое з'ехаліся суседнія памешчыкі, Ажароўскія былі аштрафаваны паліцыяй, якая ўгледзела ў гэтым «тайную змову». У 1877 г. маёнтак Булькова быў апісаны.

У гэты час Канстанцін Ажароўскі прадаў свае правы на Булькова Марыі Ганецкай і яе сыну, кобрынскаму міравому суддзі Івану Міхайлавічу Ганецкаму. У 1887 г. у маёнтку была заснавана вінакурня.

Апошнім гаспадаром Булькоўскага двара перад 2-й сусветнай вайной быў род Малашэўскіх[6]. У час вайны палац быў знішчаны. Засталіся яго падмуркі. Захавалася ўязная каштанавая алея. Месца колішняга парку цяпер засаджана сасоннікам.



*Булькова. Фрагмент уязной алеі[7].*

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 279.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 56.*
[3] *Тамсама.*
[4] *Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1979. Т. 4. С. 69.*
[5] *НГАРБ у г. Гродна. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 238. Арк. 10 адв.; Воп. 2. Спр. 98. Арк. 28; Ф. 10. Воп. 2. Спр. 70. Арк.1—3.*
[6] *ДАБВ у г. Брэст. Ф. 2059. Воп. 1. Спр. 3099. Арк. 124—125.*
[7] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Вежкі
# Wieżki
# Вежки

Старадаўняя сядзіба роду Бабінскіх. Размяшчалася ў цэнтры вёскі Вежкі, якая ў XIX ст. мела назву Шчаропаль. Вёска Вежкі, паводле меркаванняў краязнаўца А.Бензярука, з'яўляецца адным з самых старажытных паселішчаў на тэрыторыі Жабінкаўскага раёна, якое ўзнікла ў 2-й палове XIV ст. як абарончае збудаванне на памежжы ВКЛ і Польшчы. Называлася раней Вяжэцкім Дваром, Вежыцай і інш. назвамі ад слова «вежа», што літаральна азначае абарончае збудаванне ў выглядзе слупа. Да сярэдзіны XIX ст. маёнтак падзяліўся на Вежкі, Віднае, Вежкі-Франопаль, Вандалін (уладары Херсонскія, Расудоўскія, Бабінскія, Горскія, Ястрэмбскія)[1].











*Вежкі. Рэканструкцыя галоўнага фасада палаца паводле М.Вітвіцкага*[4].

У дакументах 1513 г. Вежкі ўпершыню ўпамінаюцца як цэнтр двара, а пад 1522 г. — як уласнасць роду Касцевічаў. У 1755 г. у Вежках стаялі доўгі час войскі канфедэратаў маршалка Агінскага і намесніка гетмана ВКЛ Пацея[2].



*Вежкі. Рэканструкцыя паркавага фасада палаца паводле М.Вітвіцкага*[5].

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Кобрынскі ключ (былое Кобрынскае княства), у т.л. маёнтак Вежкі, былі падараваны фельдмаршалу Аляксандру Сувораву. Пасля па спадчыне на велізарных абшарах Кобрынскага ключа стаў гаспадарыць сын Аляксандра Суворава — Аркадзь Аляксандравіч, які вымушаны быў распрадаць маёнткі.

Паводле сцвярджэння Р.Афтаназы, Вежкі выкупіў род Шпакоўскіх. Вядомы прадстаўнік роду Кароль Шпакоўскі лічыўся слынным і дбайным гаспадаром. Ён быў першы, хто ў бліжэйшым наваколлі адкрыў цукраварню і арганізаваў навучанне на спецыяльных курсах рабочых завода, пра што паведамлялася ў свой час на старонках часопіса «Штотыднёвік Пецярбурга».




*Вежкі. Схема сядзібы.*

Яго дачка Марыя выйшла замуж за Зыгмунта Расудоўскага, герб «Рох III», таму маёнткам пэўны час валодалі Расудоўскія. Іх дачка Марыя Алена ў 1894 г. узяла шлюб з Адамам Бабінскім (1869—1940), які лічыўся апошнім гаспадаром Вежак. У час сталінскіх рэпрэсій ён быў арыштаваны, у 1940 г. закатаваны ў засценках мінскай турмы.

Адам Бабінскі быў унукам Міхаіла і праўнукам Ігнацыя і Ірыны Бутрымовіч. Бабінскія належалі да старадаўняга беларускага роду, які ўзяў свой пачатак з в. Бабіна.

Да 1939 г. у Вежках існаваў арыгінальны па архітэктурным аблічны палац, пабудаваны Каралём Шпакоўскім пасля 1818 г. Будынак палаца быў драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны. Галоўны фасад па баках меў два ідэнтычныя ганкі на дзвюх калонах кожны. Паркавы фасад вылучаўся двума рызалітамі, паміж якімі месцілася адкрытая веранда, дах якой апіраўся



*Вежкі. Рэшткі ўязной алеі*[6].

на шэраг калон, падобных на калоны галоўнага фасада. Палац меў гладкі высокі чатырохсхільны гонтавы дах.

У 1894 г. новы гаспадар Вежак Адам Бабінскі правёў значную перабудову палаца, што парушыла яго першапачатковы завершаны выгляд. З гэтага часу палац складаўся з 15 пакояў. Да бакавога фасада быў дабудаваны новы будынак кухні, часткова зменена ўнутраная планіроўка. Вельмі багата былі аздоблены салоны, бібліятэка, спальні, рабочы кабінет.

Перад 1-й сусветнай вайной мэбля, карціны, фарфоравыя сервізы, карэты, што меліся ў Вежках, былі адп-



*Вежкі. Фрагмент парку*[7].

раўлены ў в. Пацейкі пад Нясвіжам, але ў час ваенных дзеянняў большасць гэтага багацця была знішчана[3].

У міжваенны перыяд двор быў аднаўлены. Палац абкружаў невялікі парк, закладзены пры Расудоўскіх у сярэдзіне XIX ст. Да палаца вяла доўгая ўязная алея, абсаджаная таполямі, ліпамі, клёнамі. Вакол парку цягнуўся абвадны канал, цераз які быў перакінуты арыгінальны масток. У парку было многа алей, абсаджаных дрэвамі і кустамі мясцовых парод. Захавалася ўязная алея, абсаджаная ясенямі і вербамі. Яшчэ выразна праглядаецца сістэма каналаў, сажалка. У парку растуць ліпы, таполі, вербы, ясені, дубы, вязы і іншыя мясцовыя пароды дрэў.

Да 1837 г. у Вежках непрацяглы час працаваў невялікі цукровы завод. У савецкі час на месцы былога маёнтка размясціўся мясцовы калгас, а непасрэдна на тэрыторыі гістарычнага парку былі пабудаваны памяшканні жывёлагадоўчай фермы. У выніку безгаспадарчасці большая частка парку вынішчана, а сядзібны дом і гаспадарчыя пабудовы разабраны.

Рэшткі парку ў Вежках патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 486.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 114.*
[3,4,5] *Aftanazy R. Dzieje...T. 11. S. 431—435.*
[6,7] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Вялікія Сяхновічы
## Wielkie Siechnowicze
## Большие Сехновичи

Старадаўні маёнтак роду Касцюшкаў-Сяхновіцкіх. Утварыўся у 1-й палове XVII ст. пасля падзелу Сяхновіч, замацаваўся за прадстаўнікамі старэйшай лініі роду Касцюшкаў (так званыя Іванавічы-Касцюшкі). У склад маёнтка ўваходзіў шэраг іншых вёсак. У XVII ст. тут гаспадарылі Павел, Пётр і Хрызастом Касцюшкі. Сыны Паўла вымушаны былі адмовіцца ад сваёй часткі спадчыны на карысць роду Чартарыйскіх[1]. Другая частка трапіла да берасцейскага кашталяна Ю.Быстрага, які неўзабаве перад смерцю (1781) прадаў Сяхновічы князю Адаму Чартарыйскаму. Таму ў канцы XVIII ст. Ян і


*Вялікія Сяхновічы. Руіны крухмальнага завода[6].*



*Вялікія Сяхновічы. Схема сядзібы. 2000 г.*

Станіслаў Касцюшкі з'яўляліся ўжо толькі арандатарамі ў былым радавым гняздзе[2].

У 1818 г. Сяхновічы набыў Францішак Ілаковіч, а ад яго сыноў у 1850 г. — Вандалін Пшыбора[3].

Як сведчыць запіс у гродскай (гарадской) судовай кнізе, прадстаўнікі роду Касцюшкаў у 1727 г. перабудавалі ў Вялікіх Сяхновічах Свята-Мікалаеўскую уніяцкую царкву. У плябаніі гэтай царквы нарадзіўся Ігнат Жалязоўскі (1802—1872), які ў 1848—1870 гг. быў брэсцкім праваслаўным біскупам[4].

Гаспадары маёнтка Вялікія Сяхновічы ў 2-й палове XIX ст. пабудавалі прыгожы дом з цэглы, а ў пачатку XX ст. — крухмальны завод, залажылі невялікі парк.

У сучасны перыяд аб існаванні тут крухмальнага завода сведчаць яго руіны. На месцы колішняга палаца ў пасляваенны час быў пабудаваны жылы дом. Захаваліся невялікія рэшткі парку, сажалка, некалькі старых хатак, праваслаўная царква. Рэшткі крухмальнага завода патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *АВАК. Вильна. 1870. Т. 4. С. 161—162.*
[2] *Słownik geograficzny... 1889. T. 10. S. 489.*
[3] *Zdański K. Przyczynki... S. 103.*
[4] *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 131—133, 502; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1996. Т. 3. С. 364.*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Глыбокае
## Głębokie
## Глубокое

Колішні фальварак, які размешчаны побач з вёскай Глыбокае. Дзякуючы таму, што ў ім пасля 2-й сусветнай вайны была размешчана ўчастковая бальніца, захаваліся рэшткі парку, сядзібны дом і гаспадарчыя пабудовы.

У XVI ст. Глыбокае з'яўлялася ўрочышчам маёнтка Рэчыца валынскага войскага Івана Чапліца, у XVII ст. — маёнткам роду Пацеяў. У 1632 г. перададзена ў арэнду М.Лазаровічу. У 1685 і 1759 гг. складаліся інвентары Глыбокага. У XIX ст. маёнтак перайшоў ва ўласнасць Непакойчыцкіх, потым Канстанціна Рота[1].

Сядзібны дом размяшчаецца ў цэнтры парку, дата яго пабудовы дакладна невядома (верагодна, 2-я палова XIX ст.). Дом у плане мае форму прамавугольніка, пазней да яго былі прыбудаваны два сіметрычна разме-







*Глыбокае. Галоўны фасад сядзібнага дома*[2].

шчаныя крылы. Будынак меў двухсхільны гладкі гонтавы дах, яго ўнутраныя памяшканні перабудаваны пад патрэбы бальніцы. Побач з домам размяшчаюцца гаспадарчыя памяшканні.




*Глыбокае. Схема сядзібы.*

Сядзібны дом ахінае пейзажны парк, закладзены таксама ў 2-й палове XIX ст. Па перыметры парку захаваліся равы, на захад ад будынка дома размяшчаецца невялікая сажалка. У парку растуць клёны, дубы, ясені і каштаны. Захаваліся і знаходзяцца ў добрым стане 7 экзэмпляраў лістоўніцы. Сядзібна-паркавы ансамбль патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890. С. 209.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Жулкаўшчына
# Żółkowszczyzna
# Жулковщина

Колішняя сядзіба роду Касцюшкаў, пазней Жулкоўскіх. Размяшчалася пры дарозе паміж Малымі і Вялікімі Сяхновічамі насупраць праваслаўных могілак. У 1763 г. маёнтак у якасці пасагу адышоў за Кацярынай Касцюшкай да яе мужа К.Жулкоўскага. Ад яго прозвішча і атрымаў назву[1]. У 1782 г. К.Жулкоўскі быў адным з крэдытораў і фундатараў Тадэвуша Касцюшкі. З цягам часу Жулкаўшчына далучалася зноў да Малых Сяхновіч[3]. На сённяшні дзень засталіся рэшткі пейзажнага парку, плошча якога складае цяпер каля 4 га. Захаваліся 2 сажалкі, якія злучаны паміж сабою равамі. Сажалкі і равы абмялелі і зараслі. У парку растуць ліпы, таполі, ясені, клёны, дэкаратыўныя кусты.



*Жулкаўшчына. Фрагмент парку*[4].




*Жулкаўшчына. Схема парку.*

У цэнтры парку стаяў аднапавярховы драўляны палац. Архітэктурнае аблічча яго невядомае. Паводле мер-



*Жулкаўшчына. Руіны капліцы-пахавальні*[5].





кавання мясцовага краязнаўца А.Бензярука, палац, верагодна, быў знішчаны ў час 1-й сусветнай вайны.

Насупраць сядзібы цераз дарогу на Сяхновіцкіх могілках засталіся рэшткі паўразбуранай капліцы-пахавальні без даху. Капліца пабудавана з чырвонай цэглы са стральчатымі вокнамі, у плане мае форму шасцівугольніка.

Рэшткі парку і капліцы-пахавальні патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Szyndler B. Tadeusz Kościuszko... S. 26.*
[2] *Korzon T. Kościuszko... S. 180, 181, 185.*
[3] *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 502—503.*
[4,5] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Карды
# Kordy
# Корды

Старадаўні фальварак. Раней меў назву Плошча. Размяшчаўся побач з в. Карды. Кардоўскі маёнтак у 1811 г. быў падзелены паміж Задарноўскімі, Каранёўскімі, Пшыборамі і Тарчэўскімі[1].



*Карды. Фрагмент парку[2].*

Палац быў знішчаны ў пасляваенны час, пасля таго як тут была пабудавана калгасная жывёлагадоўчая ферма.

Сёння каля фермы засталіся рэшткі невялікага пейзажнага парку, плошча якога складае каля 3 га.

У цэнтры парку існуе невялікая сажалка. На захад ад яе пасля вайны пабудавана жалезабетонная дамба з мэтай добраўпарадкавання сажалкі і рэгуляцыі воднага рэжыму.

Парк часткова захаваў дрэвастой, які паступова пачынае засыхаць.

Парк у савецкі час быў абнесены жалезнай агароджай з паўночна-ўсходняга боку.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 491.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Малыя Сяхновічы
# Małe Siechnowicze
# Малые Сехновичи

Сяхновічы — комплекс былых маёнткаў, радавое гняздо Касцюшкаў-Сяхновіцкіх, герб «Рох-III». Як велікакняжацкае ўладанне Сяхновічы ўтвораны каля сярэдзіны XV ст. і спачатку перайшлі ва ўласнасць роду



*Малыя Сяхновічы. Галоўны фасад сядзібнага дома. Малюнак Ф.Бразоўскага. 1880-я гады[7].*

Каранёўскіх. У 1509 г. прывілеем караля Жыгімонта I Старога Сяхновічы былі падараваны за шчырую і руплівую службу Фёдару Касцюшку (1480—1561?), а ў 1561 г. адбыўся першы падзел маёнтка паміж сынамі Касцюшкі — Іванам (1530—1571) і Фёдарам (1540? — 1622). У 1622 г. частку Сяхновіч, званую Фёдараўшчынай, падзялілі паміж сабой сыны і ўнук Фёдара. З гэтай пары адбылося адасабленне вёсак Малыя і Вялікія Сяхновічы, а значна пазней в. Жулкаўшчына[1].

Першым поўнаўладным гаспадаром у Малых Сяхновічах быў Ян Рыгоравіч Касцюшка (1600—1647)[2]. Пры




*Малыя Сяхновічы. Схема парку.*

ім была пабудавана фамільная капліца-пахавальня, дзе амаль на працягу 150 гадоў хавалі яго нашчадкаў. Пасля Яна маёнтак па спадчыне перайшоў сыну Стафану, які прадаў Малыя Сяхновічы М.Цяляціцкаму і выправіўся ў










*Кракаў. Вавельскі замак.*
*Каля саркафага Тадэвуша Касцюшкі. 1998 г.*[8]

войска. У 1656 г. маёнтак вярнуўся зноў да Касцюшкаў, яго гаспадарамі сталі Аляксандр Ян (1629—1711) і Амброжы Казімір (1667— каля 1720), пры якім настаў заняпад Сяхновіч. Яго нашчадак Людвік Тадэвуш (1700? — 1758) — бацька славутага Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, быў вымушаны ў 1729 г. прадаць абцяжараныя даўгамі Сяхновічы свайму дзядзьку Фаўстыну Бенядзікту (1672 — 1755).

На працягу астатняга жыцця Людвік Касцюшка спрабаваў адкупіць Малыя Сяхновічы, але ў сакавіку 1758 г. раптоўна памёр, так і не вярнуўшы сваю спадчыну. Яго жонка (маці Тадэвуша Касцюшкі) Тэкля Ратомская пасля смерці мужа вярнулася ў Сяхновічы і актыўна ўзялася за аднаўленне гаспадаркі. Пасля яе смерці (1768) апекуном яе сыноў — Юзафа і Тадэвуша, стаў Давыд Кароль Касцюшка (каля 1700—1773), які яшчэ ў 1742 г. прыехаў з Пінскага павета, набыў частку Сяхновіч і назваў фальварак сваім імем — Давыдаўшчынай. Па дамоўленасці з Тэкляй фальварак Давыдаўшчына пасля смерці Давыда Касцюшкі быў перададзены Юзафу і Тадэвушу Касцюшкам[3].

Ад'язджаючы ў Амерыку, Тадэвуш Касцюшка перадаў Сяхновічы сваёй сястры Ганне Барбары (1741—1814), якая выйшла замуж (1762) за Антонія Пятра Эстку, стольніка смаленскага. Па вяртанні Касцюшкі з Амерыкі Эсткі вярнулі яму маёнтак, у якім ён жыў з 1785 па 1789 г.

Касцюшка адпісаў Сяхновічы Ганне Эстцы з умовай вызвалення сялян маёнтка ад прыгонніцтва, а таксама выхавання ў яе дзяцей і ўнукаў справядлівасці, павагі і гонару[4]. У 1817 г. перад смерцю Тадэвуш Касцюшка пацвердзіў правы дзяцей Ганны — Кацярыны, Рамана і Людвікі на Сяхновічы. Адначасова сваім тастаментам ён вызваліў сяхновіцкіх сялян ад прыгону, але па хадайніцтве ўладаркі Малых Сяхновіч К. Ляхоўскай апошняя воля Тадэвуша Касцюшкі была скасавана імператарам Аляксандрам І. У 2-й палове XIX ст. маёнтак перайшоў да роду Булгакаў, якія сталі апошнімі гаспадарамі Сяхновіч да 1939 г.

Разам з капліцай Аляксандр Ян Касцюшка пабудаваў у 1-й чвэрці XVIII ст. невялікі дом, які існаваў да 2-й паловы XIX ст.

Паводле інвентара 1768 г., апублікаванага Зыгмунтам Глогерам, можна сцвярджаць, што дом быў драўляны, аднапавярховы, меў у плане форму прамавугольніка, высокі ламаны дах, накрыты саломай, ганак на 4 слупах. Перад домам стаяла ўязная брама з варотамі, клямкай і засаўкай.

У доме меліся печы з белай і зялёнай кафлі. Усяго было 5 жылых пакояў і сені.

З правага боку дома стаяла афіцына, накрытая гонтавым дахам, якая ў інвентары насіла назву «фальварак». Пры афіцыне існавала хатка з 4 вокнамі, печчу з зялёнай кафлі і пякарняй, побач стаяла некалькі гаспадарчых памяшканняў (хлеў, свіран). Двор быў абгароджаны плотам. За паркам рос альховы лес.

Магчыма, што Давыд Касцюшка, калі прадаваў Сяхновічы Юзафу і Тадэвушу, забраў з маёнтка каштоўныя сямейныя рэліквіі і мэблю, а засталіся толькі дыпломы, метрыкі, карэспандэнцыя за два стагоддзі. Архівы Касцюшкаў былі забраны ў часы гаспадарання Марыі Эсткі Віслоцкай у маёнтак яе мужа ў в. Лышчыцы.

У 1772 г. быў складзены інвентар на дваровую капліцу, вакол якой Аляксандр Ян Касцюшка залажыў сямейныя могілкі[5]. Капліца была драўляная, мела склеп, 4 акны, 2 алтары, адзін з якіх меў выяву ўкрыжаванага Хрыста, другі — Маці Боскай. Акрамя некалькіх абразоў у капліцы віселі партрэты Аляксандра Яна і Аўгустына Касцюшкаў. У канцы XVIII ст. у Малых Сяхновічах адбыўся пажар,



*Малыя Сяхновічы. Бюст Тадэвуша Касцюшкі*
*каля будынка базавай школы*[9].

які знішчыў жылы дом і капліцу-пахавальню.

У 1-й чвэрці XIX ст. Давыдаўшчына канчаткова злілася з Малымі Сяхновічамі. Жылы дом неўзабаве быў адбудаваны нанава.

Двор ахінаў даволі вялікі парк, рэшткі якога захаваліся і цяпер. Застаўся адзіны гістарычны аб'ект з тых часін — будынак сыраварні з глыбокімі мураванымі скляпеннямі. Агульная плошча парку складае 8 га, існуе ліпавая алея працягласцю 350 м, бярозавы гай, растуць клёны, дубы, каштаны, існуюць экзоты.

У Малых Сяхновічах побач са школай у 1988 г. устаноўлены бюст Тадэвуша Касцюшкі, які быў выкананы ў 1930 г. архітэктарам А.Відацкай[6]. Да 1950-х гадоў гэты бюст прастаяў на помніку рускім воінам, якія загінулі ў вайне 1812 г., у г. Кобрын замест бронзавага арла, вывезенага немцамі ў перыяд 1-й сусветнай вайны.

Сяхновіцкі парк мае мемарыяльнае значэнне, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У перспектыве плануецца яго аднаўленне.

[1] *Korzon T. Kościuszko... S. 573; Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 503.*

[2] *Памяць. Жабінкаўскі раён... С. 503; Бензярук А.Р. Наш край — Жабінкаўшчына. С. 106.*




[3] *Korzon T. Kościuszko... S. 573.*
[4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 136.*
[5] *Тамсама. С. 137.*
[6] *Свод памятников... С. 182.*
[7] *Aftanazy R. Dzieje... S. 135.*
[8] *Архіў аўтара.*
[9] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Мельнікі
# Mielniki
# Мельники

Колішні фальварак, у які ўваходзілі 4 сядзібы. Вёска Мельнікі існавала ўжо ў XVIII ст. У 1794 г. праз яе праходзіў шлях паўстанцкіх атрадаў генерала Кароля Серакоўскага[1].

З XVIII ст. належала Выганоўскім (прывілеем караля Аўгуста III ад 4.10.1757 г. перададзена ім у ва-




*Мельнікі. Схема рэшткаў парку.*

лоданне). З'яўлялася фальваркам маёнтка Азяты[2]. Яшчэ ў канцы XIX ст. фальварак з паркам заставаліся ў валоданні Багуміла, Казіміра, Генрыха і Юльяна Выганоўскіх, у якіх пазней быў выкуплены некалькімі сем'ямі заможных сялян[3].

У сучасны перыяд захаваліся рэшткі парку. Растуць, у асноўным, дрэвы мясцовых парод: клён, ясень, ліпа, дуб і іншыя. За 50 м ад парку працякае невялікая рэчка Асіпоўка.

Цяпер у парку размешчаны лагер працы і адпачынку.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Харкевич Ф.К. Розыски на суворовских полях сражений // Варшавский военный журнал. Варшава, 1900. № 4.*
[2] *Диков П. Список землевладений... С. 168.*

# Пятровічы
# Piotrowicze
# Петровичи

Гістарычны палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо адной з ліній вядомага на Беларусі роду Дзяконскіх. Яны былі апошнімі гаспадарамі сядзібы да 1939 г.[1]

Да Дзяконскіх пачынаючы з XVI ст. сядзіба належала Багушэвічам, якія часам зваліся Федзькавічамі-Пятровічамі. Паводле Літоўскай метрыкі, жонка А. Пішчалы выслала 23.9.1567 г. са Здзітаўца і Пятровічаў на перапіс войска 2 коннікаў і 1 пехацінца[2].



*Пятровічы. Від ансамбля з усходняга боку. З акварэлі Напалеона Орды. 1870 г.*[6]

У 1830-я гады Дзяконскія адбудавалі на правым беразе Мухаўца палац, які праіснаваў да 1945 г.

Паводле акварэляў Напалеона Орды (1870), які пабываў у Пятровічах у гасцях у Дзяконскіх, палац пабудаваны з дрэва, у плане меў форму прамавугольніка. У сярэдняй частцы палаца месціўся двухпавярховы порцік на 4 калонах з верандай. На франтоне трохвугольнага шчытка порціка размяшчаўся сямейны герб роду Дзяконскіх «Карабель». Уваход у палац размяшчаўся не на цэнтральнай восі, а з тэрасы, пабудаванай пазней на левым баку порціка.

Па абодва бакі палаца месціліся невялікія ганкі на дзвюх белых калонах кожны, на якія абапіраліся трохвугольныя шчыткі. На адным шчытку змяшчаўся старадаўні надпіс на латыні «Спяшайся штосьці зрабіць!», на другім — «Выбірай залатую сярэдзіну»[3].



*Пятровічы. Від ансамбля з заходняга боку. З акварэлі Напалеона Орды. 1870 г.*[5]










*Пятровічы. Фрагмент уязной алеі[7].*

Фасад палаца з боку парку практычна не мяняўся. У яго сярэдняй частцы была прыбудавана вялікая тэраса з балконам на шасці калонах. Сцены палаца былі не атынкаваныя. Будынак меў гладкі трохсхільны гонтавы дах.

У палацы было каля 20 пакояў, з якіх чатыры месціліся на другім паверсе. У большасці пакояў стаялі печы з белай кафлі. Вялікі і малы салоны мелі тры камплекты старадаўняй мэблі 1-й паловы XIX ст. Пакоі ўпрыгожвалі шэраг партрэтаў роду Дзяконскіх і карціны невядомых мастакоў.




*Пятровічы. Схема размяшчэння сядзібы.*

На правым баку палаца размяшчалася аднапавярховая афіцына з зашклёнай верандай, накрытая чатырохсхільным гонтавым дахам. У глыбіні двара месціўся двухпавярховы квадратны ў плане лямус, аздоблены з абодвух бакоў галерэямі.

Палац ахінаў вялікі і прыгожы парк. У парку акрамя векавых ліп, клёнаў, каштанаў раслі 300-гадовы дуб, таполі, сосны, кусты язміну, бэзу і іншыя пароды дрэў і кустоў.

Ад гасцінца да параднага пад'езда палаца вяла доўгая алея шырынёй 8 м.

Алея была абсаджана раскідзістымі непадстрыжанымі грабавымі дрэвамі, якія ўздоўж алеі стваралі жывы тунэль.

Перад палацам месціўся шырокі травяны газон з кветкавай клумбай пасярэдзіне.

Дзяконскія вельмі ганарыліся паркам, клапаціліся пра яго стан, часта прымалі ў ім гасцей з Брэста і Жабінкі, падтрымлівалі сувязь з прагрэсіўнай інтэлігенцыяй навакольных маёнткаў.

Пасля 1939 г. палац быў поўнасцю абрабаваны, а ў 1945 г. спалены. Дзяконскія былі вымушаны выехаць у Варшаву, дзе загінулі ў час Варшаўскага паўстання[4].

Ад колішняга палацава-паркавага ансамбля засталася афіцына, у якой зараз пражываюць мясцовыя жыхары, а таксама склеп і рэшткі парку. Захавалася ўязная алея.

Вёска Пятровічы — радзіма вядомага паэта А.М.Дзяконскага.

Рэшткі сядзібы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 114.*
[2] *Русская историческая библиотека. Литовская метрика. СПб., 1915. Т. 33. С. 1184.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 115.*
[4] *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 85—86.*
[5,6] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III - R.A.4398, 4399).*
[7] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Рудка
# Rudka
# Рудка

Колішняя сядзіба роду Ляпарскіх. Вёска Рудка неаднаразова згадваецца ў інвентарах Кобрынска-Брэсцкай эканоміі 1712, 1724, 1731, 1742, 1783, 1786, 1789 гг.[1] Прадстаўляла самастойную Рудскую губерню, у склад



*Рудка. Агульны від на парк[3].*

якой уваходзілі 10 ключоў, 3 фальваркі, 1 горад, 32 вёскі, у тым ліку Сакі, Азяты, Старое Сяло[2]. З XIX ст. да 1939 г. Рудкаўская сядзіба належала Ляпарскім.

Сядзібны дом быў пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва. У плане меў форму прамавугольніка, перабудаваны ў савецкі час пад калгасныя патрэбы. Яго ахінаў пейзажны парк.

У Рудцы пасля вайны месціўся лагер працы і адпачынку. Рэшткі парку маюць плошчу каля 2 га, побач з паркам існуе вялікае возера. У парку растуць ліпы, акацыі, грабы, клёны. Добра праглядаецца ўязная алея. Акрамя рэштак парку і перабудаванага сядзібнага дома захаваўся мураваны склеп.






Рудка. Склеп[4].



Рудка. Фрагмент парку[5].

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Kościałkowski S. Ze studjów nad dziejami ekonomji Królewskich na Litwie. Wilno, 1914. S. 14, 71—72.
[2] АВАК. Т. 5. С. 385, 389.
[3,4,5] Фота аўтара. 2000 г.

# Франопаль
# Franopol
# Франополь

Колішняя сядзіба. Размяшчалася побач з в.Вандалін. Да сярэдзіны XIX ст. сядзіба адасобілася ад маёнтка Вежкі ў фальварак, які меў назву Вежкі-Франопаль. У сядзібнапаркавы ансамбль уваходзілі жылы дом, парк, сістэма каналаў і сажалак, шэраг гаспадарчых пабудоў.



Франопаль. Фрагмент парку[1].

Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, мансарды. У перыяд грамадзянскай вайны разбураны і больш не аднаўляўся, а месца сядзібы паступова забудоўвалася мясцовымі жыхарамі.

Захаваліся рэшткі пейзажнага парку плошчай каля 1,5 га. Сядзіба абсаджана дубамі, каштанамі, ліпамі старога ўзросту. Захаваліся таксама сляды дзвюх сажалак.

Рэшткі Франопальскага парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

У в. Вандалін таксама існавала старадаўняя сядзіба, якая




Франопаль. Схема рэштkaў парку.

паступова разбуралася і цяпер ад яе практычна нічога не засталося.

[1] Фота аўтара. 2000 г.





9 Зак. 1023





# Хмелева
# Chmielewo
# Хмелево

Старадаўні фальварак. Першае ўпамінанне пра Хмелева сустракаецца ў пісьмовых крыніцах у 1542 г., калі заможныя гаспадары Хмелева Якуб і Станіслаў Хмялеўскія ўручылі каралю Жыгімонту II скаргу на свайго суседа Івана Васільевіча Палубінскага[1].



*Хмелеўскае возера[2].*

Як гаворыцца ў тых самых крыніцах, у 1565 г. Марцін Хмялеўскі служыў у Берасцейскай харугве, а ў 1567 г. з Хмелева ў паход выступілі В. Хмялеўскі, Станіслаў Паўловіч і Мацей Мікалаевіч.

У 1612 г. Хмелева належала А.М.Каханіку-Хмялеўскаму, а з 1660 г. уваходзіла ў склад Чарнаўчыцкага маёнтка графіні Л.М.Гротэн.



*Хмелева. Руіны склепа[3].*

Апошнімі гаспадарамі Хмелеўскага двара былі да 1939 г. прадстаўнікі дробнай шляхты Лімбарскія.

Ад колішняй сядзібы засталіся адзінкавыя дрэвы і руіны склепа.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 59.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Шпіталі
# Szpitali
# Шпитали

Колішні фальварак. Вёска ўзнікла не пазней 2-й паловы XVII ст. на сродкі ордэна цыстарцыянцаў з Алізарава Става. Потым тут быў адкрыты шпіталь.

Першым уладаром маёнтка быў род Пацеяў. Пацеі прадалі сваю ўласнасць роду Янушкевічаў. Каля стагоддзя (да 1850 г.) Шпіталі ўваходзілі ў Рэчыцкі ключ князёў Чартарыйскіх, пасля якіх у маёнтку гаспадарылі Нарбуты[1]. У 1816 г. у маёнтак уваходзілі вёскі Канатоны, Лойкі



*Шпіталі. Паркавы фасад сядзібнага дома[2].*

і Сцяпанкі. Побач знаходзіліся аднайменныя маёнткі Булгакаў і Валіцкіх.

Цяпер ад сядзібна-паркавага ансамбля засталіся адзінкавыя дрэвы, сядзібны дом, сажалка і руіны млына. У парку растуць ліпы, вязы, грабы, дэкаратыўныя кусты.

Сядзібны дом пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. з дрэва, у плане мае форму працяглага прамавугольніка, аднапавярховы, з высокім чатырохсхільным дахам. Унутраная планіроўка анфіладная. У доме пражывае некалькі сем'яў. Млын у пасляваенны час разрабаваны, сажалка



*Шпіталі. Фрагмент разбуранага млына[3].*







занядбана. Сядзібны дом патрабуе капітальнага рамонту.

Рэшткі сядзібы (сядзібны дом, млын, сажалка) патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Бензярук А.На скрыжаванні лёсу // Беларуская Мінуўшчына. 1996. № 6. С. 61; НГАРБ у г. Гродна. Ф. 14. Воп. 1. Спр. 243. Арк. 50—50 адв.*

[2,3] *Фота аўтара. 2000 год.*

# Юркаўшчына
# Jurkowszczyzna
# Юрковщина

Старадаўняя сядзіба. Размешчана за 0,5 км на ўсход ад в.Баяры. Захаваліся рэшткі парку. Добра праглядаецца ўязная алея. Плошча рэштkaў парку складае каля 3,5 га.



*Юркаўшчына. Галоўны фасад палаца. Рэканструкцыя М.Вітвіцкага[2].*

Р.Афтаназы пры апісанні Юркаўшчыны шырока выкарыстоўваў даследаванні архітэктара Міхала Вітвіцкага, нашчадка роду Бабінскіх, што ўладарылі ў гэтай мясцовасці да верасня 1939 г. Архітэктар старанна склаў план сядзібы, рэканструяваў знешні выгляд.

Невялікая сядзіба Юркаўшчына да XVI ст. ўваходзіла ў склад Кобрынскага княства, а пасля стварэння Кобрынскага старостав стала каралеўскай уласнасцю.

Маёнтак Юркаўшчына набыў малавядомы род Ляховічаў, які паходзіў, верагодна, ад Кацярыны Ляховіч, уладальніцы Малых Сяхновіч. Потым тут гаспадарылі Навіцкія. Паводле даследавання Р.Афтаназы, Ізабела Навіцкая, узяўшы шлюб з Міхаілам Бабінскім, сынам Ігнацыя, далучыла Юркаўшчыну ў якасці пасагу да




*Юркаўшчына. Схема рэшткаў парку.*

ўладанняў Бабінскіх. З таго часу ў Юркаўшчыне сталі гаспадарыць нашчадкі роду Бабінскіх. Пасля Міхаіла Бабінскага маёнткам валодаў яго сын Уладзіслаў (1831–1905), жанаты з Антанінай Крукоўскай. Апошнім уладальнікам Юркаўшчыны і Вежак быў малодшы з трох сыноў Уладзіслава — Адам Бабінскі (1869–1940), які быў у шлюбе з Марыяй Галінай Расудоўскай. У час рэпрэсій арыштаваны і закатаваны ў 1940 г. у мінскай турме[1].

Да 1-й сусветнай вайны ў Юркаўшчыне існаваў невялікі, аднапавярховы драўляны палац. Ён быў пабудаваны на высокім падмурку, у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка. Палац меў каля 10 пакояў. У 2-й палове XIX ст. пры Бабінскіх палац быў часткова рэканструяваны, у выніку чаго страціў традыцыйную сіметрыю.

Асабліва багатым інтэр'ерам і аздобай вылучаліся 2 салоны для прыёму гасцей. У іх меліся паркетная падлога, кафляная печ, двухстворкавыя дзверы, выкананыя ў стылі ракако. Сені былі невялікія, мелі ўсходы на гарышча і 2



*Юркаўшчына. Рэшткі алеі[3].*









дзвярэй. На сценах большага салона віселі карціны, у т.л. партрэт Уладзіслава Бабінскага ў юнацкім узросце. Пад ім стаяла фартэпіяна. У другім, значна меншым салоне меўся камплект стыльнай мэблі, выкананы рукамі мясцовых майстроў. Тут вісеў партрэт Казіміра Бабінскага (1798), філамата, жанатага з Юліяй Жэльветр. Бабінскі намаляваны ў мундзіры суддзі часоў герцагства Варшаўскага. Побач, на супрацьлеглай сцяне, месцілася рэпрадукцыя карціны мастака Сяміградскага «Паход Нерона».

У іншых пакоях стаяла мэбля, зробленая майстрамі на фабрыцы ў Баранаўцах.

Перад палацам размяшчалася вялікая пляцоўка, на якой па баках ганка раслі дзве старыя ліпы. Да палаца вяла ўязная алея з брамай. На правым баку ад брамы стаяў будынак свіронка. Уязная алея была абсаджана старымі дубамі.

Час пабудовы сядзібнага дома невядомы. Ён мог быць рэзідэнцыяй адміністратара Юркаўшчыны і суседніх фальваркаў.

Двор меў памеры 10 м у шырыню і 26,8 м у даўжыню, быў накрыты гонтам. Сядзіба была падобна на пабудовы, характэрныя для 1-й паловы XVIII ст. Унутры двара месцілася каля 10 гаспадарчых пабудоў.

Каля дома знаходзіўся вялікі майдан, на якім раслі 2 старыя ліпы, насупраць іх знаходзілася ўязная брама. Алея, высаджаная старымі дубамі, адгароджвала стары сад, вяла з майдана да берага рэчкі. За домам знаходзілася некалькі старых дрэў, а з фронту месціліся газоны з кветкавымі клумбамі.

Двор у Юркаўшчыне разам з усімі пабудовамі спалілі расійскія войскі ў 1915 г.

---

[1,2] *Aftanazy R. Dzieje... T. 11. S. 419.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*



Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Іванаўскага раёна







*Існуючыя палацы, паркі, сядзібы*

*Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы*







# Варацэвічы
# Worocewicze
# Вороцевичи

Мемарыяльная сядзіба, даўняе радавое гняздо знакамітага роду Ордаў, герба «Астоя», з лініі, званай «Белай». У пачатку XVI ст. маёнтак належаў роду Юрэвічаў-Іллінічаў. Сядзіба вядома паводле гістарычных крыніц з 1528 г., калі Ян і Станіслаў Іллінічы выставілі ў абоз 7 коней[1].

На мяжы XVIII—XIX ст. Варацэвічы перайшлі да Міхаіла Орды, маршалка шляхты Кобрынскага павета, жанатага з Юзафінай Бутрымовіч, таленавітай піяністкай, дачкой пінскага старасты Матэвуша Бутрымовіча.



*Варацэвічы. Радавое гняздо Напалеона Орды. З малюнка (аловак) Напалеона Орды. 1860 г.*[5]

Варацэвічы набылі шырокую вядомасць тым, што менавіта тут у 1807 г. ва ўрочышчы Чырвоны двор у сям'і Міхаіла Орды і Юзафіны Бутрымовіч нарадзіўся вядомы мастак-графік, музыкант і кампазітар Напалеон Орда, які пакінуў у скарбонцы сусветнай спадчыны больш чым 2,5 тыс. малюнкаў, у т.л. каля 400 работ, прысвечаных палацам, паркам і замкам Беларусі сярэдзіны XIX ст.

Будучы гарачым прыхільнікам адраджэння былой велічы і магутнасці Вялікага княства Літоўскага праз «вызваленчую місію» французскага імператара Напалеона Банапарта, Міхаіл Орда назваў свайго сына Напалеонам. Што тычыцца роду Ордаў, то паводле шматлікіх даследаванняў, гэты род з'яўляўся часткай татар з Залатой Арды, якія былі запрошаны ў XIV — пачатку XV ст. на ваенную службу ў Вялікае княства Літоўскае і паступова распаўсюдзіліся на Палессі. Род Ордаў — адзін са старэйшых на Берасцейшчыне, прадстаўнікі яго былі буйнымі землеўладальнікамі, займалі высокія ваенныя і дзяржаўныя пасады ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай[2].



*Варацэвічы. Гаспадарчыя пабудовы сядзібы. 1860 г.*[6]

Напалеон Орда (1807—1883) — апошні ўладальнік маёнтка ў Варацэвічах. За актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1831 г. царскі ўрад канфіскаваў у яго маёнтак. Варацэвічы перайшлі да расійскай арыстакратыі з роду Палеалогаў[3]. У час 1-й сусветнай вайны маёнтак быў цалкам знішчаны.



*Варацэвічы. З літаграфічнага малюнка Напалеона Орды. 1870-я гады*[7].

Пра архітэктурнае аблічча сядзібна-паркавага ансамбля нам даюць уяўленне тры малюнкі Напалеона Орды, які ў 1856 г. вярнуўся ў Варацэвічы з Парыжа пасля таго, як Аляксандр II аб'явіў амністыю ўдзельнікам паўстання 1831 г. Паводле даследавання Р.Афтаназы, Напалеон Орда маляваў свой радавы маёнтак, магчыма, не з натуры, а па памяці, таму што новымі гаспадарамі, верагодна, дом быў значна перабудаваны.

На 1-м малюнку паказаны жылы дом, на 2-м — гаспадарчыя пабудовы, 3-і намаляваны значна пазней.

Варацэвіцкі двор, верагодна, паходзіў з XVIII ст. Жылы дом быў у плане прамавугольны, аднапавярховы, накрыты высокім ламаным чаротавым дахам.

У сярэдняй частцы дома выступаў двухпавярховы порцік на 4 калонах з мансардай і балконам. Будынак быў





*Варацэвічы. Схема сядзібы*[8].








*Іванава. Помнік Н.Орду, пастаўлены ў 1998 г.*[9]

драўляны. Перад домам размяшчаўся ўнутраны двор з вялікім круглым газонам з кветкавай клумбай пасярэдзіне. Насупраць газона на процілеглым баку ўнутранага двара размяшчалася ўязная брама. Двор спачатку быў абнесены простым драўляным плотам, пазней плотам на мураваных слупах. Па баках брамы месціліся 2 гаспадарчыя будынкі (стайня і вазоўня), накрытыя чатырохсхільным чаротавым дахам. Перад адным з гаспадарчых будынкаў расла адзінокая елка, а па-за межамі ўнутранага двара — шэраг італьянскіх таполяў.

3-і малюнак паказвае выгляд двара з боку ўязной брамы. На левым баку ўнутранага двара месцілася афіцына, накрытая высокім ламаным дахам. Сам двор выглядаў даволі прывабна, па-гаспадарску прыбраным, а сядзібны дом нагадваў палац.

У даследчыкаў выклікае рознагалоссе літаграфічны малюнак на вокладцы фотаальбома. Пытанне аб тым, ці выкананы ён самім Н.Ордам, ці апрацаваны ў свой час літографам М.Фаянсам у Варшаве, калі новыя гаспадары Палеалогі пабудавалі новую парадную агароджу і браму, застаецца пакуль нявысветленым.

Надпіс пад малюнкам на вокладцы гучыць так: «Уласнасць роду Ордаў праз 300 гадоў да 1831 г. — незабыўная і дарагая для аўтара радзіма»[4].

Яшчэ ў 1939 г. існавала некалькі купак дрэў ад старога Ордаўскага парку і ўязной алеі, але на сённяшні дзень ад сядзібна-паркавага ансамбля практычна нічога не засталося. Месца нараджэння Н.Орды ва ўрочышчы Чырвоны двор мае мемарыяльнае значэнне, узята на ўлік і пад ахову дзяржавы. У перспектыве тут плануецца стварэнне музейнага комплексу.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S . 121.*
[2] *Климчук В. Напалеон Орда. Брест, 1998. С. 5; Памяць. Іванаўскі раён. Мн., 2000. С. 92.*
[3] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... S. 124.*
[4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 164.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.4425).*
[6] *Тамсама (III-R.A.4424)*
[7] *Album widoków historycznych polski. Zrysowany z natury przez Napoleona Ordy. Gdańsk, 1991.*
[8] *Архіў Н.Бутрымовіча (Варшава).*
[9] *Архіў аўтара. Фота 1998 г.*

# Дастоева
# Dostojewo
# Достоево

Мемарыяльная сядзіба, радавое гняздо продкаў знакамітага расійскага пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага (1821—1881). Вёска Дастоева вядома з пачатку XVI ст. Захаваўся дакумент (грамата), згодна якому 6.10.1506 г. пінскі князь Фёдар Яраславіч падараваў мясцоваму шляхціцу Данілу Ірцішчавічу невялікую вёску Дастоева. Ірцішчавіч зрабіў яе радавым маёнткам і пачаў звацца Дастаеўскім, герб «Радван»[1]. За амаль 400 гадоў род Дастаеўскіх шырока распаўсюдзіўся ў Беларусі і Расіі, прадстаўнікі яго займалі шэраг высокіх дзяржаўных пасад. У прыватнасці, адзін з далёкіх продкаў Дастаеўскіх — Фёдар у 1572 г. служыў давераная асобай князя Андрэя Курбскага[2], а Пётр Дастаеўскі ў 1598 г. быў абраны дэлегатам на Варшаўскі сейм і з 1599 па 1628 г. з'яўляўся членам Галоўнага трыбунала ВКЛ і маршалкам пінскай шляхты.

Пачынаючы з XVIII ст. Дастоеўская сядзіба перайшла ў іншыя рукі, спачатку да роду Стравінскіх, потым Чапліцаў і, нарэшце, у сярэдзіне XIX ст. да Віктара Орды, маршалка шляхты Пінскага павета. З тае пары і да 2-й сусветнай вайны ў Дастоеве разам з Навашычамі і Волькай гаспадарылі прадстаўнікі роду Ордаў, герб «Астоя». Апошнім уласнікам Дастоева да 1939 г. быў Тадэвуш Орда (1903 г.н.), сын Караля Орды і Марыі Смолкі, жанаты з Соф'яй Выжгай (1907—1967)[3].

У 1939 г. у Дастоеве яшчэ існаваў сядзібна-паркавы ансамбль з элементамі абарончай архітэктуры. Аснову яго складаў жылы дом, які паходзіў нібыта з часоў Дастаеўскіх, а верагодней, з сярэдзіны XVIII ст., калі ў ім гаспадарылі іншыя ўласнікі.



*Дастоева. Сядзібны дом Тадэвуша Орды да 1939 г. Цэнтральны фасад*[7].




Дастоеўская сядзіба добра апісана ў інвентары 1754 г., які знаходзіцца ў Львоўскім дзяржаўным архіве. Складальнік дакумента акрамя гаспадарчых звестак адлюстраваў этнаграфічныя падрабязнасці быту гаспадароў маёнтка[4].

Дастоеўскі маёнтак складаўся з панскага двара і фальварка. Асноўная частка двара была абнесена масіўным драўляным завостраным плотам і цаглянай сцяной, астатняя частка — простай агароджай з тоўстых колатых дошак. Абарончую здольнасць сцен узмацняў вадзяны роў па перыметры двара. З боку галоўнага пад'езда стаяла манументальная двух'ярусная брама, вырашаная на ўзор ўязных замкавых вежаў. У яе ніжнім ярусе размяшчаліся службовыя памяшканні, а зверху — вялікая зала, абкружаная адкрытай балюстраднай галерэяй. Гэтая зала выкарыстоўвалася для абароны двара і адначасова як пакой для сустрэчы гасцей. Брама была ўвянчана высокім гонтавым шатром.

Па восі галоўнага ўезда ў глыбіні двара стаяў накрыты высокім гонтавым дахам вялікі аднапавярховы дом, падзелены сенцамі на 2 часткі: жылую (5 пакояў з дваровай капліцай) і сталовую. Побач з домам былі кухня, двухпавярховы лямус з галерэямі, стайня, склеп, вазоўня, студня і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Асабліва прадстаўніча выглядала сталовая — месца харчавання і прыёму гасцей, сцены якой упрыгожвала печка з каляровай кафлі, вялікая шафа з ручкамі ў выглядзе металічных кольцаў з галовамі дзікіх жывёл. У шафе стаяў посуд, фамільнае серабро, іншыя старадаўнія рэчы. Двор абкружаў невялікі парк з таполяў і іншых дрэў мясцовых парод.

Непасрэдна за дваром размяшчаўся фальварак, ад якога цераз роў быў перакінуты масток. Фальварак уяўляў сабой тыповы гаспадарча-вытворчы комплекс, дзе жылі рамеснікі, прыслуга, знаходзіліся хлявы, клеці, стайні, свірны, адрыны, павеці, гумны, бровар, млын і двухпавярховы драўляны дом аканома[5]. Маёнтак уключаў таксама значныя зямельныя ўчасткі (палеткі, сенажаці, агароды), два вялікія сады, каскад сажалак, працаваў вадзяны млын. Такім чынам, Дастоеўская сядзіба ўяўляла сабой абаронча-вытворчы гаспадарчы комплекс. У ім




*Дастоева. Схема размяшчэння сядзібы[8].*

былі адлюстраваны ўсе важнейшыя рысы сядзібнага будаўніцтва Беларусі XVIII ст.

Сядзіба была знішчана гітлераўцамі ў 1943 г. У 1960-я гады на месцы, дзе стаяў дастоеўскі дом, быў пабудаваны Дом культуры. Да сённяшняга часу захавалася толькі некалькі старых дрэў.

Сучаснiцай сядзібы была яшчэ адна унікальная гістарычная каштоўнасць —драўляная уніяцкая царква, пабудаваная ў канцы XVIII ст. прадстаўнікамі заможнага роду Гедройцаў. Гэту царкву паставілі на месцы больш старадаўняга згарэўшага храма. Царква мела назву Ільінскай. Яна была разбурана мясцовымі ўладамі гвалтоўна, адразу пасля грунтоўнага навуковага абследавання яе ў 1970 г. экспедыцыяй вучоных Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР, якая прызнала царкву асабліва каштоўнай у гістарычным, архітэктурным і мастацкім плане[6].

Месца размяшчэння Дастоеўскай сядзібы мае мемарыяльнае значэнне і патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

1 *Якимович Ю. Усадьба в Достоеве // Неман, 1981. № 12. С. 186.*
2 *Достоевский Ф.М. в портретах, иллюстрациях и документах. Под редакцией Нечаевой В.С. М, 1972. С. 44.*
3 *Aftanazy R. Dzieje... S. 46.*
4 *Якимович Ю. Усадьба... С. 186—187.*
5 *Архітэктура Беларусі. Мн., 1993. С. 192.*
6 *Лавынцев Ю.А. В глубинном Полесье. М., 1989. С. 135.*
7 *Варшаўскі дзяржаўны архіў дакументацыі механічнай (IKCU -926).*
8 *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службамі аддзела культуры і галоўнага архітэктара Іванаўскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Дружылавічы
# Drużyłowicze
# Дружиловичи

Старадаўняя сядзіба роду Жукоў. Да 1939 г. у склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі панскі дом, парк, сажалкі, сістэма каналаў і гаспадарчых пабудоў.



*Дружылавічы. Сядзібны дом Карпінскіх (цяпер амбулаторыя). XIX ст.[1]*

Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы з мансардай, па цэнтры вылучаны невялікім ганкам на двух драўляных слупах. Дом узведзены на мяжы XVIII—XIX ст., разбураны ў пасляваенны перыяд. На месцы існавання колішняга сядзібнага дома пабудавана кантора праўлення калгаса.

Разам з будаўніцтвам сядзібнага дома быў закладзены пейзажны парк на англійскі ўзор. Яго плошча складала










*Дружылавічы. Фрагмент парку[2].*

каля 6 га. На сённяшні дзень ад яго засталіся невялікія рэшткі.

У парку растуць ліпы, дубы, клёны, каштаны і іншыя пароды дрэў.

У канцы XIX ст. у Дружылавічах быў адбудаваны новы дом, гаспадарамі якога з'яўляліся Карпінскія, прадстаўнікі праваслаўнага духавенства. Палац Карпінскіх практычна захаваў сваю аўтэнтычнасць. Пасля вайны ў ім размяшчаліся розныя ўстановы, а зараз там знаходзіцца сельская амбулаторыя. Палац драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны, з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым спачатку гонтай, цяпер шыферам. Яшчэ захаваліся два мураваныя слупы ад уязной брамы.

Рэшткі парку і гістарычнага будынка патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Завішша
# Zawiszcze
# Завишье

Палацава-паркавы комплекс, былая рэзідэнцыя аднаго з прадстаўнікоў заможнага роду Пуслоўскіх — Войцеха Пуслоўскага (1877—1961).

Адзін з яго вядомых сваякоў, маршалак шляхты Слонімскага павета, таксама Войцех Пуслоўскі (1762—1833), быў актыўным фундатарам шэрагу хрысціянскіх храмаў на Беларусі. На мяжы XVIII—XIX ст. пасля шлюбу з князёўнай Юзафінай Друцкай-Любецкай набыў Целяханскі ключ (асноўная рэзідэнцыя была ў Старых Песках), да якога належала в. Завішша. Паколькі рэзідэнцыя Пуслоўскіх была перанесена са Ст. Песак у Альбярцін і там гаспадарыў праўнук Войцеха Уладзіслаў, то яго брат Войцех выбраў сабе маляўнічую мясцовасць на возеры Завішша і адбудаваў там у канцы XIX — пачатку XX ст. прыгожую летнюю рэзідэнцыю, а вакол яе заклаў лесапарк[1].

Палац меў арыгінальную архітэктуру і выглядаў даволі неардынарна сярод лясоў, балот і азёр. Будынак меў 2 паверхі, у плане прамавугольны, пабудаваны з цэглы на высокім падмурку. Цэнтральны фасад палаца з боку возера вылучаўся трыма рызалітамі. Сярэдні меў порцік на 2 парах прысценных іанічных калон, узведзеных на высокіх цокалях. Над калонамі ўзвышаўся атыкавы порцік. Паміж калонамі над галоўнымі дзвярамі месцілася балюстрада з каменнымі ўсходамі. Два бакавыя выступы мелі форму псеўдарызалітаў. Прамавугольныя вокны мелі даволі сціплую аздобу. Толькі над вокнамі 1-га паверха размяшчаліся надаконныя вальмы.

Тыльны фасад палаца з боку лесу меў просты выгляд, без архітэктурнай аздобы, толькі сярэдняя частка вылучана неглыбокім рызалітам і без дзвярэй. Бакавы фасад меў на 1-м паверсе тэрасу, на 2-м — балкон, абкружаны балюстрадай. На супрацьлеглым баку размяшчалася аранжарэя з вялікімі вокнамі. Да 1914 г. у палацы мелася старадаўняя мэбля, мастацкія вырабы і карціны, якія былі разрабаваны ў 1-ю сусветную вайну.

Палац з трох бакоў абкружаў лес, з чацвёртага — возера. Перад парадным уваходам месціўся шырокі газон з кветкавай клумбай пасярэдзіне. Канчаткова сфарміраванага парку яшчэ не было. Прагулачныя сцежкі і алеі пралягалі непасрэдна ў лясным гушчары. Паблізу палаца месціўся адміністрацыйны будынак з элементамі класіцызму, які меў порцік са шчытком на 3 парах калон, побач размяшчаўся гараж.

Апошнім гаспадаром Завішанскага палаца да 1939 г. быў Кароль Войцех Пуслоўскі[2].

У час 2-й сусветнай вайны палац апынуўся ў зоне дзейнняў партызан і быў моцна разбураны. Пасля вайны руіны палаца былі разабраны на цэглу для будаўніцтва піянерскага лагера.



*Завішша. Галоўны фасад палаца. 1938 г.[3]*

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 175; Памяць. Іванаўскі раён... С. 528.*
[2] *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 134.*
[3] *Варшаўскі дзяржаўны архіў дакументацыі механічнай (IKCU-8161).*

# Ляскавічы
# Leskowicze
# Лясковичи

Колішняя сядзіба роду Главінскіх, ад якой засталіся толькі рэшткі пейзажнага парку, каналаў і сажалак. У гады 2-й сусветнай вайны гаспадар маёнтка Васіль Главінскі быў расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі па падазрэнні ў сувязях з партызанамі. Бацька Васіля — Дзмітрый Главінскі памёр да вайны і пахаваны разам са сваім бацькам Пракопам






*Ляскавічы. Фрагмент парку[1].*

Главінскім каля сцен Прачысценскай царквы, пабудаванай у 1783 г. Менавіта Пракоп Главінскі быў фундатарам гэтай некалі уніяцкай царквы.

Пасля вайны ў панскай сядзібе размяшчалася праўленне мясцовага калгаса.

Дом быў драўляны, аднапавярховы, пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст., на высокім падмурку, з ганкам на драўляных слупах, з высокім гонтавым дахам. Унутры дом меў 12 жылых і рабочых пакояў.

Пасля пераходу праўлення калгаса ў новы будынак сядзібны дом быў разабраны, на яго падмурках і скляпеннях пабудаваны будынак сельскага клуба.

У парку растуць каштаны, дубы, таполі, грабы, ліпы, ляшчына, дэкаратыўныя кусты.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ляхавічы
# Lachowicze
# Ляховичи

Колішні фальварак. На мяжы XVIII і XIX ст. Ляхавіцкая сядзіба належала роду Шэметаў. Пасля таго, як дачка Ежы Шэмета і Людвікі Мікульскай Марыя выйшла замуж за Аляксандра Друцкага-Любецкага, Ляхавіцкі двор перайшоў да Друцкіх-Любецкіх, якія гаспадарылі ў Ляхавічах да 1939 г. Апошнімі ўладальнікамі маёнтка былі сын Аляксандра Уладзіслаў і яго дзеці.

У пачатку XIX ст. Шэметы пабудавалі ў Ляхавічах драўляны аднапавярховы дом, вядомы паводле фотаздымка З.Глогера, змешчанага ў яго манаграфіі «Драўлянае будаўніцтва». Будынак у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка. Цэнтральны ўваход у палац быў вылучаны шырокім ганкам на дзвюх парах шырока расстаўленых калон, увянчаных трохвугольным шчытком. Галоўны фасад меў два неглыбокія бакавыя рызаліты. Дом быў накрыты чатырохсхільным дахам.



*Ляхавічы. Сядзібны дом да 1914 г. Галоўны фасад[1].*

Паводле даследавання Р.Афтаназы, галоўны будынак Ляхавіцкага маёнтка да 2-й сусветнай вайны ўжо быў часткова разабраны[2]. Мясцовыя старажылы сцвярджаюць, што маёнтак быў спалены ў 1943 г. у час баявых дзеянняў партызанскіх атрадаў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Трэція сведкі гавораць, што дом існаваў да 1985 г. і ў ім месцілася старая школа. Пасля пабудовы новай старая школа была разабрана.




*Ляхавічы. Схема парку.*

З былых гаспадароў цяпер амаль не засталося нікога, а тыя, што жылі ў канцы 1980-х гадоў, сцвярджалі, што пражывалі ў другім маёнтку і ў Ляхавічы прыязджалі рэдка.

Унутраная планіроўка дома, яго аздоба невядомыя.

На сённяшні дзень ад ансамбля засталося некалькі гаспадарчых пабудоў і рэшткі некалі раскошнага пейзажнага парку. У добра захаванай былой стадоле пасля вайны месцілася старожка, потым амбулаторыя.

Ляхавіцкая сядзіба размяшчалася на поўнач ад Янава паміж вёскамі Ляскавічы і Застружжа.

Разам з будаўніцтвам сядзібнага дома і закладкай парку Шэметы адбудавалі ў Ляхавічах драўляную Свята-Узнясенскую царкву (1818), якая захавалася да сённяшняга дня.

[1,2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 64.*








# Магільна
# Mohylna
# Могильно

Колішні палацава-паркавы комплекс. У пачатку XVII ст. маёнтак належаў Яну Пратасовічу, сыну князёўны Марыны Палубінскай, герб «Ястрамбец». Невядома, хто быў гаспадаром Магільны ў XVIII ст. У 1-й палове XIX ст. двор перайшоў да баронаў фон Цешаў. Каля 1859 г. праз дачку гэтага роду Іду, якая выйшла замуж за Людвіка Канткоўскага (1834—1912), герб «Астоя», капітана інжынерна-будаўнічых войскаў, маёнтак перайшоў да роду Канткоўскіх. Наступным



*Магільна. Будынак школы.*
*З малюнка Напалеона Орды. 1863 г.*[3]

гаспадаром Магільны быў іх сын Віктар Ян Людвік (1863—1921). Пасля Віктара двор быў падзелены паміж яго дачкой Соф'яй (1895—1957) і сынам Віктарам (1897—1968), вайсковым капітанам, жанатым з Эміліяй Палубінскай (1902 г.н.), дачкой князя Палубінскага і Саламеі Пратасовіч. Соф'я і Віктар Канткоўскія былі гаспадарамі Магільны да 1939 г.[1]



*Магільна. Цэнтральны фасад старога палаца. 1938 г.*[4]



*Магільна. Цэнтральны фасад новага палаца*[5].

Да 1915 г. у Магільне існаваў даволі вялікі і прыгожы аднапавярховы дом з прыбудаваным пазней ганкам, які быў накрыты па прыкладу іншых маёнткаў на Палессі чаротавым дахам. Такое крыццё лепшым чынам утрымлівала ў зімовы час цяпло. З правага боку дома стаяла невялікая афіцына таксама з чаротавым дахам. У 1863 г. у Магільне пабываў Напалеон Орда і намаляваў будынак школы пры двары Канткоўскіх.

У 1-ю сусветную вайну дом быў знішчаны. Новы мураваны палац адбудаваны ў 1932—1933 гг. Соф'яй Каданцовай. Ён меў 12 пакояў, часткова быў аднапавярховы, часткова — двухпавярховы. Парадны пад'езд меў ганак на 4 масіўных калонах з балконам. Тыльны фасад па цэнтры меў паўкруглы рызаліт, на левым баку — ганак на 3 аркадах ад фронту і 2 па баках. Фасады былі гладка атынкаваныя, мелі светлы колер. Будынак накрываў гладкі чатырох- і трохсхільны дах, над якім узвышаліся 2 пары высокіх комінаў. Паколькі стары дом, колішняя



*Магільна. Паркавы фасад новага палаца*[6].

мэбля і старадаўнія рэчы згарэлі, то ў новым палацы не было каштоўнай мэблі і мастацкіх вырабаў.

Перад 2-й сусветнай вайной Віктар Канткоўскі ўзвёў у парку яшчэ адзін палац з элементамі класіцызму. Будынак стаяў на высокім падмурку, меў у плане выгляд кароткага прамавугольніка, 1-ы і 2-і паверхі. Парадны пад'езд меў манументальны порцік на 4 тасканскіх калонах з трохвугольным гладкім шчытком. З боку парку фасад палаца па цэнтры меў веранду з тэрасай. Палац накрываў невысокі трох- і двухсхільны дах. Новыя два










*Магільна.Схема парку[7].*

палацы абкружаў вялікі пейзажны парк плошчай 20 га, падзелены паміж сястрой і братам пароўну. Прыгожы від меў так званы востраў (выспа), абкружаны з усіх бакоў глыбокім і шырокім ровам з паўкруглым мастком. Верагодна, калісьці тут стаяў абарончы замак Пратасовічаў[2].

У міжваенны перыяд летам востраў літаральна патанаў у кветках, асабліва ў ружах, якіх налічвалася каля 100 кустоў. Ружы ўпрыгожвалі палацы і 2 уязныя алеі па баках.

Парк меў аранжарэю, некалькі рэгулярных алей, 2 масткі і 3 альтанкі з дрэў: каштанавую, грабавую і бярозавую. Шэраг дрэў мелі ўзрост па некалькі соцень гадоў.

У пасляваенны час палацы былі разбураны, а парк моцна пашкоджаны.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 79.*
[2] *Тамсама. С. 80.*
[3] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.- 4387).*
[4,5,6] *Aftanazy R. Dzieje... S. 79—80.*
[7] *Фамільны архіў Канткоўскіх.*

# Моладава
# Mołodów
# Молодово

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Пачынаючы з XVI ст., а, магчыма, і раней, Моладава было радавым гняздом роду Войнаў, герб «Тромбы». Паводле гістарычнага надпісу на старадаўнім звоне (1583 г. паходжання), першым гаспадаром маёнтка і фундатарам Моладаўскай царквы быў Барыс Мацвеевіч Война, кашталян мсціслаўскі, падкаморы пінскі (1440—15.5.1527). У яго гонар звон быў адліты сынам Сямёнам Войнам. Пасля Сямёна маёнткам валодаў яго сын Станіслаў, затым нашчадак Барыса Уладзіслаў. Як сведчаць запісы ў інвентары 1649 г., Моладаўская сядзіба была моцна пашкоджана (верагодна, у час ваенных дзеянняў), у ёй засталіся толькі «печы з гербамі», якія сведчылі пра колішнюю прыгажосць палаца.



*Моладава. Палацава-паркавы ансамбль. З акварэлі Напалеона Орды. 1864 г.[4]*

Вядома, што дачка апошняга з моладаўскай лініі Войнаў маршалка пінскага Мацея Войны Элеанора ў 1692 г. выйшла замуж за Казіміра Дамініка Агінскага, ваяводу віленскага, і з гэтай пары Моладава перайшло да роду Агінскіх. Амаль на 100 гадоў пасля гэтага Моладаўская сядзіба страціла характар галоўнай сядзібы. Акрыяла яна пры сыне Казіміра — Юзафе Агінскім (1700—1736), які ўзяў шлюб з князёўнай Ганнай Вішнявецкай. Сын Юзафа — князь Міхал Казімір Агінскі (1730—1800), гетман ВКЛ меў шмат даўгоў і не быў у стане ўтрымліваць маёнткі Парэчча і Моладава, таму ў 1792 г. ён прадаў Моладаўскі маёнтак маршалку брэсцкаму і пінскаму графу Шыману Скірмунту (1747—1835)[1].



*Моладава. Былая уніяцкая царква. З акварэлі Напалеона Орды. 1864 г.[5]*









Шыман Скірмунт быў жанаты з Эльжбетай Ажэшкай, меў акрамя Моладава і Парэчча яшчэ маёнтак Альбрэхтаў, што пад Пінскам.

Пасля Шымана сядзіба перайшла да яго сына Аляксандра Скірмунта (1798—1870), знакамітага эканаміста-рэфарматара і вельмі адукаванага чалавека, жанатага з Канстанцыяй Суністроўскай. Аляксандр пабудаваў у Моладаве невялікі цукровы завод (згарэў у 1835 г.). Ён меў шэсць сыноў. Моладава атрымаў Генрых, жанаты з Марыяй Твардоўскай, дачкой Казіміра і ўнучкай Юзафа Твардоўскага — рэктара Віленскага універсітэта. Парэчча дасталося Аляксандру, жанатаму з Тэафілай Любанскай. У Генрыха было 4 дзяцей: сыны Канстанцый і Генрых,



*Моладава. Цэнтральны фасад палаца. 1938 г.*[6]

дочкі Марыя і Ядвіся. Канстанцый (1866—1949) пайшоў у палітыку і стаў паслом у Англіі, а яго брат Генрых (1868—1939) быў апошнім гаспадаром Моладава. Ён быў забіты мясцовымі актывістамі-партызанамі ў верасні 1939 г.

На той час, калі Шыман Скірмунт набыў Моладава, там існаваў старадаўні палац Агінскіх, які згарэў у 1840 г. Новае будаўніцтва палаца было распачата Шыманам яшчэ ў 1795 г. Гэта быў мураваны, аднапавярховы будынак, у плане меў выгляд выцягнутага прамавугольніка, у цэнтры параднага ўвахода месціўся двухкалонны порцік, завершаны трохвугольным шчытком, з балконам і мансардай. Унутры палац меў анфіладную планіроўку, пазней



*Моладава. Капліца-ратонда. 1938 г.*[7]



*Моладава. Унутраны выгляд капліцы. 1938 г.*[8]

стаў служыць у якасці афіцыны, а ў пачатку XX ст. палац быў перабудаваны пад сельскагаспадарчую школу.

Палічыўшы, што гэты палац атрымаўся даволі сціплым, Шыман распачаў побач будаўніцтва новай параднай рэзідэнцыі паводле праекта знакамітага архітэктара Гроса ў стылі класіцызму. Мураваны, аднапавярховы і працяглы па фронце будынак палаца стаяў на высокім скляпенні, зіхацеў белакаменнымі фасадамі, быў накрыты высокім гонтавым дахам. Пабудаваны ён быў на тым месцы, дзе ў XVII ст. стаяў палац Мацея Войны[2].

Тры класічныя, сіметрычна размешчаныя порцікі дарычнага ордэра стваралі рэпрэзентатыўны выгляд палаца. Цэнтральны з іх урачыста прымаў гасцей, якія па пакатых пандусах падымаліся пешшу ці конна пад'язджалі да яго палаца.Такая ж строгая і ўрачыстая архітэктурная класіка афармляла тыльны фасад. Яго бакавыя порцікі былі звернуты да пейзажнага паркавага асяродка з сістэмай сажалак і каналаў з маляўнічымі масткамі. Мясцовыя муляры шырока выкарыстоўвалі элементы архітэктурнага дэкору старажытнасці, у прыватнасці, выканалі расшыўку сцен гарызантальным рустам, аздабленне высокіх вокнаў франтончыкамі, гірляндамі і інш. Парадная бальная зала гранёным рызалітам выходзіла ў парк. На шчытку цэнтральнага порціка змяшчаліся 2 гербы — Скірмунтаўскі «Дуб» і Ажэшкаўскі «Караб». На бакавых порціках былі напісаны даты пабудовы палацаў.

Інтэр'ер упрыгожвалі партрэты Скірмунтаў, выкананыя славутым мастаком Валенціем Ваньковічам. У 1909 г. Моладава наведала Эліза Ажэшка і пакінула скураны альбом з пазалотай, вершамі і надпісамі для Канстанцыя Скірмунта.

У 1905—1908 гг. паміж уязной брамай і афіцынай была пабудавана фамільная капліца (архітэктар Тадэвуш Растварроўскі).










*Моладава. Схема парку.*

Капліца выканана ў архітэктурна-стылёвай класічнай трактоўцы самога палаца. Мураваны цэнтрычны храм-ратонда (дыяметр 8 м) завершаны сферычным купалам. На яго 3 баках размешчаны дарычныя порцікі, руставаныя сцены завершаны шырокім фрызам з ляпнымі гірляндамі. Франтоны порцікаў і ліштвы акон аздоблены арнаментальнай лепкай. У інтэр'еры сцены рытмічна раскрапаваны пілястрамі і завершаны карнізам.

У дэкоры быў выкарыстаны белы і ружовы мармур. У алтары стаяла скульптура Хрыста з белага мармуру, выкананая скульптарам Бродзкім[3]. Паблізу капліцы размяшчаліся сямейныя могілкі Скірмунтаў. Палац ахінаў з 3 бакоў пейзажны парк плошчай у некалькі гектараў. Пасля 1-й сусветнай вайны ён быў перапланаваны. Паводле акварэлі Напалеона Орды, перад парадным уездам раскінуліся шырокія газоны з кветкавымі клумбамі, раслі адзінкавыя старыя клёны, таполі, каштаны, елкі, іншыя пароды. У 1939 г. палац быў разрабаваны, а ў 1943 г. спалены, пазней разабраны на цэглу, а парк знішчаны. Засталіся руіны капліцы-ратонды і адзінкавыя дрэвы парку. Месца, дзе існаваў Моладаўскі палац, мае мемарыяльнае значэнне. Рэшткі капліцы ўзяты пад ахову дзяржавы. Апошнім часам распачалася праца па аднаўленні капліцы і добраўпарадкаванні могілак з пахаваннямі Скірмунтаў.

---

[1] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 210.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 83.*
[3] *Архітэктура Беларусі... С. 349.*
[4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III - R.A.4388).*
[5] *Тамсама (III - R.A.4389).*
[6,7,8] *Aftanazy R. Dzieje... S. 83, 88.*

## Навашычы
## Nowoszyce
## Новошичи

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль. Да XVIII ст. Навашыцкая сядзіба належала заможнаму і распаўсюджанаму ў Беларусі роду князёў Гедройцаў. У канцы XVIII ст., калі прадстаўніца нашчадкаў гэтага роду Генавефа Гедройц выйшла замуж за Дамініка Орду, пінскага каморніка, герб «Астоя», Навашыцкая сядзіба перайшла ва ўласнасць Ордаў. У пачатку XIX ст. гаспадаром Навашыч стаў адзін з 3 сыноў Дамініка — Віктар, маршалак шляхты Пінскага павета, жанаты з Марцыянай Шырмай. Віктар Орда валодаў таксама маёнткам у Біжэравічах і шэрагам іншых двароў. Далей па спадчыне Навашычы адышлі да сына Віктара — Вітольда (1828—1895), жанатага першы раз з Валерыяй Вайшвілай, другі — з Вандай Кіневіч, потым да сына Вітольда ад другога шлюбу — Караля Орды (1871—1914), жанатага з Марыяй Смолкай, дачкой прафесара Станіслава Смолкі.



*Навашычы. Сядзібна-паркавы ансамбль.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1863 г.*[2]

Апошнім гаспадаром Навашыч быў сын Караля — Вітольд Орда (1901—1945), удзельнік барацьбы з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў пачатку 2-й сусветнай вайны[1].

У 1860-я гады Навашыцкую сядзібу князёў Гедройцаў наведаў Напалеон Орда і зрабіў яе замалёўку, а апісанне яе ў пачатку XX ст. выканаў З.Глогер. Палац складаўся з 3 арганічна звязаных паміж сабой карпусоў: галоўнага, прамавугольнага ў плане, і 2 бакавых, блізкіх у плане да квадратаў. Галоўны і бакавыя будынкі стваралі сядзібны ансамбль у выглядзе падковы. На восі галоўнага будынка паміж крыламі знаходзіўся чатырохкалонны ганак. Другі ганак, падобны да першага, месціўся на супрацьлеглым



*Навашычы. Галоўны фасад новага палаца. 1938 г.*[3]









баку галоўнага будынка, ад парку. Увесь палац накрываў высокі чатырохсхільны гладкі гонтавы дах. Сярэдні корпус меў 9, а бакавыя будынкі — па 4 унутраныя пакоі, злучаныя паміж сабой сенцамі. У некаторых пакоях столі пакрывала белая льняная тканіна хатняй работы, якая закрывала ўсе шчыліны столі і была пабелена вапнай.

У большасці пакояў акрамя кафляных печаў існавалі мураваныя каміны.

З цягам часу палац састарэў, стаў цесным і з гэтай нагоды быў перададзены пад жыллё для прыслугі, а ў пачатку XX ст. наогул разабраны.

У сярэдзіне XIX ст. тагачасны гаспадар Навашыч Вітольд Орда запланаваў узвесці новы палац у іншым месцы. Спачатку была адбудавана афіцына, у якой ён пасяліўся часова. Па невядомых прычынах праект узвядзення палаца застаўся нерэалізаваным, а афіцына ператварылася ў асноўны сямейны дом і праіснавала да 2-й сусветнай вайны, праслужыўшы ў гэтым стане 3 пакаленням Ордаў.

Паводле апісання Р.Афтаназы, будынак меў у плане форму прамавугольніка, размяшчаўся на схіле ўзвышша, быў аднапавярховы, драўляны, атынкаваны гладкай тынкоўкай, накрыты высокім чатырохсхільным гонтавым дахам. З боку фронту ён меў 2 ідэнтычныя, сіметрычна размешчаныя ганкі, кожны на 2 парах масіўных цагляных калон, завершаных трохвугольнымі шчыткамі. Ганак, размешчаны справа, забяспечваў уваход да парадных пакояў, а левы ганак вёў да спальных памяшканняў, сталовай і канцылярыі.

Пасярэдзіне будынка з тыльнага боку месцілася даволі шырокая веранда на 4 выступаючых наперад і 2 бакавых прысценных калонах, на якія абапіраўся гладкі і плоскі дах. Акрамя таго, на правым фасадзе была адкрытая тэраса, на левым — сенцы.

Пры ўваходзе ў будынак праз парадны ганак па правым баку месціліся 2 жылыя пакоі, першы невялікі з адным акном, другі квадратны з 3 вокнамі. На левым баку параднага ўвахода размяшчалася сталовая зала з 2 квадратнымі вокнамі і вялікай кафлянай печчу. 2 жылыя пакоі, якія былі размешчаны пры службовым уваходзе, мелі такую самую аздобу, як і пры парадным уваходзе.

З тыльнага боку існавалі бібліятэчная зала, салон з 2 дзвярамі, адны з якіх вялі ў так званы «пакой Траўгута», дзе, паводле падання, хаваўся ад арышту адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. генерал Рамуальд Траўгут. Другія дзверы вялі да гасцінага пакоя. Увесь будынак меў анфіладную планіроўку. Да 1914 г. у пакоях меўся шэраг гарнітураў мэблі, выкананай у стылі ампір, калекцыя карцін XIX ст., у тым ліку палотны мастака Валенція Ваньковіча (партрэты Віктара Орды, яго жонкі М.Шырмы, іх сына Вітольда ў малалетнім узросце і інш.).




*Навашычы. Схема парку.*

Быў у Навашыцкім палацы яшчэ адзін партрэт Вітольда Орды ў сталым узросце, зроблены мастаком Станіславам Сестранцэвічам, а таксама партрэт Марыі Манчынскай, выкананы мастаком Лампегам-малодшым у 1883 г., меўся і яе другі партрэт — мастака Тадэвуша Гайдукевіча. Вялікую каштоўнасць уяўлялі партрэт маладой дзяўчыны Ядвігі Кіневіч, выкананы берлінскім мастаком у 1830 г., шэраг іншых мастацкіх каштоўнасцей з серабра і бронзы, набытых К.Ордам у Рыме, Фларэнцыі, некалькі слуцкіх паясоў і гадзіннікаў у мармуры і бронзе. Звяртала ўвагу багатая калекцыя кнігазбору старых польскіх і французскіх кніг, якая складала каля тысячы тамоў, мноства гістарычных рукапісаў.

Большасць гэтага багацця была знішчана і разрабавана ў час 1-й сусветнай вайны, калі лінія фронту з сістэмай акопаў праходзіла побач з палацава-паркавым ансамблем. Але частка партрэтаў і іншых каштоўных рэчаў была ўратавана і існавала ў Навашычах да 1939 г.

Цікава выглядала кампазіцыя самога парку, які складаўся са старой часткі, дзе месціўся некалі палац Гедройцаў, і новай, закладзенай пры ўзвядзенні новага будынка афіцыны Ордаў. З боку Моладава і Моталя ў сядзібу Навашычы вяла старадаўняя ўязная алея з векавых дубоў. З супрацьлеглага боку да сядзібы ў яе старую частку вяла старая алея з векавых елак.

Перад ганкамі размяшчаўся шырокі траўнік, купамі і паасобку раслі ліпы, каштаны, таполі, якія ахіналі афіцыну з усіх бакоў.

Навашыцкі палацава-паркавы ансамбль напаткаў трагічны лёс. У 1914 і 1939 гг. ён быў абрабаваны, а ў 1943 г. спалены партызанамі. Пасля вайны будынкі былі адноўлены і ў сядзібе размясціўся бровар. У 1956 г. на ім узнік моцны пажар, які знішчыў адноўлены палац і частку гаспадарчых пабудоў. Будынкі сядзібы былі разабраны мясцовымі жыхарамі на ўласныя гаспадарчыя патрэбы. Да цяперашняга часу пра існаванне былой сядзібы ў Навашычах напамінаюць руіны так званай старожкі, рэшткі старога парку, каналы і падмуркі, якія патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

1 *Aftanazy R. Dzieje... S. 94.*
2 *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III - R.A. 4392).*
3 *Aftanazy R. Dzieje... S. 95, 96.*

# Опаль
# Opol
# Ополь

Адзін з найпрыгажэйшых колішніх палацава-паркавых ансамбляў на Палессі. Меў некалі назву Опальскі ключ, належаў спачатку роду Копцаў[1], затым Палубінскіх. На пачатку XVIII ст. Опальскі ключ перайшоў ва ўласнасць князя Міхаіла Сэрвацы Вішнявецкага (1680—1744), гетмана ВКЛ, апошняга прадстаўніка гэтага знакамітага роду па мужчынскай лініі.

У 1722 г. яго дачка князёўна Ганна Вішнявецкая была











*Опаль. Старадаўні свіран. XVIII ст.*[3]

ў шлюбе з Юзафам Агінскім (1700—1736), ваяводам трокскім, таму Опальскі і шэраг іншых маёнткаў перайшлі ва ўласнасць магнатаў Агінскіх. Наступным гаспадаром Опаля стаў іх сын Міхаіл Казімір Агінскі (1730—1800), гетман ВКЛ, дбайны гаспадарнік-рэфарматар, актыўны прыхільнік і першы арганізатар меліярацыі балот, жанаты з князёўнай Аляксандрай Чартарыйскай.

Разгарнуўшы на Палессі грандыёзную меліярацыю, будаўніцтва сістэмы каналаў, а таксама фаянсавай фабрыкі ў Целяханах, ажыццявіўшы шэраг сакральных ахвяраванняў, Міхаіл Казімір Агінскі апынуўся ў вялікіх фінансавых даўгах, таму быў вымушаны прадаць шэраг сваіх маёнткаў. У 1890-я гады Опаль купіў прадстаўнік заможнай шляхты на Беларусі Бажэцкі, які перадаў у спадчыну Опальскі маёнтак сыну Каралю. У сярэдзіне XIX ст. яго дачка Тэрэза ўзяла шлюб з Казімірам Ігнацыем Яленскім, герб «Карчак». Род Яленскіх гаспадарыў у Чарнобылі, Кобрыне, Тучы, Камаровічах, Казловічах і іншых маёнтках на Палессі. Пасля смерці Казіміра Яленскага (1826—1876) Опаль перайшоў па спадчыне яго сыну Юзафу (1868—1922), жанатаму з Марыяй Кончай, герб «Агеньчык». Апошняй уладальніцай Опаля да 1939 г. была іх дачка Габрыля, замужняя за Багуславам Залескім, герб «Любіч».

Сярод многіх гаспадароў Опаля найбольшы ўклад у будаўніцтва сядзібы зрабілі Вішнявецкія. У свой час Міхаіл Вішнявецкі ўзвёў у Опалі мураваны замак-палац з цэглы і каменю. Рэшткі яго ў выглядзе раскіданых апрацаваных камянёў і абломкаў кафлі былі знойдзены на месцы скляпенняў замка Вішнявецкіх да 1-й сусветнай вайны. Паводле сцвярджэння Рамана Афтаназы, замак выконваў ролю адной з мноства абарончых рэзідэнцый князёў Вішнявецкіх на Беларусі і быў спалены, верагодна, у пачатку XIX ст. Засталіся невялікія рэшткі прыгожага некалі парку з арыгінальнымі алеямі, засаджанымі дрэвамі ў выглядзе літары «W», з адваротнага боку — літары «M», што, верагодна, абазначала ініцыялы Міхаіла Вішнявецкага, фундатара колішняй замкавай рэзідэнцыі. Магчыма, да замкавага ансамбля належаў мураваны свіран, які існаваў у Опалі да 1-й сусветнай вайны. Парк і гаспадарчыя пабудовы абкружалі старадаўнія валы з чатырма блізкімі і чатырма далёкімі бастыёнамі. Некаторыя з іх існавалі і былі выразна бачнымі яшчэ ў міжваенны перыяд.

Замак Вішнявецкіх размяшчаўся франтальным фасадам на захад. Па абодва яго бакі да 1939 г. стаялі 2 драўляныя на высокім падмурку аднапавярховыя афіцыны, узведзеныя, безумоўна, у значна пазнейшыя часы, але калі замак быў яшчэ неразбураны. Пасля пажару і знішчэння замка яго правая большая афіцына была перабудавана пад палац, у якім пражывалі Барэцкія, потым Яленскія і нарэшце Залескія. Абедзве афіцыны мелі на бакавых восях кароткія крылы, якія пароўну выступалі ад тылу і фронту, былі накрыты невысокім гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам. Вокны мелі выгляд прамавугольніка, падзеленага на 6 частак. Паміж тыльнымі крыламі размяшчаліся тэрасы, абкружаныя балюстрадамі, сцены афіцын былі ашаляваны гладкімі дошкамі.

Галоўная афіцына, перабудаваная пад жылы дом, мела залу для прыёму гасцей, сталовую і вялікі рабочы кабінет. Пакоі ў крылах служылі ў якасці спальні, гасцёўні, сталовай, канцылярыі і інш. Сцены большасці ўнутраных памяшканняў сядзібы былі абабіты тканінай рознага колеру, у асноўным блакітнага і жоўтага. У большасці пакояў стаялі печы, абкладзеныя белай квадратнай кафляй. Печы вялікага і малога салонаў мелі кафлю, аздобленую выпуклым залацістым арнаментам. Не выключана, што гэта кафля паходзіла са спаленага і разбуранага замка Вішнявецкіх[2].

У 1-ю сусветную вайну Опальская сядзіба была значна разрабавана, — вывезены каштоўная мэбля з чырвонага



*Опальскае возера.*











*Опаль. Фрагмент парку[4].*

дрэва, шафы са шклянымі дзвярамі, люстры, зніклі сямейныя медальёны, калекцыя сталовага набору з серабра на 24 асобы і інш. Да гэтага ў большым салоне віселі тры партрэты прадстаўнікоў роду Бажэцкіх, выкананыя алеем. Самы цікавы быў малюнак маладой кабеты з хлопчыкам на каленях, які трымаў у руках партрэцік памерлага бацькі ў авальнай рамцы. Тут вісеў даволі вялікі габелен памерам 160 х 80 см, куплены ў Рыме ў пачатку XX ст., з вобразам Маці Божай на троне з дзіцем, якое стаяла ў яе на каленях. Перад тронам ляжалі галінкі лаўровага дрэва. Габелен па перыметры быў аздоблены вузкай палоскай у 3 см, прашытай залатой ніткай у выглядзе арнаменту. Залу сталовай упрыгожвалі партрэты 4 гетманаў ВКЛ: Яна Хадкевіча, Стафана Чарнецкага, Яна Сабескага і Станіслава Жулкоўскага.

Знішчаны ў 1-ю сусветную вайну кнігазбор бібліятэкі складаўся з 1,5 тысячы тамоў XIX — пачатку XX ст., у асноўным польскай, а таксама англійскай, французскай і нямецкай літаратуры па гісторыі, геаграфіі, філасофіі і астраноміі. Меліся тут класічная проза і паэзія і, безумоўна, рэлігійныя выданні. Кнігазбор у Опальскай бібліятэцы дапаўняўся экзэмплярамі часопіса «Revue de deux mondes», парай скрынь архіўных сямейных дакументаў, эпісталярных крыніц роду Барэцкіх і Яленскіх. Скрыні былі абабіты скураным матэрыялам.

Будынак паўночнай афіцыны служыў да апошняга часу ў якасці кухні, пральні, жылых пакояў для прыслугі.

Сядзібу ахінаў пейзажны парк, меншая частка якога размяшчалася на ўсходзе перад замкам, большая цягнулася на ўсход за рыбнымі сажалкамі. Перад жылым домам месціўся газон з клумбай пасярэдзіне, далей раслі розныя экзатычныя пароды дрэў: чырвоны бук, каштан, бэз некалькіх колераў, язмін, сасна веймутава, лістоўніца і інш.

Тыльная частка парку была абкружана старадаўнімі валамі былога замка, якія перад 1939 г. ужо страцілі часткова сваё аблічча. Са знешняга боку валоў цягнулася шырокая прагулачная сцежка, другая, пазнейшая, вяла ад сядзібнага дома да паўночна-ўсходняга бастыёна, на пагорку якога напярэдадні 1914 г. была пастаўлена ў натуральную чалавечую велічыню фігура Маці Божай. На восі колішняга парку шэраг старадаўніх ліп ствараў жывую альтанку.

Двор меў 3 уязныя брамы, якія былі цалкам падобны адна да адной. У паўднёва-ўсходнім напрамку ад колішняга замка і пазнейшага жылога дома на ўскрайку старога парку некалі быў узведзены выцягнуты ў плане мураваны свіран даўжынёй каля 80 м і шырынёй 30 м, які таксама з'яўляўся аб'ектам ансамбля.




*Опаль. Схема сядзібы.*





Опальскую, як і Навашыцкую, сядзібу напаткаў цяжкі лёс. У 1939 г. у сядзібе размясціўся сельскі Савет, а з 1941 па 1943 г. у ёй гаспадарылі нямецка-фашысцкія захопнікі. У сакавіку 1943 г. сядзіба апынулася ў зоне дзеяння партызанскага атрада і была спалена. На месцы маёнтка пасля вайны быў размешчаны калгас, а на руінах старога замка пабудавана калгасная кантора. Ад палацава-паркавага ансамбля засталіся невялікія рэшткі парку і возера. У вёсцы захаваўся будынак былога касцёла 2-й паловы XVIII ст., які пасля 1991 г. быў адноўлены і перададзены праваслаўным вернікам.

[1] Zdański K. Przyczynki ... S. 94.
[2] Aftanazy R. Dzieje... S. 100.
[3] Тамсама. С. 99.
[4] Фота аўтара. 2000 г.

# Острыца
# Ostrzyca
# Острица

Колішні фальварак. Паводле даследаванняў Р.Афтаназы і на падставе пераказу сына апошняга гаспадара Острыцкага двара да 1939 г. Эдварда Фалькоўскага, маёнтак у Острыцы быў падараваны роду Фалькоўскіх у XVI ст. каралевай Бонай[1]. Аднак польскія энцыклапедычныя даведнікі не пацвярджаюць гэтых звестак. У прыватнасці, «Słownik geograficzny» адзначае, што Острыца некалі належала роду Дмахоўскіх, ад якіх потым перайшла да Фалькоўскіх[2]. Якая з гэтых дзвюх


*Острыца. Цэнтральны фасад палаца да 1939 г.*[5]

звестак найбольш праўдападобная, пакуль невядома, але адна з ліній роду Дмахоўскіх, герб «Пабуг», асела ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI ст. і сапраўды магла атрымаць ад каралевы Боны двор у Острыцы.

У 1774 г. Матэвуш Фалькоўскі, які быў луцкім віцэрэгентам і мечнікам г. Краменчуга, ужо быў на гэты час уладальнікам Острыцы. Ад шлюбу з князёўнай Друцкай-Любецкай у яго быў сын Антоній (каля 1780 г.н.), жанаты з Астроўскай. Сын Антонія Павел (1803—1878) узяў шлюб з Аляксандрай Залескай. Пасля Паўла гаспадаром двара стаў яго малодшы сын Адольф (1852—1922), жанаты з Ганнай Крашэўскай (1864—1943). Апошнім уладальнікам маёнтка да 1939 г. быў Станіслаў Фалькоўскі (1886—1939)[3].

Палац, які Фалькоўскія ўзвялі ў Острыцы каля 1820 г., уяўляў сабой невялікі драўляны аднапавярховы будынак, накрыты высокім гонтавым дахам. У міжваенны час палац быў абмураваны і атынкаваны. Галоўны ўваход у палац меў даволі шырокі ганак на дзвюх парах стройных калон, на якія абапіраўся трохвугольны вузкі шчыток. Такі самы ганак, толькі шырэйшы, меўся на ўваходзе з боку парку. Цэнтральны ўваход вёў у прасторную пярэднюю, да якой з правага боку прымыкаў пакой сталовай, з левага — бібліятэка, па цэнтры — вялікі салон памерам 6 x 8 м з зашклёнымі дзвярамі, якія выходзілі на паркавы ганак. Астатнія пакоі служылі ў якасці службовых і гаспадарчых. Бібліятэка і сталовая мелі паркетную падлогу з цёмнага і светлага дубу. Такую самую падлогу меў і салон, толькі пасярэдзіне паркету размяшчаўся малюнак у выглядзе вялікай, а па вуглах — малых зорак. Сені мелі 2 круглыя печы.

У гады 1-й сусветнай вайны ў Острыцкай сядзібе размяшчаўся штаб адной з кайзераўскіх армій, але, на шчасце, палац застаўся да 1939 г. не абрабаваным. Унутранае начынне палаца складалася са старой мэблі розных перыядаў і стыляў. У салоне знаходзіліся 2 шафы, люстры, дываны, фірменнае піяніна, каштоўныя калекцыі падсвечнікаў, вырабы з серабра XIX ст. з гравіроўкай імён Алены і Ганны Крашэўскіх-Фалькоўскіх, гербаў і інш. Сярод малюнкаў асаблівую каштоўнасць мелі партрэты Станіслава Аўгуста Панятоўскага, караля Рэчы Паспалітай, і яго сястры Ізабелы Браніцкай памерам у авале 40 x 50 см, выкананыя мастаком Бацарэлам. Аўтэнтычнасць карцін была пацверджана экспертамі з Варшавы перад 1939 г. У палацы мелася галерэя партрэтаў, выкананых мастаком Юзафам Аляшкевічам, з постацямі Соф'і і яе мужа Каятана Влодкі, сястры Соф'і і яе мужа Густава Жэльветра. На партрэце Соф'я выглядала сціпла ў даволі простым адзенні, а яе сястра была ў празрыстай і моцна дэкальтаванай кашулі. На адным з партрэтаў быў прадстаўлены Антоній Фалькоўскі ў мундзіры напалеонаўскай эпохі. Шэраг малюнкаў Острыцкага палаца быў выкананы мастакамі Ю.Косакам і Я.Фалатам.

Бібліятэка змяшчала каля тысячы тамоў паэзіі і прозы XIX ст., часопісаў «Клосы», «Рольнік польскі» і інш. У свой час Острыцкую сядзібу наведаў Юзаф Ігнацы Крашэўскі і пакінуў рукапіс нарыса «Пра гончых сабак». У фамільных архівах Фалькоўскіх меўся шэраг эпісталярных матэрыялаў перапіскі з гэтым знакамітым пісьменнікам.

Побач з палацам стаялі невялікі будынак кухні і свіран. Перад франтальным уваходам раслі купамі бэз, іншыя кусты, шэраг векавых ліп, якія ўтваралі некалькі жывых альтанак.

За палацам размяшчаўся невялікі парк плошчай каля 1 га з прагулачнымі сцежкамі, велічным дубам узростам каля 300 гадоў і 150-гадовымі соснамі. На ўскрайку парку месцілася невялікая капліца з выразанай драўлянай фігуркай святога Яна[4].

У савецкія часы Острыцкая сядзіба была поўнасцю знішчана пры правядзенні меліярацыйных работ і будаўніцтве дарогі Брэст—Пінск.

[1] Aftanazy R. Dzieje... S. 102.
[2] Słownik geograficzny. Warszawa, 1886. T. 7. S. 740.
[3] Aftanazy R. Dzieje... S. 103.
[4,5] Тамсама. С. 103, 104.








# Чабаеўка
# Czabajewka
# Чабаевка

Колішняя сядзіба, размешчаная паміж вёскамі Сычова Іванаўскага і Белая Драгічынскага раёнаў. Вядома з канца XIX ст., была спачатку ўласнасцю Мікалая Катовіча, святара, потым па спадчыне двор перайшоў да яго сына Мікалая Мікалаевіча, у якога было 3 дзяцей — сын і дзве дачкі.

Сядзіба складалася з жылога дома, 3 хлявоў, свірна, канюшні, лядоўні, сыраварні. Жылы дом у плане меў выгляд прамавугольніка, быў аднапавярховы, накрыты высокім гладкім гонтавым дахам. Па цэнтры галоўнага ўвахода знаходзіўся ганак на дзвюх калонах, з якога можна было трапіць у шырокія сенцы, затым — у сталовую, гасціную, бібліятэку. У бібліятэцы меўся вялікі кнігазбор свецкай і рэлігійнай літаратуры.

Двор абкружаў невялікі пейзажны парк з садам, у якім раслі не толькі разнастайныя пладовыя дрэвы, але шмат дэкаратыўных дрэў і кустоў.

З прыходам савецкай улады М.М.Катовіч быў арыштаваны і пасаджаны ў брэсцкую турму, затым дастаўлены ў Мінск. Пасля 2-й сусветнай вайны дзеці М.М.Катовіча звярнуліся ў савецкія органы аб аказанні дапамогі ў вышуку бацькі альбо яго магілы, але пакуль іх пошукі не далі вынікаў. Іх маці памерла ў час вайны ў 1943 г. і пахавана ў в.Вавулічы Драгічынскага раёна.

У часы акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі размясцілі ў двары сядзібы свой вайсковы штаб, а пасля вайны сядзібны дом быў разабраны, з яго дрэва пабудавана заготкантора ў г. Іванаве. Хлявы і свіран былі перавезены ў в. Вартыцк[1].

---

[1] *Апісанне сядзібы выканана паводле ўспамінаў старажылаў.*

Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна










# Быцень
# Byteń
# Бытень

Сядзібна-паркавы комплекс, радавое гняздо Кралецкіх. У пісьмовых крыніцах XVI ст. Быцень упамінаецца як двор і мястэчка Слонімскага павета ВКЛ. Спачатку сядзіба належала Марціну Пяткевічу, затым князям Сямёну Адзінцэвічу і Фёдару Галаўні і, нарэшце, Ярашу Карыцкаму. У 2-й палове XVI ст. маёнтак належаў маршалку ВКЛ Яну Хадкевічу. Пазней, у 1640 г. уладальнік Быценя падскарбі ВКЛ Мікалай Трызна перадаў маёнтак і мястэчка кляштару базыльян, які быў заснаваны ў 1607 г. яго бацькам Рыгорам Трызнам. Пасля працяглых судовых працэсаў у 1779 г. Быцень перайшоў у валоданне нашчадкам Трызнаў — роду Тызенгаўзаў[1], пазней Кралецкім.

У гэты час у Быцені існавалі 2 маёнткі[2]. Адзін з іх уключаў 3 жылыя дамы, кухню, свіран і канюшню. Першы жылы дом быў вышэйшы, складаўся з 2 святліц, сяней і каморы. Другі дом — ніжэйшы, традыцыйнай трохкамернай планіроўкі з 2 святліцамі цераз сені. Трэці — трохкамерны з 2 пакоямі-святліцамі і чорнай хатай цераз сені.

У склад другога двара ўваходзілі 4 жылыя дамы, два свірны, склеп-піўніца, кухня, 2 стайні, малы бровар. Усе дамы былі «нізкія», мелі трохкамерную планіроўку з сенямі ў цэнтры. У 2 дамах сені злучалі святліцы, у трэцім —




*Быцень. Схема парку[3].*

святліцу і хату. Чацвёрты дом быў двухкамерны, з хатай і сенямі. Асобна ад двара знаходзілася лазня з сенямі.

Дварам належалі 2 гумнішчы, 3 ставы на р. Арол з 3 аднаколавымі вадзянымі мукамольнымі млынамі.

У 1783 г. у маёнтку Быцень ужо было 78 % цагляных дамоў, 7 прамысловых прадпрыемстваў (1 вінакурнае, 5 мукамольных, маслабойня і вяндлярня).

Быценскі кляштар існаваў з 1607 па 1845 г. У 1615 г. Папа Рымскі дараваў кляштару прывілей на адкрыццё ду-



*Быцень. Фрагмент парку[4].*

хоўнай школы. У 1626 г. М.Трызна заснаваў у кляштары шпіталь, а ў 1640 г. заклаў каменную царкву. У пачатку XVIII ст. пры І.Пяткевічу ў Быцені была пабудавана уніяцкая Троіцкая царква, якая разам з жылымі карпусамі кляштара была разбурана ў 1-ю сусветную вайну. Ад некалі вялікага архітэктурнага ансамбля — Быценскага кляштара на наш час ацалела толькі малая Спаса-Праабражэнская царква, якая ўзята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У XIX ст. маёнтак, які меў назву «Плянта», перайшоў да роду Кралецкіх. Кралецкія заклалі пейзажны парк, узвялі палац, шэраг гаспадарчых пабудоў, у т.л. бровар. Захаваліся рэшткі парку, сажалкі, алеі і руіны бровара. У парку растуць дуб, ліпа, граб, вярба ломкая і інш.

На тэрыторыі колішняга ансамбля цяпер размешчаны і працуе школьны лагер «Дубровачка».

Рэшткі парку павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 469.*
[2] *Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии ... С. 51 — 52.*
[3] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Івацэвіцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*
[4] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Грудопаль
# Hrudopol
# Грудополь

Колішні сядзібна-паркавы комплекс. Рэшткі парку Грудопаль размешчаны на ўсходняй мяжы Івацэвіцкага раёна побач з шашой Івацэвічы — Слуцк. З 1990 г. тут перастала існаваць в. Грудопаль. Разам з Рэгінавам, Рудняй, Івацэвічамі і іншымі маёнткамі, размешчанымі панад р. Шчарай, Грудопаль з XVI ст. належаў роду Юндзілаў. Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. усе вышэйназваныя маёнткі былі канфіскаваны ў Юндзілаў і перададзены расійскім арыстакратам Варанцовым, а пасля царскай амністыі зноў вернуты Юндзілам.

У канцы XVIII ст. у Грудопалі быў пабудаваны драўляны аднапавярховы, прамавугольны ў плане палац,








накрыты гладкім гонтавым дахам. Цэнтральны фасад быў вылучаны ганкам. Побач з палацам месціліся афіцына, а па-за межамі парку размяшчаўся шэраг гаспадарчых пабудоў, у т.л. бровар. Разам з палацам быў закладзены вялікі пейзажны парк, у ім пабудавана фамільная капліца-пахавальня. Палац меў унутры набор традыцыйных памяшканняў: залу для прыёмаў гасцей, сталовую, салон, спальні, бібліятэку, рабочыя кабінеты і г.д. У 1914—1920 гг. палац быў моцна абрабаваны.



*Грудопаль. Уязная алея*[2].

Пасля 2-й сусветнай вайны сядзібна-паркавы ансамбль у Грудопалі выкарыстоўваўся ў якасці бальніцы для хворых туберкулёзам[1].

У канцы 1960-х гадоў ён быў перададзены мясцоваму лясніцтву пад пчальнік. У сучасны перыяд ад колішняга ансамбля засталіся парк плошчай каля 10 га, 2 уязныя алеі, сістэма абмялелых равоў, руіны капліцы-пахавальні.

На дадзены момант парк у Грудопалі — адзін з нешматлікіх старадаўніх аб'ектаў у Івацэвіцкім раёне, якія адносна захаваліся.

Паўночна-ўсходні фрагмент паркавага ансамбля быў высечаны, зараз на гэтым месцы размяшчаецца севазваротны ўчастак Дабромысльскага лясніцтва Баранавіцкага лясгаса, а паўночныя плошчы парку займаюць сасновыя пасадкі гэтага лясніцтва. На заходніх, паўднёвых і ўсходніх межах парку размяшчаюцца палеткі калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У 1986 г. была прадухілена спроба правядзення запланаванай масавай высечкі старадаўніх дрэў на дровы для мясцовых жыхароў.

Цэнтр парку складае крыху асіметрычны квадрат плошчай каля 9 га. Паркавы партэр размешчаны бліжэй да цэнтра. Там месціўся палац. Межы парку густа параслі кустовымі пародамі. Галоўная кампазіцыйная вось арыентавана да старадаўняга тракту Брэст — Слуцк — Мінск.




*Грудопаль. Схема парку.*

Разнастайныя гаспадарчыя пабудовы, уключаючы бровар, размяшчаліся па-за цэнтральнай часткай парку.

Час і розныя абставіны моцна змянілі першапачатковае аблічча палацава-паркавага ансамбля. Акрамя высечак, натуральнага лесапавалу, разбурэння ў 1970-я гады палаца і ўсіх гаспадарчых і вытворчых пабудоў, тут у 1979 г. учынены акт вандалізму — раскапана і апаганена капліца-пахавальня былых гаспадароў маёнтка.

Парку патрабуюцца далейшае навуковае даследаванне, правядзенне аднаўленчых работ, выкарыстанне для школьных экскурсій, узяцце на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 477.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Грыўда
# Hrywda
# Гривда

Сядзіба належала роду Храптовічаў. Вёска і маёнтак вядомы паводле пісьмовых крыніц з XVI ст.[1] Апошнімі гаспадарамі Грыўды былі нашчадкі роду Палубінскіх.

Пры Палубінскіх у 2-й палове XIX ст. у Грыўдзе быў пабудаваны драўляны палац і закладзены пейзажны парк. Будынак палаца нагадваў звычайную шляхецкую сядзібу сярэдняга дабрабыту, у плане меў форму прамавугольні-



*Грыўда. Фрагмент парку*[2].







*Грыўда. Схема сядзібы.*

ка, высокі чатырохсхільны дах з чатырма комінамі, накрыты гонтай. Над ганкам узвышалася мансарда. Палац быў поўнасцю спалены ў канцы 2-й сусветнай вайны.

Захаваліся рэшткі некалі вялікага парку, 2 сажалкі, каналы, рэшткі ліпавай альтанкі і алей. У парку растуць ліпы, каштаны, клёны і іншыя лісцевыя старыя дрэвы. Плошча рэштак парку складае каля 3,5 га. У сучасны перыяд парк не выкарыстоўваецца, занядбаны, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 477.*
[2] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Івацэвічы
# Iwacewicze
# Ивацевичи

Колішні палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Юндзілаў, прадстаўнікі якога славіліся адукаванасцю, патрыятызмам і актыўным удзелам у нацыянальна-вызваленчым руху на Беларусі ў XIX ст.

Упершыню мяст. Івацэвічы ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах XV ст. як маёнтак Іллінічаў[1].

У XVI ст. (1559) Івацэвіцкая сядзіба належала Яну Віктарыну, слонімскаму суддзі і старасту Скідзеля і Мастоў. У 1594 г. яна перайшла ва ўласнасць магнатаў Сапегаў.

Пакуль дасканала невядома, калі Юндзілы пачалі гаспадарыць у Івацэвічах. Вядома толькі, што фундатарам узведзенага тут у 1750 г. мураванага касцёла быў шляхціц Галухоўскі, таму, верагодна, што пасля Сапегаў Івацэвічы перайшлі да Галухоўскіх, а ад іх Юндзілам. Іншыя крыніцы сцвярджаюць, што ўжо ў 1654 г. маёнтак Івацэвічы належаў Юндзілам[2].

Першым вядомым гаспадаром Івацэвіч з'яўляўся Ян Юндзіл (1802—1878), пасля якога маёнтак па спадчыне дастаўся сыну Вітольду, і, нарэшце, унуку Антонію Юндзілу.

Невядома таксама, кім і калі быў пабудаваны ў Івацэвічах надзвычай арыгінальны па архітэктуры і мастацкім афармленні палац. Пастаўлены ён на ўзвышшы, сярод векавых ліп, якія па перыметры ахінялі ўсю сядзібу разам з пладовым садам. Такая кампазіцыя паркавага ансамбля ўскосна сведчыць, што палац пабудаваны не пазней канца XVIII ст.[3] Ён захаваўся да сённяшняга дня дзякуючы таму, што ў ім размяшчалася раённая бальніца. Гэты гістарычны аб'ект з'яўляецца адным са старадаўніх збудаванняў на Брэстчыне. Ён цалкам захаваў сваё архітэктурнае аблічча і менш за ўсіх пацярпеў за апошнія 2 стагоддзі.



*Івацэвічы. Паркавы фасад палаца. XVIII ст.*[4]

Палац у плане мае форму выцягнутага прамавугольніка, узведзены на высокім падмурку, аднапавярховы з амаль квадратнымі вокнамі. Уваход цэнтральнага фасада вылучаны невялікім порцікам на 2 парах стройных калон і 2 неглыбокімі рызалітамі па баках будынка. Над порцікам узвышаецца паўкруглы фігурны шчыток з невялікім акенцам.

Даволі імпазантны выгляд мае тыльны фасад палаца, у цэнтры якога выступае 5-восевы рызаліт на 6 масіўных калонах з дарычнымі капітэлямі, над якімі ўзвышаецца трохвугольны гладкі франтон. Архітэктурны дэкор абодвух фасадаў мае практычна аднолькавы характар. Бакавыя фасады мелі некалькі прасцейшы выгляд. На левым бакавым фасадзе меўся невялікі ганак на 2 калонах. Пасля апошняй вайны па баках асноўнага аб'ёму зроблены прыбудоўкі.

Увесь будынак апяразваў прафіляваны карніз. Палац быў накрыты гладкім чатырохсхільным жалезным дахам, меў 2 пары высокіх комінаў.

Унутраная планіроўка будынка сёння значна зменена. Вядома толькі, што ў вялікай зале палаца стаяла вельмі



*Івацэвічы. Галоўны фасад палаца. XVIII ст.*[5]








прыгожая старадаўняя мэбля, якая была разрабавана яшчэ ў 1-ю сусветную вайну.

Перад палацам размяшчаўся вялікі газон, а праз яго да параднага ўвахода вяла шырокая алея, абсаджаная жывой агароджай з розных парод кустоў. У парку мелася некалькі прагулачных ліпавых і грабавых алей.

Да гэтага часу каля палаца захавалася некалькі лістоўніц.

Палац у Івацэвічах патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 29.*
[2] *Тамсама. С. 480.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 222.*
[4,5] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Мерачоўшчына
# Mereczowszczyzna
# Меречевщина
## Дом-сядзіба Тадэвуша Касцюшкі
## Dom Tadeusza Kościuzko
## Дом-усадьба Тадеуша Костюшко

Фальварак Мерачоўшчына вядомы з XVI ст. Ён уваходзіў некалі ў склад багатага комплексу Косаўскіх маёнткаў. Самыя старадаўнія крыніцы сведчаць, што ў 1494 г. вялікі князь ВКЛ Аляксандр Ягелончык падараваў Косава маршалку ВКЛ Яну Літавору Храптовічу, а ў 1510 г. кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт І Стары пацвердзіў яго правы на Косава[1]. З таго часу на працягу больш як 400 гадоў Косава заставалася прыватна-ўладальніцкім мястэчкам. Пасля Храптовічаў з 1510 па 1577 г. Косаўскі маёнтак перайшоў да князёў Сангушкаў-Кобрынскіх (Кашырскіх), якія прадалі мястэчка разам з фальваркам Мерачоўшчына брэсцкаму ваяводу Андрэю Ляшчынскаму. Пэўны час фальварак арандаваў драгічынскі староста Мікалай Кішка[2].

У 1611 г. Косава ад Ляшчынскіх перайшло да канцлера ВКЛ Льва Сапегі, які ў 1626 г. пабудаваў у ім драўляны касцёл, вучылішча і раскошны палац-крэпасць, які ў перыяд Паўночнай вайны быў поўнасцю разбураны. Паводле слоў мясцовых старажылаў, на месцы крэпасці цяпер размяшчаецца Косаўскі вучэбны камбінат.



*Мерачоўшчына. Дом-сядзіба Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. Малюнак Кастрэўскага[7].*

У 1-й палове XVIII ст. землі ў фальварку Мерачоўшчына ўзяў у арэнду бацька Андрэя Тадэвуша Касцюшкі — Людвік Касцюшка (1700—1758), мечнік Брэсцкага ваяводства, палкоўнік поўнай булавы войска ВКЛ. На той час уладальнікам Косаўскага ключа быў Ян Юзаф Сапега, які ў 1756 г. яшчэ раз пацвердзіў правы Людвіка Касцюшкі на арэнду зямлі.

Дакладна невядома, ці сядзібны дом у Мерачоўшчыне быў пабудаваны Людвікам, ці ён быў узведзены значна раней, прыкладна ў 1720 г., і быў здадзены Сапегамі ў арэнду бацьку Касцюшкі разам з фальваркам. Паводле сцвярджэння шэрагу гісторыкаў і біёграфаў, у гэтым доме 4 лютага 1746 г. (па інш. меркаваннях 30 лістапада 1745 г.) нарадзіўся вялікі сын беларускага народа Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, будучы генерал, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. у Беларусі, Літве і Польшчы, ганаровы грамадзянін Францыі, нацыянальны герой Злучаных Штатаў Амерыкі і Польшчы.

Самым першым малюнкам, які данёс да нас пачатковы выгляд радавога гнязда Касцюшкі, быў, безумоўна, малюнак, выкананы ўзімку 1845 г.



*Мерачоўшчына. Дом-сядзіба Андрэя Тадэвуша Касцюшкі. Малюнак М.Кулешы. 1845 г.[6]*





мастаком Міхаілам Кулешам — выкладчыкам мастацтва ў розных навучальных установах ВКЛ, таленавітым збіральнікам, даследчыкам і інвентарызатарам гістарычных аб'ектаў даўніны. Ён у нейкім сэнсе быў папярэднікам знакамітага мастака Напалеона Орды.

Міхаіл Кулеша паказаў сядзібны дом Касцюшкі ў 2 відах: з боку пад'езда і ад парку, але захаваўся толькі малюнак з відам на цэнтральны фасад. Гэты малюнак быў упершыню прадстаўлены Кулешам у ілюстраваным альбоме «Зборы малюнкаў з натуры...» у 1852 г.[3] Сядзібу абкружаў старадаўні пейзажны парк.



*Мерачоўшчына. Дом-сядзіба Тадэвуша Касцюшкі і палац Пуслоўскіх. З літаграфічнага малюнка Напалеона Орды. 1871 г.*[8]

Паводле малюнка Кулешы, сядзібны дом Касцюшкі меў 1 паверх і вельмі высокі і характэрны для 1-й паловы XVIII ст. двух'ярусны ламаны дах, з рысамі стылю барока, накрыты саломай альбо чаротавай страхой. Над страхой узвышаліся 2 сіметрычна размешчаныя коміны. Галоўны ўваход у сядзібу акцэнтаваны невялікім ганкам з дахам і шчытком на 4 слупах. Па абодва бакі ганка было па 2 акны.

Вядома, што пасля Сапегаў Косаўскі ключ набыў падскарбі ВКЛ Юрый Флемінг, які ў 1764 г. выкупіў Мерачоўшчыну ў маці Тадэвуша Касцюшкі — Тэклі Ратомскай за 54,5 тыс. злотых[4], а пазней падараваў Косава сваёй дачцэ Ізабеле, якая была замужам за князем Чартарыйскім.

Дачка Ізабелы Соф'я, жонка князя Замойскага, прадала Косаўскія фальваркі і мястэчка графу Войцеху Пуслоўскаму, герб «Шэліг», маршалку шляхты Слонімскага павета, паслу чатырохгадовага Варшаўскага сейма. Аднак асобныя крыніцы сведчаць, што набыццё графам Пуслоўскім косаўскіх земляў мела больш складаны характар. Паводле даследаванняў М.Балінскага і Т.Ліпінскага, пасля падаўлення паўстання 1794 г. Косаўскія маёнткі былі канфіскаваны ў Чартарыйскіх ці Замойскіх і перададзены імператрыцай Кацярынай II расійскай арыстакратыі, у прыватнасці генералу расійскай арміі Туталміну. Верагодна, ад генерала альбо ад яго спадкаемцаў Войцех Пуслоўскі ў 1821 г. адкупіў Косаўскі ключ[5].




*Мерачоўшчына. План дома Тадэвуша Касцюшкі*[9].

У момант набыцця Войцехам Пуслоўскім Косаўскіх маёнткаў былы сядзібны дом Касцюшкі знаходзіўся ў вельмі занядбаным стане, але, дзякуючы дабрачыннасці, патрыятычным пачуццям і павазе да асобы Тадэвуша Касцюшкі, сын Войцеха Вандалін Пуслоўскі распачаў аднаўленне сядзібы. Рэстаўрацыя была закончана ў 1857 г. па праекце і пад кіраўніцтвам архітэктара Міхаіла Астрамецкага, выхаванца Варшаўскай рэальнай гімназіі, затым выпускніка Гаспадарчага інстытута.

Менавіта пасля рэстаўрацыі дома Касцюшкі, праз 26 гадоў пасля Міхаіла Кулешы, на Мерачоўшчыне ў 1871 г. пабываў Напалеон Орда і пакінуў нам у спадчыну малюнак аднаўленай сядзібы на фоне ўзведзенага прадстаўнічага Косаўскага палаца.

Выгляд сядзібнага дома Касцюшкі на малюнку Орды меў значнае адрозненне ад малюнка Кулешы. Будынак ужо быў акцэнтаваны значна большым порцікам, які далёка выступаў ад цэнтральнага фасада. Абкружаны з 3 бакоў калонамі, порцік уяўляў сабой адкрытую летнюю веранду. Па баках ад порціка і на бакавых фасадах месцілася ўжо не па 2, а па 3 акны.

Пра пазнейшы выгляд дома даюць нам уяўленне фотакарткі пачатку XX ст. і міжваеннага перыяду, зробленыя пасля чарговай рэстаўрацыі гэтага мемарыяльнага будынка. Яны пацвярджаюць той яго від, які больш адпавядае малюнку Міхаіла Кулешы. Акон было па 2 ад фронту і па баках, дах значна ніжэйшы, але накрыты гонтай, а не саломай. Спрэчным застаецца пытанне пра колькасць унутраных пакояў. Адны даследчыкі сцвярджаюць, што ў доме былі толькі 4 пакоі, іншыя, што












*Мерачоўшчына. Схема размяшчэння сядзібы[10].*

не меней чым 10. У міжваенны перыяд польскія ўлады стварылі ў мемарыяльным доміку музей Касцюшкі, а ў пакоі, дзе паводле мясцовага падання нарадзіўся Касцюшка, была ўстаноўлена памятная дошка з датамі яго нараджэння і асноўнымі этапамі яго жыцця і дзейнасці.

У гады 2-й сусветнай вайны дом Касцюшкі быў знішчаны.



*Мерачоўшчына. Мемарыяльны знак генералу Андрэю Тадэвушу Касцюшку. Пастаўлены ў 1999 г.[11]*

Сядзіба мае мемарыяльнае значэнне. Пасля вайны рабіліся захады па яе рэканструкцыі. У 1980—1990-я гады архітэктарамі дзяржаўнага прадпрыемства «Брэстрэстаўрацыяпраект» выкананы генеральны план рэканструкцыі дома і аднаўлення Косаўскага палацава-паркавага ансамбля. У 1999 г. каля падмуркаў колішняй сядзібы Тадэвуша Касцюшкі удзячнымі нашчадкамі пастаўлены памятны знак слыннаму ваяру за волю і дэмакратыю.

[1] *Семенов В.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. СПб., 1865. Т. 3. С. 738.*
[2] *ДАРБ у г. Мінску. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 146—147.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 257.*
[4] *Материалы для географии и статистики России. СПб., 1883.Ч. 2. С. 1070.*
[5] *Baliński M., Lipiński T. Starozytna Polska. Warszawa, 1846. T.2. S. 695.*
[6] *Львоўскі нацыянальны архіў (збор фотаальбомаў).*
[7] *Tygodnik ilustrowany. T. 4. 1861, № 105. S.121.*
[8] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея. Фотакопія з альбома Напалеона Орды.*
[9] *Лакотка А.І. Пад стрэхамі прашчураў. Мн., 1995. С. 181, 182.*
[10] *Схему выканала архітэктар А.Лукша.*
[11] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Косаўскі палацава-паркавы ансамбль
# Kosowski pałacowo-parkowy ansambl
# Коссовский дворцово-парковый ансамбль

У 1821 г. Косаўскія маёнткі набыў сын Францішка і ўнук Казіміра Пуслоўскіх граф Войцех Пуслоўскі (1762—1833), маршалак шляхты Слонімскага павета, пасол чатырохгадовага Варшаўскага сейма. З'яўляючыся выдатным гаспадарнікам і патрыётам Айчыны, Войцех акрамя таго быў актыўным фундатарам аднаўлення і зберажэння матэрыяльнай і духоўнай культуры на Беларусі. У прыватнасці, Войцех выступіў у якасці арганізатара і фундатара будаўніцтва шэрагу палацаў і храмаў: Целяханскай капліцы (1817), парафіяльных касцёлаў у Альшэве (1809), Шыдловічах, Хомску (пач. XIX ст.), уніяцкай царквы ў Гарадзечне (1825) і інш. Як сцвярджаў Юльян Нямцэвіч, асабісты дарадца і ад'ютант генерала Тадэвуша Касцюшкі, які пабываў тут у 1870-я гады, Альшэўскаму касцёлу (не захаваўся) разам з фамільнай капліцай па архітэктурных і мастацкіх вартасцях не было роўных у акрузе і мала такіх было ў Літве.



*Мерачоўшчына. Бакавы і паркавы фасад Косаўскага палаца[5].*






*Мерачоўшчына. Фрагмент цэнтральнага фасада палаца Пуслоўскіх[6].*

ную сіметрыю, уласцівую адышоўшаму класіцызму. Франтальна выцягнуты будынак складаўся з цэнтральнага двухпавярховага корпуса і злучаных з ім галерэямі высунутых наперад бакавых павільёнаў.

Цэнтральная падвышаная частка палаца акцэнтавана ступеньчатым атыкам. Зубчаты парапет па перыметры будынка і вузкія шчыліны-байніцы на васьмігранных вежках ствараюць уражанне фартыфікацыйнага ўмацавання. Гатычную інтэрпрэтацыю мела і ўязная брама. Палац змяшчаў больш за 100 пакояў, кожны з якіх меў сваю непаўторную аздобу.

Унутраная планіроўка палаца сіметрычная, характэрная для палацавай архітэктуры класіцызму. У цэнтральным корпусе залы былі згрупаваны вакол вестыбюля. У бакавых карпусах размяшчаліся службовыя памяшканні.

У прасторных залах палаца мелася велізарная колькасць малюнкаў вядомых і невядомых мастакоў, шэ-

Пасля пераможнай вайны 1812 г. з Напалеонам Войцех меў гонар прыняць у адной са сваіх рэзідэнцый — Міхаліне расійскага імператара Аляксандра I[1].

Свае даходы Войцех Пуслоўскі атрымліваў галоўным чынам праз закладку, будаўніцтва і развіццё прамысловых мануфактур, прыцягваючы да вытворчасці мясцовых жыхароў. Акрамя мяст. Косава, у якім ім была закладзена дывановая фабрыка, ён набыў Пескаўскі ключ, Нівы, Шыдловічы, Дзевяткавічы і шэраг іншых маёнткаў, дзе пабудаваў і аднавіў каля 60 касцёлаў і цэркваў.

Ён быў жанаты з князёўнай Юзэфай Друцкай-Любецкай, сястрой міністра Польшчы Ксаверыя, на якога меў моцны ўплыў[2].

Пасля смерці Войцеха яго велізарная спадчына была падзелена паміж 5 сынамі: Францішкам, Уладзіславам, Татушам, Ксаверыем і Вандалінам. Косаўскі ключ атрымаў малодшы сын Вандалін, жанаты з Ядвігай Язерскай. У сям'і Вандаліна і Ядвігі былі 2 дачкі. Генавефа выйшла замуж за графа Адама Плятэра, Марта — за графа Казіміра Красінскага.

Вандалін Пуслоўскі пабудаваў у Мерачоўшчыне ў 1838 г. унікальны па сваёй архітэктуры палац. Ён быў удала ўпісаны ў маляўнічы паркавы краявід. Узводзячы сваю рэзідэнцыю на маляўнічым рэльефе мясцовасці, Вандалін больш звязваў будаўніцтва палаца з суседняй гістарычнай сядзібай, дзе ў 1746 г. нарадзіўся сусветна вядомы дзяржаўны і палітычны дзеяч, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. генерал Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.

Задумку Вандаліна Пуслоўскага ажыццявіў варшаўскі архітэктар Францішак Яшчалд, які замяніў распаўсюджаны на той час палацава-паркавы класіцызм гатычнай старажытнасцю. Шэраг даследчыкаў падкрэсліваюць аналогію Косаўскага палаца з замкам Гогенцолернаў у Камянцы-Зембавецкім (Польская Сілезія)[3]. У стылі сярэдневяковай готыкі інтэр'еры палаца выканалі архітэктар Уладзіслаў Марконі і дэкаратар Аляксандр Жмурка.

Аб'ёмна-прасторавая архітэктурная кампазіцыя палаца з пульсуючым сілуэтам яшчэ захоўвала строга ўраўнаважа-




*Косава. Капліца-пахавальня. XIX ст.[7]*











*Косава. Помнік паўстанцам 1863 г.*

раг радавых партрэтаў, калекцый разнастайнай па стылі мэблі, посуду, антыкварыяту[4].

Вакол узведзенай рэзідэнцыі па плане архітэктара Ф.Яшчалда быў закладзены цудоўны парк на ўзор рэнесансавых садоў Італіі. Вандалін Пуслоўскі уключыў у новую кампазіцыю добра захаваны старадаўні парк, які некалі абкружаў дом-сядзібу Тадэвуша Касцюшкі. Такім чынам, палац Пуслоўскіх і старадаўняя сядзіба Касцюшкаў разам з паркам стварылі унікальны палацава-паркавы ансамбль, але на яго долю выпалі вельмі складаны лёс і цяжкія выпрабаванні. Пасля падаўлення паўстання 1863 г. ён быў канфіскаваны і перайшоў да маскоўскай арыстакратыі, спачатку да купца Аляксандрава, потым князёў Трубяцкіх і, нарэшце, Альдэнбургскіх (да 1914 г.). У час 1-й сусветнай вайны палац быў моцна разбураны, але пасля праведзенай рэстаўрацыі ён выкарыстоўваўся ў якасці адміністрацыі старостваа Косаўскага павета. Да 1939 г. у шэрагу залаў захаваліся печы, каміны. Побач з палацам існаваў дом-сядзіба Касцюшкі. У канцы 2-й сусветнай вайны палац і дом-сядзіба былі спалены партызанамі, а парк вынішчаны ў савецкі час.

У сучасны момант архітэктарамі дзяржаўнага прадпрыемства «Брэстрэстаўрацыяпраект» распрацаваны генеральны план аднаўлення палаца і сядзібы Тадэвуша Касцюшкі, а таксама рэканструкцыі парку як адзінага палацава-паркавага ансамбля.

Ансамбль мае мемарыяльнае значэнне, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Несцярчук Л.М. Гарадзечна..., Брэст, 1997. С. 29.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 256.*
[3] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 204.*
[4] *Marszak M. Przewodnik po Polesiu... S. 116.*
[5,6,7] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Рудня
# Rudnia
# Рудня

Старадаўняя сядзіба роду Юндзілаў. Пра паходжанне сядзібы, яе гісторыю звестак вельмі мала. Вядома, што ў 2-й палове XVIII ст. прадстаўнікі лініі роду Юндзілаў ужо шырока рассяліліся ў краі, мелі маёнткі ў Івацэвічах, Рэгінаве і іншых месцах. Спачатку асноўнай рэзідэнцыяй Юндзілаў з'яўляўся Рэгінаўскі маёнтак, дзе яны пабудавалі драўляны палац, які служыў некальскім пакаленням да міжваеннага перыяду. Пасля таго, як Юзаф Балінскі, унук Юзафа і Юзэфы Юндзілаў, перадалі Рэгінаў на карысць правядзення сельскагаспадарчых рэформаў, рэзідэнцыя роду перамясцілася ў Рудню, дзе Юндзілы жылі да 1939 г. Паводле даследавання Р.Афтаназы, гэту інфармацыю паведаміў апошні гаспадар Рудні Ян Балінскі — Юндзіл[1].

У Рудні некалі існаваў старадаўні палац, які быў узведзены яшчэ ў 1-й палове XVIII ст. Асноўны аб'ём будынка меў форму прамавугольніка, накрыты высокім гладкім гонтавым дахам, над якім узвышаліся 3 белыя атынкаваныя коміны.



*Рудня. Агульны выгляд сядзібы да 1914 г.[2]*

З боку галоўнага пад'езда палац меў 2 аднолькавыя бакавыя ганкі з двухсхільнымі дахамі на 2 калонах.

Палац меў вялікія вокны, кожнае з якіх складалася з 10 секцый. Унутраная аздоба памяшканняў палаца была вельмі сціплая. Пасля таго, як Рэгінаўскі палац у часы 1-й сусветнай вайны пачаў рабавацца, некалькі сямейных рэліквій былі ўратаваны і перанесены ў Рудню.

Насупраць палаца на невялікім узвышшы была размешчана аднапавярховая афіцына з атынкаванымі сценамі. На правым баку газона ўдалечыні ад палаца стаяла драўляная фамільная капліца. Яна была значна



*Рудня. Фамільная капліца да 1914 г.[3]*





вышэйшая за палац і афіцыну, у плане таксама прамавугольная, з гладкім двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаны порцікам з трохвугольным шчытком на чатырох высокіх калонах. Пры капліцы размяшчаліся пахаванні радні Юндзілаў.

Палац і гаспадарчыя збудаванні абкружаў даволі вялікі парк, раней рэгулярны, пазней пейзажны са старымі дрэвамі. У 1920—1930-я гады прайшла рэканструкцыя парку.

У цяперашні час ад колішняга палацава-паркавага ансамбля засталіся толькі невялікія рэшткі парку.

---

[1,2,3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 343.*

# Рэгінаў
# Reginów
# Регинов

Старадаўні сядзібна-паркавы ансамбль. Маёнтак размяшчаўся ва ўрочышчы Рэгінаў побач з в. Волька-Рэгінаўская па-над р. Шчарай. З XVI ст. належаў роду Юндзілаў. За актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г. маёнтак у Юндзілаў быў канфіскаваны і перададзены прадстаўнікам расійскай арыстакратыі — графам Варанцовым-Дашкавым. У канцы XIX ст. Рэгінаў разам з суседнім маёнткам Рудняй займалі плошчу каля 7 тыс. дзесяцін. Пасля амністыі двор зноў быў вернуты Юндзілам. Гаспадарамі Рэгінава і Рудні сталі Станіслаў Юндзіл і яго брат Казімір. У 1920-я гады Рэгінаў і Рудня перайшлі ва ўласнасць Юзафа Балінскага, сына Ігнацыя, унука Юзафа і Юзэфы Юндзілаў. Пасля перадачы часткі маёнтка на карысць правядзення сельскагаспадарчай рэформы плошча яго скарацілася да 6 тыс. га, а рэзідэнцыя была перанесена ў маёнтак Рудня, які стаў цэнтральнай сядзібай Юндзілаў[1]. У гэты час Рэгінаўскім ксяндзом тут была заснавана сельская адукацыйная школа з інтэрнатам імя Юзафа і Антаніны Балінскіх.

Не пазней 2-й паловы XVIII ст. Юндзілы пабудавалі ў Рэгінаве драўляны палац, які прастаяў больш за 100 гадоў і быў спалены, верагодна, у самым пачатку XX ст. Палац меў 1 паверх і форму ў плане доўгага прамавугольніка, быў накрыты даволі высокім гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам.

На цэнтральнай восі галоўнага фасада будынка выступаў мураваны рызаліт на 4 прысценных калонах з вялікімі паўкруглымі вокнамі. Вокны асноўнага корпуса былі значна меншых памераў і мелі прамавугольную форму. Сцены рызаліту былі атынкаваныя і пакрыты белай фарбай, што складала пэўны кантраст з цёмнымі сценамі ўсяго корпуса, абабітага наўскасяк кароткімі



*Рэгінаў. Цэнтральны фасад палаца. 1894 г.*[3]



*Рэгінаў. Паркавы фасад новага палаца. 1939 г.*[4]

прафіляванымі дошкамі. Верагодна, у той самы час, як і сярэдні рызаліт, да левага і правага бакоў палаца былі дабудаваны 2 крылы, таму будынак страціў былую сіметрыю.

Новы, таксама драўляны аднапавярховы палац быў узведзены ў 1903 г. пры Казіміру Юндзіле. Ён меў форму прамавугольніка і 2 крылы па баках, павернутыя да тылу асноўнага аб'ёму. З боку цэнтральнага ўвахода палац меў ганак на 4 калонах, завершаны трохвугольным невялікім шчытком. З боку парку на адной восі з ганкам была дабудавана веранда з дахам, які абапіраўся на 8 драўляных слупоў. Бакавыя крылы таксама мелі падобныя да цэнтральнага 2 невялікія ганкі. Увесь палац накрываў гладкі чатырохсхільны гонтавы дах. Калона галоўнага і бакавых ганкаў, балюстрада, веранда, вокны і дзверы былі афарбаваны ў белы колер.

Новы палац меў каля 20 пакояў з гладка атынкаванымі сценамі, паркетнай падлогай, мураванымі печамі і камінамі. Ад ганку дзверы вялі ў вялікую залу, ад якой злева размяшчалася сталовая, справа — 2 невялікія салоны. У бакавых крылах знаходзіліся таксама жылыя і гаспадарчыя памяшканні. З левага боку да асноўнага будынка была прыбудавана аранжарэя.

Да 1-й сусветнай вайны палац быў часткова абсталяваны ўнутры старадаўняй мэбляй, перанесенай са старога палаца, нажытай і прыдбанай некалькімі




*Рэгінаў. Схема парку.*



*Рэгінаў. Фрагмент парку[5].*

пакаленнямі раней. У ім знаходзіліся фамільныя рэчы і унікальныя творы мастацтва, асабліва галерэя партрэтаў прадстаўнікаў роду Юндзілаў. Даўнішнія партрэты былі выкананы невядомымі, навейшыя — вядомымі майстрамі мастацтва. Больш каштоўнай была карціна з постаццю Крыштофа Юндзіла, які калісьці змагаўся ў шэрагах казацкіх атрадаў Запарожскай Сечы і пражыў 106 гадоў. Копія гэтага малюнка вісела таксама ў Юндзілаўскай капліцы аднаго з кляштараў Гародні. Цікава выглядаў партрэт Юзэфы Балінскай, выкананы мастаком Лампегам. Некалькі навейшых партрэтаў выйшлі з-пад пэндзляў мастакоў Мілера і Готліба.

Найбольшую каштоўнасць Рэгінаўскага палацава-паркавага ансамбля ўяўлялі сабой фамільныя архівы роду Юндзілаў пачынаючы з XVI ст., якія захоўвалі велізарную колькасць матэрыялаў на старабеларускай мове. Большая іх частка згінула ў час 1-й сусветнай вайны, але ўсё ж уратаванымі засталіся 16 скрынак, якія Ян Балінскі ў 1928 г. пераправіў у свой маёнтак Сінежыцы. Некалькі тысяч тамоў да 1914 г. змяшчала Юндзілаўская бібліятэка. Кнігі былі выдадзены пераважна ў XVIII ст. Асноўная іх частка была разрабавана ў 1914—1920 гг., а частка ўратаваных перададзена публічным бібліятэкам.

У канцы XVIII ст. у Рэгінаве была пабудавана фамільная двухпавярховая драўляная капліца. 1-ы яе паверх меў рэлігійнае прызначэнне, 2-і змяшчаў архіўныя і бібліятэчныя зборы.

Цэнтральны і тыльны фасады капліцы былі аздоблены 4 калонамі з кожнага боку. Капліцу накрываў гладкі трохсхільны гонтавы дах. Трохвугольны шчыток быў увянчаны жалезным крыжам.

Рэгінаўскі палац стаяў франтам да ракі Шчары, якая нясе свае воды побач. Уязная алея мела даўжыню каля 2 км і вяла адразу на газон з левага боку. На правым баку ад палаца, на ўскрайку вялікага газона, стаялі афіцына з элементамі класіцызму, за ёю два лямусы і свіран. Усе гэтыя пабудовы мелі паходжанне з таго часу, як і першы палац, з 2-й паловы XVIII ст.[2]

Пасля 2-й сусветнай вайны ў Рэгінаўскім палацава-паркавым ансамблі была размешчана воінская часць. Засталіся рэшткі парку, афіцына, якія павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1,2,3,4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 326—328.*

[5] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Харошча
# Choroszcza
# Хороща

Колішняя сядзіба. Размешчана за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Харошча Мілейкаўскага сельскага Савета.

Маёнтак упамінаецца ў гістарычных крыніцах з сярэдзіны XVI ст., спачатку як уласнасць роду Андрушэвічаў. У XVII ст. сядзіба пераходзіць да Сцяпана Кіндзіжэўскага, потым Марыны Халецкай[1].

У 2-й палове XIX ст. у Харошчы быў пабудаваны невялікі сядзібны дом. Гэта быў аднапавярховы мансардны будынак, узведзены на высокім падмурку. Фасад з боку парку вылучаўся невялікім ганкам, над якім узвышалася мансарда. Дом у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, быў накрыты спачатку гонтай, пасля жалезным дахам.




*Харошча. Схема сядзібы.*

Адначасова з будаўніцтвам палаца быў закладзены пейзажны парк.

Цяпер існуюць толькі невялікія яго рэшткі. Палац быў разбураны ў пасляваенны час. У парку растуць клёны, каштаны, акацыі, бэзы і іншыя лісцевыя пароды. Захавалася невялікая сажалка, равы абмялелі, кампазіцыя парку моцна парушана. Рэшткі сядзібы павінны быць узяты на мясцовы ўлік.

---

[1] *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 490.*




# Югалін
# Jugolin
# Юголин

Старадаўняя сядзіба роду Юндзілаў. Вёска Югалін вядома з XVI ст. У канцы XVIII ст. сядзіба па спадчыне перайшла да нашчадка роду Юндзілаў — Уладзіслава. У 1825 г. у сям'і Уладзіслава Юндзіла і Багуліны Сухадольскай нарадзіўся Францішак, будучы патрыёт, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. на Беларусі. Напачатку ён служыў у царскай арміі, адкуль пайшоў у адстаўку ў 1858 г. у чыне ротмістра і пераехаў на месца жыхарства ў Гродна. Яго дом, па сутнасці, стаў



*Югалін. Паркавы фасад палаца.1939 г.*[2]

прытулкам для рэвалюцыйна настроеных маладых патрыётаў, дзе яны абмяркоўвалі план паўстання. Гэта быў сапраўдны каардынацыйны цэнтр па аб'яднанні патрыятычных сіл[1].

Калі з'явіліся першыя паўстанцкія атрады, Францішка




*Югалін. Схема сядзібы.*

Юндзіла прызначылі камандзірам атрада, які фарміраваўся паблізу Югаліна ва ўрочышчы Старынка. У хуткім часе да атрада Юндзіла, які налічваў ужо больш за 300 вояроў, далучыўся атрад Ісідара Лукашэвіча з-пад Мілавідаў.

Пасля жорсткіх сутычак з расійскімі карнымі войскамі пад Ліцвінавам, Мілавідамі, Сяльцом і Глыбокім Францішак Юндзіл у кастрычніку 1863 г. пераправіўся цераз Буг і 29.9.1863 г. прыбыў у Кракаў, дзе быў прызначаны камендантам гэтага горада.

У пачатку сакавіка 1864 г. ён выехаў на лячэнне ў Францыю і там неўзабаве памёр ва ўзросце 40 гадоў.

За ўдзел у паўстанні царскі ўрад канфіскаваў маёнтак у Юндзілаў. Новымі гаспадарамі Югалінскай сядзібы сталі прадстаўнікі расійскага роду Варанцовых-Вельямінавых і нашчадкі вялікага рускага паэта А.С.Пушкіна, менавіта яго сына Аляксандра Аляксандравіча, генерала, удзельніка расійска-турэцкай кампаніі 1877—1878 гг. Яго першая дачка Наталля выйшла замуж за Паўла Варанцова-Вельямінава, другая, Марыя, за Мікалая Быкава, пляменніка М.В.Гогаля. Дачка Паўла і Наталлі Марыя выйшла замуж за Яўгена Кліменку, а дачка Яўгена і Марыі Наталля Яўгенаўна стала жонкаю Уладзіміра Варанцова-Вельямінава і гаспадыняй палацава-паркавага ансамбля. Іх дзеці Георгій і Вера былі апошнімі гаспадарамі Югалінаўскай сядзібы і з'яўляліся прапраўнукамі А.С.Пушкіна. Яны разам з бацькам у 1939 г. былі вывезены ў Сібір.



*Югалін. Будынак колішняй сыраварні. XIX ст.*[3]

У пачатку XIX ст. яшчэ пры Юндзілах у Югаліне быў узведзены прыгожы аднапавярховы



11 Зак. 1023





палац з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым спачатку гонтай, пазней — чарапіцай. Галоўны фасад палаца ад фронту быў вылучаны ганкам па цэнтры, тыльны фасад меў адкрытую веранду.

Побач з палацам стаялі сыраварня, свіран, шэраг іншых гаспадарчых збудаванняў. На сённяшні дзень захавалася толькі сыраварня. Яшчэ ў 1-ю сусветную вайну ў сядзібе адбыўся вялікі пажар, але палац быў адноўлены.

Пасля 2-й сусветнай вайны ў Югалінскім палацава-паркавым ансамблі размясціліся спачатку дзіцячы дом, потым — школа-інтэрнат, якая працуе па сённяшні дзень. Кампазіцыя парку практычна страчана, палац і гаспадарчыя збудаванні знішчаны.

Колішні палацава-паркавы ансамбль у Югаліне мае мемарыяльнае значэнне. Яго рэшткі патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

1 *Памяць. Івацэвіцкі раён... С. 492.*
2 *Архіў аўтара.*
3 *Фота аўтара. 2000 г.*




# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Камянецкага раёна




*Існуючыя палацы, паркі, сядзібы*

*Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы*




# Александрыя
# Aleksandryja
# Александрия

Колішняя сядзіба роду Патоцкіх. Пазней у маёнтку гаспадарылі Міхальскія, Шляхцінскія і іншыя прадстаўнікі дробнай шляхты. Рэшткі сядзібы размешчаны ў в. Агароднікі (паміж в. Воўчын і г. Высокае) ва ўрочышчы Александрыя. Дакладна невядома, хто і калі даў маёнтку такую назву. Верагодна, ён дастаўся ў спадчыну альбо як пасаг аднаму з нашчадкаў колішніх гаспадароў двара з імем Аляксандр ці Александрына.

Пасля 2-й сусветнай вайны будынкі маёнтка выкарыстоўваліся пагранічным атрадам, цяпер у ім месціцца няпоўная сярэдняя школа.



*Александрыя. Руіны бровара (злева), колішняя лядоўня (справа)[1].*

Сядзібны дом аднапавярховы, пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. з дрэва, на высокім падмурку. Галоўны фасад палаца вылучаны ганкам на драўляных калонах, на якія абапіраўся невысокі трохвугольны шчыток. У цяперашні час будынак поўнасцю перабудаваны, звонку абкладзены белай цэглай, зменена сталярка, перароблены ганак, ліквідавана мансарда, што прывяло да значнай страты аўтэнтычнасці гэтага унікальнага аб'екта палацава-паркавага мастацтва. Акрамя таго, некалькі разоў змянялася ўнутраная плаціроўка сядзібнага дома пад патрэбы вайскоўцаў, калгаса і школы.

Сядзібны дом разам з шэрагам гаспадарчых збудаванняў ствараюць адзіны ансамбль. Частка гістарычных аб'ектаў знаходзіцца альбо ў паўразбураным



*Александрыя. Стайня[2].*




*Александрыя. Схема сядзібы[3].*

стане, альбо не выкарыстоўваецца, занядбана. Усе будынкі (свіран, стайня, склад, абора і іншыя гаспадарчыя аб'екты) пабудаваны з чырвонай цэглы і каменю, адрозніваюцца разнастайнасцю аздобы і афармлення ў залежнасці ад іх прызначэння.

Будынкі былі размешчаны па перыметры двара і, такім чынам, утваралі даволі вялікую выцягнутую ў плане ўнутраную пляцоўку (гаспадарчы двор). У пасляваенны час на месцы гістарычнай сядзібы пабудавана некалькі сучасных збудаванняў, якія парушылі яго адзінства. Сядзібу абкружаў невялікі пейзажны парк з сістэмай каналаў і сажалак. Каналы і дрэвастой парку поўнасцю знішчаны, засталася толькі сажалка, перапланаваная ў апошні перыяд.



*Александрыя. Від на гаспадарчы двор і сажалку[4].*

Рэшткі Александрыйскай сядзібы маюць навукова-пазнавальнае значэнне, павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

[3] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Камянецкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*





11а Зак. 1023





# Баранкі
# Baranki
# Баранки

Колішняя сядзіба, якая належала перад 2-й сусветнай вайной роду Маславых. Сядзіба размяшчалася ў маляўнічай мясцовасці на левым беразе ракі Лясная, паміж вёскамі Баранкі і Плянта. Паводле пісьмовых крыніц, на палях побач з вёскай Баранкі і сядзібай у пачатку XX ст. меліся 3 курганы, адзін з якіх быў абкладзены валунамі рознай канфігурацыі. Да паўстання 1863 г. Вялікія Баранкі належалі Куранецкім, Малыя Баранкі — Гутоўскім. Пасля канфіскацыі зямель маёнтак быў перададзены расійскаму памешчыку Маславу[1].

Сядзіба складалася з палаца, парку і шэрагу гаспадарчых пабудоў. Палац мураваны, пабудаваны з чырвонай цэглы, аднапавярховы, у сярэдняй частцы ад цэнтральнага ўвахода вылучаны высокім порцікам, на 2-м паверсе якога размяшчалася мансарда.



*Баранкі. Фрагмент парку[2].*

Стайня, лямус, хлявы, піўніцы былі збудаваны таксама з чырвонай цэглы. У пасляваенны час у палацава-паркавым ансамблі размяшчаліся воінская часць і рыбная гаспадарка. Цяпер цэнтральную частку ансамбля займае жылы дом, пабудаваны некалькі гадоў назад прыватнай фірмай.




*Баранкі. Схема сядзібы.*

Захаваліся невялікія рэшткі пейзажнага парку, сажалка выцягнутай формы, равы. Кампазіцыя парку моцна парушана, сажалка і равы аплылі, зараслі маладым хмызняком.

У парку растуць клёны, каштаны, ліпы, вербы, бэз, дэкаратыўныя кусты. Фрагменты парку маюць плошчу каля 4 га.

Палац і ўсе гаспадарчыя пабудовы ў пасляваенны час былі разабраны на цэглу, якая пайшла на будаўніцтва калгасных аб'ектаў.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 47.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Бучамля
# Buczeml
# Бучемля

Сядзібна-паркавы комплекс. Маёнтак Бучамля вядомы паводле гістарычных крыніц з 1598 г. як уласнасць роду Гарноўскіх. У 1781 г. маёнтак набывае падкаморы ВКЛ Выганоўскі, а ў 1862 г. ён перайшоў да Тэафіла Бульчынскага. Бульчынскія былі апошнімі гаспадарамі Бучамлянскага маёнтка[1].

У пасляваенны час і па сённяшні дзень у былым Бучамлянскім маёнтку месціцца дзіцячая школа-інтэрнат. Захаваўся невялікі сядзібны дом. Ён з'яўляецца асноўным кампазіцыйным і геаметрычным цэнтрам палацава-паркавага ансамбля.



*Бучамля. Фрагмент парку[2].*

Будынак палаца ў плане мае форму выцягнутага прамавугольніка, аднапавярховы, пабудаваны у 2-й палове XIX ст. з дрэва, накрыты чатырохсхільным гладкім вальмавым дахам, з 2 сіметрычна размешчанымі квадратнымі светлавымі акенцамі і 2 комінамі. Палац мае невысокі падмурак, па 3 акны на кожным крыле. Яго цэнтральны фасад вылучаны ганкам на 4 квадратных слупах, на якія абапіраецца трохвугольны шчыток.

Унутраная першапачатковая планіроўка палаца, верагодна, была анфіладнай, пазней палац перапланаваны ў адпаведнасці з патрэбамі школы-інтэрната. Гаспадарчыя гістарычныя пабудовы ансамбля (піўніца, сыраварня, свірны і інш.) знішчаны.






*Бучамля. Галоўны фасад сядзібнага дома[3].*

Пейзажная кампазіцыя сядзібы фарміравалася за сядзібным домам. Парк захаваўся ў выглядзе асобных фрагментаў (грабавых, кляновых алей, 2 сажалак памерам 30 х 60 м). У парку растуць ліпы, клёны, грабы, каштаны, ляшчына і інш. З'яўляецца перспектыўным для добраўпарадкавання і аднаўлення, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 55, 56,*
[2, 3] *Фота аўтара 2000 г.*

# Воўчын
# Wołczyn
# Волчин

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Станіслава Аўгуста Панятоўскага — апошняга караля Рэчы Паспалітай. У XVI ст. мяст. Воўчын належала роду Солтанаў[1]. Першым вядомым гаспадаром Воўчынскага ключа быў Аляксандр Солтан, які ў 1528 г. выставіў у войска ВКЛ 37 конных ваяроў. Пасля яго смерці ў 1554 г. Воўчын па спадчыне перайшоў да яго сына Івана Солтана[2]. У 1586 г. Яраслаў Солтан, верагодна, сын Івана, староста астрынскі, разам з жонкай Марыяй пабудавалі ў Воўчыне праваслаўную царкву ў гонар Святога Мікалая.



*Воўчын. Фрагмент плана палаца і парку (пасля 1762 г.)[8].*

У пачатку XVII ст. Воўчынскі ключ перайшоў да роду Гасеўскіх. Вядома, што адзін з нашчадкаў гэтага роду Аляксандр Гасеўскі, ваявода смаленскі, увайшоў у гісторыю Воўчына як ініцыятар і фундатар узвядзення тут у 1639 г. першага драўлянага касцёла, пазней аднаўленага віленскім біскупам Абрамам Войнам[3]. Аляксандр Гасеўскі і яго жонка Ева Пац падзялілі маёнтак паміж сынамі наступным чынам: старэйшы сын, Крыштоф атрымаў у спадчыну Стары Воўчын і фальварак Грымяча, а малодшы, Вінцэнт — Новы Воўчын. Праз некалькі дзесяткаў гадоў усе фальваркі апынуліся зноў у адных руках.

У 1708 г. Тэрэза Гасеўская выйшла замуж за Казіміра Сапегу, гетмана Вялікага княства Літоўскага і тастаментам запісала Воўчын разам з фальваркамі Шчытнікі, Грымяча, Люта і інш. на мужа. У 1710 г. Казімір Сапега прадаў Воўчын і Радванічы Якубу Генрыху Флемінгу, маршалку і міністру, канюшаму войска ВКЛ і яго першай жонцы Францішцы Ізабеле з Сапегаў. Кошт гэтых маёнткаў складаў на той час 382,5 тысячы злотых. З атрыманай сумы Казімір Сапега выдзеліў 30 тысяч тынфаў (старадаўняя сярэбраная манета) на ўзвядзенне ў Воўчыне палаца і на адбудову знішчаных шведамі фальваркаў, сядзіб і гаспадарак для мясцовых сялян.




*Воўчын. План палацава-паркавага ансамбля і мяст. Воўчын, выкананы французскім архітэктарам П'ерам Рыко дэ Ціргеем пасля 1762 г.[7]*

Наступным гаспадаром Воўчынскіх маёнткаў стаў князь Казімір Чартарыйскі, кашталян віленскі (1674—1741), жанаты з Ізабелай Марціноўскай. Іх дачка Канстанцыя выйшла замуж за Станіслава Панятоўскага, кашталяна кракаўскага, і з гэтага часу Воўчынская сядзіба стала маёмасцю роду Панятоўскіх — бацькоў апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Як сведчаць дакументальныя крыніцы, бацька караля, Станіслаў Панятоўскі, быў дбайным і руплі-










*Воўчын. Галоўны фасад гістарычнага палаца. XVIII ст.*[9]

вым гаспадаром, меў 18 фальваркаў, выкупіў яшчэ некалькі фальваркаў і вёсак у князя Шуйскага, адбудаваў на рэках Пульве і Лясной 7 млыноў, гандляваў з Гданьскам збожжам, а прыгонным сялянам зменшыў паншчыну. Каля 1738 г. ад Станіслава Панятоўскага (1676—1762), а, магчыма, ад яго швагра, Воўчынскі маёнтак выкупіў Фрыдэрык Міхаіл Чартарыйскі (1696—1775), сын Казіміра і Ізабелы, канцлер ВКЛ. Палац Панятоўскіх быў разабраны на пабудову новай рэзідэнцыі, больш пышнай і прывабнай, якую Чартарыйскія ўзвялі ў 1750-я гады. Пасля смерці князя Міхаіла сядзіба перайшла да Адама Чартарыйскага (1733—1823), вайсковага генерала, у 1812 г. — яго сыну Канстанціну Чартарыйскаму. У 1828 г. ён прадаў Воўчын на аплату даўгоў Караліне Пуслоўскай-Нарбут, ад яе маёнтак (само мястэчка Воўчын з фальваркамі Павукі, Панікві і Катэры) перайшоў ва ўласнасць Браніслава і Канстанцыі Нарбут-Марашэўскай і, нарэшце, да Тадэвуша Нарбута. Фальварак Грымяча набыў род Пузынаў, якія заклалі тут уласны палац.



*Воўчын. Уязная брама да палаца. 1898 г.*[10]

У 1890 г. Воўчын з фальваркам Павукі і хутарам Плянта належаў Люцыяну Марашэўскаму.

Вядома, што ў 1733—1734 гг. Станіслаў Панятоўскі адбудаваў у Воўчыне Троіцкі касцёл, які пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. быў перароблены царскімі ўладамі пад праваслаўную царкву, пазней зноў стаў касцёлам, а ў цяперашні час знаходзіцца ў паўразбураным стане і патрабуе аднаўлення.



*Воўчын. Партрэт Элеаноры Чартарыйскай з анёламі на фоне Воўчынскага палаца. Пасля 1738 г.*[11]

У пачатку XX ст. Воўчынскі маёнтак быў раздзелены на дробныя часткі паміж сялянамі, пасля чаго спыніў сваё існаванне.

Некалькі гадоў назад у архівах Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі польскім даследчыкам П.Вянтробай быў знойдзены унікальны дакумент – арыгінал плана Воўчынскага палацава-паркавага ансамбля і мяст. Воўчын. План выкананы пасля 1762 г. французскім архітэктарам П'ерам Рыко дэ Цыргеем на аркушы памерам 449 х 618 мм[4].

Нарадзіўся П'ер Рыко ў Францыі (м. Цыргей) у 1725 г. Працаваў архітэктарам у Іспаніі і Рэчы Паспалітай. Па яго праектах у 2-й палове XVIII ст. былі ўзведзены палац графаў Браніцкіх (г.Беласток) і палац графаў Патоцкіх (г. Крыстыянполь).

Паводле плана П'ера Рыко, Воўчынская рэзідэнцыя Чартарыйскіх размяшчалася ўздоўж кампазіцыйнай лініі даўжынёй каля 1,5 км, якая цягнулася з усходу ад старадаўняга касцёла базыльянцаў на захад да статуі Нептуна ў канцы вялікага канала. Злева і справа ад палаца размяшчаліся 2 гаспадарчыя двары. На паўночным двары стаяў будынак кухні, а на паўднёвым – стайня, вазоўня і павільён для гасцей. Побач размяшчаліся Свята-Троіцкі касцёл, будынкі плябаніі, сталярні і яшчэ аднаго касцельнага дома.

Што тычыцца Воўчынскага ансамбля Панятоўскіх, то, паводле даследавання Рамана Афтаназы, ужо ў 2-й палове XIX ст. ад яго мала што засталося. Вядома, што адзін з яго павільёнаў, альбо крылаў, быў мураваны, меў 2 паверхі і служыў пазней у часы ўладарання Чартарыйскіх у якасці сямейнага архіва. Будынак гэты існаваў да канца XIX ст. Першае яго прызначэнне было, безумоўна, не архіўнае, пра што сведчаць дакументальныя крыніцы. Менавіта ў гэтым будынку ў 1732 г. нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пра гэта сведчыла мармуровая дошка, якая вісела над дзвярыма ўвахода ў памяшканне архіва.



*Воўчын. Дваровы і бакавы фасады касцельнай плябаніі*[12].

Напярэдадні 1-й сусветнай вайны дошка была знішчана. У пакоі, дзе нарадзіўся будучы кароль, існавалі камін, некалькі крэслаў, камод французскай работы, аздоблены бронзай, сцены ўпрыгожвалі разнастайныя палотны вядомых і невядомых мастакоў.

Воўчынскі палац быў знішчаны ў часы, калі ў маёнтку гаспадарыла Караліна Пуслоўская, якая загадала разабраць палац і перанесці сваю рэзідэнцыю ў маёнтак Леашкі, што размяшчаўся побач з Бярозай-Картузскай.

Пра знешні выгляд палаца Чартарыйскіх нагадвае нам








*Воўчын. Руіны касцёла Св.Тройцы[13].*

малюнак невядомага мастака. Само арыгінальнае палатно захоўваецца ў фондах Кракаўскага нацыянальнага музея Чартарыйскіх.

На карціне на фоне рэзідэнцыі Чартарыйскіх намаляваны партрэт жанчыны з анёламі. Пад малюнкам надпіс: «Князёўна Чартарыйская з анёламі — у далечыні фасад Воўчынскага палаца, ёю ўзведзенага»[5].

Безумоўна, мастак праявіў у нейкай меры творчую фантазію, алегарычнасць, намаляваў за палацам узвышша, якога ў Воўчыне зусім не было, надаў палацу імпазантны выгляд. Нягледзечы на гэта, малюнак, як адзіны рэальны сведка, дае нам магчымасць пазнаёміцца з былой архітэктурнай каштоўнасцю.

Цэнтральная асноўная частка палаца Чартарыйскіх пабудавана з дрэва. Палац у плане падковападобны, яго парадны фасад вылучаны 3 рызалітамі. Найбольш выступаў сярэдні рызаліт, падкрэслены мезанінам, завершаны атыкам і ўсталяванымі над ім вазонамі. Атык абкружаў увесь фасад будынка. Вышэй атыка віднеліся акруглыя люкарны (па 3 з кожнага боку рызаліта). Вонкавая частка бакавых рызалітаў была аздоблена разьбой. Частку сцен паміж вялікімі прамавугольнымі вокнамі прыкрывалі паўкалоны. Палац, які быў узведзены на высокім падмурку, накрываў чатырохсхільны гладкі дах.

Аўтар артыкула пра мяст. Воўчын у «Слоўніку геаграфічным» на падставе архіўных крыніц нагадвае пра ўнутраны выгляд палаца. Асноўны яго будынак меў 36 рэпрэзентатыўных памяшканняў, а ў двух крылах (магчыма, афіцынах) мелася яшчэ 56 пакояў. У палацавы комплекс уваходзілі будынкі фамільнага архіва, бібліятэкі з некалькімі тысячамі тамоў кнігазбору і велізарнай калькасцю дакументаў пра гісторыю Воўчына, а таксама будынкі тэатра, аранжарэі, шклярні, альтанкі. Магчыма, адна з альтанак адлюстравана на гравюры з феерверкам з нагоды шлюбу Адама Чартарыйскага з Ізабелай Флемінг. Гравюра змешчана ў 1761 г. у галерэю гравюр Варшаўскага універсітэта.

Воўчынскі ансамбль адрозніваўся багаццем убранства і аздобы. Толькі на будоўлю аранжарэі ў рэзідэнцыі Чартарыйскіх у Воўчыне выкарыстана 120 тысяч штук цэглы. Кошт мастацкага афармлення, у тым ліку фрэсак, і ўзвядзенне 4 альтанак складаў 58 тысяч злотых. На жаль, да гэтага часу невядомы прозвішчы архітэктараў, якія ўзводзілі ў Воўчыне палац і касцёл для Панятоўскіх. Нейкія будаўнічыя работы выконваў у 1755 г. у Воўчыне архітэктар Краус, а таксама каменячос з Беласточчыны Ян Рэдлер.

Вялікая праца на рэканструкцыі Воўчынскага палацава-паркавага ансамбля была зроблена перад прыездам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага на сваю радзіму ў 1775 г.

Палац Панятоўскіх і рэзідэнцыю Чартарыйскіх абкружаў вялікі парк на 3 тэрасах з фантанамі, звярынцам і тэатрам. Галоўным акцэнтам парку быў працяглы канал. Пра прыгажосць парку згадваецца ў мемуарах Адама Чартарыйскага: «Быў там, у Воўчыне і велізарны сад, раздзелены доўгім шырокім каналам, у канцы якога стаяла статуя Нептуна з усёй яго світай, у французскім стылі, вельмі модным на той час, падобным Версальскім садам... У прывольных садах пасвілася многа ланяў»[6].

Акрамя таго, Адам Чартарыйскі узгадвае пра ўнутраную аздобу Воўчынскага палаца. У прыватнасці, тут мелася багатая мэбля з Францыі, на сценах віселі партрэты караля Аўгуста II, Станіслава Панятоўскага, фундатара Воўчынскага касцёла.

Юльян Нямцэвіч таксама ў сваіх мемуарных працах гаворыць пра партрэты Аўгуста III і Канстанцыі Панятоўскай з маленькім хлопчыкам, безумоўна, будучым каралём Рэчы Паспалітай.

Пра былы палацава-паркавы ансамбль Панятоўскіх-Чартарыйскіх да 1939 г. нагадвалі рэшткі парку, руіны аранжарэі, касцёл Св. Тройцы, плябанія, сістэма каналаў.

У гэтым касцёле ў ноч з 14 на 15 ліпеня 1938 г. быў патаемна перапахаваны апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, астанкі якога былі перавезены з Ленінграда. Патаемнасць перапахавання тлумачыцца невысокай павагай польскіх улад да асобы караля, які ў свой час паставіў асабісты подпіс у дакументах падзелу Рэчы Паспалітай. У 1924 г. архітэктарам Янам Краўзе быў адноўлены будынак касцельнай плябаніі (зараз у ёй месціцца кантора мясцовага калгаса). У пасляваенны час касцёл быў зачынены, абрабаваны і зруйнаваны, а склеп-пахавальня апошняга караля апаганена. У 1992 г. рэшткі праху караля былі перавезены ў Варшаву і перапахаваны ў кафедральным касцёле Святога Яна.

Руіны касцёла Св. Тройцы з'яўляюцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю і знаходзяцца на дзяржаўным уліку. Месца, дзе размяшчаўся былы палацава-паркавы ансамбль Панятоўскіх-Чартарыйскіх, мае мемарыяльнае значэнне.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S . 118.*
[2] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 86.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S .157.*
[4,5,7,8,11] *Wątroba P. Plan założenia pałacowo-parkowego księżnej Eleonory Michałowej Czartoryskiej w Wołczyne: Ikonotheka. Warszawa, 2000. S. 35—40.*
[6] *Антипов В.Г. Парки Белоруссии. Мн., 1975. С. 16.*
[9] *Рэканструкцыя А.Лукшы. 2000 г.*
[10] *Zgorzelska A. Dzieje królewskiego Wołczyna. Warszawa, 1995 // Wędrowiec, 1898 , № 49. S. 40.*
[12,13] *Фота аўтара. 1998 г.*








# Высока-Літоўск
# Wysokie-Litewsk
# Высоко-Литовск

Палацава-паркавы ансамбль. Першыя ўпамінанні пра горад Высокае змяшчаюцца ў гістарычных дакументах XIV ст., калі вялікі князь Гедзімін праездам на Русь затрымаўся ў Высокім Горадзе, які прывабіў яго ўвагу сваім маляўнічым выглядам. Найбольш каштоўны дакумент, які датычыць гісторыі Высокага, адносіцца да 1494 г., калі князь Аляксандр, сын вялікага князя ВКЛ Казіміра, падараваў гораду магдэбургскае права і герб. У 1511 г. кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт I Стары перадаў Высокае ў пажыццёвае карыстанне мужу Ядвігі Гальшанскай — Яну Багдану Храптовічу (Літавору), маршалку ВКЛ.

У 1538 г. Высокае ўзяў у арэнду Лаўрэн Вольскі — продак Гераніма Хадкевіча, слыннага прадстаўніка магнацкага роду Хадкевічаў, канюшага ВКЛ, кашталяна віленскага, старасты берасцейскага. У 1603 г. сын Лаўрэна — Андрэй заклаў «касцёл мураваны» на месцы пабудаванай у 1571 г. з дрэва і згарэўшай у час шведскай вайны капліцы Святой Барбары. У 1609 г. касцёл быў асвячоны біскупам Паўлам Валуцкім. У савецкі час касцёл быў пе-



*Высока-Літоўск. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[4]

раабсталяваны пад спартыўную залу, а ў 1993 г. зноў вернуты каталіцкай парафіі і адноўлены ксяндзом Янам Васілеўскім.

Непадалёку ад касцёла, на ўзгорку, у 1772 г. прыходскім каталіцкім святаром Сланчэўскім узведзена ў стылі барока капліца Святой Барбары, якая захавалася і адноўлена ў 1992—1994 гг. Як сцвярджаюць гістарычныя дакументы Высокаўскага замкавага архіва, старэйшымі ўладальнікамі Высокага былі Ежы Ёдкавіч разам з Пятковічамі, ад якіх маёнтак перайшоў да Хлявіцкіх. Іх нашчадак Станіслаў Хлявіцкі, які быў бяздзетным, перадаў маёнтак роду Войнаў. У 1647 г. маёнтак Высокае разам з фальваркамі Расна, Лумна, Світычы, Зубачы і Войнаўка выкупіў за 60 тыс. злотых Павел Ян Сапега, ваявода віцебскі, пазней — гетман[1].

У 1678 г. Сапегамі быў закладзены вельмі прыгожы замак, які з'яўляўся ўзорам бастыённай сістэмы ўмацавання. У часы бітваў з Расіяй (1654) і Паўночнай вайны (1700—1712) ён неаднаразова гарэў і разбураўся. На сённяшні дзень засталася толькі ўязная замкавая брама, якая ляжыць у руінах. Пасля пажару ў 1748 г. Сапегі перанеслі сваю рэзідэнцыю ў Слонімскі замак.



*Высокае. Цэнтральны порцік*[5].

На паўднёвы захад ад замка ў мясцовасці, якую называлі Марыямполь, у 1785 г. Аляксандрам Сапегам быў пабудаваны кляштар баніфратаў (добрых братоў). Пры ім меліся шпіталь на 20 ложкаў і касцёльня. На франтоне касцёльні быў зроблены надпіс на польскай мове «Для выратавання блізкіх хрысціянскі доўг выканаў Аляксандр Сапега, канцлер ВКЛ у 1785 г.» Будынак колішняга кляштара захаваўся да сённяшняга часу. Аўтарам праекта кляштара з касцёлам і шпіталем з'яўляўся архітэктар Ю.С.Бекер, які пакінуў пасля сябе шэраг шэдэўраў палацава-паркавай архітэктуры на Берасцейшчыне, у т.л. Ружанскі палац.

Далей Высокае па спадчыне атрымліваюць падскарбі Бенядзікт, сын Паўла Сапегі, а ў 1700 г. яго ўнук Міхаіл. У 1718 г. Міхаіл Сапега за 45 тысяч тынфаў (старадаўняя сярэбраная манета) перадае маёнтак у арэнду Аўгусту Касцюшку Сяхновіцкаму і яго жонцы Соф'і. Менавіта з гэтага роду выйшаў вядомы кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Андрэй Тадэвуш Касцюшка. Пасля смерці князя Міхаіла (1760) маёнтак перайшоў да роду Ябланоўскіх, а на мяжы XVIII і XIX ст. Высока-Літоўск зноў стаў спадчынай Сапегаў, у прыватнасці, канцлера Аляксандра Сапегі, потым яго сына Францыска, які быў у шлюбе з дачкою графа Патоцкага Пелагеяй. Перад смерцю Францыск падараваў Высокаўскі ключ Пелагеі. Застаўшыся ўдавою, яна неўзабаве выйшла замуж за Паўла Сапегу (1781—1846), сына віленскага ваяводы.

Да 2-й паловы XIX ст. Высокаўскі ключ заставаўся ва ўласнасці князя Францішка Ксаверыя Сапегі (1807—1882), сына Паўла і Пелагеі. Першы раз ён быў жанаты з Канстанцыяй Сабанскай (1814—1838), а другі — з Людвікай Пац. Ён быў апошнім з роду Сапегаў уласнікам Высока-Літоўска. Пасля 1863 г. вымушаны быў эмігрыраваць за мяжу і больш на радзіму не вярнуўся. Маёнтак па спадчыне перайшоў да яго малалетняй дачкі Марыі (1837), якая была пашлюблена з графам Станіславам Патоцкім.

Апошнім гаспадаром маёнтка да прыходу савецкай ула-



*Высокае. Галоўны фасад палаца*[6].







*Высокае. Дэкор столі і падлогі*[7].

ды быў сын Марыі Патоцкай і Станіслава Патоцкага — граф Якуб Патоцкі (1863—1934), які меў таксама фальваркі Гелянова, Брэжаны і інш. Якуб славіўся сваім мецэнацтвам, таму што свае прыбыткі, маёмасць, уласныя фонды перадаваў на вялікую і добрую справу барацьбы з цяжкімі анкалагічнымі хваробамі[2].

Мураваны палац у Высока-Літоўску быў закладзены Пелагеяй Патоцкай у 1815 г., калі яе другі муж Павел Сапега быў на вайне з французамі. Пелагея славілася выключнай прыгажосцю і энергічнасцю, дзякуючы чаму яна за 5 гадоў адбудавала арыгінальную рэзідэнцыю ў модным на той час стылі класіцызму. Палацавы комплекс складаўся з трох карпусоў: цэнтральнага рэпрэзентатыўнага палаца і дзвюх бакавых аднапавярховых афіцын. Асноўны будынак мае сіметрычную кампазіцыю з двухпавярховай цэнтральнай часткай і аднапавярховымі крыламі. Цэнтральная частка, накрытая двухсхільным дахам, на галоўным паўднёвым фасадзе вылучана чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам, а на супрацьлеглым фасадзе завершана ступеньчатым атыкам. Класічныя элементы дэкору выкананы з дрэва і атынкаваны. Тыльны фасад вылучаўся яшчэ трохвосевым рызалітам і меў тэрасу для агляду наваколля.

Унутраная планіроўка палаца калідорнага тыпу. Праз увесь корпус па падоўжнай восі праходзіць шырокі светлавы калідор, да якога з двух бакоў далучаюцца жылыя пакоі. Пры галоўным уваходзе меўся шырокі вестыбюль, насупраць якога размяшчалася парадная зала з выхадам у парк.

Бакавыя флігелі вырашаны больш сціпла. Іх гладкія сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі вокнамі. Тарцовыя сцены, што выходзяць на ўзроўні галоўнага фасада палаца, дэкарыраваны шасцікалоннымі порцікамі дарычнага ордэра і завершаны высокімі трохвугольнымі шчыткамі. Такім чынам, 3 порцікі ўвязваюць усю кампазіцыю ў адзіны архітэктурны ансамбль.

Парк абследаваны і ўсебакова апісаны А.Т.Федаруком[3]. Фарміраванне Высокаўскага парку пачалося разам з будаўніцтвам замка Сапегаў з 1678 г. і працягвалася пры ўзвядзенні рэзідэнцыі Патоцкіх. Замак і стары парк з сажалкай былі абкружаны валамі і равамі. Новы парк закладзены ў 1-й палове XIX ст. у адпаведнасці з лепшымі традыцыямі пейзажнага стылю. Кампазіцыя парку паступова змянялася. У 1895 г. перапланіроўкай парку займаўся дасведчаны спецыяліст у галіне паркавай архітэктуры Валяр'ян Кроненберг. Паступова парк набыў рысы пейзажнага натуралістычнага тыпу. Фарміраванню ансамбля садзейнічала маляўнічае наваколле, уключаючы пойму р. Пульвы з круцізной рэчышча, невысокую тэрасу, шэраг збудаванняў старога замка.

Уезд у ансамбль быў фіксаваны дзвюма парамі простых пілонаў з дэкаратыўнымі вазамі і кованымі варотамі з вензелямі і ініцыяламі прозвішча нашчадкаў.

Уся тэрыторыя палацава-паркавага ансамбля займае плошчу каля 50 га.

Галоўныя планіровачныя элементы парку: вялікая сажалка, канал, замкавыя валы. У аснову кампазіцыі пакладзены прынцып раскрыцця далёкіх і блізкіх перспектыў на шляху прагулачнага маршрута.

У савецкі час была моцна парушана кампазіцыя ансамбля. На яго тэрыторыі пабудаваны жылыя дамы, гаспадарчыя аб'екты і новы будынак школы-інтэрната.

У 1990-я гады пачалася рэканструкцыя паркавага ландшафту. Падрыхтавана навукова-праектная дакументацыя, на перспектыву плануецца вынясенне гаспадарчых пабудоў, рэстаўрацыя замкавай брамы, палаца Патоцкіх і стварэнне на базе адноўленага палаца музея гісторыі палацава-паркавага мастацтва.



*Высокае. Схема парку*[8].

[1] *Высокае 500 гадоў. Лінкевіч Л.І., Несцярчук Л.М., Сахарчук Ю.І. Брэст, 1994. С. 4.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 165.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 146—149.*
[4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея. III-R.A.4427.*
[5] *Фота аўтара. 1998 г.*
[6, 7] *Чантурия В.А. Атлас памятников архитектуры... С. 77.*
[8] *Федорук А.Т.Садово-парковое искусство... С. 146.*








# Вялічкі
# Wieliczki
# Величкі

Старадаўняя сядзіба, радавое гняздо Бухавецкіх. Размяшчаецца ва ўрочышчы Грышчыцы за 1,5 км на ўсход ад в.Вялічкі. Засталіся рэшткі невялікага пейзажнага парку. Цэнтральная частка парку занята калгасным полем.



*Вялічкі. Фрагмент парку[2].*

Усе пабудовы сядзібна-паркавага ансамбля ў пасляваенны час былі знішчаны. Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы з невялікім ганкам на драўляных слупах.

Парк закладзены ў сярэдзіне XIX ст. Ён развіваўся і фарміраваўся па тыпу дэкаратыўных садоў[1]




*Вялічкі. Схема рэштак парку.*

Цэнтрам кампазіцыі з'яўляўся сядзібны дом, да якога вяла шырокая ўязная алея, абсаджаная ліпамі і каштанамі. Мелася цагляная брама.

Добра праглядаецца перыферыйная абсадка сядзібы клёнамі, ясенямі, грабамі і каштанамі. Асаблівую каштоўнасць складаюць некалькі экзэмпляраў ясеняў і каштанаў старога ўзросту.



*Вялічкі. Фрагмент парку[3].*

Сажалка і абвадныя равы абмялелі і зараслі хмызняком. Частка парку ў канцы XX ст. была занята прыватнай сядзібай.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 30.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Вярховічы
# Wierzchowicze
# Верховичи

Даўняя сядзіба роду Хадкевічаў. Маёнтак Вярховічы ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1566 г. як даволі багатая і заможная сядзіба[1]. У XVII ст. Вярховічы пераходзяць да роду Копцаў, затым да Ячыноўскіх, а ў пачатку XVIII ст. гаспадарамі сядзібы сталі прадстаўнікі роду Шуйскіх. У 1740-х гадах ад Шуйскіх Вярховічы перайшлі да Сапегаў. Апошнімі ўладарамі Вярховіцкага маёнтка да 2-й сусветнай вайны з'яўляліся нашчадкі распаўсюджанага на Камянеччыне роду Ротаў[2].



*Вярховічы. Будынак бровара[3].*

Ад колішняга палацава-паркавага ансамбля ў Вярховічах цяпер захаваўся будынак бровара, які быў пабудаваны Ротамі ў 1908 г. Будынак мае арыгінальную







архітэктуру, павінен быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы як гістарычны гаспадарча-прамысловы аб'ект.

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój ... S. 258.*
[2] *Zdański K. Przyczynki ... S. 114.*
[3] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Грымяча
# Hremiacze
# Гремяче

Палацава-паркавы ансамбль. Гісторыя фальварка Грымяча цесна звязана з Воўчынскім ключом. У пачатку XVII ст. гаспадарамі Воўчынскага маёнтка сталі нашчадкі роду Гасеўскіх. Ад Аляксандра і Евы Гасеўскіх па спадчыне Стары Воўчын і фальварак Грымяча перайшлі да іх сына Крыштофа, пазней да Тэрэзы Гасеўскай. У 1708 г. Тэрэза выйшла замуж за Казіміра Сапегу і перапісала Воўчын разам з фальваркамі Шчытнікі, Грымяча, Люта і Сяхновічы на мужа. Казімір Сапега прадаў Воўчын і Радванічы ў 1710 г. Якубу Генрыху Флемінгу і яго першай жонцы Ізабеле з Сапегаў. Наступным уладальнікам Воўчына і навакольных фальваркаў стаў князь Казімір Чартарыйскі. Яго дачка Канстанцыя выйшла замуж за Станіслава Панятоўскага і нарадзіла ў 1732 г. сына Станіслава Аўгуста, якому было наканавана лёсам стаць апошнім каралём Рэчы Паспалітай.



*Грымяча. Цэнтральны і бакавы фасады палаца[4].*

Каля 1738 г. ад Станіслава Панятоўскага, а, магчыма, ад яго швагра, Воўчынскі маёнтак выкупіў Фрыдэрык Міхаіл Чартарыйскі, які затым па спадчыне перадаў двор у 1812 г. сыну Канстанціну Чартарыйскаму. У 1828 г. Канстанцін прадаў Воўчынскі маёнтак на выплату даўгоў Караліне Пуслоўскай-Нарбут. Ад яе маёнтак перайшоў да Браніслава і Канстанцыі Нарбут-Марашоўскіх і нарэшце Тадэвушу Нарбуту. У 1862 г. фальварак купіў Юрый Гажыц[1], а пасля яго Грымяча набыў род Пузынаў, якія пабудавалі тут свой уласны палац. Першым вядомым уладальнікам маёнтка Грымяча быў Юзаф Адольф Марцін Пузына (1846—1914), сын Юзафа, жанаты з Марыяй Шыслай, герб «Даленга». Пасля іх фальварак Грымяча перайшоў да ўнука Эдварда (1878—1949), жанатага з Аляксандрай Храпавіцкай, які каля 1918 г. прадаў маёнтак Грымяча невядомым пакуль гаспадарам. Перад 1939 г. маёнтак быў канчаткова раздзелены.

Палацава-паркавы ансамбль размешчаны ў маляўнічым месцы побач з вёскай Грымяча на пагорку ў выгіне ракі Пульвы. У ансамбль уваходзяць мураваны аднапавярховы палац, пейзажны парк, тры мураваныя гаспадарчыя пабудовы. Будынак палаца вырашаны ў стылі класіцызму. Ён мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у плане прамавугольны з 3 значна выступаючымі рызалітамі: цэнтральным і 2 бакавымі. Цэнтральны рызаліт вылучаны чатырохкалонным порцікам дарычнага ордэра з трохвугольным франтонам.

Бакавыя рызаліты дэкарыраваны пілястрамі і завершаны атыкавай сценкай. Аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі, простымі сандрыкамі і падаконнымі нішамі.

Вонкавыя сцены маюць арнаментаваныя разеткі і вісячыя гірлянды. Паркавы фасад па цэнтры мае тэрасу, а збоку — мансарду. Будынак узведзены на высокім падмурку, мае паўпадвальны паверх. Унутраная планіроўка палаца мае анфіладны тып[2]. У цэнтральным рызаліце маецца прасторны вестыбюль, за ім зала з выхадам у парк. У бакавых рызалітах знаходзіліся жылыя пакоі. З найбольш цікавых элементаў інтэр'ера — вінтавыя чыгунныя ўсходы на 2-і паверх мансарды. Палац накрываў высокі чатырохсхільны гладкі дах.

Палац абкружае параўнальна невялікі парк, плошчай каля 5 га. Займае частку схілу з пагорка да р.Пульвы. Сіметрычна палацу растуць 2 лістоўніцы еўрапейскія. Другую, таксама сіметрычна размешчаную пару салітэраў ствараюць дрэвы сасны веймутавай. У выглядзе бакавых куліс прастора фланкіравана купамі дрэў мясцовых парод.







*Грымяча. План палаца і схема ансамбля: 1 - палац, 2 - гаспадарчыя пабудовы[5].*







*Грымяча. Фрагмент парку[6].*

За невялікім паркавым партэрам размяшчаецца пейзажная частка парку. Яна займае пагорак, з якога адчыняюцца перспектывы на маляўнічае наваколле і раку Пульву. Паўтараючы форму пагорка, каля яго падножжа праходзіла алея з грабу. У салітэрах, невялікіх дрэвавых групах выкарыстоўваліся экзатычныя віды. Захаваліся адзінкавыя дрэвы ясеню звычайнага ніцага, елкі блакітнай, лістоўніцы, шаўкоўніцы, глогу і інш[3].

Палацава-паркавы ансамбль знаходзіцца ў параўнальна добрым стане, адрозніваецца прыгажосцю навакольнага ландшафту, але палац быў значна разрабаваны пасля высялення з яго ў 1990-я гады летняга лагера для адпачынку дзяцей.

У 1999 г. ансамбль перададзены на баланс раённага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі з мэтай рэстаўрацыі і выкарыстання ў якасці турыстычна-гасцінічнага аб'екта. Палацава-паркавы ансамбль з'яўляецца унікальным аб'ектам архітэктуры і мастацтва, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы. У 2000 г. пачалася рэстаўрацыя палаца, а ў 2001 г. слухачамі Міжнароднай акадэміі спецыялістаў ландшафтна-паркавай архітэктуры праведзены работы па даследаванні і ачыстцы парку ад хмызняку і смецця.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 67.*
[2] *Памяць. Камянецкі раён... С. 90.*
[3] *Федорук А. Т. Садово-парковое искусство... С. 173.*
[4,6] *Фота аўтара. 2000 г.*
[5] *Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей... С. 97.*

# Капылы
# Kopyly
# Копылы

Сядзібна-паркавы комплекс. Захаваўся ў параўнальна добрым стане. Маёнтак Капылы згадваецца ў гістарычных крыніцах з 1-й паловы XVI ст., як уласнасць роду Гарнастаяў[1]. Каля 1512 г. Івашка Гарнастаевіч ажаніўся з удавой Багдана Каравы і атрымаў у Капылах даволі багатую сядзібу. У 1567 г. сын Івашкі Гаўрыла выставіў у войска ВКЛ 7 конных ваяроў[1].

У XVII ст. Капылы перайшлі роду Копцаў. Перад паўстаннем 1863 г. маёнтак набыла Караліна Осцік-Нарбут



*Капылы. Паркавы фасад палаца[4].*

Пуслоўская, перад 1-й сусветнай вайной гаспадарамі маёнтка сталі прадстаўнікі роду Ротаў[2].

Сядзібны дом пабудаваны, верагодна, пры Ротах. Ён уяўляе сабой аднапавярховы мураваны будынак, у плане прамавугольны з бакавым двухпавярховым аб'ёмам. Уезд да палаца быў фіксаваны 7 цаглянымі пілонамі з жалезнымі варотамі.

Паводле апісання А.Т.Федарука[3], сядзіба мае дзве часткі: гаспадарчую і паркавую. З гаспадарчых пабудоў у добрым стане знаходзяцца будынкі старой канюшні, свірна, кароўнікаў. Усе гэтыя збудаванні маюць арыгінальную архітэктуру, пабудаваны з цэглы, у цяперашні час прыстасаваны пад жывёлагадоўчую ферму.

Парк спалучае элементы рэгулярнай планіроўкі з больш пазнейшым пейзажным афармленнем і рысамі утылітарнага прызначэння. Па кампазіцыйных асабlівасцях займае асаблівае становішча сярод ансамбляў,



*Капылы. Будынак аборы[5].*

якія апісваюцца ў нашай кнізе. Гаспадарчая і паркавая зоны раздзелены цэнтральнай трохраднай алеяй. Вуглавая паўночна-ўсходняя частка парку мае складаны састаў і абсаджана на ўскрайку групай елкі. Манументальнасць уезду ў сядзібу надаюць адзінкавыя дрэвы таполі канадскай, 3 сажалкі і дрэвавы масіў.

Перад цэнтральным уваходам у палац знаходзіцца вялікі партэр. Цэнтральная яго частка заніжана.

За палацам пачынаецца сад. Уздоўж яго ў невялікую




паўднёвую частку парку вядзе даволі арыгінальны прагулачны маршрут па шырокай (5 м) алеі, абсаджанай пераважна каштанам конскім. Дрэвы растуць вельмі густа (праз кожныя 2 м) і, такім чынам, ствараюць суцэльны паўасветлены калідор. Уздоўж гэтай алеі за неглыбокім ровам ідзе дрэвавая ахоўная паласа. Прагулачная алея вядзе да высокага пагорка для агляду навакольнага асяроддзя. Пагорак абкружаны водным каналам, які мае шырыню 3,5 м і абсаджаны па перыметры ясенем і ліпай. Дрэвы дасягнулі вельмі вялікіх памераў і ствараюць над пагоркам сваімі кронамі ажурны шацёр.

У сувязі з гэтым пагорак для агляду наваколля набыў выгляд шырокай натуральнай альтанкі. У мінулым, верагодна, пагорак быў састаўной часткай рэгулярнай кам-



*Капылы. Ферма*[6].

пазіцыі, элементы якой часткова захаваліся да цяперашняга часу. Ён размешчаны на восі ліпавай алеі шырынёй 5 м. З абодвух бакоў яе размешчаны па аднаму раслінаму баскету плошчай 0,5 га. Баскеты завяршаюцца папярэчнай грабавай алеяй, якая добра захавалася. У адным з баскетаў шмат зараснікаў бузіны чорнай[3].

Парк захаваўся часткова, у сучасны момант занядбаны, патрабуе догляду і добраўпарадкавання, вызначэння межаў, канкрэтнага ўласніка, усталявання ахоўнага знака, узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

Цяпер вёска, каля якой размешчаны палацава-паркавы ансамбль, мае назву Перамога.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój ... S. 31, 81, 82, 162.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 79.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 109.*
[4,5,6] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Каралін
# Korolin
# Королин

Колішняя сядзіба роду Ротаў. Названа гаспадаром маёнтка ў гонар сваёй дачкі Караліны. Існавала да 2-й сусветнай вайны. У пасляваенны час сядзіба доўгі час выкарыстоўвалася як аб'ект МТС і сельгастэхнікі, цяпер забудавана калгаснымі будынкамі. Сядзібны дом узведзены ў 2-й палове XIX ст. з дрэва, аднапавярховы, у плане квадратны (не захаваўся).



*Каралін. Будынак свірна*[1].

Ад сядзібна-паркавага ансамбля застаўся будынак мураванага свірна. Побач захаваліся рэшткі ліпавых прысад, якія абкружалі сядзібу.

Будынак свірна патрабуе ўзяцця на мясцовы ўлік.

---

[1] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Лазавіца
# Łozowice
# Лозовица

Колішняя сядзіба. Да 2-й сусветнай вайны належала роду Галчынскіх. Размешчана за 1 км на захад ад в.Рудавец. Зараз гэта пагранічная зона. Сядзібны дом быў цагляны, двухпавярховы. Мелася шэраг мураваных гаспадарчых пабудоў (клеці, стайні, свірны, склады), 2 пладовыя сады. Сядзібу абкружаў вялікі пейзажны парк.

Паводле даследавання Ксаверыя Зданьскага, гісторыя Лазавіцкай сядзібы і яе колішніх гаспадароў багатая і адначасова трагічная. «Маёнтак над Бугам», як яго называлі мясцовыя жыхары, складаўся з 2 вёсак: Лазавіцы і Рудаўца. Уваходзіў у каталіцкую парафію (в. Ставы) і праваслаўны прыход (в. Вельямовічы). У XV—XVI ст. Лазавіца з'яўлялася ўласнасцю роду Лазавіцкіх. Адзін з нашчадкаў




*Лазавіца. Схема парку.*










*Лазавіца. Фрагмент парку[2].*

гэтага роду Нялюб Грынкавіч Лазавіцкі перадаў па спадчыне маёнтак Лазавіцу свайму ўнуку Крыштофу. У 2-й палове XVI ст. Лазавіца належала роду Іллінічаў, якія прадалі маёнтак у заклад Мікалаю Кішку, падчашаму ВКЛ.

Ежы Ілініч, так званы «граф на Міры», 23 жніўня 1568 г. падараваў Лазавіцу свайму двароваму Станіславу Магільніцкаму з абавязкам выплаты даўгоў.

У пачатку XVII ст. праз набыццё ад спадкаемцаў Магільніцкага гаспадаром Лазавіцы стаў Фларыян Млажэўскі, які адначасова набыў суседні двор Чыжэвічы, але, абцяжараны даўгамі, дэкрэтам Літоўскага трыбунала ў 1631 г. вымушаны быў перадаць маёнтак у заклад новаму гаспадару Ежы Грэку за 22 тысячы 240 злотых наяўнымі і 940 злотых актывамі. У Фларыяна Млажэўскага былі два сыны: Ежы і Войцех. Ежы быў у шлюбе з Евай Галінскай, атрымаў багаты палац, адкупіў маёнтак у Ежы Грэка і падзяліў зямлю паміж сабой і сваім братам. Пасля раптоўнай смерці жонкі Евы ён другі раз ажаніўся з Ганнай Яленскай, дачкою брэсцкага харунжага. Першая яго дачка ад Евы выйшла замуж за Мікалая Лакніцкага, таксама брэсцкага харунжага, атрымала ў пасаг ад бацькі частку Лазавіц, закладзеных на суму 10 тысяч злотых. Ева і Мікалай Лакніцкія мелі толькі аднаго сына Антонія. Пасля загадкавай смерці мужа Ганна другі раз выйшла замуж за Пятра Станіслава Грэка, вайсковага маёра, ад якога нарадзіла 3 дачок.

Ад Грэкаў Лазавіца перайшла ва ўласнасць магнацкага роду Сапегаў, затым зноў адкуплена Млажэўскімі. Антоній Млажэўскі ў 1700 г. перадаў Лазавіцу ў заклад за 25 тысяч злотых на 3 гады Аляксандру Нарковічу, але сума закладу не была своечасова выплачана. У 1713 г. Млажэўскія прадалі маёнтак за 40 тысяч злотых Марыяну Багуславу. Яго брат Казімір, які з'яўляўся спадкаемцам, пасля смерці Марыяна перадаў правы ўласнасці на Лазавіцу Антонію Нарковічу. Сын Антонія — Ян Зыгмунт у 1751 г. усе маёнткі, якія дасталіся яму ад бацькі, прадаў Яну Гротгузу.

У 1763 г. Лазавіца перайшла ў заклад Юзафу Дулембе, які ў 1767 г. разам з вёскамі Рудавец і Вараблінам выкупіў увесь маёнтак за 100 тысяч злотых. Юзаф Дулемба, хаця і не быў жанаты, але з'яўляўся даволі дбайным гаспадаром. Ён шмат клапаціўся пра ўладкаванне і забудову Лазавіцы. Ім была ўзведзена двухпавярховая мураваная рэзідэнцыя, шэраг гаспадарчых пабудоў, некалькі вадзяных млыноў на рэках Буг і Прудніца. Ён быў першым гаспадаром маёнтка, які пастаянна пражываў у сваім Лазавіцкім палацы. У 1786 г. ён падараваў Лазавіцу свайму брату Яну. Жыццё Юзафа скончылася вельмі трагічна. У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі ён быў схоплены расійскімі казакамі і замардаваны. Брат Юзафа Ян перажыў яго на некалькі гадоў і перадаў Лазавіцу ў спадчыну сыну Юзафу, які значна пашырыў і добраўпарадкаваў маёнтак. У 1814 г. ён прадаў Лазавіцу Яўхіму Брындзы за 100 тысяч злотых. Пасля Яўхіма ў 1854 г. маёнткам валодалі яго сыны і ўнук Людвік. У 1872 г. Людвік прадаў Лазавіцу за 110 тысяч рублёў малодшаму сыну Яўхіма Мечыславу, які ў 1878 г. прадаў маёнтак генералу Чычэрыну. У міжваенны перыяд Лазавіцай валодаў сенатар Пастаўскі, а апошнім яе гаспадаром перад 1939 г. быў Марцэлій Галчынскі[1].

У пасляваенны час пры ўстанаўленні памежнай зоны палацава-паркавы ансамбль апынуўся на савецкай тэрыторыі і доўгі перыяд выкарыстоўваўся ў якасці пагранічнай заставы. Пасля перасялення заставы на новае месца будынкі маёнтка былі разабраны на цэглу. Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі рэгулярнага парку, што быў закладзены ў 2-й палове XVIII ст. Юзафам Дулембай і абкружаў яго рэзідэнцыю.

Асаблівай прыгажосцю і добрай захаванасцю адрозніваюцца 2 шырокія (6—8 м) алеі даўжынёй больш за 600 м, абсаджаныя ліпамі, клёнамі, вербамі і іншымі дрэвамі мясцовых парод.

Лазавіцкі паркавы ансамбль мае адметныя гістарычныя, архітэктурныя і мастацкія вартасці, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 86—88.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Лумна
# Łumna
# Лумно

Фальварак Лумна ўпершыню ў гістарычных крыніцах упамінаецца ў 1630 г., калі яго гаспадар па прозвішчу Умяшчын прадаў яго разам з вёскамі Клюковічы, Заліпа, Такары Пятру Вітаноўскаму. Пасля смерці Пятра ў 1647 г. маёнтак быў раздзелены паміж яго сынамі. Адзін з









*Лумна. Галоўны фасад палаца*[2].

нашчадкаў гэтага роду Антон Вітаноўскі праз 130 гадоў у 1774 г. прадаў Лумнаўскі двор Яну Тальшэўскаму.

З 1789 г. в.Лумна знаходзілася ва ўласнасці берасцейскага земскага пісара Влодкі, з 1862 г. належала Вінцэнту



*Лумна. Свіран*[3].

Высоцкаму, а з пачатку XX ст. да 2-й сусветнай вайны ў Лумнаўскім двары гаспадарыў род Вульфертаў[1].

Палац з'яўляецца асноўным кампазіцыйным цэнтрам ансамбля. Ён быў пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. на пагорку, драўляны, аднапавярховы, з высокім гладкім двухсхільным дахам, накрытым гонтай, пазней жалезам. Будынак палаца ў плане мае форму прамавугольніка. Цэнтральны фасад вылучаны ганкам з двухсхільным дахам. Палац нешаляваны, мае 10 пакояў, з двух бакоў ад ганка па 3 вялікія акны, унутры была анфіладная планіроўка.




*Лумна. Схема сядзібы.*

Пасля вайны ў палацы размяшчалася ваенная пагранічная камендатура, пазней — кантора калгаса, цяпер жылы дом калгаснікаў.

У ансамбль уваходзіць шэраг гаспадарчых пабудоў. Раней тут існавалі лямус (знішчаны), дзве канюшні (адна захавалася ў добрым стане), якія складзены з абчасанага каменю, склад, свіран і інш., частка з якіх знаходзіцца ў паўразбураным стане.

Парк закладзены, верагодна, раней чым палац. Ён яшчэ захаваў элементы кампазіцыі, мае плошчу каля 3 га. Перад цэнтральным уваходам размяшчалася круглая клумба з кветкамі, далей альтанка з 9 грабавых дрэў, побач, з правага боку — другая альтанка з каштанавых дрэў.

Ансамбль у занядбаным стане, але ўяўляе гаспадарчы і навуковы інтарэс, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 89.*
[2,3] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Мінкавічы
# Mińkowicze
# Минковичи

Колішні сядзібна-паркавы комплекс. У 1735 г. маёнтак Мінкавічы належаў роду Матушэвічаў, а ў 1862 г. яго набыў Ян Швыкоўскі. Апошнімі гаспадарамі Мінкавіч да 2-й сусветнай вайны былі нашчадкі роду графаў Замойскіх. Паводле даследавання К. Зданьскага да 2-й



*Мінкавічы. Галоўны фасад палаца*[3].

сусветнай вайны каля в.Мінкавічы на плошчы 500 квадратных сажняў месцілася 30 гістарычных курганоў[1].

На сённяшні дзень захаваліся палац і рэшткі колішняга парку. Цэнтрам кампазіцыі ансамбля з'яўляецца сязібны дом. Кампазіцыйная восі у ансамблі слаба адлюстравана. Да параднай часткі прымыкае вялікі баскет, абсаджаны ліпамі. Дзве сажалкі, размешчаныя за межамі невялікага парку, візуальна крыху пашыраюць яго памеры. Сажалкі размяшчаліся асіметрычна перад паркам уздоўж уязной алеі[2].










*Мінкавічы. Схема парку.*

Палац значна перабудаваны, абкладзены белай цэглай, да цэнтральнага фасада далучана цагляная прыбудова. Яго будынак у плане мае выгляд працяглага прамавугольніка, аднапавярховы, драўляны, вокны шырокія. З боку паркавага фасада меўся ганак на 2 слупах, ад якога вяла прагулачная сцежка ў парк і цераз масток і сажалку да мураванай капліцы. Капліца была паўразбурана, у 1990-х гадах адноўлена і абгароджана.



*Мінкавічы. Адноўленая капліца[4].*

Унутраная планіроўка памяшканняў палаца мела калідорны тып.

У ансамбль уваходзяць будынкі аднапавярховай афіцыны, шэраг гаспадарчых пабудоў (стайні, абора, свіран, склад), якія маюць даволі арыгінальную архітэктуру, характэрную для фальваркаў і маёнткаў перыяду XVIII—XIX ст. Сцены гаспадарчых збудаванняў складзены з абчасанага каменю, некаторыя захаваліся ў добрым стане, частка з іх паўразбурана, без даху, але мае навукова-пазнавальнае значэнне.

Ансамбль перспектыўны ў якасці школьнага парку, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Pszczynki... S. 92.*
[2] *Федорук А.Г. Садово-парковое искусство... С. 88, 90.*
[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Навіцкавічы
# Nowickowicze
# Новицковичи

Колішні фальварак, у якім гаспадарылі да 2-й сусветнай вайны нашчадкі роду Валянцінавічаў. Добра захаваўся палац. Яго будынак у плане мае форму прамавугольніка, мураваны, аднапавярховы, з высокім



*Навіцкавічы. Галоўны і бакавы фасады сядзібнага дома. 1950 г.[1]*

гладкім чатырохсхільным вальмавым дахам, крытым спачатку чарапіцай, пасля жалезам, цяпер шыферам. На даху месціліся 2 светлавыя акны і пара высокіх комінаў.

Цэнтральны фасад сядзібнага дома вылучаны



*Навіцкавічы. Галоўны фасад сядзібнага дома. 2000 г.[2]*






*Навіцкавічы. Млын[3].*

невысокім ганкам у выглядзе шкляной веранды. На бакавых крылах будынка размяшчаюцца па пары акон прамавугольнай формы. Пасля пераходу ў будынак палаца школы да яго супрацьлеглага фасада была дабудавана прамавугольная ў плане аднапавярховая прыбудоўка.

Пасля 2-й сусветнай вайны ў ім месцілася школа, потым вучэбна-вытворчы камбінат, цяпер пакуль не выкарыстоўваецца.

У ансамбль уваходзіў шэраг гаспадарчых збудаванняў (мураваны двухпавярховы свіран, склад, стайня і інш.). Меліся 2 скляпы (піўніцы).

Значную цікавасць мае будынак мураванага двухпавярховага млына, выкананага ў стылі эклектыкі. Першы яго паверх складзены з цэглы і абчасанага каменю. Фасад будынка млына мае арыгінальны дэкор. Да яго галоўнага будынка прамавугольнай формы дабудавана аднапавярховая прыбудоўка. Над вугламі 2-га паверха ўзвышаюцца круглыя вежкі (захаваліся толькі 2). Млын дзейнічае на патрэбы мясцовага калгаса і насельніцтва.

Вакол палаца адначасова з яго будаўніцтвам у 2-й палове XIX ст. быў закладзены невялікі пейзажны парк, ад якога засталіся адзінкавыя дрэвы, сажалка, дамба. Побач з палацам існавала ліпавая альтанка, па перыметры парку — вязавая, ліпавая, каштанавая алеі.

Рэшткі сядзібы маюць навукова-пазнавальнае значэнне і павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Архіў аўтара.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Пелішча
## Pieliszcze
## Пелище

Старадаўні маёнтак. У гістарычнай літаратуры ўпамінаецца з XV ст. як фальварак Чарнаўчыцкага маёнтка[1]. Да 1754 г. Пелішча было ва ўласнасці Вацлава Матусевіча, затым фальварак выкупіў рэферэнт Пшаздзецкі. Апошнімі гаспадарамі маёнтка да 2-й сусветнай вайны былі нашчадкі роду Гутоўскіх[2].

Палац пасля 2-й сусветнай вайны быў знішчаны. Будынак уяўляў сабой аднапавярховы драўляны аб'ём, абкружаны шэрагам гаспадарчых пабудоў.




*Пелішча. Схема парку.*

Сёння тэрыторыю сядзібы часткова займае дзіцячы садок. Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі пейзажнага парку. Найбольшы эфект надае ансамблю невялікая сажалка. У парку растуць ліпы, ясені, вязы, каштаны і іншыя лісцевыя пароды.

Пры належным гаспадарскім падыходзе, падтрымцы і аднаўленні парк можа быць вернуты для выкарыстання. Ён павінен быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 34.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 95.*

## Расна
## Rasna
## Рясна

Колішні палацава-паркавы комплекс. Належаў роду Сапегаў, Грабоўскім і іншым гаспадарам. Вёска вядома паводле гістарычных крыніц з XV ст. Так, у кнізе трэцяй рэгістрацыі актаў у канцылярыі ВКЛ ёсць наступны запіс, які не мае дакладнай даты: «Евлашку да Юшку Трацевичам, село Рясна, што за Боярским было. Гаштовт и Петраш маршалок. Кушлейко»[1]. Названыя тут Гаштоўт і Петраш — сведкі, Кушлейка — пісар, які зрабіў запіс пра



*Расна. Будынак пральні. XIX ст.[4]*







набыццё Расны родам Трацэвічаў. Вызначыць дакладную дату даравання (ці куплі) Расны дапамагае ўпамінанне імя маршалка Петраша, які меў гэтую пасаду ў 1466 г.

Маёнтак Расна знаходзіўся ва ўладанні шэрагу гаспадароў. У прыватнасці, пісар вялікага князя ВКЛ Ігнат Мікітавіч у 1507 г. атрымаў пацвярджэнне правоў уласнасці на куплены ім маёнтак Расна.



*Расна. Руіны гаспадарчых пабудоў. XIX ст.*[5]

Затым па чарзе Раснянскім дваром валодалі Ёдкавічы, Пяткевічы, Хлявіцкія, Война. У гістарычных дакументах за 1588 г. маёнтак Расна пазначаны як маёнтак Андрэя Войны[2]. Верагодна, пры Войнах Расна атрымала статус мястэчка.

У XVII ст. Расна перайшла ва ўласнасць Сапегаў. З гістарычных крыніц вядомы факт, калі пры Бенядзікце Сапегу ў ваколіцах Расны дзейнічаў атрад рабаўнікоў, якім кіраваў яўрэй Нотка. Рабаванне дасягнула такіх памераў, што Бенядзікт Сапега вымушаны быў выплаціць абрабаваным мяшчанам 100 тыс. злотых на падтрымку іх сем'яў.

У пачатку XVIII ст. пры Міхаіле Сапегу ў Расне будуецца рэпрэзентатыўны палац[3]. Рэзідэнцыя Сапегаў у Расне была пабудавана з дрэва, адначасова з узвядзеннем палаца быў закладзены невялікі парк.

У гэты час мястэчка славілася шматлюднымі кірмашамі. Да 1722 г. кірмашы адбываліся на праваслаўнае свята Іллі. У гэтыя дні ў Расну прыбывалі купцы і гандляры з Вроцлава, Гданьска, Хоціна і нават з Масквы з фурманкамі з разнастайнымі таварамі, у т.л. турэцкімі, арабскімі і інш.

Вайна Расіі са шведамі спустошыла Раснянскі маёнтак. З гэтай нагоды Міхаіл Сапега быў вымушаны прадаць, магчыма, перадаць пад залог за 50 тыс. злотых маёнткі Расну і Мінкавічы Юзафу Матушэвічу. Адначасова Сапегі пачалі клапаціцца пра разгортванне кірмашоў у Высока-Літоўску, жорстка абмежаваўшы доступ купцам і гандлярам у Расну, што выклікала разлад паміж гэтымі дзвюма магнацкімі сем'ямі.



*Расна. Галоўны фасад касцёла*[6].

Новы гаспадар Расны Юзаф Матушэвіч вылучаўся надзвычай шырокім светапоглядам і досыць багатай эрудыцыяй. У 1744 г. ён запрасіў у Расну прадстаўнікоў каталіцкага манаскага ордэна марыян, а ў 1753 г. пабудаваў тут кляштар марыян разам з касцёлам Святой Ганны. На мэты кляштара былі прыстасаваны асобныя будынкі палацава-паркавага ансамбля Сапегаў, у т.л. Сапегаўскі скарбец (музей і архіў з сямейнымі рэліквіямі) з некалькімі пакоямі, а таксама перададзены фальварак Такары і хутар Забалацце.

Юзаф Матушэвіч перадаў Раснянскі маёнтак па спадчыне свайму сыну Марціну, кашталяну Брэсцка-Літоўскаму, паслу Варшаўскага сойма. Марцін Матушэвіч быў вядомым даследчыкам, аўтарам шэрагу каштоўных мемуарных выданняў.




*Расна. Адна з мемарыяльных пліт на сцяне касцёла*[7].

Пасля Матушэвічаў маёнтак перайшоў да графаў Грабоўскіх, якія значна перабудавалі і аднавілі Раснянскі палацава-паркавы ансамбль. Замест драўлянага палаца быў пабудаваны новы аднапавярховы мураваны палац з верандай і ганкам з боку парку. Ад ганка да сажалкі была вымашчана сцежка, па баках якой цягнулася мураваная агароджа. Рэшткі гэтай агароджы захаваліся да сённяшняга часу. Побач з палацам была ўзведзена двухпавярховая П-падобная мураваная пральня, будынак якой існуе цяпер ў занядбаным стане. Захаваліся таксама склеп і шэраг мураваных (з цэглы і каменю) гаспадарчых пабудоў. На сажалцы меўся млын, пасярэдзіне — круглая невялікая выспа (востраў) з альтанкай, непадалёку размяшчалася другая меншая сажалка.

Увесь Раснянскі палацава-паркавы ансамбль займаў плошчу каля 10 га. Ён размяшчаўся на невялікай рэчцы з экзатычнай назвай Каваліха-Млынец. Сёння на гэтым месцы забудавана вёска Старая Расна.

Магчыма, яшчэ пры Матушэвічах быў закладзены ў Раснянскім маёнтку касцёл, які быў дабудаваны Грабоўскімі. Нейкі час касцёл служыў кальвінскім храмам. Пры Грабоўскіх будынак касцёла стаў месцам пахавання продкаў і нашчадкаў гэтага роду. На двары з боку алтара быў пахаваны першы гаспадар Расны і фундатар касцёла граф Грабоўскі, на магіле якога ўзвышаўся трохметровы базальтавы помнік у выглядзе 4-граннай стэлы. Пасля прыходу савецкай улады помнік быў вывезены на граніцу і расколаты для ўстанаўлення памежных слупоў.

Унутры касцёла мелася крыпта-склеп, дзе на ланцугах



былі замацаваны чатыры саркафагі продкаў Грабоўскіх і 6 пліт. На сценах яшчэ захаваліся 3 з 6 мемарыяльных пліт. Саркафагі разрабаваны, а 3 мемарыяльныя пліты разбіты.

За актыўны ўдзел манахаў ордэна марыявітаў і прыхаджан Раснянскай парафіі ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г. царскі ўрад у 1868 г. зачыніў і канфіскаваў усе пабудовы кляштара марыявітаў, у т.л. Раснянскі касцёл. Будынак касцёла быў перапланаваны, да яго галоўнага фасада прыбудаваны чатырохкалонны порцік у стылі класіцызму.

У канцы XIX — пачатку XX ст. у кляштарных памяшканнях размяшчалася духоўна-настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала выкладчыкаў для царкоўна-прыходскіх школ. У час уваходжання Заходняй Беларусі ў склад Польшчы Раснянскі кляштар быў вернуты манахам, а з прыходам савецкай улады ў 1939 г. адабраны. У час ваенных дзеянняў у 1944 г. касцёл Святой Ганны ў кляштары быў разбураны снарадамі, пасля вайны кляштарныя памяшканні выкарыстоўваліся пад патрэбы камбіната бытавога абслугоўвання, паступова разбураліся. Пэўны час на месцы былога кляштара існаваў кар'ер. Зараз яшчэ



*Расна. Руіны кляштара[8].*

праглядваюцца тут каменныя падмуркі касцёла, а ўрочышча, дзе ён размяшчаўся, носіць назву «Кляштар».

Забудова цэнтральнай сядзібы мясцовага калгаса, у т.л. будынак былога касцёла, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У сучасны перыяд на падмурках разбуранай пасля вайны праваслаўнай царквы адбудаваны новы будынак храма, які павінен таксама быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У будынку былога Раснянскага касцёла (кальвінскага храма), які доўгі час выкарыстоўваецца ў якасці калгаснага склада, плануецца стварыць пасля рэстаўрацыі Дом міласэрнасці.

[1] *Памяць. Камянецкі раён... С. 103.*
[2] *Wawrzyńczyk A. Rozwój ... S. 31.*
[3] *Zdański K. Przyczynki... S. 99.*
[4,5,6,7,8] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Ставы
# Stawy
# Ставы

Колішняя сядзіба роду Стаўскіх, пазней Красінскіх і Навалецкіх. У 1460 г. тут быў узведзены касцёл арыгінальнай архітэктуры, фундатарам якога з'яўляліся браты Ежы і Жан Стаўскія. У сярэдзіне XVIII ст. будынак быў знішчаны, верагодна, у час пажару, а на яго месцы паўстаў у 1789 г. новы касцёл. Паводле даследавання К. Зданьскага, пад в.Ставы на левым баку дарогі да Яцкавіч існавала 10 курганоў, абкладзеных каменем. З 1862 г. у маёнтку пачала гаспадарыць Графіня Эльжбета Красінская[1].

У 2-й палове XIX ст. Красінскія пабудавалі ў Ставах невялікі сядзібны дом, які захаваўся да сённяшняга часу,



*Ставы. Будынак аборы[2].*

але значна перабудаваны. Пасля вайны ён быў абкладзены цэглай, напалову разабраны, страціў сваё першапачатковае аблічча. Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. касцёл быў перабудаваны пад праваслаўную царкву, якая згарэла ў гады 2-й сусветнай вайны.

З гаспадарчых пабудоў захаваўся будынак мураванай аборы, складзенай з цэглы і каменю.

Будынак аборы патрабуе ўзяцця на мясцовы ўлік.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 104.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Сушкі
# Suszki
# Сушки

Старадаўні фальварак. Існаваў да 1-й сусветнай вайны. У 1920-я гады быў распрададзены. У міжваенны час на месцы сядзібнага дома была пабудавана школа, будынак якой захаваўся да сённяшняга часу.

У склад ансамбля ўваходзілі бровар, млын, шэраг гаспадарчых пабудоў (не захаваліся). Магчыма, з таго часу




*Сушкі. Схема сядзібы.*



12а Зак. 1023







*Сушкі. Будынак колішняй школы[1].*

існуе будынак свірна, складзены з каменю, над якім узвышаюцца 4 вежкі. Гэты арыгінальны будынак размяшчаецца за 0,5 км ад рэшткаў гістарычнага парку, пры дарозе на в.Ясяноўка.

Плошча рэшткаў парку складае 1,5 га. Растуць ясені, клёны, вязы і бэзы. Сажалка і равы не праглядаюцца.

Доўгі час будынак колішняй школы выкарыстоўваўся ў якасці лагера працы і адпачынку для школьнікаў.



*Сушкі. Свіран[2].*

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Сюлкі
# Siułki
# Сюлки

Колішняя сядзіба роду Пашкевічаў. Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі пейзажнага парку. Паркавая кампазіцыя будавалася адносна невялікага аднапавярховага палаца, размешчанага ў цэнтры сядзібы.

Палац быў пабудаваны з тоўстага бруса векавых соснаў Белавежскай пушчы. Пасля прыходу савецкай улады ў 1939 г. у палацава-паркавым ансамблі быў адкрыты дзіцячы дом. Пасля вайны ў 1944 г. палац быў разабраны і перавезены ў Камянец на гаспадарчыя патрэбы.



*Сюлкі. Фрагмент парку[2].*



*Сюлкі. Мураваная брама царквы[3].*

З гаспадарчых пабудоў маёнтка застаўся будынак стайні, рэшткі скляпоў. Доўгі час ансамбль выкарыстоўваўся пад патрэбы жывёлагадоўчай фермы, аб чым сведчаць паўразбураныя цяпер будынкі.

Парк мае плошчу каля 5 га. Захаваліся прагулачныя сцежкі. Тэрыторыю парку абкружае даволі доўгі перыферыйны канал[1].

Побач з сядзібай размешчана былая праваслаўная царква з арыгінальнай мураванай брамай і агароджай.

У 1960-я гады яна была зачынена і зараз знаходзіцца ў паўразбураным стане. На двары царквы ёсць некалькі пахаванняў з надмагільнымі мураванымі пом-



*Сюлкі. Помнік маршалку Магільніцкаму каля руін царквы. XIX ст.[4]*



нікамі цікавай архітэктуры, у т.л. маршалка Магільніцкага. Побач на праваслаўных могілках існуе пахаванне, на надмагільнай капліцы якога меўся надпіс пра пахаванне тут тайнага стацкага саветніка, генерал-лейтэнанта, князя Пятра Пятровіча Троіцкага, першага дырэктара Белавежскай пушчы.

Рэшткі Сюлкаўскага парку, капліцы-пахавальні генерала Троіцкага і руіны царквы павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.



*Сюлкі. Мемарыяльная капліца-пахавальня першага дырэктара Белавежскай пушчы генерала Пятра Пятровіча Троіцкага. Пачатак XX ст.*[5]

[1] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 25.*
[2,3,4,5] *Фота аўтара.*

# Турна
# Turna
# Турна

Старадаўняя сядзіба Радзівілаў. Упершыню маёнтак Турна згадваецца ў пісьмовых крыніцах 1477 г., калі ваўкавыскі шляхціц Івашка Ілініч памяняў спадчынныя землі ў Ваўкавыскім павеце на Чарнаўчыцы і Турну[1]. Пасля Ілінічаў Турна перайшла да роду Радзівілаў з Нясвіжскай лініі. У 1671 г. Радзівілы ўзвялі ў Турне драўляны палац і заклалі вялікі парк са звярынцам на ўзор Версальскага парку з фармаванымі шпалерамі. Палац праіснаваў да 2-й паловы XIX ст.[2]

Пасля Радзівілаў Турнаўскі маёнтак перайшоў да роду Грабоўскіх. Дачка Міхаіла Казіміра Радзівіла Рыбанькі Юзафіна выйшла замуж за графа Міхаіла Грабоўскага, канюшага ВКЛ і ўнесла Турну ў якасці пасагу ва ўласнасць Грабоўскіх[3].

Да гэтага часу ад палацава-паркавага ансамбля ў





*Турна. Схема сядзібы.*

Турне захаваліся невялікія рэшткі парку, працяглая ўязная алея, абсаджаная каштанамі, клёнамі, ясенямі, ліпамі. Побач з паркам існуюць абмялелая сажалка і пладовы сад. На ўскрайку парку стаіць мураваны гаспадарчы будынак. У парку растуць мясцовыя пароды дрэў.

Рэшткі парку маюць навукова-пазнавальнае значэнне, патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 98.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 32.*
[3] *Zdański K. Przyczynki... S. 113.*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Хадасы
# Chodosy
# Ходосы

Сядзібна-паркавы комплекс. Размяшчаецца ў цэнтры вёскі Хадасы. Вёска Ніжнія Хадасы перад 2-й сусветнай вайной належала Манькоўскім, вёска Верхнія Хадасы — роду Сузінаў, а в.Заляшаны — роду Фізэраў[1].

Маёнтак Ніжнія Хадасы ў XIX ст. належаў Рыжлеўскім, а ў 1890 г. землі маёнтка набыў Адам Манькоўскі, які гаспадарыў на той час у Такарах і меў дваранскі тытул. Гэты тытул яго роду падаравала расійская імператрыца Кацярына II у 1796 г. пры правядзенні перарэгістрацыі заможных сем'яў у Заходнім краі.

Адам Манькоўскі падзяліў маёнтак Ніжнія Хадасы паміж двума сынамі Станіславам і Юзафам і дачкой Марыяй, якія пабудавалі свае сядзібы. Сядзібы поўнасцю не разбураны, у іх цяпер размяшчаюцца школьная майстэрня, бібліятэка, дзіцячы садок і сталовая.



*Турна. Фрагмент уязной алеі*[4].



*Хадасы. Сядзібны дом*[2].





У канцы XIX ст. Манькоўскія заклалі сад і парк. Аснову кампазіцыі парку складалі 4 жылыя дамы. Гэта былі невялікія правінцыяльныя дамы, пабудаваныя з дрэва на нізкім падмурку з ганкамі на драўляных слупах.

Цэнтральную частку сядзібы займаў малады пладовы сад з плантацыямі маліны, абсаджаны па баках бэзамі, старымі ясенямі, таполямі. Левая частка сядзібы складалася са старога пладовага саду, перарэзанага алеяй.

Правы бок сядзібы меў таксама малады пладовы сад, плантацыі маліны, парэчак, вішні. Акрамя алеі, абсаджанай ляшчынай, у парку былі ліпавыя і таполевыя алеі.

Сядзіба мела шмат гаспадарчых пабудоў (стайню, курнік, свіран, абору, летнюю кухню і інш.).

Побач са слівавым садам месцілася даволі вялікая прамавугольнай формы сажалка, абсаджаная з правага боку вярбой ломкай.




*Хадасы. Схема сядзібы.*

У сучасны перыяд кампазіцыя парку моцна парушана, дрэвы выразаны, тэрыторыя забудавана прыватнымі дамамі.

Рэшткі парку і сядзібныя дамы павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Słownik geograficzny... T. 1, 1880. S. 314.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Шастакова
# Szostakowo
# Шостаково

Колішняя сядзіба роду Траўгутаў і Гафмейстараў, у якой 4(16) студзеня 1826 г. нарадзіўся адзін з найвышэйшых кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. у Польшчы, на Беларусі і Літве Рамуальд Людвікавіч Траўгут. Продкі Рамуальда Траўгута былі выхадцамі з Саксоніі, перасяліліся на тэрыторыю Рэчы Паспалітай у 1-й палове XVIII ст. Дзед Рамуальда Якуб Траўгут удзельнічаў у паўстанні 1794 г. і атрымаў высокую пахвалу ад самога генерала Тадэвуша Касцюшкі. Бацька Рамуальда Людвік Траўгут быў небагатым шляхціцам, таму маёнтак Шастакова ён узяў у шматгадовую арэнду ў памешчыка генерала Альберга[1].

Пазней, у 1861 г. Рамуальд Траўгут атрымаў у спадчыну ад дзеда па мацярынскай лініі фальварак Востраў (Астроўе), што існаваў у Кобрынскім павеце (цяпер Маларыцкі раён). Пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі Рамуальд Траўгут паступіў на ваенную службу, удзельнічаў у Крымскай вайне, а ў 1862 г. у чыне падпалкоўніка царскай арміі выйшаў у адстаўку і пераехаў у свой маёнтак Востраў (Астроўе). У красавіку 1863 г. на тайнай сустрэчы арганізатараў вызваленчага руху, што адбылася ў маёнтку Божы Дар пад Кобрынам, прыняў прысягу і даў згоду ўзначаліць Кобрынскі паўстанцкі атрад, правёў шэраг баёў з расійскімі карнымі войскамі на Палессі і Валыні. У ліпені 1863 г. з дапамогай Элізы Ажэшкі выехаў да Варшавы, дзе ўзначаліў агульнае паўстанне. Пасля падаўлення паўстання быў арыштаваны і 5 жніўня 1864 г. павешаны царскім урадам у Варшаўскай цытадэлі.



*Шастакова. Сядзіба, у якой нарадзіўся ў 1826 г. Рамуальд Траўгут. 1930-я гады. На пярэднім плане мемарыяльны камень[4].*

Сядзібна-паркавы ансамбль у Шастакове выглядаў даволі сціпла. Дом, у якім нарадзіўся Рамуальд Траўгут, быў аднапавярховы, драўляны, у плане меў форму падоўжанага прамавугольніка, дах будынка двухсхільны, гонтавы з высокім комінам. Дом абкружаў невялікі пейзажны парк.

Апошнімі гаспадарамі Шастакоўскага маёнтка да 2-й сусветнай вайны былі нашчадкі роду Сцялецкіх[2].

Вядома таксама, што ў 1830 г. у маёнтку Шастакова жылі бацькі актыўнага ўдзельніка нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі Апалінара Паўлавіча Гафмейстара (1825—1890).

У 1920-я гады польскія ўлады ўстанавілі каля радавога дома Рамуальда Траўгута мемарыяльны знак на ўшанаванне памяці з надпісам на мармуровай дошцы[3]. У пасляваенны час дом і помнік былі знішчаны.

У 1988 г. недалёка ад радавога дома Рамуальда Траўгута ў в. Шастакова ўстаноўлены новы знак — камень з плітой на ўспамін пра славутага суайчынніка.

Месца нараджэння Рамуальда Траўгута з'яўляецца мемарыяльным, узята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Збор помнікаў... С. 217.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 108.*
[3,4] *Bieńkiewicz Wacław. Niektóre wiadomości o województwie Poleskim //Rocznik Poleski. 1927. S. 37.*




# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Кобрынскага раёна





# Кобрын
# Kobryń
# Кобрин

**Мемарыяльны сядзібны дом.** Пабудаваны ў 1790 г. з дрэва. Аўтар праекта і першы гаспадар дома невядомы. Верагодна, пасля задушэння паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі дом быў канфіскаваны ў яго гаспадароў, таму што ў канцы 1795 г. ён ужо пуставаў. Дом мае мемарыяльнае значэнне. У свой час у ім жылі расійскі генералісімус Аляксандр Сувораў (1797, 1800) і генерал Рамуальд Траўгут (пачатак 1860-х гадоў), адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. у Беларусі, Украіне, Польшчы[1].



*Кобрын. Сямейны помнік Аляксандру Міцкевічу, брату Адама Міцкевіча[3].*

Планіроўка дома анфіладная. Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак быў накрыты гонтавым вальмавым дахам. Пры будаўніцтве выкарыстана канструкцыйная схема з сярэдняй падоўжана-нясучай цаглянай сцяной.

Сіметрычна-восевая кампазіцыя галоўнага і дваровага фасадаў вылучана па цэнтры ганкамі на 4 слупах. Ганкі завяршаліся трохвугольным франтонамі. Сцены атынкаваныя, праёмы вокнаў прамавугольныя з акаванымі аканіцамі[2].



*Кобрын. Порцік дома А.Суворава і Р.Траўгута ў даваенны перыяд[4].*

У гады 2-й сусветнай вайны дом быў разбураны, у 1946 г., паводле рашэння ўрада БССР, рэстаўрыраваны і ў 1948 г. ў ім створана ваенна-гістарычная экспазіцыя,



*Кобрын. Сучасны выгляд мемарыяльнага дома-музея[5].*

прысвечаная жыццю і дзейнасці А.В.Суворава. Перад будынкам у 1950 г. устаноўлены бронзавы бюст Суворава (скульптар П.Кюферле), 2 гарматы, адлітыя ў 1872 г.

Сядзібны дом з'яўляецца мемарыяльным будынкам і помнікам архітэктуры класіцызму. Ён узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Архітэктура Беларусі... С. 240.*
[2] *Свод памятников... С. 252.*
[3] *Marszak M. Przewodnik po Polesiu... S. 66.*
[4] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0141542).*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*

**Парк.** Закладзены ў 1768 г. на паўднёвай мяжы г. Кобрына паводле распараджэння падскарбія (казначэя) ВКЛ Антонія Тызенгаўза (1733—1785) пры фальварку, які меў назву «Губерня». Фальварак уваходзіў у склад Кобрынскага ключа, Кобрынскай губерні, якая была створана Антоніем Тызенгаўзам. На той час Антоній Тызенгаўз служыў распарадчыкам каралеўскіх маёнткаў на тэрыторыі ВКЛ.

Да яго дзяржаўцам Кобрынскай эканоміі (колішняга княства) быў Ежы Флемінг. У 1757 г. Тызенгаўз правёў грунтоўную адміністрацыйную рэформу, скасаваў



*Кобрын. Фрагмент парку[4].*









Брэсцкую і Кобрынскую эканоміі, ліквідаваў войтаўствы і валасці, увёў новую адміністрацыйную адзінку — ключ. Такім чынам узнік Кобрынскі ключ, у які акрамя самога горада ўваходзілі фальваркі Залессе і Гарыздрычы, вёскі Дубавое, Лахчыцы, Лягаты, Патрыкі, Рухавічы, Паляцічы, Плоскае, Хідры. Для зручнасці кіравання ключамі Тызенгаўз увёў яшчэ адно звяно — губерню. Такім чынам, у 1768 г. з'явілася Кобрынская губерня, якая ўключала і падпарадкоўвала Кобрынскі, Вежыцкі, Гарадзецкі, Закросніцкі, Ілаўскі, Літвінкаўскі, Тэвельскі і Чаравачыцкі ключы і шэраг фальваркаў. Назву «Кобрынскі Ключ» маёнтак меў аж да 1939 г.[1]

У 1795 г. расійскай імператрыцай Кацярынай II Кобрынскі ключ разам з іншымі ключамі і фальваркамі быў падараваны Аляксандру Сувораву. Пасля смерці Суворава яго сын Аркадзь быў вымушаны па частках распрадаваць велізарныя абшары маёнтка розным асобам[2]. З 1808 г. Кобрынскім Ключом валодаў памешчык Гельвіг, а прыкладна з сярэдзіны XIX ст. Ключ перайшоў ва ўласнасць Аляксандра Міцкевіча, прафесара Харкаўскага універсітэта, роднага брата знакамітага паэта беларускай зямлі Адама Міцкевіча[3]. Міцкевічы тут жылі да 1873 г.



*Кобрын. Схема парку*[5].

У XVIII ст. парк займаў невялікую плошчу, прыкладна 3,5—4 га. У цэнтры парку знаходзіўся пладовы сад і невялікая сажалка. Яго абкружалі земляны вал і глыбокі роў. За 200 гадоў парк павялічыўся амаль у 15 разоў і зараз яго плошча складае 66 га.

Цяпер парк мае рэгулярную сістэму планіроўкі. Яго кампазіцыйную вось складае цэнтральная алея, якая завершана невялікай сажалкай. На беразе сажалкі раней стаяў драўляны дом Суворава, які ў 1894 г. быў разабраны на іншыя гаспадарчыя пабудовы.

У сучасным парку існуе каля 70 відаў розных парод дрэў і дэкаратыўных насаджэнняў: дуб, ліпа, ясень, клён, акацыя, сасна, пірамідальная таполя, блакітная елка, лімоннік, явар, сібірская абляпіха, некалькі відаў туі, бэзу, ружаў і інш. Парк мае статус помніка прыроды, гісторыі і культуры, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 565. Арк. 1—4.*
[2] *Zdański K. Przyczynki ... S. 77—78.*
[3] *Свод памятников...С. 244—245.*
[4] *З паштоўкі 1997 г.*
[5] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 42.*

# Божы Дар
# Boży Dar
# Божий Дар

Мемарыяльная сядзіба роду Мітрашэўскіх. Размешчана за 2 км на захад ад колішняга фальварка Бяроза і за 2,5 км на ўсход ад в. Малышы.

Сядзіба Божы Дар была звязана з падзеямі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г., менавіта з дзейнасцю аднаго з яго кіраўнікоў генерала Рамуальда Траўгута. У 1861 г. Рамуальд падаў прашэнне пра сваю адстаўку, і 14.7.1862 г. прыйшоў указ у яго спадчыннае гняздо Востраў (цяпер у Маларыцкім раёне) аб звальненні з царскай арміі ў чыне падпалкоўніка.

Паводле сцвярджэння шэрагу даследчыкаў, прашэнне аб адстаўцы Траўгута, як і іншых афіцэраў, тлумачылася не столькі суб'ектыўнымі, колькі аб'ектыўнымі прычынамі: нежаданнем прымаць удзел у задушэнні вызваленчага руху свайго народа, абуджэннем патрыятычных пачуццяў і жаданнем падтрымаць спрадвечнае імкненне суайчыннікаў да волі і незалежнасці. Менавіта пра гэта заявіў сам Траўгут на допыце ў турме, калі быў схоплены царскімі жандарамі: «Будучы перакананы, што незалежнасць з'яўляецца неабходнай умовай сапраўднага шчасця кожнага народа, я заўсёды марыў аб ёй для сваёй радзімы...»[1].

Калі паўстанне павінна было выбухнуць, да Траўгута ў маёнтак Востраў прыбыла дэпутацыя з просьбай прыняць камандаванне над атрадамі Кобрынскага, Пружанскага і Брэсцкага паветаў. Пасля нядоўгіх ваганняў і сумненняў Траўгут прыбыў у маёнтак Божы Дар, у якім гаспадарыў на той час таксама гарачы патрыёт Айчыны Ян Мітрашэўскі[2]. Менавіта тут Рамуальд прыняў прапанову і прысягнуў на барацьбу ў якасці кіраўніка паўстанцкага атрада.

Існуе легенда, што матэрыялы гэтай тайнай сустрэчы ў маёнтку Божы Дар разам з медалямі і ордэнамі былі схаваны ўдзельнікамі ў невялікім металічным куфэрку побач з домам. Гэты куфэрак у 1970-я гады пры земляных работах быў падняты трактарам на паверхню. Медалі трактарыст забраў, а дакументы выкінуў. Пра гэта сведчаць усе жыхары, якія пражываюць цяпер у в. Божы Дар. На жаль, за 25 гадоў пасля гэтага выпадку сляды унікальнай знаходкі відавочна страчаны назаўсёды.



*Божы Дар. Галоўны фасад сядзібнага дома ў даваенны перыяд*[4].







Паўстанне было жорстка задушана, а пятага жніўня 1864 г. у Варшаве паміж 8 і 9 гадзінамі раніцы Рамуальд Траўгут і разам з ім яшчэ 4 патрыёты былі пакараны смерцю.

Ідучы на эшафот, Траўгут з гонарам нёс у руках невялікае ўкрыжаванне Хрыста, якое за хвіліну да смерці



*Божы Дар. Фрагмент парку[5].*

перадаў родным. Пазней гэта сакральная рэліквія праз унука трапіла ў Варшаўскі дзяржаўны музей, дзе цяпер захоўваецца ў мемарыяльным пакоі 1863 г.

Апошні ліст, які напісаў Траўгут сваёй жонцы Антаніне Касцюшка і дзецям, знаходзіўся ў сямейным архіве ўнука Баляслава, але пад час пажару быў знішчаны. На тым лісце мелася прыпіска ксяндза, які спавядаў Рамуальда перад пакараннем. Ён пазначыў, што Траўгут, перадаўшы благаславенне жонцы і дзецям, «з хрысціянскай адвагай аддаўся Волі Божай. Ніколі не бачылі людзі, з якім незямным спакоем ён ішоў да Брамы Гасподняй»[3].

Маёнтак Мітрашэўскіх Божы Дар пасля задушэння паўстання царскія ўлады канфіскавалі і распрадалі.

Да 1939 г. у маёнтку яшчэ існаваў сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы, сістэма каналаў, сажалак і пейзажны парк.

Парк быў закладзены, верагодна, у 1-й палове XIX ст. У плане меў форму квадрата, сфарміраваны на параўнальна нізкай і роўнай мясцовасці. Па перыферыі парку цягнуліся ліпавая, грабавая і таполевая алеі.

Кампазіцыйным цэнтрам парку быў сядзібны дом, пабудаваны таксама ў пачатку XIX ст. з дрэва, на невялікім




*Божы Дар. Схема парку[6].*

узвышшы. Будынак сядзібнага дома аднапавярховы, з ганкам, высокім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай.

Ад сядзібнага дома і партэра адкрываюцца віды на далёкія перспектывы ў паўночна-заходнім і паўднёва-ўсходнім накірунках.

Парк меў арыгінальную сістэму каналаў, якая выконвала дрэнажную ролю. Лішак вады адводзіўся па перпендыкулярных каналах у перыферыйны, затым у каскад сажалак. У цяперашні час водная рэгуляцыя поўнасцю парушана.

Тэрыторыя парку часткова забудавана прыватнымі дамамі. Захавалася толькі ліпавая алея. Мемарыяльны палац у 1951 г. разабраны на патрэбы МТС.

Сядзіба Божы Дар мае мемарыяльнае значэнне, патрабуе ўзяцця пад ахову дзяржавы і ўстанаўлення тут памятнага знака.

---

1 *Герои 1863 г. За нашу и вашу свободу. М., 1964. С. 351.*
2 *Słownik geograficzny. T. 15. Cz.1. Warszawa, 1900. S. 225.*
3,4 *Jarzębowski J. Traugutt. London, 1970. S. 27.*
5 *Фота аўтара. 2000 г.*
6 *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Кобрынскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Бяроза
# Bereza
# Берёза

Колішні маёнтак. Размяшчаўся паміж вёскамі Бяроза і Стрыі. Вёска Бяроза ўпершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1563 г.[1] Сядзібна-паркавы ансамбль складаўся з панскага дома, парку, шэрагу гаспадарчых будынкаў, сажалак і каналаў.

Сядзібны дом быў цагляны, аднапавярховы, вылучаны па цэнтры галоўнага фасада традыцыйным порцікам. У пасляваенны час на месцы ансамбля размяшчалася жывёлагадоўчая ферма, а сядзібны дом быў прыстасаваны пад гаспадарчыя патрэбы і жыллё, паступова разбураўся і ў сярэдзіне 1990-х гадоў быў поўнасцю знішчаны разам з гаспадарчымі пабудовамі. Засталіся падмуркі сядзібы, рэшткі пейзажнага парку і ўязная алея.



*Бяроза. Фрагмент уязной дарогі[2].*









У цэнтры парку была сажалка, якая на сённяшні дзень значна абмялела і зарасла хмызняком.

Асноўны дрэвастой невялікіх рэштаў парку і ўязной алеі складаюць лісцевыя пароды дрэў і вялікая колькасць дэкаратыўных кустоў.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

[1] Ревизия Кобринской экономии... С. 35.
[2] Фота аўтара. 2000 г.

# Вострава
# Ostrowo
# Острово

Былая сядзіба роду Навамейскіх[1]. Размешчана побач з в. Вострава. Узнікла ў XVIII ст. У яе ўваходзілі жылы дом, шэраг гаспадарчых пабудоў, пейзажны парк і пладовы сад. Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, з традыцыйным невялікім ганкам у цэнтры галоўнага фасада. У пачатку XX ст. маёнтак быў распрададзены. Новыя гаспадары ўзвялі ў 1920-я гады на месцы старога дома новы цагляны будынак. Пасля 2-й сусветнай вайны ў гэтым будынку размяшчаліся сярэдняя школа і сельскі клуб. Пасля перасялення школы і клуба ў новыя памяшканні будынак і мураваныя гаспадарчыя пабудовы сталі безгаспадарнымі, доўгі час не выкарыстоўваюцца, паступова разбураюцца.



Вострава. Будынак колішняй сядзібы[2].




Вострава. Схема размяшчэння сядзібы.

Засталіся невялікія рэшткі пейзажнага парку, закладзенага яшчэ ў пачатку XIX ст. Уязная алея была абсаджана канадскай таполяй (часткова выразана), асноўны дрэвастой парку складаюць клёны, каштаны, ліпы, вязы старога ўзросту, размешчаныя купамі, а пераважна — адзінкавымі дрэвамі.

Рэшткі парку і мураваныя будынкі сядзібы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Słownik geograficzny. 1902. T. 15. S. 421.
[2] Фота і план аўтара. 2000 г.

# Гарадзец
# Horodec
# Городец

Колішні палацава-паркавы комплекс. Мястэчка Гарадзец, паводле працы польскага даследчыка Марэка Газдава («Terytorjum Dawnej Ziemi Brzeskiej»), упамінаецца ў летапісах з 1287 г.[1] Належала да Кобрынскай эканоміі, размяшчалася над Каралеўскім каналам (пасля 1846 г. канал называецца Дняпроўска-Бугскі).

Каля 1465 г. кобрынскімі князямі тут была пабудавана Ільінская царква. Каталіцкая парафія ўзнікла ў Гарадцы разам з узвядзеннем касцёла праз фундацыю караля Уладзіслава IV.

У 1563 г. у Гарадцы была праведзена каралеўская рэвізія, паводле якой упершыню з'явіліся запісы пра назвы вуліц Гарадца (Кобрынская, Прышахоцкая, Пінская, Грушаўская, Ілінская, Базарная і інш.).

У 1586 г. Гарадзец перайшоў па спадчыне каралеве Ганне Ягелончык, дачцэ каралевы Боны і Жыгімонта I Старога. Ганна, як і яе маці, была актыўнай і мэтанакіраванай у вырашэнні гаспадарчых і палітычных спраў, мела рэфарматарскі дух. Каб стымуляваць развіццё рамяства, гандлю і ў цэлым усіх гаспадарак, новая каралева 5 студзеня 1589 г. асабіста ўручыла Кобрыну і Гарадцу прывілей на права самакіравання (Магдэбургскае права). Але Гарадцу не было дадзена права мець уласны магістрат як адміністрацыйны орган улады.

У 1784 г. у Гарадцы затрымаўся праездам цераз Шарашова, Шчарчова і Кобрын на Гродзенскі сейм апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Кароль быў вельмі зацікаўлены каналам, выказаў жаданне асабіста агледзець яго і застаўся задаволены яго станам. Канал даваў магчымасць мясцоваму люду перапраўляць свае тавары аж да Гданьска, а таксама пашыраў іх надзелы за кошт асушанай зямлі. Калі кароль плыў на велізарнай лодцы, накрытай балдахінам, на ўсім шляху караля віталі тысячы мясцовых жыхароў. Вядома, што будаўніцтва







*Гарадзец. Палац. З малюнка Ю.Крашэўскага сярэдзіны XIX ст.*[3]

каралеўскага канала было зацверджана рашэннем сейма ў 1635 г. і рэалізавана маршалкам Юрыем Асалінскім. У гонар канала, які пасля наведвання манархам Рэчы Паспалітай атрымаў назву Каралеўскі, у 1786 г. быў выбіты медаль.

Палацава-паркавы ансамбль у Гарадцы ўзнік пры Ордах, якія сталі ўладальнікамі сядзібы ў 1808 г.[2] Паводле малюнка Юзафа Крашэўскага, палац складаўся з рознавялікіх аб'ёмаў, меў гладкую тынкоўку, вялікія вокны, высокі падмурак. Перад парадным уваходам існавала вялікая круглая клумба.

Найбольш верагодна, што палац быў зруйнаваны яшчэ ў 1-ю сусветную вайну. Пра існаванне ў Гарадцы некалі шыкоўнага палацава-паркавага ансамбля нагадваюць адзінкавыя старыя дрэвы. Ён належыць да ліку страчанай гістарычнай спадчыны.

---

[1] *Zdański K. Przyczyńki... S. 66.*
[2] *Тамсама. С.67.*
3 *Popek L. Polesie ocalić od zapomnienia... S. 116.*

# Грушава
# Hruszowa
# Грушево

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль, сядзіба знакамітай пісьменніцы Марыі Радзевічуўны (Радзевіч).

Маёнтак вядомы паводле гістарычных дакументаў з XV ст. (ліст вялікага князя ВКЛ Вітаўта ад 14 лютага 1404 г.[1]). Спачатку м. Грушава належала князям Кобрынскім.

У 1454 г. у Грушаўскім маёнтку гаспадарыў князь Сямён Раманавіч. З 1563 г. упамінаецца праваслаўная царква ў Грушаве.

Апошняя кобрынская князёўна выйшла замуж і далучыла Грушаўскі маёнтак да спадчыны Пацаў. Пазней ён быў зноў уключаны ў склад каралеўскіх зямель. Пасля задушэння паўстання 1794 г. Кацярына II падаравала Грушаўскі маёнтак у складзе Кобрынскага ключа А.Сувораву. У 1812 г. Грушава набывае дзед Марыі Радзевічуўны Антоній Радзевіч. Род Радзевічаў-Чартванаў вядомы з XV ст. і паходзіў з Ашмянскага павета. На Піншчыну ў 1613 г. перасяліўся дзед прадзеда Марыі Севярын Радзевіч. З гэтай лініі ў Грушаве стаў гаспадарыць Антоній, харунжы кобрынскі, які заклаў там вялікі двор. На сцяне новага палаца была ўмуравана дошка з надпісам: «Божа благаславі жывучых; дом гэты збудаваны Антоніем і Элеанорай з Гелгудаў Радзевічаў у юбілейным 1825 г.». Антоній і Элеанора мелі чацвёра дзяцей: Фёдара, які застаўся бяздзетным, Марыяну — графіню Красіцкую, Ганну Чарнецкую і Генрыха — бацьку Марыі Радзевіч, жанатага з Амеліяй Кужанецкай, дачкой Юзафа, харунжага пінскага,



*Грушава. Галоўны фасад палаца да 1939 г.*[4]

і Эміліі Орды, дачкі маршалка кобрынскага. Спачатку па спадчыне Грушавам валодаў Фёдар, пасля яго Генрых і, нарэшце, да 1939 г. гаспадыняй маёнтка была Марыя Радзевіч. Нарадзілася будучая пісьменніца 2 лютага 1864 г. у м. Пінюга Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні.

Бацькі Марыі, Генрых і Амелія, за дапамогу паўстанцам у час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г., былі асуджаны царскімі ўладамі на пасяленне ў Сібір. Маці была цяжарная, таму атрымала дазвол застацца на радзіме, а пасля родаў накіравалася да мужа ў Сібір. Маёнтак быў канфіскаваны, і дзеці выхоўваліся ў радні. Марыя спачатку жыла ў дзеда і бабулі Кужанецкіх у маёнтку Замошша на Піншчыне (цяпер Іванаўскі раён), а пасля смерці дзядулі выхоўвалася ў маёнтку Каранёва пад Пінскам, які належаў Караліне Скірмунт.

У 1871 г. пасля амністыі бацькі Марыі вярнуліся з



*Грушава. Паркавы фасад палаца да 1939 г.*[5]











Сібіры, пераехалі ў Варшаву, жылі вельмі бедна, толькі пасля атрымання па спадчыне ад бяздзетнага Фёдара маёнтка Грушава пачалі выходзіць з даўгоў. Пасля смерці бацькі ў 1881 г. Марыя Радзевіч паступова ўваходзіць ва ўладанне маёнткам Грушава і пачынае разлічвацца са шматлікімі даўгамі, якія былі пакінуты бацькам і яго братам Фёдарам.

Грушаўскі палац складаўся з трох мураваных будынкаў, узведзеных у адным стылі. На адной лініі з уязной брамай стаяў двухпавярховы жылы дом з порцікам на чатырох масіўных калонах, размешчаных на аднолькавай адлегласці адна ад адной. Над калонамі



Грушава. Сучасны выгляд палаца[6].

ўзвышаўся трохвугольны франтон. З тыльнага боку дома крыху пазней была дабудавана аранжарэя.

На левым баку ад уязной брамы перпендыкулярна асноўнаму будынку палаца стаяў доўгі двухпавярховы будынак лямуса, аздоблены дзесяццю калонамі і галерэяй.

На правым баку палаца быў узведзены высокі свіран, які меў на тарцовым баку порцік на 4 квадратных масіўных калонах і галерэю.

Усе будынкі накрываў гладкі дах, ствараючы адну кампазіцыйную цэльнасць. Унутранае размяшчэнне пакояў мела анфіладны тып. Па баках сяней ад цэнтральнага ўвахода размяшчаліся 3 жылыя пакоі, напрасткі ад сяней можна было трапіць у вялікі салон. Марыя Радзевіч, калі была гаспадыняю палаца, любіла розныя сентэнцыі, у прыватнасці вывесіла для наведвальнікаў і гасцей «дэкалог» ( 10 запаветаў). Сэнс іх заключаўся ў тым, каб госці захоўвалі цішыню і спакой, былі занятыя справай на карысць сабе, не чынілі бязладдзя, не парушалі ўста-



Грушава. Фрагмент парку[7].




Грушава. Схема парку.

ляваны парадак, не гутарылі пра злое, пустое і глупства, пра хваробы, крымінал, калецтвы, сум, смерць, злосна не жартавалі, не праклiналі, захоўвалі сяброўства, ветлівасць, павагу, не выказвалі трывогі, каб спадзяваліся больш на міласць Божую і благаславенне Усявышняга, трымалі душу і сэрца шчырымі, цёплымі і адчыненымі адзін да аднаго. Заканчваліся запаветы біблейскім словам «Амін!», што літаральна азначае «Ісціна!»[2].

Палац меў шэраг розных пакояў (сталовую, рабочыя кабінеты, спальні, бібліятэку і інш.). Усе пакоі вылучаліся прастатой аздобы. Сцены і столі былі гладка атын-



Грушава. Дуб «Дзевайціс»[8].










*Грушава. Мемарыяльны знак ва ўшанаванне Марыі Радзевічуўны*[9].

каваныя, пафарбаваныя белай фарбай, у кожным пакоі размяшчаліся печы, аздобленыя каляровай кафляй.

Продкі Радзевічаў наведвалі свой маёнтак рэдка і жылі ў Грушаве мала, багатай мэблі не набылі, ды і сама пісьменніца да гэтага ставілася без асаблівай увагі. Самая каштоўная мэбля і мастацкія рэчы меліся толькі ў салоне, дзе віселі партрэты прадстаўнікоў гэтага роду. У сталовай меўся таксама камплект мэблі, выраблены з дубу са шматлікімі арыгінальнымі надпісамі.

Адзін з гасціных пакояў меў своеасаблівую мэблю, выкананую грушаўскімі майстрамі ў шведскім стылі па просьбе самой Марыі Радзевіч пасля прыезду яе са Скандынавіі. Дарэчы, на шафе-ложку пісьменніца зрабіла надпіс: «Выробленаму раней, служыць ноч і дзень!»[3].

У бібліятэцы захоўвалася некалькі соцень тамоў кнігазбору пісьменніцы, яе асабісты архіў.

Палац абкружаў парк і стары сад, у якім раслі адзіночна і купамі ліпы, клёны, таполі і іншыя дрэвы. Каля аранжарэі былі закладзены ружоўнік і кветнік, побач стаяла пасека. На двары каля палаца ўзвышаўся велізарны дуб, які пісьменніца называла «Дзевайціс» па назве сваёй аповесці, якая прынесла ёй вядомасць і поспех. Пад дубам стаяў стол, у цэнтры саду – альтанка, непадалёку размяшчалася невялікая сажалка, пасярэдзіне меўся астравок (выспа), дзе стаяла выразаная з дрэва постаць апостала Пятра.

На сённяшні дзень кампазіцыя парку, саду і архітэктура палаца значна парушаны. Палац перабудаваны, ён стаў аднапавярховым, прыстасаваным пад магазін, медпункт, рабочую сталовую. Побач быў узведзены будынак МТС, перададзены пазней пад школу. Парк займае плошчу некалькі гектараў, пачалося яго аднаўленне. У 1994 г. каля дуба «Дзевайціс» устаноўлены памятны знак у гонар выдатнай пісьменніцы Марыі Радзевічуўны.

Палацава-паркавы ансамбль у в. Грушава з'яўляецца мемарыяльным, павінен быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 67.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 56.*
[3,4,5] *Тамсама. С. 57.*
[6,7,8,9] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Жухаўцы
# Żuchowce
# Жуховцы

Старадаўняя сядзіба. Размешчана на ўсход ад в.Жухаўцы каля шашы Брэст—Мінск.

Захаваўся сядзібны дом, пабудаваны ў канцы XVIII ст. з дрэва. Будынак у плане прамавугольны на высокім падмурку, аднапавярховы, накрыты чатырохсхільным дахам (спачатку гонтавым, пасля жалезным). Дом заселены мясцовымі жыхарамі.



*Жухаўцы. Галоўны фасад сядзібнага дома*[1].

Парк невялікі. Яго рэшткі складаюць каля 2 га. Побач з сядзібным домам — сажалка круглай формы.



*Жухаўцы. Фрагмент парку*[2].

У парку растуць ліпы, каштаны, ясені, грабы і іншыя лісцевыя пароды.

Сядзібны дом і рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*





13 Зак. 1023





# Запруды
# Zaprudy
# Запруды

Колішняя сядзіба роду Маераў. Узнікла на тэрыторыі сярэдневяковага замчышча. Да цяперашняга часу тут захаваліся рэшткі абарончых умацаванняў (валы і равы), якія ў плане нагадваюць упісаныя адзін у адзін прамавугольнікі.



*Запруды. Месца размяшчэння сядзібнага дома. 1962 г.*[1]

Да 2-й сусветнай вайны сядзіба належала Маерам. Дом не захаваўся. Ён быў разабраны ў пасляваенны час. На месцы ансамбля размясцілася базавая школа. Будынак школы ўзведзены на месцы існавання сядзібы. Дом быў драўляны, аднапавярховы, накрыты гладкім двухсхільным дахам. З боку цэнтральнага пад'езда меўся невялікі ганак.




*Запруды. Схема парку.*

Захавалася частка парку ў паўночна-заходняй частцы сядзібы. У парку растуць клёны, ліпы, дубы, шмат ляшчыны, акацый, побач сочыцца крыніца, непадалёку існуе штучная сажалка.

Парк мае перспектыву і зараз выкарыстоўваецца ў выхаваўчых мэтах, для навучальных экскурсій школьнікаў і іншых масавых мерапрыемстваў.



*Запруды. Фрагмент парку*[2].

Рэшткі замчышча, парку і крыніца ствараюць адзіны прыродна-гістарычны комплекс, які павінен быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Архіў Запрудскай сярэдняй школы.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ізабелін
# Izabelin
# Изабелин

Паводле пісьмовых крыніц, в. Ізабелін упершыню ўпамінаецца ў 1563 г.[1] Сядзіба размяшчалася побач з в.Корчыцы. Апошнім гаспадаром маёнтка да 2-й сусветнай вайны быў род Вяркоўскіх[2]. Верагодна, маёнтак атрымаў назву ад імя панскай дачкі Ізабелы, якая атрымала яго ў спадчыну.



*Ізабелін. Фрагмент парку*[3].

З элементаў сядзібна-паркавага ансамбля часткова захаваўся парк, сістэма равоў.

Сядзібны дом быў мураваны, аднапавярховы, з высокім гладкім дахам. Дом разабраны яшчэ да 2-й сусветнай вайны разам з сыраварняй, бровaрам, пякарняй.

Захаваліся рэшткі ліпавай і грабавай алей, рэшткі альтанкі. Сажалка і равы высахлі. Плошча парку з унутранымі пляцоўкамі дасягае 3 га.







*Ізабелін. Схема парку.*

Побач з колішняй сядзібай месцяцца вайсковыя могілкі часоў 1-й сусветнай вайны.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 60.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. В. 2. Спр. 563. Арк. 1—2.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Імянін
# Imienin
# Именин

Колішні маёнтак. Размяшчаецца за 0,5 км на паўночны захад ад в. Імянін. У пісьмовых крыніцах в. Імянін упершыню ўпамінаецца ў 1563 г.[1]



*Імянін. Будынак колішняй кашары[3].*

Сядзіба з'яўлялася радавым гняздом Навумінскіх[2].

Парк закладзены ў 2-й палове XIX ст. Цэнтрам кампазіцыі быў сядзібны дом, пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, па цэнтры мансардны, вылучаны невялікім ганкам на драўляных слупах.

Парк не вылучаўся кампазіцыйнай дасканаласцю.У пасляваенны час у ім размяшчалася воінская часць, асноўны дрэвастой знішчаны. Захаваўся колішні мураваны будынак кашары. Ён патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczńki... S. 68.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 561. Арк. 1—6; Ф. 79. Воп. 3. Спр. 27—29. Арк. 1—4.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Камень
# Kamień
# Камень

Колішняя сядзіба роду Сулкоўскіх. У пісьмовых крыніцах упамінаецца пад назвай Камень Каралеўскі ў 1563 г.[1] Захавалася частка аб'ектаў сядзібы (жылы дом,



*Камень. Галоўны фасад сядзібнага дома[2].*

гаспадарчыя пабудовы, парк). На месцы ансамбля месціцца базавая школа.

Дом драўляны, аднапавярховы, з нізкім дахам. Будынак практычна не перабудоўваўся. У цэлым фасад захаваў аўтэнтычнае аблічча, знаходзіцца ў добрым стане. Пабудаваны ў другой палове XIX ст. Пасля 2-й сусветнай вайны перададзены гаспадарамі пад класы для



*Камень. Фрагмент парку[3].*










Камень. Гістарычны камень-валун[4].

навучання мясцовых дзяцей. Унутры перапланаваны пад патрэбы школы.

Пейзажны парк, закладзены разам з будаўніцтвам дома, захаваўся часткова. Асноўную тэрыторыю сядзібы займаў пладовы сад. Усю сядзібу абкружаў абвадны канал, які ў паўночна-заходнім баку злучаўся з невялікай сажалкай выцягнутай формы. Былыя будынкі аборы, стайні, сыраварні і інш. знішчаны. Часткова захавалася ўязная алея, абсаджаная ліпай, бярозай.

За 0,7 км на захад ад вёскі Камень каля дарогі на Кобрын існуе курган з гістарычным каменем-валуном. Надпіс на ім сведчыць пра пахаванне ў 1637 г. шляхціца Вадзілы Нічыпаровіча.

Рэшткі Каменькаралеўскай сядзібы і курган з памятным знакам патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 299.*
[2,3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ківаціčы
## Kiwatycze
## Киватичи

Колішняя сядзіба роду Пацаў, Межаеўскіх, Ласкоўскіх і Шадурскіх. Вёска Ківаціčы вядома паводле пісьмовых крыніц з XVI ст. Як сцвярджае даследчык Ксаверы Зданьскі, першым вядомым гаспадаром сядзібы быў Юрый, сын Паца Даўкшэвіча. Важнай крыніцай для гісторыі Ківаціч з'яўляецца ліст караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта I Старога ад 30 чэрвеня 1532 г. да Мікалая Юр'евіча Паца, гаспадара маёнтка Ківаціčы. Каралеўскі ліст выкліканы скаргай ляснічага Пацея Тышкевіча, яго маці і братоў на Мікалая Паца, які, нягледзячы на прымірэнчы ліст яго бацькі, разам з мясцовымі сялянамі паніш
чыў межы і зрабіў вялікую шкоду Тышкевічу. З гэтага ліста вядома, што паміж Пацамі і Тышкевічамі, а таксама іх продкамі і нашчадкамі вяліся спрадвечныя спрэчкі аб межах зямельных надзелаў.

У час адной з такіх спрэчак Юрый Пац, бацька Мікалая Паца, забіў Тышку Хадкевіча Каранеўскага, пасля чаго ад Пацаў да Тышкевічаў адышла спрэчная зямля ва ўрочышчы Глыбокая Даліна. Вядома, што Юрый Пац памёр у 1505 г., таму апісаная вышэй трагедыя адбылася ў пачатку панавання караля Аляксандра Ягелончыка.

Пры ўрачыстым каралеўскім аглядзе войска ВКЛ у 1528 г. гаспадар Ківаціч Мікалай Пац заслужыў пахвалу тым, што з вёсак маёнтка выставіў у войска 97 вершнікаў.



*Ківаціčы. Старадаўняя званіца касцёла[2].*

У 1610 г. праз фундатараў Мікалая і Соф'ю Пацаў у Ківаціčах быў узведзены касцёл Святых Пятра і Паўла арыгінальнай архітэктуры. У пасляваенны час касцёл быў спалены, захаваліся толькі яго падмуркі, што размяшчаюцца на старадаўніх могілках. Ад касцёла засталася званіца, якая ў 1993 г. была адноўлена мясцовымі майстрамі і зараз выкарыстоўваецца парафіянамі ў якасці каталіцкай капліцы.

Ад Пацаў маёнтак па спадчыне перайшоў да Межаеўскіх, потым яго набылі Ласкоўскія. Апошнім гаспадаром Ківаціч перад 1-й сусветнай вайной быў Вінцэнт Шадурскі[1].

Пасля вайны ўсе будынкі маёнтка былі разабраны, засталіся невялікія рэшткі пейзажнага парку, што абкружаў сядзібу. Кампазіцыя парку практычна не праглядаецца, сажалка зарасла, абмялела.

Адноўленая званіца, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 73.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Кляшчы
## Kleszcze
## Клещи

Радавое гняздо Шадурскіх[1]. Размяшчалася на ўсход ад в. Кляшчы. Маёнтак згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1563 г. На той час належаў да Кобрынскай эканоміі, меў 11 валок ворнай зямлі[2].

Пры Шадурскіх тут існаваў палацава-паркавы ансамбль. Палац быў пабудаваны, верагодна, у 2-й палове XVIII ст. з дрэва, аднапавярховы, з невысокім ганкам на 4 драўляных слупах. У савецкі перыяд у ім месцілася базавая школа, пасля высялення якой палац быў разбураны.

Ад ансамбля засталіся невялікія рэшткі пейзажнага парку, студня, сажалка.

Парк занядбаны, зарос. Кампазіцыя прасочваецца слаба. Парк у плане квадратны. Раней існавала некалькі алей, абсаджаных вербамі, ляшчынай, ліпамі, дубамі.







*Кляшчы. Фрагмент парку*[3].

Плошча парку складае каля 3 га. Сажалка мела выспу з альтанкай для адпачынку.

У парку растуць клёны, ліпы, грабы, ясені, таполі, вербы і іншыя лісцевыя дрэвы. Каля в. Ластаўкі маюцца фамільныя могілкі роду Шадурскіх, якія занядбаны і разрабаваны.

Парк пачынае забудоўвацца дачнымі дамамі, што небяспечна для яго існавання. Рэшткі парку трабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 564. Арк. 1—2.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 74.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ластаўкі
# Łastówki
# Ластовки

Старадаўняя сядзіба роду Шадурскіх. Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1563 г.[1] У перыяд суцэльнай меліярацыі моцна пацярпела: сядзібны дом знішчаны, сямейныя могілкі зруйнаваны і апаганены вандаламі. Засталіся невялікія рэшткі парку, які быў закладзены разам з будаўніцтвам палаца ў сярэдзіне XIX ст.




*Ластаўкі. Схема размяшчэння сядзібы.*



*Ластаўкі. Від на сажалку*[2].

Плошча парку дасягае 2 га, растуць вербы, клёны, ліпы, грабы, ясені і інш.

Захавалася сажалка. Рэшткі парку і могілкі патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 90.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ліцвінава
# Litwinowo
# Литвиново

Колішняя сядзіба роду Шадурскіх. Апошнім гаспадаром маёнтка перад 2-й сусветнай вайной з'яўляўся Юзаф Шадурскі. Палац быў пабудаваны з дрэва ў канцы XIX ст., меў 2 паверхі, другі паверх мансардны.

На тэрыторыі ансамбля размешчана племстанцыя. Колішні палац поўнасцю зруйнаваны. Захавалася некалькі гаспадарчых пабудоў, а таксама рэшткі парку.



*Ліцвінава. Фрагмент парку*[1].

Парк быў закладзены разам з будаўніцтвам палаца. Плошча яго складае зараз каля 4,5 га. Парк пейзажны, вельмі занядбаны, у ім з цяжкасцю праглядаюцца элементы кампазіцыі: уязная дарога, партэр, водная сістэма, частка прагулачнага маршруту. У добрым стане захавалася невялікая сажалка круглай формы. Парк мае якасны дрэвастой, у яго складзе сустракаюцца адзінкавыя экзоты.





13а Зак. 1023








*Ліцвінава. Схема парку.*

Да парку прымыкаюць сад і невялікі двор. На месцы сядзібы пачалася забудова індывідуальнымі дамамі.

Рэшткі парку павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ліцвінкі
# Litwinki
# Литвинки

Колішні маёнтак роду Шадурскіх. Апошнім гаспадаром двара быў Станіслаў Шадурскі. Сядзіба вядома з 1563 г.[1]

Сядзібны дом быў невялікі, аднапавярховы, мураваны, у плане прамавугольны. У пасляваенны час быў разабраны на патрэбы калгаса. Сядзіба мела шмат гаспадарчых



*Ліцвінкі. Галоўны фасад сядзібнага дома. Каля 1927 г.[2]*

пабудоў. Да сённяшняга часу захаваліся толькі свіран і склад, а ад дома засталіся рэшткі падмурка.

Парк, як і ў Ліцвінаве, закладзены ў другой палове XIX ст. Мае плошчу каля 5 га, элементы воднай сістэмы.

У ім растуць адзінкавыя дубы, ясені, таполі, бэз, акацыі і інш. У парку размяшчалася жывёлагадоўчая ферма. У



*Ліцвінкі. Галоўны фасад сядзібнага дома. 1937 г.[3]*



*Ліцвінкі. Фрагмент парку з гаспадарчай пабудовай[4].*

сучасны перыяд парк не выкарыстоўваецца, знаходзіцца ў занядбаным стане.

Разам з гаспадарчай пабудовай ён павінен быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 84.*
[2, 3] *Фамільны архіў Шадурскіх (Варшава).*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Магдалін
# Magdalin
# Магдалин

Старадаўняя сядзіба. Размяшчалася побач з в. Магдалін і фальваркамі Іванава, Брылёва, Ізабелін (пад Кобрынам), Бабіца. Сядзіба існавала да 2-й сусветнай вайны. У яе склад уваходзілі жылы дом, шэраг гаспадарчых пабудоў і пейзажны парк.

Сядзібны дом пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, мансардны, накрыты высокім гладкім дахам. У пасляваенны час разабраны на патрэбы мясцовага калгаса (разам з гаспадарчымі пабудовамі).

Засталіся невялікія рэшткі парку. У ім растуць дубы, ясені, клёны, грабы, дэкаратыўныя кусты. Сажалка абмялела, зарасла. Асноўная частка парку знішчана пры будаўніцтве дарогі вакол г. Кобрына.






*Магдалін. Фрагмент парку[1].*

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Малачэўшчына
# Mołoczewszczyzna
# Молочевщина

Старадаўняя сядзіба, якая належала роду Малачэўскіх. Размяшчалася паміж вёскамі Пескі і Перкі за 1,5 км ад адной і другой вёсак.

Уязная алея, што вяла да параднага ўвахода ў палац, была абсаджана бэзам. Палац драўляны, аднапавярховы, мансардны з ганкам на драўляных слупах, з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай. У канцы 2-й сусветнай вайны ён быў спалены партызанамі.

Унутры палац меў 12 пакояў.

Парк знаходзіцца ў параўнальна добрым стане, мае плошчу каля 4 га. Асновай кампазіцыі быў палац. На месцы яго існавання растуць высокая лістоўніца і ліпа 250-гадовага ўзросту, побач ляжыць велізарны закладны камень-валун.

Добра праглядаюцца абвадныя каналы, абсаджаныя грабам, клёнам, ясенем, ліпай.



*Малачэўшчына. Фрагмент парку[1].*



*Малачэўшчына. Від на сажалку[2].*




*Малачэўшчына. Схема парку.*

Нягледзячы на моцна парушаную кампазіцыю, парк захаваў асноўны дрэвастой.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*









# Мацы
# Macy
# Мацы

Старадаўняя сядзіба роду Дзедзічаў. Размяшчалася побач з в. Мацы. Да 2-й сусветнай вайны ў склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі сядзібны дом, пейзажны парк і шэраг гаспадарчых пабудоў. Сядзібны дом быў пабудаваны, верагодна, да 1-й сусветнай вайны з дрэва, меў мураваны склеп. У пасляваенны час разбураны, на яго месцы пабудаваны прыватны дом мясцовых жыхароў.



*Мацы. Фрагмент парку[1].*

Парк занядбаны, яго рэшткі займаюць каля 2,5 га, у цэнтры — вялікая сажалка.




*Мацы. Схема рэшткаў парку.*

Раней у парку існаваў каскад сажалак. Самая вялікая мела пасярэдзіне выспу, на якой размяшчалася альтанка для адпачынку. Да альтанкі вяла сцежка праз масток. У пасляваенны час пасля стварэння ў парку пляцоўкі для нарыхтоўкі торфу форма сажалак моцна змянілася.

Рэшткі парку з сажалкамі патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Мірніца (Мерніца)
# Mirnica
# Мирница

Колішняя сядзіба роду Богушаў. Упершыню ўпамінаецца ў 1563 г., калі вялікі князь ВКЛ падараваў 4 валокі зямлі каля в. Залессе мерніку кобрынскаму, чараваўчыцкаму, вяжэцкаму і гарадзецкаму Кліму Цімафеевічу[1]. Сядзіба існавала да 1-й сусветнай вайны, затым пры польскіх уладах была распрададзена. Цяпер на тэрыторыі ансамбля размяшчаюцца індывідуальныя дамы.



*Мірніца. Від на сажалку[2].*

Сядзібны дом быў пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. з дрэва, аднапавярховы, з высокім гонтавым дахам. Зруйнаваны ў гады 2-й сусветнай вайны.

Захавалася сажалка, адзінкавыя старыя дрэвы і студня.




*Мірніца. Схема размяшчэння сядзібы.*

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 100.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*




# Паляцічы
# Polatycze
# Полятичи

Колішняя сядзіба. У пісьмовых крыніцах Паляцічы ўпамінаюцца з 1563 г.[1] Захаваліся асобныя гаспадарчыя пабудовы, парк.



*Паляцічы. Фрагмент парку*[2].

Сядзібны дом аднапавярховы, мураваны, накрыты жалезам.




*Паляцічы. Схема рэшткаў парку.*

Кампазіцыя парку праглядаецца вельмі слаба. У парку растуць ліпы, елкі і іншыя дрэвы мясцовых парод.



*Паляцічы. Гаспадарчы двор*[3].

Равы і сажалка абмялелі. Захаваліся адзінкавыя экзэмпляры дубоў 300-гадовага ўзросту.

На тэрыторыі размешчана жывёлагадоўчая ферма.

Рэшткі сядзібна-паркавага ансамбля патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki ... S.96.*
[2, 3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Плянта
# Planta
# Плянта

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Паводле даследавання Р.Афтаназы, маёнтак належаў роду Петрашэўскіх, пазней перайшоў да генерала Зданьскага, герб «Корніч». Яшчэ да 1-й сусветнай вайны маёнтак падлягаў падзелу і распрадажы[1].



*Плянта. Паркавы фасад палаца. 1920 г.*[3]

З 1920-х гадоў і да 2-й сусветнай вайны ў палацы працавала сельскагаспадарчая школа для дзяўчат. Дырэктарам гэтай школы да 1939 г. была Смоляр.

Палац, у якім размяшчалася школа, уяўляў сабою аднапавярховы будынак, у плане прамавугольны, з шырокімі вокнамі. На архіўным здымку адлюстраваны паркавы фасад палаца. Па цэнтры фасада выступаў паўкруглы двух'ярусны рызаліт, накрыты стажковым дахам. Увесь палац накрываў чатырохсхільны высокі дах. Паводле ўспамінаў старажылаў, цэнтральны ўваход у палац быў акцэнтаваны невялікім ганкам на калонах.




*Плянта. Схема рэшткаў парку.*









Унутраная планіроўка палаца анфіладная. Меліся 2 круглыя залы для гасцей, адна на першым, другая — на другім мансардным паверхах.

Архітэктурны стыль палаца сведчыць, што ён пабудаваны ў XVIII ст.[2]

У 1939—1941 гг. у будынку палаца-школы пасяліліся рускія перасяленцы, а вышэйназваная дырэктар Смоляр выехала ў Польшчу. У пачатку вайны ў 1941 г. немцы спалілі палац.

З гаспадарчых пабудоў засталася стайня, якая выкарыстоўваецца мясцовымі жыхарамі пад жыллё.

У старадаўнім пейзажным парку пасля вайны размяшчалася МТС. Большая частка парку знішчана, засталіся адзінкавыя векавыя дрэвы і фрагменты алей.

Рэшткі парку маюць навуковую цікавасць і павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Grzegorczuk D. Dworki i palace... S. 90.*
[2,3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 120.*

# Рынкі
# Rynki
# Рынки

Сядзіба размяшчалася побач з в. Рынкі, якая ўпершыню ўпамінаецца ў 1563 г. як в. Рымкавічы (Рымкі)[1]. Сядзібны дом быў пабудаваны з дрэва, на высокім падмурку, у плане прамавугольны, з двухсхільным дахам, аднапавярховы з традыцыйным ганкам. У пасляваенны час знішчаны.

Кампазіцыя парку праглядаецца слаба, шмат старых дрэў высечана. Захаваліся дубовая і ліпавая алеі. Равы і сажалка абмялелі, зараслі хмызняком.

Улічваючы, што рэшткі парку выкарыстоўваюцца ў



Рынкі. Фрагмент парку[2].





Рынкі. Схема парку.

мэтах выхавання дзяцей, неабходна ўзяць яго на дзяржаўны ўлік і пад ахову.

---

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 129.*
[2] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Стрыгава
# Strygowo
# Стригово

Былая сядзіба роду Пузынаў. Паводле пісьмовых крыніц, упершыню ўпамінаецца ў 1563 г.[1] Да 2-й сусветнай вайны ў маёнтку размяшчаліся мураваныя будынкі палаца, стайні, склада, склепа. Двор існаваў за 1,5 км на ўсход ад в. Стрыгава.

У пасляваенны час усе пабудовы былі знішчаны і разабраны на цэглу. Захаваліся адзінкавыя дрэвы парку і сажалка. Каналы поўнасцю знішчаны. Сажалка круглай





Стрыгава. Схема сядзібы.



формы, зарасла чаротам і хмызняком. У цэнтры сажалкі знаходзіцца выспа.

Сажалка павінна быць узята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Ревизия Кобринской экономии... С. 100.*

# Сухаўчыцы
# Suchowczyce
# Суховчицы

Колішняя сядзіба роду Мікітавічаў. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1563 г.[1] Да 1939 г. у склад сядзібы ўваходзілі сядзібны дом, шэраг гаспадарчых пабудоў, парк, сад, сажалка.

Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, з невялікім ганкам на драўляных слупах.



*Сухаўчыцы. Фрагмент парку[2].*

У 1939—1941 гг. на месцы сядзібы размяшчаўся перасыльны пункт для арыштаваных.

У час 2-й сусветнай вайны сядзібны дом быў спалены. У савецкі час у сядзібе размяшчалася жывёлагадоўчая ферма. Цяпер парк безгаспадарны, занядбаны. Летам у ім размяшчаецца летні лагер буйной рагатай жывёлы.

У парку растуць акацыі, клёны, каштаны, ліпы, бэз, дубы і іншыя лісцевыя пароды. Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 105.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Тулічы
# Tułycze
# Туличи

Старадаўняя сядзіба роду Дзяконскіх, потым маёнтак па жаночай лініі перайшоў да роду Чэрняў. Размешчана за 2 км на ўсход ад в. Тэўлі.



*Тулічы. Уязная алея[2].*

Тулічы ўпершыню згадваюцца ў пісьмовых крыніцах у 1563 г. У Акце каралеўскай рэвізіі запісана, што ў 1563 г. маёнтак Тулічы меў 20 валок ворнай зямлі і 18 валок замкавага лесу[1].

Захаваліся рэшткі парку. Да 1-й сусветнай вайны тут існаваў сядзібны дом, парк, сажалкі, гаспадарчыя пабудовы, бровар.




*Тулічы. Схема рэштак парку.*

Палац пабудаваны пры Дзяконскіх яшчэ ў пачатку XIX ст. Гэта быў драўляны аднапавярховы будынак з ганкам па цэнтры галоўнага фасада, над якім узвышалася мансарда. У канцы 2-й сусветнай вайны палац быў спале-



*Тулічы. Фрагмент парку[3].*





ны партызанамі, а бровар разабраны на цэглу мясцовымі жыхарамі.

Пасля вайны парк быў закінуты, пацярпеў вялікую высечку. Нягледзячы на безгаспадарнасць, захаваліся дрэвастой, пладовы сад, сажалка, равы. Цэнтр парку заараны і заняты палеткамі мясцовага калгаса.

У плане парк мае форму прамавугольніка, абмежаванага з захаду і поўначы палеткамі мясцовага калгаса, з усходу – пладовым садам, з поўдня – дарогай. Парк мае 2 паляны, абсаджаныя ліпамі і грабамі.

У парку растуць дрэвы мясцовых парод: дуб, ясень, ліпа, таполя, клён, граб і інш. На месцы спаленага палаца разраслася плантацыя бэзу.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 112.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Шамятоўка
# Szemietówka
# Шеметовка

Былая сядзіба роду Шэметаў. Палац не захаваўся. Ён уяўляў сабой аднапавярховы мансардны драўляны будынак. Цэнтральны ўваход у палац быў акцэнтаваны невялікім ганкам на драўляных слупах. Палац быў узведзены Шэметамі ў 2-й палове XIX ст. У пасляваенны час у сядзібе размяшчалася кантора мясцовага калгаса.

Адначасова з будаўніцтвам палаца ў маёнтку быў



*Шамятоўка. Фрагмент парку[1].*

закладзены пейзажны парк, узведзена шэраг гаспадарчых аб'ектаў: свіран, лямус і інш. У сядзібна-паркавы ансамбль вяла ўязная алея з брамай. Па перыметры існавала прагулачная алея, быў пракладзены абвадны канал.

Плошча рэштак парку сёння складае каля 3 га. Кампазіцыя парку моцна парушана, стан яго вельмі занядбаны. У ім растуць дубы, ліпы, клёны, ясені, таполі, акацыі, вярба, алешнік і інш. Многія дрэвы дасягнулі старога ўзросту.

У 1998 г. парку нанесена вялікая шкода, у ім расчышчана пляцоўка пад будаўніцтва жылога прыватнага сектара. Шэраг векавых дрэў знішчаны. Зараз руйнаванне гістарычнага парку спынена. Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Лунінецкага раёна












# Дварэц
# Dworzec
# Дворец

Колішні сядзібна-паркавы комплекс, радавое гняздо аднаго з нашчадкаў заможнага роду Шчытоў — Казіміра Шчыта.

У гістарычнай літаратуры паселішча Дварэц упамінаецца ў 1588 г. як сяло Навагрудскага павета. Спачатку належала Яну Кішку, потым Юрыю Самсону Падбярэзскаму, браслаўскаму маршалку, а ў пачатку XVIII ст. перайшло да прадстаўніка заможнага роду Шчытоў — Крыштофа Шчыта.



*Дварэц. Фрагмент парку*[2].

Пасля яго смерці велізарны маёнтак быў падзелены паміж трыма сынамі. Кажан-Гарадок з шэрагам фальваркаў атрымаў малодшы сын Крыштофа Ісцыслаў, да старэйшага Юзафа адышоў маёнтак Новы Двор.

Сярэдняму сыну, бяздзетнаму Казіміру (памёр у 1924 г.), дастаўся маёнтак Дварэц з фальваркамі Вулька і Трэсен.

У 2-й палове XIX ст. Казімір пабудаваў у Дварцы палац і вакол яго заклаў парк. Вонкавы выгляд палаца дасканала невядомы, фотаздымак яго не захаваўся. Вядома, што гэта быў невялікі драўляны адпапавярховы будынак з ганкам ад параднага ўвахода, накрыты гладкім гонтавым дахам.




*Дварэц. Схема размяшчэння сядзібы*[3].



*Дварэц. Месца, дзе стаяў палац*[4].

Палац меў 7 пакояў, у якіх да 1914 г. знаходзіліся мастацкія вырабы і іншыя старадаўнія рэчы. Гэтыя сямейныя рэліквіі былі перададзены Казіміру з Кажан-Гарадоцкага маёнтка пры яго падзеле. У прыватнасці, у салоне стаяў стары музычны інструмент з дзвюма клавіятурамі і арфа пасярэдзіне пакоя.

У палацава-паркавы ансамбль уваходзіла шэраг гаспадарчых збудаванняў, а таксама фамільная мураваная капліца, якая стаяла побач з палацам. Самай значнай гістарычнай і мастацкай каштоўнасцю, што ўпрыгожвалі капліцу ўнутры, быў абразок Божай Маці з маленькім Ісусам. Абразок змяшчаўся каля алтара і зачыняўся разьбяным трыпціхам. Тыльны бок гэтай сакральнай святыні быў зашыты колішнімі штандарамі паўстанцаў. Гэтая святыня знаходзілася і захоўвалася родам Шчытоў некалькі стагоддзяў і ніколі не вывозілася і не пакідала Кажан-Гарадоцкі маёнтак[1].

Перад уваходам у палац раслі 2 велізарныя старыя клёны. У парку мелася шэраг прагулачных сцежак, сістэма каналаў і сажалка.

Палац, капліца і парк былі разбураны ў пасляваенны час. Адзіным памятным аб'ектам, што нагадвае пра існаванне ў Дварцы сядзібна-палацавага ансамбля, з'яўляюцца могілкі. Іх заклаў Казімір Шчыт па-за паркам у канцы XIX ст.

Дварэцкая сядзіба належыць да ліку страчанай гістарычнай спадчыны.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 63.*

[2, 4] *Фота аўтара. 2000 г.*

[3] *Схемы і планы паркаў і сядзіб Лунінецкага раёна падрыхтаваны аўтарам. Камп'ютэрную апрацоўку выканала архітэктар А.Лукша.*









# Кажан-Гарадок
# Kożangródek
# Кожан-Городок

Старадаўні палацава-паркавы комплекс. У гістарычнай літаратуры ўпамінаецца з 1493 г. як сяло маёнтка Лахва, якое мела назву Гарадзец. Першым вядомым гаспадаром Кажан-Гарадка быў Пётр Янавіч Мантыгірдавіч.



*Кажан-Гарадок. Уязная брама да палаца. Фота 1920 г.*[3]

Пра тое, што мястэчка з'яўляецца старажытным, сведчаць існуючыя побач курганы. З XIX ст. выказваюцца меркаванні, што адзін з самых высокіх курганоў пад назвай Відзіуш-Гара быццам з'яўляецца месцам пахавання рымскага паэта Авідзія[1].

У 1588 г. м. Гарадзец (маёнтак Лахвенскі) перайшоў ва ўласнасць Яна, а крыху пазней Станіслава Станіслававіча Кішкаў. У 1613 г. Кажан-Гарадок выкупіў у Станіслава Станіслававіча Кішкі, віцебскага ваяводзіча, Юрый Самсон Падбярэзскі, браслаўскі маршалак.

Лінія Падбярэзскіх ушанавала свой род тым, што стварыла у Кажан-Гарадку фундацыю збору кальвіністаў. Пасля Падбярэзскіх у Кажан-Гарадку гаспадарыў род Устрыцкіх, а ў пачатку XVIII ст. уладаром маёнтка стаў Крыштоф Бенядзікт Шчыт, кашталян смаленскі, заснавальнік кажан-гарадоцкай лініі роду Шчытоў. Пасля Крыштофа ў маёнтку гаспадарыў яго другі сын Ян, кашталян мінскі, жанаты з Людвікай Пац. Апошнім гаспадаром Кажан-Гарадоцкага маёнтка да 1939 г. быў нашчадак роду Шчытоў па мужчынскай лініі — Крыштоф. Род Шчытоў (герб «Ястрамбец»), значна пашырыўся на Беларусі і ў Польшчы, меў больш за 136 маёнткаў.

Адным з буйнейшых быў Кажан-Гарадоцкі ключ, які налічваў на сваіх абшарах каля 28 тыс. дзесяцін.

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што мястэчка некалі было абарончым. Там, дзе пазней быў узведзены палац, раней існаваў замак, які невядома калі быў поўнасцю знішчаны. Магчыма, яго разбурэнне адбылося ў 1655 г., калі мястэчка было занята маскоўскім войскам цара Аляксея, а магчыма, як перадавалася дагэтуль з пакалення ў пакаленне, у час нападу крымскіх татараў на Беларусь.

Ужо ў 1930-я гады знешніх прызнакаў і сведчанняў пра замак не існавала.

Адзінае, што нагадвала пра існаванне тут невялікага замка, гэта ўжыванне мясцовым насельніцтвам назваў двара «Замак», а яго гаспадара «Замкавы пан»[2].

Першыя гаспадары Кажан-Гарадка з роду Шчытоў-Неміровічаў пабудавалі ў 1-й палове XVIII ст. на месцы колішняга замка невялікую рэзідэнцыю — аднапавярховы, часткова двухпавярховы палац, пра які вядома толькі, што ён згарэў у сярэдзіне XIX ст., калі ў ім гаспадарыў Крыштоф Шчыт, сын Юзафа, давыд-гарадоцкага маршалка, і князёўны Тэклі Друцкай-Любецкай, сястры міністра фінансаў Рэчы Паспалітай Францішка Ксаверыя. Палац згарэў, верагодна, па віне прыслугі.

Да 2-й сусветнай вайны ў Кажан-Гарадку яшчэ існавала ўязная брама, выкананая з дрэва ў стылі барока, як адзіная сведка старога палаца. Сярэдняя частка брамы абапіралася на 2 масіўныя калоны, складзеныя з 4 брусоў кожная. Брама была завершана вензелем, пад якім у паўкруглай арцы месціўся картуш з гербам роду Шчытоў. Па баках брамы стаялі значна меншыя квадратныя ў плане слупы з брамкамі для праходу людзей, увенчаныя высокімі абеліскамі.

Пасля пажару Крыштоф Шчыт пабудаваў новы драўляны палац насупраць першага дома з другога боку старой брамы.

Новы дом стаяў на высокім падмурку, меў адзін паверх, у сярэдняй частцы — порцік на 4 мураваных калонах і быў накрыты гладкім гонтавым дахам. Сядзіба мела характар тыповага палаца, што паўсюдна існавалі ў XIX ст. на Беларусі. Верагодна, дом меў падабенства з



*Кажан-Гарадок. Уязная брама да палаца. Рэканструкцыя*[4].

рэзідэнцыяй князёў Друцкіх-Любецкіх у Луніне, з якімі гаспадар меў кроўнае сваяцтва.

Унутры палац меў каля 20 пакояў, абітых шпалерамі, з паркетнай падлогай, кафлянымі печамі. Пакоі былі ўпрыгожаны мастацкімі работамі, часткова ўратаванымі ад пажару са старога палаца. Крыштоф Шчыт быў чалавекам з багатай фантазіяй і высокай культурай. Ім была набыта унікальная мэбля розных стыляў, праз мастакоў выкананы партрэты продкаў, пераважна XVIII ст., сабраны калекцыі шведскага, саксонскага і карэйскага фарфору, гадзіннікаў, гравюр англійскіх і французскіх майстроў, слуцкіх паясоў, зброі, табакерак, адна з якіх мела выяву Станіслава Аўгуста Панятоўскага — апошняга караля Рэчы Паспалітай. Пра існаванне бібліятэкі сведчанняў няма, але ў палацы меўся вялікі сямейны архіў з карэспандэнцыяй мінулых стагоддзяў, тэатральных афіш, што пацвярджала існаванне тут дваровага тэатра.

Пасля смерці Крыштофа велізарны маёнтак быў падзелены паміж яго трыма сынамі: Юзафам, жанатым з





Марыяй Кіневіч, Казімірам — бяздзетным і Ісцяславам, жанатым з Аляксандрай Магельніцкай.

Кажан-Гарадок разам з фальваркамі Цна і Дрэбск дастаўся малодшаму сыну Крыштофа Ісцяславу.

Пасля Ісцяслава Шчыта Кажан-Гарадок перайшоў у рукі яго малодшага сына Казіміра — доктара медыцыны, які ўвесь час знаходзіўся ў Варшаве, а кіраваў маёнткам яго старэйшы брат Крыштоф, краязнавец, пасол Варшаўскага сейма.

Казімір меў трое дзяцей: Ганну, Яна і Крыштофа, якія загінуў у Сібіры.

У час 1-й сусветнай вайны другі Кажан-Гарадоцкі двор, пабудаваны Крыштофам Шчытом у сярэдзіне XIX ст., таксама згарэў. Новы палац адбудаваў яго праўнук, таксама Крыштоф, у міжваенны перыяд. Але і гэты палац згарэў у 1940 г.

Пры будаўніцтве першага палаца вакол яго быў закладзены парк у англійскім стылі з сеткай каналаў, палян, багатым дрэвастоем, экзотамі старога ўзросту. Пасля 1-й сусветнай вайны парк паступова пачаў забудоўвацца і знікаць.

Крыштоф Шчыт (прадзед) меў даволі цікавы жыццёвы шлях. У юнацкім узросце ён паехаў у Рым, дзе апынуўся ў зняволенні за нейкі скандал. Адсядзеўшы 20 гадоў, ён вярнуўся ў свае радавое гняздо ва ўзросце 38 гадоў. Ажаніўшыся з Евай Карафа-Корбут, ён разгарнуў энергічную гаспадарчую дзейнасць, у выніку якой стварыў багаты і вялікі маёнтак. На межах сваіх маёнткаў і фальваркаў ён загадаў устанавіць мураваныя слупы арыгінальнай і нетрадыцыйнай архітэктуры з надпісамі на адным баку — «Гаспадарства Шчытаўскае», а на другім — «Гаспадарства Расійскае». Пра фантазіі і ініцыятывы Крыштофа Шчыта з пакалення ў пакаленне перадавалася шмат паданняў і легенд.

З усёй багатай некалі спадчыны роду Шчытоў амаль нічога не засталося: ні гаспадарчых пабудоў, ні сажалак, ні рэштак паркавага дрэвастою. Адзінае, што засталося ў Кажан-Гарадку і нагадвае пра Шчытоў — гэта Мікалаеўская царква і касцёл, фундатарамі якіх, верагодна, былі продкі і нашчадкі гэтага багатага роду.

---

[1] *Памяць. Лунінецкі раён... С. 90—93.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 61.*
[3] *Polesie... S.123.*
[4] *Кулагин А. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей... С. 123.*

# Крысцінава
# Krystynów
# Кристиново

Колішная сядзіба, даўняя рэзідэнцыя роду Друцкіх-Любецкіх. Размяшчалася за 3 км ад Луніна, у маляўнічай мясцовасці (зараз пас. Палескі).

У XV—XIX ст. мяст. Крысцінава ўваходзіла ў склад Лунінскага маёнтка. Пасля таго, як у XVII ст. гаспадарамі Луніна сталі нашчадкі заможнага роду Друцкіх-Любецкіх, асноўнай іх рэзідэнцыяй быў абраны Пагост-Загародскі маёнтак, а крыху пазней — мяст. Лунін.



*Крысцінава. Будынак лазні. 1905 г.*
*Перабудаваны ў 1990-я гады[4].*

У 1918 г. (паводле некаторых іншых крыніц — у 1919) Лунінскі палац быў поўнасцю спалены і з той пары не аднаўляўся. З гэтай нагоды князь Францішак Марыян Друцкі-Любецкі, які ў свой час быў сакратаром канцылярыі Расійскага ўрада, а ў 1928 — 1935 гг. — сенатарам Рэчы Паспалітай, перанёс сваю рэзідэнцыю ў маёнтак Крысцінаў[1].

Там быў пабудаваны невялікі драўляны палац і закладзены новы парк на месцы колішняга двара. Фотаздымкаў і малюнкаў палаца не захавалася.

Адзіным сведкам колішняга сядзібнага ансамбля з'яўляецца будынак лазні[2]. Вядома, што пабудаваны ён у 1905 г. з чырвонай цэглы. Т-падобны ў плане аднапавярховы будынак мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Дах двухсхільны, накрыты часткова чарапіцай і гонтай. Тарцовыя фасады завершаны ступеньчатымі атыкавымі сценамі, падзелены плоскімі лапаткамі, прарэзаны круглымі аконнымі праёмамі. Дзверы — шырокія з лучковым абрысам[2].

Фасад па перыметры аздоблены аркатурным поясам. Будынак з'яўляецца помнікам мураванай архітэктуры пачатку XX ст. з матывамі неаготыкі[3].

На месцы колішняга сядзібна-паркавага ансамбля ў сённяшні час размяшчаецца філіял рэспубліканскага Інстытута меліярацыі.

---

[1] *Grzegorcsuk D. Dworki i pałacy... S. 54.*
[2] *Памяць. Лунінецкі раён... С. 104—105.*
[3] *Свод памятников... С. 276.*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Лахва
# Łachwa
# Лахва

Старадаўні замак-палац XVIII—XIX ст., які не меў абарончых функцый, а з'яўляўся невялікай рэзідэнцыяй колішніх гаспадароў маёнтка. Паводле пісьмовых


14 Зак. 1023





крыніц, маёнтак Лахва вядомы з XV ст., спачатку як уласнасць Пятра Янавіча Мантыгірдавіча, троцкага ваяводы. У пачатку XVII ст. маёнтак па жаночай лініі пераходзіць да роду Кішкаў, у прыватнасці, да Пятра Станіслававіча, полацкага ваяводы. У сярэдзіне XVI ст. маёнтак зноў па жаночай лініі апынуўся ў Радзівілаў, якія гаспадарылі ў ім амаль 200 гадоў. Спачатку ўладаром Лахвы стаў Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, по-




*Лахва. Схема размяшчэння сядзібы[4].*

тым па спадчыне маёнтак перайшоў да Мікалая Крыштофа, а на пачатку XVII ст. уладальнікам Лахвы быў Альберт Уладзіслаў Радзівіл. Пасля яго спадкаемцамі маёнтка па чарзе былі Зыгмунт Кароль, Аляксандр Людвіг, Міхаіл Казімір і, нарэшце, Дамінік Радзівіл[1].

Верагодна, пры Дамініку ў Лахве быў пабудаваны драўляны двухпавярховы замак-палац.

Рэзідэнцыя князя мела развітую анфіладную планіроўку і ўключала значную колькасць розных па прызначэнні пакояў. Цэнтральнае месца ў палацы займала вялікая зашклёная парадная зала, якая была непасрэдна звязана з садам.

Характэрнай рысай планіроўкі невялікіх рэзідэнцый таго часу з'яўлялася размяшчэнне ў жылых будынках дамавых капліц. У Лахвенскім палацы яна займала памяшканне на другім паверсе. Усе памяшканні палаца былі аздоблены размалёўкай на палатне[2].

У 1-й палове XVIII ст. маёнтак па жаночай лініі ў якасці пасагу дачкі Дамініка Радзівіла князёўны Стэфаніі перайшоў да роду Вітгенштэйнаў, пазней да роду Чапскіх. У 1816 г. у маёнтку нарадзіўся пісьменнік і даследчык Марыян Чапскі, сын Станіслава, вайсковага палкоўніка, жанатага з Соф'яй з дому Абуховічаў. Марыян Чапскі — аўтар вядомых твораў "Гісторыя каня" і «Манаграфія пра пчалу».

Адначасова з будаўніцтвам палаца ў Лахве быў закладзены італьянскі сад, які існаваў да 2-й сусветнай вайны[3].

Палац, верагодна, быў знішчаны яшчэ ў 1-ю сусветную вайну, а сад — у пасляваенны час.

Месца, дзе размяшчалася сядзіба, мае мемарыяльнае значэнне.

---

[1] *Памяць. Лунінецкі раён... С. 93—99.*
[2] *Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства... С. 64, 67.*
[3] *Федорук А.Т. Дворцово-парковое искусство... С. 38.*
[4] *Схема падрыхтавана У.Самусевічам.*

# Лунін
# Łunin
# Лунин

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Сяло Лунін (Лулін, Лулін Вялікі) вядома паводле пісьмовых крыніц з XV ст. як дзяржаўная ўласнасць. Пасля 1440 г. яно было падаравана роду Нямíравых (братам Мікалаю і Пятру). У пачатку XVI ст. Лунінам некалькі гадоў валодалі нашчадкі роду Пенкаў, затым зноў Немíровічы і Пенкі, а з 1563 г. Лунінскі маёнтак перайшоў да Станіслава Давойны, полацкага ваяводы, які ў час вайны быў захоплены ў маскоўскі палон. Пазней тут гаспадарылі яго жонка княгіня Барбара Іванаўна Саламярэцкая, затым князь Юрый Радзівіл і, нарэшце, Мікалай Друцкі-Любецкі[1]. Ад другой паловы XVII ст. да 1920-х гадоў амаль 350 гадоў Лунінскі двор не выходзіў з мужчынскіх рук князёў Друцкіх-Любецкіх (герб «Друцк»)[2]. Гэты заможны род па лініі Друцкіх лічыў сябе нашчадкамі Рурыкавічаў, а па лініі Любецкіх атрымаў прозвішча ад назвы мясцовасці Любча, што на Валыні, дзе род асеў яшчэ ў канцы XV ст. У сярэдзіне XVII ст. Любчанскі маёнтак быў прададзены, і Друцкія-Любецкія набылі багатыя двары на Піншчыне — вёскі Пагост-Загародскі і Лунін. Першы, хто асеў на Піншчыне з гэтага роду, быў Мікалай Друцкі-Любецкі, жанаты з Крысцінай Статкевіч (герб «Касцеша»). Багацце Друцкіх-Любецкіх асабліва павялічылася праз куплю новых зямель і шлюбныя пасагі пры Францішку, сыну аршанскага стольніка Юзафа і Вікторыі Скірмунт. Францішак займаў шэраг высокіх пасад (пасол на Варшаўскім сейме, маршалак і кашталян г. Пінска). Францішак быў жанаты двойчы, спачатку — з Генавефай Алізаравай, потым з Тэрэзай Стрыцінскай. Пасля яго маёнткі Лунін, Парахонск і іншыя перайшлі ў спадчыну малодшаму сыну князю Гераніму (1779—1844), маршалку г. Пінска, жанатаму з Кацярынай Шчыт-Немíровіч, а пасля Гераніма яго сыну Эдвіну Цэзарыю Адаму (1828—1901), маршалку і ганароваму суддзі г. Пінска. Цэзарый быў жанаты з Ядвігай Радзівіл.



*Лунін. Паркавы фасад палаца[4].*

Апошнім уладаром Луніна быў сын Цэзарыя князь Францішак Друцкі-Любецкі (1878—1944).

Спачатку Друцкія-Любецкія абралі сваёй асноўнай рэзідэнцыяй маёнтак Пагост-Загародскі, дзе ў 1779 г. нарадзіўся будучы міністр фінансаў Рэчы Паспалітай Францішак Ксаверы, а крыху пазней пераехалі ў маёнтак Лунін.

Як падае даследчык Зыгмунт Глогер, палац-рэзідэнцыя Друцкіх-Любецкіх у Луніне была ўзведзена ў 1-й чвэрці XIX ст. Глогер апублікаваў толькі 2 фотаздымкі рэпрэзентатыўнага Лунінскага палаца.

З боку цэнтральнага пад'езда палац выглядаў даволі сціпла. У плане будынак меў форму прамавугольніка, узведзены з дрэва на высокім падмурку, з бакавымі аднапавярховымі крыламі. Сярэдняя цэнтральная частка будынка мела 2 паверхі, была акцэнтавана высокім порцікам на 4 масіўных мураваных калонах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыток з паўкруглым акенцам. Пад порцікам размяшчалася тэраса з шырокімі манументальнымі сходамі.

Тыльны фасад з боку парку адрозніваўся ад франтальнага толькі тым, што меў 2 паверхі, а ў сярэдняй частцы — 3. Першы паверх быў мураваны, над ім узвышалася пабудова, ідэнтычная франтальнай. Цэнтральны чатырохкалонны порцік стаяў на трохаркаднай частцы першага паверха.

Палац накрываў высокі гладкі гонтавы дах. Унутраны выгляд палаца дакладна невядомы, акрамя таго, што да 1-й сусветнай вайны ў ім існавала багатая бібліятэка польскіх і французскіх кніг, калекцыя сямейных старадаўніх рэчаў, сярод якіх асабліва каштоўная была сакральная рэліквія — дараносіца са срэбра (1620). У 1918 г. Лунінскі палац быў поўнасцю спалены і не аднаўляўся. З гэтай нагоды князь Францішак Марыян Друцкі-Любецкі, сакратар канцылярыі Расійскага ўрада, а ў 1928—1935 гг. сенатар Рэчы Паспалітай, перанёс сваю рэзідэнцыю ў


Лунін. Галоўны фасад палаца[5].

мяст. Крысцінава, што знаходзілася за 3 км ад Луніна, і пабудаваў там сціплы дом[3].

Разам з узвядзеннем палаца ў Луніне быў закладзены прыгожы пейзажны парк плошчай некалькі гектараў. На ўскрайку парку мелася мураваная фамільная капліца.

На ўзор Лунінскага палаца ў свой час былі пабудаваны рэзідэнцыі ў Дарашэвічах і Біжаравічах.

Паводле сцвярджэння пісьменніка і даследчыка М.Калінковіча, з Лунінам быў звязаны значны перыяд жыцця і дзейнасці знакамітага майстра беларускага пейзажу, папярэдніка Н.Орды Міхаіла Кулешы (1799 — 1865), выхаванца вядомага мастака Яна Рустэма. За ўдзел у сходках тайнага гуртка філарэтаў М.Кулеша быў арыштаваны і кінуты ў турму. Па хадайніцтве князя Гераніма Друцкага-Любецкага, а, магчыма, і міністра фінансаў Францішка Ксаверыя, М.Кулеша быў выпушчаны на волю.



Лунін. Схема размяшчэння сядзібы.

З вясны 1824 г. па восень 1825 г. ён працаваў настаўнікам у князя Гераніма і вучыў яго дзяцей мастацтву ў Лунінскім маёнтку. У гэты перыяд ён выканаў шэраг мастацкіх работ, у т.л. малюнкі Луніна, Пінска і іншых месцаў.

Пазней ў 1845 г. М.Кулеша пабываў на радзіме генерала Т.Касцюшкі і выканаў малюнак дома-сядзібы Касцюшкаў ва ўрочышчы Мерачоўшчына пад Косавам, які стаў адным з самых каштоўных шэдэўраў беларускага мастацтва.

Месца, дзе размяшчаўся палацава-паркавы ансамбль, знаходзілася ў паўднёвай частцы Луніна. Яно мае мемарыяльнае значэнне. Ад ансамбля засталіся пагоркі зруйнаванага палаца, касцёл і царква. У час Варшаўскага паўстання 1944 г. Францішак Мар'ян Друцкі-Любецкі быў расстраляны немцамі.

---

[1] *Памяць. Лунінецкі раён... С. 100—102.*
[2,5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 70.*
[3] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... S. 54.*
[4] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С.162.*

# Любачын
# Lubaczyn
# Любачин

Сядзібна-паркавы ансамбль, які размяшчаецца побач з в. Любачын.

Вёска Любачын упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1589 г. як уласнасць маёнтка Лахва. У складзе Лахвенскага маёнтка в. Любачын праіснавала да 1785 г., калі тут быў заснаваны фальварак, гэта значыць панскі двор з ворыўнымі землямі, сенажацямі, лясамі ды балотамі[1].

Фальварак складаўся з жылога дома, парку і гаспадарчых пабудоў. Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, з высокім гонтавым дахам і невялікім ганкам. У пасляваенны час дом быў разабраны, а на яго месцы пабудавана невялікае памяшканне мясцовага сельскага Савета. Цяпер у гэтым будынку пражывае сям'я перасяленцаў.







Любачын. Фрагмент парку[2].




Любачын. Схема рэшткаў парку.

Засталіся рэшткі парку плошчай каля 2 га. Кампазіцыя парку моцна парушана, равы і сажалка абмялелі і перасохлі. Растуць ліпы, ясені, дубы, грабы, клёны, бярозы, асобныя віды дэкаратыўных кустоў. Некаторыя дрэвы маюць узрост каля 200 гадоў.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

*[1] Памяць. Лунінецкі раён... С. 103.*
*[2] Фота аўтара. 2000 г.*

# Новы Двор
# Nowy Dwór
# Новый Двор

Колішні фальварак. Быў размешчаны ў гміне Ленін, у маляўнічай мясцовасці на левым беразе р. Цна, каля дарогі з Дварца на Крупаўцы, за 3 км на захад ад в. Бродніца.



Новы Двор. Галоўны фасад палаца[1].

Да 1939 г. у Новым Двары гаспадарылі нашчадкі вядомага на Палессі заможнага роду Шчытоў-Неміровічаў. Заснавальнікам адной з ліній гэтага роду, кажан-гарадоцкай, быў Крыштоф Бенядзікт Шчыт, кашталян смаленскі. За перыяд з пачатку XVIII ст. і да 1939 г. Шчыты-Неміровічы нажылі велізарныя абшары зямлі на Палессі і мелі больш за 136 маёнткаў, з якіх самым буйным з'яўляўся Кажан-Гарадоцкі ключ. На працягу больш за 200 гадоў ключ не выходзіў з мужчынскіх рук Шчытоў-Неміровічаў.

Пасля смерці Крыштофа (сына Юзафа Шчыта і княжны Тэклі Друцкай-Любецкай, сястры міністра фінансаў Рэчы Паспалітай Францішка Ксаверыя) у канцы XIX ст. велізарны маёнтак быў падзелены паміж яго трыма сынамі: Юзафам, Казімірам і Ісцяславам. Старэйшаму сыну Юзафу, жанатаму з Марыяй Кіневіч, дастаўся маёнтак Новы Двор і некалькі фальваркаў. Пасля Юзафа ў маёнтку Новы Двор гаспадарыла яго дачка Аліна Неміровіч-Шчыт-Абуховіч (1892 — 1945).

Верагодна, Юзафам у 2-й палове XIX ст. у Новым Двары быў пабудаваны невялікі драўляны палац. Будынак аднапавярховы, у цэнтры галоўнага фасада вылучаны неглыбокім рызалітам у выглядзе высокага порціка. Шырокая веранда абапіралася на дзве пары выступаўшых і дзве пары прысценных калон. Над верандай узвышаўся высокі трохвугольны шчыток з двума невялікімі акенцамі.

Порцік і асноўны будынак былі накрыты двухсхільным гонтавым дахам .

Палац абкружаў вялікі пейзажны парк, у якім раслі каштаны, клёны, дубы, ясені, вербы, лістоўніцы і іншыя пароды.

У пасляваенны час палац быў разбураны.

На месцы існавання паркавага ансамбля практычна не засталося колішняга дрэвастою.

---

*[1] Фотаздымак палаца ў Новым Двары і некаторыя звесткі пра радавод Шчытоў-Неміровічаў атрыманы ад Ванды Бялецкай-Абуховіч (Варшава).*




# Карта-схема
# размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
# на тэрыторыі Ляхавіцкага раёна









# Бубнаўшчына
# Bubnowszczyzna
# Бубновщина

Радавое гняздо Бубнаў. Сядзіба размешчана за 0,7 км на паўночны захад ад в. Дарава ва ўрочышчы Бубнаўшчына сярод калгаснага поля. У плане сядзіба мае форму прамавугольніка плошчай каля 3,5 га.



*Бубнаўшчына. Галоўны фасад сядзібнага дома*[1].

Сядзіба закладзена ў 2-й палове XIX ст. Стары будынак сядзібы згарэў у час ваенных дзеянняў у перыяд 1-й сусветнай вайны, а новы будынак узведзены ў міжваенны час. Ён уяўляе сабой аднапавярховы аб'ём з высокім ламаным дахам. Пабудаваны з сасновага кругляку на ўзор тыповых правінцыяльных сядзіб XIX ст.

Добра захавалася перыферыйная абсадка сядзібы з 4 бакоў. Асноўны дрэвастой — ліпы, бярозы, клёны, сосны, грабы, ясені, дэкаратыўныя кусты. Сядзібны дом абкружаны ліпамі старога ўзросту ў выглядзе куп дрэў.

Цэнтр сядзібы займае пладовы сад. Колішнія гаспадарчыя пабудовы (свіран, стайня, клець) у пасляваенны час былі знішчаны.




*Бубнаўшчына. Схема сядзібы*[2].

Сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*
[2] *Планы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Ляхавіцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку выканала архітэктар А.Лукша.*

# Буракоўцы
# Burakowce
# Бураковцы

Сядзіба належала роду Буракоўскіх, Чарноцкіх і інш. гаспадароў. Размяшчалася паміж вёскамі Нача і Жарабковічы на адлегласці 2,5 км ад вёсак. Узнікла, прыкладна, у 1-й палове XIX ст. на месцы маляўнічага лясного масіву. Да сядзібы вядзе бутавая грэбля.

Палац быў пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, у плане прамавугольны, з традыцыйным ганкам пасярэдзіне галоўнага фасада. Быў знішчаны ў перыяд 2-й сусветнай вайны. У паўднёва-заходняй частцы сядзібы знаходзяцца руіны склепа-пахавальні продкаў гаспадароў.



*Буракоўцы. Агульны выгляд парку*[1].

У паўночна-заходнім напрамку за 500 м да нядаўняга часу існавала сістэма старажытных курганоў (капцоў), відавочна, з дахрысціянскіх часоў, якія мясцовыя жыхары



*Буракоўцы. Фрагмент парку*[2].












*Буракоўцы. Схема парку.*

называлі яшчэ «шведскімі магіламі». У 1980-я гады капцы былі поўнасцю знішчаны і зараз знаходзяцца пад палеткамі мясцовага калгаса.

Захаваліся рэшткі пейзажнага парку, які мае плошчу 5,5 га. У заходняй частцы парку ёсць адзінкавыя дубы, узрост якіх дасягае 300 гадоў. Акрамя таго, тут растуць каштаны, клёны, бярозы, сосны, елкі. Сажалка, равы моцна абмялелі, у большасці высахлі.

Парк моцна зарос хмызняком, значна страціў элементы кампазіцыі. Разам з бутавай дарогай патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Ведзьма
# Wiedźma
# Ведьма

Старадаўняя сядзіба Ведзьма (Ведма) вядома паводле гістарычных крыніц з 1498 г. Спачатку двор належаў роду Малышчыцаў, потым Пяткевічаў. У 1525 г. маёнтак выкупіў А.М.Гаштольд, які неўзабаве прадаў яго князям Радзівілам (Барбары Радзівіл). Перад 1551 г. Барбара падарыла вёску Ведзьму Чаркоўскаму, а ў 1551 г. сядзіба перайшла ва ўласнасць караля Жыгімонта II Аўгуста. З 1553 г. Ведзьма — маёнтак Навагрудскага павета, уласнасць шляхціца Л.С.Дароўскага. Пазней маёнткам валодалі нашчадкі радоў Гзоўскіх, Дароўскіх, Гастомскіх, Грыгаравічаў, Чаркоўскіх і інш[1].




*Ведзьма. Схема сядзібы.*

Канкрэтнае ўяўленне пра двор-фальварак Ведзьму (Ведму) дае адзіны вядомы для Ляхаўшчыны інвентар. Гэты маёнтак кароль Жыгімонт II Аўгуст у 1551 г. падараваў свайму прыбліжанаму службоўцу С.Гзоўскаму. Адна з копій інвентара была ўключана ў тэкст прывілея, якім у 1558 г. па просьбе С.Гзоўскага кароль зноў пацвердзіў яму гэты маёнтак «на вечнае карыстанне». Інвентар двара склаў гаспадарскі пісар Я.Сінеўскі, які па загадзе караля перадаваў гэты двор роду Гзоўскіх.

Акт перадачы звычайна меў назву «ўвязанне», а апісанне маёнтка — «рээстр» ці «інвентар».

Двор і фальварак маёнтка — прыклад сярэдняй гаспадаркі.

Яго цэнтрам была сядзіба, якая ўключала вялікі жылы дом з сенямі, грыдніцай, святліцай і каморай. Пра тое, што дом быў надта стары, сведчыў новы зруб палаца, які стаяў побач. У сваю чаргу фальварак уключаў у сябе шэраг гаспадарчых пабудоў: чатыры клеці, стайню, гумно і інш. Інвентар падрабязна пералічвае кадушкі, бочкі, дзежы, цэбры, градкі гародніны, копы жыта, ячменю, колькасць жывёлы, хатняй птушкі і г.д.

На той час у маёнтках шырокае развіццё атрымалі прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны. Найбольш распаўсюджаныя з іх — бровары, вадзяныя млыны і інш. У маёнтку Ведзьма быў таксама вялікі млын[2].

На працягу больш як 4 стагоддзяў кожны новы гаспадар будаваў, перарабляў, размяшчаў штосьці новае для развіцця гаспадаркі. На жаль, да сённяшняга дня ніякіх сведчанняў пра парк, палац, гаспадарчыя пабудовы ў сядзібе Ведзьма не захавалася.

Нават вёскі з такой назвай цяпер не існуе, таму што пасля 2-й сусветнай вайны яна была ўключана ў в. Навасёлкі Навасёлкаўскага сельскага Савета.

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 71—72.*
[2] *Тамсама. С. 39—40.*

# Вошкаўцы
# Woszkowce
# Вошковцы

Сядзібна-паркавы ансамбль, радавое гняздо Бохвіцаў. Парк грунтоўна абследаваў і апісаў А.Т.Федарук[1]. Размешчаны на ўскрайку в. Ураджайная. Двор Вошкаўцы Старыя, альбо Стары Двор купіў у 1838 г. ад папярэдняй уладальніцы з роду Чарноцкіх вядомы пісьменнік, філосаф, тэолаг Фларыян Бохвіц. Ён быў сынам Рамуальда Бохвіца і Анеліі Божабагатай. Вядомасць вучонага і пісьменніка ён атрымаў за філасофскія кнігі «Сутнасць маёй думкі...», «Думкі пра выхаванне чалавека» і інш.

Фларыян Бохвіц быў жанаты з роднай сястрой маці







*Вошкаўцы. Сядзібны дом[4].*

Адама Міцкевіча — Паўлінай Маеўскай і даводзіўся вялікаму паэту блізкім родзічам[2].

Род Бохвіцаў меў шведскае паходжанне. На Беларусь Бохвіцы перасяліліся ў XVII ст., тут атрымалі грамадзянства, на працягу некалькіх стагоддзяў праз шлюбы і гандаль набылі вялікія надзелы зямлі.



*Вошкаўцы. Млын[5].*

Фларыян Бохвіц перадаў сваім сынам багатую спадчыну. Асноўную частку маёнтка (сядзібны дом і шэраг надзелаў) атрымаў Раман Бохвіц, які быў жанаты спачатку з Казімірай Чачот, а потым з яе сястрой Лізаветай. Другую



*Вошкаўцы. Фрагмент парку[6].*

частку маёнтка, але без сядзібы, атрымаў Ян Отан Бохвіц. Ён пабудаваў два новыя двары, адзін на р. Качарэшцы (на захад ад г. Баранавічы) і назваў яго Паўлінавам у гонар маці Паўліны, другі побач з Вошкаўцамі і назваў Фларыянавам у гонар свайго бацькі Фларыяна.

Апошнім уладальнікам Вошкаўскай сядзібы быў нашчадак Бохвіцаў Вітольд.

Сядзібна-паркавы комплекс у в. Вошкаўцы нясе ў сабе характэрныя ўласцівасці шэрагу сядзіб таго перыяду. Палац быў узведзены яшчэ да Бохвіцаў у XVII ст. з хвойнага дрэва. У будаўніцтве палаца выкарыстоўваліся выключна драўляныя цвікі[3].

Будынак палаца — аднапавярховы, прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам. Цэнтр франтальнага фасада вылучаны цагляным тамбурам, бакавыя крылы рытмічна раздзелены прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Архітэктура палаца пазбаўлена стылявога накірунку.

У доме было 12 пакояў рознай велічыні. Ад ганка цэнтральнага ўвахода пачынаўся prасторны калідор, адкуль дзверы вялі ў сталовую і гасцёўню, якая вылучалася арыгінальным камінам і старадаўняй мэбляй. Гаспадары дома мелі багатую бібліятэку, якая штогод папаўнялася новымі кнігамі, сямейным архівам. Пакоі палаца былі аздоблены шэрагам партрэтаў продкаў роду Бохвіцаў.

У сядзібу вядзе ільмава-клёнавая алея. Перад палацам уладкаваны парадны партэр у выглядзе круглага газона з вялікай елкай у цэнтры і пасадкамі чаромхі па баках. Пейзажную частку парку абкружаюць 3 рознай велічыні




*Вошкаўцы. Схема парку[7].*

баскеты, занятыя садам. У паўднёва-заходнім накірунку размешчана невялікая сажалка. Прагулачны маршрут пралягаў у пейзажнай частцы па алеях баскетаў, што падкрэслівала адзінства паркавага ансамбля. Па перыметры сад быў абсаджаны ліпай і карагачом.

Пры фарміраванні сядзібна-паркавага комплексу многа ўвагі ўдзялялася разнастайнасці раслін. Рэдкія дрэвы высаджваліся купамі. Захавалася 40 відаў і садовых форм. Сярод іх рэдкія ў Беларусі конскі каштан жоўты, ліпа крымская, клён вастралісты Шведлера, аксаміт амурскі, ясень ніцы, лістоўніца Сукачова і інш.

Паводле даследаванняў Р.Афтаназы, сядзібны дом XVII ст. у Вошкаўцах — адно з самых старадаўніх









збудаванняў драўлянай жыллёвай архітэктуры на Берасцейшчыне.

Сядзібна-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы. У 2001 г. праведзена ачыстка парку сіламі школьнікаў раёна.

[1] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 222–223.*
[2] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі X—XIX ст... С. 375.*
[3] *Aftanazy R.Dzieje... S. 63.*
[4,5] *Фота аўтара. 2000 г.*
[6] *Фота С.Саласцецкай. 1999 г.*
[7] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

# Гаслаўшчына
# Hasłówszczyzna
# Гасловщина

Адзін з колішніх фальваркаў роду Чарноцкіх[1]. Да 1567 г. меў назву Скубятоўшчына і належаў каралю Жыгімонту II Аўгусту, які пажалаваў маёнтак ляхавіцкаму зямяніну С.Гаслоўскаму[2]. З тае пары маёнтак пачаў насіць назву Гаслаўшчына. У 1586 г. ён быў прададзены Ф.М.Еўлашоўскаму, вядомаму мемуарысту, дзяржаўнаму дзеячу,



*Гаслаўшчына. Сядзібны дом[3].*

аднаму з распрацоўшчыкаў знакамітага «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага». Пасля Еўлашоўскіх маёнтак змяніў шэраг гаспадароў. У першай палове XIX ст. ён апынуўся ў заможнага роду Чарноцкіх. Размешчаны колішні фальварак за 0,5 км на поўдзень ад в. Гаслаўшчына. Фальварак уяўляў сабой тыповую сядзібу XIX ст., якіх было шмат на Беларусі.

Захаваліся фрагменты парку плошчай каля 3,5 га, абкружанага з усіх бакоў калгасным полем. Сядзіба абсаджана дрэвамі лісцевых парод.

Асноўны дрэвастой рэшткаў парку – клёны, ліпы, бярозы, ясені, дубы, акацыі.

Частку сядзібы займае пладовы сад. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца невялікі сядзібны дом, пабудаваны з дрэва. Гэта аднапавярховы будынак з невялікім ганкам і нізкім жалезным дахам. Сядзіба выкарыстоўваецца ў якасці жылля для калгаснікаў.

Сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год... С. 172—173.*
[2] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 72.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Голдавічы
# Hołdowicze
# Голдовичи

Колішняя сядзіба роду Касакоўскіх[1]. У 1876 г. гаспадаром Голдавіч быў Станіслаў Станіслававіч Касакоўскі, адзін з заможных прадстаўнікоў роду. Акрамя Голдавіч ва ўласнасці Касакоўскага знаходзіліся шматлікія фальваркі і маёнткі, у т.л. Ляхавічы, Мыслабаж, Камянка, Гулічы, Жарабковічы, Старыя Ляхавічы, Зубялевічы, Свіскаўшчына, Ажэвічы, Літоўка, Троцкія. Сядзіба размешчана побач з вёскай Голдавічы. Яна займала плошчу каля 4 га паміж р. Шчарай і дарогай з в. Задвор'е на в. Набярэжная. У склад сядзібы ўваходзілі жылы дом, парк, свіран, стайня і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

У пасляваенны час на месцы ансамбля была размешчана жывёлагадоўчая ферма, пасля чаго парк



*Голдавічы. Будынак флігеля[2].*

пачаў вынішчацца. На сённяшні дзень ад яго засталося некалькі куп дэкаратыўных кустоў і мураваны флігель. Сядзібны дом быў драўляны аднапавярховы з мансардай. Будынак пабудаваны ў другой палове XIX ст., у пасляваенны час разбураны.

Мураваны аднапавярховы флігель (пачатак XX ст.) патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г... С. 78.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*




# Грушаўка
# Gruszówka
# Грушевка

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Рэйтанаў.

Вёска Грушаўка ўпамінаецца ў гістарычных дакументах з XVI ст.[1] Да 1551 г. вёска належала князёўне Барбары Радзівіл, якая падаравала маёнтак Міхаілу Залескаму. Пасля 1567 г. Грушаўка была падаравана Жыгімонтам II Аўгустам дваранiну П.Шлягеру, затым маёнтак зноў апынуўся ў Радзівілаў.

Дасканала невядома, калі Грушаўскі маёнтак перайшоў ва ўласнасць Рэйтанаў. Вядома, што гэты род перасяліўся з Германіі ў Рэч Паспалітую каля 1600 г. і за некалькі стагоддзяў пашырыў, а адна з ліній роду стала жыць на Беларусі. Прыкладна ў сярэдзіне XVII Рэйтаны ўжо гаспадарылі ў Грушаўцы.



*Грушаўка. Палацава-паркавы ансамбль. 1876 г. З акварэлі Напалеона Орды[4].*

Да канца XIX ст. Грушаўскі маёнтак быў галоўнай рэзідэнцыяй роду Рэйтанаў. У 2-й палове XVIII ст. маёнткам валодаў і жыў у ім адзін з гарачых патрыётаў Рэчы Паспалітай, пасол Навагрудскай зямлі на Варшаўскім сейме, «пан з чорнай Русі» Тадэвуш Рэйтан (1741—1780), які быў непрымірымым і непахісным праціўнікам падзелу Рэчы Паспалітай. Да 1910 г. маёнтак належаў Юзафу Рэйтану, які быў бяздзетны і пасля сваёй смерці завяшчаў усё багацце Грушаўскага двара нашчадкам сваіх сясцёр.



*Грушаўка. Паўразбураны будынак новага палаца[5].*

У прыватнасці, Грушаўка, Нача і Грыцэвічы дасталіся Генрыху Грабоўскаму, сыну Аляксандра Грабоўскага і Марыі Рэйтан, а фальварак Слаўкавічы перайшоў да графа Францішка Чапскага, сына Адама Чапскага і Ядвігі Рэйтан. Яны былі апошнімі гаспадарамі маёнтка.

У цяперашні час на тэрыторыі сядзібы, плошча якой складае каля 14 га, захаваліся жылы дом (паўразбураны), флігелі, бровар, капліца-пахавальня (паўразбурана і абрабавана), шэраг гаспадарчых пабудоў, парк рэгулярнай планіроўкі і пладовы сад. Да канца XIX ст. у сядзібе стаяў аднапавярховы мураваны палац, які быў пабудаваны ў строгіх формах архітэктуры класіцызму ў час жыцця і дзейнасці Тадэвуша Рэйтана.

Выгляд першага палаца вядомы паводле акварэлі Напалеона Орды, які неаднаразова бываў у сядзібе Тадэвуша Рэйтана ў 1864—1876 гг. Дом быў апісаны ў сярэдзіне XIX ст. пляменніцай Тадэвуша Рэйтана Ганнай Герычовай. Гэта быў будынак прамавугольнай формы, накрыты вальмавым дахам, меў у цэнтры галоўнага фасада чатырохкалонны драўляны порцік з трохвугольным франтонам. Уздоўж тыльнага фасада ў парк выступала тэраса-галерэя. Сярод шпалер парку стаяла прысядзібная мураваная капліца. Перад домам па баках круглага газона знаходзіліся афіцыны, у адной з якіх захоўваліся фамільныя архівы ўладальнікаў.



*Грушаўка. Руіны новай капліцы-пахавальні Рэйтанаў[6].*

Унутраная аздоба палаца адпавядала традыцыям заможнай шляхты таго часу. У салонах і гасціных віселі партрэты дзеда і прадзеда Тадэвуша Рэйтана, а таксама Андрэя Тадэвуша Касцюшкі і архідыякана Вадзінскага. Сцены ўпрыгожвалі вельмі каштоўныя люстры ў пазалочаных рамах. На камінах стаялі дэкаратыўныя рэчы з фарфору: кошык з блакітнымі незабудкамі, пад шклом — дзве фігуркі маладой пары — кавалера і дзяўчыны. Акрамя партрэтаў віселі таксама карціны міфалагічнага зместу, у прыватнасці «Якар, які падае ў мора» і інш. Найбольш цікавай была карціна з пяці частак, кожная з якіх мела надпіс з тлумачэннем зместу кампазіцыі (бацька з сынам вядуць асла, затым едуць на асле, потым нясуць асла і г.д.)[2]. У бібліятэцы Рэйтанаў меўся вялікі кнігазбор, які перажыў шмат ваенных ліхалеццяў і знаходзіўся ў новым палацы да пачатку 2-й сусветнай вайны.

На мяжы XIX—XX ст. гаспадар Грушаўкі Юзаф Рэйтан па невядомых прычынах распачаў перабудову двара ў











*Грушаўка. Уязная алея да капліцы[7].*

духу моднай на той час аздараўленчай манеры. Стары палац быў разабраны, а на яго месцы пабудаваны новы драўляны палац.

Разам з будаўніцтвам палаца быў закладзены пейзажны парк.

Палац уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам, з якога выступаюць на галоўным і бакавых фасадах мансардавыя паверхі з самастойнымі двухсхільнымі пакрыццямі. Галоўны ўваход вылучаны ганкам і тэрасай, устаноўленай на разьбяныя калоны і апаясанай металічнай агароджай. Высокі падмурак па баках цэнтральнай тэрасы вылучаны пластычнымі па форме мураванымі ганкамі, у форме якіх прасочваюцца элементы стылю «мадэрн».

Інтэр'еры былі аздоблены размалёўкай, разьбой,




*Грушаўка. Схема парку.*

кафлянымі грубкамі. Парадны двор, утвораны сядзібным домам і двума флігелямі, зрушаны з асноўнай восі кампазіцыі.

Да 1939 г. з асаблівай увагай і павагай зберагаўся невялікі будынак непадалёку ад палаца, які атрымаў назву «мураванка». У ім з пакалення ў пакаленне перадавалася шэраг каштоўных папер і пасведчанняў. У прыватнасці, сярод дакументаў быў мандат Тадэвуша Рэйтана на Варшаўскі сейм. Там існавалі матэрыялы з дасканалым апісаннем усіх тагачасных падзей у краіне[3]. У двух пакоях гэтага мураванага будынка Тадэвуш Рэйтан правёў апошнія гады жыцця ў цяжкім стане і глыбокай псіхічнай дэпрэсіі, выкліканай моцнымі перажываннямі за раздзел Рэчы Паспалітай і ўласным бяссіллем перад разбуральным працэсам і здрадай паплечнікаў.

Гэты каштоўны архіў прапаў без вестак яшчэ да 1914 г., а былая сямейная капліца разабрана. Новая капліца-пахавальня была ўзведзена ў пачатку XX ст. у стылі неаготыкі. У гэтай капліцы быў пахаваны яе фундатар Юзаф Рэйтан. Будынак капліцы ў плане мае прамавугольную форму, трохгранную алтарную частку і высокі шчыт на галоўным фасадзе. Аконныя праёмы маюць выгляд стральчатых арак. Унутры існавалі нервюрныя скляпы.

У міжваенны перыяд у новым палацы былі сабраны рэшткі памятных рэчаў Тадэвуша Рэйтана: яго ложак, сервант, залаты бакал — падарунак калег сейма за заслугі ў актыўнай дэпутацкай дзейнасці. Усе гэтыя каштоўнасці нашчадкі Рэйтана перадалі Кракаўскаму нацыянальнаму музею Чартарыйскіх разам са старым гадзіннікам Стафана Рэйтана, бацькі Юзафа.

У 1939 г. польскія ўлады ўстанавілі помнік Тадэвушу Рэйтану побач з новай капліцай (не захаваўся).

Палац і гаспадарчыя пабудовы абкружае невялікі парк. Сярод дрэвавых парод было шмат экзатычных відаў. Збераглося самае вялікае ў Беларусі дрэва (16 м вышыні) кіпарысавіка гарохаплоднага, адзінкавыя экзэмпляры бука ляснога, конскага каштана, туі заходняй, белай акацыі.

Грушаўскі палацава-паркавы ансамбль мае мемарыяльнае значэнне, патрабуе рэстаўрацыі палаца, мураванкі, стварэння ў ёй мемарыяльнага музея Тадэвуша Рэйтана і ўключэння ансамбля ў турыстычныя маршруты Брэстчыны.

Ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 72.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 220.*
[3] *Тамсама.*
[4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея. (III – R.A. 4462).*
[5, 6] *Фота аўтара. 2000 г.*
[7] *Фота С.Саласецкай. 1999 г.*

# Каранеўшчына
# Korzeniewszczyzna
# Кореневщина

Колішні фальварак роду Марціноўскіх[1]. Да 1939 г. сядзіба належала роду Лопатаў. Пасля 2-й сусветнай вайны ў маёнтку размяшчаліся школа, пасля кантора сельгастэхнікі, сельгасхіміі і, нарэшце, праўленне








*Каранеўшчына. Галоўны і бакавы фасады палаца*[2].

мясцовага калгаса. Захаваліся палац, часткова парк. Ансамбль займаў роўную плоскую тэрыторыю плошчай каля 4 га.

Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца мураваны сядзібны дом асіметрычнай складанай канфігурацыі, прадстаўлены аб'ёмамі рознай велічыні. Палац мае два паверхі, трэці мансардны. Цэнтральны фасад акцэнтаваны масіўным ганкам, размешчаным не па сярэдняй восі палаца, а з



*Каранеўшчына. Паркавы фасад палаца*[3].

левага боку. Ганак мае адкрыты характар, абкружаны масіўнымі мураванымі калонамі.

Дах быў накрыты жалезам. Праёмы вакон прамавугольныя.




*Каранеўшчына. Схема парку.*

Паркавы фасад палаца па цэнтры вылучаны высокім неглыбокім рызалітам, завершаным зверху трохвугольным шчытком. Па цэнтры рызаліта на ўзроўні 2-га паверха размешчаны балкон з балюстрадай.

Палац быў пабудаваны ў канцы XIX ст., неаднаразова і часткова перабудоўваўся, але ў асноўным захаваў аўтэнтычнасць. У савецкі час да асноўнага аб'ёму з правага боку дабудавана двухпавярховая прыбудоўка.

Кампазіцыя парку моцна парушана.

Уязная алея абсаджана ліпамі, сустракаюцца адзінкавыя дрэвы мясцовых парод.

Захаваўся адзін экзэмпляр лістоўніцы, якая расце побач з палацам па цэнтры тыльнага фасада.

Сажалка невялікая, прамавугольнай формы, нядаўна была ачышчана.

Палацава-паркавы ансамбль мае перспектыву выкарыстання, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Список землевладельцев Минской губернии... С. 95.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Лабузы
# Łabuzy
# Лабузы

Сядзіба. Размешчана на паўночна-ўсходнім ускрайку в. Лабузы Конькаўскага сельскага Савета. Сядзібу абкружае маляўнічае наваколле правага берага р. Шчары. Яна займае плошчу каля 4,5 га.

Цэнтрам кампазіцыі ансамбля з'яўляецца сядзібны дом. Будынак мураваны, у плане мае форму прадаўгаватага прамавугольніка, аднапавярховы, накрыты высокім чатырохсхільным жалезным дахам. Сцены і калоны атынкаваныя.

Па цэнтры галоўнага і паркавага фасадаў існуюць невялікія порцікі з элементамі класіцызму. Паркавы порцік чатырохкалонны з шырокім трохвугольным шчытком, у якім размешчана паўакруглае шасцісекцыйнае дахавае акенца.

Галоўны фасад мае пяць прамавугольных вакон, вылучаны значна меншым порцікам на дзвюх мураваных калонах, на якія абапіраецца гладкі трохвугольны шчыток.



*Лабузы. Галоўны фасад палаца*[1].











*Лабузы. Паркавы фасад палаца*[2].

У палацы было восем пакояў. Пасля 2-й сусветнай вайны ў палацы месціліся пачатковая школа і жыллё для настаўнікаў. Пасля закрыцця школы будынак доўгі час выкарыстоўваўся ў якасці мясцовай крамы. У сярэдзіне 1990-х гадоў крама была зачынена, палац стаў безгаспадарным, занядбаным і разрабаваным.

Разам з будаўніцтвам палаца ў 2-й палове XIX ст. быў закладзены пейзажны парк. Асноўны дрэвастой яго складаюць ясені, клёны, каштаны, дубы, ліпы старога ўзросту. Кампазіцыя парку праглядаецца слаба.

У агульны комплекс уваходзіў шэраг мураваных гаспадарчых аб'ектаў, пабудаваных значна пазней (стайня, абора, свіран), якія таксама цяпер занядбаны і не выкарыстоўваюцца.

Рэшткі сядзібы павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Ляхавічы
# Lachowicze
# Ляховичи

Старадаўні палац роду Масальскіх. Да 1492 г. Ляхавічы ўжо мелі статус мястэчка. З 1535 г. Ляхавічы знаходзіліся ва ўласнасці роду Гаштольдаў, якія ўзвялі тут касцёл. У 1551 г. маёнтак перайшоў ва ўласнасць караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста. У 1572 г. у выніку абмену на маёнтак Свіслач Ваўкавыскага павета Ляхавічы перайшлі ва ўласнасць знакамітага і заможнага на Беларусі роду Хадкевічаў[1].

Пры Хадкевічах на левым беразе ракі Ведзьмы замест невялікага драўлянага замка быў пабудаваны магутны бастыённы замак.

У 1621 г. пасля смерці Яна Караля Хадкевіча яго маёнткі, у тым ліку і Ляхавіцкая фартэцыя, адышлі ў спадчыну яго дачцэ Галіне, якая была ў шлюбе з сынам Льва Сапегі Янам Станіславам Сапегам. Пасля яе смерці ў 1625 г. усе маёнткі сталі ўласнасцю Сапегаў, спачатку брата Яна Сапегі Казіміра Льва Сапегі (каля 1609—1656), падканцлера ВКЛ, а пасля Казіміра, згодна з яго завяшчаннем, гаспадаром Ляхавіч стаў канцлер ВКЛ Павел Ян Сапега (1610—1665).

У сваю чаргу ён перадаў Ляхавічы свайму малодшаму сыну Францішку Стафану, кашталяну браслаўскаму і бабруйскаму. Пасля смерці Францішка ў 1686 г. наступным гаспадаром Ляхавіч і навакольных маёнткаў быў яго сын Юрый Феліцыян, ваявода мсціслаўскі. У 1727 г. Ежы Сапега прадаў маёнтак Гераніму і Кацярыне Выжагерд Галдовіч[2].

Пасля смерці бацькі спадкаемніцай Ляхавіцкага маёнтка стала адзіная дачка Юрыя Мар'яна, замужняя ў першым шлюбе за Ігнаціем Казьмінскім, у другім шлюбе — за Людвікам Домбскім. Пасля забойства яе першага мужа ў Польшчы яна перасялілася і стала жыць на Беларусі, у Ляхавічах. У 1760 г. Мар'яна Домбская прадала Ляхавічы Міхаілу Юзафу Масальскаму. На той час у склад Ляхавіцкага маёнтка ўваходзілі фальваркі Старыя Ляхавічы, Ажэвічы, Жарабковічы, Зубялевічы, Голдавічы, Мыслабаж, Літва і Вадзяжым.

Паводле даследавання Р.Афтаназы, пасля Міхаіла Масальскага Ляхавічы па спадчыне перайшлі яго сыну Ігнацію Якубу (1726—1794). Ігнацій Масальскі быў віленскім епіскапам, а таксама старшынёй Камісіі Народнай адукацыі Рэчы Паспалітай.

У 1793 г. маёнтак Хлапенічы і «Ляхавіцкае графства»



*Ляхавічы. Агульны выгляд палаца*[5].

перайшлі ва ўласнасць барскага канфедэрата, гетмана ВКЛ Шымана Марціна Корвін-Касакоўскага (1741—1794), жанатага з Тэрэзай, дачкою графа Патоцкага, валынскага губернатара.

У сувязі з тым, што Касакоўскі застаўся без нашчадкаў, уся маёмасць маёнтка перайшла яго пляменніку, ваеннаму палкоўніку, паслу 4-гадовага Варшаўскага сейма Юзафу Дамініку Касакоўскаму, пашлюбленаму з Людвікай Патоцкай. Яна прынесла Патоцкім пасаг з 16 вёсак і фальваркаў. Юзаф Дамінік Касакоўскі быў на той час адным з багацейшых магнатаў на Беларусі.

Пасля Юзафа Дамініка гаспадаром Ляхавіч стаў яго сын Станіслаў Шчасны Касакоўскі (1795—1872). Ён быў знакамітай асобай, у свой час абраны ў Дзяржаўны савет Польскага каралеўства.

На тэрыторыі Ляхавіцкага ключа ён стварыў ардынацыю і атрымаў тытул ардыната, а пасля яго ардынатам Ляхавіч стаў яго сын граф Станіслаў Аляксандр Касакоўскі (1837—1905). Пасля Станіслава Аляксандра Ляхавіцкая ардынацыя перайшла да яго сына Юзафа Станіслава Касакоўскага, пашлюбленага з Марыяй Хадкевіч, дачкою Яна Караля і Актавіі Фалькоўскай.

У 1760 г. на месцы разбуранай Ляхавіцкай фартэцыі Міхаіл Юзаф Масальскі пабудаваў цікавы па архітэктуры палац[3]. Вонкавы выгляд палаца данёс да нашага часу






адзіны малюнак, выкананы пэндзлем невядомага мастака напярэдадні 1-й сусветнай вайны (1913 г.). Дакладна невядома, ці адпавядаюць рэчаіснасці дробныя архітэктурныя рысы палаца, ці мастак праявіў элементы фантазіі. Тым не менш агульнае ўяўленне пра палац мы можам мець.

Будынак палаца быў аднапавярховы, верагодна, мураваны. З боку галоўнага пад'езда быў ганак, над якім узвышаўся балкон, абнесены балюстрадай.

Асноўны будынак меў у плане форму выцягнутага прамавугольніка, на нізкім падмурку, вокны квадратныя, чатырохсекцыйныя, накрыты высокім гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам з двума сіметрычна размешчанымі комінамі.

З абодвух бакоў палаца на блізкай адлегласці стаялі два флігелі з высокімі стогападобнымі дахамі, накрытымі гонтай. Вокны цэнтральнага фасада флігеляў мелі падоўжную форму, былі падзелены на 10 секцый кожнае. Колькасць унутраных памяшканняў і іх аздоба невядомыя.

Перад галоўным уваходам па цэнтры партэра мелася клумба. Палац абкружаў невялікі парк.

Як адзначае даследчык Раман Афтаназы, асноўная інфармацыя пра палацы і сядзібы Ляхавіцкай ардынацыі змяшчаецца ў манаграфіі «Сапегі. Т. 2. СПб., 1891»[4].

Палац Масальскіх быў, верагодна, знішчаны ў час першай сусветнай вайны. Ляхавічы з'яўляюцца радзімай знакамітага мемуарыста, пісьменніка і грамадскага дзеяча XVI ст. Фёдара Еўлашоўскага.

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 74.*
[2] *Тамсама. С. 43.*
[3] *Aftanazy R.Dzieje... S. 236.*
[4, 5] *Тамсама. С. 237.*

# Мазуркі
# Mazurki
# Мазурки

Старадаўняя сядзіба. Вядома паводле малюнка мастака Ю.Смалінскага, які пабываў у Мазурках у пачатку XX ст.[1]

Аднапавярховы сядзібны дом уяўляў сабой арыгінальнае ўвасабленне ў дрэве элементаў класіцызму. Будынак у плане меў прамавугольную форму, быў накрыты гонтавым вальмавым дахам. Дах высокі, чатырохсхільны, з двума сіметрычна размешчанымі комінамі.



*Мазуркі. Агульны выгляд сядзібнага дома[3].*



*Мазуркі. Галоўны фасад і план сядзібнага дома[4].*

Галоўны фасад дома меў на крылах па пары вялікіх квадратных вакон з аканіцамі, сцены былі ашаляваны вертыкальнай шалёўкай.

Цэнтр галоўнага фасада вылучаны невялікім адкрытым ганкам з высокім трохвугольным шчытком, які меў па цэнтры прамавугольнае акенца і абапіраўся на 2 пары сіметрычна размешчаных невялікіх калон.

Сядзіба, на жаль, не захавалася. Малюнак мае навуковы інтарэс, таму што адлюстраваў развіццё планіроўкі дамоў і паступовы пераход да будаўніцтва складаных будынкаў. У такіх дамах і палацах пад адным дахам аб'ядноўвалася даволі значная колькасць розных па прызначэнні памяшканняў, ішло ўскладненне вальмавых, паўвальмавых, двухсхільных дахаў. Як бачна на малюнку, дах мазуркаўскага сядзібнага дома набыў значную ламанасць[2].

Вёска Мазуркі ў гістарычнай літаратуры ўпамінаецца з 1592 г. і мела назву Мазуркаўшчына[5].

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 96.*
[2] *Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства... С. 51, 52.*
[3] *Кулагин А.Н. Архитектура... С. 88.*
[4] *Лакотка А.І. Пад стрэхамі прашчураў... С. 172.*
[5] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 74.*

# Малышы
# Małyszy
# Малыши

Тыповая колішняя сядзіба сярэдняга дабрабыту, належала роду Навіцкіх. Размяшчалася побач з в. Малышы. Складалася з сядзібнага дома, парку, гаспадарчых пабудоў і сада. Захаваліся асобныя элементы сядзібы.

Рэшткі сядзібы маюць плошчу каля 1,5 га. З паўночна-










*Малышы. Сядзібны дом[1].*

заходняга і паўднёва-заходняга бакоў яна была абсаджана клёнам, ясенем, ліпай, бэзам і дубам.

У цэнтры ансамбля сядзібны дом, пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва. Дом невялікі, аднапавярховы, быў накрыты высокім гонтавым дахам, абкружаны адзінкавымі дрэвамі мясцовых лісцевых парод.

Пасля 2-й сусветнай вайны ў сядзібе размяшчалася школа, якая потым перабудавана пад жыллё.

Сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Мыслабаж
# Mysłobóż
# Мыслобож

Адзін з колішніх фальваркаў, які ўваходзіў у склад маёнтка роду Касакоўскіх. Паводле «Спіса землеўладальнікаў Мінскай губерні» гаспадаром вёсак Мыслабаж, Ляхавічы, Камянка, Гулічы, Жарабковічы, Зубялевічы і інш. у 1876 г. быў Станіслаў Станіслававіч Касакоўскі[1].

У сядзібна-паркавы ансамбль да 1939 г. уваходзілі сядзібны дом, шэраг гаспадарчых збудаванняў, парк і сад.

Сядзібны дом пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, мансардны, накрыты высокім чатырохсхільным гонтавым дахам. Быў разабраны адразу пасля вайны на гаспадарчыя патрэбы мясцовага калгаса. Свіран, абора, стайня разабраны пазней. Захаваўся адзіны гаспадарчы аб'ект — мураваны склеп, які знаходзіцца ў параўнальна добрым стане.



*Мыслабаж. Фрагмент паркавай алеі[2].*

Захаваліся таксама рэшткі пейзажнага парку агульнай плошчай каля 6 га. На месцы парку размешчана Мыслабажскае лясніцтва. Кампазіцыя парку значна парушана. У пасляваенныя гады дрэвастой моцна высечаны, разрэджаны. Захавалася шырокая ўязная алея, абсаджаная бярозамі. З захаду сядзібу ахінае рэчка Міхайлаўка, якая нясе свае воды ў Шчару. Сядзіба размяшчалася на высокім беразе рэчкі і выглядала вельмі маляўніча.

У сучасны перыяд распрацаваны праект закладкі тут дэндрарыя плошчай 4,5 га. Рэшткі сядзібы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г... С. 198—200.*
[2] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Мядзведзічы
# Niedźwiedzicze
# Медведичи

Вёска да 1483 г. была ва ўласнасці каталіцкай царквы (Віленскага біскупа). Тут у сярэдзіне XV ст. быў пабудаваны адзін са старадаўніх касцёлаў. У 1588 г. Мядзведзічы — маёнтак Віленскага каталіцкага біскупа кардынала Я.М.Радзівіла, які дбайна аберагаў каталіцызм. Ён загадаў выслаць за межы Мядзведзіцкай парафіі праваслаўнага святара, а зямлю, якой ён карыстаўся, перадаць касцёлу. Распараджэнне тлумачыў тым, што ў сваім маёнтку не хоча надалей мець «рускага святара», бо гэта вядзе да аслаблення адзінства веры[1].

Мядзведзіцкі маёнтак на працягу чатырох з палавінай стагоддзяў належаў каталіцкім біскупам. У XVIII ст.



*Мядзведзічы. Месца, дзе стаяў сядзібны дом. На пярэднім плане рэшткі сакральнай капліцы[3].*

Мядзведзіцкі маёнтак дасягнуў вялікіх памераў і багацця. Захаваўся інвентар 1774 г., паводле якога ў склад Мядзведзіцкага ключа з цэнтрам у Мядзведзічах уваходзілі вёскі Савейкі, Лапацічы, Гайнінец, Гайнін, Куршынавічы, Цыгань, Смаленікі, Малышы, Тальмінавічы, а таксама 12 засценкаў і фальваркаў[2]. У 1-й палове XX ст. у Мядзведзічах была пабудавана сельская школа.






*Мядзведзічы. Млын*[4].

Будынак школы захаваўся да сённяшняга часу, уяўляе сабой двухпавярховы аб'ём у форме прамавугольніка, другі паверх мансардны.

Побач са школай размешчана мураваная капліца.

Парк страціў кампазіцыю. Сустракаюцца адзінкавыя дрэвы мясцовых парод. Сядзібны дом разбураны ў пасляваенны час. Побач з яго руінамі знаходзяцца рэшткі сакральнай хрысціянскай святыні.

Будынак школы і руіны капліцы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 38.*
[2] *Тамсама. С.46.*
[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Нача
# Nacza
# Нача

Палацава-паркавы ансамбль. У гістарычнай літаратуры звесткі пра сяло Нача сустракаюцца з 1566 г., як уласнасць караля Жыгімонта II Аўгуста. У 1567 г. Нача падаравана каралём Навагрудскаму шляхціцу А.Брындзу, а затым пацверджана яму, яго жонцы і дзецям[1].

З таго часу маёнтак пачаў звацца па прозвішчы гаспадара — Нача Брындзоўская. Ён размешчаны на р. Начы, якая нясе свае воды ў р. Лань.

Паводле звестак, атрыманых ад апошніх гаспадароў маёнтка, землі Начы належалі некалі ордэну езуітаў.

Пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. маёнтак Нача быў канфіскаваны царскім урадам у ордэна езуітаў і перададзены роду Масальскіх. Праз хуткі час (на мяжы XVIII і XIX ст.) яго выкупіў гаспадар Малых Савіч і Ляцешына — Францішак Ксаверы Чарноцкі.

Пасля Ксаверыя ў маёнтку гаспадарылі яго старэйшы сын Міхаіл, потым старэйшы сын Міхаіла Казімір і, нарэшце, апошнім гаспадаром маёнтка быў сын Казіміра Міхаіл Чарноцкі.

Палац, які існаваў да 1905 г. у нязменным выглядзе, быў узведзены ў 1810—1815 гг. Міхаілам Чарноцкім, сынам Ксаверыя. У 1905—1910 гг. паводле праекта архітэктара А.Крыжаноўскага быў значна перабудаваны і пашыраны[2].

Спачатку палац выглядаў наступным чынам: будынак яго ў плане меў прамавугольную форму, з высокімі вокнамі, быў накрыты гладкім чатырохсхільным дахам. З боку галоўнага пад'езда існаваў порцік на шасці мураваных калонах. Порцік быў вышэйшы за асноўную пабудову.



*Нача. Фрагмент саду*[5].

Перабудова палаца і двара па новым праекце заключалася ў падвышэнні бакавых крылаў да вышыні цэнтральнай часткі будынка, замена даху на гладкі двухсхільны. Такім чынам, былі падвышаны нізкія пакоі,



*Нача. Галоўны фасад палаца*[4].



*Нача. Сажалка*[6].









вокны якіх атрымалі добрую мастацкую аздобу. Акрамя таго, былі дабудаваны вялікія тэрасы, гаспадарчыя і службовыя памяшканні. Франтоны засталіся з круглымі вокнамі (люкарнамі), астатнія вокны палаца атрымалі прамавугольную форму.

Будынак налічваў 10 пакояў. Унутраны парквы фасад палаца захаваў ранейшы від. Адразу з пярэдняга пакоя направа былі дзверы, якія вялі ў вялікі пакой сталовай з трыма вокнамі. Налева размяшчаўся пакой для прыёму гасцей. Усе сцены пакояў былі пафарбаваныя, падлога з дошак, пакрытая лакам, толькі ў спальным пакоі было чатыры каміны, аздобленыя кафляй. У 1890 г. была перабудавана печ з зялёнай кафляй на камін цёмна-бронзавага колеру.

У палацы была мэбля ў стылі Людовіка XV, якая складалася з 2 сталоў, кушэткі, 6 крэсел і люстры. Уся мэбля была пазалочаная і аздобленая разьбой. Мелася таксама шмат іншай мэблі нявызначанага стылю, вырабленай мясцовымі майстрамі ў пачатку XIX ст. Каштоўных карцін не было, вісела некалькі партрэтаў прадстаўнікоў роду Чарноцкіх. У палацы існавала бібліятэка, у якой быў




*Нача. Схема парку.*

кнігазбор навейшага часу. Побач з мастацкай літаратурай стаялі слоўнікі, энцыклапедыі, грамадская літаратура, кнігі па гісторыі і філасофіі.

Перад палацам знаходзіўся вялікі газон, да якога вяла шырокая ўязная алея, абсаджаная італьянскімі таполямі. На правым баку газона стаяў аднапавярховы флігель, накрыты гладкім чатырохсхільным дахам.

Адначасова з узвядзеннем палаца быў закладзены невялікі пейзажны парк плошчай некалькі гектараў. Большасць дрэў была лісцевых парод, аднак сустракаліся елкі і сосны. З заходняга боку ансамбля цягнулася другая алея, абсаджаная таксама таполямі. У межах гэтай часткі парка стаяў круглы каменны стол на нізкай падстаўцы.

Палац утрымліваецца ў добрым стане, парк таксама ў асноўным захаваў кампазіцыйную форму. У парку растуць ліпы, ясені, клёны, вязы. Групы дрэў і асобныя дрэвы (салітэры) спалучаюцца з невялікімі палянамі. У 2-й палове XIX ст. у парку з'явіліся экзатычныя дрэвы. Паступова ён набываў рысы натуралістычнага парку.

У Начы захаваліся рэшткі сонечнага гадзінніка і вельмі рэдкія для Беларусі віды раслін. Старэйшы ў рэспубліцы экзэмпляр арэха чорнага дасягае ў вышыню 25 м пры дыяметры ствала 81 см. Расце таксама конскі каштан васьмітычынкавы з Паўночнай Амерыкі. Раней на парадным фасадзе вілася адна з найпрыгажэйшых ліян з усходняга Кітая — вістэрыя кітайская[3]. Ансамбль у в. Нача — унікальны помнік палацава-паркавага мастацтва.

*[1] Памяць. Ляхавіцкі раён... С.75.*
*[2] Aftanazy R. Dzieje... S. 270.*
*[3] Федорук А.Т. Дворцово-парковое искусство... С.32.*
*[4] Фота аўтара. 2000 г.*
*[5,6] Фота С.Саласцецкай. 1999 г.*

# Нача Свянціцкая
# Nacza Święcicka
# Нача Свентицкая

Былы фальварак. Сядзіба да 1939 г. належала роду Свянціцкіх. Ансамбль размешчаны за 2,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Нача.

Захаваліся асобныя элементы ансамбля: парк, палац, гаспадарчыя пабудовы, сажалкі, фамільныя могілкі.



*Нача Свянціцкая. Сядзібны дом[1].*

Палац драўляны, двухпавярховы, у плане мае форму прамавугольніка, пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. Галоўны фасад вылучаны высокім порцікам на 4 драўляных слупах. Другі паверх палаца мансарды. Будынак спачатку быў накрыты гладкім гонтавым дахам, пазней



*Нача Свянціцкая. Фрагмент парку[2].*










*Нача Свянціцкая. Схема парку[3].*

перакрыты бляхай, пасля вайны – шыферам. Унутраная планіроўка мае калідорны тып. Цяпер у колішнім палацы пражываюць больш за 10 сямей.

Побач з палацам размешчаны драўляныя збудаванні склада і свірна, накрытыя жалезнымі дахамі. Гаспадарчыя будынкі знаходзяцца ў аварыйным стане, палац таксама патрабуе рамонту.

Парк быў закладзены ў пачатку XIX ст. Мае плошчу каля 7 гектараў. У парку растуць ліпы, дубы, каштаны, клёны, іншыя пароды. Асобныя дрэвы маюць узрост па 150—180 гадоў. Парк занядбаны, патрабуе добраўпарадкавання і падтрымкі. Сажалкі знаходзяцца побач з фамільнымі могілкамі, якія таксама занядбаны.

Свянціцкі палацава-паркавы ансамбль патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*
[3] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*

# Паўлюкоўшчына Pawlukowszczyzna Павлюковщина

Вёска Паўлюкоўшчына вядома паводле пісьмовых крыніц з 1535 г.[1] У XVI ст. сядзіба належала роду Гаштольдаў, Хадкевічаў і, нарэшце, з XIX ст. роду графаў Чарноцкіх. Размяшчалася ў маляўнічай мясцовасці побач з вёскай Жарскія. Ансамбль займаў плошчу каля 8 га. Палац быў пабудаваны з дрэва не пазней 1-й паловы XIX ст. Яго будынак меў у плане форму падоўжанага прамавугольніка, аднапавярховы, на высокім падмурку і з высокім чатырохсхільным дахам і ганкам на невялікіх драўляных слупах. Знішчаны ў пасляваенны час разам гаспадарчымі пабудовамі, якія былі разабраны на патрэбы мясцовага калгаса. У цэнтры парку пасля вайны быў пабудаваны жылы дом, які таксама разабраны ў пачатку 1990-х гадоў. Тэрыторыя парку пачала забудоўвацца індывідуальнымі жылымі дамамі.



*Паўлюкоўшчына. Уязная дарога да парку[1].*

Рэшткі парку выглядаюць вельмі маляўніча. Парк пейзажны. Дрэвы маюць вельмі стары ўзрост (каля 200 гадоў). Побач месціцца пладовы сад. Уязная алея мае шырыню каля 8 м. Асноўны дрэвастой складаюць мясцовыя пароды. Кампазіцыя парку значна парушана, яго тэрыторыя занядбана, не выкарыстоўваецца.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 75.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Рэпіхава Repiechowo Репихово

Колішні палацава-паркавы ансамбль. Размешчаны побач з в. Крывошын. У гістарычнай літаратуры с. Рэпіхава ўпамінаецца з 1584 г. як уласнасць Радзівілаў, якія падаравалі маёнтак Нясвіжскай калегіі езуітаў[1].

У XVIII—XIX ст. маёнтак Рэпіхава знаходзіўся ва ўласнасці графаў Патоцкіх. У 1860-я гады гаспадаром Рэпіхава быў граф К.К.Патоцкі. У гэты перыяд маёнтак дасягнуў самых буйных памераў, займаючы 26,5 тысячы дзесяцін зямлі і ўключаў вёскі Крывошын, Востраў, Ліпск, Заліпенне, Залужжа і яшчэ 16 вёсак і фальваркаў Навагрудскага павета.

З гэтага часу графам Патоцкім вялося фарміраванне пейзажнага натуралістычнага парку ў Рэпіхаве, які з'яўляўся часткай палацава-паркавага ансамбля. Апошні ўключаў у сябе палац, флігель, стайню, лядоўню, склеп, тэнісную пляцоўку, сажалкі, агарод і інш. гаспадарчыя пабудовы, якія арганічна ўпісваліся ў агульны пейзаж. Збудаванні размяшчаліся асіметрычна ў адносінах да алеі, якая



*Рэпіхава. Схема парку[3].*









звязвала і аб'ядноўвала іх з вялікім гаспадарчым дваром.

Палац Патоцкіх быў двухпавярховы, у плане меў форму прамавугольніка. Разбураны ў пасляваенны час. Парк належыць да тыпу пейзажных натуралістычных. Яго грунтоўна абследаваў і апісаў А.Т.Федарук[2].

Парк размешчаны на плошчы больш за 6 га, мае форму выцягнутага прамавугольніка. Галоўная планіровачная вось кампазіцыі парку — ліпавая алея, шырыня якой складае каля 10 м. Алея перасякала парк з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, выконвала дэкаратыўную ролю.

Рэдкастойная пасадка дрэў (праз 8 м) і выцягнутасць парку ўздоўж восі забяспечвалі добрую бачнасць паркавага пейзажу. Водная сістэма парку складалася з 3 рознай велічыні і формы сажалак, шэрагу каналаў. У цэнтры самай вялікай сажалкі ёсць выспа. 2 каналы злучалі ўсходнюю сажалку з 2 меншымі, якія размешчаны з заходняга боку.

Дарога пралягала праз 2 аднаарачныя масткі, якія адначасова служылі відавымі пляцоўкамі. Сажалкі мелі не толькі дэкаратыўнае, але і гаспадарчае прызначэнне. У прыватнасці, ва ўсходняй сажалцы разводзілі шчупака, у заходніх – карася і карпа. Металічныя рашоткі ў каналах раздзялялі касякі рыб, што вырошчваліся ў сажалках.

У сучасны перыяд сажалкі ачышчаны, адноўлены масткі, якія сталі пешаходнымі.

За сажалкамі размешчана цэнтральная частка парку ў форме вялікай паляны, якая злёгку прыўзнята, па перыметры абсаджана групамі розных парод дрэў, у т.л. экзатычных. Злева існавала пляцоўка ў выглядзе круга з кветнікам і бегавой сцежкай для падрыхтоўкі коней. Цяпер гэты ўчастак узараны. Насупраць размяшчалася стайня для выязных коней, абнесеная сеткай, як і ўвесь парк, абсаджаная елкай. За цэнтральнай палянай ліпавая алея цягнулася далей паміж парадным партэрам і другой палянай з тэніснай пляцоўкай.



*Рэпіхава. Фрагмент парку[4].*

Палац графа і службовы флігель размяшчаліся на ўскрайку парку сярод розных груп дрэў (клён, ясень). З захаду парк аддзяляе ад саду алея, абсаджаная грабавымі дрэвамі. У глыбіні саду на ўзвышшы ў атачэнні дрэў месцілася альтанка.

На поўдні парку размяшчаўся агарод, які ўключаў парнікі, аранжарэю, дом садоўніка, сховішча гародніны, гадавальнік і невялікія ўчасткі поля, дзе вырошчвалася шмат паркавых ружаў, спірэі і інш.

Парк змяшчае 47 відаў раслін. Кветкі выкарыстоўваліся ў падбіўцы груп дрэў, узлескаў. Сустракаюцца экзатычныя пароды, у т.л. сосны (чорная і веймутава), дуб чырвоны, ліпа крымская і інш., якія служылі акцэнтамі ў групах альбо раслі асобна на палянах.

Самыя унікальныя сярод тых дрэў, што засталіся, гэта 3 дрэвы ясеня звычайнага аднаглістага, якія растуць разам з ліпай на цэнтральнай паляне. Іх вышыня складае 23—24 м, а дыяметр ствалоў 54—63 см.

З гістарычных крыніц вядома, што ў Рэпіхаве прайшлі дзіцячыя гады Яна Чачота, аднаго з бліжэйшых сяброў Адама Міцкевіча. Ян Чачот быў слынным паэтам, фальклярыстам, адным з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

У 1999 г. адноўлена і перанесена ў правы бок ад цэнтральнай сцежкі мемарыяльная дошка Яну Чачоту. На ўваходзе ў парк устаноўлена арыгінальна афармленая ахоўная дошка. Парк мае перспектыву выкарыстання, узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 75.*
[2, 3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 177–179.*
[4] *Фота С.Саласцецкай. 1999 г.*

# Савейкі
# Sowiejki
# Совейки

Палацава-паркавы ансамбль. Захаваўся ў добрым стане. У сучасны перыяд у ім размяшчаецца санаторная ўстанова. Паводле мемуараў Эдуарда Чапскага (1819—1888), у пачатку XIX ст. Савейкі належалі заможнаму роду князёў Бенігсенаў[1]. Пазней маёнтак выкупіў вайсковы палкоўнік Станіслаў Чапскі, які меў добрыя адносіны з князем Людвікам Радзівілам і меў ад яго значную дапамогу ў трыманні маёнтка. З нагоды банкруцтва Людвіка Радзівіла Станіслаў Чапскі вымушаны вярнуць маёнтак назад за вызначаную князем Бенігсенам цану. Гаспадаром Савеек стаў Л.Бенігсен, генерал-губернатар Літвы ў 1801—1806 гг., жанаты з Марыяй Бутаўт-Андрайковіч. Ад Бенігсена Савейкі выкупіў Хрыстафор Незабытоўскі. Яго дачка Валерыя выйшла замуж за Канстанціна Рдутлоўскага і прынесла Савейкаўскі маёнтак у якасці пасагу ў спадчыну свайго мужа. У 1860 г. Савейкі набыў род Навіцкіх[2], які гаспадарыў у маёнтку да 2-й сусветнай вайны.









*Савейкі. Галоўны фасад палаца*[4].

Увесь будынак быў накрыты нізкім двухсхільным дахам з франтонамі па абодва бакі.

Унутраная планіроўка і аздоба першапачатковага палаца практычна невядомая.

Гэтая кароткая інфармацыя дае падставу сцвярджаць, што колішні палац мог быць пабудаваны нават на мяжы XVIII—XIX ст.

Паводле апісання А.Т.Федарука, парк належыць да тыпу пейзажных перыяду рамантызму[3]. Ён захаваў у асноўным элементы колішняй кампазіцыі. Яго парадная частка мае сіметрычную планіроўку. Уязная алея, абсаджаная елкай і клёнамі, даўжынёй больш за 450 м, перасякаецца з папярочнай алеяй сядзібы і выходзіць на вялікі роўны парадны партэр. Па перыметры цэнтральная частка партэра была абсаджана ружамі. З заходняга боку за невялікімі групамі дрэў знаходзіцца прамавугольнай формы сажалка, па берагах якой растуць вербы, ясені. За новым палацам размешчана пейзажная частка парку, якая завяршаецца сажалкай з выспамі. Уздоўж кампазіцыйнай восі чаргуюцца невялікія паляны і групы дрэў, пераважна ліпаў і клёнаў. У большасці груп дамінуючым відам застаецца лістоўніца.

Ва ўсходняй частцы на месцы колішняга саду створаны суцэльны грабавы масіў, як і з паўднёва-ўсходняга боку. З-за высокай шчыльнасці пасадкі пад грабавымі кронамі няма зялёнага покрыва.

Паўднёва-заходняя частка парку складаецца з 3 сажалак рознай велічыні і формы з кароткімі каналамі (пратокамі) і дамбамі. Усе сажалкі злучаліся праз канал з партэрным вадаёмам. Акружны канал, які ахінаў парк з поўдня і захаду, меў меліярацыйнае значэнне, таму што ён быў звязаны з сажалкамі, а лішкі вады адводзіў у суседняе балота. Кампазіцыя з сажалкамі, створаная ў рамантычнай традыцыі, з'яўляецца найбольш лірычным месцам парку. Яе галоўным элементам быў востраў з мураванай альтан-

Цэнтрам кампазіцыі палацава-паркавага ансамбля з'яўляецца мураваны палац, адноўлены ці перабудаваны з колішняй рэзідэнцыі Навіцкіх, разбуранай у перыяд 2-й сусветнай вайны.

Дата ўзвядзення палаца дакладна невядомая, хоць на падмурках сённяшняга палаца маецца дата 1901 г. Верагодна, палац быў узведзены адначасова з закладкай парку ў 1850-я гады, а дата на падмурку нанесена ў перыяд рэканструкцыі будынка, таму апісаць выгляд колішняга палаца дакладна немагчыма. Як піша Эдуард Чапскі, ён нарадзіўся ў фальварку Заполле, які належаў маёнтку Савейкі. Яго бацькі пражывалі ў мураваным двухпавярховым палацы. Насупраць ганка, на шырокім двары была брама, далей дарога, абсаджаная таполямі. Палац у плане меў форму прамавугольніка, у сярэдняй частцы 2 паверхі, быў выкананы ў стылі барока, з аднапавярховымі крыламі. Двухпавярховая частка будынка ўяўляла сабой вялікі порцік з 8 масіўнымі муравáнымі калонамі, устаноўленымі парамі на аднолькавай адлегласці. Порцік служыў крытым навесам для пад'езду карэт, вазоў, брычак. Прыбудова з левага боку з'явілася значна пазней.



*Савейкі. Фрагмент парку*[5].



*Савейкі. Від на сажалку і гаспадарчыя пабудовы.*





15а Зак. 1023








*Савейкі. Схема парку*[6].

кай (не захавалася), да якой вёў перакідны масток (адноўлены ў 1999 г. з дрэва).

З усходу сядзіба была абсаджана ліпай, елкай і таполяй, з захаду мяжой служыў неглыбокі канал.

Да сённяшніх дзён у парку захаваліся карабельныя сосны ўперамешку з грабам. Добра бачны ў парку невялікі вал, які паказвае, што некалі ў ім існаваў звярынец.

Савейкаўскі палацава-паркавы ансамбль — унікальная гісторыка-культурная каштоўнасць, узятая на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 345.*
[2] *Słownik geograficzny. T. 10... S. 343.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 157–158.*
[4] *Фота аўтара. 1999 г.*
[5] *Фота С. Саласецкай. 1999 г.*
[6] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 156.*

# Сваятычы Swojatycze Своятичи

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, даўняе радавое гняздо Абуховічаў.

Мястэчка Сваятычы ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1506 г. як цэнтр маёнтка і шляхецкая ўласнасць, у якой кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь ВКЛ Аляксандр дазволіў яго тагачасным гаспадарам Пяткевічам праводзіць кірмашы, а ў 1507 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст пацвердзіў гэты прывілей іх нашчадкам.

Пасля Пяткевічаў Сваятыцкім маёнткам валодалі Давойны, Карыцкія, Казаноўскія, Фурсы, Пясецкія, Хадкевічы, Пузыны і інш.[1]

У XVIII ст. Сваятычы перайшлі да Абуховічаў, у прыватнасці, Міхаіла Абуховіча (1760—1844) кашталяна мінскага, які даволі плённа займаўся жывёлагадоўляй. Яго дачка Соф'я Абуховіч выйшла замуж за вайсковага палкоўніка Станіслава Чапскага (1779—1844) і свой пасаг (маёнтак Сваятычы) далучыла да ўласнасці мужа.

Потым па спадчыне маёнткам валодалі сын Соф'і і Станіслава Эдуард Чапскі (1819—1880), затым адна з дачок Эдуарда Вераніка Чапская (1854—1920). Апошнім гаспадаром Сваятыч быў сын Веранікі Генрых (1879—1948), які быў у шлюбе з Лізаветай Плятэр-Жыберк. Перад прыходам савецкай улады ў 1939 г. Генрых выехаў у эміграцыю, дзе ў г. Рыо-дэ-Жанейра памёр у 1948 г.

У 1876 г. у Сваятыцкім маёнтку пабываў Напалеон Орда, які пакінуў у мастацкай спадчыне 2 акварэлі з відамі палацава-паркавага ансамбля. Асновай кампазіцыі ансамбля быў цудоўны па архітэктуры і аздобе палацрэзідэнцыя, які пабудаваў у першай чвэрці XIX ст. Міхаіл Абуховіч. Паводле іншых крыніц, палац быў пабудаваны бацькам Міхаіла ў 1772г.[2]

Як прызнавалі тагачасныя шматлікія госці, Сваятыцкі палац і парк былі ў свой час самымі прыгожымі сярод існаваўшых у Навагрудскім ваяводстве.[3]

Творцамі гэтага шэдэўра палацава-паркавага мастацтва былі 3 італьянскія архітэктары, прозвішчы якіх, на жаль, засталіся невядомыя.

Франтальны фасад палаца быў павернуты на паўднёвы ўсход, вымураваны ён з цэглы, будынак двухпавярховы, ў плане прамавугольны. Першы паверх меў пакоі для жылля, на правым баку размяшчаліся 2 падвалы, на левым — кухня і харчовы склад.

Другі паверх меў рэпрэзентацыйны характар. Цэнтральная частка галоўнага фасада была вылучана высокім чатырохкалонным порцікам з балконам на другім паверсе, абнесеным кованай балюстрадай. Паміж першым і другім паверхамі і па перыметры будынак быў апаясаны профільным карнізам. Палац накрываў чатырохсхільны нізкі дах. Унутры ён меў калідорную планіроўку. З першага паверха на другі вяла цудоўная дубовая лесвіца. На першым паверсе размяшчалася вялікая квадратная зала, у якую можна было зайсці з бакавых калідораў. Гэтая зала



*Сваятычы. Від палаца з боку парку. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[7]









*Сваятычы. Від палаца з боку параднага пад'езда. З акварэлі Напалеона Орды. 1876 г.*[6]

атрымала назву «хрызалітавы грот».[4] Сцены залы былі абкладзены гранітам, па вуглах яе стаялі каменныя фігуры рыцараў у натуральную велічыню, якія трымалі ў руках бронзавыя падсвечнікі. Зала адначасова служыла летняй сталовай. Побач з залай размяшчаўся гардэроб. Чатыры вялікія пакоі з боку заезду і чатыры з боку парку служылі для жылля. Ідэнтычнае размяшчэнне пакояў меў другі паверх. Трэць яго плошчы займала зала, якая служыла зімовай сталовай. Побач размяшчаліся пакоі бібліятэкі, салона, рабочага кабінета і спальні гаспадара палаца.

Да 1914 г. увесь палац быў абстаўлены каштоўнай мэбляй. Вялікі салон быў абсталяваны камплектам мэблі ў стылі Людовіка XVI, крэслы і канапа мелі габеленавае пакрыцце, верх стала быў мармуровы, астатнія яго часткі пакрываліся залатой аздобай. Тут стаяў раяль фірмы Бехштайна. Мэбля ў бібліятэцы была выраблена з чорнага дубу ў стараіндыйскім стылі. У часы Чапскіх было шмат карцін, у тым ліку знакамітага мастака Юзафа Пешкі: «Берасцейская унія», «Выступленне Яна Замойскага супраць Жыгімонта III на Варшаўскім сейме», «Вызваленне Вены» і інш. Было шмат сямейных партрэтаў. Усё гэтае багацце знішчана ў гады 1-й сусветнай вайны. Насценная абшыўкі і габелены былі зняты невядомымі асобамі, таму што ўяўлялі велізарную каштоўнасць. Ацалеў толькі адзін камплект мэблі, накрытай габеленамі, і некалькі новых, а таксама вялікі партрэт Яна Плятар-Жыберка ў час палявання. Да 1939 г. было няшмат карцін, у асноўным на тэмы мясцовых падзей і пейзажы, выкананыя віленскімі мастакамі Міхаілам Чарноўскім, Фердынандам Рушчыцам і Станіславам Богуш-Сестранцэвічам. Усё, што ацалела пасля 1-й сусветнай вайны і рэвалюцыі, было знішчана ў 1939 г. Абрабаваная да голых сцен унікальная рэзідэнцыя была ўзарвана адступаючымі гітлераўцамі ў 1944 г.

Палац абкружаў вялікі пейзажны парк плошчай каля 65 га. Да параднага пад'езда палаца вяла алея, абсаджаная старымі ліпамі. Перад уязной брамай злева стаяла мураваная каплічка Святой Магдалены, накрытая жалезным чатырохсхільным дахам. Цэнтральная алея пачыналася ад галоўнай брамы на 2 мураваных слупах, накрытых па тыпу капліцы. Далей цягнулася агароджа са слупоў некалькі ніжэйшых, чым брама.

Па баках палаца стаялі аднапавярховыя мураваныя будынкі, накрытыя гладкім двухсхільным дахам. Вакол левага будынка, у якім размяшчалася пральня, раслі елкі, італьянскія таполі, арэхавыя дрэвы, бэз. Ад правага памяшкання (службовага) ліпавая алея цягнулася да сажалак. Вялікі прамавугольнай формы газон пралягаў па паўночна-заходнім баку палаца. На краі газона рос вялікі стары дуб, побач — старыя ліпы, клёны, вязы, ясені і інш. Праз сярэдзіну парка працякала невялікая рэчка Вядзьмянка, якая запаўняла сажалкі вадой.

Пасярэдзіне адной з сажалак месціўся астравок у выглядзе абаранка, які па цэнтры меў таксама невялікую сажалку.

У глыбіні парку за сажалкай стаяла капліца, якая мела назву «палацавая», дзе ў скляпеннях навечна спачылі продкі Абуховічаў. Вакол капліцы раслі высокія старыя ліпы. Пасля 1-й сусветнай вайны, калі быў спалены парафіяльны касцёл, яго функцыі выконвала капліца.

У кароткай нататцы часопіса «Ziemia» («Зямля») за 1911 г. датай узвядзення Сваятыцкага палаца пазначаны 1772 г., аднак гэта дата даволі спрэчная[5].

Цяпер ад Сваятыцкага палацава-паркавага ансамбля засталіся невялікія рэшткі парку. На яго параднай частцы пабудавана мясцовая школа, а тэрыторыя складаецца









з 2 тэрас з невялікім перападам. Верхняя тэраса (каля 1 га) уяўляе сабой прыгожы газон, ніжняя мае пейзажнае афармленне. З бакоў абедзве тэрасы абсаджаны групамі дрэў мясцовых парод. Захавалася невялікая сажалка, збераглася адна старая ліпа.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Ляхавіцкі раён... С. 75.*
[2] *Свод памятников... С. 290.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 363.*
[4,5] *Тамсама. С. 366, 369.*
[6,7] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея. (III - R.A. 4505, III - R.A. 4506).*

# Серкаўшчына
# Serkowszczyzna
# Серковщина

Старадаўні фальварак. Размяшчаўся паміж вёскамі Канюхі і Перахрэсце за 2 км ад вёсак. У XVI ст. маёнтак належаў Я.К.Хадкевічу.

Захавалася ўязная алея даўжынёй каля 350 м. Існуе колішні пладовы сад, плошча якога складае некалькі гектараў.

Маецца невялікая сажалка акруглай формы, якая абмялела і зарасла. Парк быў закладзены ў 2-й палове XIX ст. Ад парку засталіся адзінкавыя дрэвы мясцовых парод. Побач з месцам, дзе стаяў сядзібны дом, захавалася студня.

Палац, як і парк, быў закладзены у 2-й палове XIX ст., пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, з традыцыйным ганкам, накрыты гладкім гонтавым дахам.

У пасляваенны час у ансамблі была размешчана жывёлагадоўчая ферма. Палац знішчаны, унутраная планіроўка яго невядомая, фотаздымкі вонкавага выгляду




*Серкаўшчына. Схема сядзібы.*



*Серкаўшчына. Фрагмент уязной алеі[1].*

адсутнічаюць. Апісанне палаца выканана паводле ўспамінаў старажылаў навакольных вёсак.

[1] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Тафелін
# Tafelin
# Тафелин

Колішняя сядзіба, размешчаная паміж вёскамі Падлессе і Пранчакі.

У сучасны перыяд ад сядзібы засталіся толькі рэшткі парку.

Сядзібны дом быў пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. з дрэва пасярэдзіне парка. Будынак у плане меў форму прамавугольніка, быў накрыты невысокім гонтавым дахам, над якім узвышаліся 2 сіметрычна размешчаныя коміны. Сцены звонку былі гладкія, нешаляваныя, вокны



*Тафелін. Фрагмент уязной алеі[1].*







прамавугольныя, невялікія. З боку параднага пад'езда фасад дома быў вылучаны невялікім ганкам на двух слупах. Аналагічна быў аздоблены тыльны (паркавы) фасад. Будынак сядзібы праіснаваў да пачатку 1990-х гадоў. У пасляваенны перыяд ён выкарыстоўваўся пад жыллё для калгаснікаў мясцовага калгаса. Пасля пераходу апошняй сям'і на новае месца жыхарства сядзіба засталася безгаспадарнай і ў пачатку 1990-х гадоў канчаткова разбурана.

Пейзажны парк фарміраваўся з XIX ст. Добра захавалася ўязная алея. Па перыметры старадаўняга парку яшчэ растуць ліпы, клёны, акацыі, бэз. На паўночна-ўсходнім ускрайку паркавага ансамбля засталіся паўразбураныя гаспадарчыя збудаванні. Шмат чаго ў Тафелінскім ансамблі знікла назаўсёды, значна парушаны яго планіроўка і кампазіцыйная форма. Захавалася толькі сажалка, якая цяпер занядбана, зарасла хмызняком.

Рэшткі парку маюць навукова-пазнавальнае значэнне, патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Фларыянава (Флер'янова)
# Florianów
# Флорианово

Мемарыяльны палацава-паркавы ансамбль. Захаваўся ў параўнальна добрым стане. Да 2-й паловы XIX ст. на гэтым месцы было чыстае поле. Гэтыя землі перайшлі ў спадчыну Яну Отану Бохвіцу (1855—1915) ад бацькі Фларыяна, пісьменніка і філосафа, жанатага з Паўлінай Маеўскай, роднай сястрой маці Адама Міцкевіча Барбары Маеўскай. Сам Ян Бохвіц маладым афіцэрам расійскай арміі прымаў удзел у Крымскай вайне, а пасля яе заканчэння атрымаў шырокую папулярнасць у сваіх родных мясцінах як гарачы прыхільнік скасавання прыгонніцтва. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г. быў кінуты за краты ў Дынабургскую крэпасць. Пасля году турмы быў памілаваны, пасля чаго шчыра ўзяўся за працу па аднаўленні разбураных уласных сядзіб. Спачатку пабудаваў палац непадалёку ад в. Вошкаўцы і назваў яго імем бацькі — Фларыянава, а заклаўшы новы палацава-паркавы ансамбль на р. Качарэшцы пад Баранавічамі, назваў яго імем сваёй маці — Паўлінава[1].

Ян Отан Бохвіц належаў да кагорты тых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія жылі рэфарматарскім духам.

У сваім спадчынным і адноўленым маёнтку Фларыянава ён заклаў эксперыментальны сад, у якім вырошчваў новыя гатункі пладовых дрэў, што прыносіла гаспадарцы даволі высокія даходы.

Пасля Яна Отана, жанатага з Феліцыяй Булгак, маёнтак перайшоў да яго сына Тадэвуша (1863—1930), пашлюбленага з Браніславай Цывінскай. Тадэвуш Бохвіц быў блізкім сябрам Элізы Ажэшкі. Пасля Тадэвуша Фларыянавам валодаў яго сын Ян Бохвіц (1894—1937), жанаты з Марыяй Гольстэн. Апошнімі гаспадарамі маёнтка да 2-й сусветнай вайны былі блізкія родзічы Яна Бохвіца.

Палац быў пабудаваны Янам Отанам Бохвіцам каля 1870 г. Будынак быў драўляны, узведзены на высокім падмурку, часткова аднапавярховы, часткова мансардны. З боку парку існавала веранда. Палац быў накрыты гладкім гонтавым дахам. У хуткім часе палац стаў цесным, таму з двух бакоў былі дабудаваны ў стылі неаготыкі мураваныя прыбудоўкі.

Пасля заканчэння будоўлі і рэканструкцыі палац налічваў 19 пакояў (15 на першым паверсе і 4 на другім). На другім паверсе знаходзіўся вялікі салон, аздоблены ў неагатычным стылі. У палацы не было старадаўняй спадчыннай мэблі, а толькі набытая ў час будаўніцтва палаца. На першым паверсе акрамя бібліятэкі існавала сталовая. На сценах пакояў першага і другога паверхаў вісела невялікая калекцыя малюнкаў мастакоў Арлоўскага і Фялінскага. Перад 1-й сусветнай вайной частка мастацкіх твораў і літаратуры была перавезена ў Нясвіжскі палац.

Пры будаўніцтве палаца вакол яго быў закладзены унікальны парк. Алея вяла да палаца ад уязной брамы, якая яшчэ ў 1-ю сусветную вайну была разрабавана. Дзверы брамы як арыгінальная каштоўнасць былі зняты і вывезены кайзераўцамі ў Германію[2].

Паміж брамай і палацам цягнуўся доўгі газон, абсаджаны жывой агароджай. Пасярэдзіне газона расла вялікая ліпа. Газоны з кветкавымі клумбамі абкружалі палац з усіх бакоў.


*Фларыянава. Галоўны і бакавы фасады палаца[3].*











*Фларыянава. Схема парку.*

Бохвіцы былі не толькі добрымі гаспадарамі, але і гасціннымі людзьмі, патрыятычныя і інтэлігентныя. Таму сядзіба прыцягвала слынных асоб з навакольных сядзіб. Частымі гасцямі тут былі Рэйтаны з Грушаўкі, Ажэшкі з Людвінава, Радзівілы з Нясвіжа і іншыя асобы. Цікавым сведкам мінулага з'яўляецца векавы дуб, пасаджаны тут Элізай Ажэшкай.

Сядзіба мае мемарыяльнае значэнне, узята на ўлік і пад ахову дзяржавы. Патрабуе капітальнай рэстаўрацыі і ў перспектыве выкарыстання пад мемарыяльны музей.

[1] *Несцярчук Л.М. Палацы, паркі, замкі Баранавіцкага раёна... С. 46.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 209.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г .*

## Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Маларыцкага раёна




*Астроўе (Востраў)*

*Паўлопаль*

*Велікарыта*

*Макраны*

*Батынь*

*Язвін*

*Маларыта*

*Існуючыя палацы, паркі, сядзібы*

*Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы*




# Астроўе (Востраў)
# Ostrów
# Остров

Мемарыяльная сядзіба, спадчыннае гняздо аднаго з выдатных кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. на Беларусі Рамуальда Траўгута.[1] Продкі Рамуальда Траўгута мелі саксонскае паходжанне і пасяліліся на тэрыторыі Рэчы Паспалітай у 1-й палове XVIII ст. Дзед Рамуальда Якуб Траўгут быў паплечнікам Тадэвуша Касцюшкі ў перыяд нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Бацька Рамуальда Людвік быў небагатым гаспадаром і арандаваў маёнтак Шастакова, што на Камянеччыне. Тут у 1826 г. нарадзіўся Рамуальд Траўгут.

Паводле картаграфічных матэрыялаў 1886—1911 гг., маёнтак раней меў назву Востраў. Побач, за 1 км на паўднёвы захад ад маёнтка, размяшчаўся хутар, які таксама меў назву Востраў. Пасля распрадажы маёнтка і забудовы сялянскімі сядзібамі вёска атрымала новую назву Астроўе.

Маёнтак Востраў Рамуальд Траўгут атрымаў у спадчыну ад дзеда па мацярынскай лініі ў 1861 г. Пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі Рамуальд паступіў на ваенную службу ў царскую армію, у 1862 г. выйшаў у адстаўку ў чыне падпалкоўніка і пераехаў у спадчынны



*Астроўе. Фрагмент парку[3].*



*Астроўе. Уязная дарога[4].*

маёнтак Востраў, дзе пражыў каля года. Менавіта тут яго наведала дэпутацыя арганізатараў нацыянальна-вызваленчага руху 1863 г. на Беларусі і прасіла ўзначаліць паўстанцкі атрад. Пасля кароткіх ваганняў Рамуальд Траўгут прыбыў на канспіратыўную сустрэчу ў маёнтак Божы Дар (пад Кобрынам), дзе даў згоду на ўдзел у паўстанні.

У красавіку 1863 г. узначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад, правёў шэраг баёў з царскімі войскамі на Палессі і Валыні. У ліпені 1863 г. з дапамогай Элізы Ажэшка тайна выехаў у Варшаву, дзе ўзначаліў агульнае паўстанне. Быў арыштаваны і пакараны смерцю царскім урадам. Сядзіба Востраў была канфіскавана і распрададзена. Апошнімі гаспадарамі маёнтка з'яўляліся прадстаўнікі роду Банклеўскіх[2].



*Астроўе. Месца, дзе стаяў сядзібны дом[5].*

У канцы 1920-х гадоў у сядзібе Востраў (Астроўе) адбылася вялікая ўрачыстасць, прысвечаная ўшанаванню 100-годдзя з дня нараджэння Рамуальда Траўгута і адкрыццю яму памятнага знака (камень і дубовы крыж). Як сведчыць адзін з найстарэйшых жыхароў хутара Паўлопаль Мацвей Гузюк (удзельнік гэтага свята ў раннім дзіцячым узросце), на ўрачыстасцях прысутнічаў вельмі стары ваенны, магчыма, адзін з удзельнікаў паўстання 1863 г. і паплечнікаў Рамуальда Траўгута.

Сядзіба Рамуальда Траўгута ў Востраве належала да ліку традыцыйных правінцыяльных палескіх асяродкаў. Да 2-й сусветнай вайны яна прываблівала наведвальнікаў і гасцей сваёй прыгажосцю, гасціннасцю і ўтульнасцю.

Сядзібна-паркавы ансамбль фарміраваўся з сярэдзіны XVIII ст. на ўзвышшы. Плошча ансамбля складала каля 10 га. Цэнтрам кампазіцыі быў драўляны сядзібны дом, пабудаваны, верагодна, у 2-й палове XVIII ст. продкамі Рамуальда Траўгута.











*Астроўе. Фрагмент парку[6].*

Захаваліся рэшткі пейзажнага парку плошчай да 4 га. Добра праглядаюцца перыферыйныя каналы, абсаджаныя дубам, ліпай, чаромхай, акацыяй.

Некалі каля сажалкі на высокім дубовым пастаменце стаяла драўляная фігурка Св. Яна, накрытая стогападобным дахам, які абапіраўся на 4 драўляныя слупы.




*Астроўе. Схема сядзібы[7].*

Нягледзячы на знішчэнне большай часткі парку, спадчынная сядзіба Рамуальда Траўгута з'яўляецца мемарыяльным месцам, мае навукова-пазнавальнае значэнне і патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

Мясцовай уладай разгортваецца работа па аднаўленні мемарыяльнага знака на ранейшым месцы і добраўпарадкаванні былога парку.

# Батынь
# Botyń
# Ботынь

Колішні фальварак роду Батынскіх. Размяшчаўся ва ўрочышчы Батынь за 2 км на поўнач ад в. Арлянка і за 1 км на поўдзень ад в. Старое Раматова. Засталіся рэшткі пейзажнага парку плошчай каля 3 га.

Сядзібны дом быў пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. з дрэва, меў форму выцягнутага прамавугольніка, адзін паверх, ганак, мансарду. У час 2-й сусветнай вайны дом згарэў, гаспадарчыя пабудовы разабраны для патрэб мясцовага калгаса.



*Батынь. Фрагмент парку[1].*

Рэшткі парку апынуліся сярод хвойнага масіву, зараслі хмызняком. Яго кампазіцыя моцна парушана. Уязная алея зарасла. Пры ўездзе ў сядзібу з поўначы растуць 2 дубы-веліканы, на выездзе з поўдня — таксама дуб 300—350-гадовага ўзросту, у цэнтры парку — адзінкавыя экзэмпляры векавых дрэў вельмі старага ўзросту: 2 дубы, 1 ліпа, 6 акацый. Астатнія дрэвы 100—120-гадовага




*Батынь. Схема рэштак парку.*

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 95.*
[2] *Słownik geograficzny. 1902. T. 15. S. 421.*
[3,4,5,6] *Фота аўтара. 2000 г.*
[7] *Схема паркаў падрыхтавана аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Маларыцкага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*




ўзросту мясцовых парод (ясені, вязы, грабы, ліпы і інш.). Даволі моцна разрасліся плантацыі бэзу і акацыі, што раней абкружалі сядзібны дом. Абвадныя каналы і сажалка абмялелі, высахлі.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Фота аўтара. 2000 г.

# Велікарыта
# Welkoryta
# Великорита

Сядзібна-паркавы комплекс. Сядзіба ўпамінаецца ў матэрыялах каралеўскай рэвізіі 1668 г. У 1-й палове XVIII ст. належала роду Блюмскіх. У 1724 г. і 1758 г. каралём Рэчы Паспалітай Аўгустам III пацверджана ўласнасць на маёнтак Велікарыту Яну і Соф'і Блюмскім. Мястэчка вызначалася тым, што тут у 1864 г. было адкрыта адно з першых у краі земскае народнае вучылішча[1]. Пасля Блюмскіх у сярэдзіне XIX ст. Велікарыцкі двор увайшоў у склад



Велікарыта. Галоўны фасад сядзібнага дома. Да 1939 г.[3]

маёнтка Рудка, гаспадаром якога быў род Ягмінаў. У Ягмінаў Велікарыта была выкуплена ў 2-й палове XIX ст. нашчадкамі роду Кончынаў. Яны пабудавалі побач з колішняй сядзібай новы дом і аднавілі стары пейзажны парк, які адносіўся да XVIII, а магчыма, нават і да XVII ст. У пачатку XX ст., паводле даследаванняў мясцовых краязнаўцаў С.Мошчыка, В.Сенатарава і інш., прыкладна ў 1905 г., маёнтак з вёскамі Велікарыта, Гусак і Дубіца выкупіў у Кончынаў багаты яўрэйскі род Ліпчыцаў, але купчая была афармлена на імя памешчыка Уладзіміра Ляшчынскага з Лышчыц. Фактычна па дакументах маёнтак належаў Ляшчынскім, але гаспадарыў у ім да 1-й сусветнай вайны род Ліпчыцаў.

У 1921 г., пасля ўсталявання польскай улады, Ляшчынскія вярнуліся ў Велікарыту і да 1939 г. валодалі маёнткам.

Сам Уладзімір Ляшчынскі, знаходзячыся ў бежанцах у Расіі, ажаніўся з князёўнай Траякуравай, атрымаў тытул князя і двайное прозвішча Траякураў-Ляшчынскі і стаў асабіста весці Велікарыцкую гаспадарку. Траякуравы-Ляшчынскія выгадавалі дваіх дзяцей — дачку Нэлю і сына




Велікарыта. Схема парку.

Уладзіміра, якія пэўны час працавалі настаўнікамі ў в. Дубіца. Паводле дакументаў, бацькі княгіні і яе цётка, якія прыехалі з Расіі, памерлі яшчэ да 1939 г. і пахаваны ў Велікарыце на ўскраіне сядзібна-паркавага ансамбля.

Перад прыходам Чырвонай арміі сям'я Траякуравых-Ляшчынскіх выехала ў Польшчу, а ў маёнтку была створана МТС. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны сям'я вярнулася ў маёнтак. Паводле ўспамінаў старажылаў, княгіня Траякурава-Ляшчынская вызначалася дабрынёй, дапамагала мясцоваму насельніцву і нават партызанам матэрыяльна, але ў 1943 г. партызаны раптоўна напалі на сядзібу, княгіню закатавалі, а дом спалілі. Мясцовыя жыхары пахавалі яе побач з бацькамі ў парку. Стары князь Уладзімір Траякураў-Ляшчынскі разам з дзецьмі выратаваўся і выехаў у Варшаву, дзе пад час ваенных дзеянняў таксама загінуў ад прамога пападання бомбы.

Паводле сведчання сына князя Уладзіміра Уладзіміравіча, яго дзед князь Траякураў паходзіў з тых прадстаўнікоў роду, каго А.С.Пушкін апісаў у аповесці «Дуброўскі».

Велікарыцкі сядзібна-паркавы ансамбль размяшчаўся на паўднёвым беразе р. Рыты. Да 1-й сусветнай вайны ў сядзібе быў яшчэ стары панскі дом, які мясціўся непадалёку, на ўсход, на больш высокім беразе, зарослым хвойным маладняком. Новы сядзібны дом быў пабудаваны з дрэва ў цэнтры ансамбля. Будынак у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, накрыты высокім гладкім двухсхільным жалезным дахам, з двума высокімі комінамі і дзвюма парамі дахавых паўкруглых акенцаў. Цэнтральны фасад дома вылучаны двухпавярховым порцікам з трохвугольным шчытом.

Дом меў 14 пакояў (спальні, сталовую, кухню, рабочыя кабінеты, салон для гасцей, бібліятэку і інш.). З правага боку будынка была невялікая драўляная прыбудоўка.

Да цэнтральнага ўвахода дома вяла ўязная алея, абсаджаная па баках клёнамі, часткова захавалася. Кампазіцыя парку значна парушана. З паўночна-заходняга боку, на месцы гаспадарчага двара, дзе раней жылі слугі, размяшчаліся крама, стайня, птушнік, свінарнік, абора і інш., з'явіліся цяпер індывідуальныя забудовы, якія ўклініліся сваімі дварамі ў паркавы ансамбль, абкружыўшы магілы Траякуравых.

З паўднёвага захаду да парку шчыльна падступаюць хвойныя пасадкі. Тэрыторыю парку перасякае водаправод. У пасляваенныя гады ў парку мясцовае насельніцтва нарыхтоўвала дровы, але ў 1960-я гады высечка была забаронена.

Плошча рэштак парку складае каля 5 га. Каштоўнасць мае 200-гадовы разрэджаны дрэвастой дуба чарэш-









чатага, ясеня звычайнага, каштана конскага, акацыі і інш. Усяго ў парку расце 25 відаў дрэў і кустоў. Выключна каштоўныя тут 2 дрэвы бука ляснога[2]. Перад домам размяшчаўся невялікі партэр з клумбамі. З тыльнага боку дома, на схіле, які спадаў уніз, адкрываліся шматпланавыя прасторы, падкрэсленыя экзотамі (піхтай, букам) і альтанкай.

Ад цэнтральнага ўвахода і партэра ў глыбіню парку вялі 2 высыпаныя пяском алеі, якія ўтваралі кальцавы маршрут.

Велікарыцкі парк узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Памяць. Маларыцкі раён. Мн., 1998. С. 512.*
[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 182.*
[3] *Архіў аўтара.*

# Макраны Mokrany Мокряны

Гістарычная сядзіба, радавое гняздо Райскіх.

У гістарычнай літаратуры ўпершыню ўзгадваецца ў 1546 г. як урочышча і Макранскае балота. У XVI ст. Макраны былі ўласнасцю роду Рошчыцаў. З пісьмовых крыніц вядомы факт, калі ў 1564 г. гаспадар Збірагаўскага і Гаршановіцкага маёнткаў Аляксандр Рошчыц выменяў іх на Макранскі двор[1].

З XVII ст. у Макранах каля тракта з Брэста ў Кіеў існавала паштовая станцыя. Пад Макранамі 8 ліпеня 1863 г. пад час нацыянальна-вызваленчага паўстання адбылася бітва паміж коннымі атрадамі паўстанцаў пад кіраўніцтвам Казіміра Нарбута з маскоўскімі карнымі войскамі[2].




*Макраны. Схема рэштак парку.*

З сярэдзіны XIX ст. да 1939 г. у Макранскім маёнтку гаспадарыў заможны род Райскіх, пры якім тут быў адбудаваны сядзібны дом і закладзены новы парк на месцы старой сядзібы.

Сядзібны дом уяўляў сабой аднапавярховы з мансардай будынак, які ў плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, з высокім гладкім дахам, накрытым гонтай.

Дом быў спалены ў канцы 2-й сусветнай вайны.

Захаваліся невялікія рэшткі парку. У цэнтры парку ёсць дзве невялікія сажалкі, якія былі раней злучаны паміж сабой равамі.

Захаваліся рэшткі ўязной алеі, абсаджанай векавымі ліпамі, а на партэры перад парадным уваходам у дом — фрагмент ліпавай альтанкі.

У сядзібе вакол сажалак размяшчаецца калгасны сад.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Wawrzyńczyk A. Rozwój... S. 23, 103.*
[2] *Zdański K. Przyczynki... S. 92.*

# Паўлопаль Pawłopol Павлополь

Старадаўні фальварак. Размешчаны паміж вёскамі Вялікі і Малы Паўлопаль. Гэтыя вёскі ўзніклі значна пазней у выніку Сталыпінскай рэформы і рассялення сялян па хутарах. Маёнтак Паўлопаль сфарміраваўся ў сярэдзіне XIX ст. Першымі гаспадарамі яго былі Паўлавы, якія пабудавалі ў ім шкляны і вінакурны заводы[1].

У розныя часы маёнткам Паўлопаль валодалі Каншэўскія, Тальмы, Дзятлавы.

Сядзібна-паркавы ансамбль уключаў жылы дом, парк з сістэмай каналаў, сажалку, свіран, сыраварню, мураваны склеп і інш. гаспадарчыя пабудовы.

Сядзібны дом быў пабудаваны не пазней як у сярэдзіне XIX ст. з дрэва на высокім падмурку. Будынак у плане меў форму прамавугольніка, чатырохсхільны бляшаны дах, шырокія вокны, 3 ганкі на чатырох драўляных слупах кожны.



*Паўлопаль. Уязная дарога[2].*








*Паўлопаль. Схема сядзібы.*

У 1912 г. маёнтак быў распрададзены. Частку сядзібы з паркам выкупіў мясцовы жыхар Кузьма Гузюк, які побач са старым домам пабудаваў у 1940-я гады звычайную сялянскую хату, у якой цяпер жыве яго сын Мацвей. Стары панскі дом савецкімі ўладамі быў разабраны і перавезены ў в. Забалацце на будаўніцтва гаспадарчых аб'ектаў. Мацвей Гузюк яшчэ ў раннім дзяцінстве ў канцы 1920-х гадоў разам са школьнымі сябрамі прысутнічаў пры адкрыцці памятнага знака (крыж і камень) аднаму з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Рамуальду Траўгуту ў маёнтку Астроўе (Востраў).

Ад сядзібна-паркавага ансамбля Паўлопаль цяпер засталіся рэштки дзвюх уязных алей з бакавымі каналамі, абсаджанымі адзінкавымі дрэвамі ліпаў, клёнаў, дубоў 200—300-гадовага ўзросту.

Захаваліся сажалка і рэшткі клянова-ліпавай альтанкі.



*Паўлопаль. Фрагмент парку[3].*

Сажалка прамавугольная ў плане, мае памеры 80х10 м, практычна высахла. Ад альтанкі засталіся ліпы і клёны, высаджаныя паўкругам.

Кампазіцыя парку моцна парушана, дрэвы размешчаны адзінкава і купамі. Акрамя дубоў, клёнаў, ліп, акацый, моцна разрасліся плантацыі бэзу і дэкаратыўных кустоў.

Рэшткі парку павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Маларыцкі раён... С. 526.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Язвін
# Jaźwin
# Язвин

Колішняя сядзіба роду Бурсаў. Маёнтак уключаў 2 фальваркі, якія называліся Стары і Новы Двор.



*Язвін. Фрагмент парку[1].*

Стары Двор існаваў на месцы, дзе цяпер знаходзіцца в. Язвін. У пачатку XX ст. гэты фальварак быў падзелены




*Язвін. Схема рэштак парку.*









і распрададзены, а тэрыторыя пачала забудоўвацца. Цяпер практычна ад Старога Двара нічога не засталося, за выключэннем некалькіх векавых дрэў.

Ад Новага Двара захаваліся фрагменты сядзібы. Яна размяшчалася паміж вёскамі Гвозніца і Язвін на адлегласці каля 1 км. Сядзібны дом быў пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва. Ён меў адзін паверх, традыцыйны ганак на драўляных слупах, высокі чатырохсхільны дах, накрыты гонтай. У савецкі час дом быў разбураны. На яго месцы расце таполя, побач знаходзяцца руіны склепа і студні.

Рэшткі парку складаюцца з ліпавай алеі, якая добра праглядваецца на ўездзе з заходняга боку, і дубовай, на ўездзе з усходняга боку.

Паўднёвая частка парку мае добры дрэвастой. Захавалася сажалка паўакруглай формы памерам 30х40 м, абсаджаная дубамі, ліпамі, клёнамі, ясенямі і інш. дрэвамі мясцовых парод. Сядзібу падзяліла папалам новая дарога на в. Старое Раматова.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Пінскага раёна







Існуючыя палацы, паркі, сядзібы

Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы





# Альбрэхтава
# Albrechtów
# Альбрехтово

Палац. Некалі быў размешчаны паблізу Пінска, цяпер знаходзіцца ў межах горада ў мікраараёне, які мае назву Альбрэхтава.

Упершыню маёнтак Альбрэхтава ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў пачатку XVI ст. пад назвай Сялец. У 1-й палове XVII ст. ён атрымаў назву «Альбрэхтава» ад імя ўладальніка князя Альбрэхта Станіслава Радзівіла, пінскага старосты. Пасля Радзівілаў у маёнтку гаспадарылі Агінскія, а ў 1759 г. Альбрэхтава набыў Адам Бжастоўскі, затым князь Францішак Панятоўскі (не належаў да каралеўскай лініі).

У верасні 1784 г. пад час наведвання каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім сядзібы Матэвуша Бутрымовіча ў Крысцінаве (побач з Лапацінам), высокі госць пабываў у Францішка Панятоўскага, гаспадара Альбрэхтаўскага двара.



*Альбрэхтава. Галоўны фасад палаца. 1927 г.*[4]

У пачатку XIX ст. Альбрэхтава набыў Шыман Скірмунт з Моладава. Яго ўнук Аляксандр Скірмунт, маршалак Пінскага павета, пабудаваў у Альбрэхтаве мураваны палац[1]. Пасля Аляксандра маёнтак перайшоў у спадчыну яго малодшаму сыну Зыгмунту Скірмунту, жанатаму з Яўгеніяй Савіцкай (герб «Любіч»). Затым маёнтак перайшоў да іх сына, таксама Зыгмунта, жанатага з Марыяй Жултоўскай. Апошнім гаспадаром Альбрэхтава да 2-й сусветнай вайны быў сын Зыгмунта і Марыі — Багдан Скірмунт (герб «Дуб»)[2].

Сцвярджэнне аб тым, што Альбрэхтаўскі палац быў узведзены ў 1-й палове XIX ст. Аляксандрам Скірмунтам, не адназначнае. Магчыма, палац быў пабудаваны значна раней, яшчэ ў часы Францішка Панятоўскага ў 2-й палове XVIII ст., а Аляксандр Скірмунт зрабіў нязначныя змены пры рэканструкцыі будынка.

На даваенных фотаздымках палац выглядаў даволі прывабна, будынак у плане меў форму прамавугольніка, быў пастаўлены на невысокім падмурку. Парадны фасад быў вылучаны двухпавярховым порцікам, 1-ы паверх якога меў 3 аркады, а 2-і — мансарду. Аркады стваралі крыты заезд для карэт і павозак. Бакавыя аркі былі значна шырэйшыя за цэнтральную. Аркады апяразваў прафіляваны карніз. Мансарду 2-га паверха вянчаў багата прафіляваны фігурны карніз. Праёмы прамавугольных акон звонку былі дэкарыраваныя.

Фасад палаца з боку парку па цэнтры меў класічны порцік на шасці масіўных калонах, узмоцненых па краях дадатковай парай. Порцік быў накрыты трохсхільным, а ўвесь будынак палаца — чатырохсхільным дахам, спачатку гонтавым, а пазней жалезным.

Унутры палац меў тыповую структуру, характэрную для XVIII—XIX ст. Галоўны ўваход у палац пачынаўся з



*Альбрэхтава. Сённяшні выгляд палаца*[5].

пярэдняга пакоя, а ўваход з боку парку пачынаўся з салона. Аздоба пакояў вылучалася сціпласцю. Сцены былі фарбаваныя, падлога мела просты паркет. У пакоях была старая мэбля, сямейныя рэчы, якія, на жаль, поўнасцю страчаны яшчэ ў 1-ю сусветную вайну.

Побач з палацам знаходзіўся аднапавярховы мураваны флігель. Палац абкружаў невялікі пейзажны парк, які цягнуўся да прадмесця Пінска. Палацава-паркавы ансамбль быў размешчаны на ўзвышшы, адкуль адкрываўся від на р. Піну. Паступова ансамбль забудоўваўся, і да 2-й сусветнай вайны парку ўжо не было, палац прыйшоў у заняпад, а гаспадары пражывалі ў будынку флігеля, які згарэў у 1939 г.[3]

Пасля вайны ў савецкі час палац прыстасоўваўся пад розныя ўстановы, быў дабудаваны 2-і паверх. Цяпер палац увайшоў у сістэму будынкаў Рэспубліканскага рэабілітацыйнага цэнтра. Палац патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 9.*
[2] *Grzegorczuk D. Dworki i pałace... S. 6.*
[3] *ДАБВ. Фонд 2177. Воп.2. Спр.1577. Арк.1—4.*
[4] *Archiwum dokumentacji mechanicznej. Warszawa (IKCU-2).*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Гай
# Gaj
# Гай

Колішні палацава-паркавы комплекс. Размяшчаўся на заходняй ускраіне Пінска. У 1940-я гады поўнасцю ўвайшоў у межы горада. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, у канцы XVIII ст. маёнтак разам з вёскамі Ганчары і Крайнавічы быў абменены Варварынскаму кляш-







*Пінск. План маёнтка Гай. 1937 г.*[3]

тару на ўладанні ў в. Дубай. Тут да нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. знаходзілася каталіцкая капліца, якая пасля задушэння паўстання была зачынена, занядбана і, урэшце, разбурана.

У 2-й палове XIX ст. зямля маёнтка Гай належала роду Былеўскіх, а на мяжы XIX—XX ст. перайшла ва ўласнасць Генрыха Зузімеля. У 1900 г. у маёнтку быў пабудаваны цагельны завод. У склад маёнтка некалі ўваходзіў невялікі фальварак (15 дзесяцін), у якім у той час гаспадарыла Клара Фрост з Прусіі, якая таксама пабудавала цагельнае прадпрыемства[1]. Фальварак яшчэ раней, чым увесь маёнтак, быў уключаны ў мяжу горада, пра што нагадвала існаваўшая тут вул. Фрастоўская (сучасная Свярдлова). У 1930-я гады маёнтак Гай належаў роду Звалінскіх і пры Ядвізе Звалінскай распаўся на 2 фальваркі, якія мелі назвы Падпінск і Асмалоўшчына. У іх гаспадарылі Часлаў Мергенталеры, Мечыслаў Калачкоўскі і Юрый Асмалоўскі[2]. Апошняй вядомай уладальніцай фальварка Падпінск была Ізабела Асмалоўская. Цяпер месца, дзе размяшчаліся маёнтак і фальваркі, поўнасцю забудавана прамысловымі прадпрыемствамі.

Адзінымі сведкамі, што нагадваюць пра існаванне сядзібы Гай, пазней фальваркаў Падпінск і Асмалоўшчына, з'яўляюцца рэшткі алеі, абсаджанай лістоўніцамі (застаўся толькі левы рад), і палац. Палац, верагодна, быў пабудаваны пры Асмалоўскіх. Будынак мураваны, нетрадыцыйнай архітэктуры, мае 3 паверхі. Уваход у палац вылучаны неглыбокім рызалітам у выглядзе двух шырокіх пілонаў па абодва бакі. Палац, верагодна, у пасляваенны перыяд быў часткова перабудаваны. На сённяшні дзень у ім пражываюць сем'і гараджан.

Пасля грунтоўнага абследавання палац патрэбна ўзяць на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 12.03.1999. С. 6.*

[2] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2062. Арк. 1—34.*

[3] *ДАБВ. Ф. 2001. Воп. 1. Спр. 6106. Арк. 48— 49.*

# Палац Бутрымовіча
# Pałac Butrymowicza
# Дворец Бутримовича

Колішняя рэзідэнцыя пінскага суддзі і пасла Варшаўскага сейма мечніка Матэвуша Бутрымовіча (1745—1814)[1]. Шляхецкі род Бутрымовічаў бярэ свой пачатак з XV ст., калі «маршалак Бутрым» здабываў гонар і славу ў барацьбе з крыжакамі[2].



*Пінск. Палац Бутрымовіча. XVIII ст. Фрагмент галоўнага фасада*[5].

Палац быў закладзены як асабістая рэзідэнцыя Бутрымовічаў да візіту ў Пінск у 1784 г. апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Ён атрымаў назву «Мур» як адзіны велічны мураваны (цагляны) будынак на той час сярод драўляных забудоў Пінска. Палац з'яўляўся зімняй рэзідэнцыяй Скірмунтаў, у той час як Моладава лічылася летняй.

Будаўніцтва палаца ажыццяўлялася па праекце знакамітага прафесара Віленскага ўніверсітэта архітэктара-дойліда К.Шыльдгаўза ў стылі позняга барока і супала па шчаслівым выпадку з нараджэннем у сям'і Бутрымовічаў адзінай дачкі Юзэфы (1775—1859), якая стала ў далейшым маці сусветна вядомага графіка, кампазітара і музыканта Напалеона Орды. Палац па спадчыне перайшоў да сястры Напалеона Орды Гартэнзіі, жонкі Аляксандра Скірмунта. Гартэнзія Скірмунт запісала палац сваёй незамужняй унучцы Канстанцыі Скірмунт, якая стала апошняй уладальніцай «Мура» і за некалькі гадоў перад смерцю (1934) прадала яго Пінскаму біскупству[3].



*Пінск. Палац Бутрымовіча. Галоўны фасад*[6].

Па сваіх захаванасці, гістарычнасці, мастацкіх і архітэктурных якасцях палац Бутрымовіча мае вялікае значэнне.







*Пінск. Палац Бутрымовіча. XVIII ст.*
*Сучасны выгляд паркавага фасада[7].*

Палац размяшчаецца на левым беразе р. Піны ў непасрэднай блізкасці ад старадаўняга абарончага рова. Будынак мае П-падобную сіметрычную форму з высокім цокальным паверхам.

Галоўны паўночна-заходні фасад вылучаны ў цэнтры паўавальным эркерам з каланадай і невялікай тэрасай. У пачатку XIX ст. да цэнтральнага ўвахода быў дабудаваны тамбур з завершаным франтонам.



*Пінск. Палац Бутрымовіча. Агульны выгляд[8].*

Сцены раздзелены пілястрамі, тамбур і цокаль апрацаваны рустам, прамавугольныя аконныя праёмы ўпрыгожаны франтонамі.

Знешні дэкор мае рысы ранняга класіцызму. Фасады аздоблены плоскімі і руставанымі лапаткамі, сандрыкамі, фрыз антаблемента — трыгліфамі і метопамі. Эркер, вуглы і тарцы бакавых крылаў аздоблены калонамі і паўкалонамі дарычнага ордэра[4].

Дэкор інтэр'ера не захаваўся. Палац Бутрымовіча — архітэктурная каштоўнасць пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. Ён унесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі. Патрабуе падтрымкі і грунтоўнай рэстаўрацыі.

[1] *Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi Pińskiej. Warszawa, 1935. S. 35.*
[2] *Ільянкоў В. Нашчадак рыцара Бутрыма // Беларуская мінуўшчына. № 3. 1997. С. 38.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 111.*
[4] *Архітэктура Беларусі... С. 390.*
[5,7] *Фота аўтара. 1999 г.*
[6] *Чантурия В.А. Атлас памятников... С. 69.*
[8] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... С. 83.*

# Парк Лешчанскі
# Park Leszczański
# Парк Лещанский

Пад такой назвай гарадскі парк культуры і адпачынку вядомы са старадаўніх часоў. Закладзены пры князях Вішнявецкіх. Размяшчаўся на тэрыторыі прадмесця Лешч, дзе з XIII ст. існаваў старажытны праваслаўны манастыр. Яго будынак спачатку быў драўляны, уключаў шэраг жылых і гаспадарчых пабудоў, 2 царквы ( Свята-Духаўскую і Успенскую), званіцу. У 1262 г. сын Міндоўга,



*Пінск. Лешчанскі манастыр.*
*З малюнка Напалеона Орды. 1868 г.[2]*

заснавальніка ВКЛ і першага вялікага князя, Войшалк, які прыняў хрысціянства, хаваўся ў Лешчанскім манастыры ад забойцаў свайго бацькі[1].

На малюнку Напалеона Орды «Лешч пад Пінскам» (1868 г.) добра бачны фрагмент Лешчанскага парку, што абкружаў манастыр, і старажытны (паводле падання) капец Міндоўга, на якім узвышаецца крыж — сімвал прыняцця хрысціянства на «паганскай» Літве[2]. Пазней прадмесце ўвайшло ў межы горада. З 1858 г. парк унесены ў Генеральны план Пінска. У канцы XIX ст. на тэрыторыі парку быў узведзены невялікі завод па будаўніцтве параходаў. На той час парк займаў плошчу каля 6 га.

У 1901 г. тут распачата будаўніцтва шэрагу аб'ектаў: рэстарана, пляцовак для розных гульняў і інш. Адначасова былі вызначаны дакладныя межы парку, а яго тэрыторыя абнесена глухім плотам. З гэтага часу ўваход у парк становіцца платным.



*Пінск. Парк Лешчанскі.*
*Стэла, пастаўленая*
*да 900-годдзя Пінска*
*паблізу гары Міндоўга[3].*





Пасля 1-й сусветнай вайны працягвалася ўпарадкаванне парку. З'явілася эстрада, верхняя частка тэрыторыі была аддзелена ад ніжняй невысокай ажурнай агароджай. У канцы 1936 г. былі пабудаваны павільёны і ўстаноўлена скульптурная кампазіцыя «Паляшук з вяслом». Пасля вайны гара Міндоўга была зруйнавана і расчышчана пад спартыўную пляцоўку.

У сучасны перыяд парк займае каля 10 га. У 1996 г. да яго быў далучаны сквер плошчай 4,6 га.

Асноўны дрэвастой парку складаюць мясцовыя пароды. Акрамя таго, тут пасаджаны елкі серабрыстыя, туі, кусты абляпіхі, піхта і інш., а таксама высаджана шмат кветкавых раслін.

У парку ў савецкі перыяд пастаўлены шэраг помнікаў і мемарыяльных знакаў, у прыватнасці, ахвярам фашызму, у гонар баявых дзеянняў расійскіх войскаў супраць французаў у 1812 г. і маракам Дняпроўскай ваеннай флатыліі.

Тут расце дрэва, пасаджанае першым беларускім касманаўтам П.І.Клімуком.

Парк узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Słownik geograficzny. 1884. T. 5. S. 168.*
[2] *Album widoków historycznych Polski. Zrysowany z natury przez Napoleona Ordy. Gdańsk, 1991. S. 112.*
[3] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Бакінічы
# Bokinicze
# Бокиничи

Сядзібна-паркавы ансамбль, радавое памесце Скірмунтаў. У гістарычных крыніцах упамінаецца ў 1495 г. як уласнасць пінскіх князёў. Пасля змены шэрагу гаспадароў, маёнтак Бакінічы ў сярэдзіне XVIII ст. перайшоў Скірмунтам.

Пры Скірмунтах у Бакінічах быў пабудаваны традыцыйны драўляны аднапавярховы дом і закладзены невялікі пейзажны парк. Акрамя таго, у 1838 г. Амбросіем Скірмунтам тут была пабудавана драўляная каталіцкая капліца, якая неўзабаве была разабрана паводле загаду царскіх улад і хадайніцтва мясцовага святара з в. Дубнавічы.

У 1842 г., пасля смерці Амбросія, Барбара з Ордаў



*Бакінічы. Сядзібны дом. 1939 г.*[2]



*Бакінічы. Капліца Божай Маці*[3].

узяла на яго магіле мураваную капліцу, якая пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. і да пачатку XX ст. была пераробдена пад праваслаўную царкву.

Паводле некаторых звестак, каля капліцы пахаваны паўстанцы, якія загінулі ў 1863 г., а на грамадзянскіх могілках — салдаты, што палеглі тут у час 1-й сусветнай вайны[1].

У наваколлі вёскі, паводле паданняў мясцовых жыхароў, да 2-й сусветнай вайны існавала шмат курганоў, у т.л. узвышша, якое мела назву «Залатая гара». У 1923—1927 гг. польская навуковая экспедыцыя праводзіла тут археалагічныя даследаванні, матэрыялы якіх, верагодна, знаходзяцца ў архівах Варшавы.

Апошнімі гаспадарамі Бакініцкага маёнтка да 2-й сусветнай вайны былі нашчадкі роду Скірмунтаў. У пасляваенны час гаспадарчыя пабудовы маёнтка выкарыстоўваліся мясцовым калгасам, паступова знішчаліся, цяпер практычна ад ансамбля нічога не засталося. Адзіным напамінкам пра яго існаванне з'яўляецца капліца Божай Маці, пабудаваная ў 1996 г. дачкой апошняга гаспадара маёнтка Тэрэзай Скірмунт.

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 8.01.1999. С. 6.*
[2] *Архіў В.Ільянкова.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*




# Белы Двор
# Dwór Biały
# Белый Двор

Колішні маёнтак. Размяшчаўся на тэрыторыі цяперашняга Парэцкага сельскага Савета. Паводле даследавання Э.Злобіна, маёнтак узнік у сярэдзіне 1930-х гадоў у выніку падзелу спадкаемцамі маёнтка Парэчча. Да Белага Двара адышлі 541,8 га лесу і фальварак Дубрава. У далейшым маёнтак быў падзелены паміж Геленай Скірмунт і Раманам Снядзецкім. Асобныя ўчасткі распрададзены перад 2-й сусветнай вайной Яну Сянкевічу — гаспадару Каранеўскага маёнтка, Аляксандру Сташэвічу, Юзафу Шостаку, Уладзіславу Пентку, Валянціну Беляку, а сам фальварак — Мажароўскім[1].

Палац у Белым Двары быў пабудаваны, верагодна, у 2-й палове XIX ст.

Будынак меў два align="left"ознавялікія аб'ёмы, высокую квадратную вежу, порцік у цэнтры галоўнага фасада, накрыты гладкім чатырохсхільным гонтавым дахам.



*Белы Двор. Палац[2].*

Разам з будаўніцтвам палаца быў закладзены невялікі пейзажны парк, які складалі ў асноўным пладовыя пароды дрэў.

У пасляваенны час палац і парк былі знішчаны.

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 18.12.1998. С. 6.*
[2] *Архіў В. Ільянкова.*

# Біжаравічы
# Biżerewicze
# Бижеревичи

Палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Ордаў, герб «Астоя». На працягу некалькіх стагоддзяў маёнтак належаў мужчынскай лініі Ордаў. Яны былі апошнімі гаспадарамі сядзібы.

Біжаравіцкія землі былі перададзены альбо пацверджаны роду Ордаў (Чорных) яшчэ пры каралеве Боне ў



*Біжаравічы. Уязная брама. 1938 г.[3]*

1525 г. Першым гаспадаром, які вядомы з гістарычных крыніц, быў Сямён Юхнавіч Орда. У XIX ст. Біжаравіцкі двор з'яўляўся ўласнасцю Віктара Орды, маршалка Пінскага павета, жанатага з Марцыянай Лях-Шырмай. Віктар Орда прадстаўляў 7-е пакаленне заснавальнікаў маёнтка. Пасля Віктара ўладанні перайшлі да яго сына Вітольда (1828—1895), які гаспадарыў яшчэ ў Тырвовічах, Ляхавічах (побач з Янавам), Навашычах, Дастоеве, Вульцы і інш., а таксама атрымаў ад бацькі ў спадчыну значны грашовы капітал і набыў маёнтак Хойна (каля 12 тыс. га).

Вітольд Орда быў гарачым патрыётам Бацькаўшчыны. У прыватнасці, ён ахвяраваў вялікія грошы на карысць нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Пасля задушэння паўстання быў кінуты за краты ў гродзенскую турму, прыгавораны да смяротнага пакарання, ад якога выкупіўся хабарам (фальваркам Машчунка) святару.

Пасля смерці Вітольда яго спадчына перайшла да сына Станіслава (1867—1916), жанатага з баранэсай Кацярынай фон Сталь (1872—1953). Апошнім, 10-м, уладаром Біжаравіч стаў сын Станіслава Януш Орда (1907 года нараджэння), жанаты з Рэгінай Марыяй Орда (1909—1974), дачкой Міхаіла Орды і Марыі Багдановіч[1].

Верагодна, яшчэ пры Вітольдзе ў Біжаравічах быў пабудаваны палац з прасторнымі пакоямі. У 2-й палове XIX ст. палац быў яшчэ ў добрым стане, калі Станіслаў захацеў мець вялікую залу для баляў, але пры будаўніцтве парушылася цэласнасць будынка, і ён быў разабраны.

Новы палац будаваў яго брат Кароль. Пры заканчэнні будаўніцтва браты памяняліся маёнткамі, у выніку Кароль стаў гаспадарыць у Навашычах. Пабудаваны палац быў



*Біжаравічы. Галоўны фасад палаца. 1938 г.[4]*










*Біжаравічы. Паркавы фасад палаца. 1938 г.*[5]

таксама драўляны, аднапавярховы па баках і двухпавярховы ў сярэдняй частцы, з вялікім склепам пад ім. Пасля завяршэння будаўніцтва парадны і паркавы фасады былі памяняны месцамі, у выніку паркавы фасад атрымаў у сярэдняй частцы порцік на чатырох масіўных мураваных калонах, на якія абапіраўся гладкі франтон. Пад ім размяшчалася тэраса, а выгнутыя ад калон парапеты стварылі для пад'езду пандус. 2-гі паверх выходзіў на балкон з балюстрадай. Пры перамене фасадаў парадны пад'езд быў таксама зменены. Ён меў аналагічную форму з той розніцай, што калоны порціка мясціліся паўкругам. На бакавых фасадах палаца выступалі ганкі, у плане квадратныя, на драўляных калонах. Дзверы і вокны фасадаў багата аздоблены псеўдарызалітамі і трохвугольнымі накладкамі.

Палац быў накрыты гладкім двухсхільным і трохсхільным дахам. Сцены ашаляваны вузкімі дошкамі, пафарбаванымі ў попельны колер. Калоны, вокны, дзверы мелі белы колер.

Унутраная аздоба палаца вылучалася багаццем. Пад порцікам на 1-м паверсе быў надзвычай шырокі хол, ад якога па вітых лесвіцах можна было перайсці ў сталовую, адтуль выйсці ў гасціную і бібліятэку, якія размяшчаліся на 2-м паверсе. Аздобу сталовага пакоя складалі мэбля, зробленая ў Варшаве, калекцыі сямейнага срэбра і фарфору, англійскіх гравюр. У правай частцы дома знаходзіліся спальні гаспадыні, аздобленыя чырвоным дрэвам, у левай — зала для баляў. Сцены залы былі вытрыманы ў колеры сланавай косці, паміж вокнамі віселі венецыянскія люстры. Зала асвятлялася бронзавай люстрай з дома Агінскіх, застаўлена была мэбляй у стылі Людовіка XV. Побач з залай размяшчаўся кабінет гаспадара са старадаўняй мэбляй і ўсходнімі дыванамі. Найбольшая каштоўнасць кабінета — партрэт Вітольда Орды, выкананы мастаком Богушам Станіславам Сестранцэвічам. У суседнім пакоі віселі партрэты Віктара Орды, яго жонкі, стаяла копія бронзавай статуэткі архангела Міхаіла, выкананая італьянскім майстрам і прывезеная з Навашыцкага палаца. Мэбля вытрымана ў неарэнесансавым стылі. Яна была прывезена з Фларэнцыі з дома баранэсы фон Сталь.

Поўнасцю ўсе будаўнічыя і мастацкія работы ў палацы былі закончаны ў 1904 г. Меркавалася пашырэнне сядзібы паводле праекта архітэктара Тадэвуша Растварoўскага. У прыватнасці, планавалася ўзвядзенне на сямейных могілках капліцы-пахавальні і дзвюх аркад на ўваходзе і выхадзе з могілак. Але 1-я сусветная вайна перакрэсліла ажыццяўленне праектаў. Пад час ваенных дзеянняў палац быў абрабаваны, а сямейны архіў страчаны. Адначасова з будаўніцтвам палаца вялася рэканструкцыя старога парку. Перад галоўным уваходам размяшчаўся газон, абкружаны вазамі з высокагатунковымі ружамі. У канцы газона, насупраць порціка, знаходзілася галоўная мураваная ўязная брама, якая складалася з двух квадратных у плане слупоў, абліцаваных «пад руст». На сярэдніх, больш высокіх слупах, былі каменныя шары, больш нізкія завяршаліся стогападобным дахам. Вароты брамы і весніц былі выраблены з кованага жалеза, па цэнтры варот узвышаўся герб Ордаў — «Астоя».

Да сядзібы была вымашчана новая дарога працягласцю каля 1 км, па баках якой размяшчаліся неширокія сажалкі, абсаджаныя вольхамі. Паабапал старой уязной дарогі стаялі векавыя таполі.

Парк размяшчаўся за палацам. Па баках палаца раслі грабы, ніцыя вербы. Сярод парку мелася вялікая сажалка, цераз якую быў перакінуты масток з балюстрадай. Узор балюстрады мастка і балконаў палаца быў прывезены з Рыма. Кветкі на клумбах у парку мяняліся адносна пары года.




*Біжаравічы. Схема парку.*

У 1925 г. у парку быў насыпаны капец (курганчык), прысвечаны 400-годдзю роду Ордаў у Біжаравіцкім двары. Пасярэдзіне капца пастаўлены крыж з дошкай і надпісам: «1525—1925». Унутры капца была змешчана бутэлька з генеалогіяй роду, складзеная Марыяй Орда з роду Смолкаў[2]. У склад ансамбля ўваходзілі будынкі бровара і паравога млына.

Пасля 2-й сусветнай вайны ад ансамбля (палаца, парку, гаспадарчых збудаванняў) практычна нічога не засталося. Толькі вызначана месца, дзе размяшчаліся сямейныя могілкі роду Ордаў.

[1-5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 23, 24, 25.*

# Бярдуны
# Bierduny
# Бердуны

Колішні маёнтак, размешчаны побач з в. Бярдуны.

У 1850-я гады яго набыў Казімір Кліяноўскі. На той час ён налічваў 168,7 дзесяціны зямлі. У пачатку XX ст.







*Бярдуны. Фрагмент парку[1].*

пасля смерці Казіміра Кліяноўскага двор перайшоў ва ўласнасць яго жонкі Марыі Кліяноўскай.

Наступнымі гаспадарамі Бярдунаў сталі Браніслава, дачка Казіміра і Марыі Кліяноўскіх, і яе муж Пётр Лейнвебер. Акрамя Бярдунаў, Лейнвеберы валодалі фальваркам Цярэнцьева, які размяшчаўся паміж маёнткамі Закуц-




*Бярдуны. Схема сядзібы[2].*

це і Атолчыцы (цяпер Іванаўскі раён). У 1928 г. урочышча Цярэнцьева выкупіў Пётр Самуйліч. Апошнімі гаспадарамі Бярдунаў былі Браніслава і Пётр Лейнвеберы.

Сядзібны палац, верагодна, быў пабудаваны яшчэ пры Кліяноўскіх. Будынак палаца аднапавярховы, драўляны, у плане меў форму прамавугольніка. Яго гістарычныя, архітэктурныя і мастацкія якасці былі высока ацэнены польскімі ўладамі — у 1920-я гады быў узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

Пасля вайны палац выкарыстоўваўся на патрэбы мясцовага калгаса, потым быў разбураны.

Разам з палацам быў закладзены вялікі пейзажны парк, рэшткі якога (каля 7 га) захаваліся да сённяшняга часу. У парку размяшчаліся сажалкі і равы, якія паступова абмялелі і высахлі. Тут раслі векавыя дубы, таполі, каштаны, грабы, бярозы і інш. Гаспадарчыя пабудовы не захаваліся.

Рэшткі парку ў в. Бярдуны павінны быць узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

[2] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Пінскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Велясніца
# Wieleśnica
# Велесница

Колішні маёнтак, радавое гняздо Твардоўскіх.

Паводле гістарычных крыніц, в. Велясніца належала ў старадаўнія часы пінскім князям Яраславічам. Пасля 1503 г. Велясніцкі двор быў падараваны пінскім князем прыдворнаму Фёдару Шчэпе, пасля якога дваром валодалі яго жонка Святохна Грычына, потым іх сын Мікалай. У 1524 г. каралева Бона пацвердзіла ўладанне Фёдара Шчэпы на Велясніцкі двор[1].

З сярэдзіны XVII ст. Велясніца знаходзілася ва ўласнасці пінскіх езуітаў.

Як адзначае даследчык Раман Афтаназы, каля 1780 г. Велясніцкі і Халажынскі маёнткі набывае вайсковы генерал Пётр Твардоўскі (герб «Агеньчык»), які кватараваў са сваёй дывізіяй у Пінску[2]. Ён паходзіў з вядомай кальвінскай сям'і, быў жанаты з Фяліцыяй Орда, пачаў гаспадарыць і канчаткова асеў у Велясніцы, заснаваў палескую лінію Твардоўскіх. Яго сын Юзаф (1786—1840) быў вядомым навукоўцам, перадапошнім рэктарам Віленскага універсітэта ў 1822—1823 гг. Атрымаўшы ў спадчыну Велясніцкі двор, Юзаф заняўся гаспадаркай, меў значныя поспехі ў земляробстве і жывёлагадоўлі. Вылучаўся тым, што спачуваў небагатай моладзі, апекаў і матэрыяльна падтрымліваў некалькі таленавітых студэнтаў універсітэта. У Пінску Юзаф



*Бярдуны. Від на сажалку. Зімні пейзаж[3].*



*Велясніца. Галоўны фасад палаца. 1917 г.[4]*











*Велясніца. Выгляд палаца з боку парку. 1917 г.*[5]

Твардоўскі стварыў таварыства і Гандлёва-камісійны дом з мэтай усталявання гандлёвых адносін з замежжам. Быў жанаты з Тэафілай Мікульскай, меў двух сыноў Казіміра і Эдварда, дачку Марыю. Малодшы сын Юзафа Эдвард Твардоўскі ажаніўся з Геленай Стравінскай, асеў у Ваўкавыскім павеце, прыняў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г., пасля задушэння якога быў арыштаваны і сасланы ў Сібір (Табольскую губерню), дзе ў 1866 г. памёр. Дачка Юзафа Марыя выйшла замуж за Генрыха Скірмунта з Моладава.

Велясніцкі маёнтак атрымаў у спадчыну старэйшы сын Юзафа Казімір Твардоўскі (1813—1886), які быў жанаты з Міхалінай Валовіч.

Наступным гаспадаром маёнтка быў іх сын Пётр, а апошнімі — сыны Пятра Стафан і Казімір.

Палац у Велясніцы быў пабудаваны генералам Пятром Твардоўскім у канцы XVIII ст.[3] Будынак палаца ўзведзены ў стылі класіцызму, у плане — выцягнуты прамавугольнік, меў адзін паверх, нізкі падмурак, двухсхільны дах, накрыты гонтай. Па цэнтры галоўнага і паркавага фасадаў размяшчаліся масіўныя порцікі, увенчаныя трохвугольнымі шчытамі-франтонамі. Бакавыя фасады палаца былі аздоблены рустам.

Паркавы порцік, як і франтальны, меў 6 масіўных мураваных калон, вылучаўся прыгожай тэрасай з відам на парк, а па баках меў дадатковыя 2 калоны.

Галоўны фасад меў вялікія прамавугольныя вокны, раздзеленыя на 8 секцый, аздобленыя плоскімі ліштвамі, і дзверы. Паркавы фасад акрамя прамавугольных меў трохсекцыйныя («венскія») вокны.

Унутраная планіроўка палаца — традыцыйная для такіх будынкаў калідорнага тыпу. Сярэдняя частка з параднага боку палаца мела шырокую прыхожую, з боку парку — вялікі салон, які вёў на тэрасу. Большасць памяшканняў была абстаўлена стылёвай мэбляй, якую збіралі і назапашвалі 4 пакаленні роду Твардоўскіх. У палацы мелася шмат сямейных рэліквій, мастацкіх вырабаў, у т.л. партрэты, выкананыя мастакамі віленскай школы жывапісу пачатку XIX ст., а таксама багатая бібліятэка і архіў. У час 1-й сусветнай вайны праз Велясніцу праходзіла лінія фронту, таму багаты на архітэктуру і аздобу палац быў поўнасцю знішчаны разам з гаспадарчымі пабудовамі. Было ўратавана толькі некалькі партрэтаў, частка архіва, якія канчаткова прапалі ў 2-ю сусветную вайну. Палац больш не аднаўляўся.

Перад палацам размяшчаўся газон, побач — аднапавярховы драўляны флігель, упрыгожаны калонавым порцікам. Вялікі сад і парк, размешчаныя з тыльнага боку палаца, спускаліся ўніз да ракі Ясельды.

Парк меў пейзажны тып, характэрны для палескіх сядзіб таго часу. З палацавых тэрасы і акон адкрываліся цудоўныя краявіды на Ясельду і палеткі, размешчаныя далёка за ракой. Вясной і восенню ўсё гэта ператваралася ў вялікі разліў, надаючы яшчэ болей маляўнічасці наваколлю.

У сучасны момант пра існаванне калісьці унікальнага ансамбля нагадваюць некалькі векавых дрэў.




*Велясніца. Схема размяшчэння сядзібы.*

[1] *Ревизия пущ... С. 102, 271.*
[2,4,5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 148—149.*
[3] *Grzegorczuk D. Dworki i pałacy... S. 114.*

# Выжлавічы
# Wyżłowicze
# Выжловичи

Колішняя сядзіба. Вёска Выжлавічы ўпамінаецца ў гістарычных крыніцах з 1495 г., калі пінская княгіня Марыя «дала 3 чалавекі» ў Выжлавічах Алехну Рыгоравічу Курэйшу.

Пасля Курэйшаў двор перайшоў да роду Гадзебскіх, а з 1663 г. у Выжлавіцкім маёнтку пачала гаспадарыць Хрысціна Война-Ясянецкая з Улятоўскіх.



*Выжлавічы. Уязная дарога*[4].





У XVIII ст. Выжлавічы належалі кашталяну трокскаму Яну Каралю Копецу, пазней ваяводу полацкаму, затым роду Хржаноўскіх[1]. У канцы XIX ст. Аляксандр Хржаноўскі, гаспадар Выжлавіцкага маёнтка, меў 2044 дзесяціны зямлі.

У 1920—1930-я гады маёнтак перайшоў да роду Ціздзелаў, у прыватнасці, Вольга Ціздзел мела 1756,5 га зямлі. Яе ўласнасць належала парцэляцыі (дзяржаўнае скарачэнне маёнткаў прыватных уладанняў да вызначанага ліміту). Адрэзаныя ўчасткі атрымалі «асаднікі», былыя ваеннаслужачыя. У прыватнасці, у Выжлавічах надзелы атрымалі Уладзіслаў Заморскі, Тамаш Мышко, Браніслаў Цыбульскі і іншыя[2].

Вядома, што ў Выжлавіцкім маёнтку быў старадаўні палац, пабудаваны, магчыма, яшчэ пры Копцах у XVIII ст.



*Выжлавічы. Фрагмент парку. Зімовы пейзаж*[5].

Руіны гэтага палаца існавалі ў 1930-я гады. Як выглядаў гэты будынак — невядома. Новы двор быў пабудаваны пры Хржаноўскіх у канцы XIX ст., адначасова рэканструяваўся старадаўні парк. Паводле архіўнага плана Выжлавіцкай сядзібы, парк меў плошчу больш за 70 га, размяшчаўся на правым высокім беразе р. Мерачанкі. Стары і новы палацы знаходзіліся ва ўсходняй частцы каля дарогі да в. Паршавічы (цяпер в. Бярозавічы). Асноўную кампазіцыйную вось выконвала шырокая грабава-вязавая алея, размешчаная па цэнтры парку. Яе перасякалі 3 шырокія алеі з ліпы, ясеню, вязу. Руіны старога палаца з трох бакоў абкружалі 3 грабава-ліпавыя алеі. Новы двор стаяў убаку і быў абсаджаны з поўначы грабавымі дрэвамі, з поўдня — адзінкавымі дрэвамі мясцовых парод, да яго вяла ліпавая алея[3].

У пасляваенны час у паркавым ансамблі былі размешчаны цяпліцы мясцовага калгаса. Палац і гаспадарчыя пабудовы знішчаны. Рэшткі парку патрабуюць уліку і ўзяцця пад ахову дзяржавы.




*Выжлавічы. Схема парку.*

[1] *Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi Pińskiej. Warszawa, 1935. S. 26.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 1646. Арк. 1--3.*
[3] *Тамсама. Арк. 197.*
[4,5] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Вяляцічы
# Wielatycze
# Велятичи

Колішні фальварак, належаў роду Скірмунтаў.

Першапачаткова, як і шэраг іншых маёнткаў і фальваркаў, Вяляціцкі двор знаходзіўся ва ўласнасці пінскіх князёў Яраславічаў, потым каралі Рэчы Паспалітай Жыгімонт, Казімір і Аляксандр дараць і пацвярджаюць маёнтак роду Вяляцічаў. Самыя першыя гаспадары Вяляціч — Ян і Багдан Вяляціцкія. Багдан трымаў акрамя Вяляціцкага маёнтка яшчэ 15 двароў, у т.л. вёскі Сернікі, Невель, Балгары, Фядоры, Лосічы і інш. Гэтыя ўладанні яму пацвердзіла ў 1524 г. каралева Бона. Пасля смерці Яна Вяляціцкага двор па спадчыне перайшоў да яго дачкі Тамілы, якая выйшла замуж за Яна Даманавіча. З гэтага часу гаспадарамі Вяляціч стаў род Даманавічаў. Пазней маёнтак перайшоў у каралеўскую ўласнасць.

У XVII—XVIII ст. Вяляціцкая сядзіба знаходзілася ва ўласнасці Пінскага дамініканскага кляштара, а ў канцы XVIII ст. маёнтак набывае род Скірмунтаў. З гэтага часу амаль 200 гадоў Вяляцічы належалі ім.

У 1826 г. Адам Скірмунт выступіў фундатарам будаўніцтва царквы Раства Багародзіцы, якая дзейнічае па сённяшні час. У пачатку XX ст. гаспадаром маёнтка быў сын Адама Генрых Скірмунт, а ў 1920—1930-я гады маёнтак быў падзелены паміж яго сынамі Аляксандрам і Віктарам, дачкой Аляксандрай, якія з'яўляліся апошнімі гаспадарамі Вяляціцкага двара.




*Вяляцічы. Схема сядзібы.*

Вяляцічы знакаміты тым, што тут у 1779 г. жыў сакратар і паплечнік класіка эпохі Асветніцтва на Беларусі Адама Нарушэвіча гісторык Матэвуш Тукальскі-Нелюбовіч.

Акрамя таго, в. Вяляцічы — радзіма беларускага паэта, публіцыста, дэмакрата Франца Андрэевіча Савіча, які нарадзіўся ў 1815 г. у сям'і уніяцкага святара. Цяжкае, але яркае было жыццё гэтага таленавітага чалавека:







*Вяляцічы. Мемарыяльны знак Ф.А.Савічу*[2].

арганізацыя тайных гурткоў, распаўсюджванне ідэй вольнасці, братэрства, кіпучая творчая работа, турмы, уцёкі і хваробы. З літаратурна-публіцыстычнай спадчыны Ф.А.Савіча да нас дайшлі на беларускай мове верш «Там бліз Пінска...», успаміны «Споведзь грэшніка...» і інш. Памёр Ф.А.Савіч у 30-гадовым узросце, пахаваны ў Астрожку (Валынь)[1].

Імя Ф.А.Савіча ў наш час ушанавана мемарыяльным знакам у в. Вяляцічы.

[1] *Збор помнікаў... С. 300.*
[2] *Фота аўтара. 2001 г.*

# Дубай
# Duboja
# Дубой

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, які доўгі час быў радавым маёнткам Кужанецкіх. Спачатку маёнткам валодалі заможныя Палазовы і Агінскія, у 1-й палове XVII ст. Дубай перайшоў ва ўласнасць пінскага старосты князя Альбрэхта Станіслава Радзівіла, які ў 1635 г. падарыў маёнтак Пінскаму ордэну езуітаў[1]. Паводле іншых крыніц, езуіты атрымалі в. Дубай у 1634 г.[2]



*Дубай. Агульны выгляд палацава-паркавага ансамбля. XIX ст. З літаграфіі Напалеона Орды*[6].

У гэты час тут існаваў праваслаўны манастыр, у якім жыў 3 гады з 1633 г. па 1636 г. знакаміты змагар за праваслаўную веру ігумен брэсцкі Афанасій Філіповіч (1597—1648), кананізаваны патрыярхам рускай праваслаўнай царквы ў святога пакутніка. У 1636 г. манастыр пераходзіць да грэка-каталікаў (уніятаў), а праз некаторы час закрываецца езуіцкім ордэнам, які прызначыў яго пад сваю летнюю рэзідэнцыю. У старым Палазоўскім замкавым палацы езуіты размясцілі прытулак для дзяцей-сірот, а на штучным востраве пабудавалі каталіцкую капліцу.

Праз Дубай прайшла дарога вялікага хрысціянскага асветніка, езуіцкага прапаведніка Андрэя Баболі (1591—1657), які ў сваю чаргу быў кананізаваны Папам Рымскім у святога пакутніка.

У в. Дубай прайшлі дзіцячыя гады гісторыка і паэта, асветніка і грамадскага дзеяча Адама Станіслава Нарушэвіча (1733—1796). Тут праездам у 1784 г. пабываў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

У 2-й палове XVIII ст. маёнтак Дубай выкупіў Ігнацій Кужанецкі, пасол Варшаўскага сейма, віцебскі кашталян, кавалер ордэна Святога Станіслава. Ігнацій Кужанецкі быў жанаты з Барбарай Ябланоўскай, меў багатую эрудыцыю і шырокі светапогляд, таму быў абраны мясцовай шляхтай прадстаўніком на каранацыю расійскага імператара Паўла I, якая адбылася ў 1797 г.

Кужанецкія гаспадарылі ў маёнтку Дубай больш за 100 гадоў, стварыўшы яшчэ пры жыцці мноства легенд і паданняў пра іх бязбожнае і разгульнае жыццё[3]. Маёнтак быў перададзены арандатарам, а пасля задушэння паўстання 1863 г. яго выкупіў паланізаваны варшаўскі



*Дубай. Флігель. 1960-я гады*[7].







прамысловец нямецкага паходжання Кароль Шленкер. Пазней маёнтак атрымала ў спадчыну яго дачка Марыя Выджына, якая пасля 1-й сусветнай вайны выдзеліла частку зямлі плошчай 100 га з палацам і паркам для арганізацыі тут сельскагаспадарчай школы, назваўшы яе імем сваёй заўчасна памерлай дачкі Яніны.

Палац у в. Дубай быў пабудаваны езуітамі ў 1-й палове XVIII ст. з цэглы і вялізных камянёў. Будынак у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка з нерэгулярным размяшчэннем акон. Парадны фасад палаца быў акцэнтаваны высокім порцікам на чатырох масіўных калонах, размешчаных парамі. 2-і паверх порціка адметны імітацыяй акон. Аздобай палаца служыла рустоўка вуглоў будынка і выступаючыя з задняга фаса-да трохгранныя двухярусныя эркеры з прытуленымі да іх невялікімі порцікамі на дзвюх калонах. Па баках фасадаў размяшчаліся алькежы, накрытыя чатырохсхільным дахам, якія мелі па адным памяшканні на 1-м і 2-м паверхах.

Палац налічваў 16 прасторных памяшканняў з гладкімі афарбаванымі сценамі і дубовай сталяркай. У вялікай пярэдняй з боку параднага ўвахода быў невялікі камін. З пярэдняй тунэльныя праходы вялі ў залу для баляў, дзе стаялі печы акруглай формы з белай кафлі, аздобленай раслліннымі выявамі. Зала для баляў была распісана фрэскамі і мела дубовы паркет. У некаторых памяшканнях палаца да 1939 г. захаваліся ў добрым стане мураваныя каміны з чыгуннымі рашоткамі.

Насупраць параднага ўвахода да сённяшняга часу захавалася галоўная ўязная брама, якая складалася з двух мураваных, пакрытых рустам і ўвенчаных мураванымі шарамі слупоў. На левым баку ад іх размяшчалася невялікае аднапавярховае памяшканне кардэгарды з паглыбленым порцікам на дзвюх калонах. На гэтым жа баку ў глыбіні парку знаходзілася аранжарэя. На правым баку брамы існуе будынак стайні, які таксама некалі меў порцік.




*Дубай. Схема парку*[8].

Прастору паміж уязной брамай і палацам займаў велізарны авальны газон з клумбай пасярэдзіне. Паблізу палаца, каля правага боку, захавалася капліца, пабудаваная езуітамі ў XVIII ст. у стылі барока, пазней прыстасаваная пад касцёл Святога Крыжа. У склепах капліцы знаходзіліся саркафагі продкаў гаспадароў маёнтка.

Размешчаная з 1926 г. сельскагаспадарчая школа праіснавала да 1944 г. Палац быў узарваны ў канцы вайны фашысцкімі захопнікамі, а цэгла і каменне разабраны мясцовымі жыхарамі на будаўніцтва сваіх дамоў.

Тэрыторыя парку плошчай каля 11 га абмяжоўвалася каналамі і сажалкамі. Першапачатковая планіроўка парку рэгулярна-сіметрычна-восевага характару ў XIX ст. пашырылася ў паўночным напрамку пейзажнай зонай. Прынцыпу рэгулярнасці падпарадкоўвалася размяшчэнне палаца, флігеляў, капліцы, фантанаў, кветнікаў, баскетаў. Паркавы ландшафт уключаў аранжарэю, цяпліцы, масткі і інш. Цэнтральны ўезд у сядзібу фарміравалі 2 руставаныя пілоны, якія падкрэслівалі падоўжную вось ансамбля. Асноўны зялёны масіў парку разам з ліпавымі пасадкамі быў фонам для сядзібнага архітэктурнага ансамбля. Па абодва бакі параднага двара знаходзіліся прамавугольныя баскеты з пладовым садам.

Прагулачныя маршруты пралягалі па алеях уздоўж каналаў і дамбаў. У парку раслі ў асноўным мясцовыя пароды дрэў: елка, ліпа, таполя, бяроза, сасна, ясень, а таксама піхта, лістоўніца, каштан, арэх грэцкі. Прынцыпу рэгулярнасці падпарадкоўвалася і арганізацыя воднай сістэмы парку: па восі за домам знаходзіўся круглы (дыяметрам 30 м) стаў і шэраг прамавугольных сажалак, аб'яднаных каналамі з перакінутымі выгнутымі масткамі. Рыбныя садкі, выкапаныя на паўднёва-заходняй ускраіне сядзібы, пры дапамозе дамбаў забяспечвалі перапад вады і напаўнялі сажалкі і фантаны.

Паводле інвентара 1773 г., у сядзібу ўваходзіў вялізны лямус — трохпавярховы «на мураваным склепе» будынак з галерэяй па перыметры. На 1-м паверсе мелася 10 памяшканняў: 8 жылых, а па цэнтры 2 свірны, куды ссыпалася збожжа; 2-і паверх займала вялізная зала; 3-м паверхам была вежа[4].

У 1810 г. у Дубайскім палацава-паркавым ансамблі пабываў гісторык В.Бранеўскі, у 1870-я гады сядзібу наведаў Напалеон Орда, які намаляваў цудоўную акварэль з відам на палац. Пазней В.Бранеўскі з захапленнем пісаў: «...сад гэта штосьці небывалае... і асабліва ў маіх вачах, што прызвычаіліся да мёртвай адналікай тутэйшай прыроды. Ён пабудаваны па ўзорах слаўнага Ленотра з сажалкамі, фантанамі, кветнікамі і стрыжанымі алеямі...»[5]

У час 1-й сусветнай вайны ў Дубайскім парку былі размешчаны воінскія могілкі нямецкіх салдат.

У 1990-я гады ў в. Дубай устаноўлены мемарыяльныя дошкі Адаму Нарушэвічу і Афанасію Філіповічу. Ансамбль знаходзіцца на ўліку і пад аховай дзяржавы.

---

[1,5,8] *Федорук А.Т. Дворцово-парковое искусство... С. 49.*
[2] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 23.04.1999. С. 6.*
[3] *Aftanazy R.Dzieje... S.52.*
[4,6] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 197—198.*
[7] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0-120650).*











# Жабчыцы
# Żabczyce
# Жабчицы

Колішні палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Красіцкіх. Першае ўпамінанне пра в. Жабчыцы сустракаецца ў пісьмовых крыніцах у 1524 г. Аднак ёсць звесткі пра больш даўняе існаванне вёскі, калі ў маёнтку гаспадарыў род Анцукевічаў, якія атрымалі Жабчыцкае дворышча і Гогалеў палац ад караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта за добрую службу. Дачка Юрыя Анцукевіча Марына была замужам за Фёдарам Пятровічам Шчэпам, радцам пінскага князя Фёдара, і маёнтак Жабчыцы перайшоў ва ўладанне Шчэпаў, што і пацвердзіла ў 1524 г. каралева Бона.

У 1534 г. Жабчыцы перайшлі ва ўласнасць роду Алізараў[1] пасля судовай справы, якая скончылася на іх карысць, а неўзабаве каралева Бона пацвердзіла ўласнасць Алізараў на Жабчыцкі маёнтак[2]. Потым некаторы час Жабчыцамі валодалі духоўныя асобы, пасля род Журавіцкіх[3].

У пачатку XVII ст. маёнтак пераходзіць да роду Фядковічаў, пазней — Валадкевічаў, пасля 1652 г. —



*Жабчыцы. Агульны выгляд палацава-паркавага ансамбля. З малюнка Напалеона Орды. 1869 г.*[5]

Бжэскіх, з 1756 г. — Завадскіх, а з канца XVIII ст. гаспадарамі Жабчыц сталі нашчадкі роду Красіцкіх. Спачатку ў маёнтку пачаў гаспадарыць граф Ігнацій Красіцкі, жанаты з Ефрасінняй Бажанец-Ялавіцкай, потым па спадчыне двор перайшоў да іх сына Марціна, жанатага з Пела-




*Жабчыцы. Сітуацыйны план.*




*Жабчыцы. Будынак бровара. Да 1939 г.*[6]

геяй Скірмунт. Пасля маёнтак перайшоў да іх сына Артура Рамана, жанатага з Геленай Ільінскай. Апошнім гаспадаром маёнтка з роду Красіцкіх быў сын Артура Генрых, жанаты з Марыяй Трызнай. Да 1939 г. Жабчыцкі маёнтак быў ва ўласнасці роду Мінковых[4].

4 пакаленні роду графаў Красіцкіх гаспадарылі ў Жабчыцах, Таргошыцах і Дзімкавічах больш за 100 гадоў. Пры Красіцкіх у Жабчыцах быў пабудаваны палац, які ўяўляў сабой аднапавярховы, па цэнтры двухпавярховы будынак, выкананы ў стылі класіцызму. Палац быў накрыты гладкім чатырохсхільным дахам. Побач з палацам размяшчаўся аднапавярховы флігель і шэраг гаспадарчых пабудоў.

Тут у 1870-я гады пабываў Напалеон Орда, які пакінуў малюнак Жабчыцкага палацава-паркавага ансамбля. У той час палац меў вельмі багатую аздобу, многа старадаўніх вырабаў мастацтва.

Палац абкружаў пейзажны парк. На акварэлі Н.Орды добра адлюстравана маляўнічасць парку, асабліва вылучаюцца на фоне ансамбля стройныя таполі, якія надавалі палацу асаблівую прыгажосць.

Яшчэ ў 1-ю сусветную вайну палац быў пашкоджаны і абрабаваны, а пасля 1-й сусветнай вайны шматлікія маёнткі Красіцкіх былі падзелены і перададзены асаднікам. У 1944 г. палац быў спалены.

У савецкі час у маёнтку размяшчаліся будынкі мясцовага калгаса, сядзіба паступова разбуралася, парк знішчаўся.

Сёння на месцы палацава-паркавага ансамбля пабудаваны пасёлак Садовы і завод кандытарскіх вырабаў.

Яшчэ ў 1788 г. графамі Красіцкімі ў Жабчыцах была ўзведзена грэка-каталіцкая царква Параскевы Пятніцы, размешчаная паміж сядзібай і вёскай, якая як праваслаўная дзейнічае да сённяшняга часу.

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 14. 1895. S. 709.*
[2] *Ревизия пущ... С. 268—269.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 179.*
[4] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 1718. Арк. 1—3.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4513).*
[5] *Архіў Э.Злобіна.*

# Жытнавічы
# Żytnowicze
# Житновичи

Колішняя сядзіба роду Рыдзеўскіх[1]. Размяшчалася паблізу вёскі Жытнавічы ў маляўнічай мясцовасці, абкружанай балотамі, пералескамі, палянамі і палеткамі.











*Жытнавічы. Старадаўняя конная дарога*[3].

Жытнавіцкі двор вядомы з пісьмовых крыніц XV ст. У прыватнасці, з 1495 г. дворышча набыў шляхецкі род Полазаў ад пінскай княгіні Марыі альбо ад яе сына Васіля. У далейшым гаспадарамі маёнтка былі спадчынныя ўладальнікі, пакуль мясцовыя князі не перадалі Жытнавічы ў карыстанне Лешчанскаму манастыру.

У 1-й палове XVI ст. Жытнавічы выкупіла каралева Бона, якая загадала правесці грунтоўны вопіс маёмасці маёнтка. У канцы XVI ст. Жытнавіцкі маёнтак быў перададзены пінскаму праваслаўнаму жаночаму манастыру, а праз некаторы час ім завалодаў грэка-каталіцкі ордэн базыльян, і, нарэшце, на мяжы XVIII—XIX ст. маёнтак становіцца ўласнасцю заможнага роду Рыдзеўскіх[2]. Рыдзеўскія заклалі тут у 1895 г. лесапільны завод, гаспадаром якога быў Ежы Рыдзеўскі. Агульная плошча маёнтка на той час складала каля 4 тыс. дзесяцін ворнай зямлі, сенажацей, лесу і балота.



*Жытнавічы. Фрагмент парку*[4].





*Жытнавічы. Схема сядзібы.*

Пры Рыдзеўскіх у Жытнавічах быў пабудаваны сядзібны дом (каля сярэдзіны XIX ст.), а вакол яго закладзены парк і невялікі пладовы сад.

На сённяшні дзень кампазіцыя парку захавалася, сажалка і равы крыху абмялелі, але не высахлі. У парку растуць лісцевыя пароды дрэў і плантацыі дэкаратыўных кустоў.

Палац быў драўляны, на нізкім падмурку, аднапавярховы, з мансардай па цэнтры, з чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай. Добра захавалася старадаўняя конная дарога на Пінск.

Рэшткі сядзібы з паркам і коннай дарогай патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 1735. Арк. 1—3.*
[2] *Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi Pińskiej... S. 26.*
[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Заполле
# Zapole
# Заполье

Палацава-паркавы ансамбль. Вёска Заполле ўпершыню ўпамінаецца ў гістарычнай літаратуры ў 1488 г. як уласнасць пінскіх князёў Яраславічаў. У 1496 г. новы гаспадар Заполля Вавошка Разіевіч атрымаў ад князя дазвол на продаж фальварка Заполле Фёдару Тышкевічу. Пазней гаспадарамі фальварка сталі нашчадкі заможнага роду князёў Друцкіх-Любецкіх, рэзідэнцыя якіх размяшчалася ў маёнтку Парахонск.

Фальварак Заполле на той час уваходзіў у склад маёнтка Пясэчна, плошча якога налічвала ў 1887 г. 8549 дзесяцін зямлі[1], а маёнтак Пясэчна ў сваю чаргу быў часткай уладання Парахонскага ключа князёў Друцкіх-Любецкіх.

З гісторыі вядомы факт, што праездам у Гродна на сейм у 1784 г. фальварак Заполле наведаў апошні кароль





Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У гонар караля на Запольскім полі перад палацам прайшоў парад коннай Пяцігорскай брыгады. Камандаваў парадам генерал Твардоўскі, які гаспадарыў у суседнім маёнтку Велясніца. Для прыёму караля ў Запольскім гаі была пабудавана вялікая летняя зала з ілюмінацыяй. Сцены залы былі распісаны малюнкамі з выявамі воднага цара Нептуна, постаць якога абкружалі рэчышчы ўсіх пінскіх


*Заполле. Галоўны фасад палаца. Сучасны выгляд*[5].

рэк і двух каналаў — Мухавецкага (пазней Дняпроўска-Бугскага) і Целяханскага (пазней Агінскага). Будоўляй і падрыхтоўкай залы кіраваў пінскі староста Хамінскі.

Пад кожным малюнкам ракі і каналаў былі змешчаны па 4 вершы, напісаныя таксама Хамінскім. Парад праходзіў шматлюдна, таму што вітаць караля прыязджалі не толькі прадстаўнікі заможнай шляхты, але і тысячы сялян і гараджан.

Пасля князёў Друцкіх-Любецкіх маёнтак Пясэчна з фальваркам Заполле перайшоў па жаночай лініі да графаў Пуслоўскіх, як пасаг князёўны Юзэфы Друцкай-Любецкай, якая была замужам за графам Войцехам Пуслоўскім (1762—1833), паслом чатырохгадовага Варшаўскага сейма 1788—1792.


*Заполле. Паркавы фасад палаца. 1960-я гады*[6].

За сваё жыццё Войцех Пуслоўскі набыў велізарную колькасць маёнткаў, галоўнай рэзідэнцыяй якіх быў абраны маёнтак Старыя Пескі (цяпер Бярозаўскі раён). Сваю спадчыну ён завяшчаў пяцярым сынам. Косаўскі ключ, Свіслач і Пясэчна з Заполлем дасталіся яго сыну Вандаліну Пуслоўскаму, які ў 1838 г. пабудаваў пад Косавам ва ўрочышчы Мерачоўшчына каля сядзібы Андрэя Тадэвуша Касцюшкі арыгінальны палац-рэзідэнцыю.

Дачка Вандаліна Пуслоўскага і Ядвігі Язерскай Генавефа (1852—1928) у 1872 г. выйшла замуж за графа Адама Бройль-Плятэра і прынесла Заполле ў якасці пасагу ў спадчыну мужа. З гэтага часу і да 1939 г. Заполле пастаянна належала графам Плятэрам[2]. Апошнім гаспадаром маёнтка быў іх сын граф Стафан Марыян Вандалін Бройль-Плятэр (1873—1951), жанаты з Ірэнай Галінскай.

Перад 1930 г. Запольскі маёнтак стаў асноўнай рэзідэнцыяй Плятэраў пасля таго, як Пясэчна было раздзелена і распрададзена. У гэты час у Заполлі існаваў стары пейзажны парк, у якім Плятэры пабудавалі новы палац сярод цудоўных ліпавых шпалер і альтанак. Палац меў больш сціплы выгляд, чым папярэдні стары дом у Пясэчне, які быў знішчаны ў 1-ю сусветную вайну.

Шэраг айчынных даследчыкаў палацава-паркавай архітэктуры Беларусі лічаць, што Запольскі палац паходзіць з канца XVIII — пачатку XIX ст.[3] На самай справе Запольскі палац пабудаваны ў 1920-я гады.

Палац яшчэ існуе да сённяшняга часу і знаходзіцца ў крайне занядбаным стане. Ён уяўляе сабой аднапавярховы драўляны будынак, накрыты гладкім чатырохсхільным дахам. Цэнтральны фасад у сярэдняй частцы вылучаны класічным высокім порцікам на чатырох мураваных калонах, над якімі ўзвышаецца трохвугольны шчыт з паўкруглым акенцам. З боку парку палац меў порцік, ідэнтычны франтальнаму, размешчаны па цэнтры фасада. Да фасада былі дабудаваны крылы, і таму палац з боку парку ў плане мае форму падковы.

Унутраная аздоба палаца была даволі багатая. Тут былі рэшткі каштоўнасцей, уратаваных у час пажару старога дома, у т.л. мэбля, партрэты продкаў сям'і, іншыя рэчы.



*Заполле. Схема парку.*

Сцены палаца гарызантальна ашаляваныя, вокны прамавугольныя. Пакоі ў цэнтральнай частцы (залы і кабінеты) мелі анфіладную планіроўку, бакавыя крылы з жылымі і гаспадарчымі памяшканнямі — калідорную.

У парку растуць векавыя дубы, клёны, каштаны і інш. мясцовыя пароды дрэў.

Палацава-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы. Пры належных адносінах мясцовай улады і гаспадароў, пасля рэстаўрацы ў ім можа быць размешчана бібліятэка-музей.

---

[1] *Słownik geograficzny. T. 8. 1887. S. 46.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 1761. Арх. 1—2.*
[3] *Кулагин А.Н. Архитектура... С. 37;*
*Чантурия В.А. История архитектуры... С. 254—255.*
[4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 179.*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*
[6] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0-120648).*




# Калбы
# Kołby
# Колбы

Сядзіба роду Алявінскіх[1]. Напачатку вёска мела назву Сяльцы (Сялец) па прозвішчы шляхецкага роду Колбаў-Сялецкіх, што асеў на Піншчыне яшчэ ў XV ст. Гэта адзначана ў дакументах, якія належаць да часоў уладарання караля Казіміра Ягелончыка (1446—1492).

У прыватнасці, паводле каралеўскага прывілея Мікалай Сырапят і яго сын Ян мелі сядзібы ў Сяльцы і суседніх Канюхах. Іх спадчына перайшла да пінскага ваяводы Марціна Янавіча па прозвішчы Шырмач. У 1524 г. каралева Бона, а ў 1588 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст сваімі граматамі пацвердзілі права Шырмача на Сяльцы.

Пасля смерці Шырмача маёнтак заставаўся ва ўласнасці яго роду да канца XVIII ст.

Некаторы час Калбамі валодала уніяцкая царква, а з 1-й паловы XIX ст. маёнтак перайшоў ва ўласнасць роду Алявінскіх. Апошнім гаспадаром Калбаў быў Антоній Алявінскі.

У сярэдзіне XIX ст. Алявінскія пабудавалі ў Калбах дом і заклалі парк.

Будынак палаца меў у плане форму выцягнутага прамавугольніка, быў аднапавярховы, драўляны, з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай. Цэнтральны фасад палаца вылучаны невялікім ганкам на двух драўляных слупах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыт. Будынак меў па баках ганка па 3 шасцісекцыйныя



*Калбы. Сядзіба Алявінскіх. 1939 г.[2]*

акны з шырокімі аканіцамі, пафарбаванымі ў белы колер. Да ганка ад уязной брамы вяла шырокая сцежка, вымашчаная каменем. Перад палацам быў шырокі травяны газон.

Пры Алявінскіх у Калбах была пабудавана капліца з рысамі барока і класіцызму, якая захавалася да сённяшняга часу.

У 1710 г. Палессе наведаў расійскі гісторык і дыпламат В.М.Тацішчаў, які пакінуў у сваіх дарожных запісах успаміны пра в. Калбы.

З 14 жніўня па 3 верасня 1916 г. у Калбах пражываў вялікі расійскі паэт Аляксандр Аляксандравіч Блок.

Паводле некаторых звестак, тут хаваўся ад праследавання будучы палітычны лідэр незалежнай Польскай Рэспублікі Юзаф Пілсудскі. У час савецка-польскай вайны ў маёнтку збіраўся невялікі атрад, які прымаў удзел у Лагішынскім паўстанні супраць савецкай улады. У дзеяннях паўстанцаў актыўны ўдзел прымалі гаспадар Пётр Алявінскі, браты Вамдалкоўскія і іншыя[3].

Палац і парк у пасляваенны час поўнасцю знішчаны.

[1] *Horoszkiewicz R. Tradycye ziemi Pińskiej... S. 21.*
[2] *Popek L. Polesie... S. 122.*
[3] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 25.06.1999. С. 6.*

# Каранёва
# Korzeniewo
# Коренево

Колішні маёнтак, уласнасць роду Скірмунтаў. Размяшчалася сядзіба Каранёва на тэрыторыі цяперашняга Ахоўскага сельскага Савета, на мяжы з Іванаўскім раёнам. У 1880 г. Каранёва ўяўляла сабой даволі буйны маёнтак, у склад якога ўваходзіла 2278 дзесяцін зямлі. У пачатку XX ст. маёнтак быў падзелены на 2 часткі: само Каранёва засталося ва ўласнасці Караліны Скірмунт (2025 дзесяцін) і маёнтак Корань, выкуплены Казімірай Імянінскай.

Каранёўская сядзіба звязана з імем знакамітай пісьменніцы Марыі Радзевічуўны (Радзевіч). Будучая пісьменніца нарадзілася 2 лютага 1864 г. у м. Пінюга Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні.

Бацькі Марыі, Генрых Радзевіч і Амелія Кужанецкая, падтрымалі нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 г., памагалі паўстанцам, хавалі зброю, за што былі асуджаны царскімі ўладамі на высяленне ў Сібір. Маці была цяжарная, атрымала дазвол часова застацца на радзіме, а пасля нараджэння Марыі накіравалася да мужа ў Сібір. Маёнтак Грушава пад Кобрынам, дзе гаспадарыў па



*Каранёва. Уязная дарога[1].*

спадчыне бацька Марыі, быў канфіскаваны, а дзеці выхоўваліся ў радні. Марыя спачатку жыла ў дзеда і бабулі Кужанецкіх у маёнтку Замошша (цяпер Іванаўскі раён), а пасля смерці дзеда выхоўвалася ў маёнтку Каранёва, які належаў Караліне Скірмунт, што даводзілася далёкай раднёй маці пісьменніцы. Значна пазней, атрымаўшы вядомасць, Марыя Радзевіч у сваіх успамінах раскажа пра цётку Караліну і яе гутаркі пра Рамуальда Траўгута, пра пакой, дзе спыняўся і часова пражываў гэты легендарны чалавек.












*Каранёва. Схема размяшчэння сядзібы.*

Сядзібны дом у Каранёве быў пабудаваны, верагодна, яшчэ на пачатку XIX ст., уяўляў сабой аднапавярховы драўляны будынак, накрыты гонтай. Цэнтральны фасад быў вылучаны невялікім ганкам.

Адначасова з будаўніцтвам дома быў закладзены невялікі пейзажны парк.

Пасля 1-й сусветнай вайны ў Каранёўскай сядзібе гаспадарыў нашчадак Скірмунтаў Аляксандр Скірмунт, а ў сядзібе Корань — Ян Сянкевіч. У пасляваенны час сядзіба была знесена пры правядзенні суцэльнай меліярацыі зямель на Палессі. Засталіся толькі сляды ўязной алеі да двара і рэшткі саду.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Красічын
# Krasiczyn
# Красичин

Колішняя сядзіба. Належала графу Красіцкаму, уваходзіла ў склад маёнтка Жабчыцы. Пасля 1-й сусветнай вайны і да 1939 г. Красічынскі двор знаходзіўся ў братоў Івана і Уладзіміра Дымічаў.

Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў 1939 г. сядзіба разам з пабудовамі выкарыстоўвалася чыгуначным ведамствам, якое абслугоўвала лінію Пінск — Брэст[1].

З 1944 г. да 1947 г. у сядзібе размяшчаўся калгас, да канца 1950-х гадоў — бальніца, а ў сучасны перыяд на яе



*Красічын. Фрагмент парку[2].*

тэрыторыі размешчана Пінскае прафтэхвучылішча № 161.

З пабудоў ужо нічога не засталося, палац знішчаны, гаспадарчыя будынкі разабраны. Ёсць сажалка, равы, рэшткі парку, дзе растуць грабы, адзінкавыя дрэвы каштана, дуба, клёна, ясеня.

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 9.07.1999. С. 6.*

[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Крысцінава
# Krystynów
# Кристиново

Старадаўні маёнтак. Гісторыя Крысцінаўскай сядзібы цесна звязана з маёнткам Лапацін. Першае ўпамінанне пра Лапацін датуецца 1524 г., калі каралева Бона пацвердзіла ранейшы прывілей на маёнтак роду Шырмаў, які паходзіў ад роду Сырапятаў.

Праз шлюб Матэвуша Бутрымовіча з Крысцінай Лях-Шырмай Лапацінскі двор перайшоў у 2-й палове XVIII ст. ва ўласнасць роду Бутрымовічаў. У 1773 г. Матэвуш Бутрымовіч, які меў на той час пасаду пінскага падстаросты, заклаў на лапацінскіх землях прыгожую рэзідэнцыю і назваў сядзібу ў гонар сваёй жонкі Крысцінавам.

У 1784 г. 8 верасня Матэвуш Бутрымовіч меў гонар прыняць у Лапаціне і Крысцінаве апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Гэта не выпадкова, таму што слава і чуткі пра Бутрымовіча як руплівага гаспадара, прамыслоўца і рэфарматара сялянскага ўкладу жыцця выйшлі далёка за межы Палесся.



*Крысцінава. Сучасныя краявіды[5].*

Матэвуш Бутрымовіч сустракаў караля па ўсіх правілах прыёму аўгусцейшай асобы: пальбой з гарматы, ілюмінацыяй, аркестрам, аглядам вырабаў прамысловых тавараў, спецыяльных 10 баржаў, нагружаных драўнінай, вапнай, цэглай, дахоўкай і іншымі матэрыяламі, наведваннем і аглядам па шляху з Лапаціна да Крысцінава шлюзаў, сялянскіх двароў, вырабаў мясцовых майстроў, мураванай крамы, млына і палацава-паркавага ансамбля ў Крысцінаве, размешчанага на асушаных лапацінскіх








*Крысцінава. План палаца. 1794 г.*[6]

землях. Як адзначыў у дзённіку каралеўскі пісар, кароль быў прыемна ўражаны гасціннасцю мясцовага люду, меліярацыйнымі пераўтварэннямі і наватарствам Матэвуша Бутрымовіча.

Пісар зафіксаваў самыя дробныя дэталі прыёму караля, у т.л. размову яго з Бутрымовічам перад увaходам у парк, дзе рос дуб-велікан — «спрадвечны гаспадар гэтага месца», таўшчынёй у 2 локці. Бутрымовіч паведаміў пра свой праект захаваць для будучых пакаленняў і нашчадкаў гісторыю свайго двара, устанавіўшы на старадаўнім дубе-велікане мемарыяльную каменную пліту з надпісам: «Крысцінаў, названы па імені Крысціны Бутрымовіч з дому Шырмы, заснаваны на Лапацінскіх і Хлябаўскіх балотах, асушаных яе мужам Матэвушам Бутрымовічам, герб «Сякера». І на гэтым астраўку, дзе спрадвеку існуе гэты дуб, закладзены дом, парк, каналы, гай, забяспечаныя ўладкаваннем і аздобай. Пачатак заснавання: 1773 г. 1-е траўня»[1].

У свіце караля былі біскуп Нарушэвіч, генерал-маёр Камарэўскі, староста і пасол мельніцкі Шыдлоўскі, пасол кракаўскі Бадэні, ваявода мсціслаўскі Хамінскі, падкаморы ВКЛ Храптовіч, кашталян брэсцкі Быстры, падкаморы пінскі Людвік Ажэшка, кашталян пінскі Бенядзікт Ажэшка і інш. высокія асобы.

На той час у Крысцінаве ўжо былі 2 флігелі, пабудаваныя на цвёрдай зямлі, а астатнія аб'екты фальварка: стайні, гаспадарчыя пабудовы, аранжарэя, парк, шырокі канал у выглядзе абвалаванай сажалкі — размяшчаліся на асушаных землях. Парк быў яшчэ вельмі малады, дрэў было пасаджана мала, а ад увахода і да канца праз сярэдзіну парку пралягала шырокая сцежка, абсаджаная разнастайнымі кветкамі, у т.л. палявымі.

Гасцiная флігеля, дзе адпачываў кароль у Крысцінаве, мела арыгінальную аздобу. Акрамя драўлянай мэблі, выраблeнай лапацінскімі майстрамі, на сцяне віселі толькі 2 вялікія партрэты. На першым быў намаляваны сам кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, на другім — гетман Міхал Агінскі, фундатар і арганізатар будаўніцтва меліярацыйнага канала.

Партрэты былі ў пазалочаных багетах. Пад партрэтам М.Агінскага былі 2 вершы пра Целяханы і Целяханскі канал, напісаныя мясцовымі паэтамі Хамінскім і Харкевічам. Да першага верша былі прыпісаны наступныя радкі: «Гетману ВКЛ Агінскаму, абцяжаранаму пракладкай канала і стварэннем на гэтым канале плаваючага тэатра оперы і камедыі ў 1771 г.»[2]

Да прыезду караля на месцы, дзе павінен быць узведзены мураваны палац у Крысцінаве, былі выкапаны канаўкі пад яго падмуркі. Бутрымовіч прадставіў каралю архітэктара праекта палаца К.Шыльдгаўза і майстра-муляра Мацея Карпецкага. Бутрымовіч і кароль заклалі ў падмурак будучага палаца камень з надпісам, што ў 1784 г. 7 верасня на хвалу Богу гэты палац закладзены ў дзень наведвання каралём Станіславам Аўгустам яго рукамі і, дай Божа, каб у гэтым доме панавала здароў'е і шчасце.

Акрамя таго, кароль сваёй рукой на падмурку напісаў: «Ад сэрца жадаю, каб палац, закладзены ў Крысцінаве (Лапаціне), быў гняздом вечнай і шчаслівай долі для яго гаспадароў: Матэвуша Бутрымовіча, мечніка пінскага і гродзенскага, Крысціны Шырмянкі, жонкі яго, і нашчадкаў іх»[3].

Лёс палаца Бутрымовіча ў Крысцінаве складаны, лёс каменнай пліты ў гонар заснавання маёнтка Крысцінава шчаслівейшы. Пліта больш як праз паўтара стагоддзя апынулася ў Палескім музеі, а зараз захоўваецца ў фондах музея Беларускага Палесся. Верагодна, яе прывязлі перад вайной з Крысцінаўскіх могілак мясцовыя даследчыкі і краязнаўцы.

Пліта мае 2 адметныя тэксты, з розніцай у напісанні па часе 23 гады. Першапачатковы тэкст пліты, верагод-



*Закладная пліта палаца Матэвуша Бутрымовіча ў Крысцінаве.*









на, чымсьці не задавальняў Бутрымовіча, і 24 ліпеня 1807 г. ён загадаў перарабіць яе ў надмагільную пліту для сваіх слуг: повара, 27 гадоў, які памёр у 1799 г., і даглядчыка канюшань, 35 гадоў, які памёр у 1804 г.

Дата першапачатковага, асноўнага, тэксту вядома дзякуючы дзённіку наведвання каралём Пінска і Крысцінава. Паводле меркавання варшаўскага даследчыка Нікадзіма Бутрымовіча, нашчадка роду Бутрымовічаў, дзённік быў апублікаваны ўнукам Матэвуша Бутрымовіча Напалеонам Ордам у 1860 г. у часопісе «Biblioteka Warszawska».

Пазней рознымі гаспадарамі мяняліся памятныя пліты, нават у 1939 г. да дуба была прыбіта апошняя металічная пліта, але дакладна вядома, што самая першая пліта, вырабленая Матэвушам Бутрымовічам, захавалася і зараз з'яўляецца адной з каштоўнейшых рэліквій XVIII ст. Гістарычны дуб, верагодна, быў зрэзаны адразу пасля вайны.

Дзякуючы плану 1-га паверха Крысцінаўскага палаца, які прадастаўлены нашчадкамі роду Бутрымовічаў з сямейнага архіва, можна ў агульных рысах уявіць архітэктуру рэзідэнцыі. Палац пабудаваны з цэглы пасля 1784 г.

Будынак у плане меў форму прамавугольніка. Цэнтральны фасад быў акцэнтаваны высокім порцікам на дзвюх парах мураваных калон. Паркавы фасад меў па цэнтры масіўны ганак. Па 2 невялікія ганкі размяшчаліся на бакавых фасадах палаца. Унутры палаца было 15 пакояў, у т.л. вялікая рэпрэзентатыўная зала, рабочыя кабінеты, спальні, сталовая, прыхожая і інш.

Палац быў моцна пашкоджаны ў 1-ю сусветную вайну, паступова занепаў, зямля Крысцінаўскага і Лапацінскага маёнткаў была падзелена і выкуплена шэрагам новых гаспадароў[4].

Сёння пра Крысцінаўскі палацава-паркавы ансамбль нагадваюць толькі рэшткі земляных валоў, сажалкі і аплыўшыя каналы, так званыя Крысцінаўскія ставы.

Месца размяшчэння Крысцінаўскага палацава-паркавага ансамбля мае мемарыяльнае значэнне і павінна быць узята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Dyaryusz bytności Najjaśniejszego Króla Stanisława Augusta w Pińsku i Krystynówie w miesiącu Septembrze, 1784 roku // Biblioteka Warszawska, 1860. T. 3. Warszawa. S. 272.*

[2] *Тамсама. С. 269.*

[3] *Тамсама. С. 273.*

[4] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп.2. Спр. 1801. Арк. 1—3; Спр. 1802. Арк. 1—23; Спр. 1803. Арк. 1—56.*

[5] *Фота аўтара. 1999 г.*

[6] *Прыватны архіў Яніны Бутрымовіч (г. Сопат, Польшча).*

# Новы Дварэц
# Dworzec Nowy
# Новый Дворец

Колішні фальварак. Першае ўпамінанне пра Новы Дварэц датуецца 1518 г. У пачатку XX ст. маёнтак стаў уласнасцю Іязафата Аніхімоўскага. Апошнім гаспадаром Новага Дварца быў Лявон Аніхімоўскі, які ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі з'яўляўся адным з арганізатараў польскага партызанскага руху на тэрыторыі Жабчыцкага раёна.



*Новы Дварэц. Фрагмент парку[1].*

Да 1990-х гадоў у Новым Дварцы існавалі рэшткі палацава-паркавага ансамбля: сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы, парк.




*Новы Дварэц. Схема сядзібы.*

Пашырэнне тэрыторыі псіханеўралагічнага інтэрната, які размясціўся на тэрыторыі ансамбля, канчаткова парушыла яго кампазіцыю, старыя будынкі былі разабраны і на іх месцы ўзведзены новыя.

Сядзібны дом быў аднапавярховы, цагляны, меў у плане форму прамавугольніка, невялікі ганак па цэнтры галоўнага фасада.

На сучасны момант ад парку засталіся адзінкавыя дрэвы, у асноўным дубы 150—200-гадовага ўзросту.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Пагост-Загародскі
# Pogost-Zagorodzki
# Погост-Загородский

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо князёў Друцкіх-Любецкіх.

Першае ўпамінанне пра Пагост-Загародскі датуецца 1528 г., калі Сямён Юхнавіч Орда звярнуўся да каралевы Боны з просьбай на валоданне маёнткамі Пагост, Лемя-





шэвічы і Сушыцк. Справа скончылася тым, што каралева Бона падаравала яму гэтыя двары за асаблівыя заслугі.

Пазней Пагост-Загародскі перайшоў да трокскага ваяводы Стафана Збаражскага, а ў пачатку XVII ст. да роду Статкевічаў, пасля маёнтак перадаваўся шэрагу арандатараў. З XVIII ст. ім сталі валодаць князі Друцкія-Любецкія. Верагодна, першым гаспадаром маёнтка з гэтага княжацкага роду стаў князь Мікалай, жанаты з Крысцінай Статкевіч, якая прынясла мужу маёнтак у якасці пасагу. Далей у Пагост-Загародску па чарзе гаспадарылі князь Юзаф, жанаты з Вікторыяй Скірмунт, потым іх сын князь Францішак, апошні пінскі кашталян і пасол на Варшаўскі сейм. Ён быў жанаты двойчы, спачатку з Генавефай Алізаравай, другі раз — з Тэрэзай Стрыцінскай. Яго сын князь Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі (нарадзіўся ў 1779 г.) стаў бадай адным з самых багатых і ўплывовых асоб у Брэст-Літоўскім ваяводстве. Меў надзвычай высокую адукацыю і культуру, пазней стаў міністрам фінансаў Рэчы Паспалітай.

Велізарныя ўладанні Францішка Ксаверыя па спадчыне перайшлі яго малодшаму сыну князю Гераніму (1779—1844), маршалку пінскаму, які быў жанаты з Кацярынай Шчыт-Неміровіч, а пасля — іх сыну Эдвіну Цэзарыю Адаму (1828—1901), маршалку і суддзі пінскаму, жанатаму з князёўнай Ядвігай Радзівіл.

Пасля смерці Эдвіна маёнтак пераходзіць ва ўласнасць некалькіх спадкаемцаў. Пагост-Загародскі двор перайшоў да князя Аляксандра Валерыяна Друцкага-Любецкага. Пасля 1-й сусветнай вайны маёнтак перайшоў да княгіні Яніны Скарэўскай-Агінскай.

Першапачаткова галоўнай рэзідэнцыяй князёў Друцкіх-Любецкіх быў палац у Пагост-Загародскім маёнтку, а ў 1-й палове XIX ст. яны перанеслі яе ў Лунін.

У пачатку XX ст. Пагост-Загародскі палацава-паркавы ансамбль выглядаў вельмі імпазантна. Палац быў размешчаны ў баку ад мястэчка, на беразе возера, на значным узвышшы, якое, безумоўна, мела штучнае паходжанне. На гэтым узвышшы засталіся рэшткі велізарнага мураванага палаца, касцёла і гаспадарчых збудаванняў[1].

Навокал раскінуўся маляўнічы парк з каналам і арыгінальным мастком. З акон палаца адкрываўся від на возера. Але з цягам часу парк, палац і гаспадарчыя будынкі ансамбля заняпалі, разбурыліся. У рэшце рэшт, гэтыя каштоўнасці былога хараства і веліччасці зніклі назаўсёды. З пачатку XX ст. да 1939 г. Пагост-Загародскія землі былі падзелены і выкуплены шэрагам розных уладальнікаў[2].

У сучасны перыяд гэта месца поўнасцю забудавана і змяніла сваё архітэктурнае аблічча.

У в. Пагост-Загародскі ў 1773 г. у небагатай сям'і нарадзіўся вядомы гісторык, этнограф, архівіст і кнігазбіральнік Лукаш Галамбёўскі[3]. Першую адукацыю будучы вучоны атрымаў у сям'і Друцкіх-Любецкіх, добра навучыўся чытаць і пісаць на польскай, рускай, нямецкай, французскай мовах, вывучаў латынь, матэматыку, геаграфію, гісторыю. У сваіх успамінах Галамбёўскі з захапленнем напісаў пра Пагост-Загародскі.

Пасля 2-га і 3-га падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Пагост-Загародскай воласці да Расійскай імперыі тут адбыліся значныя змяненні.

Уніяцкая Пакроўская царква была пераведзена ў праваслаўную, яна стала называцца Мікалаеўскай і праіснавала да канца XIX ст. Да яе была прыпісана Міхайлаўская царква, якая размяшчалася на мясцовых могілках і была ў свой час перароблена з касцёла (не існуе). У 1863 г. у Пагост-Загародскім быў закрыты арыгінальнай архітэктуры касцёл, які пабудавалі тут Друцкія-Любецкія ў 1775 г., і пазней пераробленыя ў праваслаўную царкву. Месца, дзе размяшчаўся некалі Пагост-Загародскі двор, патрабуе ўзяцця на ўлік.

---

1 Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 22.10.1999. С. 6.

2 ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2046. Арк. 1—53.

3 Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi Pińskiej... S. 24.

# Парахонск
# Parachonsk
# Пароxонск

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Друцкіх-Любецкіх. Вёска, паводле гістарычных крыніц, вядома з XV ст. У XV—XVII ст. маёнтак Парахонск належаў князям Жыжэмскім, Малашчыцкім. Іх спадкаемцамі былі князі Радзівілы. У XVII ст. маёнтак набыў род князёў Друцкіх-Любецкіх. Гэты заможны род лініі Друцкіх лічыў сябе нашчадкамі Рурыкавічаў, а па лініі Любецкіх атрымаў прозвішча ад назвы мясцовасці Любча, што на Валыні, дзе лінія асела яшчэ ў канцы XV ст. У сярэдзіне XVII ст. Любчанскі маёнтак быў прададзены, і Друцкія-Любецкія набылі багатыя двары па Піншчыне. Багацце Друцкіх-Любецкіх назапашвалася праз куплю новых зямель і шлюбныя пасагі, асабліва пры князю Францішку Друцкім-Любецкім, жанатым двойчы, спачатку з Генавефай Алізаравай, другі раз з Тэрэзай Стрыцінскай. Ён займаў шэраг высокіх пасад (пасол на Варшаўскі сейм, кашталян і маршалак пінскі). Пасля яго маёнткі Лунін, Парахонск і іншыя перайшлі па спадчыне малодшаму сыну князю Гераніму (1779—1844), маршалку пінскаму, жанатаму з Кацярынай Шчыт-Неміровіч, а пасля яго сыну Эдвіну Цэзарыю (1828 — 1901), маршалку і ганароваму суддзі пінскаму. Ён быў жанаты з Ядвігай Радзівіл. Апошнім гаспадаром Парахонскага маёнтка быў сын Цэзарыя князь Францішак Друцкі-Любецкі (1878—1944). Асноўнай рэзідэнцыяй Друцкіх-Любецкіх лічыўся маёнтак Пагост-Загародскі, потым Лунін[1]. У Парахонску пражывала дачка Францішка Соф'я, якая ў першым шлюбе мела прозвішча Хамянтоўская, у другім — Жухавіцкая. Сядзіба знаходзілася на месцы існаваўшага да XVI ст. мястэчка Малашчыцы — радавога гнязда



*Парахонск. Цэнтральны фасад палаца. 1939 г.*[4]








Малашчыцкіх. На сродкі Друцкіх-Любецкіх тут была ўзведзена ў 1771 г. прыходская царква.

Палац Друцкіх-Любецкіх уяўляў сабой невялікі будынак, накрыты высокім, гладкім, чатырохсхільным гонтавым дахам. У плане меў форму выцягнутага прамавугольніка. Цэнтральны фасад быў вылучаны шырокім порцікам на чатырох масіўных мураваных калонах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыт з паўкруглым акенцам. Па баках порціка размяшчаліся па пары акон рознай формы, бліжнія да порціка мелі форму «венскіх». Бакавыя фасады таксама мелі невялікія аналагічныя ганкі з калонамі[2]. Палац знішчаны ў гады 2-й сусветнай вайны, парк — у пасляваенны час.

У час 1-й сусветнай вайны ў Парахонску служыў і пражываў вялікі рускі паэт А.А.Блок, якому тут устаноўлена мемарыяльная дошка. У 1920-я гады Парахонскі маёнтак быў падзелены, частку якога засялілі асаднікі[3].

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 70.*
[2,4] *Ossendowski F.A. Polesie. Poznań, 1938. S. 170.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2004. Арк. 1—298.*

# Парэчча
# Porzecze
# Поречье

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Скірмунтаў[1]. Першае ўпамінанне ў гістарычных крыніцах пра в. Парэчча датуецца 1495 г., калі пінская князёўна Марыя перадала 2 дворышчы ў Парэчча Мацвею Грычыну. Ад пінскага князя Фёдара ён атрымаў таксама дворышчы ў Моладаве, Праходах, Варацэвічах. Па спадчыне яны перайшлі да яго сына Барыса (1440—1527).

Акрамя роду Войнаў-Грычыновічаў у Парэччы пазней гаспадарылі Полазавы, Цярлецкія. Пасля смерці Барыса, падкаморага пінскага, маёнткі адышлі да яго сына Сямёна Войны, потым унука Станіслава. Наступным гаспадаром маёнтка быў нашчадак Барыса Уладзіслаў Война-Грычыновіч, які атрымаў правы на спадчыну ў 1649 г.




*Парэчча. Схема парку.*

Як лічыць Р.Афтаназы, дачка апошняга з гаспадароў Парэчча з роду Войнаў-Грычыновічаў Мацвея Войны Элеанора ў 1692 г. выйшла замуж за Казіміра Дамініка Агінскага, ваяводу віленскага, таму маёнтак стаў уласнасцю Агінскіх на працягу ўсяго XVIII ст. Спачатку ім валодаў сын Казіміра Юзаф, жанаты з князёўнай Ганнай Вішнявецкай, затым іх сын князь Міхал Казімір Агінскі, гетман ВКЛ. Абцяжараны даўгамі, ён перадаў свае маёнткі ў 1791 г. пляменніку князю Міхалу Клеафасу Агінскаму (1765—1833), вядомаму кампазітару, аўтару славутага паланэза «Развітанне з радзімай».

Князь Міхал Клеафас Агінскі таксама не змог утрымаць усіх уладанняў і частку з іх, Моладава і Парэчча, у 1792 г. прадаў Шыману Скірмунту (1747—1835), які пазней стаў маршалкам брэсцкім і пінскім, паслом на Варшаўскі сейм. Шыман Скірмунт быў заснавальнікам моладава-парэцкай лініі роду. Сваю асноўную рэзідэнцыю Шыман Скірмунт заклаў у Моладаве. Яго сын Аляксандр (1798—1870), жанаты з Канстанцыяй Сулістроўскай, заснаваў у Парэччы цукровы завод, які неўзабаве згарэў і на яго месцы быў пабудаваны ў 1835 г. новы, а праз два гады тут была закладзена суконная фабрыка, таму Парэчча стала адзіным буйным прамысловым цэнтрам Палесся ў XIX ст.

Пасля Аляксандра гаспадаром маёнтка стаў яго сын Аляксандр (1830—1911), жанаты з Феафілай Любанскай. Пры ім прамысловасць у краі атрымала яшчэ большае развіццё, асабліва суконная. Дзякуючы актыўнай дзейнасці бацькі і сына Скірмунтаў Парэчча набыло характар цэнтра прамысловасці, якая праіснавала да 1-й сусветнай вайны, калі маёмасць і абсталяванне фабрык былі вывезены кайзераўскімі войскамі, а гаспадарчыя пабудовы часткова разбураны і не змаглі поўнасцю аднавіцца.

Апошнім гаспадаром Парэчча быў вядомы прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі Раман Скірмунт (1868—1939). Ён быў абра-



*Парэчча. З акварэлі Напалеона Орды. 1864 г.*[3]

ны дэпутатам у Дзяржаўную думу Расіі, затым увайшоў ва ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., а ў 1930—1935 гг. з'яўляўся сенатарам Польшчы, карыстаўся асаблівай пашанай у мясцовых сялян. У верасні 1939 г. сяляне схавалі яго ад Савецкай арміі. Пад пагрозай рэпрэсіўных дзеянняў і ўціску на жыхароў Раман вымушаны быў ехаць у Пінск, але па дарозе быў забіты. Пахаваны на ўскрайку Парэцкага парку.

Пры Аляксандры- малодшым адно са старых фабрычных збудаванняў, размешчаных на маляўнічым беразе р. Ясельды, было перабудавана і абсталявана пад рэзідэнцыю Скірмунтаў, але нават пасля карэннай рэканструкцыі палац не меў стылявога архітэктурнага афармлення. Будынак застаўся двухпавярховым, у плане меў форму прамавугольніка, быў накрыты гладкім двухсхільным дахам. Да бакавых фасадаў былі прыбудаваны галерэі. Парадны фасад гладка атынкаванага будынка меў мураваную веранду, на даху якой узвышаліся каменныя вазы. Парадны ўваход у палац быў увенчаны гербавым шчытом, а міжаконная прастора была аздоблена гірляндамі з выявай раслін. Паркавы фасад, звернуты да р. Ясельды, меў балкон з каванай жалезнай балюстрадай. Пры адным з бакавых крылаў размяшчалася крытая веранда на арыгінальных слупах.

Унутраная аздоба рэзідэнцыі была даволі сціплая, сцены асобных салонаў і жылых памяшканняў мелі гладкую тынкоўку і былі афарбаваныя. Паркет быў толькі ў асобных пакоях: вялікім і малым салонах, сталовай, рабочым кабінеце. Палац меў мэблю стылю канца XVIII ст., прывезеную часткова з Моладаўскай рэзідэнцыі, і багатую калекцыю абразоў.

Самым старадаўнім быў абразок Божай Маці з дзіцем, прывезены з Любяшоўскага касцёла. У палацы было шмат фамільных партрэтаў, мноства фарфоравых вырабаў знакамітых еўрапейскіх мануфактур, залатых медалёў,



*Парэчча. Сучасны выгляд будынка крухмальнага завода*[4].

якімі некалі ўзнагароджвалася прадукцыя фабрык, частка сямейнага архіва і багатая бібліятэка.

У 1939—1941 гг. палац Скірмунтаў быў зачынены, а ў перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі перабудаваны пад афіцэрскае казіно. У 1943 г. будынак палаца быў знішчаны партызанамі, а пасля 1945 г. яго руіны разабраны мясцовымі жыхарамі. Да сённяшняга часу захаваліся толькі 2 будынкі: фабрычнае збудаванне пачатку XX ст. і млын.

Грунтоўнае абследаванне і апісанне сядзібы Скірмунтаў выканаў А.Т.Федарук[2]. Гэтая сядзіба, у складзе якой значнае месца займала паркавая зона, фарміравалася больш за 100 гадоў. Ад палаца адкрываўся маляўнічы від на пойму, на востраў з садам.

Перад палацам размяшчаўся вялікі партэр з кветнікамі, за якімі ўздоўж шырокай ліпавай алеі стаялі мураваныя будынкі, з правага боку цягнуўся пладовы сад, плошча якога сёння поўнасцю забудавана. Другая алея (ліпавая) ішла ад партэра на ўсход, перпендыкулярна ліпавай. Паралельна ёй, але ўжо бліжэй да ракі, праходзіла трэцяя алея з ясеня.

Фундатарам і арганізатарам фарміравання пейзажнай часткі парку быў Раман Скірмунт. Яно ішло за межамі гаспадарча-прамысловага комплексу, на месцы натуральнага ляснога масіву.

Кампазіцыйным цэнтрам парку была невялікая паляна з двума валунамі ў атачэнні дубоў. Ад паляны ў розныя бакі разыходзіліся 5 вузкіх сцежак. Яны былі падсыпаны рачным пяском і фіксаваны паглыбленнем для сцёку вады.

Паўночная частка парку, якая прылягала да поймы, значна паніжаная і завільгочаная. У глыбіні паркавага масіву была размешчана трох'ярусная альтанка з вінтавой лесвіцай, да якой вяла вузкая сцежка, абсаджаная нарцысамі, у розных месцах стаялі мармуровыя лаўкі. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўлялася сажалка з вялікім і малым астравамі, якая праз канал з двума рукавамі злучалася з р. Ясельдай.

У парк было прывезена шмат экзотаў, рэдкіх унікальных відаў. Яны высаджваліся на ўсёй тэрыторыі ў розных аб'ёмах і спалучэннях. Шэраг экзотаў (лістоўніца еўрапейская, дуб чырвоны і інш.) выкарыстоўваліся як лесакультуры, іншыя мелі дэкаратыўнае прызначэнне. Уздоўж дарогі да бровара пасаджана 6 цюльпанавых дрэў, прадстаўнікоў сямейства магнолієвых. Вакол паляны перад заводам рос арэх шэры.

Аснову парку зараз складае дуб ва ўзросце 100—160 гадоў, вышынёй да 25—32 м, расце шэраг экзатычных дрэў: дубы балотны і чырвоны, елка звычайная залацістая.

Унікальны не толькі для парку, але і для ўсёй умеранай паласы экзэмпляр балотнага кіпарыса звычайнага, сямейства якога лічыцца «жывым выкапнем» зямлі. У парку захаваліся таксама сосны кедравыя еўрапейская і сібірская, елкі калючая і канадская і шэраг іншых. Адну з алей стварае лістоўніца Кемпфера. У якасці акцэнтуючых раслін выкарыстаны клён вастралісты, бук лясны і інш.

Парэцкі парк мае плошчу каля 60 га, тут многа птушак, у насаджэннях лістоўніцы жывуць чаплі. Да 1979 г. у канале яшчэ жылі бабры.

Ансамбль мае прыродаахоўнае значэнне, аб'яўлены помнікам прыроды і садова-паркавай архітэктуры. У сучасны перыяд пачалася рэканструкцыя парку.

---

1 *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2074. Арк. 1—11.*
2 *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 199—201.*
3 *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4492).*
4 *Фота аўтара. 2000 г.*





# Почапава
# Poczapów
# Почапово

Колішняя сядзіба, якая была размешчана на паўднёвы ўсход ад в. Почапава. Некалі в. Почапава была знакаміта на Палессі тым, што тут існаваў жаночы кляштар, вядомы паводле гістарычных крыніц з сярэдзіны XVI ст. Пазней частку зямель кляштара выкупіў род Цярлецкіх, а ў 1685 г. у Почапаўскім маёнтку гаспадарыў Святаслаў Крывецкі[1].

З 1759 г. шэраг фальваркаў і маёнткаў на Палессі набыў заможны род Бжастоўскіх, у прыватнасці, полацкі кашталян Адам Бжастоўскі, затым Палкозічы-Свяжынскія.



*Почапава. Свіран[3].*

У пачатку XX ст. маёнткам, якому належала 1366 дзесяцін зямлі, валодае Караліна Свяжынская з заможнага роду Палкозічаў-Свяжынскіх.

Апошнім гаспадаром Почапаўскага двара быў буйны землеўладальнік Станіслаў Алявінскі, які меў больш за 1830 га зямлі[2].

Палац, шэраг гаспадарчых пабудоў і пейзажны парк захаваліся да 1950-х гадоў. У пасляваенны перыяд на месцы палацава-паркавага ансамбля размясціўся санаторый «Ясельда». На сённяшні дзень захаваліся рэшткі парку ў выглядзе некалькіх дубовых і кляновых алей і свіран, пабудаваны з цэглы ў 1908 г. Будынак яго ў плане мае форму квадрата, 2 паверхі і моцныя сцены. Магчыма, першапачаткова ён будаваўся пад механічны млын, а пасля перабудаваны пад свіран.




*Почапава. Схема рэшткаў парку.*

Будынак свірна і рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

1 *Horoszkiewicz R. Tradycje ziemi Pińskiej... S. 24.*
2 *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 5.11.1999. С. 6.*
3 *Фота аўтара. 2000 г.*

# Пясэчна
# Piaseczna
# Пясечно

Колішні сядзібна-паркавы ансамбль, які размяшчаўся на захад ад в. Аснежыцы. У XVIII ст. з'яўляўся буйным маёнткам на Палессі, гаспадарамі якога былі князі Друцкія-Любецкія. У 1887 г. маёнтак Пясэчна налічваў 8549 дзесяцін зямлі[1].

Пасля Друцкіх-Любецкіх маёнтак Пясэчна з фальваркам Заполле перайшоў па жаночай лініі да графаў Пуслоўскіх як пасаг князёўны Юзафіны Друцкай-Любецкай, якая выйшла замуж за графа Войцеха Пуслоўскага,



*Пясэчна. Агульны выгляд палацава-паркавага ансамбля. З акварэлі Напалеона Орды. 1861 г.[3]*

герб «Шэліг», пасла на Чатырохгадовы варшаўскі сейм. За гады свайго жыцця ён набыў вялікую колькасць маёнткаў. Сваю велізарную спадчыну Войцех завяшчаў пяцярым сынам. Косаўскі ключ, Свіслач, Пясэчна з Заполлем перайшлі да яго сына Вандаліна. Дачка Вандаліна Пуслоўскага і Ядвігі Язерскай Генавефа (1852—1928) у 1872 г. выйшла замуж за графа Адама Бройль-Плятэра і прынесла Пясэчна і Заполле ў якасці пасагу ў спадчыну мужа. З гэтага часу і да 1939 г. Пясэчна належала графам Плятэрам.

Апошнім гаспадаром Пясэчны з фальваркамі Заполле і Добрая Воля быў сын Адама і Генавефы граф Стафан







Пясэчна. Мемарыяльная калона. XVIII ст.[4]

Марыян Вандалін Бройль-Плятэр (1873—1951), жанаты з Ірэнай Галінскай (1888—1962).

Да 1-й сусветнай вайны ў Пясэчне існаваў класічны двухпавярховы палац. Невядома, калі і хто пабудаваў яго. У 1864 г. тут гасцяваў у графа Пуслоўскага Напалеон Орда, які намаляваў палац.

Палац у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка з порцікам на шасці калонах па цэнтры.

Пра ўнутраны выгляд палаца нічога не вядома. У адносінах да апошняга гаспадара Пясэчна граф Стафана Марыяна Вандаліна Бройль-Плятэра вядомы геральдыст Шыман Канарскі пісаў, што ён быў апантаным аматарам геральдыкі і кнігазбору. Ад бацькі ён атрымаў каштоўную бібліятэку, якую ўвесь час камплектаваў старымі і новымі выданнямі. Перад 1-й сусветнай вайной бібліятэчны кнігазбор быў вывезены на захаванне ў Вільню, дзе, на жаль, у час 2-й сусветнай вайны згарэў.

Пад час 1-й сусветнай вайны Пясэчна трапіла ў паласу фронту. У выніку ваенных дзеянняў Пясэчанскі палац быў цалкам знішчаны. Частка рэчаў палаца была ўратавана і вывезена.

Палац абкружаў вялікі пейзажны парк. Перад цэнтральным уваходам на партэры размяшчаўся газон і 2 дрэвы па баках ад увахода.

У 1920—1930-я гады, пасля таго, як палац у Пясэчне быў поўнасцю знішчаны, рэзідэнцыя Плятэраў была




Пясэчна. Сітуацыйны план.

перанесена ў суседні фальварак Заполле, а землі фальварка Пясэчна падзелены і распрададзены[2].

Там, дзе стаяў некалі палацава-паркавы ансамбль у Пясэчне, сёння чыстае поле. Толькі адзіны сведка нагадвае пра веліч і прыгажосць былой рэзідэнцыі Друцкіх-Любецкіх — Пуслоўскіх— Плятэраў, якім з'яўляецца высокая круглая мураваная калона — сімвал гонару і магутнасці гэтых заможных уласнікаў на Палессі, пабудаваная імі, верагодна, у час узвядзення палаца.

Калона мае гістарычную, архітэктурную і мастацкую вартасці, таму павінна быць узята на ўлік і пад ахову дзяржавы. У свой час на калоне размяшчалася сакральная скульптура.

---

1. Słownik geograficzny. T. 8. 1887. S. 46.
2. ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2029. Арк. 1—171.
3. Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A. 4487).
4. Фота аўтара. 2000 г.

# Сошна
# Soszno
# Сошно

Колішні маёнтак. Першае ўпамінанне пра яго датуецца 1508 г., калі пінскі князь Фёдар Яраслагіч падараваў дворышча Алізару Іванавічу Любецкаму. Вядома таксама, што князь Фёдар у 1516 г. дарue шляхціцу Івану Полазу месца пад сядзібу ў Пінску і трох чалавек у в. Сошна. Гэтыя правы ўласнасці некалькі пазней пацвердзіў кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт II Аўгуст.



Сошна. Гаспадарчая пабудова[2].

У XVIII ст. Сошненскі маёнтак перайшоў ва ўласнасць Гарадзішчанскага бенедыкцінскага кляштара. У канцы XVII ст. манахі гэтага ордэна пабудавалі ў Сошне драўляны касцёл. Вядома, што яны актыўна падтрымалі паўстанне 1863 г. на Беларусі, за што царскі ўрад закрыў касцёл і перадаў яго будынак праваслаўным вернікам (не захаваўся). Кляштар таксама быў канфіскаваны, а яго маёнткі падзелены і распрададзены. У 1869 г. маёнткі Сошна і Гарадзішча за невялікую суму купіў дзяржаўны чыноўнік саветнік Гардзі. У 1920 г. маёнтак знаходзіўся ва ўласнасці роду Еўціхеева.

Вялікую шкоду палацава-паркаваму ансамблю нанесла 1-я сусветная вайна. У выніку ваенных дзеянняў было знішчана 12 разнастайных будынкаў Сошненскага маёнтка, у т.л. цагельнага завода, які быў пабудаваны ў пачатку XX ст.[1]

Пасля 1-й сусветнай вайны Сошненскі маёнтак з аднаўленым цагельным заводам перайшоў ва ўласнасць дзяржавы. У савецкі перыяд праведзена рэканструкцыя завода, і ён дзейнічае па сённяшні дзень.









Да нашага часу захаваўся будынак стайні — у плане мае форму прамавугольніка з невялікімі крыламі па баках. Фасады стайні дэкараваныя. Парк і палац не захаваліся. Будынак стайні патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2119. Арк. 1—45.*
[2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Сташаны
# Stoszany
# Стошаны

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль. Вёска Сташаны ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1220 г. (альбо 1160 г.). у сувязі з вялікай бітвай войскаў князёў Літвы і Уладзіміра-Валынска, якая адбылася ў наваколлі. Бітву выйграў вялікі князь ВКЛ Скірмунд (Скірмунт) у князя ўладзімірскага і турава-пінскага Мсціслава, у выніку чаго Пінск увайшоў у склад ВКЛ. Але князя Юрыя, які на той



*Сташаны. Стайня[3].*

час правіў у Пінску, пераможцы пакінулі на троне. Гэта бітва адбылася ва ўрочышчы Пабоішча, якое зараз уяўляе сабой узвышша, абкружанае забалочанай нізінай і зарослае лесам.

У XV ст. Сташаны з'яўляліся ўласнасцю князёў Завішаў і ў княжацкіх дакументах сустракаюцца пад назвай «Ташанічы», «Ташаны» і інш[1]. Так, у княжацкіх дакументах, датуемых 1503 г., гаворка ідзе пра дазвол ташанскім сялянам карыстацца каралеўскім лесам. З 1698 г. Сташанскі маёнтак перайшоў ва ўласнасць ордэна пінскіх езуітаў, якія пабудавалі каля старых мясцовых могілак каталіцкую капліцу, што праіснавала да сярэдзіны XX ст.

У XIX ст. гаспадаром Сташанскага двара стаў род Корсакаў. У пачатку XX ст. ва ўладанні Эдмунда Корсака было 870 дзесяцін зямлі.

Набыўшы Сташанскі маёнтак, Корсакі ўзвялі тут прыкладна ў сярэдзіне XIX ст. прыгожы палац, які прастаяў да 1-й сусветнай вайны. Пад час ваенных дзеянняў паміж



*Сташаны. Склад[4].*

расійскімі і кайзераўскімі войскамі ў Сташанскім палацы знаходзіўся штаб расійскай арміі і вайсковы шпіталь. У выніку баявых аперацый палац Корсакаў быў поўнасцю знішчаны. Пасля 1-й сусветнай вайны пад жыллё былі прыстасаваны гаспадарчыя пабудовы — аранжарэя і стайня. У склад палацава-паркавага ансамбля ўваходзіла фамільная капліца, якая таксама была моцна пашкоджана, таму ўсё яе начынне было перанесена ў жылыя памяшканні. Пасля рэканструкцыі ў 1920 г. капліца ўяўляла сабой 8-гранны аб'ём, была ўзведзена з цэглы, пас-




*Сташаны. Схема парку[5].*

ля 2-й сусветнай вайны разбурана. Апошнім гаспадаром маёнтка быў Зыгмунт Корсак[2].

На сённяшні дзень ад ансамбля захаваліся мураваныя будынкі стайні і свірна, якія маюць даволі арыгінальнае архітэктурнае аблічча, выкананыя ў нетрадыцыйным стылі. Знаходзяцца ў добрым стане, уяўляюць вялікую гістарычную і архітэктурную каштоўнасць. Парк быў закладзены разам з будаўніцтвам палаца. Мае плошчу 7 га, добра захаваны дрэвастой, сажалку. Сташанскі гістарычны ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 26.11.1999. С. 6.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2129. Арк. 1—71.*
[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*
[5] *Схема парку выканана А.Т.Федаруком.*




# Халажын
# Chołożyn
# Холожин

Колішні фальварак. Размешчаны паблізу вёсак Малы Халажын, Вялікі Халажын і Паўтаранавічы[1].

Двор Халажын у гістарычных крыніцах датуецца 1495 г. Паводле старажытнага акта на землі, якія належалі старадаўняму палескаму роду Фурсаў, пінская княгіня Марыя падаравала сваім прывілеем ад 1495 г. Фурсу Іванавічу маёнткі Крысаева і Опаль, а таксама двары вёсак Чарнеевічы, Паршавічы і Халажын. Фурс Іванавіч меў тытул ваяводы і ўваходзіў у раду княгіні Марыі. На адным з дакументаў 1496 г. ён значыцца намеснікам пінскім. Фурс Іванавіч быў таксама ўдзельнікам важнейшых актаў, у т.л. даравальнага запісу Пінскай Дзмітраўскай царкве ў 1502 г.



*Халажын. Галоўны фасад палаца[3].*

У Фурса Іванавіча былі 4 сыны: Рыгор, Апанас, Венядзікт і Сымон. Тры дачкі Венядзікта Фурса выйшлі замуж за Макара Мартынавіча, Івана Данілавіча і Андрэя Кміту. Акрамя іх, спадкаемцамі пінскіх маёнткаў Фурсаў былі Гуран Сямёнавіч і Іван Апанасавіч. Менавіта ў іх пры першым памеры знаходзіліся маёнткі Крысаева, Альшаевічы, Опаль і Халажын[2].

У XVIII ст. маёнтак Халажын належаў пінскаму ордэну езуітаў. Пазней маёнтак выкупіў род Корсакаў, а пасля 1934 г. і да прыходу савецкай улады адышоў да Скірмунтаў.




*Халажын. Схема парку.*

Вядома, што ў 2-й палове XIX ст. Корсакамі быў узведзены аднапавярховы мураваны палац з невысокім дахам, накрытым бляхай.

Цэнтральны фасад акцэнтаваны шырокім порцікам на чатырох масіўных мураваных калонах, на якія апіраецца трохвугольны шчыт з паўкруглым акенцам. Калоны порціка закладзены цэглай з трох бакоў, ствараюць шырокі ганак з уваходам і двума прамавугольнымі вокнамі. Унутраная планіроўка палаца мае калідорны тып.



*Халажын. Паркавы фасад палаца[4].*

Палац, верагодна, быў закладзены на месцы старадаўняга парку. Захаваліся велізарныя дубы 300-гадовага і старэйшага ўзросту. Растуць мясцовыя пароды дрэў. Кампазіцыя парку значна парушана, каналы і сажалкі абмялелі. Плошча ансамбля складае каля 5,5 га. Ансамбль мае гістарычную і архітэктурную каштоўнасць. Ён узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Памяць. Пінск. Мн., 1998. С. 70.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 1935. Арк. 1—2.*
[3,4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Чарнеевічы
# Czerniewicze
# Чернеевичи

Адзін са старадаўніх сядзібна-паркавых ансамбляў на Піншчыне роду Фурсовічаў (Фурсаў). Першае ўпамінанне пра Чарнеевічы датуецца 1495 г. Старажытнейшы акт на



*Чарнеевічы. Фрагмент алеі[3].*









землі сведчыць, што пінская княгіня Марыя ў 1495 г. пажалавала шэраг маёнткаў і двароў, у т.л. Чарнеевічы, шляхціцу Фурсу Іванавічу.

Вядома, што ў Фурса Іванавіча былі 4 сыны: Рыгор, Апанас, Венядзікт і Сымон. Па спадчыне двары ў вёсках Чарнеевічы, Пасенічы і Кашэвічы атрымаў сярэдні сын Фурса Іванавіча Венядзікт, службоўца пінскага князя Фёдара. Праз 2 гады Венядзікт ажаніўся з Агрэнкай Калавураўнай, якая прынесла да маёнтка Чарнеевічы «3 чалавекі ў Кожычах і 4 дворышчы ў вёсках Варацэвічы, Глінная, Кашэвічы» з умовай, што маёнткі будуць перадавацца ў спадчыну толькі дзецям ад гэтага шлюбу[1].

Пасля Фурсаў гаспадарамі маёнтка Чарнеевічы сталі нашчадкі роду Нелюбовічаў. У XIX ст. Нелюбовічаў замянілі князі Скірмунты, у прыватнасці, у канцы XIX ст. Вікенцій Скірмунт меў сядзібу з гаспадарчымі пабудовамі і паркам. Плошча маёнтка складала 410 дзесяцін зямлі.

У гады 1-й сусветнай вайны і ўключна да пачатку 1920-х гадоў землі Чарнеевіцкага двара знаходзіліся ва ўласнасці роду Галовічаў. Апошнімі гаспадарамі Чарнеевіцкага маёнтка да 1939 г. з'яўляліся іх ранейшыя гаспадары Скірмунты[2].

Пры Скірмунтах, а магчыма яшчэ пры Нелюбовічах, у Чарнеевічах быў узведзены палац і закладзены пейзажны парк. Палац у пасляваенны час быў знішчаны. Застаўся парк плошчай каля 6 га. Тут існуюць рэшткі ўязной алеі, равы, сажалкі. У парку растуць грабы, ліпы, вязы, каштаны. Равы і сажалкі моцна абмялелі і зараслі хмызняком. Рэшткі парку ў Чарнеевічах патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Пінск. Памяць... С. 70.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2227. Арк. 1—59; Спр. 2231. Арк. 1—52.*
[3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Юзафін
# Juzefiny
# Юзефин

Колішняя сядзіба. Паселішча Юзафін узнікла параўнальна нядаўна, у XIX ст. як маёнтак роду Скірмунтаў з Бакініч. У пачатку XX ст. тут гаспадарыў Станіслаў Скірмунт, пры якім маёнтак меў 419 дзесяцін зямлі[1].

У 1930-я гады Скірмунты перадалі маёнтак шляхецкаму роду Шаламіцкіх[2]. Нашчадкі Шаламіцкіх да сённяшняга часу жывуць у вёсцы. Пасля 1-й сусветнай вайны Яну Шаламіцкаму належала 215,2 га ворыва, 100 га лугу, 389,4 га лесу.

Сядзіба ў Юзафіне складалася з невялікага палаца, гаспадарчых пабудоў, сажалкі, парку. Палац у плане меў форму прамавугольніка, быў аднапавярховы, на высокім



*Юзафін. Сядзібны дом. Да 1939 г.*[3]

падмурку, накрыты гладкім двухсхільным гонтавым дахам.

Па цэнтры асноўнага фасада знаходзіўся невялікі ганак. Палац выкарыстоўваўся мясцовым калгасам пад гаспадарчыя патрэбы, быў знішчаны ў сярэдзіне 1980-х




*Юзафін. Схема сядзібы.*

гадоў. Пра існаванне тут палаца яшчэ нагадваюць рэшткі яго падвала, прыстасаванага пад склад, фамільнага склепа і інш.

Парк меў невялікія памеры, каля 5 га, у пасляваенны час забудаваны і зараз ёсць адзінкавыя дрэвы.

---

[1] *Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 28.12.1999. С. 4.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2117. Воп. 2. Спр. 2247. Арк. 1—16.*
[3] *Архіў В. Ільянкова.*

Карта-схема
размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб
на тэрыторыі Пружанскага раёна

Пружаны
БРЭСТ
БРЭСЦКАЯ ВОБЛ.

Галоўчыцы
Наталін
Блізная
Зеляневічы
Хараўшчына
Магілёўцы
Адамкаў
Крыстыянпаль
Ружаны
Папялёва
Краснік
Віднае
Калядзізна
Зянавіль
Янаўшчына
Крыніца
Перадзельск
Белавусаўшчына
Стараволя
Доўгае
Пружаны
Каштанаўка
Стары
Лінова
Куплін
Гарадзечана
Плянта
Казяродская
Кутнявічы
Казакова
Аранчыцы
Плянта
Казлоўская
Двор









# Адамкаў
# Adamków
# Адамков

Старадаўняя сядзіба. Размяшчалася на ўсходнім захадзе ад в. Лыскава.

У XIX ст. маёнтак належаў нашчадкам роду Быхаўцаў, герб «Магіла»[1]. У 2-й палове XIX ст. Адамкаў разам з іншымі фальваркамі (Чорны Лес, Жарамяны і Гродзіск) меў каля 1497 дзесяцін зямлі. Да 1939 г. гаспадарамі Адамкава з'яўляліся Лявон і Ганка Быхаўцы[2].

Пры Быхаўцах у сярэдзіне XIX ст. быў пабудаваны сядзібны дом і закладзены пейзажны парк. Будынак невялікага палаца ўзведзены ў традыцыйным стылі з элементамі класіцызму, характэрным большасці маёнткаў таго перыяду.



*Адамкаў. Галоўны фасад палаца. 1916 г.*[3]

Палац аднапавярховы, у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, узведзены на высокім падмурку, накрыты вальмавым гонтавым дахам.

Цэнтральны фасад палаца вылучаны неглыбокім порцікам на чатырох масіўных калонах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыт з квадратным шматсекцыйным акенцам. Акрамя чатырох асноўных існавалі яшчэ 2 прысценныя калоны. Па баках ганка размешчаны па 2 пары прамавугольных акон. Вонкавая аздоба палаца вылучалася сціпласцю, сцены былі гладка тынкаваныя, унутраная планіроўка невядомая.

У перыяд 1-й сусветнай вайны ў палацы кватаравалі



*Адамкаў. Рэшткі ўязной алеі*[4].

нямецкія войскі, якія поўнасцю яго абрабавалі, але палац захаваўся і праіснаваў да 2-й сусветнай вайны, пасля быў знішчаны.




*Адамкаў. Схема парку*[5].

Захаваўся пейзажны парк плошчай каля 5 га. Асноўны дрэвастой складаюць дуб, ліпа, каштан, клён, бэз і інш.

Парк патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.



*Адамкаў. Фрагмент парку*[6].

---

[1] *Słownik geograficzny. 1900. T. 5. S. 8.*
[2,3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 183.*
[4,6] *Фота аўтара. 2000 г.*
[5] *Схемы і планы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Пружанскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*









# Аранчыцы
# Orańczyce
# Оранчицы

Старадаўняя сядзіба, радавое гняздо Ляжэнскіх. Яшчэ з часоў уладарання караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта I Старога і каралевы Боны на аранчыцкіх землях асеў род Аранцаў, якія заклалі тут маёнтак і сад. У 1560 г. яны пабудавалі сядзібны дом, а ў 1564 г. — уніяцкую царкву[1]. Ад іх прозвішча мясцовасць набыла назву Аранчыцы. Пасля Аранцаў маёнтак перайшоў да роду Іжыцаў. Адна са спадкаемніц з гэтай лініі Юзэфа Дэрамер (1776—1852) была замужам за Ігнаціем Ляжэнскім і прынесла Аранчыцкі маёнтак у якасці пасагу.



*Аранчыцы. Сядзібны дом Ляжэнскіх. Галоўны фасад. 1938 г.*

Ігнацій Ляжэнскі быў вядомай асобай у акрузе, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. ён стаў пад штандары генерала Андрэя Тадэвуша Касцюшкі і выявіў побач са сваім земляком у чыне паручніка пяхоты. Яго партрэт у ваенным мундзіры гвардзейца пяхоты вісеў у пакоях Аранчыцкага сядзібнага дома аж да 1939 г. У верасні 1939 г. дом быў абрабаваны, а партрэт знішчаны. Жонка Ігнація Юзэфа была пахавана на каталіцкіх могілках у Пружанах.



*Аранчыцы. Уязная алея да сядзібы. 1938 г.*

Пасля Ігнація па спадчыне Аранчыцкім дваром валодалі Фердынанд (1794—1858), Баляслаў (памёр у 1917 г.) і Павел (1880—1945) Ляжэнскія. Павел Ляжэнскі быў апошнім гаспадаром маёнтка. Яго сын Ежы (1906—1944), юрыст, пісьменнік, публіцыст, служыў у Арміі Краёвай і быў расстраляны немцамі ў Варшаве ў 1944 г.[2] Унук Ежы Цэзарый Ляжэнскі (1930 года нараджэння) — вядомы польскі пісьменнік, аўтар 30 аповесцей і кніг, абраны прэзідэнтам адзінага ў свеце Міжнароднага капітулу ордэра ўсмешкі.




*Аранчыцы. Схема сядзібы. 1939 г.*

Сядзібны дом у Аранчыцах быў невялікім будынкам памерам 7х20 м, у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка. Пабудаваны з дрэва, на цагляным невысокім падмурку, меў адзін паверх, высокі чатырохсхільны вальмавы дах, накрыты гонтай, і 2 дахавыя паўкруглыя акенцы.

Цэнтральны фасад будынка быў вылучаны невялікім порцікам на чатырох масіўных квадратных у плане мураваных калонах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыт. У XIX ст. з правага боку дома было прыбудавана крыло. Бэлькі, якія падтрымлівалі столь, былі з лістоўніцы, якая вельмі доўга захоўвала добры стан. У сталовай бэлькі былі выгнутыя з часоў расійска-шведскай вайны, калі на гары дома хавалі ад вайсковых рэквізіцый збожжа.



*Аранчыцы. Паркавы фасад сядзібнага дома. 1938 г.*








*Аранчыцы. План сядзібнага дома. 1938 г.*

Сядзібны дом быў спалены партызанамі ў канцы вайны. На месцы, дзе існаваў Аранчыцкі двор, засталіся рэшткі пейзажнага парку. Колішні парк меў плошчу 5 га, стары сад, некалькі рыбных ставоў, пляж, каналы, алеі. Уязная алея была абсаджана ліпамі, таполямі, бэзам. У склад палацава-паркавага ансамбля ўваходзіла шэраг гаспадарчых пабудоў: сыраварня, абора, стайня, лямус, студня і інш. Перад парадным ганкам мясцілася вялікая кветкавая клумба.

На сённяшні час тэрыторыя колішняй сядзібы часткова забудавана індывідуальнымі дамамі, застаўся каскад аплыўшых і занядбаных сажалак, рэчышча рэчкі, старыя дрэвы вярбы ломкай, іншыя адзінкавыя дрэвы мясцовых парод. Рэшткі сядзібы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

Побач з колішняй сядзібай размешчана Крыжаўзвіжанская царква, пабудаваная ў 1904 г. з цэглы на месцы старадаўняй уніяцкай царквы, разабранай перад 1-й сусветнай вайной, з дрэва якой быў пабудаваны Ліноўскі касцёл (не захаваўся).

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 95.*
[2] *Інфармацыя пра Аранчыцкі маёнтак, схема парку і архіўныя фотаздымкі сядзібнага дома і парку належаць нашчадку роду Ляжэнскіх Цэзарыю, які пражывае ў Варшаве.*

# Белавусаўшчына
# Białousowszczyzna
# Белоусовщина

Сядзібна-паркавы ансамбль, які належаў роду Швыкоўскіх. Першае ўпамінанне пра маёнтак у в. Белавусаўшчына ў пісьмовых крыніцах датуецца 1563 г.[1]

Да сённяшняга часу захаваўся сядзібны дом і парк, закладзены ў 1-й палове XIX ст. У 1843 г. Пружанскі маёнтак быў падзелены паміж двума сынамі Пятра Швыкоўскага. Старэйшы сын Валенцій атрымаў Пружаны і Пружанскі фальварак. Другі сын, Міхаіл Швыкоўскі, атрымаў землі Белавусаўшчыны, дзе ў створаным маёнтку



*Белавусаўшчына. Сядзібны дом[3].*

пабудаваў сядзібны дом, гаспадарчыя памяшканні, заклаў парк.

Даследаванне і апісанне парку выканаў А.Т.Федарук[2]. Плошча парку складае каля 6 га. Ён размешчаны ў выглядзе прамавугольніка перад сядзібным домам. Прадстаўлены разрэджаным дрэвастоем высокай якасці ва ўзросце 100 і больш гадоў. Яго аснову складаюць дрэвы клёна вастралістага. Векавыя дрэвы белай акацыі дасягаюць вышыні больш за 20 м. За домам уздоўж планіровачнай восі захавалася грабавая алея, якая цягнецца да вялікай сажалкі з востравам. Востраў афармленнем нагадвае пейзажны рамантычны парк. Да парку прымыкае тэрыторыя і пабудовы эксперыментальнай станцыі. У




*Белавусаўшчына. Схема парку.*

садзе існуюць каштоўнейшыя матачнікі — адзінкавыя дрэвы арэха грэцкага.

Сядзібны дом узведзены ў 2-й палове XIX ст. Будынак драўляны, невялікі, мансардавы, у плане мае форму прамавугольніка, падмурак нізкі, дах высокі, чатырохсхільны, вокны «венскія», ганак адкрыты, паўакруглай формы.

У сядзібным доме цяпер размешчана пачатковая школа, частка яго выкарыстоўваецца пад жыллё.

Сядзібна-паркавы ансамбль мае гістарычныя, архітэктурныя і мастацкія вартасці, таму патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 51.*
[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 229.*
[3] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Блізная
# Bliznaja
# Близная

Старадаўняя сядзіба. Вядома паводле інвентара 1604 г., з'яўлялася фальваркам, уключала двор і гумнішча. Двор складаўся з жылога дома, грыдніцы, склепа, двух свірнаў для захавання збожжа, стайні і аборы. Жылы дом уяўляў сабой ускладнены варыянт трохкамернага жылля. З правага боку ад сяней размяшчалася вялікая святліца з 5 вокнамі, кафельнай грубкай і камінам, злева — святліца і жылая камора. Дом быў накрыты дранкай, астатнія пабудовы саломай.




*Блізная. План сядзібнага дома. Рэканструкцыя паводле інвентара 1604 г. 1 — сені, 2 — святліца, 3 — камора.*

У фальварку было 5 ставоў з мукамольнымі млынамі. Адзін з іх меў 2 рабочыя колы, астатнія былі аднакалавыя[1]. Адносіўся да ліку тыповых сярэдніх правінцыяльных сядзіб. Захаваўся рэгулярны парк, які быў закладзены ў 2-й палове XVIII ст.

Грунтоўнае абследаванне і апісанне парку выканаў А.Т.Федарук[2]. Парк займае тэрасу плошчай каля 4 га, мае сіметрычна-восевую пабудову, форму прамавугольніка. Партэр вялікі (каля 0,8 га), размешчаны на першай тэрасе. Да партэра цягнецца ўязная алея. Партэр сфарміраваны з зямлі, якая атрымана пры капанні сажалкі. Па перыметры партэр меў лінейныя пасадкі елкі.

З паўночнага боку ён фланкіраваны трохраднай лінейнай пасадкай конскага каштана. З партэра адкрываецца маляўнічы від на сажалку, выцягнутую ўздоўж паўднёвага боку парку. У сядзібе мелася ўязная брама. З паўночнага боку каля партэра стаіць невялікая мураваная вежа, якая мае дэкаратыўную функцыю як малая архітэктурная форма і адначасова гаспадарчае прызначэнне як вяндлярня мясных і рыбных прадуктаў.

Сядзібны дом быў пабудаваны ў канцы XIX ст. Ён размешчаны на асноўнай кампазіцыйнай восі. Уздоўж тэрасы за сядзібным домам быў разбіты невялікі кветкавы партэр.

Асноўная частка парку размяшчаецца на другой тэрасе, уяўляе сабой 4 малыя баскеты, створаныя цэнтральнай ліпавай алеяй і папярочнай алеяй з дрэвамі конскага каштану. У баскетах ёсць лінейныя пасадкі фарміраванага грабу і купы бэзу звычайнага, якія цягнуцца ўздоўж грэбня тэрасы.

На наступнай ніжняй тэрасе размешчаны сад. Перапад вышынь паміж тэрасамі складае 1,5 м.



*Блізная. Схема парку[3].*

У кампазіцыю парку арганічна ўпісалася пасадка ліпы, якая абмяжоўвае баскеты з паўночнага боку. Ліпы маюць стары ўзрост, некаторыя экзэмпляры дасягаюць 200 гадоў.

Парк заканчваецца невялікай сажалкай, якая мае прамавугольную форму і размяшчаецца на апошняй тэрасе. Сажалка занядбана, абмялела, зарасла хмызняком, травой. Раней сажалка была злучана вузкай канавай з ручаём, які акружаў сядзібу з паўднёвага боку і напаўняў вадой вялікую сажалку.

Прагулачны маршрут па парку мае кальцавы тып, праходзіць па алеях паміж баскетамі і заканчваецца аглядным пунктамі на ўскрайку схілу. Акцэнтам перспектывы паркавага ансамбля з'яўляецца сажалка каля падножжа пагорка. Разрослы бэз упрыгожвае і адначасова засцерагае ад эрозіі яго параўнальна круты схіл. Форму падножжа пагорка паўтарае невысокая каменная агароджа.

Парк мае перспектыву для аднаўлення і далейшага выкарыстання. Патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии... С. 37.*
[2, 3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 76—77.*

# Віднае
# Widne
# Видное

Колішняя сядзіба. Размяшчалася ва ўрочышчы Віднае паміж вёскамі Ляжайка, Краснае і Клепачы. Добра захаваўся парк плошчай каля 3 га. Асноўны дрэвастой склада-



*Віднае. Фрагмент парку[1].*

юць дуб, ясень, клён, каштан, граб, бэз. Палац быў драўляны, аднапавярховы з мансардай, знішчаны ў пасляваенны час.

Паводле мясцовага падання, гаспадыня маёнтка больш за 100 гадоў таму загадала насыпаць курган і пасадзіць на ім дуб у памяць пра змагароў за вольнасць, верагодна, ахвяр нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. Зараз на кургане расце дуб-волат, які вабіць вока сваёй магутнасцю і прыгажосцю.

Па перыметры парку цягнецца алея, абсаджаная фарміраваным грабам. Сажалка абмялела і зарасла.

Рэшткі парку з мемарыяльным курганам і дубам належаць узяццю на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Фота аўтара. 1998 г.

# Галоўчыцы
# Hołowczyce
# Головчицы

Добра захаваная сядзіба 2-й паловы XIX ст. Спачатку належала роду Мяшчэрскіх, пасля 1-й сусветнай вайны ў ёй гаспадарылі Даранчынскія. Размяшчаецца на ўскраіне в. Галоўчыцы.



*Галоўчыцы. Сядзібны дом[1].*

На цэнтральнай кампазіцыйнай восі размяшчаецца сядзібны дом. Яго будынак у плане прамавугольны, драўляны, аднапавярховы, з невялікім ганкам на дзвюх мураваных і невысокіх калонах. Дом мае глыбокія падвалы, высокі дах, накрыты спачатку чарапіцай, потым жалезам і, нарэшце, шыферам.

На тэрыторыі ансамбля размяшчалася пачатковая школа, якая была пераведзена ў новы будынак. Цяпер у сядзібе жыве сям'я перасяленцаў.

Уязная алея доўгая, неширокая, абсаджаная ліпамі і акацыямі. Другая алея ідзе перпендыкулярна ёй.

Дрэвастой складаецца з мясцовых парод (дуб, клён, ясень, ліпа і інш.).

Сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] Фота аўтара. 2000 г.

# Гарадзечна
# Horodeczno
# Городечно

Паводле картаграфічных звестак, прадстаўленых Варшаўскай дзяржаўнай бібліятэкай, у 1870 г. ужо існавалі акрамя Гарадзечна маёнткі Плянта Казябродская, Плянта Казлоўская і Плянта Канарская[1]. З іх Гарадзечанскі маёнтак самы старадаўні.



*Гарадзечна. Сядзібны дом. 1960-я гады[5].*

Першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах пра ўрочышчы, фальваркі, дворышчы, размешчаныя на р. Гарадзечанка, датуецца 1563 г.[2] Пра існаванне ў Гарадзечне панскага двара сведчаць архіўныя матэрыялы расійска-французскай кампаніі 1812 г.[3]



*Гарадзечна. Колішні склад[6].*

Гарадзечанскі сядзібна-паркавы ансамбль складаўся з сядзібнага дома, гаспадарчых пабудоў, парку, сажалкі, сістэмы каналаў. Застаўся толькі пейзажны парк з каналамі. Парк закладзены ў сярэдзіне XIX ст. на месцы старадаўняга маёнтка, які існаваў у XVII—XVIII ст. Мае плошчу каля 2,5 га, добра захаваў кампазіцыйную форму і дрэвастой, аснову якога складаюць дуб, клён, граб, ліпа, вольха і інш. мясцовыя пароды. Добра і выразна вылучаны прагулачны маршрут, алея якога цягнецца па перыметры парку, уздоўж яго абвадных каналаў, і абсаджана елкамі.



*Гарадзечна. Прагулачная алея ў парку*[7].

разбіта кветкавая клумба. Да ганка з боку школы вяла вузкая сцежка, густа абсаджаная бэзам і іншымі кустамі. Пазней да фасада сядзібнага дома з боку парку было прыбудавана правае крыло. У пасляваенны час панскі дом выкарыстоўваўся пад школьныя класы, інтэрнат і спартыўную залу. У 1990 г. разабраны, як аварыйны, а яго цэгла пайшла на аднаўленне разбуранай царквы. Ад сядзібы засталіся яшчэ некалькі гаспадарчых драўляных пабудоў, якія выкарыстоўваюцца мясцовай школай, а таксама старадаўні свіран, які служыць у якасці калгаснага склада. Гарадзечна разам з добра захаваўшымся гасцінцам (трактам), што пралягае паміж Кобрынам і Пружанамі, па сваіх гістарычных, архітэктурных і ландшафтных вартасцях з'яўляецца унікальным з пункту гледжання навукі і развіцця турыстычнай індустрыі вобласці і рэспублікі гістарычным асяродкам. У яго ўваходзяць, акрамя парку, Свята-Пакроўская царква (1825), старажытны дуб (XVI ст.), старадаўнія могілкі (XVI—XVII ст.), помнік-капліца загінуўшым у баі пад Гарадзечнам 31 ліпеня 1812 г., школа (1939), шэраг іншых помнікаў гісторыі і культуры.

Захаваліся адзінкавыя іх экземпляры ўзростам 120—140 гадоў. Прамавугольны штучны канал з аднога боку быў злучаны праз галоўны канал з сажалкай акруглай формы, з другога — з балотам. Сажалка захавалася, але абмялела і зарасла травой. Канал, які злучаў сістэму абвадных паркавых каналаў і трымаў адпаведны ўзровень вады, пры будаўніцтве школы ў 1938—1939 гг. быў засыпаны. Парк з'яўляецца адным са шматлікіх гістарычных аб'ектаў для выхавання школьнікаў. Да закрыцця царквы (1963) актыўна выкарыстоўваўся для адпачынку прыхаджан пад час царкоўных свят і набажэнстваў. Зараз парк практычна не выкарыстоўваецца, занядбаны, частка яго тэрыторыі забудавана.

Адначасова з закладкай пейзажнага парку пачалося будаўніцтва сядзібнага дома. Яго будынак у плане меў форму прамавугольніка, пабудаваны з цэглы, з высокім двухсхільным дахам, накрытым чарапіцай.

Цэнтральны ўваход у будынак быў акцэнтаваны невялікім ганкам, па баках якога было па пары невялікіх прамавугольных акон. Перад ганкам на парадным партэры




*Гарадзечна. Схема парку*[6].

Фундатарам Гарадзечанскай царквы (напачатку уніяцкай) з'яўляўся граф Войцех Пуслоўскі (1762—1833). Царква была поўнасцю разбурана, але дзякуючы намаганням мясцовага насельніцтва адноўлена ў 1991 г. на народныя ахвяраванні. Капліца, што размешчана ў лясным масіве на полі бітвы 1812 г., была зруйнавана да падмуркаў. У 1994 г. па ініцыятыве аўтара гэтай кнігі таксама завершана аднаўленне капліцы. З в. Гарадзечна звязаны імёны шэрагу славутых гістарычных асоб, у т.л. каралевы Боны, якая з'ўлялася рэфарматарам сялянскага быту, арганізатарам рассялення сялян з мэтай асваення імі абшараў лясоў, балот і рэк. Мяркуецца, што ў выніку рассялення (сярэдзіна XVI ст.) уздоўж р. Гарадзечанкі ўзніклі невялікія паселішчы пад назвамі Паддубна, Жабін, Харкі, Сасноўка, Прылуччына, Любія, Гарадзечна.

Напярэдадні вайны 1812 г. тут пабываў П.І.Баграціён, які рухаўся праз вёску са сваёй арміяй на Пружаны і далей.

31.7—1.8.1812 г. тут адбылася Гарадзечанская бітва паміж войскамі 3-й Заходняй расійскай арміі генерала А.П.Тармасава (1752—1819) і аўстра-саксонскімі карпусамі Напалеона, якімі камандавалі генерал-фельдмаршал князь Шварцэнберг і генерал граф Рэнье. Неаднаразова Гарадзечна наведваў з мэтай збору фальклору Р.Шырма (1892—1978), беларускі грамадскі і музычны дзеяч, фальклрыст, народны артыст, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі, які нарадзіўся ў суседняй в. Шакуны.

Старадаўні гасцінец Кобрын—Гарадзечна—Пружаны складае цэнтральную кампазіцыйную лінію Гарадзечанскага архітэктурна-ландшафтнага ансамбля.



Як сведчаць архіўныя крыніцы, у 1812 г. і раней каля гасцінца размяшчаліся паштовая станцыя, карчма і панскі двор[4]. Дзве сасны ва ўзросце 200 гадоў надаюць старадаўняму гасцінцу маляўнічы і прывабны від, а старажытны дуб, што расце побач, з'яўляецца адзіным жывым сведкам падзей сівой даўніны, равеснікам часоў каралевы Боны, унікальным помнікам прыроды.

Гарадзечанскі парк патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы. У 1998 г. распрацавана праектная дакументацыя на яго аднаўленне.

---

[1] *Warszawa. Biblioteka Narodowa. Dział Zbiorów Specjalnych. Mapy (8835).*
[2] *Несцярчук Л.М. Гарадзечна. Брэст, 1997. С. 7.*
[3] *Тамсама. С. 9.*
[4] *Тамсама. С. 32.*
[5,6,7] *Фота і схема парку выкананы аўтарам.*

# Двор
# Dwór
# Двор

Колішняя сядзіба. Размяшчалася на 14-м км каля шашы ад Аранчыц на Запруды. Сядзібны ансамбль складаўся з жылога дома, парку, сажалкі і гаспадарчых пабудоў.



*Двор. Месца, дзе размяшчаўся сядзібны дом[1].*

Сядзібны дом пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. з дрэва, аднапавярховы, мансардавы, на высокім падмурку. Гаспадарчыя пабудовы (свіран, стайня, абора, кароўнік) таксама драўляныя. Усе пабудовы разам з жылым домам былі разабраны пасля вайны на гаспадарчыя патрэбы.



*Двор. Фрагмент парку[2].*




*Двор. Схема парку.*

Застаўся пейзажны парк плошчай каля 10 га. Добра праглядваюцца ўязная алея, абсаджаная ліпамі, клёнамі, дубамі, елкамі.

У заходняй частцы парку размешчана маляўнічае возера. У апошнія гады возера ачышчана, некалькі паўлічана ў памерах.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Доўгае
# Dołhe
# Долгое

Радавое гняздо Крашэўскіх. Вёска і маёнтак Доўгае вядомы паводле гістарычных крыніц з 1563 г.[1] У той час яны ўваходзілі ў склад Кобрынскай эканоміі. Цяпер в. Доўгае размешчана на тэрыторыі Смалянскага сельскага Савета. Маёнткі Доўгае і суседні Куплін заслугоўвалі ўвагу яшчэ і тым, што знаходзіліся на месцы водападзелу ручаёў, якія з аднаго боку цяклі да Мухаўца, па Бугу ў Балтыйскае мора, з другога — да Ясельды па Прыпяці, Дняпры да Чорнага мора.

Фарміраванне сядзібы ў в. Доўгае пачалося пры Яне Каніёве Крашэўскім. Род Крашэўскіх, герб «Ястрабец», паходзіў з Мазовіі (м. Крашэва). Адна са шматлікіх ліній гэтага знакамітага роду ў сярэдзіне XVIII ст. асела на Беларусі. У канцы XVIII ст. маёнтак Доўгае перайшоў да Крашэўскіх.

Першым вядомым гаспадаром Доўгага і Перасудавіч быў Юзаф, сын Тамаша, віцэ-брыгадзір пеціргофскі, які назваў маёнткі прадаў Яну Крашэўскаму (1789 — 1864), сыну Каятана і Ганны Крашэўскіх, а набыў маёнтак Борава, што ў Пінскім павеце[2].

Ян Крашэўскі меў пасады пружанскага харужага і земскага суддзі, быў жанаты з Соф'яй Наленч-Мальскай, якая прынесла ў спадчыну Крашэўскіх у якасці пасагу маёнтак Раманаў, што на Падляшшы, за кошт якога гаспадарка Яна набыла вялікія памеры.











*Доўгае.Старая сядзіба Крашэўскіх.*
*З малюнка Люцыяна Крашэўскага. 2-я палова XIX ст.*[6]

Ян і Соф'я Крашэўскія мелі 5 дзяцей: Ганну, якая была замужам за Габрыелем Лунеўскім, Ядвігу, якая была замужам за Янам Марачэўскім, Юзафа Ігнацы (1812—1887), жанатага з Соф'яй Вароніч, Люцыяна (1820—1892), жанатага са Стафаніяй Сулкоўскай, і Каятана (1827—1896), жанатага з Марыяй Рулікоўскай.

Ян Крашэўскі пахаваны ў 1864 г. каля муроў Свята-Троіцкага касцёла ў Шарашове. Усе дзеці Яна і Соф'і выхоўваліся на лепшых традыцыях беларускай культуры, сталі сусветна вядомымі людзьмі, пакінулі пасля сябе велізарную літаратурную, мастацкую і духоўную спадчыну.

Старая сядзіба Крашэўскіх, дзе выхоўваліся Юзаф, Люцыян і Каятан, належала да ліку сярэдніх па заможнасці маёнткаў, якіх на тэрыторыі Беларусі існавала вялікае мноства. Сядзіба мела традыцыйную для тых часоў архітэктуру.

Дзякуючы малюнкам, якія былі выкананы Юзафам і Люцыянам Крашэўскімі, фотаздымкам Яна Булгака можна ўявіць архітэктурнае аблічча сядзібна-паркавага ансамбля[3]. Сядзібны дом меў адзін паверх, пабудаваны з цэглы, гладка атынкаваны, дах высокі, чатырохсхільны, гонтавы. Коміны высокія, размешчаны сіметрычна, гладка атынкаваны. Будынак дома ў плане меў форму прамавугольніка з бакавымі крыламі, якія былі павернуты ў бок парку.

Парадны фасад вылучаны невялікім цагляным ганкам, з двума бакавымі невялікімі вокнамі. Будынак ад фронту меў па 3 пары сіметрычна размешчаных акон і па 3 акны


*Доўгае. Новы двор Крашэўскіх. 1914 г.*[7]

на бакавых фасадах. Злева ад сядзібнага дома на невялікай адлегласці знаходзіўся арыгінальны флігель з гладкім чатырохсхільным дахам, накрытым гонтай, і з высокім комінам пасярэдзіне.

Сядзібу абкружаў пейзажны парк. На партэры перад цэнтральным уваходам размяшчалася кветкавая клумба акруглай формы. У склад дрэвастою парка ўваходзілі адзінкавыя экзэмпляры лістоўніцы, а таксама пасадкі каштану, клёну, акацыі, бэзу і іншых дрэў.

Юзаф Ігнацы Крашэўскі, які выхоўваўся ў Доўгім, увайшоў у сусветную гісторыю літаратуры і мастацтва як выдатны гісторык, ілюстратар, бібліяфіл, грамадскі дзеяч і пісьменнік. Ён напісаў больш за 600 тамоў і па іх колькасці ўвайшоў у Кнігу рэкордаў Гінеса[4]. Асноўная тэма яго твароў — мінулае і сучаснае Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны. Актыўна падтрымаў нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 г., эмігрыраваў за мяжу, памёр у Жэневе.

Яго сярэдні брат Люцыян быў таленавітым пісьменнікам і мастаком, а малодшы брат Каятан Крашэўскі — таксама пісьменнік, меў яшчэ і значныя творы па астраноміі і музыцы.

Маёнткі Доўгае (частка), Стары Куплін і Раманава перайшлі па спадчыне малодшаму брату Каятану. Неўзабаве Люцыян прадаў частку сваёй спадчыны ў Доўгім Каятану, і такім чынам маёнтак Доўгае зноў апынуўся ў адных руках.

Наступным спадкаемцам Доўгага стаў адзін з 4 сыноў Каятана Багуслаў (1857—1916), жанаты з Юзэфай Крашэўскай, якая паходзіла з другой лініі роду Крашэўскіх-Прусаў.

У 1890—1900 гг. Багуслаў Крашэўскі пабудаваў у Доўгім недалёка ад старога дома новы палац, які праіснаваў зусім нядоўга, толькі да 1-й сусветнай вайны, і быў поўнасцю


*Доўгае. Рэшткі падмурка палаца Крашэўскіх*[8]*.*

знішчаны пад час ваенных дзеянняў, а сям'я Багуслава зноў пасялілася ў старой сядзібе. Новы палац у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, пабудаваны ў неагатычным стылі, з аднапавярховымі крыламі.

Сярэдняя частка палаца мела 2 паверхі, была вылучана неглыбокім рызалітам, 1-ы паверх якога ўяўляў сабой чатырохаркадны аб'ём, 2-і — балкон з балюстрадай. Завяршалася сярэдняя частка дзвюма зубчастымі вежкамі. Палац накрываў гладкі двухсхільны дах.

У новым палацы Багуслаў сабраў самастойна і атрымаў па спадчыне шэраг калекцый архіўных матэрыялаў. Самай каштоўнай калекцыяй быў эпісталярны збор (каля 1000 адзінак), у т.л. 10 пісем ад Андрэя Тадэвуша Кас-


Шарашова. Помнік Яну Крашэўскаму каля муроў Свята-Троіцкага касцёла[9].

цюшкі, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Мелася вялікая колькасць лістоў ад князя Юзафа Панятоўскага, военачальніка, пляменніка караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Ігнація Красіцкага, Юльяна Урсына Нямцэвіча, знакамітага пісьменніка-драматурга, паплечніка Тадэвуша Касцюшкі ў палітычнай і ваеннай барацьбе, генерала Дамброўскага, рукапіс гімна легіёнаў Юзафа Выбіцкага «Яшчэ Польска не загінула!», перапіска з Уладзіславам Міцкевічам, Зыгмунтам Глогерам і Антоніем Пяткевічам.

Самая вялікая колькасць лістоў карэспандэнцыі, безумоўна, мела дачыненне да Юзафа Ігнацы Крашэўскага, якая змяшчала 600 адзінак перапіскі і мноства малюнкаў, замалёвак, эскізаў, планаў і г.д.

У калекцыі мелася таксама 16 пергаментаў XIV—XV ст., аздобленых старадаўнімі мініяцюрамі, а ў кнігазборы бібліятэкі захоўваліся першыя выданні Адама Міцкевіча, Юзафа Крашэўскага, палітычны каляндар на 1909 г., дзе змяшчаліся ўспаміны сяброў Адама Міцкевіча, а таксама яго літаграфічны партрэт з жалобным паведамленнем з Канстанцінопаля пра смерць Міцкевіча.

Пакоі палаца былі аздоблены малюнкамі, выкананымі пэндзлямі і алоўкамі саміх братоў Крашэўскіх, Яна Матэйкі, Артура Гротгера, трыма эскізамі Сухадольскага, у т.л. яго работай «Паход Напалеона ў Расію», і іншымі малюнкамі, а таксама калекцыямі слуцкіх паясоў, стылёвай мэбляй, хрустальным і фарфоравым посудам.

Усё гэтае багацце загінула ў пажары 1-й сусветнай вайны.

Маёнткам Крашэўскіх у в. Доўгае па спадчыне да 1939 г. валодалі нашчадкі Багуслава, пляменніка Юзафа Крашэўскага.

У свой час Юзаф Крашэўскі заснаваў асабістую друкарню ў Варшаве, сабраў некалькі тысяч тамоў гістарычнай і мастацкай літаратуры, у т.л. вялікую колькасць старадрукаў, меў багацейшую калекцыю старажытных і сучасных гравюр (каля 6 тыс.) і малюнкаў. Кнігі са сваёй бібліятэкі Юзаф Крашэўскі быў вымушаны ахвяраваць эмігранцкім бібліятэкам у Парыжы, а калекцыя гравюр прададзена бібліятэцы Браніцкіх[5].

Стары сядзібны дом Крашэўскіх у Доўгім, гаспадарчыя пабудовы і парк былі поўнасцю знішчаны ў пасляваенны час. На месцы размяшчэння сядзібы засталіся падмуркі. Месца мае мемарыяльнае значэнне і ўзята на ўлік і пад ахову дзяржавы.

У бліжэйшы час плануецца ўстанавіць на месцы сядзібы мемарыяльны знак Юзафу Ігнацы Крашэўскаму, знакамітаму пісьменніку.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S.62.*
[2,7] *Aftanazy R. Dzieje... S. 44.*
[3] *Ludorowski L. Romanów i Kraszewski. Lublin; Romanów, 1989.*
[4] *Книга рекордов Гиннесса. М., 1991. С. 153.*
[5] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі... С. 467—469.*
[8,9] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Зеляневічы
# Zeleniewicze
# Зеленевичи

Сядзібна-паркавы ансамбль. Захаваліся парк, жылы дом, флігель, сістэма сажалак і шэраг іншых аб'ектаў.

Пейзажны парк у Зеляневічах закладзены ў сярэдзіне XIX ст. на базе старога рэгулярнага парку. Мае шмат агульных рысаў з рэгулярнымі паркамі, у прыватнасці, сіметрычна-восевую пабудову, блізкую да рэгулярнай, толькі кампазіцыйныя восі не маюць строга азначанага завяршэння. 2 вялікія сажалкі выцягнуты ўздоўж кампазіцыйнай восі. Сажалкі маюць правільную прамавугольную форму. Афармленне паркавай прасторы выкантана ў пейзажным тыпе[1].

Даволі добра захаваўся дрэвастой. Шэраг насаджэнняў мае 200-гадовы ўзрост.

У цэнтры парку, на ўзвышшы, у маляўнічым месцы


Зеляневічы. Будынак колішняга флігеля[2].








*Зеляневічы. Схема парку.*



*Зеляневічы. Від на сажалку[3].*



*Зеляневічы. Фрагмент парку[4].*

стаяў невялікі сядзібны дом. Захаваўся ў параўнальна добрым стане толькі драўляны будынак флігеля, які мае адзін паверх, высокі двухсхільны дах, невялікі ганак. Будынак выкарыстоўваецца пад жыллё.

Сядзібна-паркавы ансамбль мае перспектыву выкарыстання. Патрабуе ўзяцца на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 94.*
[2,3,4] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Зянавіль (Ляжайка)
# Zianowil
# Зеновиль

Колішняя сядзіба роду Віславухаў, мела назву Зянавіль ад імя Зянона Віславуха. Маёнткам валодаў у сярэдзіне XIX ст. пружанскі маршалак Віктар Віславух. Верагодна, ім быў пабудаваны палац (не захаваўся) і шэраг гаспадарчых пабудоў і закладзены пейзажны парк.



*Зянавіль. Уязная алея[1].*

Ад сядзібы захаваліся доўгая ўязная кляновая алея, свіран, бровар, мураваны склеп, парк. Ансамбль размяшчаецца на адлегласці за 1 км на паўночны ўсход ад в. Ляжайка. Усе гаспадарчыя будынкі — з чырвонай цэглы, склеп — з каменю. Будынак бровара мае высокі каменны падмурак, розныя па велічыні аднапавярховыя аб'ёмы, накрытыя нізкім бляшаным двухсхільным дахам.

Парк мае плошчу каля 3,5 га. Асноўны дрэвастой: ліпа, каштан і дуб. Сажалкі абмялелі. Парк зарос хмызняком, равы перасохлі, кампазіцыйнасць яго значна парушана. Цяпер у гаспадарчых памяшканнях сядзібы пражывае сям'я калгасніка.

Гаспадарчыя пабудовы і рэшткі гістарычнага парку патрабуюць узяцца на ўлік і пад ахову дзяржавы.



*Зянавіль. Бровар[2].*







*Зянавіль. Руіны склепа[3].*

З маёнткамі Зянавіль (Ляжайка) і Віднае звязана старадаўняя рамантычна-трагічная гісторыя. Пасля заўчаснай смерці Зянона Віславуха (1920-я гады) яго маладая ўдава, якая славілася на ўсю акругу прыгажосцю, пакахала маладога гаспадара суседняга маёнтка Віднае. Іх тайнае і гарачае каханне скончылася трагічна. Невядома, што паслужыла прычынай трагедыі, але яны былі знойдзены раніцой мёртвымі каля магутнага дуба ў Зянавільскім парку. Паколькі яны адначасова пайшлі з жыцця, то былі пахаваны разам на каталіцкіх могілках у Пружанах.

[1,2,3] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Казакова
# Kozakowo
# Козаково

Колішняя сядзіба. Належала дробнаму шляхецкаму роду Ліпак. Гаспадар сядзібы ў пачатку 1920-х гадоў быў забіты мясцовымі актывістамі і пахаваны ў парку, дзе захаваўся яшчэ надмагільны камень. Сядзіба размешчана побач в. Казакова, за 1,5 км на поўнач ад чыгуначнага прыпынку Прылуччына.

Складалася з сядзібнага дома, гаспадарчых пабудоў, парку, сажалкі.



*Казакова. Руіны сядзібнага дома[1].*




*Казакова. Схема парку.*

Сядзібны дом быў пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. Спачатку ён меў 2 паверхі (2-і паверх мансардавы), сцены якога ўзведзены з рачнога пяску, вапны і цэменту, падмурак складзены з часанага каменю. На 1-м паверсе размяшчалася 5 пакояў, на другім — 2. Дах двухсхільны, з двума комінамі, накрыты чырвонай чарапіцай.

Гаспадарчыя пабудовы драўляныя, былі накрыты бляшаным дахам, мелі вялікія памеры, за выключэннем склада.

На сённяшні дзень ад сядзібы засталіся рэшткі панскага дома, парку і гаспадарчых пабудоў. Сажалка абмялела, зарасла. Раней у парку існаваў адкрыты басейн, абкладзены белай пліткай (знішчаны).

Парк мае плошчу каля 2 га, кампазіцыя яго моцна парушана.



*Казакова. Фрагмент парку[2].*

У парку раслі лістоўніца, туя, бук, каштан, клён, ліпа і інш. дрэвы. Асноўны дрэвастой яшчэ захаваўся, за выключэннем асобных экзотаў. Частка парку забудавана індывідуальнымі дамамі.

Пасля вайны ў перабудаваным сядзібным доме былі размешчаны розныя ўстановы, у т.л. пачатковая школа, крама, сельскі клуб. Цяпер будынак знаходзіцца ў паўразбураным стане.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 1999 г.*









# Калядзізна
# Koliadyźno
# Коледизно

Колішняя сядзіба роду Чарнікевічаў. Размяшчаецца сярод калгаснага поля паміж вёскамі Малы Краснік, Вялікі Краснік і Дзітаветчына.



*Калядзізна. Агульны выгляд парку*[1].

У 1926 г. маёнтак быў распрададзены, і на яго месцы ўтварыўся хутар з некалькіх сялянскіх сядзіб. У сучасны перыяд практычна ўсе дамы апусцелі.

Ад сядзібы засталіся рэшткі пейзажнага парку, пладовага саду, 2 скляпы, сажалка.




*Калядзізна. Схема сядзібы.*

Сядзібны дом быў пабудаваны ў цэнтры ансамбля з дрэва, аднапавярховы з традыцыйным порцікам з боку цэнтральнага ўвахода. Верагодна, дом быў знішчаны ў 1920-я гады. На яго месцы разраслася плантацыя дэкаратыўных кустоў. Захавалася колішняя ўязная алея з ліпы, вярбы, бярозы, клёну, дубу, узрост якіх дасягае да 200 гадоў і больш. Сажалка невялікая, значна абмялела, абвадныя равы праглядваюцца слаба.

Рэшткі парку маюць плошчу каля 3 га. Сядзіба патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Каштанаўка
# Kasztanówka
# Каштановка

Колішняе радавое гняздо Дзяконскіх. Раней маёнтак меў назву Чахецкая сядзіба. Першае ўпамінанне пра в. Чахец датуецца ў пісьмовых крыніцах 1563 г. На той час вёска ўваходзіла ў склад Кобрынскай эканоміі[1].



*Каштанаўка. Руіны галоўнага фасада палаца*[4].

У 1-й палове XIX ст. Чахец належаў роду Керназіцкіх. Пасля шлюбу Альбіна Дзяконскага, сына Фабіяна, з Марыяй Керназіцкай Чахецкі маёнтак у якасці пасагу перайшоў да Дзяконскіх. Пасля Альбіна ў сядзібе гаспадарыў яго сын Марыян, жанаты з Янінай Карсак. Апошнім гаспадаром Чахецкага маёнтка быў сын Марыяна — Януш, жанаты з Марыяй Орда з маёнтка Перкалі, што пад Любяшовам. З прыходам савецкай улады ў верасні 1939 г. Януш быў арыштаваны і прапаў без вестак[2].

Палац у Чахецкім маёнтку быў пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. Альбінам Дзяконскім. Рэзідэнцыя з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі палацава-паркавага ансамбля.



*Каштанаўка. Руіны паркавага фасада палаца*[5].

Галоўны корпус рэзідэнцыі быў аднапавярховы, пабудаваны з дрэва на высокім падмурку. Цэнтральны фасад вылучаны невялікім ганкам на дзвюх парах квадратных у плане калон, на якія абапіраўся нізкі трохвугольны шчыт.







*Каштанаўка. Галоўны фасад палаца. 1939 г.*[6]

З тыльнага боку па цэнтры фасада да будынка прылягала шырокая тэраса. Палац быў накрыты гладкім двухсхільным дахам. Значна пазней з левага бока палаца было прыбудавана двухпавярховае крыло.

Да 1-й сусветнай вайны палац меў шмат старадаўніх каштоўнасцей (мастацкіх палотнаў, стылёвай мэблі, вырабаў са срэбра) і унікальную бібліятэку. Большая частка гэтага багацця была разрабавана пад час вайны. Засталіся толькі частка кнігазбору і рэшткі мэблі, якая размяшчалася ў салоне.

Вельмі прыгожа выглядаў парк, закладзены таксама Альбінам Дзяконскім у час узвядзення рэзідэнцыі. Парк абследаваны і ўсебакова апісаны А.Т.Федаруком[3]. Ён




*Каштанаўка. Схема парку.*

фарміраваўся з ляснога масіву, які абкружаў двор. У парку была праведзена працейшая меліярацыя, выкапаны каналы, устаноўлены шлюзы, пашыраны сажалкі, частка вады пайшла ў р. Муху, прыток Мухаўца. Парк меў плошчу да 10 га, складаўся з дзвюх частак: парадная з боку галоўнай уязной алеі і пейзажнай, якая цягнулася ад тылу палаца.

Парк моцна пацярпеў пад час 1-й і 2-й сусветных войнаў, а таксама ў пасляваенны час. У выніку безгаспадарчых адносін ён зарос, каналы і сажалкі абмялелі, значна змяніўся дрэвастой. Пад ліставыміцамі ўжо фарміруецца другі ярус з грабу. Палац доўгі час не выкарыстоўваецца, моцна разбураны, патрабуе тэрміновага аднаўлення. Тым не менш рэшткі Чахецкага парку і палаца ў в. Каштанаўка маюць значную цікавасць.

У сучасны перыяд плануецца правесці рэстаўрацыю палаца, у якім у перспектыве будзе афармляцца літаратурны музей.

Палацава-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 57.*
[2,6] *Aftanazy R. Dzieje... S. 31.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 171—172.*
[4,5] *Фота аўтара. 1998 г.*

# Краснік і Хараўшчына
# Kraśnik i Chorowszczyzna
# Красник и Хоровщина

Старадаўнія сядзібы вядомага паэта-сентыменталіста XVIII—XIX ст. Францішка Карпінскага, жыццё і творчасць якога амаль цалкам звязаны з беларускай культурай.



*Краснік. Сядзіба Францішка Карпінскага.*
*2-я палова XVIII ст.*[4]

Сядзіба Краснік (Карпін) была размешчана ва ўрочышчы побач з каналам Тызенгаўза каля вёсак Малы Краснік і Вялікі Краснік (цяпер тэрыторыя Сухапальскага сельскага Савета). Сядзіба не існуе, але месца, дзе яна размяшчалася, мае мемарыяльнае значэнне. Дакладна невядома, калі была пабудавана сядзіба ў фальварку Краснік, магчыма, пры Францішку Карпінскім, які амаль 30 гадоў арандаваў гэты фальварак, дзе замяніў паншчыну на грашовую рэнту (чынш).



*Краснік. Колішняя капліца.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1878 г.*[5]











*Вялікі Краснік. Мемарыяльны знак Францішку Карпінскаму*[6].

Нарадзіўся Ф.Карпінскі 4.10.1741 г. на Украіне (в. Галаскоў, Каламыйскі раён, Іванава-Франкоўская вобласць), закончыў Львоўскую езуіцкую акадэмію, з 1780 г. жыў у Варшаве, дзе быў прыняты пры двары Чартарыйскіх, а ў 1781—1782 гг. наведаў Гродна і Вільню. З 1793 г. арандаваў на Гродзеншчыне і Пружаншчыне фальваркі (Краснік, Хараўшчына і інш.).



*Хараўшчына. Фальварак Францішка Карпінскага. 1-я палова XIX ст.*[7]

Даследчык жыцця і творчасці Ф.Карпінскага Раман Собаль у сваёй кнізе «Францішак Карпінскі» надрукаваў рэдкія малюнкі з калекцыі Польскага музейнага фонда, дзякуючы якім мы маем уяўленне пра сядзібны дом, дзе жыў вялікі паэт[1]. Дом у Красніку быў невялікі, драўляны, з высокім чатырохсхільным дахам, накрытым саломай ці чаротам. Цэнтральны фасад сядзібы вылучаны двума невялікімі ганкамі, паміж якімі было адно невялікае акенца. Па баках дома сіметрычна размешчаны гаспадарчыя памяшканні, пабудаваныя таксама з дрэва і накрытыя саломай ці чаротам. Злева за домам узвышаецца вялікі гаспадарчы будынак з высокім стогападобным дахам. Сядзіба ад увахода агароджана невысокім плотам з драўлянымі весніцамі. Верагодна, сядзібу часткова ахінаў невялікі пейзажны парк, які размяшчаўся за домам і гаспадарчымі пабудовамі.

Больш утульна і прывабна выглядае сядзіба Ф.Карпінскага ў Хараўшчыне.

Большасць свайго жыцця Францішак Карпінскі правёў менавіта тут, у сваіх фальварках на Гродзеншчыне і Пружаншчыне. Ён гаспадарыў на ўласным кавалку зямлі, разам з сялянамі працаваў у полі, вучыў сялянскіх дзяцей у школе, адкрытай ім у фальварку Хараўшчына. З ім падтрымлівалі сувязі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, у т.л. маладыя пісьменнікі, якія пісалі на беларускай мове. Ён збіраў вершы Ф.Рысінскага з намерам выдаць іх, перапісваўся з паэтам-публіцыстам, культурным і палітычным дзеячам, апошнім канцлерам Вялікага княства Літоўскага Яўхімам Храптовічам[2].

Дэмакратычна-асветніцкі светапогляд Карпінскага глыбока адбіўся на яго паэтычна-пісьменніцкай дзейнасці і яскрава выявіўся ў творы «Пра шчасце чалавека» і інш.



*Хараўшчына. Будынак флігеля ў колішнім фальварку Францішка Карпінскага*[8].

Матывы беларускага фальклору ён выкарыстаў у творах «Падарожжа па зачараванай краіне», «Успамін нядаўняга кахання».

Архівы Ф.Карпінскага пасля яго смерці збераглася ў К.Прозара ў Хойніках, а потым часткова ў А.Ельскага ў Замосці (цяпер Пухавіцкі раён)[3].

Да канца свайго жыцця Ф.Карпінскі жыў у Хараўшчыне, надзвычай маляўнічым фальварку, які размяшчаўся за 3 км на захад ад в. Лыскава. Цяпер в. Хараўшчына ўваходзіць у межы Свіслацкага раёна. Фальварак поўнасцю забудаваны прыватнымі дамамі. Захаваліся рэшткі парку, склеп, флігель і падмуркі сядзібнага дома Ф.Карпінскага. Сядзібна-паркавы ансамбль меў у плане форму прамавугольніка. Добра праглядваюцца рэшткі ліпавых і каштанавых алей, размешчаных па перыметры ансамбля.



*Хараўшчына. Рэшткі падмурка сядзібнага дома Францішка Карпінскага*[9].









Тут, у Хараўшчыне, 16.9.1825 г. Францішак Карпінскі адышоў на вечны спачын. Ён быў пахаваны каля муроў Троіцкага касцёла ў в. Лыскава. Надмагільная пліта паэту ў 1990-я гады аднаўлена. Месцы, дзе размяшчаліся фальваркі Краснік, Хараўшчына, патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,4,7] *Sobol R. Franciszek Karpiński. Historia mego wieku i ludzi, z którymi żylem. Państwowy Instytut Wydawniczy, 1987. S. 296.*
[2] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі... С. 222—223.*
[3] *Пружанскі раён. Памяць. Мн., 1992. С. 47.*
[5] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III - R.A. 4379).*
[6,8,9] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Крыніца
## Kryniсa
## Криница

Колішняя сядзіба роду Саўчукоў. Размяшчалася на нізкай мясцовасці побач з в. Крыніца. Засталіся рэшткі пейзажнага парку плошчай каля 6 га. У сядзібе былі 2 жылыя дамы, пабудаваныя Саўчукамі ў 2-й палове XIX ст. з дрэва. Уяўлялі сабой аднапавярховыя будынкі з невялікімі ганкамі. Адзін дом згарэў у міжваенны перыяд, другі захаваўся да сённяшняга часу. Пасля прыходу савецкай улады ў ім размяшчалася мясцовая школа і бібліятэка.



*Крыніца. Агульны выгляд парку[1].*



*Крыніца. Фрагмент парку[2].*




*Крыніца. Схема парку.*

Цяпер будынак прыстасаваны пад гаспадарчую пабудову прыватнай сядзібы.

Унікальнасць ансамбля заключаецца ў наяўнасці сістэмы арыгінальна разгалінаваных водных каналаў з астраўкамі (выспамі) пасярэдзіне, злучаных з невялікай сажалкай. Пазней, у савецкі час, на тэрыторыі ансамбля была пракапана доўгая сажалка, што значна парушыла сістэму водаабмену ў колішніх каналах. У выніку каналы абмялелі, часткова перасохлі. Адзін з астраўкоў раскапаны.

Асноўны дрэвастой парку складаюць граб, вольха, бяроза, клён, дуб, ясень. Парк занядбаны, зарос дзікімі яблынямі, кустамі.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

## Крыстыянполь
## Krystyjanpol
## Крестьянполь

Колішні фальварак Крыстыянполь, які з сярэдзіны XIX ст. меў назву Канстанцінава, размяшчаўся за 2 км на паўднёвы захад ад Ружан. Належаў магнацкаму роду Сапегаў. Магчыма, двор у Крыстыянполі з'яўляўся летняй рэзідэнцыяй Сапегаў. Вядома, што ў ім у XVIII ст. быў флігель арыгінальнай архітэктуры. Паводле даследавання В.Калніна, яго архітэктарам з'яўляўся вядомы



*Крыстыянполь. Флігель. XVIII ст.[2]*









творца аб'ектаў палацава-паркавага мастацтва на Беларусі Ян Самуэль Бекер[1]. Шэраг архітэктурных шэдэўраў створаны Бекерам у Ружанах. Сярод іх асаблівую унікальнасць маюць палацавы ансамбль Сапегаў, царква і кляштар базыльян, парафіяльны касцёл, карчма, капліца Святога Казіміра на могілках.

Акрамя таго, захаваліся праекты палацавага парку і шпіталя ў Ружанах, а таксама палаца і флігеля ў Крыстыянполі, выкананыя Янам Бекерам. Ён лічыўся прыдворным архітэктарам Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне, атрымаў у 1798 г. пажыццёвы пенсіён у памеры 2160 злотых.

Як і ў Ружанскім палацы, так і ў Крыстыянполі Ян Бекер спалучыў розныя стылі пры ўзвядзенні палацаў. Верагодна, што архітэктура флігеля ў Крыстыянполі таксама была спалучэннем элементаў адыходзячага барока і ўзнікаючага класіцызму. Акрамя таго, у дэкоры флігеля існуюць элементы стылю ракако.

У 1944 г. в. Канстанцінава была поўнасцю спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі і больш не змагла аднавіцца. На месцы яе існавання пастаўлены мемарыяльны знак.

[1,2] *Калнін В. Архітэктура Яна Самуэля Бекера // Спадчына. № 3. 1998. С. 65—85.*

# Кутнявічы
# Kutniewicze
# Кутневичи

Старадаўняя сядзіба. Размяшчалася паміж вёскамі Кутнявічы і Ткачы. Мае мясцовую назву «Марыльчын сад», ад імя пані Марылі, якая гаспадарыла тут да 2-й сусветнай вайны. У сядзібна-паркавы ансамбль уваходзілі жылы дом, лямус, свіран, склеп, склад, стайня, парк, сыраварня і інш. аб'екты. Побач з в. Бакуны існавала мураваная капліца-пахавальня продкаў, якія гаспадарылі тут у XVIII—XX ст. У пасляваенны час капліца была закрыта, занядбана і зараз практычна поўнасцю разрабавана.



*Кутнявічы. Рэшткі ўязной алеі[1].*




*Кутнявічы. Схема парку.*

Сядзібны дом быў драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны, меў двухсхільны гонтавы дах. Сядзібны дом і ўсе гаспадарчыя пабудовы ансамбля былі знішчаны пасля 2-й сусветнай вайны.

Засталіся невялікія рэшткі пейзажнага парку, закладзенага ў 2-й палове XIX ст., і пладовы сад. Асноўны дрэвастой: ліпа, клён, бяроза, каштан, бэз і інш. ліцсевыя пароды.

Захавалася ўязная алея, абсаджаная дубамі, якія маюць вельмі стары ўзрост, але амаль напалову выразаны.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Лінова (Інтэрнацыянальны)
# Linowo
# Линово

Палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Трымбіцкіх. Маёнтак ад бліжэйшай вёскі меў назву Ліноўскі. Першае ўпамінанне пра в. Лінова ў пісьмовых крыніцах датуецца 1563 г. На той час вёска адносілася да Кобрынскай эканоміі. У 1567 г. гаспадарамі Лінова былі нашчадкі старадаўняга роду Ізбіцкіх (Збіцкіх)[1]. У канцы XVIII ст. маёнтак Лінова меў 4000 дзесяцін зямлі і ўваходзіў у склад Пружанскай эканоміі. Пасля задушэння паўстання 1794 г. і 3-га падзелу Рэчы Паспалітай расійская імператрыца падаравала землі Пружанскай воласці фельдмаршалу Румянцаву, які хутка іх распрадаў. Маёнтак Лінова набыў род Трымбіцкіх. Першым гаспадаром маёнтка з гэтай лініі стаў Вінцэнт Трымбіцкі (1755 года нараджэння), галоўны кобрынскі паляўнічы і камергер апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Наступным гаспадаром Ліноўскага двара па спадчыне стаў сын Вінцэнта Трымбіцкага і Ізабелы Пашкоўскай Багуслаў, потым сын Багуслава і Марыі Веляжынскай Уладзіслаў Трымбіцкі (1845—1907). Уладзіслаў быў у






*Лінова. Галоўны фасад палаца[4].*

шлюбе двойчы: спачатку з Юзэфай Лях-Ширмай, потым з Людвікай Ажэшка з Закозельскага маёнтка[2].

Апошнім гаспадаром Лінова быў сын Уладзіслава і Людвікі Казімір Трымбіцкі, які да прыходу савецкай улады меў 3000 дзесяцін зямлі.

Ліноўскі палац быў узведзены Вінцэнтам Трымбіцкім на мяжы XVIII—XIX ст. Старая рэзідэнцыя Трымбіцкіх выглядала даволі сціпла і служыла жылым домам для чатырох пакаленняў гэтага роду. Палац быў пабудаваны з цэглы, меў адзін паверх, накрыты гладкім чатырохсхільным дахам.

У пачатку XX ст. палац стаў цесным, і Уладзіслаў Трымбіцкі распачаў яго перабудову. Для распрацоўкі праекта і яго ажыццяўлення быў запрошаны дойлід Луба. Планавалася ўзвесці 2 сіметрычныя двухпавярховыя крылы, але недахоп сродкаў і пачатак 1-й сусветнай вайны не дазволілі ажыццявіць намечанае да канца. Тым не менш палац пасля перабудовы набыў манументальны выгляд.

Цэнтральны фасад палаца быў вылучаны масіўным порцікам, 1-ы паверх якога складалі 5 аркад, над якімі ўзвышаліся 4 стройныя калоны з гладкім трохвугольным франтонам. Вокны 2-га паверха, што выходзілі на балкон з балюстрадай, мелі квадратную і прамавугольную форму.

Даволі арыгінальна выглядаў паркавы фасад палаца. Сярэдні рызаліт меў адзін паверх, гладкую тынкоўку, высокі


*Лінова. Паркавы фасад палаца. 1939 г.[5]*

шчыт, адно вялікае акно і прасторную тэрасу з шырокімі ўсходамі.

Левае крыло паркавага фасада мела 2 паверхі, багатую аздобу і невялікі балкон з бакавымі калонамі. Правае крыло было не завершана і адрознівалася па архітэктуры ад левага. Аднапавярховую частку палаца накрываў гладкі двухсхільны дах, а двухпавярховая частка порціка і левага крыла мела чатырохсхільны дах.

Палац меў багатую ўнутраную аздобу. У пярэднім пакоі стаялі мармуровыя скульптуры Нерона і Агрыпіны. Цэнтральная зала, якая служыла сталовай, мела 50 $м^2$ плошчы. У час прыёму гасцей тут праводзіліся балі і святы. На сценах віселі партрэты продкаў Трымбіцкіх і Ажэшкаў, у т.л. Марты Радзівіл з Трымбіцкіх, Уладзіслава і Багуслава Трымбіцкіх і інш. Астатнія пакоі дзяліліся на «цёмныя», «светлыя», «ясныя» ў залежнасці ад колеру шпалер і аздобы мэблі. Некалькі пакояў былі дэкарыраваны партрэтамі і габеленамі, якія паходзілі з Закозельскага маёнтка са збораў Калікста Ажэшкі, брата Людвікі Трымбіцкай з Ажэшкаў. Асаблівым багаццем кнігазбору вылучалася бібліятэка. Дзякуючы намаганням бібліёграфа Уладзіслава Трымбіцкага, брата Багуслава, у 2-й палове XIX ст. бібліятэка мела каштоўныя старадаўнія рукапісы, некалькі тысяч тамоў польскіх, французскіх кніг і літаратуры іншых краін свету. Пасля смерці Уладзіслава Трымбіцкага большая частка бібліятэчнага кнігазбору была выкуплена графам Замойскім і вывезена ў Варшаву, астатнюю частку разрабавалі кайзераўскія войскі пад час 1-й сусветнай вайны.

Палац абкружаў пейзажны парк, закладзены Вінцэнтам Трымбіцкім пры будаўніцтве рэзідэнцыі ў канцы XVIII ст.

Парк грунтоўна абследаваны і апісаны А.Т.Федаруком[3]. Плошча парку складае 3 га (без саду). Ён размешчаны ўздоўж выцягнутай кампазіцыйнай восі з поўначы на поўдзень. Уязная алея кароткая. Яна адметная тым, што аздоблена каштоўным экзотам — ліпай крымскай, а таксама сваёй шырынёй (20 м). Алея вяла да параднай паляны з традыцыйным кругам перад палацам. З усходняга боку алея фіксавалася стайняй, з заходняга боку да яе прымыкаў крухмальны завод.

Праз парк праходзіла прагулачная алея, абсаджаная пладова-ягаднымі кустамі. У пачатку XIX ст. паркавыя баскеты атрымалі пейзажную аздобу невялікімі дрэвавымі групамі і салітэрамі — клёнам, грабам, ясенем, дубам, ліпай і інш. Дрэвы дасягалі ўзросту 150 і больш гадоў. Асаблівую прыгажосць парку прыдаюць дрэвы лістоўніцы вышынёй больш за 30 м. Параўнальна невялікі пейзажны парк дапаўняўся размешчаным побач пладовым садам, які абмяжоўваўся лясным масівам.

Палац і парк захаваліся, выкарыстоўваюцца ў гаспадарчых мэтах.

Палацава-паркавы ансамбль сучаснага



*Лінова. Схема парку[6].*



19 Зак. 1023


*Лінова. Парафіяльны касцёл (не захаваўся)[7].*

пасёлка Інтэрнацыянальны ўзяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 84.*
[2,5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 64.*
[3,6] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 55—56.*
[4] *Фота аўтара. 1998 г.*
[7] *Архіў аўтара.*

# Магілёўцы
# Mogilowce
# Могилевцы

Старадаўняя сядзіба, радавое гняздо Быхаўцаў, пазней — Дзяконскіх. Быхаўцы — адзін з заможных шляхецкіх родаў на Беларусі. Першым вядомым продкам роду быў Тышка Быхавец — дваранін каралеўскі, які ў XVI ст. перасяліўся ў Літву з Украіны, служыў каралю Жыгімонту I Старому і яго сыну, дасягнуў найвышэйшых чыноў, атрымаў за заслугі шмат двароў і маёнткаў, у т.л. Белавежскую пушчу. Паводле даследавання мясцовага краязнаўцы В.Церахавай, нашчадкі Тышкі Быхаўца вылучаліся высокай адукаванасцю і патрыятызмам. У прыватнасці, Язэп Быхавец (філолаг, перакладчык) закончыў Віленскі універсітэт (1794) служыў ад'ютантам неапалітанскага караля і зяця Напалеона Мюрата ў гады вайны 1812 г.

Менавіта ў маёнтку Магілёўцы доўгі час захоўваўся рукапіс Літоўскай хронікі, які быў перададзены Язэпам Быхаўцам у 1830-я гады вядомаму гісторыку Літвы Тэадору Нарбуту. Рукапіс вядомы зараз як Хроніка Быхаўца[1]. У 2-й палове XIX ст. маёнтак Магілёўцы, які меў плошчу 2 тысячы дзесяцін, па спадчыне перайшоў ад Быхаўцаў па мацярынскай лініі да Дзяконскіх. У сваю чаргу бяздзетны Казімір Дзяконскі перадаў маёнтак пляменніку, вядомаму паэту Альбіну Міхаілу Дзяконскаму, які загінуў восенню 1939 г.[2]

Верагодна, пры Быхаўцах у сярэдзіне XVIII ст. у Магілёўцах быў узведзены аднапавярховы палац, накрыты высокім чатырохсхільным гладкім гонтавым дахам. Будынак меў масіўны падмурак, у плане — форму выцягнутага прамавугольніка.

Паводле апісання Р.Афтаназы, у сярэдзіне XIX ст. палац быў значна пашыраны. Перабудова закранула крылы палаца, якія былі падоўжаны, і сярэднюю частку, якая складалася з высокага порціка на чатырох іанічных калонах з гладкім трохвугольным шчытом. Такі ж порцік, але значна ніжэйшы, існаваў з паркавага боку.

Ён размяшчаўся асіметрычна да порціка галоўнага фасада, таму што на цэнтральнай восі палаца знаходзілася сямейная капліца з зашклёнымі сценамі, накрытая шатровым дахам. Капліца, як і палац, была пабудавана ў сярэдзіне XVIII ст.

Будынак палаца быў атынкаваны і пафарбаваны ў белы колер, меў шэраг прыгожа аздобленых пакояў, паркетную дубовую падлогу.

У сярэдняй частцы з боку цэнтральнага фасада размяшчаліся вялікія сені, а з боку парку на ўсю шырыню псеўдарызаліта знаходзіўся квадратнай формы пакой салона, які затым служыў у якасці більярднай, пазней вестыбюлем, побач — музычны салон. У салоне мелася багатая мэбля (крэслы, канапа, камоды і інш.), дэкарыраваная бронзай.

У архітэктурным плане вылучаўся размешчаны побач пакой квадратнай формы, які дзяліўся на 2 часткі дзвюма мураванымі калонамі пасярэдзіне і дзвюма прысценнымі


*Магілёўцы. Порцік галоўнага фасада палаца. 1939 г.[4]*







*Магілёўцы. Сучасны выгляд палаца[5].*

калонамі. Гэты пакой служыў салонам і спальняй, меў камплект мэблі ў стылі ампір. 2 наступныя пакоі служылі гасцінай.

У левай анфіладзе ад параднага ўвахода былі салон з мэблі розных стыляў, далей пакой з мураваным камінам і некалькі жылых пакояў. З правага боку ад більярднай, пазней вестыбюля, размяшчаўся вялікі пакой сталовай. З каштоўных рэчаў, што ў ім знаходзіліся, былі партрэты продкаў гаспадароў маёнтка — Быхаўцаў, а ў зашклёных шафах — значны збор саксонскага фарфору на сто асоб. Са сталовай можна было выйсці на ганак паркавага



*Магілёўцы—Асошнікі. Помнік-вежа. XVIII ст.[6]*

порціка. За сталовай у анфіладзе быў кабінет гаспадара, за якім яшчэ далей размяшчаліся 2 паўкруглыя пакоі. Адзін з іх меў краты, насіў назву «скарбца», быў запоўнены калекцыяй старадаўняй зброі[3].

За пакоем більярднай на левым баку размяшчалася бібліятэка, аздобленая мэбляй з дрэва карэльскай бярозы, з круглым сталом пасярэдзіне на 20 асоб, трыма жырандолямі з каляровага венскага шкла. Бібліятэчны збор складаў каля трох тысяч тамоў. Апошні гаспадар маёнтка, вядомы паэт Альбін Міхаіл Дзяконскі, прысвяціў сваёй спадчыннай бібліятэцы цудоўны верш, які быў змешчаны ў зборніку «Зялёныя Магілёўцы» за 1939 г.

У час 1-й сусветнай вайны бібліятэка была поўнасцю разрабавана немцамі.

На 2-м паверсе размяшчаліся 2 сярэдніх памераў пакоі, якія мелі вялікую колькасць ложкаў, дзе адпачывалі запрошаныя на паляванне мужчыны.

Стары парк быў закладзены яшчэ пры Быхаўцах. У ім раслі векавыя ліпы, клёны, таполі, былі грабавыя шпалеры. Плошча парку складае некалькі гектараў. Вакол палаца размяшчаліся велізарныя газоны, адзін з боку ўезда, другі з боку парку, абсаджаныя рабаткамі, клумбамі кветак і кустамі. Невялікая частка парку, абнесеная нізкім мурам з боку параднага ўезда, мела назву «цялятніка», была абсаджана мноствам кветак у адпаведнасці з порамі года.

Далейшая частка парку спускалася ў нізіну, утрымлівалася ў нерэгулярным стылі і называлася «звярынцам», мела маляўнічую сажалку з белымі ліліямі. Пасля вайны ў палацава-паркавым ансамблі была размешчана бальніца для псіхічна хворых людзей. Кампазіцыя парку моцна парушана.

Палацава-паркавы ансамбль разам з гістарычным помнікам-вежай XVIII ст., што знаходзіцца непадалёку (в. Асошнікі), патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Церахава В. Хроніка Быхаўца. Берасцейскія карані. Брэст, 1998. С. 194—196.*
[2,3,4] *Aftanazy R. Dzieje... S. 266—268.*
[5,6] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Наталін
# Natalin
# Наталин

Даўняе радавое гняздо Мяшчэрскіх. Пасля 1-й сусветнай вайны тут гаспадарылі прадстаўнікі даволі заможнага роду Пшыдзецкіх. Пры адстаўным генерале Пшыдзецкім сядзіба мела плошчу каля 5 га. На сённяшні дзень засталіся невялікія рэшткі пейзажнага парку, сажалка і падмуркі вялікай аборы.

Сядзібны дом быў мураваны, аднапавярховы, з невялікім ганкам на двух слупах. Паколькі ў сядзібе адразу пасля 2-й сусветнай вайны была размешчана жывёлагадоўчая ферма, то парк паступова прыйшоў у заняпад. У сярэдзіне 1960-х гадоў сядзібны дом быў разабраны для



*Наталін. Руіны сядзібы[1].*







*Наталін. Схема парку.*

пабудовы іншых гаспадарчых аб'ектаў, засталіся толькі яго падмуркі.

Захаваліся рэшткі сцен аборы. Гэта было збудаванне вялікіх памераў, складалася з валуноў на вапнавым растворы. Побач размяшчаліся яшчэ адна абора і выцягнутая ўздоўж уязной алеі сажалка. У сажалцы ўзровень вады трымаўся дзякуючы існуючым тут крыніцам. Цяпер сажалка і равы поўнасцю перасохлі.

Асноўны дрэвастой: ліпа, каштан, граб, шмат дэкаратыўных кустоў. Уязная алея перасякае парк пасярэдзіне. Яна была абсаджана векавымі ліпамі.

Сядзіба размяшчалася за 2 км ад дарогі Ружаны—Ваўкавыск і за 3 км на поўнач ад в. Галоўчыцы.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Папялёва
# Popielewo
# Попелево

Колішняя сядзіба, апошнімі гаспадарамі якой былі прадстаўнікі роду Сатараў. У яе склад уваходзілі парк, пладовы сад, сядзібны дом, невялікая фабрыка па вырабе цукерак («сатарак»), шэраг гаспадарчых пабудоў (летняя кухня, стайня, свіран, лямус, хлеў), адміністрацыйны будынак, вузкакалейка.



*Папялёва. Адміністрацыйны будынак[1].*

Сядзібны дом быў невялікі, аднапавярховы, пабудаваны ў канцы XIX ст. з дрэва. Пасля прыходу савецкай улады ў ім знаходзіўся калгасны склад. Пры забудове в. Папялёва ў 1970-я гады ён быў знесены. У добрым стане захаваўся адміністрацыйны будынак. Ён пабудаваны ў 1931 г. з дрэва, на высокім падмурку, з мансардай на 2-м паверсе, у плане мае форму прамавугольніка з невялікім ганкам і крылом з боку парку. Цяпер прыстасаваны пад жыллё.




*Папялёва. Схема сядзібы.*

На месцы пладовага саду і сядзібнага дома размяшчаецца новая забудова вёскі. Абвадныя каналы абмялелі, сажалка высахла.

Захаваўся пейзажны парк плошчай каля 7 га з сістэмай каналаў, алей і дрэвавага масіву лісцевых парод (граб, дуб, ясень, ліпа, клён). Цэнтральная алея ператворана ў вуліцу, якую мясцовыя жыхары называюць «Маёнткам».

Вузкакалейка, якая вяла ў маёнтак, выкарыстоўвалася для вывазу лесу, пасля вайны разабрана.

Частку парку займаюць школа, магазін, індывідуальныя забудовы.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Перадзельск
# Przedzielsk
# Передельск

У ваколіцах в. Перадзельск да 1-й сусветнай вайны размяшчаліся 3 маёнткі, у якіх гаспадарылі Рагожы, Быхаўцы і Ядзінакі. Паступова маёнткі прыйшлі ў заняпад і 2 з іх (Рагожаў і Ядзінак) былі распрададзены іншым гаспадарам. Вытрымаў выпрабаванне лёсу і не абанкруціўся маёнтак роду Быхаўцаў. Размяшчалася сядзіба за 0,5 км на захад ад в. Перадзельск.

Сядзібны дом быў пабудаваны з дрэва, аднапавярховы, мансардавы, з чатырохсхільным гонтавым дахам. У сядзібах Рагожаў і Ядзінак таксама меліся сядзібныя дамы і шэраг гаспадарчых пабудоў. Усе сядзібныя дамы былі разабраны неўзабаве пасля 2-й сусветнай вайны.








*Перадзельск. Фрагмент парку[1].*

Маёнтак Быхаўцаў лічыўся самым вялікім. Акрамя сядзібнага дома меў мураваную абору, драўляны свіран, бровар, стайню, шэраг іншых збудаванняў (не існуюць).

Рэшткі парку маюць плошчу каля 2 га, дрэвы растуць купамі. Асноўны дрэвастой: вярба, акацыя, ліпа, мноства кустоў, бэз. Сажалка значна абмялела пасля правядзенай меліярацыі. Каналы і алеі не праглядаюцца. Месца, дзе стаяў сядзібны дом, заарана, у выніку чаго на паверхні глебы сустракаецца мноства чарапкоў, бітай цэглы.




*Перадзельск. Схема рэштак парку.*

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

[1] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Плянта Казлоўская
# Planta Kozlowska
# Плянта Козловская

Старадаўняя сядзіба роду Казлоўскіх. Размешчана на ўсход ад в. Прылуччына Гарадзечанскага сельскага Савета.

У склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы (свіран, хлеў, склад) і парк.

Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы, з чатырохсхільным гонтавым дахам. Быў пабудаваны Казлоўскімі ў 2-й палове XIX ст. Пасля 2-й сусветнай вайны дом быў разабраны і перавезены ў г. Пружаны. З яго быў складзены будынак Пружанскага лясгаса. У сувязі з узвядзеннем новага будынка лясгаса, стары быў разабраны.



*Плянта Казлоўская. Сядзібны дом[1].*



*Плянта Казлоўская. Фрагмент парку[2].*

Захаваліся рэшткі парку плошчай каля 3 га. Тэрыторыя парку па перыметры абнесена валам і каналам, якія яшчэ добра праглядаюцца. Парк мае вельмі густы дрэвастой з ліпы, грабу, ясеню, бэзу, дубу і інш. Асаблівую прыгажосць надаюць парку адзінкавыя экземпляры 200-га-




*Плянта Казлоўская. Схема рэштак парку.*











*Плянта Казлоўская. Уязная алея[3].*

довых ліп і ясеняў. Да парку вядзе шырокая і доўгая ўязная алея з каналамі з двух бакоў, абсаджаная ясенямі.

Гаспадарчыя пабудовы таксама знішчаны, засталіся толькі руіны піўніцы.

Рэшткі гістарычнага парку падлягаюць узяццю на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Архіў Пружанскага лясгаса.*
[2,3] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Плянта Казябродская
# Planta Koziebrodzka
# Плянта Козебродская

Колішняя сядзіба роду Заянкоўскіх. Апошнім гаспадаром быў Юзаф Заянкоўскі. Сядзібна-паркавы ансамбль размяшчаўся паміж вёскамі Козі Брод (за 2 км) і Сасноўка (за 5 км), сярод сасновага бору на ўзвышшы, абкружаным балотам.



*Плянта Казябродская. Фрагмент парку[1].*



*Плянта Казябродская. Руіны піўніцы[2].*

Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы, у плане прамавугольны, пабудаваны ў 2-й палове XIX ст. Цэнтральны фасад вылучаны невялікім ганкам. Дах чатырохсхільны, накрыты гонтай. У пасляваенны час дом быў разабраны і перавезены ў в. Чахец.

У сядзібна-паркавы ансамбль уваходзілі таксама пейзажны парк, гаспадарчыя пабудовы і сажалка. Парк меў плошчу каля 6 га. Засталіся рэшткі ліпавай алеі, дубовай альтанкі, грабавы і бярозавы гаі, плантацыя дэкаратыўных кустоў, адзінкавыя дрэвы старога пладовага саду. З гаспадарчых пабудоў захаваўся мураваны склеп. Месца, дзе размяшчаўся сядзібны дом, засаджана хвойнікам, бярозай, частка заарана. Кампазіцыя парку парушана, каналы і сажалка моцна заплылі і зараслі.

Рэшткі парку патрабуюць узяцця на мясцовы ўлік.

[1,2] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Пружаны
# Prużany
# Пружаны

Палацава-паркавы ансамбль, радавое гняздо Швыкоўскіх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. расійская імператрыца Кацярына II падаравала пружанскія землі актыўнаму ўдзельніку задушэння нацыя-



*Пружаны. Палац. З акварэлі Напалеона Орды. 1877 г.[4]*



нальна-вызваленчага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам нашага славутага земляка Андрэя Тадэвуша Касцюшкі фельдмаршалу П.А.Румянцаву, які хутка іх распрадаў мясцовым заможным гаспадарам: Трымбіцкім, Булгарыным, Влодкам, Ягмінам і інш.

Цэнтр Пружан разам з мястэчкам перайшоў ва ўласнасць даволі знатнага роду Швыкоўскіх.

Прадстаўнікі гэтага шляхецкага роду мелі ўладанні ў розных мясцінах Беларусі і Літвы, вылучаліся высокай культурай, эрудыцыяй, патрыятызмам і гаспадарлівасцю. Сярод іх найбольш вядомы апошні з гэтай лініі Валенцій Швыкоўскі, пружанскі маршалак. З яго імем звязаны сапраўдная слава і росквіт маёнтка ў Пружанах, будаўніцтва новага палаца, фарміраванне парку і стварэнне унікальнага палацава-паркавага ансамбля.



*Пружаны. Сучасны выгляд палаца[5].*

У пачатку XIX ст. Пружанскі маёнтак уяўляў тыповы фальварак, якіх існавала многа на Беларусі. Жылы двор быў стары, драўляны, аднапавярховы. Па перыметры двара размяшчалася яшчэ 6 жылых і гаспадарчых пабудоў, за якімі былі агароды і ворная зямля.

Пры Бярнардзе і Пятру Швыкоўскіх (дзед і бацька Валенція) сядзібны ансамбль стаў значна большым. Быў пабудаваны новы дом памерам каля 39x12 м, на 1-м паверсе якога знаходзілася 10, на другім — 6 пакояў.

Маёнтак займаў каля чатырох тысяч дзесяцін зямлі.

Валенцій Швыкоўскі стаў паўнаўладным гаспадаром маёнтка ў 1843 г., падзяліўшы з братам Міхаілам пружанскія землі. Валенцій атрымаў непасрэдна Пружаны, а Міхаіл сваю частку ў Белавусаўшчыне.

Валенцій Пятровіч Швыкоўскі нарадзіўся каля 1817 г.[1] (паводле іншых крыніц, у 1820 г.[2]), адукацыю атрымаў у Дэрпцкім (Тарту) універсітэце, у 1841 г. абвянчаўся ў Вільні з Германіяй Ваўжынскай, але шлюб быў бяздзетны. У 1854 г. Валенція абралі маршалкам Пружанскага павета.

Гаспадары Пружан Валенцій і Германія былі гасцінныя. Іх дом часта наведвалі славуты Юзаф Ігнацы Крашэўскі і знакаміты мастак Напалеон Орда, тут бываў нястомны даследчык этнаграфіі і фальклору Беларусі Міхал Федароўскі[2].

У сувязі з тым, што бацькоўскі дом не адпавядаў узрастаючым патрабаванням, Валенцій Швыкоўскі ў сярэдзіне XIX ст. пабудаваў паблізу цэнтра горада арыгінальную рэзідэнцыю.

Для стварэння праектнай дакументацыі палацава-паркавага ансамбля быў запрошаны з Варшавы знакаміты архітэктар Францішак Марыя Ланці, які прыдаў архітэктуры палаца нерэгулярны, неарэнесансавы стыль «мадэрн».

Будынак палаца — гэта 2 групы рознавялікіх аб'ёмаў, прыгожая квадратная вежа, паўкруглая веранда, вялікая тэраса на калонах. Інтэр'ер будынка быў аздоблены ляпнымі прафіляванымі карнізамі, камінамі, дэкарыраванымі дзвярыма.

Вакол рэзідэнцыі Швыкоўскія залажылі багаты на экзатычныя дрэвы парк. У спецыяльна пабудаванай аранжарэі гадаваліся апельсінавыя і лімонныя дрэўцы,



*Пружаны. План сядзібы. 1902 г.[6]*



*Пружаны. Сучасны выгляд уязной брамы да палаца[7].*





пальмы, мірты і іншыя экзоты, якімі ў летні час упрыгожваўся парк. Гэтай справе ўвесь свой вольны час прысвячаў маршалак Валенцій Швыкоўскі.

Хараство палацава-паркавага ансамбля існавала нядоўга. За ўдзел у паўстанні 1863 г. сядзібу Швыкоўскага царскія ўлады канфіскавалі, а сам маршалак вымушаны быў з'ехаць у эміграцыю, асеў у Бельгіі і зарабляў на хлеб простым садоўнікам. Аранжарэю закрылі, а ўсе экзатычныя расліны перавезлі ў імператарскі палац Белавежскай пушчы.

У 1867 г. Швыкоўскі вярнуўся ў Пружаны да сваёй жонкі Германіі. Маёнтак быў яму вернуты. Пасля смерці жонкі Швыкоўскі прадаў маёнтак графіні В.Клейнміхель (Арбеліяні) і дажываў свой век у Варшаве, дзе памёр у 1902 г. Быў пахаваны побач з жонкай на каталіцкіх могілках у Пружанах.

Пасля вайны ў будынку размяшчаліся дзіцячы сад, затым стаматалагічная паліклініка, дзякуючы чаму палац уратаваны ад знішчэння. Зараз ён адноўлены на сродкі дзяржавы. У ім ствараецца раённы музей-сядзіба, дзе будуць экспанавацца матэрыялы па гісторыі палаца і сацыяльна-культурным жыцці Пружаншчыны.

У перспектыве плануецца аднаўленне колішняй аранжарэі і парку. Парк абследаваны і апісаны А.Т.Федаруком[3]. Ён мае добра захаваны дрэвастой. У прыватнасці, у вялікай колькасці расце клён, граб, бяроза, ліпа, вольха чорная, конскі каштан, дуб і інш. Тут захаваўся адзіны ў парках Беларусі стары буйны куст кізілу.

Гістарычны палацава-паркавы ансамбль узяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1,6] *Пярвышын У.М. Пружанскі палацык. Мн., 1992. С. 15, 33.*
[2] *Aftanazy R. Dzieje... S. 123.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 183—185.*
[4] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея (III-R.A.4401).*
[5, 7] *Фота з архіва ДМП «Брэстрэстаўрацыяпраект».*

# Ружаны
# Ružany
# Ружаны

Старадаўні палацава-паркавы ансамбль, галоўная рэзідэнцыя магнацкага роду Сапегаў. Ружаны вядомы з 1552 г. Спачатку іх гаспадарамі быў род Тышкевічаў, затым Бруханскіх, а ў 1598 г. канцлер ВКЛ Леў Сапега выкупіў Ружаны ў Барташа Бруханскага разам з фальваркамі Бялевічы, Сідраўшчына і маёнткам Ласасін[1]. Леў Сапега (1557—1633) на працягу свайго жыцця стварыў і перадаў нашчадкам велізарную матэрыяльную спадчыну. Пасля Льва Сапегі ў Ружанах гаспадарылі яго нашчадкі Казімір (1609—1656), падканцлер ВКЛ; Аляксандр (1730—1793), канцлер ВКЛ; Францішак Сапега, жанаты з Пелагеяй Патоцкай, надзвычай прыгожай і актыўнай жанчынай.



*Ружаны. Палац Сапегаў.*
*З літаграфічнага малюнка Напалеона Орды. 1863 г.*[5]

Францішак і Пелагея перавялі сваю рэзідэнцыю з Ружан у Дзярэчын. Прычыны пераходу Сапегаў у больш сціплую рэзідэнцыю невядомы, але пад жылыя пакоі ў Дзярэчыне спачатку былі прыстасаваны памяшканні тутэйшай школы. Пасля смерці Францішка ў 1829 г. Ружаны і Дзярэчын перайшлі да яго адзінага сына Яўстафія (1797—1866), гарачага патрыёта Бацькаўшчыны. За ўдзел у паўстанні 1831 г. яго велізарныя ўладанні былі поўнасцю канфіскаваны.



*Ружаны. Праект галоўнай уязной брамы палаца Сапегаў.*
*Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1784 г.*[6]

Багацейшая рэзідэнцыя ў Ружанах стваралася некалькімі пакаленнямі Сапегаў. У пачатку XVII ст. канцлер Леў Сапега ўзвёў тут раскошны палац, які стаў адным з найвыдатнейшых помнікаў палацава-паркавай архітэктуры Беларусі XVII—XVIII ст. Верагодна, палац быў пабудаваны на месцы старажытнага замка Тышкевічаў, які, паводле пісьмовых крыніц, існаваў тут раней. У прыватнасці, у гэтым замку Ян Сапега з вялікай раскошай прымаў караля Жыгімонта I Старога яшчэ ў 1-й палове XVI ст.[2] Рэзідэнцыя Сапегаў славілася не толькі сваёй велічнасцю, але і гасціннасцю яе гаспадароў. Тут у свой час пабывалі кароль Уладзіслаў IV з каралевай Цэцыляй Рэнат, пра што сведчыла мемарыяльная пліта, устаноўленая ў адной з залаў палаца з надпісам на лацінскай мове. У гэты час тут гасцяваў папскі пасланнік, езуіцкі візітатар з Рыма Фабрыцый Рамфус. У 1784 г. канцлер ВКЛ Аляксандр Сапега прымаў у адноўленай рэзідэнцыі апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які ехаў на Гродзенскі сейм.

Двойчы (1780-я і 1819 г.) Ружанскую рэзідэнцыю наведаў вялікі пісьменнік і драматург, асабісты сябар і ад'ютант Андрэя Тадэвуша Касцюшкі Юльян Урсын Нямцэвіч, які пакінуў пасля сябе унікальныя ўспаміны. У 1863 г. жаданым госцем Сапегаў быў мастак Напалеон Орда, пра што сведчыць малюнак палаца, выкананы з натуры.

У 1655 г. пад час ваенных дзеянняў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ з Віленскай катэдры ў Ружанскі палац была перавезена урна з прахам св. Казіміра і замуравана ў сцяне, на якой устаноўлена дошка на латыні: «DIVO CASIMIRO SACRUM».

Палацу быў наканаваны складаны лёс. Ён моцна пацярпеў ад расійскіх, шведскіх войскаў і атрадаў канфедэратаў у 1698 г. Палац Льва Сапегі ў пачатку XVII ст. уяўляў сабой своеасаблівую крэпасць — двухпавярховы крыжападобны






*Ружаны. Праект палаца Сапегаў. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1784 г.*[7]

ў плане мураваны аб'ём, які дапаўнялі 3 чатырохгранныя мураваныя вежы. У цэнтральнай частцы палаца знаходзіліся парадная зала і вестыбюль з двухбаковай лесвіцай, у бакавых частках — жылыя пакоі, кабінет, бібліятэка. Пад будынкам у вялізных скляпах захоўваліся баявы арсенал, харчаванне, архіў з дзяржаўнымі дакументамі. Пры палацы меліся лінейныя пасадкі дрэў.



*Ружаны. Праект галоўнага корпуса палаца Сапегаў. Паркавы фасад. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1784 г.*[8]

Аляксандр Сапега ў 1784—1788 гг. распачаў грунтоўнае аднаўленне і перабудову старажытнага палаца-замка. Аўтарам праекта быў прыдворны архітэктар Ян Самуэль Бекер. За таленавітае выкананне творчых задумак Аляксандра Сапегі па аднаўленні палаца, парафіяльнага касцёла, кляштара базыльян, капліцы-пахавальні і палацавага парку Бекер атрымаў ад Сапегі пажыццёвы пенсіён у памеры 2160 злотых.

Пра архітэктурны стыль Ружанскага палаца да сённяшняга часу няма адзінага меркавання. Расійскія даследчыкі гісторыі архітэктурнага мастацтва характарызуюць яго як ампірны, польскія вучоныя адзначаюць у яго архітэктуры «французскі густ». Але найбольш верагодна, што праект Бекера гарманічна спалучыў адыходзячае барока і ўзнікаючы класіцызм разам з элементамі ракако ў дэкоры (картушы, люкарны, вазы, руставаныя лапаткі і г.д.).

Сутнасць перабудовы старажытнага палаца-замка заключалася ў тым, што 2 вежы былі разабраны, а 3-я ўключана ў агульны аб'ём новага галоўнага будынка, які



*Ружаны. Праект цэнтральнага фасада галоўнага корпуса палаца Сапегаў. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1784 г.*[9]

стаў сіметрычным па кампазіцыі. Ён набыў выгляд кампактнага двухпавярховага прамавугольнага ў плане будынка пад высокім мансардавым дахам. Галоўны фасад палаца меў 13 акон і прысценны порцік з дзвюх пар калон і пілястраў, завершаных высокім трохвугольным франтонам, запоўненым скульптурным барэльефам і ўвенчаным па вуглах гратэскавай скульптурай. Тыльны фасад палаца быў таксама вылучаны неглыбокім рызалітам у выглядзе дзесяцікалоннай тэрасы.

Палац меў квадратную бальную залу, вестыбюль, парадную двухбаковую лесвіцу, якія асвятляліся двума ярусамі вокнаў, археалагічны кабінет-музей і велізарную бібліятэку са сваім уласным экслібрысам мастака Францішка Бальцэвіча. У бібліятэцы меўся кнігазбор з 3 тысяч тамоў друкаваных і 232 тамоў рукапісаў.

Адначасова быў створаны палацавы комплекс з некалькіх згрупаваных вакол параднага двара карпусоў, з паркам, садамі, аранжарэяй. Сіметрычныя ўсходні і заходні карпусы, размешчаныя перпендыкулярна палацу, злучаліся з ім паўцыркульнымі ў плане аркадамі. Усходні корпус быў



*Ружаны. Праект тэатра ў палацы Сапегаў. Від на сцэну. Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1788 г.*[10]

раздзелены парадней лесвіцай на 2 роўныя часткі — тэатр і манеж.

Тэатр лічыўся ў Аляксандра Сапегі адным з самых ганаровых культурных асяродкаў палацава-паркавага ансамбля. Ён быў найбуйнейшым тэатрам на Беларусі, у архітэктуры якога спалучаліся рысы італьянскай сцэны і павеваў французскіх дойлідаў XVIII ст. У 1784 г. кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі стаў гледачом балета «Літасцівасць Ціта», пастаўленага балетмайстрам М.Пранчынскім, і музычнай камедыі Малінэ «Чарадзейнае дрэва». У тэатры меліся балетная група і аркестр.

У тэатры была глыбокая сцэна з сямю планамі куліс, што давала магчымасць тройчы змяняць яе афармленне ў час спектакля. Падковападобная ў плане двух'ярусная зала змяшчала ў 1-м ярусе 14 ізаляваных ложаў, у 2-м — 15, з каралеўскай ложай у цэнтры. Архітэктурны дэкор залы меў рысы ранняга класіцызму: ажурныя балюстра-











*Ружаны. Праект тэатральна-манежнага флігеля палаца Сапегаў. Агульны выгляд. Архітэктар Я.С.Бекер.*[11]

ды, калоны карынфскага ордэра. Тэатральная трупа Сапегаў складалася з выхаванцаў прыватнай школы прыгонных акцёраў. У рэпертуар тэатра ўваходзілі французскія і польскія сцэнічныя творы, якія ставіліся з вялікім майстэрствам, раскошнай аздобай і дэкарацыяй.

У заходнім корпусе (не захаваўся) размяшчалася карцінная галерэя. Па восі палаца была ўзведзена ўязная брама ў выглядзе трохпралётнай трыумфальнай аркі з разнымі геральдычнымі картушамі з моранага дубу, антычнымі скульптурнымі барэльефамі і рустоўкай.

У аздабленні фасадаў будынкаў палацавага ансамбля выкарыстаны руставаныя пілястры, ляпныя гірлянды, скульптуры, разнастайныя абрамленні акон. Браму фланкіравалі 2 двухпавярховыя службовыя флігелі. Пры ўваходзе ў трыумфальную арку бачылася толькі цэнтральная, найбольш пластычная, частка палаца з порцікам, а пры выхадзе з яе адкрываўся ва ўсёй сваёй прыгажосці ўвесь палацава-паркавы ансамбль.

Рэканструкцыя палаца значна змяніла архітэктуру ансамбля ў кірунку класіцызму, разам з тым не дапусціла вялікага разрыву паміж старадаўнім будынкам і новым праектам.

Унікальны парк з каналамі, сажалкамі, шматлікімі шпалерамі фарміраваўся Я.С.Бекерам з паўночнага боку палацавага ансамбля. На старадаўніх земляных валах былі ўзведзены каскадныя лесвічныя схілы. У аснову кампазіцыі ўвайшоў прынцып радыяльна-кальцавой планіроўкі алей. Перспектыва кожнай ліпавай алеі канчалася паркавым павільёнам. У алеях, якія разыходзіліся быццам промні сонца, адлюстраваны характэрны матыў мастацтва А.Ленотра[3]. Прынятая планіроўка садзейнічала агульнай кампазіцыі палацавага ансамбля з паўкруглай адкрытай аркадай, якая фарміравала прастору параднага двара і ўвязвала яго з паркам і акружаючымі перспектывамі. Акцэнтамі далёкіх перспектыў былі



*Ружаны. Праект парку Сапегаў.*
*Архітэктар Я.С.Бекер. Каля 1788 г.*[12]



*Ружаны. Троіцкі касцёл.*
*Перапланаваны Я.С.Бекерам у 1787 г.*
*Перабудаваны ў 1850 г. і 1891 г.*
*З акварэлі Напалеона Орды. 1863 г.*[13]







ружанскія святыні. Парк абмяжоўваў паралельны палацу стаў на р. Зальвянцы. Да пейзажнай зоны далучаўся звярынец у выглядзе прабітага прасекамі ляснога масіву.

Яшчэ не закончыўшы поўную перабудову палацава-паркавага ансамбля, Аляксандр Сапега ў 1786 г. пад уплывам сацыяльна-эканамічных фактараў і палітычных працэсаў вымушаны быў пачаць прыстасаванне ансамбля пад суконную фабрыку. Пазней палац быў аддадзены ў арэнду яўрэйскаму прадпрымальніку Пінасу. Але разгорнутая там ткацкая вытворчасць праз 30 гадоў заняпала і ператварылася ў сціплую прадзільню вoўны[4].

Палацава-паркавы ансамбль у 1914 г. згарэў, часткова рэстаўрыраваны ў 1930 г., а ў 1944 г. разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

На сённяшні дзень захаваліся рэшткі асноўных будынкаў (галоўнага і ўсходняга карпусоў), аркады, уязная брама і флігелі. У 1980—1990-я гады былі разгорнуты работы па частковым аднаўленні і кансервацыі ансамбля, але ў пачатку 1990-х гадоў яны былі спынены з нагоды ўзнікшых праблем фінансавага характару.

Руіны палацавага ансамбля ўзяты на ўлік і пад ахову дзяржавы і ўключаны ў турыстычны маршрут вобласці.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 336.*
[2] *Пружанскі раён. Памяць... С. 32.*
[3] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 40.*
[4] *Габрусь Т. і інш. Страчаная спадчына... С. 216*
[5,13] *Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея(III-R.A. 4410, III-R.A.4411).*
[6—12] *Katalog rysunków z Gabinetu rycin Biblioteki Uniwersyteckiej. Warszawa, 1969. S. 353—358.*

# Стараволя
# Starowola
# Староволя

Мемарыяльная сядзіба роду Жукоўскіх. Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах 1537 г., калі каралева Бона падаравала Старую Волю Свята-Троіцкаму касцёлу ў Шарашове[1]. У сядзібе выхоўваўся ў юнацкія гады знакаміты мастак Станіслаў Жукоўскі.

Складаны і багаты жыццёвы шлях Станіслава Жукоўскага. За свае 69 гадоў жыцця ён стварыў 670 шэдэўраў мастацтва. Яго пейзажныя творы захоўваюцца ў цэнтральных музеях і прыватных калекцыях Беларусі і Расіі, Польшчы і Украіны, шэрагу іншых краін свету.

Цікавасць да гэтай асобы павялічваецца, калі згадаць, што ён працаваў і сябраваў з Ільёй Рэпіным, Васілём Сурыкавым, Леанідам Пастарнакам, Канстанцінам Каровіным, Віктарам Васняцовым, Аляксандрам Бенуа, Георгіем Савіцкім, Мікалаем Рэрыхам, Васілём Матэ, спеваком Фёдарам Шаляпіным і з многімі іншымі.

Нарадзіўся мастак, згодна з метрычнай выпіскай з кнігі рымска-каталіцкага касцёла ў м. Рось, 13 мая 1875 г. у сям'і «дваран Юльяна і Марыі, народжанай Вяржбіцкай, Жукоўскіх... у Ендрыхаўцах...»[2].

Сам Жукоўскі ў 1903 г. у пісьме да мастацтвазнаўца М.Урангеля пісаў некалькі інакш: «Нарадзіўся ў 1873 годзе 13 мая ў Ваўкавыскім павеце Гродзенскай губерні ў польскай памешчыцкай сям'і, якая пражывала бязвыезднa ў сваім маёнтку Старая Воля, дзе правёў я ўсё сваё дзяцінства»[3].

Лёс будучага пейзажыста ў многім быў прадвызначаны падзеямі палітычнага характару, якія адбываліся ў Беларусі і Польшчы напярэдадні яго нараджэння.

Бацька мастака Юльян і яго 2 браты прынялі актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 г., пасля задушэння якога сям'я Жукоўскіх раздзяліла лёс многіх сваіх суайчыннікаў. Пазбаўлены дваранскіх правоў, бацька вымушаны быў пераехаць на новае месца жыхарства, на глухі хутар Ендрыхаўцы, побач з м. Рось. Тут і нарадзіўся Станіслаў. Неўзабаве яго бацька ўзяў у арэнду маёнтак Старая Воля пад Пружанамі, і дзяцінства мастака прайшло ў гэтым маляўнічым лясным куточку Беларусі.



*Стараволя. Сядзіба роду Жукоўскіх. 2-я палова XIX ст.*[6]

Самымі першымі юнацкімі творамі былі малюнкі яго радавога гнязда — палацава-паркавага ансамбля ў маёнтку Старая Воля. Адзін эцюд, датаваны 1890 г., другі — 1891 г., трэці малюнак «Май» — 1895 г. На ўсіх малюнках адлюстраваны палац з порцікам і двухступеньчатым франтонам, размешчаны ў глыбіні сядзібы за агароджай. На малюнку «Май», які сёння захоўваецца ў Маскве, аднапавярховы драўляны палац вылучаны парталам з дзвюма парамі высокіх мураваных калон у атачэнні квітнеючага бэзу.

Перад домам размешчана клумба, а па яго баках растуць купамі дрэвы, якія рэзка выдзяляюцца на фоне неба, укрытага лёгкімі воблакамі.

Карціна «Май», адзіная рэпрадукцыя якой змешчана ў манаграфіі расійскага даследчыка М.І.Гарэлава, мае значны інтарэс, таму што дае ўяўленне пра ўзровень палацава-паркавай архітэктуры таго часу на Пружаншчыне.

Пасля заканчэння Беластоцкага рэальнага вучылішча 17-гадовы Жукоўскі паступае ў Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства.

Настаўнікамі яго ў вучылішчы былі ўжо даволі вядомыя мастакі: Каровін, Савіцкі, Касаткін, Пастарнак, Архіпаў, Левітан, Паленаў. Яны ўгледзелі ў юнаку таленавітасць і розным чынам падтрымлівалі яго, садзейнічалі ўдзелу ў творчых вучнёўскіх выстаўках.

Якраз у гэты час, у 1895 г., на 18-й вучнёўскай выстаўцы, дзе размяшчалася 13 работ Жукоўскага, увагу журы прыцягнула яго работа «Памешчыцкі дом», на якім быў намаляваны будынак у маёнтку Старая Воля[4].

Гэта карціна сёння захоўваецца ў Маскве ў зборы М.М.Успенскага.

Пачынаючы з 1895 г. імя Жукоўскага становіцца вядомым у Маскоўскім таварыстве аматараў мастацтва.









Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расіі Жукоўскі ўспрыняў стрымана. Ён заняў пазіцыю беражлівай аховы культурнай, мастацкай, гістарычнай і архітэктурнай спадчыны Расіі. Як і ў дарэвалюцыйны час, так і пасля, усім сваім мастацтвам Жукоўскі ўсхваляў прыгажосць архітэктуры сядзіб, фальваркаў, маёнткаў, помнікаў мінуўшчыны, праяўляў клопат і садзейнічаў іх захаванню. У прыватнасці, у канцы 1917 г. ён быў абраны членам калегіі мастакоў пры Траццякоўскай галерэі[5].

Як упаўнаважаны па справах аховы помнікаў мастацтва пры Савецкім урадзе, Жукоўскі разам з іншымі асобамі ўратаваў шэраг сядзіб ад знішчэння, выступіў ініцыятарам стварэння ў графскіх маёнтках музеяў, прадчуваючы небяспеку для іх існавання.

Нягледзячы на цяжкасці, разруху, голад, выкліканыя грамадзянскай вайной, Жукоўскі тварыў новыя і новыя палотны, але настаў момант, калі дэмакратычна настроеная інтэлігенцыя стала непатрэбнай савецкім уладам, і для Жукоўскага звужаецца сфера дзейнасці. Выхаваны ў лепшых традыцыях еўрапейскай культуры, шляхецкага менталітэту і дэмакратыі, Жукоўскі не змог прыстасавацца да новых умоў савецкай сістэмы. Яшчэ раней у ім пачалі праяўляцца пачуцці настальгіі па Бацькаўшчыне, якія паступова нарасталі і, нарэшце, у верасні Жукоўскі з сям'ёй вярнуўся ў Польшчу.

У Варшаве Жукоўскі з юнацкім запалам аддаўся мастацтву. Ён зноў піша сядзібы, маёнткі, пейзажы, што дало магчымасць арганізоўваць персанальныя выстаўкі. Гэта быў сапраўдны трыумф мастака і свята мастацтва. На кожнай выстаўцы ў Варшаве, Кракаве, Осла, Парыжы, Капенгагене і інш. гарадах свету большасць яго твораў адлюстроўвала прыроду Белавежскай пушчы, Палесся, якая была добра знаёмая мастаку з дзяцінства і захапленне ёй не пакідала яго да канца жыцця.

Адначасова Жукоўскі не парывае сувязі з расійскімі сябрамі і калегамі, а таксама са сваёй першай жонкай.

2-я сусветная вайна для Станіслава Юльянавіча Жукоўскага стала асабістай трагедыяй. У час фашысцкай акупацыі ён трапіў у канцлагер пад Варшавай, дзе загінуў у 1944 г. і быў пахаваны ў агульнай магіле.

С.Ю.Жукоўскі пакінуў багацейшую мастацкую спадчыну. Яго палотны нясуць радасць людзям, выклікаюць пачуццё гонару за мінуўшчыну.

Нарадзіўшыся на Беларусі, ён правёў тут дзяцінства, другую частку жыцця пражыў у Расіі, трэцюю ў Польшчы, але 3 радзімы ён любіў аднолькава шчыра, пра што сведчаць яго мастацкія творы.

На Беларусі, у т.л. на Берасцейшчыне, імя Жукоўскага практычна не ўшанавана, за выключэннем некалькіх радкоў у БелСЭ. Таму ўстанаўленне яму мемарыяльнай дошкі ў в. Стараволя будзе данінай павагі слаўнаму сыну беларускай зямлі.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 104.*
[2] *Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва Расіі. Ф. 680. Воп. 2. Спр. 1164. Арк. 3.*
[3] *Горелов М.И. Станислав Юльянович Жуковский. Жизнь и творчество. Москва, 1982. С. 9.*
[4] *Тамсама. С. 25.*
[5] *Из истории строительства советской культуры 1917—1918 гг. Документы и воспоминания. М., 1964. С. 98.*
[6] *Горелов М.И. Станислав Юльянович Жуковский... С. 15.*

# Стары Куплін
# Stary Kuplin
# Старый Куплин

Маёнтак Куплін упершыню ўзгадваецца ў пісьмовых крыніцах 1-й паловы XVI ст., калі ім валодаў кобрынскі баярын Галянішчаў[1].

Паводле запісу ў геаграфічных крыніцах, наступнымі даўнімі ўладарамі Купліна з'яўляліся гаспадары з роду Бухавецкіх, герб «Дарагаслаў»[2]. Нашчадкі гэтага роду яшчэ ў пачатку XVII ст. перасяліліся і аселі на Беларусі, а ўжо ў XVIII ст. мелі важныя пасады і набылі заможнасць.

Ад Бухавецкіх маёнтак перайшоў да Марачэўскіх, а ад іх да Крашэўскіх, герб «Ястрабец». Верагодна, першым гаспадаром Старога Купліна з лініі Крашэўскіх стаў Ян Крашэўскі (1789—1864), сын Каятана і Ганны Крашэўскіх, гаспадар маёнтка Доўгае.

Ян Крашэўскі, які меў пасады пружанскага харунжага і земскага суддзі, быў жанаты з Соф'яй Наленч-Мальскай, якая ў якасці пасагу прынесла да Крашэўскіх яшчэ маёнтак Раманаў. Ян і Соф'я выхавалі дзвюх дачок: Ганну і Ядвігу і трох сыноў: Юзафа Ігнацы (1812—1887), знакамітага пісьменніка, Люцыяна (1820—1892), пісьменніка і мастака, і Каятана (1827—1896), літаратара, музыканта і таленавітага астранома-аматара.

Па спадчыне маёнткі Стары Куплін, Доўгае і Раманаў, што на Падляшшы, перайшлі да самага малодшага сына Каятана, жанатага з Марыяй Рулікоўскай, які меў пасаду акруговага суддзі.

Пасля Каятана спадкаемцам Старога Купліна і Доўгага стаў адзін з яго сыноў Багуслаў (1857—1916), жанаты з Соф'яй Крашэўскай, якая паходзіла з іншай лініі Крашэўскіх, была дачкой Яна і Юзэфы з Бісякерскіх. У Старым Купліне нарадзіліся 2 сыны Багуслава і Соф'і Януш Каятан (1894 года нараджэння) і Мечыслаў Антоні (1909 года нараджэння). Яны з'яўляліся апошнімі гаспадарамі Старога Купліна з лініі Крашэўскіх. У міжваенны перыяд маёнтак быў падзелены, і яго частку з вёскай Новы Куплін набыў род Карсакаў[3].

У 1-й палове XIX ст. у маёнтку Стары Куплін Крашэўскімі быў пабудаваны драўляны сядзібны дом і закладзены пейзажны парк. Дом аднапавярховы, у плане меў форму выцягнутага прамавугольніка, гладка атынкаваныя сцены. Цэнтральны фасад гэтага даволі сціплага будынка вылучаны невялікім ганкам, суцэльна ўвітым



*Стары Куплін. Колішняя сядзіба роду Крашэўскіх. 1914 г.*[5]






Стары Куплін. Руіны прыцаркоўнай званіцы[6].



Стары Куплін. Мураваны склад[8].

дзікім вінаградам. На пярэднім плане перад ганкам распасцёрся вялікі курданёр, які ўяўляў сабой дэкаратыўную кампазіцыю, аздобленую вялікім газонам з кветнікам[4]. У паўночнай частцы сядзібы размяшчалася капліца-пахавальня.




Стары Куплін. Схема парку.

Пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. капліца-пахавальня была закрыта і перароблена пад праваслаўную царкву. Перад уваходам у царкву існавала невялічкая мураваная званіца нетрадыцыйнай архітэктуры, якая пазней была значна зменена.



Стары Куплін. Руіны царквы[7].

У савецкі час гэта царква была закрыта, абрабавана, цяпер засталіся толькі руіны.

Пасля 2-й сусветнай вайны ў панскай сядзібе была размешчана свінаферма калгаса. У выніку гэтага амаль усе будынкі сядзібна-паркавага ансамбля разбураны, застаўся ў добрым стане двухпавярховы мураваны склад.

Кампазіцыя пейзажнага парку, закладзенага гаспадарамі маёнтка ў 2-й палове XIX ст., у цяперашні час моцна парушана. Парк занядбаны, сажалка зарасла, абмялела, каналы перасохлі. Асноўны дрэвастой: каштан, ліпа, ясень, граб, вярба ломкая, акацыя і інш. мясцовыя пароды. Шэраг дрэў маюць стары ўзрост.

Рэшткі гістарычнага парку, плошчай каля 7 га, склада і руіны царквы патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Zdański K. Przyczynki... S. 82.*
[2] *Słownik geograficzny. Warczawa, 1883. T. 4. S. 888.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2251. Арк. 1—8.*
[4, 5] *Grzegorczuk D. Dworki i palace... S. 103.*
[6, 7, 8] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Янаўшчына
# Janowszczyzna
# Яновщина

Мемарыяльная сядзіба, радавое гняздо Сядлецкіх і Кулакоўскіх. Сядзіба размяшчаецца побач з в. Янаўшчына, што за 2 км ад в. Гліневічы. У склад сядзібна-паркавага ансамбля ўваходзілі панскі дом, флігелі, склеп, гаспадарчыя пабудовы, парк.

Захаваўся сядзібны дом, пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст. Будынак аднапавярховы, невялікі, у плане прамавугольны, з нізкім двухсхільным дахам, значна перабудаваны. Зараз у ім знаходзіцца адзін з пакояў бальніцы для старых людзей. Існуюць яшчэ будынкі флігеля, склада, склепа.

Парк перацярпеў вялікія змены, моцна пашкоджаны ў выніку будаўніцтва новых памяшканняў МТС, потым бальніцы.

Асноўны дрэвастой парку: дуб, клён, каштан, ліпа. Парк разрэджаны, сажалка засыпана.










*Янаўшчына. Будынак колішняй сядзібы*[3].

Рэшткі будынка сядзібы і парку патрабуюць узяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы. Сядзіба з'яўляецца мемарыяльнай. Паводле сцвярджэння мясцовага краязнаўцы Ю.Зялевіча, у канцы XVIII ст. маёнтак належаў незаможнаму шляхціцу Рыгору Кулакоўскаму[1].



*Янаўшчына. Цэнтральная алея*[4].

Менавіта ў гэтай сям'і нарадзіўся вядомы навуковец, асветнік, педагог, патрыёт сваёй Бацькаўшчыны і дзеяч нацыянальнага адраджэння Ігнат Кулакоўскі (1800—1870)[2]. Пасля заканчэння Варшаўскага універсітэта ён займаў розныя пасады ў Гродзенскай адміністрацыі. Прыцягнуў да сябе ўвагу запіскай да ўрада пра выкладанне гісторыі Беларусі, стварэнне спецыяльнага падручніка «Гісторыя краю» для беларускага юнацтва. Расійскае Міністэрства адукацыі не падтрымала памкненняў І.Кулакоўскага і адправіла яго ў глухую вёску на Беласточчыне настаўнікам. У апошнія гады жыцця Ігнат Кулакоўскі раздаваў свае землі сялянам, займаўся сярод іх асветай і нястомна працаваў над падручнікамі. Пакінуў пасля сябе вялікія калекцыі кніг, антыкварныя рэчы, значную колькасць навуковых прац па гісторыі краю, метадычныя дапаможнікі і распрацоўкі.



*Янаўшчына. Дуб-велікан*[5].

Унучка Ігната Кулакоўскага Эмілія Людвікаўна Садоўская (Лявіцкая) у 1904 г. стварыла тайную школу для сялянскіх дзяцей, а праўнучка Людвіка Антонаўна Войцік — Зоська Верас — стала вядомай паэтэсай.

Пахаваны Ігнат Рыгоравіч Кулакоўскі на Беласточчыне (в. Крыштапарава).

[1] *Зялевіч Ю. Асветнік свайго народа // Раённыя будні. 2001. 13 студз.*
[2] *Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мн., 1995. С. 470.*
[3, 4, 5] *Фота аўтара. 2000 г.*



## Карта-схема размяшчэння палацаў, паркаў і сядзіб на тэрыторыі Столінскага раёна







*Існуючыя палацы, паркі, сядзібы*

*Неіснуючыя палацы, паркі, сядзібы*




# Дубянец
# Dubieniec
# Дубенец

Старадаўняя сядзіба роду Шчытоў-Неміровічаў, герб «Ястрабец». Размяшчалася побач з в. Дубянец. Належала да тыповых шляхецкіх сядзіб, якіх было шмат на Палессі. У XVIII ст. маёнтак Дубянец перайшоў ад Шчытоў-Неміровічаў да Алешаў. Вядомым гаспадаром Дубянца быў Міхаіл Станіслававіч Алеша, жанаты з Соф'яй Дубянецкай, якая, верагодна, прынесла ў спадчыну мужа маёнтак у якасці пасагу. У сярэдзіне XIX ст. і да 1939 г. маёнтак належаў роду Кіневічаў[1].



Дубянец. Галоўны фасад палаца. 1937 г.[3]

Да 1960-х гадоў у Дубянцы існаваў аднапавярховы мураваны палац, пабудаваны на мяжы XVIII—XIX ст. Будынак у плане меў форму прамавугольніка, высокі падмурак, практычна аднолькавыя фасады. З аднаго і другога бакоў фасада выступалі шырокія ганкі на дзвюх парах масіўных мураваных калон, на якія абапіраліся нізкія трохвугольныя шчыты. Галоўны порцік з боку цэнтральнага ўвахода быў трохі шырэйшы і вышэйшы. Палац накрываў гладкі чатырохсхільны дах.

Палац быў моцна абрабаваны ў часы 1-й сусветнай вайны. Найбольш каштоўныя вырабы (мэбля, посуд) і творы мастацтва былі вывезены немцамі. У міжваенны перыяд у Дубянецкім маёнтку існаваў невялікі парк з акруглым газонам, абкружаным кустамі[2]. Да сённяшняга часу захаваліся рэшткі ўязной каштанавай алеі і адзіны экземпляр дуба-волата. Пасля 2-й сусветнай вайны ў



Дубянец. Дуб-волат на тэрыторыі колішняй сядзібы[4].




Дубянец. Схема сядзібы.

палацава-паркавым ансамблі размяшчалася жывёлагадоўчая ферма. Палац быў знішчаны, засталіся яго падмуркі.

Старадаўні дуб, які мае ўзрост каля 400 гадоў, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы як унікальны помнік прыроды.

---

[1] *Słownik geograficzny... 1881. T. 2. S. 189.*
[2,3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 15.*
[4] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Калоднае
# Kołodne
# Колодное

Мемарыяльная сядзіба. Належала старадаўняму роду Скірмунтаў. З пісьмовых крыніц вядома, што яшчэ ў 1460 г. літоўскі шляхціц Скірмунт атрымаў пры каралю Казіміру Ягелончыку маёнтак Плотніцу на Палессі. Яго нашчадак Міхаіл Скірмунт у 1750 г. прадаў Плотніцу роду Яцынічаў, але ў 1758 г. адкупіў яе назад. На той час у валоданні плотніцкай лініі Скірмунтаў быў шэраг маёнткаў, фальваркаў, двароў, у т.л. і в. Калоднае. Спадкаемцам Калодзенскага маёнтка на мяжы XVIII—XIX ст. з'яўляўся Аляксандр Скірмунт, жанаты з Гартэнзіяй Орда, сястрой вядомага мастака Напалеона Орды.



Калоднае. Рэшткі ўязной алеі[5].





20 Зак. 1023





У Калодным у сям'і Аляксандра і Гартэнзіі нарадзілася дачка Гелена (1827—1874), вядомая мастачка, разьбярка. Шэраг яе твораў (радавых партрэтаў, медальёнаў, сакральных рэчаў) захоўваецца ў Віленскім, Варшаўскім, Кракаўскім і іншых музеях. Менавіта Гелена прыкладна ў 1861 г. напісала партрэт знакамітага пісьменніка Юзафа Ігнацыя Крашэўскага. Яна з'яўлялася аўтарам скульптур Міндоўга і Гедзіміна. За падтрымку паўстання 1863 г. і тайную перапіску з адным з кіраўнікоў паўстання Рамуальдам Траўгутам Гелена была саслана ў Тамбоў, а яе муж Казімір у Кастраму.

Яшчэ да паўстання ў сям'і Гелены і Казіміра, якія жылі ў Калодным, нарадзілася трое дзяцей: сын Станіслаў і 2 дачкі Ірэна і Канстанцыя. У Сібіры ў іх нарадзілася трэцяя дачка Казіміра. Значную папулярнасць мела Канстанцыя Скірмунт (1851—1934), выдатны даследчык гісторыі Літвы і Беларусі, публіцыстка і грамадскі дзеяч[1].

Яе дзед (бацька Гелены) Аляксандр Скірмунт перад смерцю ахвяраваў грошы на будаўніцтва царквы ў суседняй в. Радчыцк, дзе і быў пахаваны.



*Пінск. Надмагільны помнік Гелене Скірмунт[6].*

Пад в. Калоднае разгарнуліся падзеі, звязаныя з нацыянальна-вызваленчым паўстаннем 1863 г. У наваколлі вёскі ваявалі з царскімі войскамі атрады пад камандаваннем Рамуальда Траўгута і Яна Ваньковіча, сына вядомага мастака Валенція Ваньковіча. Атрад паўстанцаў Рамуальда Траўгута вёў баі з карнымі войскамі не толькі пад Калодным, але і пад Церабяжовам, Радчыцкам і Варанямі. 23 чэрвеня 1863 г. у баях было забіта і паранена 50 расійскіх салдат[2], вялікія ахвяры панеслі і паўстанцы.

На месцы баёў паўстанцаў з расійскімі войскамі ў Калодным нядаўна ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

За падтрымку паўстанцаў маёнтак Калоднае, яго землі, пабудовы і нажытае дабро былі канфіскаваны і перададзены ў Пазямельны банк Мінска. Восенню 1888 г. маёнтак Скірмунтаў-Глябовічаў быў выкуплены сялянамі Навагрудскага павета.

Пры Скірмунтах у Калодным быў пабудаваны драўляны палац. Гэта была тыповая панская сядзіба, якіх на Палессі існавала вялікая колькасць. Будынак у плане прамавугольны, на высокім падмурку, з традыцыйным порцікам у цэнтры галоўнага фасада. Насупраць сядзібы размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы[3]. Побач быў узведзены ветраны млын. Каля радовішча гліны знаходзіўся цагельны завод[4]. У штучнай сажалцы вадзілася рыба. Вакол палаца быў закладзены пейзажны парк, асноўны дрэвастой якога складалі мясцовыя пароды: дуб, граб, бяроза, клён, ліпа і інш.

У пасляваенны час у сядзібна-паркавым ансамблі размясціўся мясцовы калгас. Паступова панскія будынкі разбураліся і знішчаліся.

На сённяшні дзень ад ансамбля засталіся толькі рэшткі парку, падмуркі палаца і склеп.

Месцазнаходжанне падмуркаў Калодзенскага двара, дзе нарадзіліся вядомая мастачка Гелена Скірмунт і яе дачка, таленавіты гісторык Казіміра Скірмунт, мае мемарыяльнае значэнне і павінна быць узята на ўлік і пад ахову дзяржавы. Гелена Скірмунт пахавана на каталіцкіх могілках у Пінску.

---

[1] *Słownik biograficzny. Warszawa; Kraków, 1998. T. 2. S. 187—190.*
[2] *Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński... S. 11.*
[3] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2430. Арк. 1—4.*
[4] *Карсека М.М. Калоднае. Пінск, 1998. С. 4.*
[5] *Фота аўтара. 2000 г.*
[6] *Zabytkowe Cmentarze. Warszawa, 2000. Mal. 137.*

# Манькавічы
# Mańkiewicze
# Маньковичи

Палацава-паркавы ансамбль, колішняя рэзідэнцыя князёў Радзівілаў. Паводле апісання Р.Афтаназы[1], в. Манькавічы ўваходзіла ў склад Давыд-Гарадоцкай ардынацыі. Сам Давыд-Гарадоцкі двор закладзены ў XIV ст. князем Данілам Данілавічам. Пасля змены шэрагу гаспадароў у 2-й палове XVI ст. Давыд-Гарадок з вялікай колькасцю маёнткаў перайшоў у рукі князёў Радзівілаў, якія гаспадарылі тут да 1939 г. З 1586 г. Давыд-Гарадоцкая ардынацыя Радзівілаў існавала самастойна амаль 300 гадоў. З 1875 г. яна была аб'яднана з Нясвіжскай і Клецкай ардынацыямі і, такім чынам, усе абшары трох ардынацый апынуліся ў адных руках князя Антонія Радзівіла (1833—1904). Пасля яго смерці велізарныя абшары ардынацыі былі падзелены паміж яго двума сынамі. Старэйшы сын князь Ежы Радзівіл (1860—1914) атрымаў Нясвіжскую і Клецкую ардынацыі, а малодшы сын князя Станіслаў (1880—1920) Давыд-Гарадоцкую. Ён з'яўляўся 12-м ардынатам у Давыд-Гарадку з часу яе стварэння.

Пасля гібелі князя Станіслава Давыд-Гарадоцкая ардынацыя ў 1920 г. перайшла да яго пляменніка князя Караля Радзівіла (1886—1968), жанатага з Ізабелай Радзівіл (1882—1968). На той час Давыд-Гарадоцкая ардынацыя мела каля 250 тыс. га зямлі, лясоў, балот, рэк, пушчаў і азёр.

На мяжы XIX і XX ст. у в. Манькавічы знаходзіўся адзін са шматлікіх фальваркаў Давыд-Гарадоцкай





*Манькавічы. Дваровы фасад палаца Радзівілаў да 1941 г.* [3]

ардынацыі. Выгаднае яго месцазнаходжанне (высокі бераг ракі, урадлівая зямля) спрыялі ажыццяўленню тут будаўніцтва вялікай і арыгінальнай рэзідэнцыі. Да гэтага часу рэзідэнцыі не было нават у Давыд-Гарадку, дзе засталіся толькі адны валы сярэдневяковага замка з царквой. Пастаяннай і галоўнай рэзідэнцыяй Радзівілаў, безумоўна, быў Нясвіж. Спачатку, у 1855 г., у Манькавічах быў закладзены пейзажны парк плошчай каля 50 га, затым некалькі пазней пабудаваны мураваны палац. Для яго ўзвядзення Радзівілы запрасілі з Берліна вядомага архітэктара Венцаля.

Манькавіцкі палац быў узведзены Станіславам Радзівілам у стылі несапраўднай готыкі. Яго прамавугольны ў плане будынак быў накрыты высокім гонтавым дахам. Галоўны ўваход быў вылучаны ганкам з калонамі. Да гэтага ў Манькавічах ужо існавала старая сядзіба, якая ўключала жылыя дамы, гаспадарчыя пабудовы, сад, драўляны флігель пад гонтавым дахам, млын, кухню. Старая сядзіба была прыстасавана пад новы ансамбль, а некаторыя будынкі былі поўнасцю перабудаваны.

Пры ўездзе ў новую сядзібу была ўзведзена манументальная брама — аднапавярховы з мансардамі і цокалем прамавугольны ў плане будынак, накрыты складаным дахам. Дамінантай кампазіцыі была гранёная вежа, завершаная купалам з барабанам і шатром над ім, размешчаная паміж аркадай і афіцынай. Фасад галоўнага корпуса быў вылучаны шырокім рызалітам з балконам на 2-м паверсе, тыльны фасад меў шырокую тэрасу. На вежы размяшчаўся гадзіннік і герб Радзівілаў, што ў пэўнай меры нагадвала архітэктуру Нясвіжскага палаца. Унутраная аздоба таксама была выканана ў традыцыях Радзівілаўскіх рэзідэнцый.



*Манькавічы. Галоўны ўваход у палац. 1939 г.* [4]

Асаблівую цікавасць уяўляла сабой рэпрэзентатыўная зала, аздобленая нясвіжскімі майстрамі, якая мела мармуровы белы камін. На ім стаялі 2 старыя бронзавыя падсвечнікі, аздобленыя арламі, а паміж імі пазалочанымі пеўнямі работы майстроў XVII ст. На сценах вісела калекцыя шабляў, рагоў ласёў, якімі славілася на той час Давыд-Гарадоцкая пушча. Салон меў новую мэблю і невялікую колькасць партрэтаў продкаў Радзівілаў. Аздобы і рэчы ў Манькавіцкі палац былі прывезены з Нясвіжскага палаца. Мелася вялікая бібліятэка, кнігазбор якой складалі творы 1-й паловы XIX ст. Да 1914 г. у палацы мелася унікальная калекцыя гравюр на ваенную тэматыку.

У 1922 г. палац быў амаль закончаны. Яго новы гаспадар Кароль Радзівіл запрасіў закончыць будоўлю і




*Манькавічы. Схема парку* [5]

ўнутраную аздобу палаца архітэктара з Варшавы Юльяна Нагурскага. З'явіліся новыя рэчы, у т.л. гарнітуры мэблі ў стылі Людовіка XVI, якімі былі абсталёны 2 салоны. Тут віселі партрэты Радзівілаў XVIII ст., шэраг габеленаў і інш.

Парк Манькавічы мае асобую стылявую агульнасць з Нясвіжскім. Грунтоўнае абследаванне і апісанне парку зрабіў А.Т.Федарук[2]. З архітэктурных аб'ектаў паркавага тыпу захаваўся закладны камень з указаннем даты закладкі парку — 1885 г. Новыя павевы, характэрныя для натуралізму, адлюстраваны ў пабудове перспектыў, у размяшчэнні дарожнай сеткі і выкарыстанні алейных пасадак, якія пераразаюць паляны, а таксама масавым выкарыстаннем экзотаў. Асноўная дарожная сетка складаецца з маршрутаў, пракладзеных ад увахода ўздоўж паўночна-заходняй і паўночна-ўсходняй ускраін парку, і адыходзячай ад яе алеі ў бок палаца. Гэта праяўляецца ў асобных архітэктурных элементах ансамбля (арка бакавога аб'ёму, форма агляднай вежы і г.д.). Фарміраванне паркавых кампазіцый адбывалася на адкрытай, свабод-






*Манькавічы. Фрагмент парку.*
*На пярэднім плане закладны камень[6].*

най ад дрэў тэрыторыі. Парк займаў высокую маляўнічую тэрасу на беразе р. Гарыні, што забяспечвала высокае ўспрыманне далёкіх перспектываў. У сучасны перыяд плошча парку складае 24 га. Найбольш шматбакова была аформлена тая частка парку, якая абкружала палац. Асноўным яе акцэнтам была сажалка з фантанам і плаваючымі лебедзямі. Сярод дрэў перавага аддавалася блакітнай елцы. У выглядзе салітэраў раслі елка Энгельмана, лістоўніца Кемпфера, ліпа венгерская і інш. Парк меў багацейшы склад экзатычных раслін. Акрамя елкі калючай, вялікае месца займаюць сосны веймутава і чорная. Адзінкава растуць піхты белая і каўказская, многа ўвагі ўдзялялася штучнаму фарміраванню крон, што можна прасачыць у некаторых дрэвах да сённяшняга часу.

Прагулачны маршрут афармлены ў выглядзе нешырокай сцежкі. Ён пракладзены сярод насаджэнняў парку з улікам раскрыцця некалькіх перспектываў на асноўную дамінанту парку — колішні палац. На асобных участках экзатычныя абсадкі з таполі Сімана, сосен чорнай і веймутава стварылі цесныя калідоры.

Парк моцна пацярпеў у гады 2-й сусветнай вайны: згарэў палац, знішчаны бібліятэка і арыгінальная калекцыя паляўнічых трафеяў, вывезена ўязная брама. У пошуках Радзівілаўскіх скарбаў парк быў паўсюдна перакапаны, перавернуты закладны камень, нанесена шмат іншай шкоды. Пасля вайны былі выкананы вялікія работы па ўратаванні і лячэнні пашкоджаных дрэў, добраўпарадкаванні тэрыторыі, пабудавана дэкаратыўная агароджа. Тут размяшчаюцца раённы краязнаўчы музей і музычная школа.

Манькавіцкі парк як адзін з каштоўнейшых помнікаў палацава-паркавага мастацтва і прыроды ўзяты на ўлік і пад ахову дзяржавы.

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 143.*
[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 210—212.*
[3] *Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў (0-22881).*
[4] *Archiw dokumentacji mechanicznej. Warszawa (IKCU— 855).*
[5] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 210.*
[6] *Фота аўтара. 1999 г.*

# Ніжні Церабяжоў
# Niżni Terebieżów
# Нижний Теребежов

У пісьмовых крыніцах маёнтак Церабяжоў упершыню ўпамінаецца з 1558 г. як уласнасць князя Багдана Саламярэцкага[1]. Да XIX ст. змянілася шмат гаспадароў Церабяжова. У 1856 г. яго набыў Цэзарый Алеша (1820—1892), жанаты з Аляксандрай Орда, які гаспадарыў на той час у Бярэжным, меў шэраг палацаў у Вільні, Рызе і Пінску. Пры падзеле вялікай спадчыны Цэзарыя Алешы, маёнтак Церабяжоў дастаўся аднаму з 6 сыноў, таксама Цэзарыю Алешы, жанатаму з Марыяй Жук-Скаршэўскай з Любамірскіх з-пад Драгічына. Пасля смерці мужа Марыя, якая не любіла Палесся, прадала Церабяжоўскі і Папінскі (пад Драгічынам) маёнткі і выехала ў Варшаву. Церабяжоў набыў Юрый Узнанскі, які жыў каля Закапані і наведваў маёнтак вельмі рэдка. Ён быў апошнім гаспадаром Церабяжова[2].


*Ніжні Церабяжоў. Галоўны фасад палаца. 1937 г.[4]*

Яшчэ пры Цэзарыю Алешы-старэйшым у Церабяжове існаваў класічны стары двор, які меў прыгожы невялікі палац, некалькі гаспадарчых пабудоў, колішні парк, сямейную капліцу і стылёвую мураваную альтанку.

Цэзарый Алеша-малодшы, які жадаў стварыць сваёй жонцы лепшыя ўмовы жыцця і ў знак шчырага кахання да яе, распачаў узвядзенне раскошнай рэзідэнцыі. Палац быў закончаны ў 1908 г. Галоўным архітэктарам праекта з'явіўся Юльян Лісецкі. Яму дапамагалі 2 інжынеры-будаўнікі


*Ніжні Церабяжоў. Паркавы фасад палаца. 1937 г.[5]*











*Ніжні Церабяжоў. Мураваная альтанка ў парку. 1937 г.* [6]

Казімір Слівінскі і Уладзіслаў Капаён.

Палац уяўляў сабой двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак, на высокім падмурку, з мноствам вежаў, вежак і зубчастых сцен.

Цэнтральны фасад быў вылучаны неглыбокім псеўдарызалітам з порцікам на дзвюх калонах з карынскімі капітэлямі, на якія абапіраўся шырокі балкон. На правым баку палаца стаяла чатырохпавярховая квадратная ў плане вежа, накрытая высокім дахам. На левым баку месцілася меншая круглая вежа. Тыльны фасад палаца меў выгляд, ідэнтычны цэнтральнаму, толькі нізкая вежа мела стогападобны дах і цыліндрычную форму. З тэрасы і балкона



*Ніжні Церабяжоў. Сакральная капліца. 1937 г.* [7]

ўніз вяла шырокая лесвіца. Бакавыя фасады палаца былі акцэнтаваны таксама тэрасай і невялікім ганкам.

Унутры палац меў залу ў двух узроўнях, аздобленую калонамі і вітражамі. Для аздобы Церабяжоўскага палаца Цэзарый Алеша закупіў у Санкт-Пецярбургу 5 вагонаў стылёвай мэблі, заказаў мноства партрэтаў, карцін, іншых мастацкіх вырабаў[3].

Насупраць порціка цэнтральнага фасада стаяла ўязная брама з павільёнам для аховы, выкананая ў неагатычным стылі. Алея ад брамы да порціка была абсаджана ліпамі, абкружала з двух бакоў акруглы газон.



*Ніжні Церабяжоў. Руіны капліцы*[8].

Палац ахінаў даволі вялікі пейзажны парк, які захаваўся да сённяшняга часу. З паўночнага боку парку існуе маляўнічае возера, паблізу якога стаяла сакральная святыня —



*Ніжні Церабяжоў. Фрагмент парку*[9].

сямейная капліца, разбураная нядаўна (1980-я гады), ад якой засталіся частка сцяны і падмурак са скляпеннямі.

Асноўны дрэвастой Церабяжоўскага парку складаюць ліпа, граб, дуб, сасна веймутава, клён, каліна, рабіна, чаромха і інш. З 1939 г. па 1941 г. у палацы размяшчаўся Дом культуры.




*Ніжні Церабяжоў. Схема парку.*

Палац Цэзарыя Алешы быў узарваны фашыстамі ў канцы 2-й сусветнай вайны.

Парк мае вялікае пазнавальна-навуковае значэнне, патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński... S. 23.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2162. Арк. 1—7.*
[3,4,5,6,7] *Aftanazy R. Dzieje... S. 145.*
[8,9] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Новае Беражное
# Nowe Breżne
# Новое Бережное

Палацава-паркавы ансамбль. Сядзіба была заснавана родам Алешаў і належала адной з пазнейшых ліній гэтага роду. Сын Аляксандра, празванага «Алешам» ці «Алешкам», Фёдар у 1482 г. служыў сакратаром караля Казіміра Ягелончыка, а ўнук Пётр быў падстоліем мазырскім. У час бітвы войска ВКЛ з крымскім ханам





20а Зак. 1023







*Новае Беражное. Від на паркавы фасад палаца*[3].

Пётр трапіў у палон. З пакалення ў пакаленне перадавалася паданне пра непахісны характар Пятра, які пад пагрозай смяротнага пакарання не схіліў галаву перад ханам і не змяніў хрысціянскай веры, цвёрда адказаў чужынцу «Усе не памром!». Сын Пятра, таксама Пётр, атрымаў ад пінскага і давыд-гарадоцкага князя Фёдара Яраславіча Бароўскага прывілей на маёнтак Беражное, аб чым у 1524 г. пацвердзіла каралева Бона.

З таго часу змянілася 12 пакаленняў гэтага роду, якія па спадчыне гаспадарылі ў Стара-Беражноўскім, а пасля падзелу ў Нова-Беражноўскім маёнтках, атрымаўшы



*Новае Беражное. Бакавы фасад палаца*[4].

назву Алешы-Беражноўскія. Сын Пятра Фёдар служыў ротмістрам, а сын Фёдара Ян меў пасаду падатказборшчыка. Сын Яна Фларыян меў шэраг высокіх пасад (пінскі староста, каралеўскі сакратар, ваенны камісар), а яго сын




*Новае Беражное. Схема парку.*

Станіслаў не меў высокіх пасад. Міхаіл, сын Станіслава, займаў пасаду пінскага суддзі.

Апошнім 12-м спадкаемцам Беражнога, Церабяжова, Гарадзішча і шэрагу палацаў у Вільні, Рызе і Пінску быў Цэзарый Антоній Алеша (1820—1892), жанаты з Аляксандрай Орда. Спачатку ён служыў у царскай гвардыі, а перад нацыянальна-вызваленчым паўстаннем 1863 г. выйшаў у адстаўку. Паўстання не падтрымаў. Актыўна займаўся гаспадарчымі рэформамі ў сваіх маёнтках, арганізаваў вытворчасць цукру, распрацоўку лесу, пашырыў жывёлагадоўлю, дапамагаў паўстанцам выехаць за мяжу, уладкоўваў іх на працу, выратаваў шэраг маёнткаў ад канфіскацыі.

Цэзарый меў вялікую сям'ю: 5 дачок і 6 сыноў, якіх выхаваў у найлепшых традыцыях еўрапейскай культуры і адукацыі.

Маёнтак Нова-Беражное атрымаў старэйшы сын Цэзарыя Канстанцін, жанаты з Камілай Орда. Бацька вельмі хацеў, каб сын працягваў справу развіцця гаспадаркі. Канстанцін паспяхова закончыў вучобу ў Германіі, атрымаў дыплом матэматыка-астранома, вярнуўся ў маёнтак і адбудаваў там абсерваторыю, затым заняўся навукай.

Другі сын Цэзарыя Эдмунд Алеша, які стаў гаспадаром



*Новае Беражное. Фрагмент зімовага пейзажу парку*[5].

Гарадзішча, выехаў у Францыю і трагічна загінуў у Парыжы. Трэці сын Эдвард пачаў вайсковую кар'еру, выехаў да Тэгерана і Канстанцінопаля, вярнуўся на радзіму, ажаніўся з Вандай Скаржынскай, атрымаў грашовую кампенсацыю за Церабяжоўскі маёнтак, выехаў у Польшчу, нарабіў мноства даўгоў і не пакінуў пасля сябе нашчадкаў. Чацвёрты сын Эдвард, жанаты з Людвікай Гувальт, набыў маёнткі ў Лідскім і Навагрудскім паветах, меў 2 дачкі і сына. Пяты сын Цэзарыя Цэзарый Алеша быў жанаты з Марыяй Жук-Скаршэўскай, атрымаў у спадчыну маёнтак Церабяжоў. Асноўнае і самае старадаўняе гняздо роду Алешаў Стара-Беражное атрымаў малодшы сын Цэзарыя Уладзіслаў, жанаты з Тэрэзай Межаеўскай. Уладзіслаў і Тэрэза мелі адзінага сына Міхаіла, які пасля атрымання дыплома інжынера-лесавода, пайшоў у армію, ваяваў, быў захоплены ў палон і загінуў у канцлагеры Асвенцім. Род Алешаў-Беражноўскіх спыніў сваё існаванне ў 1965 г. на Чаславе Алешы, які памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

Род Алешаў быў распаўсюджаны не толькі на Беларусі, але і на Украіне і ў Расіі. У прыватнасці, Стафан Алеша, намеснік харугвы гетмана Станіслава Жулкоўскага, які ўдзельнічаў у паходзе супраць Маскоўскай дзяржавы, за-




стаўся ў Масковіі, перайшоў на царскую службу. З гэтай лініі паходзіў Алекса — сын Васіля Алешы (1724—1788), які быў жанаты з дачкой Аляксандра Суворава, літаратар, публіцыст. З другой лініі, заснаванай Юрыем Каралём Алешай, шэраг нашчадкаў аселі на Віцебшчыне і Украіне[1].

Да сённяшняга часу ў Нова-Беражным захаваўся палацава-паркавы ансамбль. Палац мураваны, двухпавярховы з чатырохсхільным дахам, у плане мае форму выцягнутага прамавугольніка, нясе элементы неаготыкі. З правага боку захавалася вежа са стогападобным дахам. На плошчы 5 га размяшчаўся пейзажны парк, які мае добры дрэвастой — 40 таксонаў[2]. Партэры знішчаны, захавалася грабавая алея. Побач размешчаны вялікі пладовы сад. Палац у крайне занядбаным стане, патрабуе падтрымкі і далейшага выкарыстання ў якасці музейнага комплексу альбо дзіцячай установы для адпачынку.

Палацава-паркавы ансамбль патрабуе ўзяцця на ўлік і пад ахову дзяржавы.

---

[1] *Aftanazy R. Dzieje... S. 15.*
[2] *Федорук А.Т. Садово-парковое искусство... С. 182.*
[3,4,5] *Фота аўтара. 2000 г.*

# Рэчыца
# Rzeczyca
# Речица

Гісторыя Рэчыцкага палаца цесна звязана са Столінскім маёнткам. У XVI ст. навакольнымі землямі Столінскага ключа валодалі Саламярэцкія, у пачатку XVIII ст. Вішнявецкія, пасля якіх ключ перайшоў да роду Каранеўскіх[1]. Дачка Каятана Каранеўскага, пінскага земскага суддзі, жанатага з Разаліяй Красіцкай, Ганна была замужам за Аляксандрам Пацеем (герб «Вага»), і атрымала ў якасці пасагу Столінскі ключ. Іх дачка Ідаліна выйшла замуж за Адама Перасвет-Солтана (1792—1863), сына Станіслава і Францішкі з Радзівілаў і прынесла Столін у спадчыну мужа. Пасля Адама Солтана ключ быў падзелены. Непасрэдна Столін перайшоў да яго старэйшага сына Аляксандра, жанатага з Марыяй Крашэўскай, а частка ключа — маёнтак Рэчыца з фальваркам Глінка, дасталіся сястры Аляксандра Марыі, замужняй за Альфонсам Серакоўскім. Брат Адам атрымаў Церабяжоў, які прадаў Цэзарыю Алешы.

Ад Серакоўскіх Рэчыца і Глінка адышлі да Аляксандра Солтана. Адна з яго дачок Стафанія выйшла замуж за Уладзіміра дэ Вірыён, гаспадара маёнтка Крынкі пад Гроднам, другая, Гелена, за князя Сташэвіча, гаспадара маёнтка Каўняцін пад Пінскам. Уладзімір дэ Вірыён выкупіў частку Рэчыцы ад швагра і стаў адзіным гаспадаром маёнтка. Апошнім гаспадаром Рэчыцы была ўнучка Стафаніі, замужняя за Янам Кулакоўскім[2].

Уладзімір дэ Вірыён на мяжы XIX і XX ст. пабудаваў у Рэчыцы мураваны палац, а вакол яго заклаў пейзажны парк[3]. Палац меў 2 паверхі, быў прамавугольны ў плане, па цэнтры галоўнага фасада вылучаны невялікім порцікам на дзвюх парах мураваных калон. Дом накрываў невысокі гладкі чатырохсхільны дах.

У пачатку 2-й сусветнай вайны Рэчыцкі палац быў спалены і разбураны снарадам. Пасля вайны руіны палаца былі разабраны мясцовымі жыхарамі. Парк поўнасцю забудаваны. Захаваліся толькі адзінкавыя дрэвы, якія напамінаюць пра існаванне тут палацава-паркавага ансамбля.



*Рэчыца. Агульны выгляд палаца. 1937 г.*[5]



*Рэчыца. Фрагмент галоўнага фасада палаца. 1930-я гады*[4].




*Рэчыца. Схема сядзібы.*

---

[1] *Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński... S. 23.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2424. Арк. 1—5.*
[3,5] *Aftanazy R. Dzieje... S. 143.*
[4] *Архіў Рэчыцкага краязнаўчага музея.*









# Старое Беражное
# Bereżno Stare
# Старое Бережное

Старадаўняя сядзіба, належала знакамітаму роду Алешаў. Паводле меркавання асобных даследчыкаў, з гэтага роду выйшаў вялікі савецкі пісьменнік Юрый Карлавіч Алеша .

Большасць прадстаўнікоў роду прысвяцілі сваё жыццё дзяржаўнай і ваеннай службе. На ўласным гербе іх меліся палымяныя словы «Non omnis moriar». Верагодна, гэтыя словы «Усе не памром!» паходзілі з часоў Пятра Алешы, падстолія мазырскага, які, трапіўшы ў турэцкі палон, нават пад страхам смерці не адрокся ад хрысціянскай веры. Алешы спачатку былі прыхільнікамі праваслаўнага веравызнання, потым перайшлі ва уніяцтва і, нарэшце, сталі рыма-каталікамі.



*Старое Беражное. Агульны выгляд палацава-паркавага ансамбля. 1936 г.*[4]

Паводле даследавання Р. Афтаназы, род бярэ пачатак ад валынскага баярына Аляксандра, празванага «Алешам» ці «Алешкам». Ён быў жанаты з Аленай Макасей. Іх сын Фёдар (Тэадор) Алеша Алешкавіч у 1482—1486 гг. служыў сакратаром караля Казіміра Ягелончыка і быў жанаты з князёўнай Ганнай Астражэцкай. У Фёдара і Ганны быў сын Пётр, жанаты з Вольгай Чалганскай. Іх першы сын Пётр Пятровіч Алеша, жанаты з Еўдакіяй Фурса, атрымаў ад князя Фёдара Яраславіча Бароўскага ў 1508 г. маёнтак Беражное на Палессі. У 1524 г. каралева Бона пацвердзіла правы Пятра Алешы на Беражное, Гарадок і Паркані. З таго часу Алешы сталі ўжываць прыпіску ў прозвішчы Беражноўскія. Другі сын Пятра — Фёдар Пятровіч, жанаты з Ганнай Гамшэй, стаў кадравым ваенным і даслужыўся да ротмістра. Яго сын Ян, жанаты з князёўнай Шуйскай, служыў зборшчыкам падаткаў, а сын Яна Фларыян, жанаты з Агнежкай Каранецкай, меў пасаду пінскага старосты, а з 1583 г. служыў каралеўскім сакратаром. На Варшаўскім сейме 1607 г. Фларыян быў прызначаны ваенным камісарам для падаўлення казацкага бунту. Яго сын Станіслаў Фларыянавіч, жанаты з Жанетай Гарайновай, не меў вялікіх пасад. Іх сын Міхаіл Станіслававіч з'яўляўся 8-м спадкаемцам Беражнога, быў жанаты з Соф'яй Дубянецкай, займаў пасаду пінскага суддзі. Акрамя Беражнога ён меў маёнткі Старыя Коні, Каскі і Дубянец.



*Старое Беражное. Галоўны порцік палаца. 1936 г.* [5]

На працягу XIX ст. спадчына Алешаў значна ўзрасла, хоць яшчэ ў XVIII ст. яны страцілі Дубянец, які адышоў да роду Кіневічаў.

Апошнім 12-м гаспадаром Старога і Новага Беражнога, Цярабяжова, Гарадзішча, шэрагу іншых зямель, маёнткаў і дамоў у Вільні, Рызе і Пінску быў Цэзарый Антоній Алеша (1820—1892), жанаты з Аляксандрай Орда. Першапачаткова ён служыў ротмістрам у расійскай арміі, але перад 1863 г. выйшаў у адстаўку, шчыра заняўся ў сваіх маёнтках жывёлагадоўляй, вытворчасцю цукру і распрацоўкай уласных лясоў. У паўстанні 1863 г. не



*Старое Беражное. Від на сядзібу з боку парку. 1936 г.* [6]

ўдзельнічаў, не верыў у яго выніі, але актыўна дапамагаў яго ўдзельнікам выехаць за мяжу, уладкоўваў іх на работу, ратаваў маёнткі ад канфіскацыі.

Цэзарый Антоній Алеша меў 11 дзяцей: 6 сыноў і 5 дачок, якім даў добрае выхаванне і адукацыю. Яшчэ пры жыцці падзяліў паміж імі свае маёнткі і землі. Нова-Беражное дасталося Канстанціну, які ў свой час вывучыўся на матэматыка-астранома. Стара-Беражное атрымаў малодшы сын Цэзарыя Уладзіслаў Алеша, жанаты з Тэрэзай Межаеўскай. У 1909 г. ён быў вымушаны прадаць сваю сядзібу князям Радзівілам, што гаспадарылі ў суседнім Давыд-Гарадку[2]. Уладзіслаў меў толькі аднаго сына Міхаіла, інжынера-лесавода, нежанатага. Пайшоў у армію, ваяваў, быў закатаваны ў канцлагеры Асвенцім. Род Алешаў-Беражноўскіх закончыўся ў 1965 г. на Чаславе Алешы, які памёр нежанатым.

Сядзіба Алешаў у Стара-Беражным вядома з канца XVIII — пачатку XIX ст. Палац быў драўляны, невысокі,








*Старое Беражное. Схема размяшчэння сядзібы*[7].

аднапавярховы, меў класічны порцік на чатырох калонах, на якія абапіраўся трохвугольны шчыт. Сярэдняя частка палаца мела 2 паверхі. Паркавы фасад палаца вылучаны невялікім ганкам на чатырох калонах з тэрасай на 1-м паверсе і балконам на 2-м. З балкона адкрываўся маляўнічы від на раку, за якой размяшчаліся сямейныя могілкі Алешаў. Палац быў накрыты двухсхільным гонтавым дахам. Сцены атынкаваны гладкай тынкоўкай і пафарбаваны ў белы колер.

Палац, яго багатая аздоба і начынне (партрэты, абразы, мэбля, архівы) у большасці знішчаны ў час 1-й сусветнай вайны ў 1914 г. Да 1939 г., калі ў Стара-Беражным гаспадарыла Ганна Радзівіл, тут існаваў прыгожы англійскі парк. Да палаца праз браму[3] вяла шырокая ўязная алея, абсаджаная ліпамі і таполямі[3].

Сёння на месцы старога палацава-паркавага ансамбля пабудавана кантора мясцовага калгаса і закладзены невялікі парк. Ніякіх іншых слядоў існавання сядзібы не засталося.

---

[1] *Дубровский А. Полесские корни Олешей // Народная газета. 1997. № 120.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2352. Арк. 1—3.*
[3,4,5,6] *Aftanazy R. Dzieje... S. 14.*
[7] *Схемы паркаў падрыхтаваны аўтарам сумесна са службай галоўнага архітэктара Столінскага раёна. Камп'ютэрную апрацоўку схем выканала архітэктар А.Лукша.*

# Столін
# Stolin
# Столин

Столін неаднаразова ўпамінаецца ў летапісах гарадоў XII—XIII ст.[1] У XVI ст. Столін з умацаваным драўляным замкам становіцца прыватнаўладальніцкім мястэчкам. Ім валодалі ў свой час магнацкія роды Саламярэцкіх, Вішнявецкіх, Пацаў, Каранеўскіх, Солтанаў, Скірмунтаў, Стахоўскіх і інш. У гады вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай у сярэдзіне XVII ст. Столін многа перажыў. У верасні 1655 г. яго захапілі і спалілі казацкія войскі ўкраінскага палкоўніка Івана Залатарэнкі. Пасля вялікай бітвы на подступах да мястэчка, у якой войскі ВКЛ пацярпелі паражэнне ад казакаў, Столінскі замак прыйшоў у заняпад.

У пачатку XVIII ст. гаспадарамі Століна пасля Вішнявецкіх сталі Каранеўскія, герб «Ліс». Дачка Каятана Каранеўскага, пінскага земскага суддзі, Ганна была замужам за Аляксандрам Пацеем, герб «Вага», і атрымала ў пасаг Столінскі ключ. Іх дачка Ідаліна выйшла замуж за Адама Перасвет-Солтана (1792—1863), сына Станіслава і Францішкі з Радзівілаў і прынесла Столін як пасаг у спадчыну мужа. Адам Солтан падзяліў Столінскі ключ паміж сваімі дзецьмі. Непасрэдна Столінскі маёнтак атрымаў старэйшы сын Аляксандр, жанаты з Марыяй Крашэўскай, герб «Ястрабец». Аляксандр Солтан прадаў Столін Юзафу Скірмунту, які перадаў маёнтак сваёй дачцэ Ядвізе ў якасці пасагу. Апошнім гаспадаром



*Столін. Гістарычны будынак у цэнтры дзядзінца*[4].

Столінскага маёнтка да 1930 г. быў яе ўнук Марыян, жанаты з Леакадзіяй Ратынскай[2].

Яшчэ у 1-й палове XIX ст. у Століне існаваў палац, пабудаваны ў канцы XVIII ст. пры Каранеўскіх. У часы паўстання 1863 г. у гэтым палацы размяшчаўся паўстанцкі штаб Рамуальда Траўгута. Пры захопе палаца расійскімі казакамі, ён быў поўнасцю спалены і знішчаны[3]. З каштоўных рэчаў быў уратаваны абразок «Святая сям'я», які вісеў у дваровай капліцы і быў намаляваны мастаком Каралём Гюблам. Пасля пажару гаспадары не змаглі адбудаваць новую рэзідэнцыю, а прыстасавалі пад жыллё адзін з гаспадарчых будынкаў. Да 1939 г. у Століне, дзе размяшчаўся колішні палац, існаваў пейзажны парк, які дасягаў берага маляўнічай р. Гарыні, невялікія рэшткі якога захаваліся да сённяшняга часу.

Да 2-й сусветнай вайны ў Століне стаяў касцёл, пабудаваны Каранеўскімі, які пасля вайны быў знішчаны.

---

[1] *Ткачоў М.А. Замкі і людзі... С. 163.*
[2] *ДАБВ. Ф. 2177. Воп. 2. Спр. 2432. Арк. 1—148.*
[3] *Aftanazy R. Dzieje... S. 143.*
[4] *Фота аўтара. 1998 г.*








# Заключэнне

Замкі і палацы, сады і паркі, сядзібы і фальваркі Берасцейшчыны маюць сваю гісторыю, свой лёс, сваё жыццё. Яны складаюць адну з найцікавейшых старонак гістарычнай, архітэктурнай і мастацкай спадчыны вобласці. Былі ў гісторыі замкавага і палацава-паркавага мастацтва перыяды росквіту, высокай культуры і заняпаду.

Але якая б ні была гэтая гісторыя і яе вынікі, мы павінны добра разумець, што гэта гісторыя нашай Беларусі, роднай Бацькаўшчыны, што мы выйшлі з яе, а таму наш святы абавязак шанаваць яе, аберагаць і вывучаць.

Усё, што мы маем, што атрымалі ў спадчыну (добрае і чыстае, зняважанае і апаганенае), павінна служыць паказальным прыкладам выхавання. Каб зноў не апынуцца ў бяспамяцтве, ды не стаць бязродным манкуртам роднай зямлі.

Хараство колішніх палацава-паркавых ансамбляў, садоў і паркаў, маёнткаў і сядзіб выхоўвала ў людзей светлыя пачуцці, патрыятычную палымянасць, грамадзянскую свядомасць, служыла ідэалам дабра і гонару за сваю Айчыну, высокую адказнасць і ахвярнасць за яе будучыню і лёс.

Таму вяртанне колішніх гістарычных палацаў, сядзіб і паркаў да новага жыцця з'яўляецца высакароднай справай, у першую чаргу, дзяржавы, мясцовай улады, сённяшніх гаспадароў, а таксама кожнага сумленнага і культурнага чалавека.

Брэсцкім аблвыканкомам, шэрагам раённых выканаўчых камітэтаў (Брэсцкі, Пружанскі, Ляхавіцкі і інш.) зроблены першыя, але даволі важкія крокі ў кірунку аднаўлення палацава-паркавых аб'ектаў і вяртання іх да жыцця. У 1997 г. было прынята спецыяльнае рашэнне аблвыканкома аб рэстаўрацыі на першым этапе па аднаму гістарычнаму парку ў кожным раёне, запланавана на перспектыву стварэнне ў адноўленых гістарычных палацах, сядзібах і фартэцыях шэрагу арыгінальных музеяў.

Пры актыўнай падтрымцы рэспубліканскіх органаў улады ў 1998 г. адноўлена радавое гняздо Адама Міцкевіча — фальварак Завоссе, у якім адкрыты Дом-музей знакамітага паэта. Вернута да жыцця гістарычная сядзіба ў г. Пружаны, дзе ствараецца нетрадыцыйны музей-палацак. У палацава-паркавым ансамблі г. Высокае, дзе вядзецца рэстаўрацыя, плануецца стварыць музей палацава-паркавага мастацтва. Агульнымі намаганнямі рэспубліканскіх, абласных і брэсцкіх гарадскіх улад аднаўлены пяты форт Брэсцкай крэпасці, у якім з 1998 г. пачаў працаваць музей-філіял фартыфікацыі і зброі.

Актыўную пазіцыю ў аднаўленні і добраўпарадкаванні гістарычных паркаў займаюць улады Ляхавіцкага раёна.

Актывізацыі работы па ўратаванні колішніх палацава-паркавых каштоўнасцей дапамагае паслядоўная дзейнасць каардынацыйнага савета Брэсцкага аблвыканкома па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны пад непасрэдным кіраўніцтвам яго старшынь, спачатку Уладзіміра Заламая, цяпер Васіля Даўгалёва. У жніўні 2001 г. у Ляхавіцкім раёне праведзена Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Палацава-паркавае мастацтва Брэстчыны. Гісторыя, стан, перспектывы», на якой былі абагульнены вынікі дзейнасці дзяржаўных устаноў і грамадскасці і акрэслены перспектывы працы ў гэтым кірунку.

У захаванні гістарычных сядзіб і палацаў, рэштакаў паркаў і ансамбляў, а таксама ў правядзенні работ па аднаўленні, важным з'яўляецца вызначэнне іх сучаснага функцыянальнага прызначэння, канкрэтных уладальнікаў і, безумоўна, распрацоўка навукова і фінансава абгрунтаванай дзяржаўнай праграмы на ўсіх узроўнях — ад гаспадароў аб'ектаў да ўрада краіны.

Існуючыя гістарычныя паркі, палацы, сядзібы, а таксама іх рэшткі, рудыменты (дрэвастой, гаспадарчыя пабудовы, аранжарэі, флігелі, афіцыны, капліцы, скляпы, каналы, сажалкі, ручаі і г.д.) з'яўляюцца найкаштоўнейшым турыстычным рэсурсам.

Берасцейшчына — край не толькі лясоў і азёр, яна багата гістарычнымі паркамі і сядзібамі, таму ўяўляе сабой цікавы з навуковага пункту гледжання і развіцця турыстычнай індустрыі рэспублікі своеасаблівы гістарычны асяродак.

Ажыўленне векапомнай мінуўшчыны з'яўляецца высакароднай справай. Вельмі важна, каб сутнасць спрадвечнага імкнення нашых продкаў да вольнасці і вышынь хрысціянскай маралі стала блізкай і зразумелай кожнаму грамадзяніну нашай Бацькаўшчыны, каб неабходнасць асабістага ўдзелу ў захаванні гісторыка-культурнай спадчыны і ўшанаванні памяці аб продках стала неад'емнай часткай яго сумлення і гонару.





# Аўтарскае пасляслоўе

Асабістае захапленне гісторыяй, прыродай, маляўнічымі краявідамі з'явілася ў раннім дзяцінстве. Крочачы штодня па дарозе ў родную школу на працягу 10 гадоў, нас дзяцей ветліва сустракалі дзве векавыя сасны-прыгажуні ды дубволат, якія і цяпер уражваюць сваёй веліччу, старадаўнасцю і хараством ды ўпрыгожваюць усё наваколле Гарадзечанскага краю.



*Гарадзечна. Сосны-прыгажуні. 2000 г.*

З часоў ранняга дзяцінства яшчэ запала ў памяць пастаянная трывога і страх усёй сям'і перад калектывізацыяй, катэгарычнае адмаўленне бацькі ад уступлення ў калгас, двойчы затачэнне яго ў турму і гвалтоўны засеў калгасам прысядзібнага ўчастка каноплямі па самыя вуглы дома.

Скончыўшы Гарадзечанскую школу (1962), адразу паступіў на аграбіялагічны (пазней хіміка-біялагічны) факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута



*Гарадзечна. Дуб-волат.*
*На другім плане гістарычны будынак сярэдняй школы.*

імя А.С.Пушкіна. Настаўнічаў вельмі мала. Захапіла камсамольская і партыйная кар'ера. За 17 гадоў дасягнуў пасад намесніка загадчыка ідэалагічнага аддзела абкома партыі і намесніка начальніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкома.

Хваля перабудовы ўскалыхнула глыбінныя пачуцці да мінуўшчыны, знявечаных храмаў, загубленай прыроды, неабходнасці пераасэнсавання і пераацэнкі духоўных каштоўнасцей і пакаяння ў шырокім сэнсе гэтага слова. Такое пачуццё даруецца не кожнаму, не адразу і не заўсёды. Гэта



*Гарадзечна. Разбураная Свята-Пакроўская царква. 1989 г.*

вельмі глыбіннае пачуццё. Яно звязана з неабходнасцю змен, адраджэння краіны, узвышэння яе гонару і пошуку шляхоў да яе росквіту.

З нейкай незвычайнай апантанасцю ўзяўся за аднаўленне разбураных і апаганеных святыняў на бацькаўшчыне — Гарадзечанскай Свята-Пакроўскай царквы і помніка-капліцы «Доблесным продкам, загінуўшым у бітве пад Гарадзечнам 1812 года 31 ліпеня», якія былі ўзведзены некалі на магілах 5,5 тысячы палеглых расійскіх, бела-



*Гарадзечна. Адноўленая Свята- Пакроўская царква.*

рускіх, польскіх, французскіх, аўстрыйскіх і саксонскіх воінаў. За 1989—1994 гг. дзякуючы падтрымцы мясцовага насельніцтва, улад і шэрагу высакародных асоб святыні былі ўратаваныя.

У гэты складаны час перабудовы адбыліся даволі вострыя моманты ў асабістым жыцці і працы. Бачачы, што перабудова ў краіне (тады яшчэ СССР) зайшла ў тупік,







*Гарадзечна — Паддубна. Падмуркі разбуранай капліцы «Доблесным продкам 1812 г.».*

напісаў пісьмо ў Палітбюро ЦК КПСС, дзе выказаў асабістыя погляды і нязгоду з праводзімым разбуральным «курсам партыі», у знак пратэсту публічна адмовіўся ад надбаўкі да зарплаты партыйнаму і дзяржаўнаму апарату, надрукаваў шэраг крытычных матэрыялаў, чым выклікаў вострае абурэнне і негатыўную рэакцыю тагачаснага кіраўніцтва. Безумоўна, гэта ўсё каштавала наменклатурнай пасады.

З другога боку атрымаў мноства пісем, водгукаў, зваротаў з розных куткоў Беларусі, падтрымку прэсы, шмат прапаноў ад шэрагу працоўных калектываў балаціравацца ў Вярхоўны Савет 12-га склікання. Але пайсці ў вялікую палітыку адмовіўся. Многім людзям дапамагаў у вырашэнні іх скаргаў. З 1994 г. узначаліў абласны фонд Тадэвуша Касцюшкі, якім шмат зроблена па вяртанні памяці аб змагарах за Беларусь.

Распад савецкай дзяржавы ўспрыняў як аб'ектыўную



*Гарадзечна — Паддубна. Аднаўленая капліца «Доблесным продкам 1812 г.».*

і непазбежную гістарычную падзею, у выніку якой Беларусь атрымала унікальную каштоўнасць — самастойны шлях для развіцця і росквіту.

Пазней пачаў працаваць у галіне культуры на сціплай і непрыкметнай пасадзе спецыяліста па ахове гістарычнай спадчыны. За дзевяць гадоў зроблена шмат па вяртанні памяці і помнікаў, ушанаванні імён славутых суайчыннікаў, аднаўленні матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Дзеля гэтага быў створаны каардынацыйны савет абласнога выканаўчага камітэта па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, адказным сакратаром якога працую з самага пачатку яго дзейнасці.



*Гарадзечна — Харкі. Бацькоўскі дом аўтара. 1945 г.*

Цяпер лічу асабістым клопатам зрабіць усё магчымае, каб аднавіць яшчэ адну страчаную святыню — помнік-капліцу, якая павінна ўшанаваць памяць аб палеглых на крупчыцкіх палях пад Жабінкай у час паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Касцюшкі.

Пры ўсім тым абараніў дысертацыю кандыдата гістарычных навук, напісаў асабіста і ў сааўтарстве 6 кніг, надрукаваў больш за 40 публікацый у рэспубліканскім і мясцовым друку па гісторыі Бацькаўшчыны, іншых праблемах сацыяльна-культурнага жыцця. Удзельнічаў у 20 абласных, рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах па гісторыі, краязнаўстве і ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

Безумоўна, на Берасцейшчыне зроблены важкія крокі ў справе вяртання да жыцця гістарычных каштоўнасцей,



*Гарадзечна — Харкі. Бацькоўскі дом аўтара. 2001 г.*

але на фоне велізарных страт і разбурэння культурнай спадчыны пакуль што гэта толькі пачатак сапраўднага адраджэння. Аднаўляць страчанае прыйдзецца не аднаму пакаленню.




# Бібліяграфія


- Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. В 39 тт. Вильна, 1871. Т. 5. С. 385, 389—91.
- Антипов В.Г. Парки Белоруссии. Мн., 1975. 200 с.
- Антипов В.Г. Садово-парковое искусство // Памятники природы Белоруссии. Мн., 1970, С. 43—72.
- Архітэктура Беларусі: Энцыкл. даведн. Мн., 1993. 620 с.
- Архіў Кракаўскага нацыянальнага музея. Ф. III-R.A.
- Баранавіцкі раён. Памяць. Мн., 2000. С. 633—641.
- Беловежская пуща на рубеже третьего тысячелетия. Материалы научно-практической конференции. Мн., 1999. 448 с.
- Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. 1981. Т. 4. 685 с.
- Белы А. Планы гарадоў Беларусі з калекцыі Яна Георга Максіміляна фон Фюрстэнгофа // Спадчына. 1998. № 6. С. 50—51.
- Бензярук А. Наш край — Жабінкаўшчына. Брэст, 1996. 110 с.
- Бензярук А. На скрыжаванні лёсу // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 6. С. 58—62.
- Березовский район. Память. Мн., 1987. С.17—22.
- Брэст. Памяць. Мн., 1997. Кн. 1. С. 34, 55—56, 135—146.
- Брест. Путешествие сквозь века. Мн., 1999.
- Брест. Энциклопедический справочник. Мн., 1987. 408 с.
- Брэсцкі раён. Памяць. Мн., 1998. С.525—529.
- Брянцев П.Д. История Литовского государства с древнейших времен. Вильно, 1889. 659 с.
- Будыко Н.С. Садово-парковое наследие Белоруссии (дооктябрьский период). М., 1985.
- Ващукувна-Каменецка Д. Брест — город незабываемый. Брест, 2000. 284 с.
- Габрусь Т., Кулагін А., Чантурыя Ю., Квітніцкая А., Ткачоў М. Страчаная спадчына. Мн., 1998. 352 с.
- Ганцавіцкі раён. Памяць. Мн. 1999. С. 50—54.
- Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. 248 с.
- Горелов М.И. Станислав Юльянович Жуковский. Жизнь и творчество. М. 1982. С. 98.
- Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці. Ф. 2177 (Справы аб валоданні нерухомай маёмасцю). Воп. 2. Спр. 13,16,19, 32, 39, 42, 46, 47, 112—119, 121—133, 173—184, 205—207, 261, 298, 334—339, 346, 356—369, 415—435, 438, 451—466, 548, 561, 563, 815, 874, 903, 928, 937, 985, 1577, 1591, 1601, 1624, 1701, 1761, 1786, 1801; Ф. 2059. Воп. 1. Спр. 3099.
- Диков П. Список землевладений в Гродненской губернии. Гродно, 1890. С. 155, 168, 209.
- Драгічынскі раён. Памяць. Мн., 1997. С. 74—75, 98—102.
- Жабінкаўскі раён. Памяць. Мн., 1999. С. 478—507.
- Живописная Россия (Под общей редакцией В.П.Семенова). СПб., 1882. Т. 3. 490 с.
- Зайончковский А. Мировая война 1914—1918 гг. Т. 2. М., 1938.
- Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобласць. Мн., 1984. 368 с.
- Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. СПб., 1864. Ч. II. 701 с.
- Злобин Э. Поселения Пинщины // Пінскі веснік. 1998, 1999.
- Іванаўскі раён. Памяць. Мн., 2000. С. 528—536.
- Івацэвіцкі раён. Памяць. Мн., 1997. С. 466—493.
- Калнин В. Путь лежит через Ружаны // Нёман. 1984. № 8. С. 136—140.
- Камянецкі раён. Памяць. Мн., 1997. С. 88—95.
- Карсека М. Калоднае. Пінск, 1998. 28 с.
- Карцов Г. Беловежская пуща. СПб., 1903. 414 с.
- Квитницкая Е.Д. Архитектура XVII в. // Всеобщая история архитектуры: Архитектура Белоруссии. М., 1968. Т. 5. С.469—502; Т. 6. С. 503—531.
- Клейн Б.С. Найдено в архиве. Мн., 1968. 192 с.
- Климчук В. Творец архитектурного пейзажа. Брест, 1998. 68 с.
- Кондак А. Брест. История. Брест, 1997. 18 с.
- Кулагин А.Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Мн., 1981. 181 с.
- Лавровская И.Б. «Белые пятна» культуры нашей // Архитектура и строительство Белоруссии. 1991. № 4. С. 41—44.
- Лакотка А.І. Пад стрэхамі прашчураў. Мн., 1995. 384 с.
- Лінкевіч Л., Несцярчук Л., Сахарчук Ю. Высокае: 500 гадоў. Брэст, 1994. 30 с.
- Лунінецкі раён. Памяць. Мн., 1995. С. 71—108.
- Лысенко П.Ф. Города Туровской земли. Мн., 1974. 198 с.
- Лысенко П.Ф. Берестье. Мн., 1985. 400 с.
- Лысенко П.Ф. Открытие Берестья. Мн., 1989.
- Лысенко П.Ф. Древний Пинск. Мн., 1997.
- Лысенко П.Ф. Туровская земля. Мн., 1999. С. 270.
- Ляхавіцкі раён. Памяць. Мн., 1989. С. 92—100.
- Маларыцкі раён. Памяць. Мн., 1998. С. 505—532.
- Мальдзіс А.І. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. 176 с.
- Мартынаў А.М. Пра Кобрынскі замак // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1. С. 21—22.
- Мелішкевіч У.У. Беларусь у творах рускіх мастакоў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 4. С. 24—28.
- Михальчук М., Демянчик В., Грибко А. и др. Особо охраняемые природные территории Брестской области. Брест, 1997. 164 с.
- Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мн., 1995. 672 с.
- Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Гродне. Ф.1. Воп.1. Спр. 238, 893, 1201; Ф.10. Воп.15. Спр. 124; Ф.27. Воп.1.Спр.225; Ф.714. Воп. 3. Спр.18; Ф.1062. Воп.1. Спр. 2.
- Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Мінску. Ф. 1477 (Планы, карты Мінскай губерні). Воп. 1. Спр. 1876, 1882, 1929, 1966, 1982, 2067, 2114, 2117; Ф. КМФ—5. Воп. 1. Спр. 1414; Ф. 295. Воп. 1. Спр. 4293.
- Несцярчук Л. Гарадзечна. Брэст, 1997. 42 с.
- Несцярчук Л. Палацы, паркі, замкі Баранавіцкага раёна. Брэст, 1999. 80 с.
- Паевский Л. Город Брест-Литовск и его древние храмы. Гродно. 1894.
- Пінск. Памяць. Мн., 1998. С. 69—81, 95—99.
- Плиско Н., Козлов Л. Кобрин. Мн., 1987. С. 13—20.
- Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии // Труды девятого археологического съезда в Вильне. 1893 г. М., 1895.
- Пружанскі раён. Памяць. Мн., 1992. С. 31—37.
- Пярвышын У. Пружанскі палацык. Мн., 1992. 80 с.
- Раппопорт П.А. Волынские башни // МПА. 1952. № 31.
- Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская область. Мн., 1990. 424 с.
- Семаков В.В., Черкас Н.Д. Беловежская пуща. Барановичи. 1998.
- Список землевладельцев Минской губернии за 1876 год. Мн., 1877. 186 с.











- Супрун В.Р. Палац у Ружанах // Помнікі гісторыі і культуры. 1972. № 3. С. 23—24.
- Сяленя Я. Бярозаўшчына — наша Бацькаўшчына. Бяроза, 1997. 72 с.
- Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977. 82 с.
- Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. Мн., 1978. 144 с.
- Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. 184 с.
- Федорук А.Т. Старинные парки Белоруссии. Мн., 1985. 95 с.
- Федорук А.Т. Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989. 248 с.
- Фогель В. Барановичи. 1916 год. Петербург, 1921. 57 с.
- Ходыко Г.В. Дворцовый комплекс в Ружанах // Строительство и архитектура Белоруссии. 1974. № 3. С. 36—37.
- Терехова В. Сказание об исчезнувшем замке // Беларуская думка. 1994. № 1. С. 72—76.
- Церахава В. Хроніка Быхаўца. Берасцейскія карані. Брэст, 1998. С. 194—198.
- Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў. Мн., 1998. 288 с.
- Чантурия В.А. Архитектурные памятники Белоруссии // Архитектурное наследие. 1964. Т.17. С. 39—50.
- Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1977. 329 с.
- Чантурия В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Мн., 1986. 240 с.
- Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. Мн., 1985. 295 с.
- Чантурыя Ю.У. Акварэлі Іосіфа Пешкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4. С. 33—38.
- Чаропка В. Уладары Вялікага княства. Мн., 1996. 668 с.
- Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. СПб., 1858. С. 26—27.
- Шэлехаў М. Давыд-Гарадок. Брэст, 2000. 304 с.
- Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. С. 472.
- Энцыклапедыя прыроды Беларусі. Мн., 1985.
- Якімовіч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XII — XIX стст. Мн., 1978. 152 с.
- Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991. 368 с.
- Album widoków historycznych Polski przez Napoleona Ordę. Gdańsk. 1991. 140 s.
- Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 2. Wrocław; Warszawa; Kraków. 1992. 720 s.
- Archiwum dokumentacji mechanicznej. Warszawa (IKCU — 926, IKCU — 3334).
- Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska.Warszawa, 1846. T. 2. S. 695.
- Barokowa stuka ogrodowa w Polsce i Saksonii (1697—1763). Warszawa, 1997. 30 s.
- Bernatowicz T. «Entre éventail el étoile». Barok — Historia, Architektura, Stuka. Warszawa, 1997.
- Bogdanowski J. Architektura obronna. Warszawa; Kraków, 1996. S. 60,118,120,134,181,192.
- Boliatyński 1. Nauka Łowiectwa. Wilno, 1825.
- Dyaryusz bytności króla IMCI Stanisława Augusta w Pińsku i Krystynowie w 1784 roku // Czasopiśm. Biblioteka Warszawska, 1860. T. 3. S. 253—282.
- Gloger Z. Geografia historyczna ziem dawnej Polski. Kraków, 1900. 387 s.
- Grzegorczuk D. Dworki i pałace polskiej szlachty w byłym województwie Brzeskim. Siedlce, 1997. 160 s.
- Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński. Brześć, 1930. 31 s.
- Jarzębowski J.Traugutt. London, 1970. 264 s.
- Katalog rysunków architektonicznych ze zbiorów Muzeum Narodowego w Krakowie: Rysunki Napoleona Ordy. Warszawa, 1975. 480 s.
- Katalog rysunków z gabinetu rycin Biblioteki uniwersyteckiej w Warszawie. Warszawa, 1969. 380 s.
- Kot M. Odcinek «Baranowicze» // Archeologia wojskowa. 1994. № 4. S. 36—40.
- Łopalewski T. Między Niemanem i Dźwiną. Warszawa—Kraków, 1990. 238 s.
- Łowmiański H. Rys historyczny województwa Nowogródskiego w jego dzisiejszych granicach. Wilno, 1935.
- Maliszewski E. Przewodnik po gubernji Grodzeńskiej. Warszawa. 1919. 39 s.
- Marczak M. Przewodnik po Polesiu. Brześć nad Bugiem, 1935. 160 s.
- Mondalski W. Brześć Podlaski. Brześć, 1929. 111 s.
- Nesterczuk L. Ufortyfikowana Linia obronna «Baranowicze—Pińsk» z lat 1916—1939 na terenie ziemi Brzeskiej // Fortyfikacja. T. XI. Warszawa, 2000. S. 61—64.
- Osendowski F. Polesie. Poznań, 1938. S. 170.
- Polski Słownik Biograficzny. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979.
- Popek L. Polesie ocalić od zapomnienia. Lublin, 1998. 264 s.
- Przewodnik po okolicach mickiewiczowskich i rejtanowskich Ziemi Nowogródzkiej. Baranowicze. 1938. 190 s.
- Rąkowski G. Ilustrowany przewodnik po zabytkach kultury na Białorusi. Warszawa, 1997. 320 s.
- Rozanów M. Powiat Prużanski. Rużana, 1955. 31 s.
- Rocznik Poleski. Brześć nad Bugiem, 1926. 125 s.
- Ruszczyk G. Polesie. Fotografie z lat dwudziestych i trzydziestych. Warszawa, 1996. S. 88.
- Sapieha E. Dom Sapieżyński. Warszawa, 1995. 805 s.
- Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego. Warszawa, 1880—1902. T. 1—15.
- Sroka Jerzy. Brześć nad Bugiem. Biała Podlaska, 1997. 326 s.
- Syrokomla W. Podróż po niegdyś mojim okolicam. Wilno, 1853.
- Tygodnik Ilustrowany. Warszawa, 1861. № 9, 105; 1863. № 197.
- Tyszkewicz K. Wiadomość historyczna o zamkach i horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1858.
- Wawrzyńczyk A. Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI wieku. Wrocław, 1951. 358 s.
- Wątroba P. Nieznany plan założenia pałacowo-parkowego księżnej Eleonory Michałowej Czartoryskiej w Wołczyne. Ikonotheka. Warszawa, 2000. 268 s.
- Zabytkowe cmentarze na kresach wschodnich drugiej Rzeczypospolitej. Warszawa, 2000. 262 s.
- Zgorzelska A. Dzieje królewskiego Wołczna. Warszawa, 1995. 40 s.
- Zdański K. Przyczynki do dziejów powiatu Brzesko-Litewskiego i ziem nim objętych. Warszawa, 1936. 132 s.
- Żmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1927. 102 s.



# Кароткі слоўнік архітэктурна-гістарычных тэрмінаў

**Адраджэнне** — эпоха росквіту культуры краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (XIV—XVI ст.).

**Абарог** — збудаванне ў выглядзе стрэшкі, паднятай на чатырох слупах, якое служыць для захавання сена альбо саломы.

**Адрына** (пуня) — гаспадарчая пабудова для размяшчэння сельскагаспадарчых прылад, кармоў для жывёлы.

**Аканіца** — дашчаныя альбо жалезныя створкі для закрыцця акон знадворку.

**Акцэнт** — прыём, які грунтуецца на моцным падкрэсленні якой-небудзь дэталі ў агульнай пейзажнай кампазіцыі.

**Алькеж** — вуглавая прыбудоўка з вежкай. Атрымала распаўсюджанне ў перыяд позняга барока.

**Альтанка** — паркавае лёгкае збудаванне ажурнай канструкцыі; невялікая шчыльная пасадка дрэў па крузе, якая ствapae жывы шацёр для адпачынку.

**Ампір** — архітэктурны стыль Францыі пачатку XIX ст. Па характары адпавядае позняму класіцызму.

**Амфітэатр** (паркавы) — завяршэнне парадйай пляцоўкі палаца (у парках эпохі барока).

**Антаблемент** — верхняя гарызантальная частка ордэра, якая падтрымліваецца калонамі.

**Анфілада** — шэраг пакояў, злучаных на адной восі.

**Аранжарэя** — закрытае, часцей шкляное, памяшканне для вырошчвання кветак і дэкаратыўных раслін.

**Арка** — крывалінейнае перакрыцце праёма.

**Аркада** — шэраг арак, якія абапіраюцца на калоны ці пілоны.

**Атык** — сценка над антаблементам. Упершыню стала ўжывацца ў рымскіх трыумфальных арках.

**Афіцыйна** — тое, што і флігель.

**Балясіна** — канструкцыйны элемент, апорны точаны слупок ганка, балкона, тэрасы, балюстрады і інш.

**Барока** — мастацкі стыль у еўрапейскім мастацтве XVI—XVIII ст.

**Баскет** — кампактная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя ў парках.

**Бастыён** — выступаючая частка абарончага вала разнастайнай канфігурацыі.

**Бельведэр** — пляцоўка зверху будынка для агляду наваколля.

**Брама** — парадныя вароты да сядзібы, палаца, парку, замка.

**Бровар** — вінакурня.

**Вазоўня** — пабудова для захоўвання транспартных сродкаў (вазоў, санак, брычак) і сельскагаспадарчых прылад.

**Вальмавы дах**— чатырохсхільны дах з трохвугольнымі схіламі (вальмамі) ад вільчака да карніза.

**Вёска** — асноўны тып сельскага паселішча на Беларусі.

**Воля** (волька, вулька) — старадаўні тып сельскага паселішча, вызваленага ад падаткаў.

**Вянец** — замкнуты па перыметры рад бярвён драўлянага зруба.

**Вяндлярня** — лёгкае збудаванне для апрацоўкі мяса, рыбы (вэнджанне).

**Вятрак** (казлоўка) — ветраны млын на казловай апоры-восі.

**Газон** — культурнае травяное покрыва ў парках.

**Ганак** — крытая пабудова перад уваходнымі дзвярамі.

**Гародні** — злучаныя зрубы, лінія абарончых сцен у замку.

**Гарышча** — прастора паміж столлю і дахам у сялянскай хаце.

**Гаць** (грэбля) — насціл дарогі на балоце.

**Герса** — пад'ёмныя краты ўязных варот да замка.

**Гонта** — дахавае пакрыццё сядзібных дамоў у форме невялікіх дошчачак.

**Готыка** — мастацкі стыль у Еўропе (сярэдзіна XII — канец XV ст.).

**Грубка** — невялікая печ для абагравання жылля.

**Грыдніца** — жылы пакой для чэлядзі.

**Гумно** — гаспадарчая пабудова для захоўвання і абмалоту збожжа, а таксама пляцоўка перад гэтай пабудовай.

**Данжон** — галоўная вежа сярэдневяковага замка.

**Дарычны ордэр** — антычны архітэктурны ордэр з простай капітэллю.

**Дах** — верхняя частка канструкцыі будынка.

**Двор** — комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў.

**Дзядок** — вертыкальны апорны элемент каркаснай канструкцыі страхі.

**Драніца** — тонкія дошчачкі для абівання сцен і пакрыцця даху.

**Дыль** (дыля) — расколатае альбо распілаванае ўдоўж бервяно для пабудовы зруба.

**Дым** — сялянскі двор (XIV—XVI ст.).

**Дэкор** — сістэма аздобы збудавання альбо вырабу.

**Жорны** — прылада ў выглядзе 2 круглых камянёў з насечкай на рабочай паверхні для пераціркі зерня на муку, крупы.

**Журавель** — калодзежнае прыстасаванне (стойка, рычаг-вага) для зачэрпвання вады.

**Закрыліна** — дошка, якая закрывае тарцы двухсхільнай страхі.

**Засек** — месца ў клеці для засыпкі збожжа, мукі.

**Збор** — кальвінскі храм

**Зруб** — аб'ёмная канструкцыя з вянцоў бярвён.

**Іанічны ордэр** — антычны архітэктурны ордэр, які меў капітэль з дзвюма спіральнымі валютамі.

**Інвентары** — вопісы маёнткаў, замкаў у ВКЛ.

**Інтэр'ер** — унутраная прастора будынка з разнастайным начыннем.

**Кавальер** — земляны насып, які ўзвышаўся над пляцоўкай бастыёна.

**Каланада** — шэраг калон, якія размешчаны па адной лініі і падтрымліваюць антаблемент.

**Калона** — архітэктурна апрацаваны слуп.

**Каменка** — печка ў лазні, варыўні (кармакухні) ці клеці з камянёў без коміна.

**Камора** — халоднае памяшканне пры сялянскай хаце для захоўвання прадуктаў і хатніх рэчаў.

**Кансервацыя** — комплекс мерапрыемстваў па захаванні гістарычных каштоўнасцей ад разбурэння.

**Капітула** — калегія (сход) духоўных асоб манаскага альбо духоўна-рыцарскага ордэна.

**Капітэль** — верхняя частка калоны.

**Капліца** — невялікае культавае збудаванне.

**Кардэгардыя** — памяшканне для варты ў замку.

**Картуш** — аздоблены герб на фасадзе будынка.

**Карынфскі ордэр** — ордэр антычнай архітэктуры, мае высокую капітэль.

**Кастэль** — сярэдневяковы ўмацаваны замак рэгулярнай планіроўкі.

**Кайдуб** — на Палессі калодзежны дубовы праём з выдаленым асяродкам.

**Кафля** — керамічныя пліткі разнастайнай канфігурацыі, колеру і размалёўкі для абліцоўкі і дэкаратыўнай аздобы печаў, камінаў, карнізаў.

**Класіцызм** — мастацкі стыль і эстэтычны кірунак у Еўропе (XVII—XIX ст.).

**Комін** — дымаход над печчу.

**Контрфорс** — вертыкальны выступ сцяны для ўстойлівасці будынка.

**Кроквы** — брусы, якія ўтвараюць каркас даху.

**Кузня** — памяшканне для гарачай апрацоўкі металу шляхам коўкі.

**Куліса** — група дрэў альбо кустоў, якая абмяжоўвае від на адкрытую прастору парку альбо навакольны ландшафт.

**Курніца** — хата з печкай без коміна.

**Курціна** — частка абарончага вала паміж бастыёнамі.

**Лазня** — памяшканне з печчу-каменкай для мыцця цела.









**Лямус** — наземнае збудаванне для захоўвання прадуктаў харчавання.

**Ландшафт** — тэрытарыяльна абмежаваны прыродны комплекс.

**Лапа** — тып вуглавога замка драўлянай пабудовы.

**Латы** — дошкі, жардзіны, якія кладуцца ўпоперак кроквaў.

**Ліштва** — фігурная ці гладкая накладка вакол аконнага ці дзвярнога праёма.

**Люкарна** — аконны праём на даху альбо на купале.

**Лядоўня** — накрытае мураванае альбо драўлянае паглыбленне са снегам ці лёдам для захоўвання прадуктаў харчавання.

**Мансарда** — памяшканне на гарышчы сядзібнага дома.

**Манументальнае мастацтва** — мастацтва, якое адрозніваецца буйнымі формамі, значным ідэйным зместам.

**Мурлата** — выпуск бэлькі, апора кроквaў.

**Неф** — частка збудавання (галерэя), абмежаваная калонамі.

**Ордэр** — парадак размяшчэння асобных частак антычных будынкаў.

**Павець** — паўадчыненая пабудова для дроў, сялянскіх прылад.

**Пагост** — галоўныя могілкі з царквой, капліцай альбо рытуальнай пляцоўкай.

**Палаці** — дашчаны ляжак каля печы для адпачынку.

**Пандус** — цвёрды схіл, які замяняе лесвіцу.

**Паркан** — абарончая агароджа ў выглядзе частаколу.

**Партал** — архітэктурна апрацаваны ўваход у будынак.

**Партэр** — дэкаратыўная кампазіцыя ў палацава-паркавым ансамблі, афармленая газонам, скульптурай і інш.

**Пілоны** — калоны, якія служаць апорай па баках уваходаў будынка.

**Пілястра** — плоскі прамавугольны выступ сцяны, апрацаваны ў выглядзе калоны з капітэллю.

**Піўніца** — тое, што і склеп.

**Плот** — агароджа з гарызантальных жэрдак.

**Пляцень** — агароджа, жэрдзі якой пераплецены лазой, вярбой і інш.

**Покуць** — вугал хаты пад абразамі са сталом і лавамі.

**Порцік** — каланада, якая служыць уваходам у будынак.

**Прызба** — вонкавае ўцяпленне хаты зямлёй, саломай альбо сасновымі іголкамі (звычайна не вышэй праёмаў акон).

**Равелін** — дапаможнае фартыфікацыйнае збудаванне перад абарончай агароджай сярэдневяковага замка.

**Рагаціна** — цяжкае кап'ё з вялікім пяром.

**Ракако** — стыль французскай архітэктуры XVIII ст. (позняя стадыя барока).

**Рамантызм** — кірунак у еўрапейскай культуры канца XVIII—пачатку XX ст.

**Ратонда** — круглае збудаванне з купалам і калонамі.

**Руст** — апрацоўка сцен вялікімі камянямі.

**Рызаліт** — частка будынка, якая выступае за асноўную лінію фасада

**Рыштаванні** — драўляны альбо металічны каркас для рамонту ці будаўніцтва.

**Рэгенерацыя** — вяртанне знішчанай гісторыка-культурнай каштоўнасці першапачатковага выгляду.

**Рэнесанс** — стыль заходнееўрапейскага дойлідства ў XV—XVI ст.

**Рэстаўрацыя** — комплекс мерапрыемстваў па аднаўленні і захаванні гісторыка-культурных каштоўнасцей.

**Салітэр** — асобна размешчанае дрэва (кусты) у парку.

**Сені (сенцы)** — прыбудова да дома з боку дзвярэй.

**Спадчына** — назапашаныя продкамі гісторыка-культурныя каштоўнасці (рухомыя і нерухомыя, матэрыяльныя і духоўныя).

**Стайня** — канюшня.

**Страха** — саламяны ці чаротавы дах.

**Студня** — калодзеж.

**Сяло** — старадаўні тып паселішча.

**Тартак** — лесапільня

**Тымпан** — трохвугольнае поле франтона з жывапіснымі ці скульптурнымі ўпрыгожаннямі.

**Тэраса** — гарызантальная альбо нахіленая пляцоўка ў парку, адкрытая пляцоўка будынка.

**Фальварак** — невялікая панская сядзіба, размешчаная на хутары.

**Фасад** — знешні выгляд, паверхня вонкавых формаў будынка.

**Флігель** — бакавая прыбудоўка альбо асобная пабудова на двары палацава-паркавага ансамбля.

**Фронт** — цэнтральны фасад будынка.

**Харугва** — вайсковае фарміраванне Вялікага княства Літоўскага; вайсковы сцяг.

**Цэйхгауз** — склад зброі альбо амуніцыі.

**Чарэнь** — ляжанка на печы.

**Чынш** — натуральны альбо грашовы падатак на зямлю.

**Шалёўка** — абшыўка з гладкіх альбо фігурных дошак.

**Шатроўка** — ветраны млын з рухомым шатром.

**Шынок** — крама ў карчме ці заезным доме.

**Экзот** — рэдкая расліна, прывезеная і высаджаная ў парку альбо аранжарэі.

**Эклектыка** — спалучэнне ў архітэктуры разнародных элементаў.

**Эркер** — частка ўнутранага аб'ёму будынка, якая вынесена за межы сцен (закрыты балкон).




# Імянны паказальнік






21 Зак. 1023













21a Зак. 1023





# Геаграфічны паказальнік

Аўтар і Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкома,
па заказу якога ажыццёўлена гэта выданне, выказваюць шчырую падзяку
гарадскім і раённым выканаўчым камітэтам, іх аддзелам культуры,
а таксама асобным службам і ведамствам Брэстчыны
за матэрыяльную падтрымку ў выданні кнігі.

**Супрацоўнікі выдавецкага цэнтра БЕЛТА, якія працавалі над кнігай:**

Г.К.Кісялёў — галоўны рэдактар, Л.М.Драбовіч — намеснік галоўнага рэдактара,
З.І.Малейка — вядучы рэдактар, В.І.Багдановіч — рэдактар-стыліст.

ДАВЕДАЧНАЕ ВЫДАННЕ

**Несцярчук Леанід Міхайлавіч**

**ЗАМКІ, ПАЛАЦЫ, ПАРКІ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ
Х — ХХ СТАГОДДЗЯЎ**
**(гісторыя, стан, перспектывы)**

Мастак *А.В.Лапін*
Тэхнічны рэдактар *А.І.Хомчанка*
Карэктар *Е.П.Фешчанка*
Камп'ютэрная вёрстка *М.Э.Малярэвіч*
Аператары камп'ютэрнага набору *С.А.Долгая, З.У.Марцінчык*

Падпісана да друку 25.03.2002. Фармат 60 х 84 1/8. Гарнітура Таймс.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 39,19. Ум. фарб.-адб. 157,76.
Ул.-выд. арк. 43,4. Тыраж 1000 экз. Заказ 1023.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Беларускае тэлеграфнае агенцтва» (УП «БЕЛТА»).
Ліцэнзія ЛВ № 60 ад 29.11.1997.
Рэспубліка Беларусь. 220030, г. Мінск, вул. Кірава, 26.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства
«Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня».
Рэспубліка Беларусь. 225320, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.


ISBN 985-6302-37-4
9789856302377

